№5 (114)
/верасень-кастрычнік/ 2021

ДЗЕ

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Уладзімір Сцяпан



...там, на дне, марака чакаюць рыбы,
там яго дом...

# Шэсць кароткіх гісторый

*Аповеды*

### Недапалак

Калі глядзець зверху, з вышыні палёту начной птушкі, то паляна, на якой спынілася грузавая машына, амаль круглая, а пасярэдзіне доўгі, але не вельмі глыбокі роў. Зямля выкінутая толькі на адзін бок. Лес, дарога, якая робіць пятлю на паляне, роў, светлая зямля... Зверху ўсё гэта нагадвае катлаван. У кузаве два салдаты і паэт, які ляжыць, падкурчыўшы звязаныя ногі і рукі. Калі ж падняцца яшчэ і яшчэ вышэй, то можна ўбачыць, дзе канчаецца цёмны лес, розныя, не заўсёды прамыя дарогі, вёскі і далёкі горад... Над усім гэтым атрамантавае начное неба.

Паэт вываліўся з машыны. Яму дапамаглі – штурхнулі ў плечы. Тут, куды яго прывезлі, пахла сырой зямлёй, лесам і грыбамі. Смачна пахла. У галаве круцілася, зямля п’яна хісталася, а гукі даходзілі як праз падушку.

Канваіры пачалі крычаць і прымушаць паэта падняцца

на ногі, бо ім не хацелася цягнуць яго да ямы, а машына спынілася далекавата.

Дзверкі кабіны адчыніліся, і вылез лейтэнант у доўгім шынялі, фуражку трымаў у левай руцэ. Уздзеў яе, аберуч паправіў. Намацаў у кішэні партсігар і скрыначку запалак. Падушачкі пальцаў адчулі надпіс на мельхіёры – тры радкі. Партсігар ён атрымаў у падарунак ад камандавання в/ч 5312... Ён дастаў яго, пстрыкнуў зашчапкай, сціснуў муштук папяросы. Святло запалкі на імгненне выхапіла з цемры яго дробны твар, акуратныя вусікі, алейна бліскучы брылёк фуражкі і вочы.

Лейтэнант паглядзеў на паэта... Чатыры гады таму, восенню, у клубе суднабудаўнічага вучылішча ў Рэчыцы гэты паэт выступаў. Ён прыгожа размахваў рукамі, закідваў галаву і гучна чытаў вершы. Дзяўчаты неслі яму восеньскія кветкі, а ён звыкла прымаў тыя букеты і клаў на стол. Калі ж на клубную сцэну выбег наступны выступовец, то паэт пайшоў у цемру, за заслону. Там закурыў – нервова, з асалодай, таропка, быццам тую папяросу маглі забраць.

Тады яшчэ не лейтэнант П.А. Краўцоў, а навучэнец, аказаўся побач... І паэт злавіў яго вясёлы позірк, здагадаўся пра яго жаданне і пачаставаў папяросай. Яны стаялі і курылі, а потым паэт расціснуў пальцамі недапалак, хацеў кінуць пад ногі, але перадумаў, схаваў у кішэню і з ім пайшоў на сцэну, каб далей чытаць вершы. Гэта было даўно, як у мінулым жыцці, пра якое лейтэнант не любіў успамінаць.

Яны сустрэліся позіркамі. Лейтэнант Краўцоў ведаў, што адбудзецца тут праз чвэрць гадзіны, а можа і хутчэй. Ён адчуў жаданне паэта. Той хацеў курыць. Моцна, нясцерпна, можа нават як ніколі ў жыцці... Лейтэнант намацаў партсігар і скрыначку запалак. Паэт глядзеў на яго адным вокам, другое заплыло гематомай, і плямкаў разбітымі вуснамі...

Лейтэнант неглыбока зацягнуся, а потым кінуў недапалак пад ногі паэту, развярнуўся і пайшоў да вялікай ямкі. Ногі грузлі ў сырой зямлі.

Паэт апусціўся на калені. Звязанымі рукамі ўзяў недапалак. Паднёс да твару, хацеў заціснуць зубамі, але іх не было... На абслінены муштук наліпла зямля, але згаснуць папяроса не паспела...

Паэт не курыў больш за месяц і ад першай зацяжкі ледзь не задыхнуўся, такім смачным падаўся дым... Потым ён паглядзеў у неба і здзівіўся колькасці зорак. Бачыў коўш Вялікай Мядзведзіцы з яшчэ высока задранай ручкай. Знайшоў і Палярную Зорку, якая мігцела жоўтым святлом. Падумаў, што зорка вылупілася, як тое кураня. Але не ўсміхнуўся гэтай сваёй думцы, як рабіў звычайна, калі знаходзілася трапнае параўнанне ці нечаканая метафара.

Лейтэнант пазіраў на паэта з цемры. Бачыў кволы агеньчык папяросы і нерваваўся, бо следам павінна прыехаць яшчэ машына з асуджанымі, але яе не было.

Потым яна прыехала, і ўсіх, каго прывезлі ў восеньскі лес, пастралялі. Хто не ўпаў у глыбокі роў сам, таго скінулі.

Лейтэнант Краўцоў спяшаўся, бо яго чакала цяжарная жонка, ён не хацеў, каб яна хвалявалася.

У снежні 37-га ў іх народзіцца сын. Назавуць Валеркам. Але лейтэнант не пабачыць, як яго трохгадовы Валерка будзе забаўляецца і спрабаваць адкрыць мельхіёравы партсігар з выгравіраваным надпісам.

*2007-2020 гг.*

## Мой капітан

Возера суха блішчэла. З дальняга берага, з таго, дзе лецішчы, дзьмуў золкі ўсходні вецер. Трыснёг шамацеў і хістаўся. Мне падабалася, што сёння на возеры няма рыбакоў і можна плыць уздоўж берага і не баяцца, што зачэпіш донкі...

Доўгая зялёная лодка ў сухім трыснягу стаяла нерухома. Я ведаў гэтую лодку, і яе гаспадара – старога, пад восемдзесят, па мянушцы “Капітан”. Шапка ў старога прыкметная – белая фуражка з кукардай. Чым бліжэй я падплываў да той знаёмай лодкі, тым цішэй веславаў, і тым вусцішней рабілася на душы... Доўгія вёслы ляжалі ў лодцы. На дне блішчэла брудная вада з апалым лісцем: вузкім з вярбы, чорным з асінаў і вольхаў... У вадзе і груз – дзве цагліны, перахопленыя дротам, і брудная вяроўка з вузламі. Чарпак, зроблены з пластыкавай каністры, кансароўкі і дзве пластыкавыя бутэлькі... Вёслы – сухія. Сэрца маё сціснулася. Я патрымаўся за борт, адштурхнуўся, пакінуў доўгую, шмат разоў перафарбаваную лодку ў трыснягу...

Пазнаёміліся мы з ім на самым пачатку лета. Я на сваёй лодцы-надзіманцы, няспешна гроб, “гнаў дарожку”, бо хацеў злавіць шчупака. Плыў сабе ўздоўж берага, глядзеў на зменлівыя ваду і неба, на кончык спінінга, спадзяваўся, што рыбіна схопіць блешню і спінінг аджыве – сагнецца, закалоціцца, – і тады... Здаецца, ад тых думак я пачаў усміхацца...

– Табе, відаць, лодку ніколі не прапорвалі! Глядзі куды плывеш, рыбак! – гучна закрычаў стары з доўгай зялёнай лодкі, падняў вудзільна і злосна зірнуў на мяне.

Можна было пасварыцца. Паслаць яго куды далей, пакрычаць, але я спыніўся крокаў за дзесяць ад рыбака і папрасіў прабачэння, што неабачліва ледзь не заплыў на яго паплаўкі.

– Плыві сабе... Не замінай... Возера хоць і не мора, а ўсім месца хапае...

Вось тады я і разгледзеў старога, тады і мянушку, за гучны голас і белую фуражку, прыдумаў.

Ён з’яўляўся на возеры рана, калі неба на ўсходзе святлела і пачынала ружавець, а я яшчэ раней. Глядзеў, як ён плыве ў тумане на сваё месца. Спакойна і панура грабе, а сонца ўзыходзіць... І стары, і яго лодка з доўгімі цяжкімі вёсламі – нагадваюць страказу. Вёслы блішчаць, з іх сыплюцца кроплі, і чуцён іх мерны дотык да вады і буркатлівы голас Капітана. Кожны раз ён гаворыць іншае... “Колькі не думай, а не прыдумаеш... Адкуль я ведаю, які ў мяне ціск... Няма калі яго мераць, ды й навошта... Калі што, то ў шпіталі памераюць... Во, шчупак плёхнуў у трыснягу! Чула? Ладны, відаць...”

І стары, і лодка з бліскучымі, як залатымі, вёсламі, павольна аддаляюцца, прападаюць у восеньскім тумане, а голас усё ляціць над возерам. І кожнае слова чутно, кожны гук, кожны рух.

Пасля той сваркі я стараўся да Капітана не набліжацца, блізка не падплываць. Назіраў за ім здаля, нават зняў яго на тэлефон – марная спроба пакінуць сабе бляск мокрых вёслаў, якія здаюцца то залатымі, то срэбнымі, то шклянымі... Пануры выгляд старога, яго плечы і тое, як ён узіраецца ў ваду, калі спыняецца, апускае груз, перабірае вузлаватую вяроўку, а потым асцярожна складае вёслы, каб не заміналі.

Ён сам крыкнуў, калі да мяне было крокаў дваццаць, што на мыску, у рэдкім трыснягу, плёхнуў шчупак, і каб я, бо маю спінінг, паспрабаваў яго злавіць. Паслухаў. Спыніўся і пачаў кідаць блешню, а ён глядзеў.

– Не адгукаецца?

– Не!

– Вядома – усходні вецер дзьме... Калі такі вецер, то рыба не бярэ... Нешта пару дзён цябе не было... Куды ў іншае месца ездзіў?

– У Мінску быў.

– Не люблю горад... Цесна там... Тлумна...

Усе нашы наступныя размовы нагадвалі гэту – пра вецер і рыбу, якая не адгукаецца. Пра тлумны горад і надвор'е... Здаралася, што я спыняўся побач з трыснягамі, рабіў выгляд, што збіраюся вудзіць рыбу, але рыба мяне не вельмі цікавіла. Я слухаў, як Капітан размаўляе з нябожчыцай жонкай, якую звалі Тамара... На вадзе, калі няма ветру, чуцён кожны гук і ўздых. Капітан, відаць, не дачуваў, а таму і думаў, што гаворыць ціха, амаль шэптам. "Вось яны прыехалі – наша Каця з унукамі. Думаў, пабудуць колькі дзён. Кавун купіў... А яны патапталіся, пакруціліся, грошы ўзялі і з'ехалі... Вось так... Я ж табе казаў, што мы ім не трэба, што мы ім жыць замінаем. Я з восамі ды мухамі той кавун еў-еў, але потым выкінуў у кусты, за яблыняй, за той самай, што мы з табой садзілі... Рыбы я ім налавіў, насмажыў, але яны яе толькі пакалупалі – катам суседскім аддаў... Каця кажа, што ў доме халодна, а я ёй кажу – дровы ёсць, запалі пліту, і будзе цёпла... Не, я памыўся, пагаліўся, чыстае апрануў, каб не падумалі чаго. Сам прынёс дроў, запаліў грубку... Яны сказалі – горача... Андрэй не прыязджаў. Калі спытаў, як ён маецца і чаму не прыехаў, Каця пачала плакаць і крычаць, каб я не лез у іхнія справы, што яны і без мяне разбяруцца... А хіба я лезу, скажы?"

Я плыў супраць ветру, на той бераг, дзе лецішчы, і думаў, што скажу пра знойдзеную ў трыснягу лодку, пра Капітана, ні імя, ні прозвішча якога не ведаю. Згадваў апошнюю сустрэчу, якая адбылася заўчора. Капітан тады маўчаў і сядзеў зусім пануры і змрочны. Нават з Тамарай не размаўляў. Сядзеў ён без шапкі. Сівавалосы і няголены. Глядзеў у цёмную восеньскую ваду, па якой вецер гнаў апалае лісце.

Неяк раней, цёплым жнівеньскім ранкам, ён гаварыў нябожчыцы-жонцы, што яму няма розніцы, дзе яго пахаваюць, што раней маракоў загортвалі ў палатно, з якога рабілі ветразі. Прывязвалі кавалак жалеза ці камень, а потым кідалі з карабля ў ваду. Ён гаварыў, што такое пахаванне – правільнае. Што там, на дне, марака чакаюць рыбы, што там яго дом... Але ён ведае, што яго не кінуць у ваду, а пакладуць у труну і закапаюць побач з Тамарай на цесных гарадскіх могілках... І яшчэ я даведаўся, што Капітану было ўчора восемдзесят, але ні дачка, ні зяць, ні ўнукі пра гэта не ўспомнілі... І ўвогуле, ні адзін сабака не згадаў пра каптаранга... Але, мусіць, так і трэба...

Я думаў пра груз, які Капітан прывязаў да ног. Спрабаваў уявіць як ён пайшоў з жыцця, як акуратна склаў вёслы, а потым няўклюднаываліўся з лодкі на сярэдзіне возера, у самым глыбокім месцы. А вецер пагнаў, панёс пустую лодку да супрацьлеглага берага, да высокіх пасохлых трыснягоў, якія хістаюцца і тужліва шапочуць...

З берага ляцела скавытанне бензапілы і стук малаткоў. Там перабудоўвалі лецішча. Вырашыў абмінуць мысок, згадаў, як тут злавіўся шчу-

пак, і калі павярнуў, а да берага засталося крокаў дваццаць, то ўбачыў на мастках Капітана. Ад роспачы я кінуў вёслы.

Капітан – белая фуражка, чорны бушлат, накінуты на плечы, цяльняшка, штаны запханыя ў гумовыя боты.

– Там, на тым беразе, лодка ваша! – трохі пакрыўджана закрычаў я і паказаў на далёкі бераг. – І вёслы там, і груз!

– Дык можа падгоніш?! Хаця не, не выграбеш на сваёй надзіманцы супраць ветру... Так я і думаў. Суседавы ўнукі папрасілі пакатацца, а замкнуць забыліся, а ноччу вецер... Чэрці стрыжаныя... Яе і занесла... Што рыба, не адгукаецца?

– Не! – злосна адказаў старому.

– Зразумела, трэці дзень усходні вецер...

*Верасень-кастрычнік, 2020 г.*

## Крыжык згубіўся

Папалуднавалі. Частка спраў: побытавых і медыцынскіх – пароблена, і я пачаў гатаваць лекі на вечар: дзве пігулкі па палове, яшчэ дзве па чвэрці і адна цалкам. Тут, голасам усхваляваным і спалоханым, паклікала мама...

Я падышоў да ложка. Мама трымала ў паднятай правай руцэ ільняную нітку, бязважкую, з вузлом. Міргала і глядзела на яе, а потым пачала пальцамі левай рукі, вялікім і ўказальным, шморгаць па той нітцы, абмацваць яе і камечыць.

– Хрэсцік прапаў! Чуеш? Куды ён падзеўся? – шаптала яна спалохана і пакрыўджана, як дзіцё.

Крыжыка на парванай нітцы не было.

– Калі снедалі, то я табе хустку перавязваў, ён быў на шыі, – паўтарыў некалькі разоў. – Недзе тут, у ложку... Ты ж не ўставала.

– Быў ды сплыў... Шукай!

Крыжы і крыжыкі мама, колькі памятаю, заве "хрэсцікі". Яе маленькі медны крыжык знік.

Пачалі шукаць. Маму давялося перанесці з ложка на крэсла і даць акуляры. Быццам яны маглі ёй дапамагчы. Яна гладзіла падушку, абмацвала ражкі навалачкі, а я поўзаў пад ложкам, свяціў тэлефонам, узіраўся ў падлогу прыкладна такога ж колеру, як той крыжык, абмацваў плінтус, зазіраў пад шафу і крэслы...

Потым перaслаў ложак, перабраў коўдру, прасціну, насоўкі і сурвэткі, ручнікі і вязаную кофту, хусткі і шмат іншага. Падняў матрац, агледзеў і абшукаў шчыліны яе ложку... Крыжыка не было, як вадой разліўся.

Мама яшчэ не плакала, бо не страціла надзею. Я згадаў, што пасля памянялі памперс – і засмуціўся, бо той памперс выкінуў разам са смеццем. Магчыма, давядзецца ісці на вуліцу, выцягваць з кантэйнера ў двары чорны мяшок...

– Не перажывай... Гэта ж звычайны хрэсцік, не залаты і не срэбны, – спрабаваў угаварыць і супакоіць дзевяностагадовую маму.

– Заўтра пойдзеш у царкву і купіш мне новы. Як жа я без яго засну? – сама сабе сказала яна.

– Добра, куплю... Пайду за кватэру плаціць і куплю.

– Не! Спачатку купіш мне хрэсцік, а потым што хочаш рабі, чуеш! – голас мамы трымцеў.

Я перанёс яе на ложак. Уладкаваў і сам сеў побач. Мама хліпала, камечыла насоўку, а ў правай руцэ трымала парваную нітку. На мае пытанні не адказвала, як і не чула. Церла мокрыя вочы і церабіла мокрую нітку.

У двары ад шэрых і брудных кантэйнераў разляцеліся крумкачы з галубамі. Расчараваны, бо кантэйнеры былі пустыя, вярнуўся ў кватэру. Мама на мяне не глядзела і зацята маўчала.

Пайшоў на кухню і пачаў гатаваць вячэру, хоць і разумеў, есці яна не будзе. На падваконні ўзяўся раскладаць пігулкі – вячэрнія і ранішнія. У снежаньскай цемры свяціліся вокны суседняга дзевяціпавярховіка, а ў кватэрах зіхцелі і міргалі ліхтарыкі калядных елак.

Прапанаваў павячэраць, але мама адмовілася.

– Заўтра пойдзеш і купіш хрэсцік... – нагадала яна. – Патушы святло. Чаго ты стаіш, ідзі...

Перамыў посуд, павыціраў талеркі і кубкі, сеў да вакна і пачаў глядзець на святочнае зіхценне ў кватэрах суседніх дамоў, на павольны і ледзь заўважны снег.

– Ты лёг, чуеш? Хадзі сюды! Святло запалі!

Правую далонь мама прыцiскала да грудзей, а левую, сцiснутую ў кулак, паказвала мне. Пальцы павольна расціснуліся, і я ўбачыў маленькі медны крыжык – цёмны, як зямля.

– Гэта ж ён – мой хрэсцік?

Ні чым іншым, як толькі калядным цудам, з'яўленне крыжыка на мамінай далоні растлумачыць не магу.

*25 снежня 2020 г.*

## Старая кошка

– Добра, каб гэта адбылося тут... – нягучна сказала жанчына і агледзелася, быццам шукала каго позіркам.

– Не з нашым шчасцем... Дзе яна?

– На тваім ложку ляжала... Пайду кветкі палью.

Дзверы нячутна адчыніліся і зачыніліся. Муж убачыў жонку з пластыкавай лейкай у адным акне, потым у другім, пад яблыняй.

Шэрая кошка ляжала на ложку і глядзела на яго. Ён асцярожна пагладзіў яе, ціхенька паказытаў за вухам. Кошка ўздыхнула, узняла галаву, зірнула, але не завуркатала. Ён успомніў, як тыдзень таму, калі вясковы дом быў поўны кастрычніцкага залатога святла, кошка з падлогі скочыла на камоду, але абрынулася. Каўкнула спалохана і здзіўлена, падціснула хвост і падалася ў вялікі пакой, дзе ложкі, круглы стол, шафы і белая цёплая грубка, за якой яна і схавалася пад ложкам.

Мужчына падумаў пра тое, як раней лёгка і спрытна кошка заскоквала на стол, на падваконні і высокую камоду, а тут не атрымалася... І, відаць, ёй самой ад гэтага зрабілася непамысна і нязвыкла. Старасць, гэта калі няма таго, што раньш было. Старасць – калі не пераскочыць, не пераступіць – няма больш ні сілы, ні спрыту.

Пра тое, што за ўсё сваё кашэчае жыццё яна ні тут, у вёсцы, ні ў гарадской кватэры нічога не скінула, не пабіла. Спрытная, нячутная, а часам і нябачная. Нават калі бегала, то не цокала кіпцямі па падлозе, быццам шкарпэткі на лапах. І яшчэ згадаў сумныя словы песні, той самай – "у

кошкі чатыры нагі, пазадзі у яе доўгі хвост... але трогаць яе не магі, за яе малы рост...” Правёў асцярожна далонню па мяккай поўсці ад галавы да хваста.

Выйшаў з пакоя, але дзверы не прычыняў, каб, калі што якое, пачуць кошку, каб яна магла выйсці да місачак з вадой і ежай.

Кошку любілі, сварыліся толькі тады, калі яна не хацела есці і пакрыўджана адыходзіла ад місачкі з чым-небудзь смачным, як лічылі гаспадары.

У дом вярнулася жанчына. Яна доўга мыла рукі.

– А на двары так цёпла... Птушкі ціўкаюць. Яна не ела? Не выходзіла? Адвару ёй рыбы – можа, з’есць трохі, – сказала і адчыніла лядоўню.

– Давай, вынесу яе на вуліцу. Можа, травіну якую знойдзе і з’есць. Каты ведаюць, што ім трэба... А потым рыбы дасі.

– А не ўцячэ?

– Буду побач... Куды ёй бегчы?

Мужчына паціснуў плячыма і праз хвіліну беражліва вынес на руках шэрую кошку. Паклаў яе ў траву, за калодзежам, а сам прысеў побач. Кошка здзіўлена каўкнула. Яе ніколі, без ашыйніка і мяккай скураной шворкі, у двор не пускалі. Баяліся, што збяжыць, а больш, што можа трапіць пад колы машыны, ці раздзяруць вясковыя сабакі. На вуліцу не пускалі, а ў доме дазвалялі гуляць паўсюль. З печы пераходзіць на шафу, саскокваць на стол, потым на канапу, на падваконні, на камоду...

Кошка павярнула галаву і паспрабавала грызці травіну. Дапамагала лапай, а тая доўгая травіна выслізвала з роціка, і яна кінула гэтую справу. Мужчына глядзеў на пакусаную травіну, на шэрую поўсць, якая перастала блішчэць нават на сонцы.

Праз паўгадзіны ён прынёс шэрую кошку дамоў. Паспрабавалі карміць, але і ад варанай рыбы яна адмовілася.

– Пакінь яе тут, можа, мы ёй замінаем. Яна не любіць, калі мы глядзім, як яна есць. Давай адыдзем.

Яны зайшлі на другую палову дома. Мужчына памацаў кафляную сцяну грубкі, а жанчына падняла з падлогі маленькае пёрка і знерухомела, бо не ведала, куды яго падзець, а потым сказала:

– Можа, паказаць яе добраму ветэрынару?

– Хіба ёсць ад старасці лекі?

– Каб яна паела хоць трошкі, то ёй лягчэй зрабілася б...

– Хто яго ведае...

Мужчына паклаў шэрую кошку на свой ложак, на тое самае месца, дзе яна і ляжала. Хацеў прыкрыць краем коўдры, але перадумаў. Кошка глядзела на яго так, што ён не вытрымаў і адвярнуўся. Падумаў – хутчэй бы ўсё здарылася...

Увечары святло не запальвалі. Слухалі слабое і няпэўнае дыханне кошкі. За вялікай шафай пачуўся мышыны скрыгат, а потым ціхі піск. Старая кошка ўскінулася, стала на лапы. Праз хвіліну легла і нашатырылася.

Ноччу мужчына спаў на канапе і пакуль не заснуў, то прыслухоўваўся да дыхання кошкі, да ціхага мышынага жыцця... Заснуў, калі вокны пасвятлелі, а кропачкі зорак згаслі. Прахапіўся і спалохаўся.

Старая кошка ляжала побач з ім і глядзела яму ў твар.

*26.02.2021 г.*

## Вядзьмарка Домна

1977 год... Дачка вядзьмаркі Домны – кульгавая Нінка. Яна едзе на ровары па дарозе ўздоўж нерухомага вялікага лесу. Едзе хутка. На ёй цёмны мужчынскі пінжак і рабая сукенка, на шыі цёмная хустка, валасы растрапаныя. На карычневых нагах сандалі. Нінка круціць педалі і крычыць ці смяецца, а можа, галосіць. Да рамы прывязаная рыдлёўка.

Дачка вядзьмаркі едзе да матчынай хаты. Гадоў пяць хата стаіць пустая, нават на хлеў, нават на дровы хату з выбітымі вокнамі ніхто не хоча купіць.

Карцінка ўрэзалася ў памяць. Цёмны восеньскі лес, светлая дарога і жанчына на ровары, якая галосіць, а можа, смяецца. Яна і не знікае, і не набліжаецца.

1964 год... “Аддасі ўсё Домне, а сам дамоў... У лес не заходзь, чуеш?!” – наказала баба, калі дала мне кошык з гасцінцамі.

Гасцінцы – белы сыр і жоўтае масла, загорнутыя ў паперу і палатно. Кошык лёгкі, але нязручны. Дубы высокія, пасля дажджу чорныя, а я малы, як мурашка, іду па дарозе да суседняй вёскі, да чорнай хаткі.

Я ведаў, што Домна – вядзьмарка, якая ўмее варажыць і чараваць. Чым бліжэй падыходзіў, тым больш хваляваўся. Але ўсё адбылося хутка. Домна мяне сустрэла. Гасцінцы забрала, а мне дала некалькі крывых карэньчыкаў, перавязаных шэрай льняной ніткай.

“Аддасі бабе, а сам дамоў... У лес не заходзь, чуеш?!” – гучна сказала Домна голасам такім жа, як у маёй бабы, і ціхенька штурхнула мяне ў плечы.

Лес – вялікія дубы – пачынаўся адразу за яе хаткай, варта перайсці дарогу. Я дарогу перайшоў і нечакана для сябе самога – заблудзіўся. Спачатку хадзіў, потым бегаў, але вакол былі вялікія чорныя дубы, кусты ляшчыны, папараць і мокрая трава, якая блытала і аплятала ногі. Колькі я хадзіў-блудзіў – не памятаю... Спужаўся так, што сеў на траву, закрыў твар далонямі і заплакаў. Мне было шэсць з паловай гадоў. Плакаў я доўга, да поўнай немачы, а калі слёзы скончыліся і я расплюшчыў вочы, то ўбачыў босыя ногі вядзьмаркі.

– Я ж табе казала – у лес не заходзіць?

– Казала.

– Што табе трэба было тут?

– Адкуль я ведаю...

Вядзьмарка схапіла мяне за руку. Хутка, вельмі хутка мы апынуліся на краі дубровы, побач з яе маленькай хаткай. Яна аддала мне кошык, які я згубіў, там былі перавязаныя шэрай ніткай крывыя карэньчыкі. Яна павярнула мяне на дарозе і ціхенька штурхнула ў спіну.

Але цяпер я і сам ведаў дарогу дамоў.

1965 год... Мне хоць і было сем гадоў, але я ведаў, што вядзьмарка жыве ў суседняй вёсцы, амаль у лесе, на самым краі.

Ёй было, як мне здавалася, гадоў сто, а можа, і больш. Старая сядзела ў паўцёмных сенцах ля вакна, на ўслончыку. Яна вялікая, у чорнай хустцы, і астатняя адзежа цёмная. Побач стаяў кош з бульбай, бэзавыя парасткі тырчаць, чорны чыгун. У руках чорны нож. Яна абірала бульбу. Светлая лушпініна закручвалася, закручвалася, а потым падала на цёмныя босыя ногі, а бульбіна ў чыгун. Яшчэ ў сенцах віселі венікі з рознай травы і кветак. Пахла сырой зямлёй. Звалі вядзьмарку Домна. Я тады быў упэўнены, што гэта мянушка вясковая.

Яна падняла галаву і паглядзела на мяне ўважліва, а па твары Стасіка толькі слізганула позіркам. Стасік сказаў, што Домна ведае будучыню і можа расказаць, што з кім здарыцца. Мы прыйшлі спытаць, ці будзе заўтра дождж, бо збіраліся пайсці на Цагельню, а гэта далекавата.

У старой празрысты позірк. Яна сказала, каб мы не хадзілі на Цагельню, а ішлі ў свой лес. Нахіліла галаву і зноў узялася церабіць парасткі і абіраць бульбу. Мы пастаялі трохі і пайшлі ў сад па паданкі. Нічога такога дзіўнага я не заўважыў і сказаў Стасіку, што вядзьмарка — звычайная баба, такая ж, як мая.

Наступнай раніцай Стасік і два яго старэйшыя браты пайшлі на Цагельню, а мяне не ўзялі. Я ўгаварыў свайго стрыечнага брата пайсці ў наш, у блізкі лес. З Цагельні грыбнікі вярнуліся з пустымі кошыкамі, а мы з братам нарэзалі баравікоў поўны кош.

Было і яшчэ тры сустрэчы з вядзьмаркай Домнай, але і тады яна абірала ў сенцах бульбу.

1965 год... Паштарка Маня паціскала плячыма, усміхалася і суцяшала цётку Вулляну, выдумляла розныя прычыны па якіх могуць затрымлівацца лісты ў канвертах без паштовых марак. Лісты, якія пісаў Вулляне яе малодшы сын Алег. Служыў ён там, дзе цячэ рака Ціса, на мяжы з Венгрыяй.

Вулляна з белым вузельчыкам пайшла на бераг лесу, да Домны. Так расказвала маёй бабе сама Вулляна. Варажбітка жанчыну выслухала, сваю кульгавую Нінку выправіла з хаты, дастала з куфэрка карты, свечку запаліла і занялася справай. Доўга габлявала, амаль нячутна шаптала, выкрыквала нешта незразумелае... У сваю вёску Вулляна вярталася подбегам. Домна сказала, што сын яе Алег у дарозе і хутка будзе дома.

Так яно і атрымалася – Алег жа пісаў маці, што летам яму абяцаюць адпачынак. Вулляна пачала прыбірацца і чакаць сына.

Праз два дні ў вёску прыехала вайсковая крытая машына, якая прывезла жалезную труну. Выносілі яе чатыры салдаты. Афіцэр стаяў побач з машынай, фуражку трымаў пад пахай.

Вулляна так крычала, што ў вёску прыкульгала дачка вядзьмаркі – Нінка. Ёй было гадоў дваццаць пяць, і яна так глядзела на жалезную труну, якую не адкрылі, быццам бачыла наскрозь.

На вясковых могілках сярод шэрых дубовых крыжоў з'явілася дыхтоўная пірамідка з бляшанай чырвонай зоркай, якую паставілі салдаты, і сем яркіх вянкоў.

1974 год... Лес зашумеў, зарыпеў, захістаўся, і я хутка пайшоў, а потым пабег, бо вырашыў схавацца ад раптоўнай залевы не пад кустамі і дрэвамі, а ў маленькай закінутай хатцы вядзьмаркі Домны.

Калі сыпануў дождж, то я стаяў у цёмных маленькіх сенцах і насцярожана азіраўся. Дождж шумеў, звісаў празрыстымі махрамі з даху, а я глядзеў на блізкі лес, на дарогу. Аддыхаўся і вырашыў адчыніць нізкія дзверы, абабітыя шэрым руберойдам. Што я хацеў убачыць за тымі дзвярамі, у адзіным пакоі, ці не палову якога займала паўразбураная печ, якая падалася вялізнай?

Вядома – нешта чароўнае, таемнае.. Венскае крэсла без спінкі, саматробны стол, а на ім пагнутыя кансароўкі, чыгуны, брудныя слоікі, іржавыя дзіравыя вёдры, некалькі драных кошыкаў...

Я – пятнаццацігадовы студэнт мастацкага вучылішча, хадзіў па гэтым пакойчыку з маленькімі вокнамі і згадваў змрочную старую Домну, яе

кульгавую дачку Нінку, і нічога чароўнага, вядзьмарскага і таемнага не знаходзіў. Зазірнуў на печ, там – нейкае рыззё, драўлянае карыта, пакарабачаны керагаз...

Усё ў хаце – звычайнае, знаёмае, будзённае... Мне ж так хацелася знайсці нешта такое, што магло засведчыць, што Домна была сапраўднай вядзьмаркай, якая ўмела чараваць і варажыць. Каб я знайшоў на падлозе хоць адну карту з тузом ці дамай, то гэта мяне б узрадавала. Але мне трапілася толькі пакамечаная мясцовая раёнка “Авангард” за красавік шэсцьдзесят сёмага...

А знадворку шумеў грыбны жнівеньскі дождж, хісталася крапіва, блішчэла дарога...

У куце, у чорным куфры, вечка адарваная і ляжала побач, пад бруднай цыратай і дзіравымі каструлямі заўважыў светлую паперу. Не паленаваўся, дастаў.

Сабраў рассыпаныя старонкі ў невялікі стосік. Ні вокладкі, ні тытула не знайшлося...

Дождж скончыўся нечакана, як і пачаўся. Рыпнулі дзверы, бразнула клямка...

Я ішоў па мокрай дарозе. На дне кошыка ляжала дзевяць баравікоў, а на іх ноты, выдадзеныя ў тысяча дзевяцьсот дванаццатым годзе ў Лейпцыгу... І знойдзеныя ў хаце вядзьмаркі Домны, у жніўні семдзесят чацвёртага.

*2017-2021 гг.*

## Пра любоў

Галіна Максімаўна прыехала на аўтобусе да Паўночных могілак. Дайшла да патрэбнага месца, да магілы свайго Уладзіка. Паставіла да агароджы брызентавую торбу з рыштункам. Уздыхнула ўзрадавана, бо светла і цёпла. Але нешта было не так! Магіла дарагога Уладзіка яе ўразіла, бо была прыбраная так чыста і добра, як гэта магла зрабіць толькі яна сама. Ні травы, ні смецця, ні пылу, а пад помнікам – кветкі, у маленькім слоіку бэзавы букецік пралесак.

І медальён з усмешлівым партрэтам, яна яшчэ з дачкой пасварылася, калі выбіралі здымак, зіхцеў, памыты і выцерты, як новенькі.

Галіна Максімаўна патэлефанавала дачцэ, але тая сказала што на бацькавай магіле не была. Потым Тамары, старэйшай сястры Уладзіка, але і тая збіралася прыехаць толькі ў суботу...

Уладзік, асветлены красавіцкім сонцам, усміхаўся так бесклапотна, што ў Галіны Максімаўны сціснулася сэрца і яна горка заплакала. Так горка, як не плакала і сем гадоў таму, калі патэлефанавалі з бальніцы і спыталі, з кім гавораць...

*2019 г.*

Вадзім Корань



...восень пагрукала ў дзверы –
на вуліцы пах
спаленых дроваў,
апалай лістоты і хлеба...

# Жніво

### *НОЧ КРАСАВІЦКАЯ*

Чарнобыль.
Чорны боль.
Чорная быль.
Знак радыяцыі
на пясчынцы кожнай,
а паветра –
нябачны жоўта-чорны пыл.
Асцярожна!

Плавіцца чорны асфальт
пад нагамі.
Аб'ядае скуру
пякельны жар.
Дазіметр дыміцца,
як кадзіла ў храме,
калі нябожчыка адпявае
святар.

Хтосьці, прыняўшы ў сябе
смяротную дозу,
дарэмна спрабуе
выпаліць стронцый з касцей
і пад удар падстаўляе
шчытападобную залозу...

“У ветры не загінеш...
Чарнобылем не зарасцеш...”

Выплюнутыя лёгкія
нічым не заменіш.
Попел кладзецца пад ногі
бруднаю коўдраю,
і здаецца, што дыхае
пад ёю каменне,
але прыгледзішся,
а яно – мёртвае.

Ледзьве чуцён
сэрцаў стомленых грукат,
кожнае з іх
свечкай алтарнай гарыць...
Маці Божая, вазьмі пакутнікаў
за абгарэлыя рукі,
і паўз боль завядзі туды,
дзе – не баліць!..

* * *

Збег абставін
ці збой у Боскай праграме –
пупавіна абвілася вакол цела,
і я ўсё яшчэ частка мамы.
Я ўсё яшчэ частка мамы,
і мы з ёю – адзінае цэлае.

Чую крыкаў далёкіх рэха.
Я ўжо нарадзіцца павінен
маёй маме на радасць і ўцеху,
ды трымае мяне пупавіна...

Я мог стаць самым лепшым сынам,
ды балючым стаў успамінам.
Самым-самым...
Маёй мамы...

* * *

Я нябожчыкаў бачыў
учора надвячоркам –
яны ішлі кудысьці адзін за адным,
а ў небе над імі ляцеў херувім
і ад свечкі запальваў зоркі.

Іх шлях вядомы толькі ім.
Іх лёс вядомы толькі ім.
Іх спеў вядомы толькі ім.
Іх змрок вядомы толькі ім...

Яны прайшлі паміж светам і мною:
"Пачакаеш?
Мы вернемся ранкам з расою..." –
казалі.

Але якая ж раса, калі з сінімі маразамі
вечная зіма?
Расы няма.
Расы няма.
І не будзе расы...

Цішэлі іхнія галасы:
"Хутка стане цяплей...
Не бойся...
Смялей..."

Яны па снезе ішлі, карак у карак,
ператвараючыся ў дым
і знікаючы дазвання...

А можа, гэта была ўсяго толькі пара,
усяго толькі пара
ад майго дыхання?

## ***ШВЛ***

*"Машина дышит, а я нет".*

### ***I.***

Нашы анёлы няўмольна
нас пакідаюць адных...
Учора я быў яшчэ здольны
на ўдых...

***II.***

Холадна, быццам ільдзіны
да цела прыціснулі мне,
і дрыжыкі б'юць без супыну
мяне...

***III.***

Нямыя ў немачы рукі,
паветра бракуе ў грудзях...
Да ложка паўзе гадзюкай
страх.

***IV.***

Мушу быць ценем уласным,
на кіслародным крыжы
канаць, але адначасна
жыць...

***V.***

Час забірае хвіліны.
Слёзы ў пакутлівым сне...
Дыхае роўна машына,
а я – не...
а я – не...
а я – не...

## ***ЖНІВО***

***I.***

Жнівень жаў жыта
маладзікамі сярпоў,
круціў перавяслы,
якія, бы косці, трашчалі,
вязаў саламяныя целы
маўклівых снапоў,
што лежачы ціха дрыжалі
ад болю і жалю.

***II.***

Жнівень па полі
ішоў напрасткі басанож –
ногі крывавіў
аб вострую жоўтую пожню.
А па ягоных слядах

краўся восеньскі дождж
і каласкі падбіраў
ціха і асцярожна.

***III.***

Жнівень біў цэпам
у цёмным гумне каласы,
нібы змагаўся з сабой
і сваімі грахамі.
Плакаў расою
і даравання прасіў,
ды слёзы ягоныя
ператвараліся ў камень.

***IV.***

Жнівень вялікія жорны
круціў у млыне,
зерне ў іх дасыпаючы
жменя па жмені,
а ў месяцовым святле
на драўлянай сцяне
стаялі нямых каласоў
нерухомыя цені.

***V.***

Жнівень у печы
пёк хлеб на дубовых лістах.
Стомлены дым зафарбоўваў
блакітнае неба...
Восень пагрукала ў дзверы –
на вуліцы пах
спаленых дроваў,
апалай лістоты і хлеба...

* * *

Кат прыходзіць з працы дадому
і доўга мыецца ў душы.
Ён мае пахучае мыла,
ваду гарачую і халодную.
Потым скардзіцца ўголас,
што скуру занадта сушыць,
і ідзе вячэраць,
а вячэра даўно пахалодала.

Яго, здаецца, і не адрозніш
ад тысяч людзей:
стрыжаны коратка,
носіць вусы і акуляры.
Невысокі, чытае ў аўтобусе
кніжку пра Дзэн,
калі едзе праз горад
побач са сваімі ахвярамі.

Надвячоркам доўга гуляе,
заходзіць у краму,
купляе зефір,
бо вельмі любіць салодкае.
Глядзіць тэлевізар,
адведвае хворую маму
і перажывае, што жыццё
занадта кароткае...

Кат прыходзіць з працы дадому
і доўга мыецца ў душы,
каб пазбавіцца едкага паху
крыві і магілы.
А ў вочы з люстэрка глядзяць
скатаваныя душы
і моўчкі яму падаюць
вяроўку і мыла...

## ***МІМ***

*(пантаміма)*

***І.***

За сцяною
шкляною
пад небам шкляным
стаіць мім.

***ІІ.***

Людзі моўчкі праходзілі міма
міма
ў белым грыме.

***ІІІ.***

У празрыстае шкло сваімі
мім далонямі б’е, і імі
спрабуе яго разбіць...

Шкло дрыжыць...
Шкло дрыжыць...
Шкло дрыжыць...

***IV.***

Шкло дрыжыць, але трывае.
Мім падымае
рукамі
камень
і б’е
раз,
другі,
трэці
і пяты...
Шкло трэснула на дзясятым –
і разляцелася на аскепкі.

***V.***

Мім заплюшчыў вочы, быццам аслеп, і
нясмела зрабіў першы крок
у змрок,
мятлік на шыі крануўшы паволі, –
і скрывіўся ад болю.

***VI.***

На твары аскепкі пакінулі раны,
па твары пабеглі крывавыя рагі:
крап-
крап-
крап-
ты не раб-
больш не раб-
крап-
крап-
крап-
ты не раб...

***VII.***

Мім бяссільна ўпаў на калені,
і хтосьці шэры,
дастаўшы з кішэні
белую зорку,
нітку і голку,
цвёрдай рукою,
спакойна,
нашыў яе яму на грудзі
непамерным грузам.

***VIII.***

Гэ-та – ге-та...
Мім рукою зорку кранае,
а зорка, нібы жывая.
Б’ецца,
як сэрца.
Над сэрцам.
Тух-
ту-дух-
тух-
ту-дух-
тух-
ту-дух...

***IX.***

Гэ-та – ге-та...
Гэ-та – ге-та...
Мім з кішэні выцягнуў цыгарэту,
закурыў,
выпусціў дым...
Дым развеяўся –
і знік мім...

***X.***

За сцяною
шкляною
пад небам шкляным
стаяў мім.

Так было.

Засталіся
кроплі крыві
на зямлі
і разбітае шкло.

* * *

Здалося, што адбалела...
Але ўсё адно баліць.
Я і не заўважыў, калі
ад снегу зямля ссівела.

На ім пакідаю сляды –
верш у радок даўжэзны.
Чарнее наперадзе бездань
і лічыць мае гады.

Застаўся апошні крок.
А снег пакрысе знікае –
ніхто ўжо не прачытае
мой верш у адзін радок.

*Менск,*
*2020 – 2021.*

Людміла Хейдарава



...сілы нашыя няроўныя, але мы можам абараняцца і годна загінуць тут, дзе пахаваная праўда нашая, дзе пахаваныя прашчуры нашыя!..

# Князёўна Дарута, або Чалавечая кроў ліпучая

***Раман-фэнтэзі***

## ЧАСТКА III
## ВЭЛЮМ ПРЫШЛАСЦІ

### 1

*Заканчэнне. Пачатак у №4 (113).*

Князь не клаўся спаць у гэтую ноч, спрабуючы сабраць з неспалучальных на першы погляд рэчаў хоць якую разумную карціну.

“Пагоня за Уцехай. Знікненне дзяўчыны, якая прыйшла ў замак з людзьмі Войцеха. Нож, падараваны яму Бэнгам, знойдзены на грудзях той дзяўчыны. Здань Дароціцы, якая нейкім чынам спажывала хлеб і яблыкі. Начныя злодзеі, якія, здавалася, нічога не ўкралі ў замку. Уцёкі Марфы з нейкім селянінам. Страта вернага лоўчага. Столькі падзей не назбіраецца і за цэлы год, як за гэтую ноч...” – падсумаваў князь. Карціна не жадала складацца, распаўзалася, што

гнілое рыззё. Князь каторы раз спрабаваў зноў сабраць яе, калі ў замак прыйшла яшчэ адна неверагодная вестка: гэтай ноччу продкаў тутэйшы граф скраў у князя ягоную дачку – князёўну Даруту.

Уцеха, якая цяпер без дагляду Марфы зусім не адыходзіла ад князя, раптам паказала на партрэт Дароціцы і выразна вымавіла:

– Дарута.

Князь думаў, што яго пакіне розум. Ён абхапіў рукамі галаву, сціскаючы яе штомоцы. Дарута! Гэта тлумачыла ўсё. Карціна склалася. Князь усхапіўся з крэсла. Яму хацелася дзейнічаць, крычаць, нішчыць ворагаў, якія пасмелі другім разам адабраць у яго дачку. Цяпер ён адчайна верыў у тое, што дагэтуль нават баяўся дапускаць у свае думкі.

– Ты кажаш, Дарута? – перапытаў ён дзяўчыну.

Але Уцеха ўжо зноў упала ў сваё забыццё на яве, калі яна як бы адсутнічае ў гэты час, і не зразумець, што яна там думае, перажывае і ці думае, перажывае наогул. Погляд яе рабіўся як бы нетутэйшым, часам яна ўсміхалася пры гэтым, часам нешта мармытала або шчабятала, як птушка.

Князь апусціўся ў крэсла.

“Атрымліваецца, адна з маіх жанчын усё-ткі выжыла! Выжыла і нават знайшла сваё радавое гняздо, была зусім побач. А я не адчуў гэтага! Так мне і трэба! Верыў у гора сваё, а не ў міласэрнасць і літасць Божую!..” Князь раптоўна ўсвядоміў, што менавіта гэтага дамагаецца ад яго нячысты. Так салодка апусціцца туды, на самае дно адчаю, дзе нібыта калматыя водарасці, ахоплівае забыццё і ўсе буры нягоды праносяцца там, над галавой. Так соладка! А водарасці цягнуць свае космы, абвіваюць. І гэта ўжо не водарасці, а прысоскі, скрозь якія нячысты смокча ўсю сілу, без астачы, каб потым звесці яшчэ глыбей, яшчэ ніжэй дна – у сваё смуроднае падземнае гаспадарства...

– І зноў я думаю толькі пра сябе! – раптоўна ўголас абурыўся князь. Уцеха трывожна ўскрыкнула. Князь азірнуўся. Дзяўчына спала на вузкім дубовым лежаку, які служыў яму прыстанкам на трывожныя кароткія ночы. – Ну вось. А Марфа казала, што Уцеха не ўмее спаць, – шэптам прамовіў князь. – Трэба дзяўчыну даручыць дзядзьку.

– Войцех, – даклаў з парога слуга, з-за спіны якога выглядваў Зенка.

Раптоўна моцныя рукі раскідалі ў бакі і слугу, і Зенку. Да Уцехі кінуўся Войцех.

– Жданка! Жданка! – Ён схапіў дзяўчыну на рукі, трэс, але яна не прачыналася. Войцех цалаваў дзявочы тварык, лавіў вуснамі яе пушыстыя валасы. – Жданка! – яшчэ раз паклікаў Войцех і асцярожна паклаў сваю каштоўную ношу на ляжак.

– Князь! Што робіць у цябе на ложку мая нявеста?! – Войцех пагрозліва наблізіўся да князя.

Князь маўчаў.

Зенка іртануўся напярэймы Войцеху, але тут жа адляцеў ад яго ў кут. Усхапіўшыся на каленкі, ён крыкнуў:

– Гэта ж вар'ятка! Я табе казаў!

Войцех у разгубленасці спыніўся, азірнуўся на Жданку.

– Яна, магчыма, упершыню заснула ў час сваёй хваробы, – ціха прамовіў князь.

– А што...

– Яе знайшлі ў лесе мае людзі, – перапыніў Войцеха князь. – Прывязаную да дрэва. Яна ўжо была... такой. Я падумаў, што мая дачка, пэўна,

была б такіх гадоў... І такой жа прыгожай, – упершыню прызнаўся ён гэтым людзям у сваёй незагойнай ране. – Цяпер, калі я ведаю жаніха, можаш яе забраць, Войцех.

– Куды? – Войцех усклікнуў з такім адчаем, нібыта ў ім нешта абрынулася ці адарвалася.

– Сапраўды... Што ж, няхай пакуль застаецца ў мяне. Ёй тут лепей будзе, – ціха прамовіў князь. У голасе яго пачулася палёгка.

– Але... – Войцех не ведаў, што казаць далей. Сустрэць сваю згубленую нявесту, каб адразу пакінуць яе? Супярэчлівыя думкі не давалі яму засяродзіцца, годна адказаць князю. Намаганнем волі ён забараніў сабе гэтыя прыкрыя думкі. – Прабач, князь! Мне казалі, што Жданку скралі па загадзе тутэйшага пана. І болей пра яе я нічога не ведаў, колькі ні распытваў людзей. І ў пана яе дакладна не было. Дзе ж тады яна магла быць, як не прыкрытая зямелькай недзе? І раптам – тут, жывая, у цябе! Галава кругам!

– Калі твае людзі прабраліся ў замак патайным ходам, хіба я загадаў кінуць іх у скляпенні? Я быў упэўнены ў тым, каму аднойчы даверыў патаемны ўваход, – князь нават не азірнуўся на Зенку.

– Ніхто з тых, каго я прыводзіў сюды, не ведае таямніцы ўваходу і не здолее самастойна прабрацца ў замак. Я захаваў тваю таямніцу! – голас Зенкі гучаў упэўнена, хаця крыху і задзірыста.

– Так і павінна быць, – адказаў князь, падыходзячы да акна, у якім можна было бачыць палову Свіслачаў. – Сёння ў маёнтку баль. Мне патрэбна быць там, каб забраць у графа маю дачку.

Войцех і Зенка пераглянуліся. Кожны з іх некалі чуў, што ў князя была дачка. Як казалі людзі, была ды сплыла. Але ніхто з іх і ўявіць не мог, што яна знаходзіцца тут, побач.

– Відаць, што нядаўна яна там, бо ведаў бы пра такое, – вырашыў Зенка.

Але ўвага Войцеха была цалкам падпарадкавана партрэту, з якога глядзела на яго знаёмая жанчына. Канечне, ён не ведаў гэтую жанчыну і ўсё-ткі...

– Дарута? – нечакана прамовіў Войцех.

– Ты ведаеш яе? – хуткае пытанне князя прагучала, як стрэл.

Войцех і сам не ведаў, чаму ўсплыло гэтае імя. Паміж вытанчанай, гордай, багата апранутай прыгажуняй на карціне і Дарутай-Міткам ляжала бездань. Але падабенства ўражвала. Найперш вочы – не столькі ярка-зялёным колерам, колькі прамым поглядам, які выдаваў цвёрды характар, сілу духа і чысціню душы. “Рэдкая з’ява... і не толькі ў жанчын”, – зазначыў сам сабе ён.

– Так, – неахвотна адгукнуўся Войцех на пытанне князя.

Уся гісторыя Даруты з вуснаў Войцеха ўклалася ў некалькі хвілін і хутчэй нагадвала скорагаворку. Войцех спяшаўся, бо прыйшоў да князя зусім не дзеля ўспамінаў.

Князь, здаецца не заўважаў нецярплівасць Войцеха. З пачутага яго асабліва ўразіла сіла Даруты.

– У мяне дзед быў неймавернай сілы! І яго дзед таксама. Гэта перадаецца праз пакаленне ў нашым родзе, – упэўненасць, што дачка знайшлася, перапаўняла князя.

Зенка, здаецца, пачынаў разумець, пра што, дакладней, пра каго ідзе гаворка. Але якраз гэтае разуменне прывяло да таго, што ягоныя пачуцці і думкі зайшлі ў тупік. “Мітка-ваўкалак і Мітка-князёўна! Страшнейшага і ў снах не бачыў! Ну і ну! – Зенка раптам прыгадаў, як лупянуў Мітку

па галаве, калі той прыйшоў у іхні лагер. – Капец! Лепш пра гэта не ўспамінаць, глядзіш, і яны не ўспомняць...”

– Пра баль мы ведаем, князь. Прыйшлі да цябе прасіць падмогі, каб ісці на маёнтак, – працягнуў Войцех гаворку, пачатак якой Зенка прапусціў за сваімі думкамі. – Мае людзі ноччу будуць чакаць сігналу пад мастом. Шэйпіцкія і чучэнскія абяцаліся таксама быць. Як мяркуеш?

Раптам у пакоі пачуўся плач. Усе разам азірнуліся. Жданка па-ранейшаму спала, але ўсхліпвала ў сне, час ад часу скаланаючыся.

– Пойдзем адсюль, няхай выспіцца твая нявеста.

Князь і Войцех адправіліся ў бібліятэку абмеркаваць план нападу на маёнтак, распрацаваны загадзя Войцехам.

Зенка, якога пакінулі пільнаваць Жданку з загадам, каб паклікаў адразу, калі яна раптам прачнецца, адчуваў сябе на раздарожжы. Патаемна, недзе глыбока ў душы ён не мог пажадаць поспеху плану Войцеха. Хаця ў яго не было ніякай прыязнасці да графа, але і нянавісці да яго таксама не меў, як не меў яе ні да каго на гэтым свеце. Ён вырашыў па-простаму: не ягоная гэта задума, а служыць трэба шчыра таму, каму зараз служыш. “На двух гаспадароў хіба што разарвацца можна”, – падсумаваў юнак свае развагі.

План, прапанаваны Войцехам з некаторымі дапаўненнямі князя, меў добры шанец на тое, што гэты баль увойдзе ў памяць людскую як выклік усім ворагам, якія прыходзяць рабаваць гэтую зямлю, усім вылюдкам гэтае зямлі, якія адцураліся яе. Замнога назбіралася крыўды ў людскіх душах, і крыўда гэтая патрабавала выйсця. На мэце, уласна, стаяла адно: паказаць, хто тут сапраўдны гаспадар. Для гэтага патрэбна знішчыць маёнтак, каб граф, калі яму пашанцуе выжыць падчас нападу, з’ехаў адсюль назаўсёды. Пойдзе ўсё ладам, тады і царскае войска пазбавіцца галавы, бо ў маёнтку мае быць усё вайсковае начальства. Войцех не казаў князю, што штурхала яго на гэтае нападзенне і асабістая прага помсты за Жданку. Тое, што ў першую чаргу кіравала князем, было зразумелым без тлумачэння. Найперш трэба вызваліць Даруту. Пасля гэтага можна пачынаць наступ. Калі ж не атрымаецца вызваліць яе мірам, хто-небудзь са сваіх дабярэцца з маёнтка да бліжэйшага паста і перадасць загад князя, каб наступалі. Сам князь будзе знаходзіцца ў маёнтку і ў час бойкі з дапамогай ваяроў адаб’е Даруту ў графа. Тады адразу трэба будзе падпаліць маёнтак, каб тым, хто застанецца там жывы, быў занятак тушыць пажар, а не даганяць іх. І ў любым выпадку пастарацца не пакінуць якіх слядоў пасля сябе...

Усё, здавалася, было ўлічана, абмеркавана, узгоднена і праверана логікай. Адзінага, чаго ніяк не маглі ўлічыць князь і Войцех, дык гэта таго, што добра занаёмы ім абодвум чалавек сядзіць цяпер у царскім гарнізоне. Праз якую гадзіну ўсе подступы да Свіслачаў будуць перакрытыя засадамі. Царскія салдаты баявым строем ужо выходзілі на абарону маёнтка.

## 2

Пад выглядам выгану ў ноч некалькі ваяроў прыцемкам вывелі коней з замчышча на бліжні луг. Амаль што адначасна патаемным ходам пакінулі замчышча два пешыя атрады. Не паспелі яны дабрацца да маста, як прыйшла благая вестка: шэйпіцкія і чучэнскія людзі трапілі на засады. З людзей Войцеха прарваліся Ісай і Яцка. Ісай быў кепскім вершнікам, таму адстаў ад атрада. Па дарозе ён увесь час блытаў сцяжыны і шчасліва

аб'ехаў засады. Яцка прабіраўся пад пузам свайго скакуна, як быццам той згубіў вершніка.

Слухаць купца і цыгана не ставала часу. Неабходна было затрымаць свае атрады і паслаць старожу на ўсе шляхі і подступы да маёнтка, бо ніхто не мог ведаць, што іх чакае там.

Старожа вярнулася panылая. Не паспелі княжыя людзі дабрацца нават да касцёла, як былі атакаваныя і ўзятыя ў палон царскімі салдатамі. Адзіным, што давала на першы погляд надзею, што граф не будзе затрымліваць Даруту, было тое, што ён нечакана заступіўся за палонных і нават перадаў з імі прыгожы канверт з лістом да князя.

Ліст быў звычайным дасціпным запрашэннем на баль, з прыпіскай: “Прашу прабачыць, што не папярэдзіў загадзя, але абставіны змяніліся нечакана для мяне самога, – пісаў граф. – Да мяне трапіла Вашая дачка. Як дваранін і слуга каралю маю гонар вярнуць князёўну Вам, яе бацьку. Мяркую, што тыя фармальнасці, якія нам дзеля гэтага давядзецца выканаць, не зашкодзяць Вам весела бавіць час у маім маёнтку, сярод высакародных людзей, якія болей пасуюць прадстаўніку княжага роду, чым тыя, якімі ён абкружаны цяпер. Можа стацца толькі адна перашкода. Князёўне вельмі спадабалася гасцяваць у мяне. Самі ведаеце, што выганяць прыгожую жанчыну не ў маіх правілах...”

Князь уздыхнуў так глыбока, што неўспадзеў задзьмуў свечку.

– Што там? – пацікавіўся Войцех, дастаючы крэмень і крэсіва са скуранай торбачкі, падвешанай на раменным пасаку.

Князь маўчаў. Ён, здавалася, не заўважаў, што патухла свечка, і паранейшаму трымаў ліст.

Цяпельца зноў занялося. Войцех чакаў, пакуль князь дадумае сваю думу.

І, праўда, князь рашуча падняўся з крэсла.

– Я еду! – заявіў ён Войцеху.

У бібліятэку, шумна дыхаючы, увайшоў дзядзька Затко.

– Князь, я хацеў пабудзіць Уцеху, каб пакарміць. Але яна ніяк не прачынаецца!

– Не Уцеха, а Жданка, – паправіў яго Войцех.

– Ды што мне з таго, няхай будзе Жданка, калі так вырашылі тут. Што з ёй, хто ведае?

– Нічога тут не вырашалі, – адпрэчыў Войцех, – Жданка яна ад нараджэння.

– Няхай, – пагадзіўся дзядзька Затко, – але што рабіць мне? Яна і так адныя косці, трэба неяк накарміць.

– Будзе добра ўсё, прывязем ёй доктара, а пакуль не чапай. Можа быць, яна гэтым забыццём якраз лекуецца, – умяшаўся ў нечаканую спрэчку князь і адразу ж, ледзьве не подбегам, пакінуў бібліятэку.

– Куды гэта ён? То быў сам, як у сне, марудлівы ды абыякавы да ўсяго, а тут – быццам хорт перад паляваннем!

– Не ведаю, – адказаў Войцех. – Атрымаў ад графа тутэйшага ліст і вырашыў ехаць да яго. – Войцех хітнуў галавой на ліст, што ляжаў на стале.

Затко асцярожна наблізіўся, выцягнуў галаву і далікатна зазірнуў у ліст. Твар яго спахмурнеў.

– Што там? – устрывожыўся Войцех.

– Запрашэнне ад графа на баль. Ён хоча там на нейкіх умовах аддаць князю ягоную дачку, – пераказаў Затко. Ён зноўку перачытаў пасланне. – Якую дачку? “Вашую дачку”, моўлена ў допісе. Ён што, хоча ажаніць

князя на сваёй дачцэ? Але чаму тады “Вашую дачку?” – дзядзька Затко недаўменна ўтаропіўся на Войцеха выцвілымі, што адцвітаючыя валошкі, падслепаватымі вачыма.

Войцех не меў часу тлумачыць. Ён толькі на хадзе крыкнуў:

– Даруту! Ягоная дачка знайшлася!

Пасярэдзіне пляца, што знаходзіўся перад брамай замчышча, злёгку калыхалася полымя невялікага вогнішча, каля якога грэліся некалькі чалавек. Амаль круглы месяц даваў дастаткова святла, каб на пляцы можна было пазнаваць адно аднаго, але цень ад сцяны замчышча і двух кутніх вежаў хаваў ад цікаўных вачэй два атрады, якія вярнуліся з ранейшай вылазкі і зараз былі гатовыя ісці на маёнтак.

– Мае мужныя ваяры! Мае паплечнікі, сябры мае! Мае дзеці! На гэты раз я не раю вам ісці с а мной, бо маю асабісты клопат у маёнтку. Я нават не ведаю, што буду рабіць там, але магу запэўніць вас, што гэта не параніць гонар майго роду. Наадварот, я хачу, каб імя князёў Свіслоцкіх жыло на нашай зямлі ў памяці маіх нашчадкаў, у рэху гэтых каменных муроў, у пашане нашых дзяцей і ўнукаў да ўсіх нас!

– За цябе і загінуць – гонар! – зашумелі ваяры.

– Чакайце! – уладарным рухам узнятай рукі князь імгненна перапыніў хваляванне. – Я ведаю, што кожны з вас неаднойчы выказаў сваю валечнасць[1] на справе! Вы даказалі і пацвердзілі гэта ў шматлікіх нашых валках[2]! Але вы маеце яшчэ і бачнасць[17]. Хто з вас босай нагой наступіць на змяю? Так і мы сягоння. Мы ўжо не маем сумненняў на будучыню, бо ўведалі, мяркуючы па мінулых і нядаўніх падзеях, што масква не прынясе нам паратунак ад тых, хто смокча апошнія сокі нашай зямлі, б’е нашага звера, палюе на нашых жанок і нявест, лютуе над парабкамі, адбірае ўсё здабытае крывёй і потам, гадамі цяжкай працы і мужнасці не аднаго пакалення нашых продкаў. Сёння нахлебнікі тыя пацясніліся за адным сталом, але ад гэтага жадоба іхняя толькі павялічыцца. На жаль, яны яднаюць часам не толькі свае раты, але і зброю. Гетман Багдан пакінуў нас на паўдарозе ды падаўся пад руку Масквы. Трэба збіраць зараз сілу, а не траціць дарма свае жыцці. Яшчэ прыйдзе наш час! – князь перавёў дых, агледзеўся. Ваяры чакалі.

– А сёння?! – выразна прагучаў нечы слабы голас у напружанай цішыні.

– Цяпер! Цяпер што рабіць?! – загулі разам ваяры.

– Вядзі нас! Што чакаць?! – падступаліся людзі.

– Што сёння? Сёння я павінен туды ісці адзін. Гэта справа майго асабістага жыцця, крыві маіх продкаў. Але... – князь абвёў нетаропкім поглядам пляц, – калі знойдзецца дванаццаць чалавек, гатовых пакласці свае жыцці, суправаджаючы мяне, як належыць князю, мой гонар будзе падтрыманы. Са свайго боку я зраблю ўсё, каб вы жывымі вярнуліся дадому.

Ваяры заварушыліся, і хутка вакол князя ўтварылася шчыльная сцяна.

– Вас усё адно зашмат, – мовіў князь, – таму, не крыўдуйце, я выберу сам.

Войцех, які бачыў усё, што адбывалася на пляцы, адклікаў свой атрад да бліжэйшай вежы замка.

– Слухайце, людзі, што будзе, – амаль шэптам пачаў ён. – Мужыцкую світу князя ў маёнтак не пусцяць. Так?

– Ну... – няўпэўнена пацвердзіў нехта.

– І князь будзе там адзін. – Войцех памаўчаў крыху. – Сярод ворагаў. Так?

– І што? – весела прагучала з ценю вежы.

Войцех строга зірнуў у цень. Вядома, гэта быў Зенка.

– А ты як думаеш? – запытаўся Войцех.

– Думаю, што я там павінен быць першым, каб выведаць, што там робіцца, пакуль прыедзе князь.

– Талкова, – зазначыў Войцех. Мала таго, што Зенку не ў цяжар было прабрацца ў маёнтак, ён яшчэ неяк апавядаў пра ключніцу ў маёнтку, якая паклала на яго адно вока. "Чаму адно вока? Другое было патрэбным ёй, каб неадступна сачыць за ўсім, што робіцца ў маёнтку", – казаў Зенка.

– І я пайду! – падаў голас Яцка.

– А ты што? – падзівіўся Войцех.

– А тое, што калі ў пана знойдзецца скрыпачка, то буду ў самай гушчы падзей, куды Зенку не прабрацца.

– Тады не губляйце часу, прабірайцеся ў маёнтак разам! Як раптам хто з тамтэйшых перастрэне, няхай Зенка тлумачыць, што праводзіў Яцку, бо ходзяць чуткі пра баль, а цыган – першы музыка на розных святах.

– Так, мы спыніліся на тым, што князь у маёнтку адзін сярод ворагаў. Цяпер нашая задача. Нам належыць непрыкметна рассяродзіцца вакол маёнтка на адлегласці стрэлу, схавацца, каб не ўгледзелі, – тлумачыў атраду Войцех. – Па маім сігнале разам урываемся з усіх бакоў, каб спаліць, сцерці, знішчыць гэтае логава назаўжды... – Войцеха ажно калаціла ад нянавісці. Гэтую нянавісць зусім нядаўна распаліла тая, знявечаная, амаль без прыкметаў жыцця, бязважкая, што былінка, дзяўчына, якую ён сёння трымаў на сваіх руках, якую ведаў Жданкай. Ён прагнуў помсты. Ён прагнуў бы нават загінуць там, каб пераследаваць свайго ворага і на тым свеце. Але... Жданка! Раптам яна памятае яго, у трызненні свайго розуму і ў пакутах сваёй душы, шукае, чакае яго... Гэта было невыносна – заставацца жывым са сваёй нянавісцю! А гэтыя людзі, якія даверыліся яму! Няўжо і іх ён гатовы ахвяраваць сваёй нянавісці?! Войцех жахнуўся цямрэчы, якая паўстала перад ягоным поглядам, жахнуўся і раптоўна супакоіўся. Ён бачыў твар свайго сапраўднага ворага, ён вытрымаў варожы погляд!

Войцех аддаваў апошнія распараджэнні сваім людзям, калі Затко ў сваю чаргу сабраў ваяроў князя з тых, хто застаўся ў замчышчы. Ён падзяліў іх на два невялікія атрады. Першы з іх павінен быў пры зброі і конях пад сёдламі чакаць вяртання князя ці, крый Божа, благой весткі. Пры неабходнасці атраду належала ісці насустрач князю, калі будзе бачна, што патрабуецца падмога. Другі атрад атрымаў найменне фарпосту, які павінен быў сачыць за падзеямі на сярэдзіне шляху ад маёнтка да замчышча. На ролю размяшчэння фарпосту вельмі падыходзіў тутэйшы млын на павароце Свіслачы, схаваны паміж пахілымі вербамі, якія звешваліся над плынню з крутога, падмытага схілу. Млынару скажуць, што ў замчышчы зламаўся вятрак. Няхай бы той вятрак нават гуў на ўсё наваколле, млынар поначы не адмовіць узброеным людзям змалоць некалькі мяхоў зерня. Мяхі з зернем давядзецца цягнуць з сабой на выпадак, калі раптам натрапяць на патруль. Начную вылазку можна апраўдаць адзіна тым, што апроч паламанага ветрака яшчэ і скончыўся хлеб, які замак абавязалі пастаўляць ранкам у царскую слабаду[3]. Фарпост разам з атрадам Войцеха павінен будзе ісці ў наступ на маёнтак. На чале фарпосту быў пастаўлены Сіла, начальнік варты замчышча. Дарадцам і пры неабходнасці каардынатарам усіх атрадаў у адсутнасць князя заставаўся дзядзька Затко.

Князь пад сцягам, на якім быў вышыты золатам ягоны родавы герб, выехаў на чале сваёй світы праз адзіную браму замчышча.

# 3

Князя і ягоную світу панскі двор сустрэў варожа, але не ваяўніча. Гэта была тая глухая варожасць, якая ўсталёўвалася на сойме, калі нехта з упартых шляхціцаў накладаў сваё вета, парой перакрэсліваючы ўсю працу сойма. Князь у іх вачах быў жывым і неразумным увасабленнем таго вета, накладзенага на астатак тутэйшай зямлі, дзе яшчэ не перавёўся звер ды радзіла самае буйнае збожжа, бачанае імі на зямлі.

"І каму належыць тая рэшта зямлі? – пыталіся адзін у аднаго падпанкі. – Чалавеку, якому яна зусім і непатрэбная!"

Яны б зразумелі князя, лічыліся з ім, а то і спагадалі, калі б той сціснуў гэтую зямлю ў сваім кулаку так, каб залаты дождж абрынуўся ў ягоныя кішэні. А там, глядзіш, і ім бы перапала – неба над галавой адно. А гэты дзікун браў ад зямлі роўна столькі, колькі яму было патрэбна, каб падтрымліваць сваё нікчэмнае, пустое на іхнюю думку жыццё ў каменным логаве. Каму ён сам тут патрэбны? Жменьцы былых ваяроў, каб напаміналі пра былую славу! А сам? Каго ён тут робіць багатым або славутым? І хіба можна параўнаць гэтага занядбанага, няйнакш, яшчэ і паганскага, князя з графам? На графа зірнуць, дык усцешышся – што цацка замежная. Вытанчаны што ў слове, што ў апратцы, што ў забаве. Ах! Якія балі дае граф! А якіх хортаў трымае на псярні! А чыстапародныя коні на стайні! А паляванні, якія збіраюць гасцей нават з іншых ваяводстваў! А гэты? Так і не выбіўся ў паны! Тутэйшая дробная шляхта распальвала сябе падобнымі думкамі, каб узвысіцца ва ўласных вачах. Але нікому б не прыйшло ў галаву выказаць гэтыя думкі ўголас. І не таму, што яшчэ пабойваліся князя. Ён быў тут безабароннейшы ад апошняга кацяняці. Але ж чаму? Ніхто са шляхцічаў не разважаў над гэтым. Проста кожны адчуваў, што ў прысутнасці князя выдаць свае думкі – тое ж самае, што зрабіць непрыстойны гук у гасцях. Іх распірала ад злосці на гэтага чалавека, тым болей, што яны не знаходзілі таму якое разумнае апраўданне.

Князь не зважаў на іх. Кароткім паклонам галавы ён адказаў на квяцістае прывітанне графа і запытаўся:

– Граф, дзе маю гонар перамовіцца з вамі сам-насам?

Граф Пржэвіцкі ўпершыню чуў журботны і цвёрды голас князя. Ён быў прыемна ўражаны свецкімі манерамі свайго ворага, ад якога, начуты пра адзінотнае жыццё былога магната тутэйшых земляў, не чакаў нават звычайнай далікатнасці. Ён адчуў павагу да князя і нават гонар, што апошні прадстаўнік старажытнага роду не выказвае сябе больш высакародным, чым ён. "Хаця, канечне, князь ведае і этыкет каралеўскага двара!" – падумаў ён.

Граф па-прыяцельску ўзяў князя пад руку, падвёў да гасцей.

– Знаёмцеся, панове, князь Баляслаў Свіслоцкі! Гэта і ёсць наш знакаміты пустэльнік з каменнага замку!

Прысутныя, начутыя пра князя, уважліва, але непрыкметна разглядалі яго. У адным з іх князь адразу пазнаў "чорнага камісара", як ахрысцілі яго свіслачане за нязменна чорную апратку. Іхнія позіркі на момант скрыжаваліся.

– Дабраверны князь, гэта праўда, што вы ўпершыню сягоння дзеля нас пакінулі свой замак? – пацікавіўся камісар. Хаця моўлена тое было з павагай і нават лёгкім паклонам, князю пачулася ў маладым голасе некаторая задзірыстасць і нават правакацыя. Магчыма, гэта было і не зусім так, бо князь проста адвык ад маладых мужчынскіх галасоў, але ён затрымаўся з адказам.

Граф, баючыся сапсаваць настрой гасцям, гулліва прамовіў:

– О! Чаго мне каштавала прывабіць князя на баль!

– Прывабіць? – з’едліва перапытаў князь.

– Князь, не варта непакоіцца. Абяцаны сюрпрыз хутка будзе прадстаўлены вам.

– Князя чакае сюрпрыз? – падзівіўся камісар. – Дарагі князь, калі б я ведаў, што, дзякуючы сюрпрызу, можна заслужыць ваш давер, не прымусіў бы вас чакаць ні адной хвілі! – не чакаючы адказу, ён павярнуўся да графа. – Вы маеце жорсткае сэрца, граф!

Камісар ведаў, які сюрпрыз падрыхтаваў граф, але, як і зазвычай, без патрэбы не выказваў сваю дасведчанасць.

– Мой сюрпрыз патрабуе адпаведных дэкарацый, няхай князь Баляслаў не крыўдуе.

Граф бачыў нецярплівасць князя і разумеў, што ўжо атрымаў перамогу ў дуэлі на словах. “Галоўнае – дарэшты вывесці яго з раўнавагі, і тады можна спакойна адмовіцца аддаваць яму Даруту. Да таго ж, хто засведчыць, што гэта ягоная дачка? Не па-рыцарску аддаваць паненку неўраўнаважанаму чалавеку, які не мае належнага доказу, што з‘яўляецца ёй бацькам!”– граф нават пасміхнуўся такой выгоднай думцы.

“Падобна, граф не спяшаецца выконваць сваё абяцанне. Які сюрпрыз, калі я прыйшоў забраць маю дачку? – князь правільна зразумеў усмешку графа. Ён болей давяраў сваёй зброі, чым гульні ў словы. Што ж, у такім выпадку яму давядзецца скрыжаваць са мной мячы! Але спачатку – Дарута!..” – ад гэтага імя шалёна забілася сэрца. І ўсё ж такі граф не выклікаў у яго агіды, нягледзячы на тое, што князь ведаў пра яго нямала прыкрага. Гэты капрызны, але нечым абаяльны чалавек увабраў у сябе як усё лепшае, так і брыдкае свайго асяродку. Ён прыйшоў на чужую зямлю забраць яе плён. Што ж, яго можна яшчэ зразумець. Але як зразумець тутэйшых хуткаспелых шляхціцаў, якія дапамагаюць яму ў гэтым? Як зразумець, што яны адразу паладзілі з тымі, хто наогул прыйшоў прысвойтваць самую зямлю гэтую?..” – за думкамі князь не заўважыў, што за ім пільна сачылі дзве пары вачэй – графа і камісара.

Раптоўна граф нецярпліва пляснуў у ладкі:

– Але сюрпрыз сягоння чакае не толькі князя, а і ўсіх нас, панове! – граф напышліва абвёў позіркам прысутных і двойчы пляснуў у ладкі.

З-за шырмы імгненна выскачыў Яцка. Ён так нізка схіліўся перад публікай, што скрыпка і смык утварылі падабенства крылаў за ягонай спіной, і адразу перакуліўся праз галаву, каб тут жа стаць на ногі і прайсціся смыкам па струнах.

Што рабіла скрыпка ў ягоных руках! Як пярэвярцень, плакала немаўлём, раўла мядзведзем, каўкала, стагнала, скавытала, ціўкала, пішчала – ўсё гэта пад такія выкрунтасы ног і цела скрыпача, што гледачы, якім Яцка прапанаваў падрабляцца пад гукі скрыпкі, хапаліся за бакі ад смеху. Калі ўсе стаміліся ад гэтага прадстаўлення, граф махнуў рукой і Яцка знік за шырмай.

– Не шкадуйце, панове, ён яшчэ пацешыць вас фокусамі! – граф ганарыўся, што дагадзіў гасцям. “Трэба дараваць Зенку за гэтакі падарунак!” – прыгадаў ён свайго былога служку.

“Няўжо так здрабнеў чалавек!” – падумаў князь, якому гэтая пацеха здалася болей да месца на вядзьмарскім шабашы.

– Магу паспрачацца, князь, што вы падумалі зараз: няўжо так людзі здрабнелі? – прашаптаў камісар, які ў гэты момант апусціўся ў суседняе крэсла.

Князь быў непрыемна ўражаны: “Няўжо ў мяне, як у апошняга недарэкі, усё люструецца на твары?”

– Не, я чытаю на большай глыбіні.

Князь рэзка павярнуўся.

– Не ведаю, дзячыць вам або... Ведаеце, я няблага валодаю шаблямі, мячамі, шпагамі...

– Памілуйце. Мне хацелася...

– Пакіньце вашыя жаданні сабе!

– Прабачце за няўдалую спробу заслужыць ваш давер, князь.

– Навошта ён вам?

– Хто?

– Давер...

– Як шчыра, дык не магу патлумачыць таго і сам сабе.

– Не падумаў бы такога пра вас. Чужыя думкі, што кніжка разгорнутая, а свае – поцемкі?

– А вам ніколі не хацелася зрабіць прыемнае чалавеку?

– Вам? Не смяшыце мяне.

– Я не пра сябе, наогул, проста так, незнаёмаму?

– Не хацелася.

– Мне таксама да сённяшняга дня. Кар’ера, абавязкі, прынцыповасць...

– Пакіньце мяне, калі ласка. Я тут не дзеля забавы ці адпачынку.

– Чым магу служыць?

– У вас ёсць каму служыць.

– І ўсё-ткі...

– Крый Божа ад захопнікаў!

– Я служу маёй айчыне, што ў гэтым благога? Але ж я наперш проста чалавек.

– І як вы да гэтага даўмеліся?

– Проста, гледзячы на вас, – камісар шчыра засмяяўся. – Але чаму “захопнікаў”? Просты люд паспаліты, а тое і збяднелыя шляхцічы бягуць да нас. Няўжо вы не бачыце пакутаў на вашай зямлі? Вашыя ж людзі стогнуць, просяць цара абараніць іх ад мясцовых паноў. Вашыя гарады самі адкрываюць свае брамы, каб сустрэць нас, як вызваліцеляў, а вось знайшоўся адзін, які гаворыць “захопнікі”. Вы сапраўды ніколі не пакідаеце замак?

– Дарэмныя кпіны, камісар. Калі зверху агонь, людзі кінуцца ў ваду, нават не ўмеючы плаваць.

– Князь вывучаў рыторыку?

– Я вымушаны быў перапыніць вучобу ў Сарбоне з прычыны смерці майго бацькі.

– А па дарозе заехалі ў Варшаву, адкуль і прывезлі маладую княгіню Дароціцу, адну з самых шматабяцаючых прыдворных дам каралевы, – працягнуў за князя камісар.

Князь здрыгануўся.

– Ты ведаеш, што з ёй?! Выбачайце, дужа нечакана! У вас ёсць нейкія звесткі?

– У нас на “ты” не крыўдуюць, – усміхнуўся камісар. – Нават цар.

– Але...

– Гэта была жанчына своеасаблівай прыгажосці, да таго ж славілася рашучым характарам.

– О-о-о... Як вы гэта можаце ведаць?!

– Па адпору, які яна, тады яшчэ зусім маладая і нявопытаная, дала

польскаму графу, чалавеку сталых гадоў, улюбёнцу і ў некаторай ступені дарадцу самога караля.

– Вы маладыя яшчэ, каб ведаць гэта!

– Я ведаю гэта з успамінаў таго самага графа, з якім звёў мяне лёс.

– Буду ўдзячны, калі вы распавядзеце мне пра гэта.

– Я неспрактыкаваны апавядальнік.

– Нічога, я пастараюся зразумець.

– Тады, каб не надакучыць вам, паспрабую сцісла.

– Уважліва слухаю...

– Гэта надарылася на шляху ў Індыю. Трапіць туды я марыў з дзяцінства. Мне дазволілі далучыцца да першай пасольскай місіі, якая выпраўлялася ў гэтую краіну дзеля ўсталявання дыпламатычных адносінаў. Дзяржава была зацікаўленая ў гандлі з Індыяй. Але гэта іншая тэма...

– І ўсё-ткі...

– Місія была няўдалай, мы не дабралася нават да мяжы Індыі.

– А той чалавек?

– Якраз тады і з’явіўся ён у маім жыцці. Граф ужо вяртаўся з Індыі. А мяне на той час прыхапіла нейкая азіяцкая хвароба ў глыбіні Кызылбашскай дзяржавы. Паколькі гэта была тамтэйшая пошасць, паслы вымушаныя былі пакінуць мяне на догляд доктара з персаў, дакладней, пакінуць таму доктару грошы на маё пахаванне, бо пошасць была няшчадная.

– І граф выручыў вас, так?

– Можна сказаць так. І выручыў, і вылечыў. Амаль што паўгода ён апекаваўся мной там і потым, па дарозе дадому, пакуль нашыя шляхі не разышліся. Граф бачыў ува мне юнака, якога, мабыць, лічыў неабходным павучаць на прыкладах з уласнага жыцця. Адным з прыкладаў было яго пакутлівае каханне да польскай графіні Дароціцы. Кожны раз, калі ён згадваў гэтае імя, насмешлівы выраз ягонага твару змяняўся на разгублены. Неўзабаве графа пачынала ажно трэсці ад узрушання, на месца якога амаль заўсёды прыходзіла злосць. Ён раіў мне ніколі не дазваляць сабе кахання. Як шчыра, дык лепшы прыклад, каб зарачыся ад гэтага пачуцця, цяжка ўявіць сабе.

– А што, што яшчэ ён апавядаў вам пра Дароціцу?

– Казаў, што сабраў сабе атрад, каб выкрасці яе. Але яго папярэдзілі, што княгіня адплыла з купцамі. Нібыта на караван напалі нейкія бандыты, і княгіня, мабыць, загінула ў тым лупе. Хаця... я не зусім паверыў яму...

– Яго імя?! – не стрымаў сваёй нецярплівасці князь.

– Пакуль што я не магу вам назваць яго. І гэтае імя ўжо нічога не вырашае. Яго няма сярод жывых.

– Камісар! Даруйце мне, што перапыніў вас. Чаму вы, як мовілі, не зусім паверылі графу?

– Гэта хутчэй псіхалагічнае ўспрыняцце.

– Прашу вас, падзяліцеся са мной сваім меркаваннем.

– Нічога асаблівага. Проста пасля папярэдняга красамоўства канец успамінаў прагучаў неяк скамечана, нават абыякава.

– Магчыма, калі граф сапраўды быў настолькі закаханы, ён такім чынам не дазваляў сабе канчаткова абрынуцца ў пакуту?

– Магчыма, – пацвердзіў камісар, не жадаючы спрачацца на тэму, якая загадзя ўяўлялася бясплённай.

– Вы потым яшчэ сустракаліся з ім?

– Не. А вас сустрэў. Мне цікава было, чаму жанчына, якая выклікала магутнае, нязбыўнае пачуццё ў неардынарнага чалавека, аддала перавагу вам.

– Спыніцеся.

– Разумею. Прабачце за прамое пытанне, князь, але... вы ўпэўнены, што тут вашая дачка? Я на самой справе хачу памагчы вам, бо не думаю, што граф вырашыў аддаць яе. Хутчэй за ўсё тут нейкі падман. Кажуць, што ён стварыў сваёй паланянцы каралеўскія ўмовы і выказвае ёй каралеўскую пашану.

Князь скалануўся на слове“падман”.

– Вымушаны прызнацца, што я не бачыў яе цяпер, хаця яна была ў маім замку. Я не ведаў, хто гэтая дзяўчына, ды і не цікавіўся. Яна хварэла, ёй быў забяспечаны добры догляд. Несумненна, што я ў хуткім часе ўбачыў бы яе. Але... ворагі апярэдзілі... – князь спахмурнеў, стараючыся справіцца з хваляваннем і гневам, якія пабілі ягоны твар на белыя і чырвоныя плямы. Неўзабаве ён супакоіўся. – Я памятаю Даруту трохгадовай дзяўчынкай. Але пазнаю адразу, не сумнявайцеся!

– Гм... – камісар быў упэўнены, што размаўляе з разумным чалавекам, і ўсё ж такі прастадушша князя не толькі пачынала раздражняць яго, але і насцярожыла. Ён не палічыў патрэбным разгортваць перад гэтым чалавекам звівы сваіх думак, якім было дадзена спасцігаць крывадушнасць чалавечага свету. Камісар прамаўчаў.

У суседняй зале абвясцілі пачатак балю.

## 4

Князь нудзіўся ўжо другую гадзіну. Наўслед нецярплівасці прыйшла невыносная напруга чакання. Камісар даўно перабраўся да гасцей і, здавался, бесклапотна бавіў сярод іх час за няспыннымі гаворкамі. У гасцёўні стаяў шчыльны гоман, перакрываючы нават музыку падчас танцаў у бальнай зале.

Госці, якія апроч Змогі ведалі толькі тое, што граф нейкім чынам знайшоў згубленую дачку князя, прагнулі меладрамы. Начутыя пра хараство князёўны, яны прыдзірліва аглядалі тутэйшых шляхцянак. Танцы пакрысе заглухлі. Музыкі яшчэ нешта вяла ігралі, калі граф зразумеў, што прыйшла пара прадставіць князёўну публіцы.

Князь памятаў гэтыя танцы. Нічога фактычна не змянілася з яго юнацтва. Баль, як і заўсёды, пачаўся з “Танца Вялікага”, які хутчэй нагадваў урачыстае шэсце, чым танец. Модны менуэт, барабанная сарабанда, сялянская мазурка, амаль забыты карагод гавотаў... “І як ён зацягнуў усё гэта ў нашую глушэчу? – падумаў князь, здзіўляючыся неўтаймоўнай свецкасці графа. Пасля знікнення Дароцыцы з дачкой ён не тое што не танчыў, але не бачыў і нават не ўспамінаў пра танцы. – Як я мог забыцца на той, першы танец з Дароцыцай на балі ў гонар абрання на польскі трон Уладзіслава IV!”

Князь памятаў, як абвясцілі прыход караля...

*...– Уладзіслаў IV, ласкай Божай Кароль польскі, Вялікі Князь літоўскі, рускі, прускі, мазавецкі, жамойцкі, лівонскі, а таксама спадчынны Кароль шведаў, готаў, вэндаў, абраны Вялікі Князь маскоўскі...*

...“Як усё хліпка ў нашым жыцці! Я мог не трапіць на той баль, і Дароцыца магла б закахацца ў каго-небудзь іншага. Хаця б сабе ў караля! Горды каталік з уважлівым разумным поглядам пэўна ж ацаніў незвычайную прыгажосць Дароцыцы. Нездарма ж апекаваўся мастакамі і музыкамі! Да-

роціца магла б закахацца ў яго! – князь раптоўна адчуў, як закалацілася ад нязгоды сэрца. – Няўжо рэўнасць, як і каханне, не зважае на час і нават на самую смерць?” – падумаў ён, упершыню прызнаючыся сабе, што жыве з гэтым пачуццём ад перахопленага ім позірку караля на юнае зялёнавокае стварэнне ў рамонкавых карунках, якое князь вёў у танцы...

…Князь і ганарыўся каралём, і шкадаваў яго, і ўявіць сабе не мог, як бы ўсё склалася, калі б той, у свае 15 год з дапамогай войска ягонага бацькі Жыгімонта абраны маскоўскімі баярамі рускім царом, не адмовіўся змяніць каталіцтва на праваслаўе. Гэта было жорсткай умовай каранавання, на якую Жыгімонт не даў згоды сыну. На рускі трон быў пасаджаны Міхаіл Раманавіч. Уладзіслаў з Хадкевічам ледзь што не ўзялі потым Маскву сілай. На жаль, Сейм адмаўляўся далей фінансаваць кампанію і давялося павярнуць назад ад Арбатскай брамы. Не было, мабыць, інакшага выйсця, як пагадзіцца на мір. Праўда, гэты шведскі паляк умудрыўся прадаць свае правы на рускі трон за 20 000 рублёў і, як ні дзіўна, пры гэтым менаваўся тытулам Вялікага Князя маскоўскага, пакуль не атрымаў у спадчыну трон пасля смерці свайго бацькі. Кароль быў не толькі няўдачлівым рускім царом ды гэткім жа непрызнаным каралём шведаў. Яму не шанцавала і з абранымі жанчынамі. З першай не атрымалася ажаніцца. Ад другой дзеці паміралі малымі. Ад трэцяй зусім не меў дзяцей, а пасля смерці дык і жонка разам з тронам перайшлі да стрыечнага брата…

...– Пан граф Эдвард Пржэвіцкі і паненка князёўна Дарута Свіслоцкая!

Гучная абвестка вырвала князя з роздуму так, што ён ажно скалануўся, баючыся падняць вочы.

– Што марудзіце, пан князь! – пачуўся насмешлівы вокліч графа.

Князь адчуў, як ягоны лоб раптоўна ўрасеў халодным потам. У гэты момант ён не меў моцы паверыць, што зараз убачыць сваё адзінае крэўнае дзіця.

Усе вочы былі скіраваныя на князёўну, якую ганарліва трымаў пад руку граф. Твар князёўны быў шчыльна захінуты белым вэлюмам. Яны нагадвалі жаніха і нявесту.

Госці разам зашумелі.

– Вэлюм!

– Адкіньце вэлюм! – патрабавальна загулі мужчыны.

– Пакажыце князёўну!

– Чаму хаваеце?

– Не таміце, пан Эдвард! – працяў гасцёўню капрызны жаночы голас.

– Я пакідаю права прадставіць князёўну вам, яе бацьку, пану князю Баляславу Свіслоцкаму! – граф адступіў на крок ад дзяўчыны.

Князь пастараўся суцішыць сваё хваляванне, каб не зрабіцца камедыянтам для гэтай публікі, якая, несумненна, пераключыла ўжо сваю ўвагу на яго. Ён рашуча падняўся з крэсла і накіраваўся да дзяўчыны.

– Вы дазваляеце мне адхінуць вэлюм? – ціха запытаўся князь у дзяўчыны.

У знак згоды дзяўчына проста хітнула галавой.

Асцярожна, нібыта голае птушаня, князь прыпадняў вэлюм.

Два спалоханыя, але смяшлівыя, хітраватыя вочкі выбліснулі на круглым дзявочым тварыку.

Тыя, хто мог разгледзець дзяўчыну праз галовы гасцей, пераглянуліся. Нехта знарочыста пазяхнуў. Князёўна была, бясспрэчна, прыгожая, але такіх тут знойдзецца з тузін.

Князь гэтак жа асцярожна, як падымаў, апусціў вэлюм.

– Вас падманулі, граф. Я не прэтэндую на гэтую мілую дзяўчыну, – сціснутым ад перажытага хвалявання голасам паведаміў князь. – Гэта не мая дачка. Я разумею жарты, але хацеў бы хутчэй абняць маё дзіця, – ён быў удзячны камісару, які своечасова падрыхтаваў яго да падобнага здзеку. Князь сустрэўся з ім вачыма, але камісар чамусьці адвёў свае на сцяну.

Граф нервова засмяяўся.

– Я спадзяюся, пан князь не забыўся, што жарты ўпрыгожваюць нашае жыццё?

Усе зразумелі, што адбылася падмена, і дружным смехам падтрымалі графа.

– Падрыхтуй паненку князёўну! – загадаў граф Паляне, якая тут жа адкінула з твару вэлюм і кінулася выконваць даручэнне.

Шляхта, якая колькі хвілінаў таму імкнулася не прапусціць ні слова, сустракаючы дзяўчыну, цяпер хіба што не свістала ёй услед.

Граф, перш чым пакінуць гасцёўню, махнуў рукой у бок шырмы, з-за якой зноў з’явіўся Яцка з корабам розных прыладаў для свайго штукарства. Цяпер ён займаў гасцей фокусамі на картах, штукамі з вадой і яйкамі. Але цікаўнасць гледачоў абуджалася толькі тады, калі ён выкрываў свае фокусы. Яцка не стаў бы тлумачыць свае фокусы, калі б не быў упэўнены, што ўсе ягоныя тлумачэнні імгненна пакідаюць сп’янелы, рассяроджаны розум шляхцюкоў. Царскім ваенным начальнікам не часта выпадалі забавы ды балі, і яны складалі адзіную публіку, на якой трымаўся Яцка.

“Божа, я болей не вытрымаю!” – узмаліўся ў думках князь, калі слуга, адчыняючы бакавыя дзверы, абвясціў прыход князёўны.

Да дзвярнога праёма з ледзьве асветленага калідора хутка, нават вельмі хутка, набліжалася дзявочая постаць у белым лятучым адзенні. Можна было падумаць, што гэта здань, калі б не граф, які ледзьве паспяваў за ёй, стараючыся падтрымліваць пад руку, каб выказаць сябе кавалерам.

Амаль што ў дзвярах дзяўчына прыпынілася і, захінаючыся ад яркага святла, ускінула перад тварам рукі, нагадваючы цяпер дзівосную белую птушку. Гэтае ўражанне дапаўнялі трапяткія белыя пёры ў дыядэме над купай бліскучых попельных валасоў, якія вольна падалі ёй на плечы. Граф занепакоена прыабняў дзяўчыну, але яна павяла плячыма, вызваляючы сябе, і асцярожна глянула з-пад паднятага локця. У гаманлівай да гэтага часу гасцёўні цішыня нагадвала тую, якая стаіць у лесе на дасвецці, чакаючы першай ноты, якую возьме нехта смелы з птушынага царства, прабіваючы шкарлупіну цемры, каб вылупілася да жыцця сонца.

Дзяўчына, мабыць, звыклася са святлом і паволі апусціла рукі.

– Дароціца! – нечаканы крык князя, не даў прысутным перавесці дыханне.

Дарута нічога не разумела. Яна пашукала позіркам таго, хто гэтак горка ўсклікнуў, але ўсё ўтаропіліся на яе, як у царкве на цудатворны абраз.

“Напэўна, той, белагаловы!” – здагадалася яна, загіпнатызаваная запаленымі прыцягальным агнём вачыма, і міжволі зрабіла крок да чалавека, які месціўся ў крэсле каля сцяны гасцёўні.

І князь апамятаўся. Ён хацеў падняцца з крэсла насустрач дзяўчыне, але ногі раптоўна не паслухаліся.

– Дарута! Ідзі да мяне! Дачка мая! – у роспачы паклікаў ён.

Дарута ад нечаканасці спынілася. “Божухна! Хто гэты чалавек? Чаму назваў дачкой? Мяне, якая ніколі не мела бацькі? Мяне, якая страціла

нават тую, каго ведала за маці!” – яна ў разгубленасці азірнулася на графа.

Граф зразумеў гэта па-свойму.

– Пан князь! Вашая дачка выбірае мяне!

“Князь! – перад вачыма Даруты паплылі, закруціліся ўзбуджаныя, чырвоныя твары прысутных, утвараючы шчыльнае кола, дзе ўжо нельга бачыць некага асобна. У цэнтры гэтага кола, адрэзаныя ім ад свету, засталіся адзіна Дарута і князь. – Князь!..” – Даруце здалося, што яна зноў падае ў недагледжаны некалі дзіўны, глыбокі, сапраўдны сон...

…Маленькую дзяўчынку, якая ганарыцца сваёй блакітнай карункавай сукеначкай, нясе на руках белавусы мужчына. Яны вельмі спяшаюцца – на карабель. Дзяўчынка ведае, што такое карабель. Ёй падабаюцца караблі. Яна бачыла іх неаднойчы скрозь гэтыя вузкія аканіцы, што мільгаюць падчас хуткай хады. Але дзяўчынка не жадае плыць на спакуслівым караблі без маці, якая ледзь паспявае за імі.

– Ма-а-амааа! – крычыць дзяўчынка і цягнецца да яе.

– Асцярожна! – кідаецца да іх захутаная ў рамонкі казачная жанчына з попельнымі валасамі. – Дарута выкуліцца! – жанчына паспявае падхапіць дзяўчынку. – Вы ледзьве не страцілі дачку, князь!..

– Вы ледзьве не страцілі дачку, князь... – паўтарыла Дарута, падаючы некуды яшчэ глыбей ад гэтага сну...

У поўным зняменні, якое ахапіла сведак гэтай сустрэчы, апошнія словы князёўны чулі ўсе. Але толькі граф паспеў падхапіць дзяўчыну на рукі. Ён упершыню і, можа стацца, у апошні раз трымаў яе так блізка да сэрца, што ні за якія выгоды свету не выпусціў бы цяпер са сваіх рук. Граф нёс яе скрозь пакоі палаца і шчыра жадаў, каб гэты шлях быў даўжынёй у ягонае жыццё.

Князь, якога страта прытомнасці Даруты імгненна паставіла на ногі, не паспеў падхапіць дзяўчыну і цяпер моўчкі ішоў за графам, не ведаючы, як падступіцца да сваёй дачкі, як растлумачыць ёй цяпер, што не ягоная віна ў такім доўгім расстанні. “А чыя ж тады віна?” – задаваў ён сабе жорсткае пытанне і не знаходзіў адказу.

Госці спачатку занепакоена рушылі следам за князем, але пакрысе адсталі і вярнуліся ў залу. Хмель пакінуў іх. Яны і цвярозымі не вельмі выразна ўяўлялі сабе, што адбылося на іхніх вачах. Але нечакана ў душы, нібыта з імглы, паднялося нешта мяккае, шчымлівае, не абцяжаранае пралітай крывёй і прагай золата, лютасцю ад цяжкасцяў жыцця і зайздрасцю. Магчыма, бацькоўская любоў і мужчынскае каханне зачапілі іх сваімі крыламі. Калі праз нейкі час вярнуўся граф, яны па-ранейшаму перашэптваліся між сабой.

– Прашу прабачыць! Князёўна з дзяцінства не бачыла свайго бацьку і атрымала моцны ўдар ад нервовага напружання пры сустрэчы, якую вы бачылі, – паведаміў граф гасцям. – Мае слугі зараз скачуць да ўсіх вядомых тутэйшых лекараў. Патрабуецца кансіліум. А пакуль што мой лекар прыкладае ўсе намаганні, каб прывесці князёўну ў прытомнасць. Калі хто ведае, прывядзіце святара, яна... праваслаўнай веры... – граф ледзьве не сказаў “мужыцкай”, чым, несумненна, пакрыўдзіў бы маскавітаў. – Прывядзіце. Яе жыццё ў небяспецы. Князь выказаў жаданне застацца ў мяне, пакуль тут князёўна.

Граф саманадзейна спадзяваўся на тое, што страта прытомнасці несапраўдная, што гэта ўсяго хітрыкі князёўны, якая не жадае пакідаць яго і вяртацца ў каменнае логава, свой мужыцкі замак на кургане. Калі разыдуцца госці, ён выдаліць князя з маёнтка і, можа быць, гэтага будзе дастаткова, каб князёўна ачуняла.

Госці пачалі разыходзіцца, раз'язджацца, каб потым кожны ў сваім закутку дома і душы перажыць усё нанова, апавядаючы тым, хто не бачыў гэтага на свае вочы.

## 5

Князь не знаходзіў сабе прытулку ў замчышчы. Ён аддаваў нейкія загады, адказваў на пытанні, нават не ўсведамляючы іх сутнасці. Калі нешта потым усё ж такі ўсплывала ў свядомасці, шчыра здзіўляўся таму, што даваў разумныя адказы і загады, нібыта рабіў гэта хто іншы, а не сам ён.

Вярнуўся атрад з млына. На падворку разгружалі мяхі з вазоў. У паветры адчуваўся шчыльны, адначасна прэсны і крыху саладкаваты пах здаровай свежазмолатай мукі. Князь дакрануўся да меха з мукой. "Нават цеплаваты на дотык! Сухая мука!" – абрадваўся ён. – Можна адразу складаваць, каб спела."

Князь стараўся заняць сябе якой пільнай справай, каб жыць, як раней. І ён разумеў, што гэтак ужо не будзе ніколі. Ягонае жыццё, якім ён амаль гнёўся[5], раптам зрабілася важным – і не толькі для самога. Не дарма ж Дарута вярнулася ў сваё гняздо з клінком аднарога. Колькі ёй выпрабаванняў выпала на шляху дадому! Калі б пакінуў нож каля яе, можа быць, абараніла б сябе тут сама? Забраў, не думаючы пра тое, што яна не перадавала яму клінок, як належыць, як казаў Бэнг. Проста забраў сваю рэч, і ўсё. Ён нават не выканаў другую ўмову перадачы клінка – забяспечыць чалавека ўсім неабходным. А ён даверыў свой найдарожшы на зямлі скарб догляду зладзейкі... Да самага вечара, выконваючы ўсе свае абавязкі, князь перабіраў у думках усё, што адбылося, надарылася з ім апошнім часам. Ён шукаў свае памылкі. Каб выправіць тое, што адбылося, яму найперш важна не паўтарыць іх.

Княжыя ваяры не пакідалі замак, хоць амаль што ўсе старыя паплечнікі князя ўжо даўно абжыліся ў месце і нават абзавяліся сем'ямі. Кухары паспелі добра падсілкаваць іх, але прыцемкам у замчышчы дзе-нідзе зноў загарэліся вогнішчы, каля якіх па паходнай звычцы людзям хацелася пасядзець, пагрэцца, падзяліцца ўспамінамі, думкамі, навінамі. Яны згадвалі былыя прыгоды, меркавалі пра бясконцую навалу на тутэйшую зямлю, у часе якой гэтая зямля корміць і сваіх, і чужых, паглынае кроў і сваіх, і чужых, хавае ў сваім чэраве і сваіх, і чужых. А сейбіты сеюць і сеюць зерне і свае жыцці. А ваяры сеюць і сеюць смерць і сваю кроў. А жанчыны нараджаюць і нараджаюць новых сейбітаў і ваяроў... І навошта ўсё гэтае робіцца? Дзеля чаго? Здаровы звер палюе і забівае адзіна тады, калі галодны. Ці такія галодныя былі там, на іхняй зямлі, колішнія і цяперашнія ворагі? Ці, можа, што зрабілі тутэйшыя людзі ворагам сваім, што прыйшлі сюды помсціць? Што ж за звер жыве ў чалавеку? Ён прывык забіваць, каб выжыць і не жадае разумець, што выжыванне здаровай людской супольнасці даўно забяспечваюць мірныя сейбіты, пастухі, рыбакі. Чаму ж гэты звер зноў і зноў разяўляе пашчу, якая яшчэ не высахла ад папярэдняй крыві?.. Ваяры не маглі знайсці адказаў на свае пытанні. Добра, што гэтыя пытанні іх не займалі ў маладыя гады. Цяпер іх і адказы не цікавілі. Бог адкажа...

“Бог адкажа...” – паўтарыў сабе Войцех, колькі часу ўжо слухаючы ваяроў. Ягоныя людзі разышліся пад раніцу, хто ў лясны схоў, хто па сваіх хатах. Сам Войцех з Яцкам засталіся ў замчышчы на той выпадак, калі раптам зменяцца абставіны і можна будзе неадкладна дзейнічаць часткова па ранейшым плане, або неяк зусім інакш. Войцех не мог ужо сысці, пакінуць у безнадзейнасці Жданку і не звесці рахункі з графам. Час ад часу ягоныя кулакі сціскаліся да сутаргаў, і ад безвыходнасці яму хацелася сварыцца, дакараць князя ў нерашучасці. “Які план сарваўся! – жалкаваў ён. – Ці надарыцца яшчэ такая выгодная магчымасць разам знесці галаву гэтай навале? Эх, каб я тады ў палацы быў! Пад пахі Дарутку, ды дзёру! З ёй толькі непрытомнай і можна так справіцца. Падумаеш, непрытомная! – Войцех зноў прыгадаў Жданку. – Не! Не стаў бы рызыкаваць ёй. Вой, князь-князь... Проста пошасць нейкая на дзяўчат нашых! І што рабіць зараз з імі, з намі? І што мы можам тут зрабіць?.. – Войцех абмяк, кулакі ягоныя пакрысе расціснуліся. – Бог адкажа...” – прыгадаў ён выснову некага з ваяроў, кіруючыся ў замак праведаць сваю няшчасную нявесту.

Князь не спаў другую ноч запар. Мінулай ноччу ён так і не аддаў загад атакаваць маёнтак. Здзейсніць напад было немагчыма. Дарута заставалася непрытомнай, і лекары, якіх пад раніцу стала ўжо чацвёра, у тым ліку і лекар з маскоўскага войска, не дазволілі перавозіць яе ў такім стане. Самога князя запрасілі выйсці на падворак, дзе ў сёдлах ужо чакала ягоная світа, якой нехта загадзя паведаміў пра ад’езд. Граф абяцаў адразу адправіць пасыльнага, як толькі Дарута ачуняе. Вядома, што нельга было даваць веры тым абяцанкам, і заставалася адзіна спадзявацца на Зенку. Граф пакінуў яго ў сябе на службе.

Хутка развіднела. Першы сонечны промень заўсёды клаўся на партрэт Дароціцы, ад якога князь не мог адвесці позірк. Цяпер ён бачыў на ім дачку – жывую, але такую ж недасягальную, як і раней...

…Князь праклінаў сваю зорку, якая так нязграбна і жорстка вяла яго па жыцці. Арабскі гвяздар пры двары Жыгімонта III Вазы, куды дзядзька Затко адвёз юнага Баляслава вучыцца прыдворнаму этыкету, наваражыў яму гэтую зорку. Кроў і адзінота, страты і пакуты – усё гэта клалася на рэдкія ўсплёскі радасці, наканаваныя лёсам, каб даць перапачыць, перавесці дых перад новымі выпрабаваннямі. Яшчэ гвяздар сказаў, што князь пераажыве трох каралёў. Даўно за Жыгімонтам III Вазам узышоў на польскі трон ягоны сын Уладзіслаў IV Ваза і нават паспеў таксама пакінуць гэты свет. Князь шчыра шкадаваў, што неаглядная любоў караля-бацькі да каталіцтва не дала Уладзіславу выкарыстаць вялікі шанец, падараваны Богам, якога раздзіралі паміж сабой царква і касцёл. Уладзіслава, абранага на маскоўскі сталец, хаця і менавалі доўгі час маскоўскім гаспадаром, але пасля адной няўдалай спробы захапіць Маскву не было зроблена нічога, каб спраўдзіць гэты сталец за будучым каралём…

“А Уладзіслаў шырокіх поглядаў быў! Не зацяты. Сеў бы на маскоўскі сталец, а там, глядзіш, маючы ўладу, можна было б і пазбегнуць войнаў між сабою. Ці здолее трэці на ягоным жыцці кароль Ян II Казімір Ваза ваяваць з Аляксеем Міхайлавічам за гарады Літвы? Няўжо людзі не разумеюць, што сеючы ліха, ліха і пажнуць? Вось і Даруту, непрытомную, вымушаны быў пакінуць на міласэрнасць ворагаў...” – па-праўдзе, князь меў вялікі сумнеў у іхняй міласэрнасці, але надзея не пакідала яго. Што ён мог зрабіць са жменькай старой дружыны ды колькіх лясных ваяроў?

Толькі чакаць і спадзявацца, што моц, дадзеная князёўне роднай зямлёй, не пакіне яе ў гэтым выпрабаванні. І тады... – князь ведаў, што здолее паслужыць ёй верай, праўдай і сваім жыццём. – Трэба толькі навучыцца разгадваць клюкі[6] ворагаў. Не так тых, каго сустракаеш са зброяй тварам у твар, як тых, хто за спінай пляце свае шматаблічныя моты, торгае за нябачныя нітачкі цэлыя народы, як камедыянт лялькі ў батлейцы...”

Князь раптам заўважыў, што, не зважаючы на цяжкія думкі, за той час, на які яго пакінулі жаль ды крыўда на самога сябе, ягоныя розум і дух не толькі адпачылі, але і напоўніліся новай свежай сілай.

– Бог дапамагае тым, на каго ўскладае спадзяванні, роўна як і выпрабоўвае! – нечакана ўголас усклікнуў князь, быццам бы вырашыў нейкую спрэчку з самім сабой. Падсумоўваючы тым свой роздум, князь вырашыў, што павінен дзейнічаць, ён мае ўсе правы бацькі і тутэйшага патомнага князя патрабаваць сваю дачку ў графа.

Князь пакланіўся партрэту Дароціцы і пакінуў спальню. Але хутка вярнуўся. У таемнай схованцы за партрэтам ляжалі спадчынныя жаночыя ўпрыгожванні ягонага роду, падараваныя ім маладой жонцы ў дзень прыезду ў замак, які на той час змяніў ужо не аднаго ўладальніка, але быў удала выкуплены князем. З той пары замак належаў яму, апошняму і адзінаму дзедзічу.

– Нічога, – зноў уголас прамовіў князь, звяртаючыся да мураваных сценаў, – цяпер у вас ёсць і дзедзічна!

– Гаспадар, за ірвом нейкі малы кідае каменьчыкамі ў браму і крычыць, што яго чакае князь, – нерашуча даклаў слуга.

Князь хутка засунуў каштоўнасці зноў у скураны кашэль і накіраваўся на падворак.

Па кладцы, перакінутай над ірвом, імгненна перабег рухавы, радасны мальчук. Ён назваўся пляменнікам ключніцы, Зенкавай сяброўкі.

Зенка паведамляў, што Дарута на раніцу ачуняла і пыталася пра князя. Граф узяў яе пад замок і нават прыставіў да пакоя варту. Падлетак ведаў, што аднаго з вартаўнікоў клічуць Тамашам.

Князь насцярожыўся. Вартуюць таго, каго абараняюць ад ворагаў, або таго, хто збіраецца ўцячы. У абодвух выпадках чакаць дабра не даводзілася, тым болей, што граф не выканаў свайго абяцання паведаміць яму, калі да князёўны вернецца прытомнасць.

Мальчук, якому было загадана перадаць Зенку, што князь выпраўляецца ў маёнтак, хутка знік за абрывам над Свіслаччу.

Князь ужо начуўся пра сквапнасць графа, разлічаная шчодрасць якога дорага абыходзілася таму, на каго была скіраваная. Можна было спадзявацца, што граф не адмовіць мяккаму, уедліваму бляску скіфскага золата і пранізліваму, сляпучаму ззянню вялікамагольскіх адамантаў і карундаў. Раней князю і не ўяўлялася нават, што ён здольны сам аддаць гэтыя скарбы ў рукі ворага. Але цяпер, не вагаючыся, ахвяраваў бы ўсім, чым валодаў, каб вызваліць сваю дачку. Вядома, ён паднясе гэта графу, як падарунак за клопат аб князёўне. Хто ж адмовіцца ад такога падарунка? Хіба што Радзівілы. Прыкра, але што яшчэ заставалася ў яго апроч замчышча і зямлі, што карміла князя і ягоных людзей, якія зараз сядлалі коней.

Нізкае, пабранае алавяным бляскам вока сонца журботна глядзела ў спіны княжай світы, што імчала наўскач па напоенай дажджамі, пабранай ледзяной коркай, бліскучай дарозе, прабіваючы тонкі лёд, рассыпаючы ў гразь адаманты пырскаў, што высякалі падкаваныя капыты буланых коней.

## ЧАСТКА IV
## НА АДЛЕГЛАСЦІ БЯСПЕКІ

### 1

Дарута не магла адразу ўцяміць, дзе яна знаходзіцца і як апынулася тут. Яна паспрабавала сесці на ложку, але гэта ў яе не атрымалася. Усё цела смылела, як пабітае, не даючы нават паварушыцца.

– А-а-а! – закрычала яна ад нясцерпнага болю.

“Пабітае... пабітае...” – насцярожылася Дарута, высільваючыся прыгадаць нешта вельмі важнае для яе, але ў гэты момант у пакой убегла ўсхваляваная Паляна.

– Ачомалася! Бач ты! Жывучая! Ужо ніхто і не спадзяваўся! Пан граф нават скуру пагражаў з мяне спусціць, калі не выцягну цябе з таго свету. Нейкая ж гадаўка шапнула яму пра мяне такую лухту, быццам я шаптуха якая. Хіба ж я здольная вяртаць людзей з таго свету? Гэта бабка мая ведала ўсё пра гэты свет і пра той, а я што? Калі б мне такое ўмельства, табе б тут і не бываць... – Паляна зразумела, што сказала лішняе. – Пайду пану скажу! Толькі не ўставай з пасцелі, тры дні праляжала, – дадала яна ўжо выходзячы.

Пакуль Паляна зачыняла за сабой дзверы, у праём зазірнуў Тамаш. Дарута адразу пазнала яго, але не было моцы нават жахнуцца, ды, здавалася, апроч цікаўнасці нічога і не адбілася ў ягоным позірку.

Тамаш... Паляна... Дарута прыгадала, як яе ў смярдзючай торбе цягнулі па каменных прыступках княскага замка. Людзей, якія грэбліва пазіралі, калі выкулілі яе перад графам з паганай торбы...

– Князь!.. Божухна! Ён назваў мяне дачкой!.. – Дарута, высільваючыся асэнсаваць гэта, ледзьве зноў не ўпала ў забыццё. Бліжэй да вечара яна ўжо ўсведамляла ўсё, што адбылося з ёю апошнім часам.

Паляна запальвала свечкі, калі ў дзверы пакоя нехта грукнуў. Яна разгублена зірнула на Даруту.

– Гэта, мабыць, граф... – прашаптала служанка, падыходзячы да дзвярэй. Яна даставала прыхаваны ў кішэні ключ, калі ў адамкнёныя дзверы імкліва ўвайшоў граф.

– Маю гонар, – ён пакланіўся з парога сваёй паланянцы.

Паляна вyслізнула за дзверы.

– Дзе князь? – запыталася Дарута ў адказ на прывітанне.

Граф змушана ўсміхнуўся.

– Не ведаю, мая прынцэса. Магчыма, князь проста забыўся на вас, – ён нібыта разгублена пацiснуў плячыма.

– Дапусцім. Але чаму тады вы трымаеце мяне ў палоне? Гэтая варта, замкнёныя дзверы – навошта яны?

– Мілая князёўна, я не ведаю, адкуль вы ўзніклі на гэтай зямлі, але ведаю, што вам ужо хапіла пакутаў на ёй. Пакуль жывы, я не магу дазволіць, каб вы, якая, нібы цудатворная ікона, так нечакана з’явіліся ў маім маёнтку, зноў пацярпелі трывогі, боль і здзек, як сталася з вамі зусім нядаўна.

– Вось і выпусціце мяне адсюль! – усклікнула Дарута.

– Няўжо вам так блага тут? – непадробна здзівіўся граф.

– У палоне? – таксама шчыра здзівілася Дарута.

– У палоне майго кахання, князёўна! Я не магу болей таіцца ад вас, стрымліваць сябе. Я даведаўся, што вы апрытомнелі. Гэтымі днямі я спрабаваў забыцца на вас, спадзеючыся, што вернецца спакой, які пакінуў

мяне з першага імгнення, як вы з’явіліся ў маім маёнтку. Але я ўсё адно думаў пра вас, марыў аб вас, уяўляў вас штохвілі перад маімі вачыма! Вы не пакінеце мяне! Абяцайце, што не пакінеце, і я выпушчу гэтую чароўную птушку з яе залатой клеткі! Я прыйшоў сюды, бо не мог болей трываць, не мог інačай! Дзівіцца на вашае хараство, каралеўскі спакой і рашучасць, ды і проста быць побач з вамі – адзінае, чаго прагне мая душа і вочы! – граф прыкметна хваляваўся. Ягоныя рукі то ўзнімаліся ўгору, нібыта шукаючы там падтрымкі, то бязвольна апускаліся падчас таго, як ён спавядаўся ў сваіх пачуццях. – Я не магу, не маю права страціць вас, якую так шчасліва сам лёс прывёў сюды! І вы будзеце шчаслівай, Дарута! Я абяцаю вам! Толькі не адмаўляйце мне! Вы не ведаеце, што я перажыў за гэты час... – граф памаўчаў. – Я разумею, што ўсё гэта надзвычай сур’ёзна для вас, але, паверце, вы першая зямная жанчына, каго малю я сысці да мяне з вышыні, якую падаравалі вам вашыя род, таленты, прыгажосць. Прашу з заміраннем сэрца, якое не ажыве, калі вы адвернецеся ад мяне! Прашу са слязамі на вачах маіх! Прашу на каленях! – граф насамрэч прыпаў на калені перад Дарутай, якая, лежачы на канапе, цікавала шырока расплюшчанымі вачыма на гэты нястрымны націск, паток, які вабіў яе, зносіў яе ў невядомасць, кружыў галаву, перахопліваў дыханне. Яна не ўяўляла нават, што можна так гаварыць пра каханне. У графа, сапраўды, на вачах былі слёзы. Ён ужо палка цалаваў рукі Даруты.

“І калі толькі падабраўся! Ах, гэтыя мяккія пухнатыя кудзеркі! Як пяшчотна рассыпаліся яны па руках!” Дарута раптам падумала, што граф не бачыць яе, што калі б зараз падмяніла яе любая жанчына, хаця б сабе тая самая Паляна, граф не заўважыў бы падмены. Чаму ж пасля палкіх прызнанняў граф ніводнага разу не паглядзеў ёй у вочы і нават у твар? У гэтым было нешта прыкрае, нават несапраўднае. Дарута не ведала яшчэ, ніколі не назірала праяваў жарсці. Яе прыродная чысціня і шчырасць падказвалі, што граф у гэты час быў горай ад сляпога. Увесь ягоны выгляд, запаленыя вочы, апякаючыя вусны, запалыя шчокі, нястрымнае трызненне казалі пра тое, што чалавек гэты хворы.

– Досыць, – прашаптала яна, шкадуючы графа і памалу вызваляючы свае рукі з ягоных далоняў, – досыць...

– Не! – усклікнуў граф. – Абяцайце, што будзеце маёй. Дайце мне гэтае вялікае шчасце! Я выпакутаваў яго! Вы павінны даць мне тое, дзеля чаго я толькі што адмовіўся ад багацця, пашаны, абакраў маю сям’ю! Я злачынца, князёўна! – графа ажно калаціла ад перажывання. Ранкам, дзякуючы каштоўнасцям, прапанаваным яму князем у якасці падарунка за клопат аб князёўне, ён мог разам зрабіцца адным з самых багатых і ўплывовых асобаў Кароны, апраўдаць гады і сродкі ўкладзены ў тутэйшую зямлю, вырашыць усе свае грашовыя пытанні і спадзяванні. – І ў гэтым вінная вы!

– Я не разумею вас! – шчыра прызналася Дарута. Граф казаў, нібы трызніў, яна не магла прасачыць за ягонымі думкамі. – Калі вы маеце на ўвазе, што, мабыць, з вашай ласкі мяне скралі ў князя, то я зусім забудуся на гэта і нават буду ўдзячная вам за ўсё, калі вы адпусціце мяне. – Дарута не хлусіла. – Зразумейце, я зараз ні аб чым не магу думаць, апроч князя. Маё сэрца, як і думкі, належаць яму. І я не магу пазбавіцца гэтага, пакуль не ўбачу яго, пакуль ён сам не верне мне спакой.

– Вы яшчэ не ведаеце яго! – ускінуўся граф. – Гэта чалавек з магілы! Ён даўно завяршыў свой зямны шлях! Куды вы рвяцеся?! Да каменнай магілы з мерцвяком? Дарута! Вы гарачая, жывая! Вы пахаваеце сябе

жыўцом замест таго, каб пражыць прыгожае жыццё разам са мной, упрыгожыць маё жыццё, мой палац! Дарута, гэты маёнтак, дзе я размаўляю зараз з вамі – хлеў у параўнанні з тым, што красуецца на маёй радзіме. Не, я не маю права адпусціць вас! Вашай маладосці не знаёмыя яшчэ чалавечыя падступствы і здрады. Я павязу вас у Варшаву! Вы будзеце самым бліскучым смарагдам каралеўскага двара! Там умеюць цаніць і шанаваць жаночую прыгажосць! Сам кароль будзе цалаваць вашыя дзіўныя рукі! А я... я буду вашым ценем, халопам, вартай, адно, каб вы не прагналі свайго маленькага графа ў вялікасці сваёй будучыні, якую я дам вам, князёўна! Я дам вам тое, на што ваш трухлявы князь не здольны. Я адчуваю вашую чароўную цнатлівасць, вашую жаночую моц, і я зраблю вас непераможнай! Я навучу вас кахаць! І дорага будзе каштаваць вашае каханне таму, хто насмеліцца прасіць яго ў вас! Я буду вашым добрым анёлам і паслухмяным д'яблам – як пажадаеце, князёўна! Я пакладу да вашых ног усё мае багацце, і, паверце, мала хто ў Еўропе не зайздросціць мне! У мяне моцныя сувязі. Са мной вы будзеце жыць, як Бог у Францыі. Гэты свет будзе скакаць вакол нас, я шмат зрабіў дзеля гэтага! Але мне патрэбная вашая падрымка, вашая моц, князёўна, і яна ў вашым каханні! Падарыце мне яго! – граф упаў тварам у далоні Даруты.

Палымяныя словы графа аднеслі Даруту кудысьці далёка-далёка, можа быць у тую казачную Варшаву, якую прыгадаў граф...

– Божа! – нечакана апамяталася дзяўчына. Гарачыя дрыжыкі разам з марозам пабеглі па ейным целе. Яна рэзка адштурхнула графа, які скрозь тонкую, амаль празрыстую карункавую сукенку ўжо лашчыў яе маленькія, але да болю адчувальныя грудзі. Ёй нават хацелася сарваць з сябе сукенку, якая, здавалася, гарэла на ёй. Напэўна, яна так бы і зрабіла, калі б ведала, што ўлетку граф набыў гэтую сукенку ў паўднёвых купцоў для сваёй жонкі...

Граф пакрыўдзіўся на Даруту. Ён не разумеў – калі жанчына дазваляе кавалеру так наблізіцца, навошта затым абараняцца? Граф з-пад ілба назіраў за дзяўчынай. Што гэта? Грубае какецтва? Але яно ўласцівае вопытным паненкам, а князёўна, якая толькі што гэтак натуральна азвалася ўсім сваім целам на ягоныя пяшчоты, ужо глядзела на яго ласкава, спакойна і нават са спачуваннем.

– Цяпер я не разумею вас, князёўна! – гняўліва прамовіў граф.

– Дайце мне магчымасць сустрэцца з бацькам! – Дарута ўпершыню назвала бацькам князя, і гэта ў яе прагучала выклікам.

– Ну што ж... Пакуль я пакідаю за вамі адну магчымасць: добра абдумаць маю... – граф не знаходзіў патрэбнага слова і таму проста закончыў сказ, – абдумаць тое, што я казаў вам тут! – ён імкліва пакінуў пакой Даруты.

З гэтага дня ў Паляны адабралі ключ ад пакоя Даруты і цяпер служанку ўпускалі і выпускалі вартаўнікі.

## 2

Князь штодня назіраў за нечаканай новабудоўляй з акна сваёй бібліятэкі. Ён яшчэ не ведаў, што новая ўлада вырашыла ўзвесці побач з замчышчам будынак Разбойнай управы, каб заадно да пары трымаць пад кантролем уязную браму. "Надоўга збіраюцца тут застацца, – падумалася яму. У вершніку, які прыпыніўся каля будоўлі, князь пазнаў свайго новага знаёмага. – Бач ты, камісар прыехаў! Напэўна, цікавіцца справамі, у якія ўмешваецца паўсюдна".

У нейкі момант князю падалося, што іхнія погляды сустрэліся і ён нібыта зноў пачуў: “Тым болей у мяне падставаў заслужыць вашую ўдзячнасць...”

“Адкуль ён мог ведаць усё наперад? – падзівіўся ў думках князь. Ён ужо неаднойчы збіраўся да камісара па параду, але не мог пераадолець мяжу, якую ўзвёў у сваіх думках і сэрцы да новай улады. – І дзе цяпер шукаць свайго права, сваёй праўды? Карона і царства далёка. Зямлю, быццам нічыйную, дзеляць, рабуюць і свае, і чужынцы...” – думкі нічога не падказвалі, і князь рашыўся, хутка пакінуў бібліятэку і загадаў сядлаць каня.

Неўзабаве ўязная брама была адчыненая, пад рыпенне таўсцеразных ланцугоў апускаўся пад’ёмны мост. Князь толькі ад’ехаўся крыху ад замчышча, як убачыў, што камісар ужо скача на кані яму насустрач.

– Я спадзяюся, вы прадставіце мяне князёўне? – заміж прывітання пацікавіўся камісар.

– Не час мне таіцца прад вамі. Якраз пра гэта я меўся гаварыць з вамі, калі ўбачыў вас з акна. Мяркую, што нам лепш будзе перамовіцца ў замку.

– Рады, калі буду мець гонар саслужыць вам добрую службу, князь! – весела азваўся камісар. – Я гэтымі днямі быў у ад’ездзе і пакуль што не ведаю ўсіх апошніх навінаў.

– Не веру ў тое! – шчыра выгукнуў князь. – Вы ўсё ведаеце загадзя!

– Князь, вы робіце мне гонар, але перабольшваеце мае здольнасці! – насмешліва азваўся камісар, перапыняючы тым размову.

Мужчыны павярнулі коней да замчышча.

Ехалі моўчкі, стрэмя ў стрэмя, не спяшаючыся, як бы прымерваючыся адзін да другога. Цемнавокі, чорнабароды камісар, нягледзячы на моцныя цягліцы, што выпіналіся нават скрозь тоўстую апратку, здаваўся хударлявым, гнуткім. Прыроджаная жвавасць, якую, ён імкнуўся стрымліваць, выдавала, што чалавек яшчэ не дасягнуў веку Хрыста. Князь адчуваў, што некаторая паблажлівасць у спалучэнні з вытанчаным выхаваннем нішто іншае, як шчыт, за якім знаходзіцца жывая, чулая душа. Не зважаючы на нечаканы парыў сімпатыі, ён памятаў, што побач з ім вораг.

Белагаловы, белавусы, з выцвілымі блакітнымі вачыма князь не ведаў, што нечым нагадваў свайму спадарожніку рыцарскага праставатага героя з бабуліных казак. Шырокагруды, схуднелы, ён хоць і памаладзеў ад трывог за апошнім падзеямі, усё ж такі выглядаў чалавекам добра сталага веку. Болей ад таго, князь не мог здагадвацца, што камісару, які яшчэ ў маленстве страціў свайго бацьку, у душы было прыемна апекавацца ім. А, магчыма, яшчэ і таму, што адчуваў нерастрачаную сілу бацькоўства князя...

– Не ведаю чаму, але мне падабаецца ваш замак, – ціха мовіў камісар, калі на шляху ў бібліятэку яны міналі галерэю старажытнай зброі былых уладальнікаў гэтых мясцінаў.

– Замак, няхай і не ў такім выглядзе, але стаяў тут яшчэ ў паганскія часы. Таму і зброя тут ад дзіды, лука, драўлянага шчыта, мяча, кінжала, шаблі, панцыра, шлема да сучаснае з выкарыстаннем пораху. А сам замак проста лагічнае завяршэнне кургана, на якім стаіць, – адказаў князь. – А вы б хацелі жыць у такім замку? – нечакана пацікавіўся ён.

– Для гэтага трэба нарадзіцца свіслоцкім князем, а я ўсяго толькі збяднелы дваранін, які вырваўся сюды, каб не зайздросціць багатым, – камісар усміхнуўся сам сабе. – Але, здаецца мне, што з вамі я не пазбегну гэтага пачуцця.

– Нам абодвум яно не пагражае, – адказаў князь, расчыняючы дзверы ў спальню.

– Князёўна! – ахнуў камісар. Ён з недаверам перавёў погляд з партрэта на князя. – Як мне вас разумець, князь? Вы казалі, што не бачылі дачку з трохгадовага ўзросту! Адкуль тады ейны партрэт у вас?

– Спыніцеся, інакш... – князь замаўчаў, каб стрымаць гнеў, які выклікаў у яго напор і недавер камісара. – Вы заўсёды гэтак спяшаецеся з высновамі?

– Прашу прабачыць маё гарачае здзіўленне! Але што я павінен думаць, калі мне кажуць адно, а бачу іншае? Не верыць сваім вачам? – у вачах камісара было шчырае недаўменне.

– Што ж... Ёсць тут вашая праўда... Ведаеце, гэта партрэт княгіні, маёй жонкі, маці Даруты.

– Яшчэ раз прашу прабачэння, князь! – камісар павярнуўся да партрэта. – Неверагоднае падабенства! На маім месцы ніхто б не сумняваўся, калі б аднойчы пабачыў вашую дачку, – ён не мог адвесці вачэй ад жаночай выявы на карціне. – Незвычайнай прыгажосці жанчына! І гэтыя зіхоткія зялёныя вочы! Іх можна параўнаць адзіна са смарагдамі на... – камісар разгублена замаўчаў, прыгадваючы вянчанне на царства Аляксея Міхайлавіча і чатыры смарагды на верхняй частцы шапкі Манамаха перад сваімі вачамі. Ён не хацеў выказваць князю сваю блізкасць да цара.

Князь, утрапёна пазіраючы на партрэт, маўчаў таксама. Здавалася, ён і не слухаў камісара.

– Адметнае хараство немагчыма зблытаць. Хто б мог падумаць, – ціхенька, каб схаваць разгубленасць, закончыў камісар сваю думку.

– Цяпер, маю спадзяванне, вы разумееце, чаму я гэтак упэўнены, што Дарута мая дачка, – нечакана зычна азваўся князь.

– Бясспрэчна, – пагадзіўся камісар.

– Бачу, што вас не адарваць ад партрэта, запрашаю ў бібліятэку, там нам ніхто не будзе замінаць, – пажартаваў князь.

У бібліятэцы камісар з цікавасцю агледзеўся. Пасля княжай спальні бібліятэчны пакой здаўся яму панылым, пазбаўленым цеплыні чалавечай прысутнасці, не зважаючы на паліцы з мноствам кніг, а, можа быць, якраз дзякуючы абыякавасці, з якой глядзелі іхнія цёмныя вокладкі на чалавечы свет. На адной сцяне месціліся карты, знаёмыя камісару з часоў ягонага дзяцінства. Увагу камісара прыцягнула адна, пакладзеная паверх іншых на вялікім стале.

– “Горад Смаленск, вызвалены Уладзіславам IV, Божай ласкай каралём Польшчы і Швецыі, непераможным васпанам, які аблажыў аблогу горада маскавітамі з саюзнікамі, перамог сілай зброі варожыя войскі і дараваў ім жыццё з нечуванай міласэрнасцю. Год 1634, – прачытаў камісар, адразу перакладаючы лацінскі надпіс уверсе ліста. – Доктарам Іяганам Плейтнерам ваенным архітэктарам Яго Каралелеўскай Вялікасці, на месцы вычарчанае, вымеранае і пазначанае ў 1634 годзе. Вілемам Хондзіусам, прывілеяваным халькографам, іканаграфам і перспектывістам на службе Яго Каралеўскай Вялікасці гравіраваныя. Гданьск, 1636...” – пераклаў з латыні камісар і надпіс унізе ліста. – Упэўнены, што вы, князь, асаджалі нас пад Смаленскам! – камісар азірнуўся на князя.

– Я казаў ужо, што вам усё наперад вядомае. Цяпер бачу, што ад вас няма таямніц і ў мінулым. Так, я быў пад Смаленскам з маёй дружынай... – князь замаўчаў. Ён не жадаў дзяліцца з камісарам успамінамі пра падзеі таго часу. На жаль, перамогі не бываюць вечнымі. – Але чаму вы

перакладалі надпісы з латыні ўголас? Для мяне? – здзівіўся князь, адчуваючы нешта калі не дзіцячае, дык вучнёўскае ў перакладзе камісара.– Я добра бачу яшчэ...

– Ой, даруйце мне! Мушу прызнацца вам, што латынь з малых гадоў чамусьці не давалася мне. Я проста чытаў словы ў сказе. Нешта ўва мне супраціўлялася, не дазваляючы ўсведамляць сказ цалкам, хаця паасобку я ведаў усе словы. Мне цяжка гэта растлумачыць. Здаецца, што мяне гэта не займала, і, чытаючы сабе пад нос, я ў думках быў вельмі далёка. І тады настаўнік латыні прыдумаў, каб я чытаў уголас, адразу перакладаючы. Гэта патрабавала цалкам увагі і не дазваляла блукаць у думках. Так вось і сталася... – камісар раптам пачырванеў і разгублена развёў рукамі.

Князь адчуў, што пазірае на камісара з нечаканай для сябе цеплынёй і клапатлівай паблажлівасцю: “Можа быць, ён і хлусіць, але тое, што пачырванеў, апраўдвае яго ў любым выпадку”.

– Калі вы не супраць, я адразу выкладу вам сутнасць справы, дзеля якой шукаў сустрэчы з вамі.

– Запэўніваю, князь, што слухаю вас уважліва.

– Пачну з моманту, калі ў той цяжкі вечар, я пачуваў сябе самым шчаслівым чалавекам на гэтай зямлі...

– Я так разумею, што вы пра сустрэчу з дачкой у пана Эдварда? – паспешліва пацікавіўся камісар.

– Так, у графа Пржэвіцкага, – сумна пацвердзіў князь.

– Мне нічога не вядома пра вяльможны род Пржэвіцкіх, хаця думаю, што пан Эдвард насамрэч вяльможа.

– Як так? – разгубіўся князь.

– Не ведаю. Магчыма, у яго ёсць падставы хавацца за гэтым прозвішчам. А, можа, нешта змянілася ў Рэчы з таго часу, як я вывучаў радаводы Еўропы. Я не бачыў ягоных папер, – абыякава канстатаваў камісар. – А чаму гэта ўсхвалявала Вас?

– Дарута!

– Нарэшце ўспомнілі! Дарэчы, дазвольце мне выказаць маю пашану і захапленне князёўне! Прадстаўце мяне, калі ласка, вашай дачцэ! – голас маладога мужчыны міжволі выкрыў хваляванне.

– Яе няма... – князь замаўчаў і, не маючы моцы прадоўжыць сказ, папростаму развёў рукамі.

Камісар уважліва, з прытоеным здзіўленнем угледзеўся ў расшыраныя зрэнкі князя.

– Не разумею. Няўжо вас абурыла мая просьба? У любым выпадку прашу прабачыць мяне, калі яна здалася вам нетактоўнай.

– Як вашае імя, камісар? Мне хацелася б звяртацца да вас не так афіцыйна...

– Раман, – камісар падняўся з крэсла на ўвесь рост і пакланіўся князю.

– Дзякую... – князь павагаўся, не ведаючы, ці мае камісар які тытул, варты, каб паставіць перад ягоным імем.

– Я вас слухаю, князь Баляслаў! – камісар не хацеў тлумачыць князю гісторыю свайго роду, каб часам не выклікаць недаверу, або нечаканага суперніцтва. – Здаецца, так вашае імя гучыць у гэтых мясцінах? – весела дадаў ён, вяртаючыся ў крэсла.

– А! Я прыгадаў! Вы памятаеце маё імя з графскага балю! Адкуль граф, прышлы ў гэтых мясцінах, даведаўся, не разумею. Думаю, тут мала хто

яшчэ памятае маё імя. Нават у дружыне амаль усе чальцы – дзеці маіх былых паплечнікаў-вояроў. Для іх я проста князь... Былы...

– Чаму так сумна? У вас паважаны ўзрост, але ж не ўсе і дажываюць да яго, тым болей з такімі прыгодамі лёсу ды з вайны ў вайну...

– Жыў надзеяй дачакацца, знайсці, вярнуць маю жонку і дзіця.

– Дачку вярнулі, можна радавацца.

– Каб жа! – князь ажно скрыгатнуў зубамі.

– Ды кажыце, нарэшце, што надарылася тут! Яна жывая?

– Не магу сказаць...

– Ды што ў вас тут такое? Чаму? Яе сапраўды няма ў замку?

– Раман, я магу быць з вамі абсалютна шчырым?

– Спадзяюся, што вы ў любым выпадку не здольны хлусіць, хіба што з нагоды якой ваеннай хітрасці.

– Вось-вось, ваеннай хітрасці... – паўтарыў за камісарам князь. – Вы таксама памятаеце, што мы з вамі ўсё-ткі ворагі. Але я не да ворага, да чалавека хачу звярнуцца, чалавека, якому інстынктыўна давяраю. Ці магу я пакласціся на вашае слова гонару, што дапаможаце мне вызваліць дачку з логава злачынцы, які хаваецца пад чужым імем, бо, пэўна ж, робіць нешта прыкрае тут?

– Вы хочаце сказаць, што князёўна яшчэ ў маёнтку? – шчыра здзівіўся Раман.

– Так, гэты злодзей парушае ўсе ягоныя абяцанкі і чалавечыя абавязкі! Болей ад таго, ён не дазваляе мне нават пабачыцца з дачкой. Ён сцвярджае, што Дарута не жадае вяртацца ў замак, дзе ёй было непараўнальна горш, чым у яго. Раман, мне страшна! Упершыню ў жыцці мне страшна! Баюся, што ён можа вывезці адсюль маю Даруту і я болей ніколі яе не ўбачу. Мае людзі пільнуюць усе дарогі селішча, плыні Бярэзіны і Свіслачы, але ж гэта па адным-два чалавекі. Што яны ў такім выпадку могуць зрабіць атраду ягонай чэлядзі? Ісці на маёнтак з дружынай? Пакладзе маю дружыну вашае войска, і ўсё тут. Добра яшчэ, што да мяне не дабраліся. Малю вас, дапамажыце мне вызваліць дачку!

Раман асцярожна падышоў і крануўся пляча князя, які быў амаль што ў забыцці ад намаляваных ім страхоццяў.

– Даю слова гонару, што зраблю ўсё магчымае, каб вашая дачка апынулася з вамі. І... князь Баляслаў. Я разумею ваш стан, але не маю права адкладаць паведамленне нашага кіраўніцтва. Будзьце мужным. Атрыманы загад прапанаваць вам здачу вашай крэпасці. У такім разе вам абяцаюць магчымасць застацца тут. Пад кантролем. Зброя павінна быць здадзеная. Дружыну давядзецца распусціць. Дазваляецца пакінуць толькі слуг. На адказ вам даецца тры дні. Калі вы адмовіцеся, праз некалькі дзён крэпасць будзе ўзятая штурмам. Гэта ўсё, і нават болей за тое, што мне даручана перадаць вам...

“Так. Князь не толькі не страціў ваенную выправу, але і дух вояра... – абрадваўся Раман, назіраючы за тым, як чырванню ўспыхнуў твар князя, нават выцвілыя вочы пацямнелі ад гневу, а шырокія далоні калісьці моцных рук сцяліся ў напружаныя кулакі. Камісар быў упэўнены, што князь з рэштай былой дружыны не здольны абараніць замак. Які ў тым сэнс, каб пакласці свае жыцці на абарону гэтых рамантычных, але дзікаватых муроў? Супраць войска яму не выстаяць і падмогі чакаць няма адкуль. Ягоных ганцоў да Януша Радзівіла мы перахапілі. А вось з гісторыяй князёўны трэба тэрмінова разбірацца...”

Князя навіна не столькі агаломшыла, колькі ажывіла. У яго абліччы з’явілася нават нешта хіжае. Пошук якога выйсця напружыў разам з думкамі і ўсю ягоную істоту. Ён ведаў, што безвыходнае становішча патрабуе неардынарнага выйсця, якое часам утвараецца і само па сабе, галоўнае – быць пільным, ні на хвілю не выпускаць з-пад сваёй увагі ўсе трыста шэсцьдзесят градусаў прасторы і трыста шэсцьдзясят секунд кожнай гадзіны.

– Бачу, што нават такая навіна не здольная зламаць ваш характар, дарагі князь. А мяне вашая навіна пра Даруту вельмі ўзрушыла. Раскажыце, калі ласка, усё, што ведаеце. Што тады адбылося ў маёнтку пасля таго, як раз’ехаліся госці?

– Я так перажываў за маю непрытомную, цудам з’яўленую дачку, што быў горшы ад дурня. Мяне папросту выправадзілі з маёнтку. Наступнай раніцай я не мог дачакацца ад гэтага злодзея абяцанай весткі пра стан Даруты і паехаў да яго. Граф неахвотна сустрэў мяне і адразу паведаміў, што нельга турбаваць князёўну. Гэта пацвердзіў і ягоны лекар. Я кленчыў адно зірнуць на яе, хаця б здаля, абяцаючы не вымавіць ні слова. Граф быў загнаны ў кут маім наступам, але хутка знайшоў выйсце ў тым, што ні адзін бацька не можа адказваць за свае паводзіны ў такіх абставінах. Скажу шчыра. Мне да гэтага далі знаць, што на раніцу Дарута ўжо ачуняла, таму я не верыў графу, што і выказаў яму. Граф імгненна выкарыстаў маю памылку і сказаў, што калі б на ім не ляжаў абавязак гонару вярнуць мне маю дачку здаровай, ён бы зараз выклікаў мяне на дуэль. Я ў сваю чаргу запэўніў, што прымаю выклік і ў такой форме. Паколькі ён лічыць закранутым свой гонар, прапанаваў вызначыць умовы паядынку. Граф з радасцю пагадзіўся на гэта і сказаў, што болей не затрымлівае мяне. Я катэгарычна адмовіўся пакідаць маёнтак без князёўны і прапанаваў графу ў якасці падарунка за клопат аб маёй дачцэ жаночыя ўпрыгожванні нашага роду. Паверце, за гэтыя каштоўнасці я мог вярнуць сабе ўсе ўладанні графа, якія ў свой час вымушаны быў прадаць. Зараз я шкадую, што раней мне такое не прыходзіла на розум. Тое, што адбылося далей, упэўніла мяне ў крывадушшы гэтага чалавека. Ён відавочна ўзрадаваўся каштоўнасцям і нават ухваліў іх, маўляў, гэтакі падарунак можна было б раздзяліць на ўсіх каралёў Еўропы. Скажу шчыра, я ніколі не ацэньваў іх як каштоўнасці. Для мяне яны былі знакам несупыннасці майго роду. І, вядома, я рашыўся на такі крок у крайнім выпадку. Граф, нібы дзіця свае цацкі, перабіраў дыяманты, цешыўся залатымі карункамі ўпрыгожванняў. Ён нават забыўся на мяне. Я нагадаў яму пра сваё жаданне забраць дачку. Граф зніякавеў ад гэтага, але выклікаў слугу і загадаў прывесці князёўну. Не паспеў слуга выйсці з пакоя, як у графа надарылася істэрыка. Не буду апавядаць вам тое... Калі чалавек не валодае сабой, дык хто ім тады валодае? Скончылася ўсё тым, што ён кінуў мне ў твар мае каштоўнасці і загадаў слугам, якія збегліся на крыкі, выправіць мяне і не пускаць болей у маёнтак. Мяне проста выгналі прэч... – князь з надзеяй зазірнуў у вочы Раману. – Скажыце, што б вы рабілі ў такіх абставінах?

– Я? – здзіўлена перапытаў Раман. У ягоных вачах бліснула кароткая смяшынка. – У такіх абставінах?

– Зразумейце мяне правільна!

– Звярнуўся б да сябе. Калі можна так сказаць.

– А на маім месцы?

– Да мяне. І вы ўжо звярнуліся, князь.

– Дапусцім. А што будзеце рабіць вы?

– Паспрабую сам высветліць вашае пытанне ў графа.

– А калі ён адмовіць і вам?

– Гэта будзе неразумна з ягонага боку.

– І ўсё-ткі?

– Далучу прыстава.

– Лічыце, што гэтае спрацуе ў часе ваеннага становішча? – недаверліва пацікавіўся князь.

– Улада на тое і дадзеная, каб парадак дазволіў нам знайсці праўду ў любых абставінах. І калі вы не можаце супрацьстаяць уладзе, дык мусіце хаця б фармальна падпарадкоўвацца ёй і тым болей выкарыстоўваць у сваіх мэтах.

– Што можна проціпаставіць, калі вашае войска прыйшло не з мірнай прапановай ці словам мудрасці, не з таварам ці вынаходніцтвам, а са зброяй? Толькі зброю! Я не ведаю прыкладу, каб зброя несла дабро на чужую зямлю. Чалавечая кроў ліпучая! Не адмыць... Да якога калена помсціць на вашай зямлі?

– Магу ў такім пытанні адказваць толькі за сябе. Я хрысціянін, князь.

– І гэтаму навучае, ці хаця б сабе апраўдвае вашае маскавіцкае хрысціянства – ісці забіваць суседа, нішчыць ягоныя пасевы, рабаваць ягоную гаспадарку, руйнаваць не толькі сялібы, але і цэлыя селішчы...

– Пра гэта павінны былі думаць вашыя продкі, калі хадзілі на маскву, – гарачліва парыраваў Раман. – Дарэчы, Уладзіслаў мог сесці на маскоўскі трон мірам! Што паробіш, чалавек пачынае нешта разумець, калі сам трапляе ў абставіны, якія ствараў іншым, – прымірэнча дадаў ён.

Усталявалася няёмкая цішыня. Абодвум не хацелася сварыцца, рабіць балюча адзін другому. Першым рашыўся парушыць маўчанне Раман.

– Ведаеце, князь, мы тут адны. Калі дазволіце і калі гэта вас цікавіць, я магу падзяліцца з вамі некаторымі сваімі думкамі?

– Грэх не выслухаць разумнага чалавека. Нават і тады, калі ён вораг.

– Вы па-ранейшаму бачыце ўва мне ворага?

– Цяжкае пытанне, але тыя, ад каго вы сёння прыйшлі, хто стаіць за вамі, несумненна.

– Князь Баляслаў... Я сам напрасіўся ў парламентарыі да вас. Хацеў пабачыць князёўну, упэўніцца, што з ёй усе добра. Падумаць, што можна зрабіць у тых абставінах, якія зараз стварыла для вас вайна, зразумець, чым магу дапамагчы вам і вашай дачцэ.

– Дзякую, Раман. Разумею, адчуваю, што вы гаворыце праўду. Магчыма, я проста не магу прыйсці да згоды з самім сабой. Але вы збіраліся падзяліцца са мной думкамі?

– Так. Выкладу сцісла. Магчыма, гэта нейкім чынам падыме ваш дух. Складаецца ўсё так, што, напэўна, па хуткім часе нашае войска спатрэбіцца для вайны са шведамі. Магчыма, гэта дасць шанец паспольству адваяваць страчаныя пазіцыі. Тутэйшым беларусцам, літве, на жаль, за гэты час не падняцца, але яго будзе дастаткова, каб зразумець, што ні карона, ні масква не вырашыць вашыя пытанні. Народ, які прагне быць самастойным, павінен не столькі валодаць зброяй, колькі мець мудрых палітыкаў. А ў астатнім... – Раман падумаў, што і так сказаў лішняе. – У астанім... Быў бы Сігізмунд ІІІ Ваза мудрым палітыкам, а не паслугачом езуітаў у іхніх намаганнях уплыву на ўсю Еўропу, маскоўскі трон належаў бы вам, ды і шведскую карону ён таксама страціў бязладна. Уяўляеце, якое магутнае

гаспадарства мы ўтварылі б разам! Вынікам ягонай няпэўнасці і няўпэўненасці і маем зараз усе гэтыя войны...

– Зусім нядаўна ў мяне ўзнікалі падобныя думкі. Але ці ёсць сэнс у тым, каб абвінавачваць гісторыю, тым болей тых, хто робіць яе? Яны рабілі, як умелі. А мы... мы ведаем не ўсю іхнюю праўду. Я жадаў бы, каб адзінай палітыкай для ўсіх былі праўда і сумленне, – сумна зазначыў князь.

Раман з цікаўнасцю, добразычліва, але крыху насмешліва глядзеў на чалавека, здольнага ў сталых гадах і ў жорсткіх абставінах выказваць падобнае. Такія думкі можна падзяляць, але ніяк не кіравацца імі цалкам.

– Мы павінны рабіць высновы. Гэта задача, сапраўды, не паслугачоў, а разумных, шчырых даследчыкаў і палітыкаў. Інакш памылкі будуць паўтарацца. А што да праўды... – Раман апусціў вочы долу. Ён мог бы і не гаварыць зараз тое, што згадалася яму, але гэта зняло б ганьбу з чалавека, які яе зусім не заслугоўваў, бо кіраваўся якраз праўдай, сумленнем і да таго ж міласэрнасцю. – А што да праўды... – паўтарыў ён. – Так, праўда харошая і пачэсная палітыка пры ўмове, што трэба ведаць час, месца і таго, каму яе выказваеш. – Раман крыху памаўчаў, але вырашыў усё-ткі паведаміць, што ведаў. – Вы памятаеце гісторыю з нядаўнім нападзеннем лясных разбойнікаў? Здаецца, у вас называюць разбойныя групоўкі бандамі, так?

– Звычайна ляхі так называюць. Але народы сваім разбойнікам столькі найменняў даюць, не пералічыць. У нас мянуюць яшчэ і аргамакамі...

– Як коней? – здзівіўся камісар.

– Так, нашая ўлюбёная парода коней.

– А чаму раптам аргамакамі?

– Напэўна таму, што нагадваюць рысакоў. І коні, і разбойнікі. А, можа быць, што коні маюць знешняе падабенства з хортамі, і ў разбойнікаў нешта ёсць ад хартоў у характары. Дарэчы, роўны бег рыссю... – князь спыніўся на паўслове. – Ледзь не забыўся... дык што там у тутэйшых разбойнікаў надарылася? – князь пастараўся не выказаць зацікаўленасць.

– Проста за безаглядную праўду аднаго святара, які прыбіўся да лясных разбойнікаў, некалькі ягоных таварышаў расплаціліся сваімі жыццямі. Зразумейце мяне правільна, я зусім не шкадую іх, нават задаволены, што так атрымалася і мы здолелі захаваць тут парадак. Аднак мяне ўразіў сам факт, здольны паслужыць яскравым і сумным прыкладам таго, пра што мы з вамі гаварылі. Мяркуйце самі. А было так. У вёсцы Шэйпічы прыстаў затрымаў нетутэйшага чалавека, які выдаваў сябе за святара. Месца свайго прыходу і жытла ён не назваў, таму яго забралі на допыт. Гэты, бясспрэчна, сумленны і абавязковы чалавек, мяркуючы, што ягонаму жыццю прыйшоў канец, папрасіўся спавядацца якому хрысціянскаму святару, каб потым прыняць прычасце перад смерцю. Паклікалі вайсковага святара. Тое, у чым каяўся і што казаў гэты чалавек, пацвярджала хаця і не злачынства, але ўсё-ткі прыналежнасць яго да лясных разбойнікаў. Ён быў насамрэч святар. Напрыканцы споведзі гэты добры чалавек папрасіў свайго спавядальніка адслужыць памінальную службу па ягоных прыхаджанах, калі раптам каторыя неўзабаве загінуць у бойцы, бо ў самога ўжо не будзе такой магчымасці. Вайсковы святар адпусціў яму грахі, але, шкадуючы і сваіх прыхаджанаў, паведаміў тое начальству. Зразумела, што баль, які даваў пан Пржэвіцкі, быў вельмі зручным момантам для нападу. Так атрады разбойнікаў трапілі ў засаду і былі часткова знішчаныя. Як высветлілася, сярод іх былі і вашыя людзі. Высновы рабіце самі, князь. А я шчыра спачуваю вашай прыгожай зямлі, вашаму замку, вам і вашай

дачцэ. Можаце смела разлічваць на маю дапамогу ў вызваленні князёўны. Сёння ж я наведаю маёнтак, каб зразумець, што адбываецца там.

– Тады не буду вас затрымліваць, Раман! – абрадваўся князь. – Чакайце хвілінку! А што сталася з тым святаром?

– Ды нічога. Ён нікога не забіваў. Служыў набажэнствы там, куды яго прывялі абставіны. Адпусцілі з Богам.

Моцны поціск адкрытых далоняў завяршыў усяго другую сустрэчу ў жыцці нядаўніх ворагаў.

Князь выклікаў Войцеха, каб паведаміць яму сумную навіну пра споведзь айца Стахора.

“Ды колькі ж мы будзем дзецьмі-сіротамі на сваёй зямлі! – у роспачы разважаў князь, прыгадваючы навіны Рамана, шукаючы хоць якое выйсце з варожых абставінаў. – Пара мужнець. Час мужнець...”

Князь не думаў пра юнацтва свайго народа, але і ўявіць не мог, што выблісне яно на які дзясятак гадоў амаль праз тры стагоддзі, каб зноў задыхнуцца ў цісках чарговай імперыі. Да сталасці было яшчэ далей...

## 3

Граф Пржэвіцкі быў злы. На самога сябе.

“Прыехаць у гэтую глухмень, каб павялічыць даход, падвысіць статус у Кароне, і раптам я – прыдворны караля! – выклікаю на дуэль нейкага тутэйшага дзікуна! І калі! У той час, калі ўсё маё багацце, славу і жыццё гатовы аддаць за каханне ўласнай паланянкі. Глупства нейкае атрымліваецца. Нават не распавесці нікому, каб хто зразумеў. Хіба што дзядзька б зразумеў. Той наогул у пагоні за каханай жыццё пражыў, так і не дакрануўся да яе. Дзядзька зразумеў бы. Ды няма ўжо дзядзькі майго, – граф як спатыкнуўся на думцы. Кожны раз, калі ён згадваў страту свайго дзядзькі, гэта агаломшвала яго, нібыта ўпершыню. – Знайду забойцу – лютай смерцю памрэ! Халей не бачыў, непрытомны быў, Тамаш ужо не скажа. І куды дзеўка тая, мярзотніца, падзелася? Трэба ж было, каб праз нейкую брыдкую мужычку роднага дзядзьку страціць! Пся крэў! Як у ваду з канцамі. І добра, калі ў ваду. Меней граху на мне будзе. Усё адно са свету зжыў бы!.. Але ж справа гонару вышэйшая ад усяго! – граф няблага валодаў шпагай і, паколькі не ўяўляў з ёю князя, менавіта на шпагах спыніў свой выбар. – Хаця не! Лепш пакінуць выбар за князем. Не хапала яшчэ, каб у Варшаве казалі, што я забіў старога князя! – графу заставалася запрасіць секундантаў, прызначыць дзень і час. – Але да гэтага дня і часу князёўна павінна стаць маёй жанчынай!” – нагадаў сабе ён.

– Пан камісар, – спаважна даклаў слуга.

– Пайшоў прэч! Запрашай, – імгненна апамятаўся граф. Здзіўлены і крыху напалоханы нечаканым візітам, ён сам рушыў насустрач госцю.

– Маю гонар бачыць вас, пан камісар!

– Вы добра выглядаеце, граф! – усклікнуў камісар. Ён не хлусіў. Узрушаны стан пасаваў графу. Ягоныя шэрыя вочы ажно зіхацелі, падсвечаныя разлітым па шчоках румянцам.

– Не падумаў бы! Прашу, сядайце, майце ласку!

– Дзякую. Я не займу шмат вашага часу. Быў у ад’ездзе і, памятаючы трывожнае расстанне ў вашым гасцінным маёнтку, па вяртанні вырашыў даведацца, чым тады ўсё скончылася. Ці маеце якую патрэбу? Мой абавя-

зак тут сачыць за парадкам, дапамагаць паважаным людзям у складаных абставінах ваеннага часу.

– О! Не! Удзячны вам за клопат. Усё добра! – Граф не ведаў, як пазбегнуць гэтай тэмы.

– Спадзяюся, што князёўна паправіла ўжо сваё здароўе?

– Так! Не! Не зусім! – Граф імкліва шукаў шчаслівай думкі.

– Яна тут?! – перапыніў камісар, не даючы апамятацца.

– Гэта допыт! Я не павінен вам адказваць!

– Ну што вы, граф, я не жадаў пакрыўдзіць вас. Прашу прабачыць. Але ж князёўна – не прыгонная і нават не мяшчанка! Шмат вачэй сачыла за тым, што адбывалася тут, і шмат з іх чакаюць працягу. Я ж у сваю чаргу адказваю перад царом за тое, каб ягоныя падданыя жылі ў згодзе і ў згодзе служылі яму.

– А я не раблю нічога такога, што магло б выклікаць няміласць цара.

– Гэта добра, але я жадаю засцерагчы вас ад неразумных дзеянняў...

– Дазвольце мне самому вызначаць, што лічыць разумным, а што не! – граф ужо, здавалася, гатовы быў лезці на ражон.

– Бясспрэчна! Але існуе парадак і закон божы...

– Вы думаеце? – імгненна падтрымаў граф новую тэму гаворкі.

У камісара быў годны праціўнік, вымуштраваны езуіцкім выхаваннем захаду, таму ён вырашыў не працягваць спрэчку.

– Выбачаюся, граф, мяне ўжо чакаюць справы. Ды я непакоюся, што, хутчэй ад усяго парушыў вашыя планы.

– Ні ў якім разе! Я адпушчу вас толькі пасля таго, як паабедаеце са мной! – граф разумеў, што, калі ёсць магчымасць не нажываць ворага, тым болей уплывовага, дык лепей пазбегнуць гэтага. – Дазвольце адысці на адну-другую хвілінку, каб даць пэўныя распараджэнні, – граф імкліва пакінуў кабінет.

Раман ведаў цяпер усё, дзеля чаго прыйшоў сюды. Заставацца не мела сэнсу. Гісторыя з князёўнай. якая так рамантычна пачалася на яго вачах, пагражала пераўтварыцца ў трагедыю. Граф адназначна не збіраецца адпускаць яе. Раман мог уявіць сабе, як будуць разгортвацца далейшыя падзеі, і яму не хацелася дзяліць хлеб з гэтым чалавекам. І ўсё ж такі адмовіцца ад запрашэння пасля вострай размовы было неразумна. Гэта адразу выкрывала асабістую зацікаўленасць, што з вялікай верагоднасцю магло пашкодзіць князёўне. Граф мог, сапраўды, паспяшыць з любымі намерамі ў адносінах да яе. Раман, здавалася, сам трапіў у моты, якія меркаваў накінуць на графа: ён стварыў сітуацыю, якой не валодаў і не ведаў, як з яе выбрацца. Але яшчэ болей яго трывожыла і цікавіла тое, што ён не мог вызначыць, якая памылка завяла яго ў гэтыя моты. І што сталася прычынай памылкі?..

Яшчэ юнаком, жорстка абсмеяны сябрамі за гарачнасць і прагу не столькі даказаць сваю праўду, колькі выказаць сябе, Раман вырашыў зрабіцца староннім назіральнікам чалавечых слабінаў. Гэта дазваляла не перажываць за іншых і нават не смяяцца з людскіх хібаў. За любой справай ён вучыўся заставацца як бы адасобленым. З цягам часу халодны разумовы разлік і спакойнае сэрца верна служылі Раману ў рашэннях і ўчынках. Пасля смерці маці ён ужо нікога не дапускаў да сваёй душы. Гэты непрабівальны для эмоцый панцыр рабіў яго недасягальным для праціўніка.

Раман павінен быў знайсці памылку, каб ніколі не паўтараць яе і тым болей не нарабіць новых. Розум? Логіка не здраджвала яму. Душа? Яго-

ная душа належала адзіна Богу. Заставалася сэрца. І Раман не знаходзіў яго спакойным! Яно пачало жыць нязвыкла незалежна ад душы і логікі і сягоння выкрыла ў ім зацікаўленую асобу. І прычынай таго магла стацца сімпатыя, якую адчуваў Раман да старога князя, а, можа быць, і...

– Чарлі ўзбунтаваўся! Зноў ломіць стайню! Усе коні ірвуцца на волю! – у кабінет з бізуном у руках уварваўся раз'юшаны стайнік, каб тут жа выскачыць за дзверы.

Раман у думках падзякаваў сваёй удачы, на якую ніколі не спадзяваўся, але і не пакідаў без увагі. На гэты раз удача мела аблічча каня. Ён накіраваўся да выхаду следам за стайнікам, як у пакой увайшоў узбуджаны граф.

– Прашу прабачэння! Я затрымаюся яшчэ на некаторы час. У маёй стайні конскі бунт! – паведаміў граф з парога і, не чакаючы адказу, адразу выйшаў.

– Я з вамі, граф! – кінуўся наўздагон камісар, радуючыся, што, магчыма, такім чынам яму ўдасца пазбегнуць прыкрай гасціннасці графа.

У стайні, сапраўды, стаяў вэрхал. Людзі бездапаможна мітусіліся. Коні тупацелі, іржалі, храплі, становячыся на дыбы ў сваіх стойлах.

– Я чуў, што ў вас добрыя коні, граф! Але, прызнаюся, не чакаў убачыць столькі чыстапародных рысакоў адразу! – уразіўся Раман на відовішча, што расхінулася перад ім.

– Збіраюся закласці конны завод! – з гонарам азваўся граф, які любіў хвалу столькі ж, колькі і людзей, якія ведалі коней. – Тут выдатныя ўмовы!

– Тут насамрэч прыдатнае асяроддзе, такія разлогі! – Раман шчыра любіў коней.

– Я пакажу вам потым маіх хартоў і выжлаў! – Граф ужо адчуваў сімпатыю да камісара. Коні і харты было адзіным, што ён трымаў для душы, а не для зыску.

– А дзе Чарлі? – пагрозліва ўсклікнуў граф, што дытычылася ўжо стайніка, які разгублена азіраўся наўкола.

– Не ведаю! Праз яго ўсё і пачалося! Раптоўна ў свечку стаў, парваў повязь і давай гойсаць пад вокнамі! Хітры, не злавіць! Зараз, мабыць, стаіўся недзе. Не конь, а кат на маю галаву! – прастагнаў стайнік.

– Няхай прывядуць варажэя! – загадаў граф. – А каня знайсці, не чапаць, не палохаць, тэрмінова будаваць загон, дзе ён зараз гуляе. Я сам выганю з яго бадзяжны дух!

Граф і камісар пакінулі стайню.

Раман цікавіўся паляўнічымі сабакамі, але ў сабакарні графа раптам упэўніўся, што недалюблівае іх. Можа быць таму, што яны працавалі на чалавека не ад пачуцця любові, а за кавалак ад сваёй здабычы. Чалавек для іх быў важаком зграі, галоўным сабакам. Раману не хацелася губляць статус чалавека нават у сабачых вачах. Ён усміхнуўся гэтай думцы, назіраючы за графам, які ў захапленні лашчыў сваіх улюбёнцаў.

– Бачу, вы павесялелі! Так, і ў мяне харты заўсёды выклікаюць добры настрой!

– Вы праніклівы чалавек, граф! Небяспечна праніклівы! Ад вас нічога не ўтоіцца. – Раман не кпіў, а проста скарыстаўся памылкай графа. – Напэўна вы таксама здагадаліся, што мяне ўжо клічуць службовыя абавязкі. Загадайце, калі ласка, падаць майго каня.

Калі б, ад'язджаючы, Раман азірнуўся, ён змог бы ўбачыць страшэзную адзіноту ў расчараваным позірку графа, які паныла глядзеў яму ўслед.

## 4

Дарога ад маёнтка разгаліноўвалася на павароце. Калі павярнуць у левы бок, можна было хутка выехаць на галоўную вуліцу Свіслачаў, а дарога ў правы бок, збягаючы са стромы над ракой, вяла да падножжа кургана з замчышчам. Менавіта па апошняй Раман пусціў трушком свайго рысака. Ён ведаў, што ў горадзе яго мянуюць чорным камісарам, і без патрэбы не хацеў мазоліць вочы мяшчанам. Няхай чорны, няхай няўлоўны, так нават лепей. Ён меў магчымасць пераканацца, што дабракоў ды тых, хто шукае ўвагі, людзі любяць скарыстоўваць ва ўласных інтарэсах. Раман жадаў каб яго баяліся, так было лягчэй і жыць, і служыць.

Каб быў час абдумаць далейшыя дзеянні, Раман сцішыў каня. ён вырашыў паведаміць князю пра тое, што адбылося ў маёнтку пераканаць яго скласці скаргу на графа, якой ён дасць афіцыйны ход. Няхай кожны выконвае свае абавязкі. Памылка, якую Раман дазволіў сабе ў маёнтку, насцярожыла яго. Хаця не так памылка, як прычына яе.

Бясспрэчна, Раману хацелася абараніць князя, прастадушнага, далікатнага, разумнага чалавека, які шмат нацярпеўся са стратай дачкі і жонкі. Князь, несумненна, палюбіўся яму. Раман, як і абяцаўся, узяў бы яго пад сваё заступніцтва, каб не гэтая прычына. Выйсці з-пад уласнага кантролю было куды горш, чым страіць кантроль над абставінамі. Абставіны можна выправіць, змяніць, нарэшце, у той час. як выпраўляць, змяняць сябе – самая цяжкая здача на гэтым свеце.

Раману гэта нагадала той прыкры, няпэўны стан, калі губляеш прытомнасць, перад вачыма ўсё пачынае круціцца, сэрца абмірае, горла сціскаецца і млявыя, няўстойлівыя ногі падгінаюцца, дазвалючы целу завяршыць пакуту ў падзенні. Так было, калі ён нарэшце зразумеў, што маці ніколі не вернецца з той яміны, да якой прывялі яго. Тады амаль год прайшоў пасля смерці бацькі. Бацька, хаця і выводзіў свой род ад бранскага князя Рамана Міхайлавіча, але паперы, якія маглі б тое пацвердзіць, ці то згарэлі, ці то тое яшчэ неяк прапалі. За сталым векам ён так і не аднавіў іх, а ў гонар прародзіча назваў свайго запозненага сына Раманам. Уласна, гэтае імя і было адзінай спадчынай, пакінутай малому. Праз гады Раман высветліў, што ягоны прародзіч быў не толькі бранскім князем, але і вялікім князем Чарнігаўскім, і нават смаленскім намеснікам Вітаўта, вялікага князя літоўскага. Гэта з гадамі выклікала ягоную цікаўнасць да Літвы, што і прывяло яго сюды. Але яшчэ падлеткам, які, уласна, і не меў сапраўднага бесклапотнага дзяцінства, апякуючыся чужымі людзьмі, Раман стараўся пазбегнуць становішча, дзе ён не здолее сустрэць небяспеку, цвёрда стоячы на нагах. Небяспекай для яго было само жыццё, якое з гадамі навучыла яго быць устойлівым у час удараў лёсу. Раман узненавідзеў падзенне, як у прамым, так і ў пераносным сэнсе. Чалавек, які дазваляе сабе ўпасці, вымушаны потым даганяць уласнае жыццё, але тады, часцей ад усяго, яго самога даганяюць няўдачы. Ён меркаваў, што нават самы лепшы разумнік можа не разлічыць момант удачы, але момант яе процілегласці прадбачыць і вызначыць павінен. Становішча, у якое на гэты раз трапіў Раман у маёнтку графа, вярнула яму адчуванне рэчаіснасці. Цяпер, у спакойным стане, ён мог шчыра сказаць сабе, што дол нібыта хіснуўся пад ім самім, калі, падаючы на рукі графа, князёўна горка прашаптала: “Вы ледзь не страцілі дачку, князь...”

Кладучы руку на сваё зноў ураўнаважанае сэрца, Раман мог яшчэ да-

дацць, што асабліва непрыемнае ў тым моманце было тое. што нязвыклае, некранутае, як запаветная мара, дзявочае хараство ўпала ў дагледжаныя, далікатныя рукі, несумненна, спешчанага жаночай увагай графа. Непамернасць таго выклікала нязгоду, абурэнне, пратэст, гнеў, якія тады ён не мог выказаць, і яны душылі яго ледзьве не да страты прытомнасці.

“Як там мовіў князь? А! “Чалавечая кроў ліпучая”! Цяпер я магу сказаць, што і непрытомнасць заразлівая!” – каб заглушыць неспакой, які зноў узняўся ў крыві ад намаляванай успамінам карціны, Раман прышпорыў каня.

Перад спускам са стромы камісар спыніўся. У далечы, якая прасціралася над ракой, лугавінамі, чорнымі палямі, аблямаванымі на даляглядзе цёмным краем лясоў, пад шызым небам на далоні кургана, ашчэранага на ўсе бакі завостраным бярвеннем і ражонамі, ляжала замчышча. Пахмурным днём яно здавалася казачным цмокам, які скруціўся ў кола, утвараючы між зубчастых вежаў магутнае наверша. Раман ведаў, што неўзабаве ўсё гэта будзе зруйнавана, знікне, каб застацца адзіна ў народных паданнях пра сівую даўніну.

“Шкада, не абароніць казачны цмок сваю зямлю!” – падумаў Раман, любуючыся даляглядам.

У замку яго адразу правялі да князя. Чалавек, якога камісар не ведаў, запыніўся на паўслове.

– Купец Ісай, – прадставіў князь незнаёмца Раману. – Сядайце да нас, калі ласка. Ісай, ты можаш паўтарыць свой аповед нашаму дарагому госцю? Я не маю сакрэтаў ад вас, Раман, – дадаў ён.

– Можна толькі пра самае галоўнае? – папрасіў былы купец, які і так ужо некалькі разоў ва ўсіх падрабязнасцях распавёў князю сваю гісторыю.

На днях Ісай даведаўся, што да князя раптоўна вярнулася дачка, якая згубілася яшчэ ў маленстве. Ісаю прыгадаўся адзін выпадак з ягонага даўняга купецкага жыцця, і ён вырашыў, што гэта можа мець дачыненне да князя...

…На тую пару Ісай закупляў у гэтых мясцінах тавары, якія з выгодай можна было прадаць на поўдні. Трумы ягонага сціплага на выгляд ветразніка мелі багатае начынне ў выглядзе воску, пушніны, сырых скураў, мясцовых вырабаў і нават пары кадак з дзёгцем. Хутка прыйшоў караван, з якім можна было ісці да мора. Сярод купцоў хадзіла чутка, што на адным з караблёў іхняга каравана вотай[7] знаходзіцца жанчына з дзіцем, як быццам бы жонка нейкага літоўскага ваяводы. Казалі, што жанчына трымае шлях нібыта ў Кіеў, а, можа, у Львоў. Ісай здагадваўся, што знарок казалі рознае, каб ніхто дакладна не ведаў. Караван ужо добра адплыў на шляху да Дняпра, як на крутым павароце Бярэзіны некалькі ветразнікаў нечакана селі на мель. Рака нараўлівая. Паколькі ўжо цямнелася і патрэбна было стаяць на якарах да ранку, вырашылі, што досвіткам будуць разгружаць трумы, каб зняцца з мелі. Ноччу ўсе прачнуліся ад стрэлаў і крыкаў, якія далёка разносіліся над ракой. Было зразумела, што на караван напалі. З карабля Ісая хутка спусцілі два чоўны, каб рушыць на дапамогу купцам. Рабаўнікоў было няшмат. Але адчувалася, што гэта смелыя, нахабныя і арганізаваныя людзі. У святле маладзіка, які ўзышоў на небе, адразу ўбачылася лодка, якая хутка адыходзіла ад бліжняга карабля. Людзі на чоўне Ісая з усяе моцы налеглі на вёслы, каб адсекчы лодку ад берага. У лодцы рабаўнікоў, спрабуючы вырвацца, закрычала жанчына. Напэўна, у яе адабралі дзіця, бо дзіця заплакала, а жанчына маліла не рабіць дзіцяці шкоды. Час ад часу яна супакойвала напалоханую дзяўчынку: “Не бойся, Дарута! Я тут, дачка!…” Лёгкі човен Ісая першым дагнаў тую клятую лодку! Каля самай кармы з маленькай

дзяўчынкай на руках стаяў высокі, худы мужчына. Калі човен зачапіў іхнюю карму, жанчына з жахам кінулася да яго: ”Дарута! Граф! Вінцэсь! Не ўпусціце Даруту!” На беразе чакалі рабаўнікоў людзі з коньмі. Адтуль стралялі. Уладальнік карабля, з якога скралі жанчыну, крычаў, каб ратавалі ваяводку з дзіцем, абяцаючы ва ўзнагароду ўсе свае тавары. Напэўна, ён быў паранены, бо нечакана зваліўся за борт і пайшоў на дно. Плынь на павароце была не проста хуткая, але яшчэ і вірлівая. Нехта з матросаў, што падышлі на іншых чаўнах, кінуўся ў ваду ратаваць купца. Ісай не ведаў, што сталася там, але купца таго болей ніхто не бачыў. Чоўны купцоў разам абкружылі лодку і, трымаючы бусакамі з усіх бакоў, загадалі скласці зброю і здацца. І тады той, каго жанчына назвала Вінцэсем, кінуў дзіця ў лодку, а сам падхапіў на рукі жанчыну і скочыў з кармы. Моцны ўсплёск вады перавярнуў адзін з чаўноў, і яго адразу панесла плынь. Людзі з таго чаўна чапляліся за лодку, спрабуючы залезці ў яе, але тыя, хто быў у лодцы білі іх вёсламі, скідалі нагамі. Матросы не пакінулі жывымі нікога ў той лодцы. Калі выкідалі ў раку забітых, Ісай убачыў маленькую дзяўчынку, якая хавалася пад сядушкай, прыкармавой банкай. На адным з зачэпленых бусакоў боўталася напалову ў вадзе багатая накідка яе маці. Ісай загарнуў малую ў тую мокрую накідку. Так і вярнуўся на карабель, дзе яго чакала сястра Марухна. Яны былі блізнятамі і ў дзяцінстве амаль што не расставаліся. А пасля таго, як у час аднаго з казачых пагромаў загінулі іхнія бацькі, ужо заўсёды былі разам. А тады, ранкам, калі здымалі з мялізны ветразнікі, высветлілася, што гэта зусім не мель, а затопленыя карчы, скручаныя разам з камянямі ланцугом...

...– Нас проста чакалі ў тым бязлюдным месцы... – былы купец замоўк.

– А што жанчына і той, каго называла яна Вінцэсем? – князь з надзеяй глядзеў на Ісая. Плечы ягоныя прыпадняліся, нібыта ён збіраўся імкліва ўскочыць з крэсла.

– Я казаў ужо, што болей не бачыў іх, не чуў пра іх.

– А маглі яны застацца жывымі?

– Цяжка такое сказаць. Жыццё на ўсё здатнае. Але трэба мець вялікую сілу і ўменне, каб выбрацца з той быстрыні... Не кожны бывалы матрос адолее, ды там і коні могуць пайсці на дно... – Ісай зноў замоўк.

Плечы князя паныла апусціліся.

– Як так... А ваяры, слугі... Няўжо ўсіх... – прамармытаў сам сабе князь, не жадаючы змірыцца з тым, што пачуў.

– Не ведаю, але хто падымаўся на палубу карабля, дзе была ваяводка з дачкой, казалі, што жывымі там не знайшлі нікога. Ды і забітых было ўсяго некалькі чалавек. Мабыць, у ваду паскідалі...

– Князь, не сумняваюся, што вы потым шукалі княгіню з дачкой, але што вы можаце дадаць да таго, што мы тут пачулі? – запытаўся Раман.

– Пачну з таго, што ў маёй крэпасці на тую пару ішла перабудова. Гэта, безумоўна, аслабляла абарону пры нападзе. Аднак час быў зацішны і я рашыўся, тым болей, што ўмацоўваць крэпасці патрабаваў сам кароль, ад якога я неўзабаве і атрымаў незвычайнае пасланне. Кароль паведамляў пра зламыснікаў, якія рыхтуюць нападзенне на крэпасць, і раіў тэрмінова адправіць пад ягоную ахову княгіню і каштоўнасці. Я не хацеў рызыкаваць сям’ёй і паслухаўся караля. Княгіня з дачкой адплылі на караблі майго былога ваяра. Потым выявілася, што ліст быў фальшывым. Паўгода я даследаваў усё наваколле абапал воднага шляху. Чуў там ад людзей, што было, нібыта рабавалі адзін караван у нізавіне Бярэзіны, але толкам ніхто нічога не ведаў...

– А човен? – павярнуўся Раман да Ісая.
– Які човен? – не зразумеў Ісай.
– Той човен, што перакуліўся, знайшлі яго?
– Можа быць, хто і знайшоў, але я не чуў пра тое.
– Ён у перакуленым стане так і паплыў ад месца бойкі?
– Здаецца так, я асабліва не зважаў на яго потым, бо ўся ўвага была скіраваная на тых, хто заставаўся ў лодцы. А што вам да таго?
– А калі б хто схаваўся пад той перакулены човен, ці змог бы там трымацца за што-небудзь?
– Вось вы пра што! – усклікнуў ад раптоўнай здагадкі Ісай. – Змог! За адну з лавак. Або проста рукамі ўперціся ў барты, як бы закліні́цца. Ды хіба жанчына здагадаецца? – з сумненнем да такога павароту падзей зазначыў Ісай.
– Прырода чалавека здагадаецца. Да таго ж з ёй быў мужчына.
– Вы так гаворыце, быццам бачылі гэта!
– На жаль, не бачыў, інакш рызыкнуў бы адбіць княгіню і вярнуць князю.
Зрэнкі князя паволі расшыраліся, ён раптам схапіў за руку Рамана.
– Вы думаеце...
– Думаю, – спакойна адказаў Раман. – Бачна, што Вінцэсь той быў спрактыкаваны чалавек, калі здолеў украсці княгіню і дзіця з ветразніка. Ён разлічыў месца на карме лодкі, дзе было меней бусакоў. Скочыў з жанчынай на руках на бліжэйшы човен такім чынам, каб не пайсці адразу на дно, а зачапіць яго, перакуліць і потым схавацца пад човен. Так было?
– Вы, насамрэч, не былі там? – Ісай спалохана пазіраў на Рамана. – Я нібыта зараз толькі ўбачыў яскрава той момант.
– Раман бы састарэў ужо, – мовіў князь, усё-ткі абводзячы позіркам свайго нядаўняга ворага, які толькі што падараваў яму адну з самых вялікіх надзеяў жыцця.
– А што рабілі тыя людзі на беразе, калі вы перабілі ўсіх у лодцы? – пацікавіўся Раман.
– Калі мы агледзеліся, іх не было ўжо там.
– А за паваротам ракі плынь такая ж хуткая?
– Не, далей і рэчышча шырокае, бо абапал пачынаюцца паплавы.
– Цяпер я амаль упэўнены, што яны ўратаваліся. Гэты Вінцэсь дужа небяспечны чалавек, князь. Вы не здагадваецеся, хто гэта можа быць?
– Пакуль што не. Твары маладосці, як і імёны, пасціраліся ўжо напалову ў памяці...
Князь напружана думаў...

...Вайна... Паходы... Рэдкія святы... Балі... Дароціца... Раптам перад вачыма князя ўзнік малады, але вельмі худы твар з амаль нерухомымі і адначасна пільнымі, насмешлівымі вачамі. На гэтым твары самымі жывымі здаваліся тонкія, расцягнутыя ў рысачкі вусны, якія няспынна па-змяінаму варушыліся, складаючыся ў непрыемную ўсмешку. Асабліва непрыемным было тое, што, калі князь вярнуўся ў бальную залю каралеўскага палаца, гаспадар таго твару хутка прамаўляў нешта сваімі змяінымі вуснамі Дароціцы. Наступнага дня маладая княгіня прапанавала ехаць з Варшавы на ягоную дзедзічну ў Свіслачы. Яна так і не даверыла князю сваю размову з непрыемным чалавекам. Князь мала што ўведаў тады пра яго ў Варшаве. Нейкае блытанае авантурнае жыццё маладога беднага графа, які выхоўваўся недзе на ўсходзе. Адны казалі, што ў

Кітаі, другія сцвярджалі, што наогул у Егіпце. Адзінае, што ведалі дакладна, дык тое, што імя яго…

..."Вінцэсь... Так... Вінцэсь..." – у думках паўтарыў сабе гэтае імя князь.

– Ісай, ці было нешта ў мужчыны таго, Вінцэся, незвычайнае ў твары, што запомнілася раптам? – звярнуўся князь да купца.

– Каб ведаў, што запытаецеся, дык угледзеўся б, а так нічога асблівага, хіба што худы вельмі і з цела, і з твару, як чарвяк. Во! І непрыемнае нешта сыходзіла ад яго, быццам змяінае...

Раман уважліва сачыў за размовай і здагадаўся, што чалавек той быў вядомы князю. Але яму хацелася даведацца, што было далей з маленькай дзяўчынкай, якую ўратаваў Ісай.

– А што сталася з маленькай дзяўчынкай? – не ўтрымаўся Раман.

– Мала чым задаволю вас у гэтым пытанні. Было незразумела, што рабіць з ёй. Якому ваяводу яна даводзіцца дачкой, і на каго пакінуць яе, калі пакідаць...

…Ісай і Марухна вырашылі ўзяць дзіця з сабой, а там будзе, як будзе. Зразумела, што менавалі дзяўчынку Дарутай, як на рацэ пачуў Ісай ад ейнай маці. Напалоханая тым, што перажыла, а, можа, і да таго была не зусім здаровая, дзяўчынка пачала хварэць. Спачатку быў проста моцны кашаль, якім яна будзіла ўсіх начамі. Потым да кашлю далучыліся ваніты, начныя сутаргі. Усёй камандай ветразніка імкнуліся і суцешыць яе, і лячыць, як хто ведаў. Можа, рачная волкасць, начныя халады ці што іншае, але бралі сваё. Марухна плакала, гледзячы, як пакутуе, марнее дзіця. У Любечы яна папрасілася сысці з Даруткай на бераг. Ісаю было страшна расставацца з сястрой. Але хто можа ўгаварыць жанчыну, калі яна рашылася? Дамовіліся, што забярэ яе на зваротным шляху. Ісай спяшаўся распрадаць тавар, каб хутчэй вярнуцца па Марухну, але не паспеў. Восень надарылася ранняя, вельмі халодная. Шалёныя вятры ірвалі ветразі. Берагі браліся лёдам. Давялося чакаць суднаходства да вясны. Адзін з матросаў звольніўся і трымаў шлях у Любеч. Ісай выправіў яго з грашыма і наказам знайсці Марухну ў Любечы, перадаць ёй цыдулку, дзе распавядаў пра свае справы і прасіў, каб там і чакала яго. Невядома, ці дайшоў той матрос да Любеча, ці шукаў Марухну, але вясной купец не знайшоў там ні яго, ні Марухны, ні дзіцяці…

...– Болей я іх не бачыў... – галава Ісая па-старэчы задрыжала.

Мужчыны пэўны час маўчалі, як на пахаванні. Першым апамятаўся Раман.

– Скажы, а ты пазнаў бы тую ваяводку, як ты казаў, калі б убачыў цяпер?

– Няўжо вярнулася?! – Ісай ад нечаканасці ажно ўскочыў з лавы.

– У князя ёсць адзін выдатны партрэт.

– Хто яго ведае. Маладзік быў, вада падсвечвала, але ж ноч... Ды і хто б разглядаўся пры тых падзеях...

У спальні князя Ісай доўга глядзеў на партрэт.

– Яна? – не ўтрымаўся князь.

– Падобна, што яна... Яна! Вунь і хуста ейная!

– Якая хуста?

– Ды вунь, на плячах ейных. Знаная рэч! Я прыхапіў яе, калі знайшоў на лодцы. Аддаў сястры...

## 5

Мінуў другі тыдзень з таго часу, калі Дарута зрабілася паланянкай графа. Без'языкі вартаўнік Тамаш і яшчэ адзін, каго Дарута не ведала, днявалі і начавалі пад дзвярыма ейнага пакоя. Дзяўчына цешыла сябе, што яе не пазнаў Тамаш. А калі ён стаўся нямком, як паведаміў ёй у лагеры Войцех, дык не варта і непакоіцца асабліва. Яна была ўпэўненая, што зможа хутка выбрацца з палону. Паляна, якую цяпер ўпускалі і выпускалі ў пакой вартаўнікі, на ўсе роспыты пра князя і намеры графа толькі пацiскала плячамі.

Граф болей не прыходзіў да яе. Князь, таксама не паказваўся. Дарута не магла ведаць, што пасля таго, як яна страціла прытомнасць, князя падманам выправадзілі з маёнтка. Яна таксама не здагадвалася, навошта граф трымае тут яе і што збіраецца рабіць з ёю, бо так не можа працягвацца бясконца.

Дарута па-ранейшаму не ўмела стрымліваць сябе, не ўмела цярпець, але затое навучылася трываць. Цярплівы чалавек выжывае, але падпарадкоўваецца чужой моцы. Трывалы – умее трываць чужую моц, чакаючы моманту, калі здолее не толькі спыніць удар, але і ўступіць у бой. І гэтай сваёй новай якасцю Дарута стрымлівала невыноснае нецярпенне і тупое чаканне ў палоне сцэнаў і невядомасці.

Пакой, адведзены ў маёнтку Даруце, знаходзіўся на другім паверсе, над гасцёўняй. Адзінае вакно ў пакоі выходзіла на задні двор, за якім, мяркуючы па купках стрыжаных кустоў, знаходзіўся сад. Яшчэ можна было ўбачыць ліпкі, высаджаныя ўздоўж агароджы на шляху, ажыўлены рух на якім падказваў напрамак у горад. Раптоўна ўнізе пад сваім акном Дарута ўгледзела Белазора. "Зноў тут!" – здзівілася яна.

Дзверы, як заўсёды, былі замкнёныя звонку. Дарута не магла не тое што прылашчыць вернага скакуна, але нават пакінуць пакой. Аднойчы яна бачыла Зенку. Маладзён, азіраючыся па баках, кідаў сасновымі шышкамі ў ейнае акно. Але тады прыйшла Паляна, трымаючы на руцэ некалькі сукенак, прызначаных Даруце. Каб паглядзець на іх збоку, а насамрэч – каб служанка не ўгледзела Зенку, Дарута прапанавала ёй прымерыць падараваныя графам сукенкі. Лепшага нельга было і прыдумаць. Шчаслівая Паляна птушкай лётала ад люстра да абноваў. Назіраючы за ёй, Дарута падумала, што Паляна выведзе яе адсюль, калі паабяцаць ёй гэтыя сукенкі. Але як сказаць, каб не падслухалі вартавыя за дзвярыма?

Дарута ў сваім роздуме не адразу ўбачыла праз акно графа, які стаяў на падворку, цікуючы за Белазорам. Ён некалькі разоў спрабаваў падысці да каня, але той, нібыта і не заўважаючы гэтых манеўраў, пераступаў тонкімі нагамі ў процілеглы бок, трымаючыся на пэўнай, вызначанай ім самім адлегласці. Нарэшце чалавек зразумеў конскую хітрасць.

– Чарлі! Чарлі! – гукнуў граф каня, але той яўна выдаваў на глухога і нават не крануўся з месца. – Аркан! Пся крэў! Дай аркан!

Мабыць, што стайнік недзе чакаў паблізу, бо імгненна з'явіўся з арканам і чатырма конюхамі.

Даруце было шкада Белазора, якога тут менавалі дурацкім Чарлі. Яна ўжо хацела адысці ад акна, каб не бачыць, як яе каня, расцятага на вяроўках, цягнуць на стайню, і тут у руках графа ўзвіўся бізун. Конюхі віселі па баках на зацугляным кані, а бізун апускаўся і апускаўся яму

на спіну, круп каня, які ўздрыгваў усім целам, спрабучы вырвацца, стаць на дыбы.

Дарута крычала, калаціла кулакамі ў забітыя цвікамі створкі акна, але мужчыны, узбуджаныя сваім заняткам, не зважалі на гэта, а, можа, проста не чулі яе. Дарута яшчэ не ведала, што бачыць яе знадворку наогул не маглі. Слюдзяное акно дазваляла бачыць толькі ў адным кірунку – з памяшкання. Яна кінулася да дзвярэй, але на яе лямант таксама ніхто не азваўся. Дарута не магла змірыцца з гвалтам над улюбёным канём. Яна вярнулася да акна.

Граф быў смелым вершнікам, хаця і ў астатнім баязліўцам не лічыўся. Дзівячыся, як хутка без належнага дагляду дзічэюць коні на гэтай зямлі, ён адным рухам спрытна ўскочыў на каня. Белазор, не зважаючы на конюхаў, віснучых па два ягоныя бакі, раптоўна ўзвіўся свечкай. Граф трымаўся, як прырослы. Па ягонай камандзе конюхі адскочылі, і пачалася шалёная скачка. Граф не шкадаваў каня. Ад шпораў ягоных ботаў у каня цякла кроў, на раздзертых жалезнымі цуглямі губах выступіла крывавая пена.

Дарута разгублена азірнулася на свой утульны, мяккі, прыгожы пакой. Маленькая зэдалька для ног, абабітая аксамітам, мела гнутыя, але тоўстыя ножкі. Не разважаючы, яна шпурлянула яе ў акно. У адным месцы вялікая пласціна лёгка рассыпалася.

– Спыніцеся! – закрычала Дарута колькі моцы ў выбітае вакно.

Граф азірнуўся, і гэтага было дастаткова, каб ён апынуўся на зямлі. Конь адбег да агароджы і, страсаючы з морды пену, пагардліва фыркаў.

Граф падняўся і падышоў пад акно.

– Вам не здаецца, князёўна, што вы ўмяшаліся не ў лепшы момант? – Граф пакрывіў губы, мацаючы збіты бок. – І не ў сваю справу! – закончыў ён водпаведзь. – Але ў вашай уладзе ўсё выправіць! Калі дазволіце, я зараз буду ў вас. – Не чакаючы адказу, граф накіраваўся ў палац.

Дарута адчувала сябе вінаватай перад графам. “Гэта сапраўды магло закончыцца трагічна, – падумала яна. – А Белазор? Граф мог зрабіць з яго звычайную жывёліну!..”

Дарута не паспела дадумаць, каму ў такіх абставінах трэба аддаваць перавагу, бо праз хвіліну Тамаш адчыніў перад графам дзверы.

– Прашу прабачыць мяне, – прымірэнча вымавіла Дарута, ідучы насустрач. – Я не думала, што можа так атрымацца!

– А што вы думалі? – пакпіў з яе граф.

– Што нельга так катаваць жывёлу! Тым болей каня! Чалавек стаіць бліжэй да Бога, чым жывёла, не таму, што можа здзекавацца з яе.

– А чаму, дазвольце запытацца, а то я неяк не задумваўся над тым.

– Таму, што можа дапамагчы ёй...

– Вось як? А я быў упэўнены, што ўсё наадварот! – у голасе графа чулася насмешка. Здаецца, ён знайшоў, як размаўляць з упартай дзяўчынай, каб не таміцца перад ёй у сваёй хэнці.

– Вы не далі мне закончыць думку!

– Зрабіце ласку, я ўвесь – увага!

– Чалавек можа дапамагчы жывёле зразумець сябе і тым узвысіць да сябе.

– Князёўна! Мой дзядзька, які не так даўно трагічна загінуў, казаў, што чалавек павінен зразумець, спасцігнуць сябе. Але каб жывёла зразумела сябе... Што ж тады застанецца рабіць несвядомым людзям?

– Вы няправільна зразумелі мяне, граф.

– А як на вашую думку я павінен быў разумець?

– Што жывёла павінна разумець чалавека...
– І што жывёле замінае?
– Страта даверу да чалавека.
– Які давер?! Жывёлы?! Князёўна, я не ведаю, дзе выхоўвалі вас, але маё выхаванне пабудавана на тым, што ў маёй гаспадарцы я ўладар. Што скажу, тое і павінны рабіць і слугі, і коні. А неслухмяныя павінны быць пакаранымі.
– А вы не думалі, што конь зразумеў, што вы жадалі ад яго, але не захацеў падпарадкавацца? А вы, наадварот, не захацелі зразумець каня, а пажадалі прымусіць.
– Дзіця маё! Чым запоўненая вашая прыгожая галава! Што вы мне раіце? Разумецца з конямі, з каровамі, гусямі?!
– Часта глупствам здаецца тое, што мы самі не разумеем.
– Дарута! Мабыць, я дурнейшы ад любога дурня, бо не разумею вас заўсёды, раблюся зусім бязглуздым у вашай прысутнасці, – нечакана ласкава, журботна прамовіў граф. – Праз вас я не толькі зрабіўся дурнем, але і збітым дурнем.
– Гэта ваш дом.
– Пажадайце толькі, і гэтым дом з усім ягоным начыннем, усім, што вы яшчэ пажадаеце, будзе вашым! – граф прылёг на канапу на здаровы бок. Цяпер Дарута апынулася за ягонай спінай. – Падыдзіце да мяне, Дарута! Я не магу быць побач з вамі і не бачыць вас!
Дарута здзіўлялася сваім адчуванням. У мінулы раз граф з шалёным бляскам у вачах таксама прызнаваўся ёй у сваіх пачуццях, але яна адчувала сябе куды болей моцнай, чым цяпер, калі ягоныя вочы свяціліся журбой, а мова зрабілася амаль тутэйшай.
Яна стаяла перад графам, думаючы, што калі б мела волю пайсці адсюль, дык не тое што пайшла, а пабегла б, і ўсё-ткі, мабыць, ёй не хапала б ягонай увагі. Але зараз граф быў тут і быў ейным супрацоўнікам у барацьбе за гэтую волю. Яна вырашыла не губляць пільнасць.
Граф, вопытны ў адносінах з жанчынамі, адчуў напружанасць Даруты і вырашыў не мяняць тактыку.
– Князёўна! Няўжо вы такая жорсткая? Няўжо вы жадаеце загубіць мяне? За што? За некалькі кропляў конскай крыві? – граф зрабіў выгляд, што ўсё яшчэ крыўдуе.
– Не! Вядома, не! – Дарута міжволі зрабіла крок да канапы, і тут рука графа абхапіла яе стан. У наступнае імгненне дзяўчына апынулася на канапе побач з графам, вусны якога ўладарна захапілі ейныя вусны. Граф моцна трымаў дзяўчыну адной рукой, а вольная рука падымалася ўсё вышэй і вышэй па дзявочых нагах. Усё гэта разам з адчуваннямі так хутка мянялася, што ні адна думка не паспявала выразна скласціся ў галаве Даруты. Абрыўкі гэтых думак мітусіліся, сутыкаліся, захоплівалі новыя, утвараючы адно непаразуменне. Дзяўчына толькі інстынктыўна схапіла гарачую руку графа, спрабуючы адарваць яе ад сябе. Яна памкнулася ўсхапіцца, але непадуладная млявасць зрабіла цяжкім і неслухмяным ейнае цела.
Графа калаціла. Так бывала, калі ягоныя харты даганялі сваю ахвяру. Ён гэтак жа святкаваў разам з імі перамогу, калі яны забівалі зрынутага долу звера. Вялікія раскосыя вочы дзяўчыны, як у зацкаванай казулі, здавалася, глядзелі ў нябыт. Гэта была ягоная здабыча! І граф адчуваў моц узяць яе, калі ў дзверы асцярожна пастукалі. Дзяўчына, выведзеная стукатам са здранцвення, схамянулася. Граф падвоіў намаганні. На гэты

раз у дзверы пагрукалі нецярпліва і настойліва. Граф пастараўся не зважаць, загаляючы яшчэ вышэй расслабленыя, прыцягальныя ногі дзяўчыны. Дзявочы жывот з выразна і зваблiва акрэсленай лiнiяй галоўнага мускула над, якi нечакана адкрыўся погляду графа, выклiкаў у належным месцы доўгiя, салодкiя сутаргi.

“Што яна робіць са мной?! – узмаліўся граф. – І што тады чакае мяне там, у глыбіні яе гарачага ўлоння!” – граф ажно скрыгатнуў зубамі. Практычны рамантык ведаў, што паўната шчасця бывае тады, калі пік яго чакання супадае з прыходам. Тое, што адбылося, ён адчуваў як сваю паразу.

– Заб’ю! – гэта было першае слова, якое, адчыняючы дзверы, кінуў граф узбуджаным Тамашу і Халею.

Як бы хутка не зачыніліся дзверы, Дарута і Халей паспелі сустрэцца вачыма.

## ЧАСТКА V
## ДУЭЛЬ ЛЁСАЎ

### 1

Цівун тросся ад жаху. Пан, канечне, забіць яго не мог, бо Халей яму не халоп. І ўсё-ткі ён бачыў, як часта па прыхамаці пана без суда і следства не толькі секлі розгамі, а тое і бізуном ці батогам крывавілі спіны вінаватых. Самае страшнае пакаранне таілася ў цёмных сутарэннях палаца, дзе сядзеў у клетцы вялізны мядзведзь. Праўда, ён не чуў, каб той мядзведзь каго задраў, але хто ведае гэта? Кінуць тое, што застанецца ад чалавека, у лесе, каб думалі, што там усё адбылося – і з канцамі.

Цівун ледзьве паспяваў за графам на шляху ў прыёмны пакой, які знаходзіўся на першым паверсе каля чорнага ўвахода. У гэтым пакоі граф разбіраў сялянскія скаргі і просьбы. Іншым разам тут вяршыўся і хуткі панскі суд. Гэта яшчэ больш палохала цівуна, бо зазвычай граф прымаў яго ў сваім кабінеце. Страшыла яго яшчэ і тое, што ён убачыў на другім паверсе, у прачыненых графам дзвярах.

Халей не сумняваўся, чым пан займаўся з дзеўкай. Ён пазнаў яе адразу, хаця зусім не чакаў убачыць тут пасля таго, што яна ўчыніла ў Шэйпічах. “Як яна трапіла сюды? Ці ведае пан, што, магчыма, гэтая дзеўка загубіла ягонага дзядзьку?” – гадаў цівун. Тады, калі Ходзька вёз іх разам з акрываўленым без’языкім Тамашом і напаўзгарэлым трупам панскага дзядзькі, які захацеў забавы на сваю галаву, Халей, баючыся пакарання за ўсё, што адбылося, закалоў па дарозе хлопца і віну за ўсе падзеі зваліў на яго – маўляў, бараніў дзеўку сваю хлопец, але Халей перамог яго. Тады пра дзеўку пан і не ўспомніў. Хаця потым усю вёску перавярнуў, шукаючы яе. Шкада, што не знайшоў! І вось цяпер яна тут, у маёнтку!

“Наўрад ці дзеўка магла прызнацца пану, – вырашыў Халей. І ўсё ж такі ногі яго падгіналіся. – Прынёс жа нячысцік мяне ў ліхі час! Падумаеш, разабралі грэблю! Каб яна згніла, тая грэбля! Каб яна згарэла! – падсумаваў ён свае думкі. Халей і не паехаў бы сюды, каб не думаў на лясных разбойнікаў. Шэйпічы цяпер абкружаныя непралазнай дрыгвой, да маразоў не дабрацца. Халей меркаваў, што разбойнікі, пра якіх тут усе гавораць, заселі менавіта на тым балотным востраве. Ён і прыйшоў да пана, каб той дазволіў узяць халопаў з іншых вёсак. Яму сказала Паляна, што пан у паненкі зараз. Думаў, што госця нейкая завітала да пана графа, хоць Тамаш і

вылупляў вочы, паказваючы на свой язык. І колькі часу чакаць давядзецца? Вырашыў выказаць пану сваю пільнасць, бо той трасецца, каб і грош неываліўся з кішэні, а тут мытнікі-разбойнікі! Але ж і жарты ў Паляны! З якіх часоў нейкую дзеўку з пахожых паненкай клічуць! Навошта чапаў? Напэўна, хацеў пацеху дзядзьку свайму зладзіць. Далася яму гэтая дзеўка!"

– Пакліч конюхаў! – загадаў пан пісару, які ўскочыў з лавы, калі яны пераступілі парог прыёмнага пакоя.

– Паночку! – цівун кінуўся на калені. – Ды што ж я такое зрабіў?! – ён губляўся ў здагадках, не ведаючы дакладна, за што збіраецца яго катаваць пан. Калі толькі за тое, што яны з Тамашам напалохаліся і пачалі грукаць кулакамі ў дзверы, дык Тамаш рабіў такія страшныя вочы, паказваючы то ў свой рот з рэштай языка, то на замкнёныя дзверы, дык варта ўкленчыць – і даруе пан, бо за пана спалохаўся.

"А што, калі ведае страшную хлусню?" – ніякавеючы, задаваўся пытаннем Халей. Адказу не было і ад невядомасці было яшчэ страшней.

– Літасці прашу, паночку! Ад стараннасці гэта! – залемантаваў ён, калі прыйшлі конюхі.

– Скажаш праўду? – з нядобрай усмешкай запытаўся граф.

– Якую праўду? Я толькі праўду і казаў заўсёды!

– Кажы тую, якую хаваеш! Я цяпер ведаю ўсё! – граф блефаваў. Некалі італійцы навучылі яго картачнай гульні, якую называлі між сабой "primero". У той гульні была патрэбная не столькі ўдача і разлік, колькі ўменне псіхалагічна дасканала хлусіць. Ён бачыў неспакой і ваганні цівуна і здагадваўся, што нешта ёсць у таго за душой, хаця ў прысутнасці душы ў цівуна шчыра сумняваўся. – Ну! Чакаю! Ці забыўся? Магу прапанаваць сутарэнні. Там да ўсіх адразу вяртаецца памяць, як толькі ўбачаць клышаногага.

– Гэта не я! Тамаш! – рашыўся Халей, каб усё-ткі выпытаць у пана сваю віну. За час ягонай службы назбіраўся, мабыць, воз правінаў. Заставаўся шанец, што пан уведаў нешта не такое ўжо значнае.

– Тамаш? – з'едліва перапытаў граф. – Да чаго тут Тамаш?

– Ён... ён грукаў у дзверы, – Халей ажно заікнуўся ад сваёй здагадкі. Ён сцяўся, не жадаючы верыць у горшае.

Насцярожанасць і страх у вачах цівуна казалі графу, што ён узяў слушны шлях.

– Якія дзверы?

– Ну, тыя... за якімі пан быў з дзеўкай. Тамаш, калі ўбачыў мяне, занепакоіўся, усё паказваў мне на дзверы, і я падумаў, што нешта здарылася там. А прыехаў, каб паведаміць пра грэблю...

– З якой дзеўкай? – шчыра не зразумеў граф.

– Ды з дзеўкай! Дарутай!

Граф не ведаў, куды вядзе ягоны допыт.

– Хто табе сказаў імя князёўны?

– Князёўны? Якой князёўны? – не зразумеў Халей.

– Князёўны! – гыркнуў граф, не маючы цярпення размаўляць з дурнем. Ён ужо шкадаваў, што ўсчыніў гэты нікчэмны допыт, каб спагнаць сваю незадаволенасць тым, што адбылося ў пакоі князёўны.

– Паночку, я бачыў дзеўку тваю, пахожую, Даруту. Бажуся, ніякай князёўны не ведаю і не бачыў! Не вінны я ў гэтым!

Граф зноў не разумеў нічога. Цівун мог даведацца ад дворні імя Даруты, і хто б не шапнуў тады, што гэта дачка князя...

– Кажы! – загадаў ён на ўдачу.

– Не бачыў, клянуся, не бачыў!

Граф вырашыў супакоіць напалоханага цівуна.

– Хто табе сказаў, што князёўна ў маёнтку?

– Ніхто, паночку, ніхто! Не ведаю я гэтага!

– Хто табе сказаў, што яе завуць Дарутай?

– Дзеўку? – запытаўся Халей, пачунаючы сумнявацца ў розуме пана.

– Пся крэў! Ты што, здзекуешся з мяне?! Скуру спушчу!

Цівун імгненна вырашыў казаць пра тую, каго ведае, абы не маўчаць.

– Дарута з Шэйпічаў! Як жа не ведаць мне! Як бы служыў табе, каб халопаў тваіх не ведаў!

Граф разгубіўся.

– Ты хочаш сказаць, што дзяўчыну, якую ты бачыў у пакоі, завуць Дарутай і яна з Шэйпічаў? Так?

– Так, паночку! – узрадаваўся Халей, што нарэшце яны паразумеліся.

– Яна што... нарадзілася там? – асцярожна запытаўся граф. Ён пачынаў думаць, што пан Змога і князь няблага разыгралі яго! Жарт быў даволі арыгінальны, і граф не шкадаваў, што шчодра заплаціў за яго. Дзяўчына вартая гэтага. “Ды і вярнуся ў Варшаву, будзе што распавесці...” – радаваўся граф, уяўляючы сябе не меней, як на прыёме ў караля.

– Не, з прышлых. Ішлі да князя. Дзеля пацехі пасяліў іх на тваёй зямлі, сказаў, што князь у іхнюю хату сам заглядае часам.

– З кім пасяліў?

– З маткай.

Граф зарагатаў і ад задавальнення ажно ляпнуў сябе па калене.

Не разумеючы, што гэтак развесяліла пана, Халей далікатна падхіхікнуў.

– Ну, што ж, хвалю!

– Верай і праўдай служу! – з пачуццём выказаўся Халей, радуючыся, што ўсё так добра скончылася.

– Паслужы яшчэ. Прывязеш заўтра ейную матку сюды.

– Матку... – разгубіўся Халей. – Паночку, памерла тая матка!

– Добра. Можаш ісці.

Цівун пакідаў пакой, калі граф наўздагон гукнуў яго.

– Чакай! Гэта не тая дзеўка, па якую ты ездзіў у Шэйпічы?

– Яна...

Граф апусціўся на лаву для прысутных. Смерць дзядзькі, без’языкі Тамаш, забіты халоп, князь, Дарута, цівун... Ва ўсім гэтым была нейкая страшная загадка.

– Кажы!

Халей бухнуўся на калені. Ён разумеў, што пан усё адно дазнаецца цяпер. Ці ў дзеўкі выпытае, ці хто з шэйпіцкіх шапне, што Ходзька з грэблі прыскакаў, ды выцягнуў яго з Тамашам з полымя, таму ніяк не мог быць забітым у бойцы. Дазнаецца, што ўспомніў Халей пра дзядзьку пана, калі дах ужо абваліўся. Можа быць, каб раней, дык таксама жывым застаўся. Здагнала Ходзькава кроў...

Тое, што граф пачуў ад цівуна, уразіла настолькі, што цівун мог спакойна пакінуць маёнтак. Напалоханы сваім прызнаннем, Халей не мог кранууцца з месца.

Граф нанова перажываў смерць свайго дзядзькі. Ён раптоўна адчуў вострую нянавісць да гэтай зямлі, на якой заставаўся чужынцам. Крыўда, агіда, гнеў на ўсё тутэйшае мужыцкае племя, на хуткаспелых шляхціцаў, якія множацца ў часе няспынных войнаў, і нават на лаву, што была пад ім.

Лава была бліжэй ад усіх, і граф біў яе кулакамі, нагамі... Ён не заўважаў, колькі гэта доўжыцца. У нейкі момант ён убачыў цівуна, які спалохана і аддана глядзеў яму ў вочы. Да сцяны баязліва ціснуліся пісар і конюхі.

У пакой спаважна ўвайшоў лёкай.

– Два паны, па якіх пасылалі, чакаюць прыёму ў кабінеце пана графа!

Граф шпарка рвануўся з месца, але каля конюхаў спыніўся.

– У склеп. І каб не збег. Потым разбярүся з ім, – спакойна загадаў ён і, не азіраючыся, тыцнуў пальцам у бок цівуна.

Два секунданты падняліся з крэслаў, калі граф увайшоў у свой кабінет.

– Дуэль адмяняецца, панове! Я зараз дам вам тлумачэнні! Чакайце!

Па хуткім часе граф прачытаў секундантам наступнае: "Літасцівы васпане! Маю гонар паведаміць, што спрэчка, распачатая намі, не можа быць падставай для дуэлі вяльможаў. Такая дуэль можа скампраментаваць нас абодвух. Патлумачу. Мы апынуліся ў заблудзі. Толькі сёння ранкам я даведаўся, што прычынай спрэчкі паслужыла мая халопка, якая выдавала сябе за князёўну і вашую дачку. Злачынствы, учыненыя ёю, могуць легчы ганьбай на імёны высакародных людзей, якія скрыжуюць дзеля яе свае шпагі. Таму не прашу ў вас прабачэння і не патрабую яго. Мы, спадзяюся, абодва, ахвяры падману. Калі вас не задаволяць мае тлумачэнні, знайдзіце іншую падставу, якая б дазволіла нам скрыжаваць нашыя шпагі. Дарэчы, выбар зброі пакідаю за вамі, князь Баляслаў. Да вашых паслугаў граф Пржэвіцкі".

Секунданты чакалі.

– Гэты ліст, панове, адвязіце ў логава князя. Пачакайце там ягонага адказу.

## 2

Жыццё замка выдавала трывожны стан гаспадара. Людзі, здавалася, рабілі адно, а думалі пра нешта іншае. Кухар абварыў ногі і, крывячыся ад болю, камандаваў памочнікамі.

Печ, у якой знайшлі мёртвага лоўчага, ужо разбурылі па загадзе князя. Раскіданыя цагліны, яшчэ не прыбраныя з ночы, траплялася пад ногі памочнікам, якія спатыкаліся аб іх, утвараючы непатрэбную мітусню. Не паступала вады, якая, дзякуючы сістэме вадзяных колаў з прыскрыначкамі, падавалася з ракі па ганчарных трубах. У той час, калі кухар вырашыў абмежаваць едакоў замчышча хлебам і гароднінай з вяндлінай, майстры спускаліся да берага Свіслачы, правяраючы колы і трубы. Князь назіраў з акна за іхняй працай, калі ўбачыў людзей, якія падкрадаліся да майстроў. Усё адбылося імгненна. Дваіх майстроў скруцілі і пацягнулі ўніз, да берага ракі, дзе круты абрыў ужо схаваў іх ад вачэй князя.

Князь загадаў сядлаць коней, і па хуткім часе пяць ваяроў на чале з ім былі за брамай. Паколькі на дарозе ў горад злодзеяў не было бачна, князь накіраваў атрад на мост праз Свіслач. З развілкі перад мастом яны ўгледзелі вершнікаў.

Князь разумеў, што вада ў замак была перакрытая знарок, але быў здзіўлены, бо меркаваў, што гэта клюкі панскага двара. А дарога вяла ў зваротны бок, да слабады, дзе размясцілася царскае войска. Уцекачы павярнулі з дарогі на луг, ад якога да лесу заставалася ўжо меней за чвэрць мілі. Перакінутыя цераз спіны коней жывыя ношы абцяжарвалі скакуноў, таму адлегласць паміж уцекачамі і пагоняй хутка скарачалася. Амаль што на мяжы з лесам насустрач уцекачам выехаў маленькі атрад вершнікаў.

– Камісар! – пазнаў князь камандзіра атрада.

Злодзеі, каб ухіліцца ад нечаканай перашкоды, павярнулі коней убок так, што тыя ажно сталі на дыбы. Звязаныя майстры на гэтым манеўры зваліліся долу. Каля іх і спешыўся атрад камісара.

– Спыніцеся, прашу! – крыкнуў камісар княскай пагоні, якая працягвала пераслед злодзеяў. Ён бачыў у лесе ратнікаў. Магчыма, яны чакалі тых, хто ўжо знік у лесе. Але ў любым выпадку князь мог трапіць у засаду.

– Што вы хочаце сказаць гэтым! – у голасе князя прагучаў выклік.

– Нічога, апроч таго, што вашым людзям, – Раман паказаў на майстроў, – патрэбна дапамога. Калі вы жадалі вызваліць іх, дык вось яны. Ці, можа быць, вы разлічвалі на нас? Тады працягвайце пагоню, – ён з годнасцю пакланіўся князю. – Здаецца, мы яшчэ не бачыліся сёння? Маю гонар вітаць вас!

Князь адчуў няёмкасць за свой выклік.

– Прабачце, камісар! Пагоня захапляе! І хто гэтыя злодзеі?!

– Думаю, што лясныя разбойнікі. Хіба можна ведаць, што яны плануюць? – з апошнімі словамі Раман ускочыў на свайго каня.

Князь ведаў, што Раман кажа няпраўду, як ведаў і тое, што яна выказвалася не для ягоных вушэй.

– Дзякую за спагаду. Чым у маю чаргу магу паслужыць вам?

– Гэта не далікатна, але я і мае людзі нічога не елі... Вы мне даруеце гэтае нахабства?

– Рады запрасіць вас пад мой дах, да майго стала! Праўда, ваду толькі падвезлі на кухню, так што – чым багатыя на хуткую руку.

Да самага замчышча атрады князя і камісара рухаліся адасоблена, даверу не адчувалася паміж людзьмі. Сам князь і Раман ехалі поруч, але за ўвесь шлях не перакінуліся ні словам.

Па прыездзе ў замак гасцей правялі ў залу.

– Шаноўнае гаспадарства, я вымушаны пакінуць вас, каб распарадзіцца на кухні, – князь памкнуўся да дзвярэй.

– Я магу тым часам агледзець замак? – перапыніў яго Раман.

– Гэта вобшук? – твар князя заліла чырвань.

– Ні ў якім разе! Я вельмі люблю старажытныя замкі і складаю гісторыю і апісанне кожнага, у якім давялося пабываць. Магчыма гэта будзе цікава людзям... праз некалькі стагоддзяў.

– У такім выпадку мой госць – гаспадар у замку, – князь зноў памкнуўся пакінуць залу.

– Ці магу я суправаджаць вас?

– Калі вам даспадобы...

– Адпачывайце тут, пакуль вернецца князь або я! – імгненна загадаў камісар сваім людзям і выйшаў следам за князем.

– Дзе мы можам перамовіцца, князь Баляслаў? – прашаптаў Раман, калі здагнаў князя.

– Вось яно што! Выбачайце, я не заўсёды разумею вас. Дзядзька Затко, праводзь нашага камісара ў бібліятэку, – апошняе датычылася старога настаўніка, які выйшаў да іх з-за павароту калідора.

Праз некаторы час ён заспеў Рамана за праглядам кнігі дацкага капітана Вальхаўзена "Воінскае мастацтва", набытай князем некалькі гадоў таму ў заезджых купцоў.

– Валодаеце дацкай мовай? – сустрэў яго пытаннем Раман.

– На слых не разумею, а калі чытаць, бачыцца выразнае падабенства з ангельскай і нямецкай.

– У нас ёсць пераклад гэтай кнігі пад назвай “Вучэнне і хітрасць ратнай будовы пяхотных людзей”...

– У адных вучымся... – пасміхнуўся князь. – Але што вы хацелі сказаць мне?

– Вядома, я напрасіўся да вас не на харчы, хаця лічу справядлівым накарміць тут людзей, якія не далі вам сёння трапіць у засаду.

– Буду рады, калі гэтым ў некаторай ступені змагу аддзячыць.

– Князь Баляслаў, мушу шчыра паведаміць, што вашыя справы з князёўнай ідуць не лепшым чынам. Дакладней, канчаткова зайшлі ў тупік... – Раман замаўчаў.

– Працягвайце, слухаю вас, Раман.

– Граф сцвярджае, што князёўна звычайная сялянка, якая жыла на яго зямлі ў Шэйпічах. Мы толькі што вярнуліся адтуль. Так, Дарута, сапраўды жыла там і не так даўно пакінула вёску пры трагічных абставінах. З таго часу вяскоўцы нічога не чулі пра яе.

– А што за трагічныя абставіны?

– Па яе прыехалі ад графа людзі на чале з ягоным дзядзькам. Што за бойка там адбылося, ніхто не ведае. Хату нехта падпаліў. Дзядзька графа загінуў у полымі. Цівуна і лёкая выцягнуў парабак. Дарута і яе маці прапалі. Людзі казалі, што бачылі яе апошнім разам, калі кіравала брычкай з прывязанымі коньмі. Магчыма, што ў брычцы была яе маці, Марухна...

– Раман, вы сумняваецеся, што Дарута мая дачка?

– Пасля партрэта вашай княгіні толькі сляпы не паверыць. Перадаю вам, як пачуў тое. Але яшчэ я не ўсё выклаў, што ведаю.

– Слухаю, – князь так моцна сашчапіў свае рукі, што чутна было, як хруснулі суставы пальцаў.

– Князь Баляслаў, не сумняваюся ў вашай мужнасці. Я не сказаў яшчэ самага важнага. Граф сцвярджае, што дзяўчына забіла ягонага дзядзьку. Ён мае на тое пісьмовае сведчанне цівуна, якога, каб не ўцёк, трымае ў сутарэннях свайго палаца. Прыставу, якога я абавязаў разабрацца ў справе з палонам князёўны, граф сказаў, што разбярэцца са сваёй халопкай сам. І яшчэ. Сёння на майстроў каля ракі напалі невыпадкова, хацелі дазнацца ад іх пра вашыя сувязі з ляснымі разбойнікамі.

Пра сябе князь не думаў. Большасць з таго, што расказаў Раман, не было навіной для князя. Ён раней пачуў ад Войцеха значна болей і пра жыццё Даруты ў вёсцы, і пра той страшны дзень...

– Што рабіць?! Падкажыце, Раман!

– Я сам у адчаі, бо не бачу годнага выйсця... – у голасе звычайна ўраўнаважанага і амаль што халоднага і насмешлівага чалавека гучала калі не роспач, дык пэўная трывога. – Не бачу. Пакуль што! Упэўнены, што мы з вамі не адступімся перад абставінамі і хітрасцю графа.

– У мяне ёсць адзінае выйсце: атакаваць маёнтак, – ціха прамовіў князь.

– Што я магу сказаць?! Козыры на руках у графа развязваюць ягоныя рукі! Трэба тэрмінова вызваляць князёўну! На жаль, я маю ўладу кантраляваць нашыя ваенныя планы і дзеянні, але не маю права павесці нашых ратнікаў на маёнтак. Мне патрэбны дзень-два, каб вырашыць гэтае пытанне. Але ў нашых абставінах кожная хвіліна можа стацца трагічнай для князёўны! Буду шчырым з вамі, князь Баляслаў! Ведаючы абставіны вашага жыцця, нават мне разбой прыходзіў у галаву. Але тут можна спадзя-

ваца толькі на ўдачу. Мой маленькі атрад складаюць давераныя людзі. Збірайце сваіх. Толькі самых адданых. Глядзіце, бо здрадніцтва загубіць не толькі нас, але і князёўну.

План нападу даволі хутка быў складзены. Ён нагадваў той, які раней у іх з Войцехам не атрымалася здзейсніць. Ажыццяўленне гэтага плана, сапраўды, болей абапіралася на ўдачу, чым на логіку людзей, якія не збіраюцца здавацца ў безвыходным становішчы. Шмат верных людзей з вёсак мінулы раз трапілі ў засады. Атрад Войцеха таксама паменеў. Горш ад усяго было тое, што сама крэпасць цяпер знадворку патрулявалася маскавітамі. Да Войцеха князь ужо адправіў ганца. Ноччу, калі яму ўдасца прабрацца ў замчышча са сваімі людзьмі, будуць радзіцца, а пакуль трэба прыдумаць, як паведаміць ваярам, што атабарыліся ў горадзе...

Раман уважліва глядзеў у сухія, цёмныя ад напружаных думак і перажывання вочы князя. Ён раптам адчуў, што чалавек перад ім, магчыма, адзіны, каму ён давярае, і гэта выбар душы, а не моцы і розуму, абставінаў ці адзіноты. Інакш чаму ягоная душа адпачывае побач з князем, і нават калі ён проста ўспамінае, думае пра яго, чаму так ціха і спакойна яму? Тое, што Раман знянацку прамовіў, сталася нечаканым для яго самога.

– Князь Баляслаў, калі раптам я не змагу выбрацца з гэтай прыгоды жывым, ведайце, што я заўсёды вельмі хацеў, каб у мяне быў такі бацька, як вы.

– Я б ганарыўся такім сынам! – з пачуццём у голасе імгненна адазваўся князь. – Ну вось, а я ўсё не мог рашыцца прасіць вас...

– Той выпадак, калі я жадаю мець такую ўладу, якая дазволіла б мне выканаць любую вашую просьбу!

– Тут патрэбная толькі ўлада вашага сэрца, Раман. Абяцайце, калі што надарыцца са мной цяпер або калі-небудзь, не пакідайце Даруту без вашага клопату. Вам вядома сапраўдная гісторыя ейнага жыцця, у якую было б складана паверыць, калі б самыя драматычныя моманты гэтай гісторыі не адбываліся на вашых вачах. Бачна, што яна не падрыхтаваная для зносінаў з крывадушнымі людзьмі. А тут у нас з ёй няма нікога, апроч старога дзядзькі Затко і жменькі старых ваяроў.

– Не сумнявайцеся, князь! Я абяцаю гэта вам і, пакуль сам жывы, буду рабіць усё, каб жыццё вашай дачкі ў далейшым склалася шчаслівa. Слова гонару!

– Я ўпэўнены, Раман, што вы сказалі шчыра. Калі жадаеце, заставайцеся з гэтага часу мне сынам, а Даруце братам.

Мужчыны разам падняліся з крэслаў і моўчкі моцна абняліся.

– А цяпер за справу? – запытаўся князь.

– За справу! Беражыце сябе!

Па абедзе госці разам з Раманам пакінулі замчышча. Князь правёў іх да брамы, дзе яго перастрэў дзядзька Затко.

– Вось, чытай! У прыёмнай цябе чакаюць секунданты ад графа. Ён адмаўляецца ад прызначанай дуэлі, але не супраць новай, калі застануцца яшчэ пытанні, – паведаміў дзядзька Затко.

Князь вярнуўся ў бібліятэку прачытаць пасланне і там жа адразу склаў адказ, у якім сцвярджаў, што граф хлусіць, бо Дарута яму не халопка. Паведаміў, што суд графа над ёй будзе самавольствам пры любой уладзе. На заканчэнне князь дадаў, што разглядае хлусню графа як страх перад дуэллю.

Ён вырашыў не паведамляць Раману пра свой намер, бо жадаў сам адпомсціць за Даруту. Гэта была ягоная справа, справа гонару. Пры любым

зыходзе паядынку князь пасля сённяшняй размовы быў упэўнены, што Раман не пакіне Даруту без свайго клопату. І, магчыма, ёй так будзе нават болей надзейна, чым з ім самім.

Князь сам аднёс свой адказ секундантам.

– Спадзяюся, панове, што неўзабаве сустрэнуся з вамі!

Сапраўды, увечары секунданты зноў былі ў князя. Граф лічыў сябе абражаным і запрашаў наступнай раніцай на дуэль. Ён паведамляў, што шануе старасць князя, таму пакідае выбар зброі за ім. Калі князь пажадае біцца на шпагах, ён возьме свае. У выпадку іншай зброі забеспячэнне ёю заставалася за князем.

Князь вырашыў, што, хаця яго рукі не такія моцныя, як раней, але адзіна рыцарскі меч мае права на паядынак, які вырашае лёс ягонай дачкі.

## 3

Граф не памыліўся. Князь не пажадаў міру.

“Ну што ж, я згодны з выбарам князя. Меч – зброя вартая маіх і ягоных продкаў. І нехта з нас мае сёння шанец адправіцца да іх. Але ніхто ў караля не скажа, што я проста забіў старога. Выбіраў ён!” – з задавальненнем зазначыў сабе граф.

Палову ночы граф правёў з секундантамі і цяпер злаваўся на сябе, што так і заснуў у крэсле свайго кабінета. Здранцвелыя цяглiцы не слухаліся. Граф пачуваўся блага. Настрой таксама быў не лепшы. Ён так і не рашыўся ўвечары наведаць князёўну. Ён баяўся хараства, дасціпнасці і нават вядзьмарства Даруты, у якім цяпер падазраваў дзяўчыну. Ён не паверыў цівуну, які сцвярджаў, што гэта яна забіла ягонага дзядзьку Вінцэся, але гэтае сцверджанне казытала нервы, страшыла і рабіла Даруту яшчэ больш прыцягальнай. Спачатку граф дакараў сябе, што гэтак прыніжаўся перад звычайнай дзеўкай, але ўсё ў ім супраціўлялася гэтаму, і ён зноў называў яе ў думках князёўнай. Граф не мог пазбыцца не толькі свайго пачуцця, але і павагі, якую ўнушала яму князёўна. Ён адчуваў, што ў ейным жыцці схаваная незвычайная таямніца, якая ўпрыгожвала вобраз дзяўчыны.

Пачынала світаць. Хутка павінны былі з’явіцца секунданты.

Граф вагаўся. Ён не мог рызыкаваць жыццём, пакуль не займеў гэтую жанчыну. Але ён ніколі не гвалтаваў жанчын. Яны заўсёды самі шукалі асалоды ад блізкасці з ім. І ўсё ж такі столькі пакутаваць...

Тамаш адразу падхапіўся на ногі пры набліжэнні графа і асцярожна павярнуў ключ у дзвярах.

– Ідзі, затрымай секундантаў да майго прыходу! – загадаў граф.

Дарута спала тым самым глыбокім і моцным сном, які бывае на дасвецці, калі ўся прырода замірае перад велічным і ўрачыстым відовішчам узыходу жыццядайнага сонца на нябесны трон. Ёй сніўся высокі, ажно да неба чорны вершнік з дзідай. Вочы яго ззялі ярчэй ад ранішніх зорак, якія дагаралі на захадзе. Лёгкую чорную накідку за ім раздзімаў вецер і яна здавалася ноччу, якую рыцар сцягваў з небасхілу. Ён быў грозны і страшны, але Дарута ведала, што гэта не яе палохае вершнік. Яна хацела пайсці насустрач, пад ягоную ахову, але не магла крануцца з месца. І вершнік сам прышпорыў свайго каня. Дарута пачула голас, які скалыхнуў паветра: “Трымайся! Я памагу табе!..”

Граф здагадваўся, што князёўна перажывае нешта ў сваім сне. Твар дзяўчыны нагадаў яму твар старажытнага сфінкса, што ўразіў, калі ён шукаў удачы ў Егіпце...

…На тую вандроўку яго падахвоціў дзядзька. Але ў Егіпце дзядзька займаўся нейкімі сваімі справамі, і Эдвард, бязмэтна вандруючы, не знаходзіў прытулку ні ў чужой краіне, ні ў родзіча, ні ў самім сабе. Тая вандроўка дала яму шмат перажыванняў і ведаў, але замест удачы прынесла незразумелае спусташэнне думак, душы. Па вяртанні ў Варшаву, каб напоўніць жыццё нейкім сэнсам, ён вырашыў завесці сям'ю. Спачатку яго цешылі прыгажосць і радавітасць жонкі, новыя клопаты, але неўзабаве граф зразумеў, што не толькі не кахае сваю жонку, але нават амаль абыякавы да іхняга адзінага сына…

...Напамінак пра сфінкса падаўся графу грозным сімвалам, знакам новай бяды. Ён вырашыў, што на гэты раз спусташэнне, хутчэй ад усяго, пагражала ягонаму сэрцу.

Графу хацелася адным разам скінуць з сябе невыносную жарсць, самотную пагоню за шчасцем. Ён не разумеў, чаму гэтая дзяўчына, якая, здавалася, часам нават паддаецца яму, не жадае падзяліць з ім салодкую ношу? Граф імгненна адкінуў коўдру і наваліўся на Даруту ўсім целам, адначасна захопліваючы яе вусны сваімі.

Дарута торгнулася і шырока расплюшчыла вочы. Граф убачыў, як здзіўленне, крыўда, гнеў, змяняючы адно другое, адлюстроўваюцца ў іх. “Нічога, я разбуджу тваю пачуцьнасць[8]!” – падумаў граф, каленам, што клінам, раз'ядноўваючы напружаныя, сціснутыя ногі дзяўчыны.

За вакном працягла заіржаў Белазор, і Дарута канчаткова прачнулася, вяртаючыся ад сну да прыкрай рэчаіснасці. Яна верыла снам і рыцарам.

Дарута пацягнулася рукамі да шыі графа, дзе торгалася напружаная жылка з кропкай Зары, але граф імгненна пакрыў ейныя рукі такімі гарачымі пацалункамі, што на нейкі момант дзяўчына разгубілася. Цела Даруты міжволі расслабілася. Але яна імгненна апамяталася. Калі дзяўчына моцна абняла графа, прыціскаючы да сябе, ён быў упэўнены, што нарэшце князёўна не толькі скараецца, але і прагне яго. І раптам граф адчуў, што яму быццам бы не стае паветра. Каб вырвацца з задушлівых дзявочых абдымкаў, ён паспрабаваў устаць на ногі, але дзяўчына імгненна абхапіла іх сваімі нагамі, яшчэ мацней прыціскаючы да сябе. Граф выдаў сіплы, бессэнсоўны крык жаху, калі Дарута перакуліла ягонае цела пад сябе і скочыла з ложка. У гэты момант Тамаш далікатна прыадчыніў дзверы і тут жа схаваўся за імі.

Дарута выбегла ў калідор. Каля самай лесвіцы, што вяла ўніз, яе сустрэлі два мужчыны з шаблямі. З-за мужчынскіх спінаў выглядаў Тамаш.

Дарута адхінулася і ўбачыла графа, які, злавесна ўсміхаючыся, перакрываў ёй шлях да адступлення шпагай. З бакавога прахода напірала дворня, узброеная ўсім, што трапілася пад руку.

– У клетку! Да мядзведзя! – ліхаманкава загадаў граф.

Дарута апынулася ў акружэнні мужчын, ашчэраных каламі, нажамі, шаблямі. Колючы яе ў бакі, грудзі, спіну, яны прымушалі дзяўчыну рухацца ў напрамку сутарэння, куды вялі хісткія драўляныя прыступкі. Дарута баялася толькі аднаго – аступіцца на сходнях і самой упасці на іклы, накіраваныя на яе зверху і знізу. Прыціснутая тварам да мураванай сцяны, у якую ўпіралася лесвіца, Дарута адзіна пачула, як збоку бразнулі

завалы, пасля чаго яе ўпіхнулі ў маленькі праём з цёплым, непрадыхлівым, смуродным паветрам.

– Пакуль вярнуся, каб і следу ад яе не засталося! – загадаў граф Тамашу. – Будуць пытацца, кажыце, што збегла! – апошняе датычылася ўсіх прысутных.

Дзяўчыну каламі падпіхнулі праз дзверы праёма ў вялікую клетку.

Канваіры жагналіся, пакідаючы памяшканне. Уверсе зачыніліся дзверы. Дарута паспрабавала агледзецца ў амаль цёмным сутарэнні, святло ў якое падала праз вузкую шчыліну пад самай столлю.

У дальнім куце клеткі хтосьці варушыўся. Дарута прыціснулася да кратаў. Раздражнёны рык з кута выдаў там магутнага звера. Дарута чула загад графа кінуць яе ў клетку да мядзведзя. Яе не палохалі звяры на волі. Яна ведала, як сябе паводзіць з імі, але са звярамі, згвалчанымі людзьмі, да гэтага не сустракалася адзін на адзін.

Звер падняўся ў рост, устаў на заднія лапы. Так, гэта быў мядзведзь. Звер пераступаў з лапы на лапу, хістаючыся ў бакі, каб прывесці сябе ў ваяўнічы стан.

– Стой! – закрычала яна з усяе моцы, каб мядзведзь не паспеў затуманіць свае мазгі злосцю, ды і наогул звяры часта баяцца голасу чалавека.

Мядзведзь прыслухаўся. Радасная здагадка раптоўна скалыхнула Даруту.

– Нябога! Нябога! Гэта ты! Да мяне ідзі, ідзі, мой харошы! Спадзяюся, не забыў мяне!

Мядзведзь насцярожана рыкнуў, але сеў, а затым стаў на ўсе чатыры лапы. Дарута пачала сумнявацца ў сваёй здагадцы, але і гэты мядзведзь быў зараз для яе такім жа нябогам, як той, якога яна вызваліла з каменнай пасткі.

І раптам мядзведзь неяк таропка, няўклюдна падбрыкнуў заднімі лапамі і рынуўся да яе. Так, гэта быў Нябога! Звер успомніў сваю колішнюю гульню з Дарутай.

– Нябога! Бедны мой Нябога! – дзяўчына зусім забылася, што яна ў такім жа, як не горшым, становішчы. – Што ж яны зрабілі з табой?! – бедавала Дарута, лашчачы густую, зваляную поўсць мядзведзя. Было бачна, што ён даўно тут, не прыручаны, не дагледжаны тымі, хто пазбавіў яго волі.

Нябога цёрся аб Даруту мордай, нешта бурчэў, нібыта скардзіўся на тых, хто паланіў яго, трымае за лютага звера. Дарута ўсёй душой спачувала яму. Але чым яна можа дапамагчы яму, як і самой сабе?

“Трэба думаць! – загадала сабе Дарута. – Па-першае, ад мяне хацелі пазбавіцца. Па-другое, ніхто не ведае, што я жывая, бо замест ворага знайшла ў клетцы сябра. Дужага сябра! Па-трэцяе, я чула, што ад мяне і следу не павінна застацца. У такім выпадку сюды хутка прыйдуць, бо гаспадар некуды ад’язджае і неўзабаве збіраецца вярнуцца. Трэба падрыхтавацца і добра сустрэць іх!” – вырашыла яна.

Дзяўчына ўзялася даследаваць клетку. Таўшчэзныя жалезныя краты былі моцныя. Завала на ўваходных дзверцах была недасягальная з клеткі. Але нейкая неадпаведнасць падказвала ёй, што выйсце ёсць. Дарута раз за разам абыходзіла клетку, правяраючы на трываласць кожную жалязяку, пакуль канчаткова не ўпэўнілася, што клетка надзейна зробленая. Нябога спачатку хадзіў следам, а пасля лёг на ейным шляху, каб, мабыць, кожны раз трапляць сяброўцы пад ногі. Сапраўды, дзяўчына ледзьве не наляцела на яго. Яна проста села адпачыць на мядзведжы бок, як рабіла гэта раней падчас іхніх гульняў у лесе. І тут убачыла, што

краты насупраць яе не дастаюць мураванага долу. “Напэўна, каб можна было, не заходзячы, клетку чысціць, карміць звера”. Дарута паспрабавала прасунуць пад кратамі галаву, але нават калі б у шчыліну нейкім чынам пралезла галава, дык між кратамі заселі б плечы. Нябога ажно круціў сваёй галавой, цікуючы за намаганнямі сяброўкі. І раптам Дарута зразумела, што клетка не суцэльная, бо падлога ў ёй была на такім жа ўзроўні, такая ж, як і звонку. Майстры або разлічвалі на цяжар клеткі, або не дарабілі. Даруце было ўсё адно. Заставалася падняць клетку з аднаго боку так, каб яна завалілася на сцяну скляпення, і тады яны з Нябогам будуць на волі. Дарута падступілася да клеткі з таго боку, дзе краты былі вышэйшымі за падлогу. Брацца за краты было зручна, але некалькі падыходаў на мяжы моцы далі разуменне, што разлік майстроў быў правільным, а праца сумленнай. Нябога, які цікаваў і за гэтым заняткам сяброўкі, вырашыў, што яму прапаноўваюць новую гульню. Ён паўтарыў усё, зробленае ёю: паспрабаваў, не дужа стараючыся, прасунуць галаву пад краты, затым доўга ладзіўся, наровячы легчы на спіну. Нарэшце, хоць і не зусім на спіне, а бокам, ён падсунуў пярэднюю і заднюю лапы пад краты. Нябога злёгку тузануў іх, порстка ўкочыў і нават пачаў матляць галавой, быццам аддаючы паклоны. Дарута здзівілася, бо яна не вучыла Нябогу кланяцца, а, можа быць, і не так зразумела яго зараз. Але гэта яе не займала. Клетка яшчэ дрыжала, і Дарута зноў памкнулася падняць яе. Спрабуючы выклікаць Нябогу на спаборніцтва, яна пачала заўзята тузаць краты.

– Нябога, давай сюды! – паклікала яна, беручыся за краты абедзвюма рукамі.

Мядзведзь плюхнуўся побач. Ён зноў падчапіў ніз клеткі лапамі.

– Давай! Давай! Давай! Давай!.. – захвочвала Дарута, размерана таргаючы краты, каб падказаць рытм для агульных намаганняў.

Нарэшце клетка пачала вагацца. У нейкі момант Дарута адчула нястрымную моц, якая, вызваляючыся з сонечнага сплячэння, неслася з крывёй у кожную кропку цела. Гэта была моц разбурэння. Яна ведала, што павінна аддаць гэтую моц, інакш сама зробіцца ахвярай той сілы, якую выклікала неўтаймоўнай прагай волі.

Клетка паволі валілася на бок, калі Дарута выскачыла з-пад яе.

– Нябога! – з жахам выклікнула яна, назіраючы, як клетка адштурхнулася ад сцяны і са страшэзным грукатам стала на сваё ранейшае месца, не жадаючы выпускаць са свайго чэрава яшчэ адну ахвяру.

Напалоханы, ледзьве не раструшаны звер дзіка зароў, перакрываючы жалезны грукат.

Дарута падбегла да завалы. Як толькі завала была адкінутая, Нябога вялізнымі скачкамі пакінуў клетку і тут жа апынуўся на версе драўляных прыступак, што вялі са скляпення. У гэты момант дзверы там адчыніліся, і збіты з ног Тамаш заплюшчыў вочы, каб не бачыць таго канца, што абяцалі яму раз’юшаны звер і Дарута.

Ад свежага паветра Нябога ажно спыніўся і, аддаючы належнае волі, зароў з усяе мядзведжае глоткі.

Дарута не паспявала за мядзведзем. Дворня з крыкам разбягалася на ягоным шляху з маёнтка. Сабакі таксама ўчулі мядзведзя. З сабакарні нёсся гучны брэх. За рогам маёнтка павінен быў знаходзіцца агароджаны падворак, дзе Дарута бачыла раней Белазора.

– Белазор! – паклікала дзяўчына, бегучы да таго падворка.

Белазор з лёгкасцю пераскочыў агароджу насустрач ёй і раптам спыніўся, захроп, конскія вочы наліліся крывёю.

Даруце не было часу падумаць, што два яе верныя сябры могуць не паладзіць паміж сабой. Ды калі б і думала, дык ад таго нічога б не змянілася. Дворня на чале з Тамашам ужо зноў наступала, ашчэраная каламі і ўсім, што трапілася пад руку. Дарута падбегла да каня.

– Белазор! – дзяўчына ласкава правяла рукой па шыі каня. Дарута ведала, як прывесці каня ў спакой. Яна паклала далонь на нос каню і крыху націснула пальцамі. Конь скасіў вокам і павярнуў галаву да яе. Дарута ўхапілася за грыву незацуглянага каня і момантам апынулася на ягонай спіне.

Здалёк было бачна, што ўязная брама зачыненая. Белазор, шалеючы ад няспыннага сабачага ляманту і мядзведзя, які далучыўся да іх, нёсся ўздоўж высокай агароджы маёнтка. На процілеглым ад брамы баку агароджы Дарута ўгледзела маленькія веснічкі, зробленыя, напэўна, дзеля таго, каб скараціць шлях да ракі. Яна вярнула каня да веснічак.

Белазор прыпадняў галаву і выцягнуў шыю. Дарута не думала, што атрымаецца, бо з той пары, калі яны з маленькай Земай навыперадкі імчаліся на цыганскіх конях лугамі, ляснымі дарогамі, пераскокваючы канавы, яміны, ствалы паваленых дрэваў, прайшло шмат часу. У вёсцы, дзякуючы Ходзьку, ёй выпадала калі-нікалі праехацца верхам на конях, прызначаных болей для сялянскай працы.

Дарута блаславіла лёс, які падараваў ёй тое цыганскае сяброўства. Яе цела памятала, што рабіць. Калі капыты Белазора мякка апусціліся на зямлю па другі бок агароджы, мядзведзь ужо сядзеў верхам на веснічках.

– Малайчына, Нябога! – ухваліла Дарута. – Не адставай!

Дарута накіравала каня да берага Свіслачы, над якім удалечы, дзякуючы лёгкаму туману, здавалася, лунаў над курганам замак з каронамі вежаў. Дарута не сумнявалася, што гэта і ёсць княскае ўладанне. Шлях да кургана берагам ракі быў схаваны ад цікаўных вачэй, што адразу ўсцешыла амаль што распранутую дзяўчыну. Яна вельмі позна ўбачыла мужчын, якія біліся на мячах паблізу млына. Не спыняючы каня, якога надзейна падганяў Нябога, Дарута, не азіраючыся, праімчалася ў двух дзясятках крокаў ад дуэлянтаў. Князь і граф разам з секундантамі і конюхамі, не верылі сваім вачам, гледзячы ўслед нечаканаму відовішчу.

– Каня! – закрычаў граф, які першы выйшаў са здранцвення.

Аднак першым каня падвялі да князя.

З вежы, якая ўзвышалася над брамай замчышча, варта дзівілася таму, што раптоўна адкрылася вачам. Вершніца, попельныя валасы якой зіхацелі золатам у мяккіх сонечных промнях позняй восені, а падраная белая кашуля ўтварала ці то ветразі, ці то крылы, ва ўвесь дух ляцела на бліскучым чорным кані, за якім гнаўся сапраўдны мядзведзь. Следам наперадзе невялікай світы скакалі два рыцары з мячамі.

– Князь! – пазналі першым гаспадара ў адным з коннікаў.

– Пан! – імгненна вызначылі і другога.

Князь пакрысе адставаў. Было відавочна, што пан мае ўсе шанцы здагнаць вершніцу першым. І тут над крутым абрывам, які ўтварыла на павароце рэчышча Свіслачы, з'явіўся яшчэ адзін вершнік у чорным. Ён галопам пагнаў свайго каня са стромы, адразаючы вершніцу ад праследнікаў.

– Чорны камісар! – ахнуў нехта з вартаўнікоў.

Браму хутка паднялі, спусцілі мост, і невялічкі атрад пад кіраўніцтвам дзядзькі Затко паскакаў на конях на падмогу князю.

Шпага камісара і меч графа скрыжаваліся ў паветры. Граф, напружанне якога яшчэ не спала ад дуэлі з князем і нават узмацнілася пагоняй за князёўнай, спяшаўся. Цяпер адзінай ягонай мэтай было дагнаць сваю былую паланянку. Ён кінуў кароткі позірк услед бяглянцы, каб ацаніць свае шанцы дагнаць яе, і быў імгненна выбіты ўдарам прамой нагі з сядла. Камісар, не жадаючы змагацца, крутануў свайго каня, каб суправаджаць Даруту, як з ім параўняўся князь.

– Абараняйце дачку, князь Баляслаў! Няхай вашыя секунданты скачуць следам за вамі! Каму, як не вам зараз быць побач з ёй! Не страцце яе ў трэці раз! Спяшайцеся! – крыкнуў камісар. – Спяшайцеся, я даганю вас!

Граф з цяжкасцю падняўся з прамерзлай зямлі. У яго не ставала ўжо ні фізічнай, ні маральнай сілы працягваць барацьбу. Ён падняў свой меч, які адляцеў пры ягоным падзенні ўбок, і абаперся на яго, як на кій. Пад'ехалі і ў нерашучасці спыніліся секунданты графа. Паказаўся атрад дворні графа.

– Што тычыцца абавязкаў князя перад вамі, граф Пржэвіцкі, я бяру іх на сябе. Патлумачу гэта вам адзін на адзін. Умовы нашай сустрэчы дашліце з секундантамі. – Раман азірнуўся. Набліжаўся атрад дзядзькі Затко. – А цяпер, граф, раю вам адаслаць сваіх людзей, інакш адкажаце за нявінна пралітую кроў перад уладай.

Граф моўчкі ўзлез на свайго каня і насмешліва зірнуў на камісара. Цяпер, ведаючы слабіну гэтага чалавека, можна было разлічваць на перамогу над ім.

## 4

Дарута стаяла пасярод пляца замчышча, не ведаючы, што ёй далей рабіць. Белазор, прыціскаючы вушы, уздрыгваючы і пераступаючы нагамі, касіў вокам на мядзведзя. Нябога то ўставаў на заднія лапы, махаючы ў паветры пярэднімі, нібыта вітаў ашчэраную каламі і віламі княскую дворню, што абкружала незвычайную тройцу, то сядаў на дол, хітравата-пакрыўджана лыпаючы маленькімі вачамі. Даруце здавалася, што Нябога чакаў іначшае сустрэчы ад людзей. Раптам з кола абкружэння выйшаў Яцка. Цыган прыйшоў разам з ляснымі таварышамі ў замчышча, каб удзельнічаць у начным нападзе на панскі палац. Яцка ціхенька свіснуў. Мядзьведзь зноў устаў на заднія лапы і пачаў круціцца на месцы, нязграбна прытупваючы. Яцка нешта крыкнуў яму па-цыганску, і мядзведзь пачаў аддаваць паклоны прысутным. Тады цыган раскінуў рукі і пайшоў на мядзведзя.

– Ну, здарова, рамалэ! Ай, рамалэ! – Яцка і Нябога пачалі жартам барукацца, што выглядала больш абдымкамі.

Дворня зразумела, што мядзведзь прыручны, але на ўсякі выпадак калы не пакідала.

– Дазвольце, князёўна, аказаць[23] вам камісара, майго сябра, якога з нядаўняга часу маю за сына, – перад Дарутай у паклоне застылі князь і камісар.

– Прашу вас, мянуйце мяне Раманам! – камісар выструніўся. – Вы дазволіце, князёўна? – Раман імгненна адшпіліў сваю чорную накідку і захутаў у яе дзяўчыну.

Дарута спалохалася, што зараз зноў загучаць галасы мінулага і яна страціць прытомнасць. Раман быў вельмі падобны да чорнага рыцара з ейнага сну. Той чорны рыцар у сне абяцаў ёй дапамогу, а гэты на яве здзейсніў.

– Князёўна, што з вамі? – Раман хацеў падтрымаць дзяўчыну, але вочы яе ўжо смяяліся нейкай сваёй пяшчотнай думцы.

– Дзякую вам, – прамовіла Дарута.

– Не ведаю, чым я заслужыў вашую падзяку, пра якую мог марыць хіба што ў сне! – усклікнуў Раман.

– Можа быць, і ў сне, – дзяўчына хітра зірнула на Рамана. – Але не важна. Галоўнае, я ведаю.

– Безумоўна! – пацвердзіў Раман, які палічыў гэта за жарт. Яму яшчэ не даводзілася жартаваць з жанчынамі, але раптоўная бескоапотная лёгкасць падштурхнула яго. – Безумоўна! Жанчыны заўсёды ведаюць галоўнае, бо трымаюць ключы ад усіх таямніц свету.

– А замкі на таямніцы чапляюць мужчыны, так? – наіўна запыталася Дарута, але вочы яе зноў весела бліснулі.

– Не, мне здаецца, што і замкі прыдумалі яны. Ну, хіба што чапляюць нашымі рукамі.

– Вось як? А мне здаецца, што і таямніцы прыдумалі мужчыны, ад прагі растлумачыць тое, чаго не ведаюць. Так, князь? – Дарута азірнулася. Яна так імкнулася да князя, а зараз нават забылася на яго. Ёй было сорамна і радасна.

Князь дзівіўся маладым людзям, якія гулялі словамі, паняткамі, не зважаючы на ўсіх вакол, на тое, што на Даруце падраная начная сарочка, якая вызірае з-пад чорнай накідкі Рамана, а Раман, няйначай, мерзне. Ён не думаў, што мае права на ўвагу Даруты, але адчуваў сябе самотна. Князь адшпіліў свой плашч і разам з ім упершыню абняў сваю дачку.

– Дарута, я не патрэбны нікому і не памёр яшчэ толькі таму, што чакаў гэтай сустрэчы, – нечакана прызнаўся ён.

– Магчыма, вы памыляецеся, князь?

– Не, я жывы яшчэ!

Дарута і Раман далікатна ўсміхнуліся на жарт князя.

– Пайшлі, дачка, – князь мацней прытуліў Даруту за плечы, накіроўваючы ў замак. Праз некалькі крокаў ён азірнуўся. – Раман, думаю, што і вы жадаеце бачыць сустрэчу маці і дачкі?

– Не, князь, вам ёсць што расказаць адно аднаму. Паблукаю па крэпасці. Я прыйду. Потым.

– Дзякую, Раман. Вось і дзядзька Затко! – абрадваўся князь свайму любаму настаўніку, вернаму паплечніку і бываламу ваяру, які падышоў да іх. – Ён якраз не дасць вам заблукаць, – князь з Дарутай рушылі ў замак.

Белазор, пасля таго, як конюхі абцерлі, павадзілі яго па замчышчы і накрылі папонай, так і застаўся стаяць перад вялізазнымі, абабітымі каваным жалезам дубовымі замкавымі дзвярыма, за якімі знікла Дарута.

Раман з дапамогай дзядзькі Затко абыходзіў крэпасць. Не зважаючы на гарматы, старыя, месцамі пашкоджаныя ўмацаванні ды малая колькасць абаронцаў сведчылі пра заняпад. Усё магло закончыцца гібеллю не толькі старажытных муроў, але і князя з дачкой. Раман разумеў, што гэта іхняя зямля, іхняе роднае гняздо, іншага няма ў гэтых людзей. Але ім не пакінулі выбару. Раману адназначна было моўлена, што замак па-любому неўзабаве ўзарвуць, таму людзі павінны пакінуць яго, калі

жадаюць застацца жывымі. Уласна, з гэтай місіяй камісар і шукаў той першай сустрэчы з князем сам-насам. Колькі змянілася ў іхнім жыцці за апошні час! Колькі змянілася ў ім самім! Раман ведаў, што застанецца з імі да канца, калі нават не ўдасца ўгаварыць князя. Ён стараўся не думаць пра тое, што не толькі ягоная паспяховая кар'ера, але і само жыццё могуць стацца загубленымі, што наперадзе чорнай прорвай ляжала невядомасць, праз якую патрэбна было перабрацца. І ўсё ж такі, як ні дзіўна, ён адчуваў спакой і радасць.

Раман якраз падняўся на другі паверх, калі з бакавога калідора выйшла ціхая, расчуленая, з яшчэ не высахлымі слязамі Дарута і падцягнуты, урачысты князь, які не мог адвесці позірк ад сваёй дачкі. Як пасаваў строгі і цяжкі строй князёўны да суровых старажытных муроў!

"А князь яшчэ зусім не стары! – падумаў Раман. – Ён гэтак жа мог бы весці тут сваю княгіню..." – нешта накшталт рэўнасці варухнулася ў ягонай душы. Ён адступіў у цень, каб нічым не зашкодзіць іхняй радасці.

– Раман! Мы вас шукаем! – Дарута памкнулася яму насустрач і вінавата азірнулася на князя.

Князь рассмяяўся, але рэзка абарваў свой смех, не верачы сабе. Ён баяўся спалохаць сваё шчасце. Пачуцці перапаўнялі яго. Раптам ён пабялеў з твару.

– Дарута! Раман! Чакайце мяне! Я зараз вярнуся, – князь хуткай хадой рушыў у зваротным накірунку.

Маладыя людзі ў трывожным недаўменні адышліся да акна.

– Што з князем, як вы думаеце, князёўна? Можа быць, яму патрэбная дапамога?

– Не ведаю, што і думаць, – разгублена адазвалася Дарута. – Толькі што быў вясёлы, і раптам...

– Дзеці мае! Не трэба гадаць! – пачуўся здаля голас князя, які неўзабаве з'явіўся і сам, несучы ў руках невялікую скрыначку. Ён хутка наблізіўся да Даруты. – Выбачайце мне, дачка. Я прысабечыў тое, што належыць вам. Зірніце, – князь адчыніў драўляную, багата інкруставаную жоўтым і белым металамі скрыначку.

– Ах! – міжволі вырвалася ў Даруты. На чырвоным аксаміце ляжаў яе верны сябра і спадарожнік, выратавальнік і дзіцячая забава: нож аднарога. Яна тужыла па ім, часам па звычцы шукаючы на шыі матузок, на якім падвешвала ў скураной торбачцы нож, хаваючы ад староннiх вачэй. Дарута верыла, што калі-небудзь ён вернецца да яе, і вось...

– Бачу, што вы пазналі, Дарута. Яго знайшлі на вашых грудзях, калі вы ўпершыню прыйшлі ў замак і страцілі прытомнасць. Ён раней належаў мне і быў згублены мной, хаця я схіляюся да думкі, што быў скрадзены ў мяне. Вядома, я вельмі ўзрадаваўся яго вяртанню, загадаў, каб вас добра лячылі, выказвалі шчыры клопат і пашану. Але як я вінавачу сябе! Я нават падумаць не мог, што яго прынесла мая дачка...

– Вы той малады князь, які атрымаў нож ад Бэнга?.. – Даруце здалося, што яна трапіла ў казку.

– Той, ды ўжо далёка не малады. Але адкуль вы ведаеце пра Бэнга, дачка? – здзівіўся князь.

– ...І я ішла сюды ўсё мае жыццё, каб вярнуць вам...

– ...Сябе! – падхапіў князь. – Спадзяюся, што ўсё вашае жыццё яшчэ наперадзе! Вы проста ішлі дадому. Вазьміце яго, ён ваш, мая любая дачка, ён не толькі вярнуўся да мяне, ён аказаў сябе яшчэ болей шчодрым: ён

вярнуў мне дачку, мой адзіны сапраўдны скарб на зямлі, – князь працягнуў скрыначку з нажом Даруце.

Дарута баялася дакрануцца да нажа, каляровае дзяржальна якога, здавалася, мігацела жывым ззяннем.

– Гэта ваш нож, які я бласлаўляю за тое, што прывёў мяне да вас, мой гаспадар князь-бацька.

– Тады я не вяртаю яго вам, я вам ахвярую гэты дзіва-нож.

– Дзякую за дарагі падарунак, мой князь! – Даруце зрабілася лёгка, радасна, быццам дадалося моцы. Яна хутка выхапіла нож са скрыначкі і пакланілася князю.

– Будзьце блаславёнай, дачка. Бачу, Раман ужо зачакаўся вашай увагі. Але вы мне скажаце, адкуль ведаце пра Бэнга? Хаця потым! Мне вельмі хочацца ведаць і пра тое, як гэты нож трапіў да вас.

– А можа быць пакінуць нож у вас, дарагі князь? Калі раптам згубіцеся, ён прывядзе вас да мяне! – заявіла Дарута, спрытна хаваючы нож некуды ў складкі сваёй багатай спадніцы.

Мужчыны засмяяліся ад нечаканага жарту і спрыту дзяўчыны.

– Князеўна! Мне таксама б хацелася даведацца пра тое, аб чым пытаўся наш князь! Але пакуль нож яшчэ тут, вы мне можаце растлумачыць, што гэта за дзяржальна ў вашага нажа?! – папрасіў Раман.

– Магу.

– Выбачаюся, маладыя людзі, але мы забыліся на ежу. Да таго ж у нас сёння свята! Мне патрэбна даць пэўныя распараджэнні, каб мы адчулі гэтае свята! – князь падвёў Рамана да Даруты і абняў іх. – Дзеці мае, можа быць, я трапіў у лепшы свет? Я не варты гэтага шчасця!

– Князь! Вы зноў за сваё! – з жартоўнай пагрозай у голасе ўсклікнула Дарута.

– Ну вось, вы бачылі, Раман? Знайшлася і на мяне ўправа! Трымайцеся хоць вы, бо Дарута прыроджаная ўладарка! – князь ласкава зірнуў на дачку. – Раман, я пакідаю на вас Даруту! Яна зусім не ведае свайго радавога гнязда. Пакуль я буду заняты, пакажыце ёй хаця б сабе наваколле з даху замка. Але не доўга. Кухары не прымусяць нас чакаць! Не крыўдзіце Рамана, князёўна! – ён лёгкай хадой прадоўжыў свой шлях.

Маладыя людзі замілавана паглядзелі ўслед князю і рушылі да спіральных каменных сходаў, якія вялі наверх, паварочваючыся, як і ва ўсіх замках, за сонцам.

– Ведаеце, Дарута, людзі ў большасці праварукія, таму такая лесвіца дае абаронцам замку, якія звычайна спускаюцца, дадаковы шанец, бо праціўніку пры пад'ёме нязручна трымаць у руках меч, – патлумачыў Раман.

– Я ляўша, Раман.

– Такіх праціўнікаў называюць праклёнам для замка.

– А калі гаспадар ляўша?

– Леварукаму гаспадару лепш пазбягаць бою на такой лесвіцы, бо яна сама можа стацца праклёнам яму.

Дарута прамаўчала.

Калі нарэшце падняліся на дах замка, Раман не ведаў, аб чым далей гаварыць з князёўнай. Ён нават баяўся паглядзець на яе. Магутны разлог у блакітным абрамленні далёкіх лясоў, дол з яшчэ зялёнымі лугавінамі, рассечанымі срэбранымі стужкамі водаў дзвюх рэк, якія, люструючы нябёсы, ядналіся каля падножжа кургана, усё гэта не магло быць выпадковым, усё гэта гаварыла за яго.

Дарута, хаця і пачувала сябе спакойна, але часам ёй здавалася, што чарговы павеў ветру сарве яе ў бязмежжа невядомасці і яна зноў будзе шукаць шлях дадому. Цяпер ужо зусім адна, без Марухны. І тады Раман, мацней сціскаў яе руку. У нейкі момант яны адважыліся зірнуць адно на аднога. Гэта адбылося адначасова і крыху збянтэжыла іх.

– Дарута! Цяпер я разумею, чаму паклікала мяне гэтая вайна! – Раман убачыў, як спахмурнела Дарута. – Выбачайце маю недалікатнасць, князёўна. Я зусім не жадаў параніць вас.

– Не трэба, Раман. Вернемся, я стамілася.

Вярталіся моўчкі. Раман пад руку падтрымліваў дзяўчыну, якая пад канец дня і сапраўды хісталася ад стомы і нервовага напружання. Раман не ведаў, як яе рука зноў апынулася ў ягонай, але адчуў, што дзяўчына яшчэ і замерзла. Ён асцярожна абняў Даруту за плечы.

– Вы дазволіце?

– Вядома. Я вам цяпер сястра, казаў князь, – у перабольшана сцвярджальнай інтанацыі Даруты чулася хутчэй пытанне, чым сцверджанне.

– Дарута, я не здолею гэта растлумачыць вам, бо ўпершыню такое адбываецца са мной, але вы мне болей, чым сястра! – Раману вельмі захацелася дакрануцца да дзяўчыны, быццам ён быў няўпэўнены ў яе існаванні.

Дарута пачула, як гучна б’ецца сэрца ў грудзях у Рамана. Роўна так білася яно ў маладога князя, які нёс на руках маленькую дзяўчынку... У яе зноў усё закружылася ў галаве.

Калі Дарута расплюшчыла вочы, то зразумела, што ледзь не страціла прытомнасць па іншай прычыне. Раман, не адпускаючы ейных вуснаў сваімі, трымаў яе на руках. Яны адначасова адарваліся адно ад аднога, каб зазірнуць у вочы і ўведаць, што дало гэта кожнаму з іх.

Стрэл, які неўспадзеў пачуўся за ракой, імгненна пераключыў увагу маладых людзей. З боку царскага войска ва ўвесь дух імчаўся вершнік, якога імкнуліся пераняць з дзясятак узброеных людзей на конях. Вершнік відавочна трымаў кірунак у бок замка.

– Падобна, што нехта мяркуе ратавацца ў нас! – ускліклікнула Дарута, адхіляючыся ад Рамана.

Раман зразумеў, што ён па-ранейшаму чужы тут. Ён моўчкі паставіў Даруту на ногі. Дарута азірнулася.

– Раман, што вы маўчыце? Што рабіць?

– Князёўна, тут вашая ўлада рашаць.

– А! Зразумела! – Дарута кінулася ў бок сходаў, якімі нядаўна падымалася на дах.

– Дарута! А як жа я? Вы не жадаеце ўзяць мяне з сабой? – крыкнуў наўздагон Раман.

– Я не збіраюся камандаваць вамі! – пачулася ўжо са сходаў.

– Напэўна, мне давядзецца ўвесь мой век ганяцца за вамі, Дарута! – Раман у некалькі скачкоў ужо амаль дагнаў дзяўчыну.

– А гэта вам вырашаць, дарагі... – Дарута ледзь не сказала “чорны камісар”, як пачула мімаходзь мянушку Рамана ад некага з тутэйшай дворні.

– Дарагі? Дарута! Вы робіце поспехі! – Раман не мог стрымаць смех, здагадваючыся, што дзяўчына збіралася сказаць нешта зусім недаспадобнае яму.

Дарута, каб не паказаць разгубленасць, бессаромна задзіраючы цяжкую, спадніцу, стрымгалоў пусцілася ўніз па небяспечна высокіх напаўсцёртых прыступках.

На двары яе сустрэў князь, які паведаміў, што паслаў сваіх людзей насустрач нейкай бяглянцы, якая скача ад маскавітаў у крэпасць.

– Падобна, што гэта цыганка, – паведаміў князь. – Але, можа, хто з лясных пераапрануўся... Мы рыхтавалі напад на маёнтак, каб вызваліць вас, дачка. Частка людзей ужо тут. Астатнія з Войцехам будуць сёння прабірацца да нас.

– Войцех?! – Дарута разгубілася. Яна не разумела, як магла забыцца на сябра пасля ўсяго, што яны перажылі разам! – Белазор! – гукнула яна ў адчаі каня, які і так стаяў побач.

– Дачка! Спыніся! Без цябе... – князь замоўк, бо Дарута ўжо мінала браму замчышча. – Без яе не жыў і з ёй наўрад ці выжыву! – у роспачы прамовіў ён Раману, які апынуўся побач.

У гэты момант зноў пачуўся стрэл. Цяпер ён быў ужо значна бліжэй.

– Каня! – Раман, як ашалелы, сам кінуўся да першага асядланага каня, які трапіўся яму на вочы.

На другім баку моста праз Свіслач ішла сапраўдная бойка. Людзі князя на скаку ўтварылі праход, каб прапусціць цыганку, якую ўжо амаль што дагналі рэйтары. І тут бліжэйшы з рэйтараў навёў свой доўгі пісталет на цыганку. Адлегласць паміж ім і жанчынай не пакідала шанцаў бяглянцы. І ў гэты момант Раман убачыў Даруту, якая выскачыла на Белазоры з задніх радоў ва ўтвораны праход. У руках дзяўчыны нешта бліснула, і пісталет рэйтара ўпаў долу. Тое, што адбылося далей, Раман не мог зразумець. Цыганка павярнула свайго каня на пераследнікаў. Яе доўгія раскалмачаныя бліскучыя валасы здаваліся хмарай, з якой павінны біць маланкі. Маланак не было. Наадварот, яна раптам няўклюдна саскочыла з каня і ўпала на зямлю. Яе тут жа абкружылі царскія вершнікі. Дарута з людзьмі князя ўрэзаліся ў царскі атрад. У паветры замільгалі шаблі.

– Дарогу! – штомоцы закрычаў Раман. – Дарогу цару!

На нейкі момант усталявалася цішыня. Людзі азіраліся, шукаючы вачыма цара. Раман і сам не мог зразумець, чаму раптам прыплёў цара, але смела накіраваў каня да рэйтараў. – Дзе справядлівасць, там і цар, – дадаў ён, каб неяк патлумачыць сваю заяву.

Зблізу Дарута не сумнявалася, што бачыць перад сабой цыганку. Маладую, рухавую, як агонь, што несупынна калыхаецца ў вогнішчы, заміраючы на няўлоўнае імгненне часу, сапраўдную цыганку. Дарута расчаравана ўздыхнула. Ёй не было ніякай справы да гэтай цыганкі.

Вайскоўцы пазналі камісара і расступіліся.

– Во-во, якраз цару нашкодзіць хацела гэтая погань цыганская! – азваўся нехта з маскавітаў.

– Жанчына, што ты рабіла з таго, што можа зашкодзіць цару нашаму? – з пагрозай у голасе запытаўся Раман.

– Нічога.

– Адказвай шчыра, інакш цябе чакае смерць.

– Маці захварэла. Шукала зёлкі ёй. А яны... – цыганка азірнулася на сваіх пераследнікаў. – Яны што каршукі наляцелі.

– Што благога зрабіла гэтая жанчына тым, што збірала зёлкі для сваёй маці? – звярнуўся Раман да вайскоўцаў.

– А ты запытайся ў яе, як яна тыя зёлкі менавала, і ўсё зразумееш.

– Жанчына, як ты менавала тыя зёлкі, што збірала тут?

– Царскім зеллем.

– Зелле для цара?

– У нас яго называюць казліннікам смярдзючым.

– Чулі! Чулі! – загулі маскавіты. – Мала таго, што хоча атруціць цара, дык яшчэ і абражае яго!

– Жанчына, каго ты назвала смярдзючым казліннікам? – запытаўся Раман.

– Не каго, а што! Гэтак зёлку называюць, бо яна цар сярод раслін.

– Смярдзючы казліннік – цар! Калесаваць яе за... – ажно задыхнуўся ад злосці нечы сіплы голас.

– Жанчына, калі твая расліна мае такую нядобрую назву, трэба разумець, што яна ні ў якім разе не можа суадносіцца з царом нават у раслінным царстве, – павучальна пачаў Раман.

– Ну гляньце вы! Што ў гэтай траве такога, што вы прычапіліся да мяне? – цыганка развязала рог спадніцы, адкуль дастала пучок каранёў і некалькі тоўстых сцяблінаў з засохлымі ружовымі кветкамі накшталт кветак бобу.

– Ваўчуга! Гэта ваўчуга! – падала голас Дарута.

– Яшчэ адна! – узвіўся да віскату нечы голас.

– Якія допыты! Усё і так зразумела! – падтрымаў нехта з рэйтараў.

– Бач ты! Прыбралася як царыца, дык і цара абражаць можна?! Што стаім?! Вязаць іх! – пасыпаліся воклічы з усіх бакоў.

Атрад маскавітаў заварушыўся. Княжыя людзі, якія ўжо збіраліся ад‘ехаць разам з Дарутай, агалілі свае шаблі.

– Стойце дзе стаіце! Усе! Толькі допытам можна дазнацца праўды! – спыніў варожы настрой камісар. – Хто ваўчуга? Цыганка гэтая? – падказаў ён Даруце.

– Расліна! Яе на поўдні ваўчугай называюць.

– Добра, – уздыхнуў ён з палёгкай. – Князёўна, прашу вас, не трэба перашкаджаць допыту, – папрасіў ён Даруту, каб рэйтары зразумелі, з кім маюць справу. – Жанчына, дзе твая хворая маці?

– Маці ў табары.

– А дзе стаіць твой табар?

– Цяпер?

– Так.

– Калі вашыя не пагналі, дык пад Бабруйскам.

– А як ты дакажаш, што маці твая хворая і менавіта гэтая... смярдзючая расліна... ёй патрабуецца?

– Калі яшчэ жывая, сама пацвердзіць.

– Ты хочаш сказаць, што мы павінны ехаць да тваёй маці, каб дазнацца праўды?

– А як інačай?..

– Жанчына, калі б ты не ўцякала, мы б адпусцілі цябе. Але ўцякаюць зазвычай злодзеі.

– І тыя, хто палохаецца. Я ж кажу, што наляцелі на мяне знянацку, як каршукі. Хто б не спалохаўся?

Даруце шкада было пакідаць недзе тут нож аднарога, якім яна выбіла пісталет з рук рэйтара, ды і цыганкі было шкада, але яна зрабіла і так зашмат. Злосная стома гэтага дня штурхала хутчэй вярнуцца ў замчышча. Яна ведала, што некалі нож сам вернецца да яе.

– Магу паверыць. Але па ваенным часе верыць нельга нікому. – Раман бачыў, што Дарута збіраецца павярнуць каня, і вырашыў пакінуць ліхашчасную цыганку рэйтарам.

Цыганка не знайшла, што адказаць, але ейныя вочы ўспыхнулі задзірыстай нянавісцю болей красамоўна, чым любыя словы.

Голас цыганкі ўвесь час як быццам нешта нагадваў Даруце, але начулася яна тых цыганскіх галасоў у дзяцінстве – не пералічыць. І ўсё ж такі... Дарута прытрымала каня. Упартае маўчанне і задзірысты выклік маладой цыганкі былі несумненна і адназначна знаёмыя. “Няўжо Аза? Аза... Аза... Аза... – раптоўна запульсавала радасная думка, хаця абставіны зусім не адпавядалі радасці. – Вось як мы сустрэліся з табой, Аза! Што ж я магу зрабіць для цябе?”

– Пан камісар! Я сведчу, што трава, якую паказала цыганка, насамрэч лекавая. І рэдкая ў нашых мясцінах. Я ведаю толькі адно месца, дзе яна расце тут. Гэта...

– Чакайце! – адзін з рэйтараў імгненна апынуўся каля Рамана з Дарутай. – Гэта нічога не будзе сведчыць, бо цыганка пачуе і толькі пацвердзіць тое месца, дзе брала траву. Трымайце цыганку, а мы ад’едзем, каб яна не пачула, што скажа гэтая...

– Князёўна, – падказаў Раман. – Так, мы крыху ад’едзем, каб не было сумненняў, і пачуем ад князёўны пра тое месца, дзе расце смярдзючая трава, – паведаміў ён усім. – Пасля няхай ужо вядзе нас цыганка туды, дзе брала траву. Калі месца, названае князёўнай, і тое, што акажа цыганка, супадуць, будзем лічыць, што яна казала праўду.

– Ды тут недалёка! – абрадвалася цыганка.

Азе, а гэта сапраўды была яна, звязалі рукі і пасадзілі на каня паперадзе аднаго з рэйтараў. Атрад маскавітаў і княжыя людзі, якія не збіраліся ў такіх абставінах пакідаць Даруту, паскакалі ў напрамку, што паказвала Аза. Спыніліся на поплаве каля Бярэзіны за слабадой, дзе месцілася царскае войска. Цяпер было зразумела, што цыганка наўрад ці магла пазбегнуць тут сустрэчы з масквітамі.

Неўзабаве камандзір атрада рэйтараў вымушаны быў пацвердзіць, што месца зарасцяў казлінніка, да якога прывяла цыганка, супадае з паведамленым князёўнай.

– Можна перамовіцца з вамі, князёўна, – раптам звярнуўся ён да Даруты.

– Слухаю.

– Гэта адзіна між намі.

– Добра.

Крыху ад’ехалі.

– Выбачайце, князёўна, але я не веру іхняму племені. Яшчэ адзін момант застаецца. Скажыце, калі ласка, ад якой хваробы ўжываюць гэтую траву?

– Шмат ад чаго.

– А хаця б нешта можаце назваць?

– Дапамагае пры крывацячэннях, лекуе ныркі ад камянёў. Ад сутаргаў. А што вас турбуе? Я ведаю травы, магу дапамагчы вам.

– О не! Я здаровы. Запытаюся ў цыганкі, на што хварэе ейная маці.

Калі Дарута і рэйтар вярнуліся да ўсіх, камісар паведаміў ім вынік свайго даследвання.

– Так, падобна, што праўду казала жанчына, – зазначыў ён, параўноўваючы карані і сцяблінкі травы з засохлымі на іх познімі кветкамі, што знайшліся ў цыганкі, з зарасцямі казлінніка на лугавіне. – Жанчына паказала нават ямкі, дзе капала карані. Думаю, што варта адпусціць яе з мірам.

– Чакайце! Скажы, мілая, на што хварэе твая маці? – звярнуўся рэйтар да цыганкі.

– Яна сцякае крывёй, – у вачах Азы бліснулі слёзы.

Рэйтар уздыхнуў.

– Разбірайцеся далей з цыганкай як лічыце патрэбным, – звярнуўся ён да камісара, – а мы тут і так шмат часу страцілі. Атрад! Слухай маю каманду! Вяртаемся ў ратны стан! – загадаў ён.

– Жанчына, ты вольная ісці да сваёй маці! – прамовіў камісар. – Хто-небудзь, развяжыце ёй рукі!

Аза, як толькі развязалі ёй рукі, імгненна выцягнула з нетраў сваіх спадніц нож аднарога.

– Князёўна, я вярнула табе твой клінок, – прамовіла Аза Даруце, якая ўжо злезла з Белазора і стаяла насупраць.

– Аза! Цыганская князёўна! Дарагая мая ўпартая дзяўчынка! Я пазнала цябе сама, не сумнявайся! – Даруце здалося, што разам з Азай яна абняла ўсё сваё далёкае, вялікае ў прыгодах, шчаслівае ў знаходках, дзівоснае ў сустрэчах дзяцінства.

Раман глядзеў на дзяўчат, дзвюх неверагодных князёўнаў, якія стаялі, моцна трымаючы адна адну ў абдымках, не адрываючы гарачых поглядаў адна ад адной, і не мог паверыць у здагадку, якая мільганула ў ягоных думках.

– Дык ты вярнулася да рэйтараў, каб падняць нож Дарута? – не вытрымаў ён. Раман зусім не чакаў такой самаахвярнасці ад цыганкі, тым болей ад маладой, поўнай агню жыцця.

Аза прамаўчала.

Дарута адчула, што Аза не жадае размаўляць з Раманам.

– Што ты будзеш рабіць, Аза? Калі можаш, застанься ў нас хаця б на дзень. Якое тваё жыццё? Мяне хвалюе, што сталася з Зарай. Тым болей хачу ведаць, як знайшлася твая маці...

– Дарута, выбачай, якраз не хачу страціць яе другім разам. Я павінна вярнуцца да маці як мага хутчэй. Ёй не памаглі зёлкі, што давала раней. Вялікую надзею маю на гэтага царскага казлінніка. Ледзьве знайшла яго і, калі б не ты, з ім бы сама загінула. Дзякую табе!

– Сястра мая! Ведай, калі ласка, дзе мой дом, там дом і твой. Дзе мая сям'я, там і твая. Я таксама не хачу страціць цябе! Дзякую лёсу, які звёў нас! Я маю вялікую надзею на ягоную ласку, што падаруе нам яшчэ не адну сустрэчу. Адпускаю цябе, але не з сэрца майго. Будзь благаславёна на дарогах тваіх!

– Дарута! Мая душа мовіць табе тое самае. Адзінае, пра што буду прасіць цябе на расстанне – беражы сябе! Ты бачыш у людзях лепшае, што заклаў у іх Бог. Але... Яны маюць і шмат іншага, закладзенага ў іхні лёс імі самімі...

Дарута ўжо не толькі амаль не чула Азу, але, дзякуючы слязам, якія раптоўна струменямі пацяклі з вачэй, амаль што і не бачыла...

Па дарозе ў замчышча Дарута, каб супакоіцца, старалася не думаць пра Азу, а Раман маўчаў і толькі развітаўся з ёю і князем ужо на падворку.

Да вечара частку коней, якія знаходзіліся ў крэпасці, развялі па сваіх хатах ваяры. Некалькі ўлюбёных коней князя, у тым ліку і Белазор, яшчэ заставаліся, калі князь нечакана аддаў загад вызваліць крэпасць і ад іх. Дарута запатрабавала, каб пакінулі ейнага Белазора, на што князь адмовіў, што ваенныя загады не аспрэчваюцца.

– А цяпер, як любай дачушцы, – усміхнуўся князь да нахмуранай Даруты. – Падчас аблогі коні, хутчэй ад усяго, загінуць тут. Ад гарматных стрэлаў або ад голаду. Павер старому ваяру. У нас ёсць шанец уратываць іх. Коні будуць чакаць нас у лагеры Войцеха. Калі небяспека мінецца, вернуцца ў крэпасць, або нам давядзецца ісці да іх.

Некаторы час Даруту можна было бачыць на двары замчышча. Дзяўчына горача і па-змоўніцку нешта прамаўляла каню ў вушы. Яна сама падвяла Белазора конюху.

– Ідзі, Белазор. Будзеш чакаць мяне. Я сама прыйду за табой, чакай, Белазор! – Дарута перадала аброць у рукі конюху і, не азіраючыся, пайшла ў замак.

## 5

Ноччу з боку царскай слабады ўсчаўся пошум, які адразу навёў жыхароў замчышча на думку пра варожыя дзеянні ў наваколлі. Выпраўленыя дзядзькам Затко выведнікі паведамілі, што са слабады ў напрамку замкавага кургана рушылі ратнікі і артылерыя царскага войска. Конніца напагатоў хавалася ў бліжэйшым ляску. Калі развіднелася, з даху замка і назіральных пляцовак правабаковых вежаў можна было бачыць драўляныя навесы або проста насыпы свежавыбранай зямлі, за якімі павінны былі месціцца гарматы. Раніцай замчышча цалкам апынулася ў аблозе.

Дзядзька Затко абвясціў, што ўсе, апроч вартавых, павінныя сабрацца пад Руку Нябеснай Дзевы...

…Рукой Нябеснай Дзевы з незапомных часоў у замку называлі самую вялікую залу, дзе на мураванай сцяне знаходзіўся выкладзены абгарэлай цэглай квадрат. У цэнтры квадрата месціўся вялізны чырвоны камень, на якім выразна бачыўся адбітак вузкай жаночай далоні з тонкімі доўгімі пальцамі. Далонь, сабраная ў жменю, была крыху павернутая да людзей і, здавалася, нешта збіралася высыпаць або перадаць ім. З першага позірку кожны разумеў, што гэта адбітак не зямной рукі. Паводле замкавага падання адбітак сваёй рукі пакінула сапраўдная Нябесная Дзева. Яе ўбачылі дзеці лунаючай над замчышчам. Нябесная Дзева спусцілася да дзяцей, але, прызямляючыся, абаперлася на камень. Яна некаторы час гаварыла з дзецьмі. На чутку пра гэты цуд з горада прыйшло шмат дарослых, але не ўсе бачылі Яе…

...Князь у суправаджэнні маленькага атрада паплечнікаў былых паходаў выехаў насустрач парламенцёрам, пасланым правесці перагаворы.

Адзін з парламенцёраў наблізіўся да князя, з годнасцю схіліў галаву ў паклоне.

– Князь, вы самі бачыце, што вашая крэпасць узятая намі ў аблогу. Думаю, вы ўжо здагадаліся, што гэта мы перакрылі паступленне вады ў замак. Мы зрабілі ўсё, каб вы зразумелі неабходнасць здаць крэпасць.

– Патлумачце мне, чым абавязаны гэтакай увазе з вашага боку? Гэтая крэпасць маё законнае ўладанне. Я нікому шкоды не раблю. Пастаўляю вашаму войску абумоўленую правізію. Чаму я павінны аддаваць маё ўладанне?

– Мы атрымалі загад руйнаваць усе не здадзеныя цару крэпасці на вызваленых намі тэрыторыях. Зразумела, што вашая крэпасць патрапляе пад загад. Каб вы не сумняваліся, што ўсё надзвычай сур’ёзна, скажу болей. Нам паведамілі пра вашую сувязь з ляснымі разбойнікамі. Мы ведаем, што вы бярэце пад сваю абарону злачынцаў. Гэта падмацоўвае слушнасць царскага загаду. Раім вам апоўдні здаць крэпасць. Калі вы не зробіце гэтага, войска пачне штурм, і адказнасць за пралітую кроў ляжа на вас, князь.

– Не я прыйшоў на гэтую зямлю праліваць яе кроў. Яна была маёй спрадвеку і тым дае мне права абараняць яе ад ворапу чужынцаў.

– Вы даўно аддалі сваю зямлю, як прышлым, так і сваім чужынцам. Агледзьцеся!

– Я не адказваю за ўсіх. Я адказваю за маіх людзей, якія жывуць на гэтай зямлі.

– У вас ёсць магчымасць зберагчы іхнія жыцці, а не страціць неразумнай упартасцю. Усім, хто здаў свае гарады і крэпасці на міласць цара нашага вялікага князя Аляксея Міхайлавіча ды ўчыніўся пад ягоную высокую руку, цар даруе не толькі жыццё, але і маёмасць іхнюю. Вас ніхто не зганяе з вашай зямлі, але крэпасць павінна знікнуць. Мы не можам дазволіць, каб за яе сценамі хавалася злая справа і здрада нашаму цару. Яшчэ раз нагадваем. Апоўдні павінен быць спушчаны мост, а над адчыненай брамай крэпасці мае быць узняты вамі белы сцяг. Гэта апошняе слова, якое павінен вам казаць.

Парламенцёры павярнулі сваіх коней.

У вялікай замкавай зале князя чакалі ўсе, хто даверыў яму сваё жыццё. Сэрца князя сціснулася. Старыя ваяры, лясны атрад і дворня складалі ўсяго некалькі дзясяткаў людзей. І гэта супраць вялізнага ўзброенага войска. Ну што ж, яны самі павінны вырашыць свой лёс. Князь паведаміў людзям тое, што пачуў ад парламенцёраў.

Калі аціхнуў гоман, які выклікала прынесеная князем навіна, дзядзька Затко падняў руку з адкрытай даланёй. Так рабілі ўсе мужчыны іхняга роду, калі хацелі выказаць сваю волю.

– Людства роднае! Чуў я ад дзядоў, якія чулі тое ад сваіх дзядоў, а тыя дзяды ад сваіх, і так да пачатку часоў, што на вяршыні гэтага кургана стаяў адкрыты з усіх бакоў сонцу храм Белабога. Тым, хто прыходзілі ў храм, рабілася бачнай праўда, на якой стаіць нашая зямля, доўжыцца наш род. Ніхто не ведае, калі знік храм той. Але кожны ведае, як цяжка зрабілася знайсці праўду, бо шукаць яе даводзіцца праз нягоду і цемру, нястачу і крыўду. Горка Белабогу бачыць пакуты сваёй умілаванай зямлі. Вораг топча нашыя палі, рабуе нашую гаспадарку, пралівае нашую кроў! Сілы нашыя няроўныя, але мы можам абараняцца і годна загінуць тут, дзе пахаваная праўда нашая, дзе пахаваныя прашчуры нашыя!

Дзядзька Затко сеў на лаву ў куце залы. Каму, як не князю, было разумець бястрашша і бяссілле воя, зламанага старасцю і навалай. Гэта быў іхні апошні бой разам, у якім той, хто апусціў на грудзі галаву з утаропленымі долу старэчымі вачамі, не жадаў здавацца ворагу, але выразна бачыў паразу.

Гуд галасоў у зале хутка аціх. Абмяркоўваць пачутае ад дзядзькі Затко не дужа хацелася. Палегчы – палягуць тут сваімі касцямі. Ды што з таго?..

У залу імкліва ўвайшоў Войцех. Ён паспеў да аблогі прабрацца з Зенкам у замчышча, але да гэтага часу не адыходзіў ад Жданкі, якая па-ранейшаму не прачыналася. Людзі азірнуліся. Войцех сустрэўся поглядам з князем і зразумеў, што ад яго чакаюць слова. Ён выйшаў на сярэдзіну залы.

– Буду казаць, як думаю. Не так даўно мы прачнуліся ад закліку казацкага гетмана Багдана. Паверылі яму! Падтрымалі яго! І што? Ён забраў нашых людзей, каб затым падацца пад руку маскоўскага цара. Ягоныя казакі цяпер ваююць нашыя гарады. Але не ягоная віна, што мы не заўважылі, як зрабіліся халопамі ў чужынцаў. Мы не заўважылі, як разам з чужынцамі пачалі называць сваіх сыноў хлопчыкамі, хлопцамі –

людзьмі без імя, якіх дастаткова паклікаць воплескам у ладкі. Мабыць, ад таго мы ўжо не памятаем імёны нашых прадзедаў, якія аралі гэтую зямлю, палівалі потам і крывёю, абараняючы яе дзеля нас, безыменных, бяспамятных. Прыйшоў наш час паказаць, чаго вартыя іхнія нашчадкі. Упэўнены, што нашыя вёскі падтрымаюць нас ударамі ў тыл абложнікаў.

Князь падняў руку адкрытай даланёй да людскога сходу.

– Дзеці мае! Як мог, клапаціўся я пра вашую жытку тут і не жадаю клапаціцца тут аб вашай пагібелі. Мы не апошнія на нашых літоўска-белых зямлях! Але нас раз'яднаці бязладнасць, хцівасць, падман і здрада. Нас вынішчаюць паасобку. Дзядзька Затко казаў пра Белабога. Забыліся мы на яго. Але кожны, хто сапраўды верыць у Бога, ведае, што ён адзін на ўсіх, як бы мы ні менавалі яго. Ён любіць роўна ўсіх, і гэтае выпрабаванне паслаў нам, каб навучыліся любіць і ашчаджаць сваё, тутэйшае. Навуку любові ён часта даводзіць праз страту. Толькі той, хто страціў, у поўнай меры ведае цану сваёй страты. Я ўступаю ягонай волі, каб прыняць пакуты выгнанніка. Я веру, ён не пакіне нас у гэтым выпрабаванні. Гнеў, боль, сорам і любоў, якія панясе маё сэрца, навучаць моцы несці іх па жыцці. Я буду збіраць гэтую моц, як пчолы мёд, каб несці ў сваё дупло, як змяя атруту, каб адагнаць ворага. І ўсё-ткі я не здам замак! Не апаганю памяць ягоных валадароў і насельнікаў. Ён стане магілай тым, хто насмеліцца няпрошаным ступіць у ягоныя ўладанні. Тыдзень таму я паслаў ганца да Януша Радзівіла прасіць дапамогі. Пакуль не маю адказу, але надзея не страчаная. Верце мне! У любым выпадку мы не здадзім замак! Усе, хто пажадае, выйдуць адсюль жывымі. А цяпер памажыце мне спраўдзіць гэтае слова! – Князь не жадаў тлумачыць план, які на крайні выпадак меўся ў яго заўсёды. – Патрэбна скласці атрады па пяць чалавек, камандзіраў якіх чакаю на раду ў кабінеце. Потым яны давядуць вам задачу кожнага. Мы, а не тыя, што топчуць падножжа нашага кургана, будзем сягоння пераможцамі!

Калі б апоўдні абложнікі маглі зазірнуць у замак, то падзівіліся б ягонай пустэчы. Здавалася, невядомы волат абрабаваў свайго пабраціма. З пакояў, калідораў, сцен было ўсё вынесена, прыбрана. Ніхто, апроч князя і дзядзькі Затко, не ведаў таямніцы схаванага пад курганам скляпення, якое змясціла ў сабе памяць і багацце, укладзеныя ў каштоўныя рэчы валадароў замка. Яшчэ не ведаў ніхто, нават Зенка, і таго патаемнага хода, якім людзі пакідалі замчышча. Гэты ход вёў у густы лес, які падступаўся да самай Бярэзіны па другі бок ракі.

З абмазаных абпаленай глінай счарнелых дубовых бярвёнаў, ад якіх дзе-нідзе паадвальваліся чарапкі, сачылася вада, падаючы на галовы людзей. Некалькі вашчаных паходняў у руках старых ваяроў асвятлялі напружаныя твары, аслізлыя сцены, кідалі чырвона-жоўтыя водбліскі на ваду, якая даставала людзям у большасці па калена. Ішлі марудна, моўчкі, баючыся паслізнуцца, упасці ў ваду. Насілкі з загорнутай у коўдры Жданкай замыкалі шэсце. Дарута не хвалявалася за сяброўку. Чатыры бывалыя ваяры князя надзейна трымалі на плячах сваю ношу.

Людзі, наладаваныя самым неабходным у паходзе скарбам, прабіраліся ў халоднай вадзе амаль гадзіну, ужо непакоячыся, што канца гэтаму ходу не будзе. Нарэшце тыя, хто ішоў наперадзе, падалі знак спыніцца. Ход упіраўся ў глухую сцяну, складзеную з дубовых бярвёнаў. Усе ў разгубленасці азіраліся. Ніхто не ведаў, што рабіць далей. Князь, які цёмнымі калідорамі і доўгім спускам па каменнай спіральнай лесвіцы вывеў іх

на гэты шлях, вярнуўся ў замак, дзе заставаўся маленькі атрад на чале з Войцехам, чакаючы ягоных распараджэнняў.

Выйсця з тупіка не было. Пра тое, каб вярнуцца, баяліся і думаць. Усе бачылі, як за князем павярнулася каменная сцяна, калі яны спусціліся ў гэты ход. Ніхто не ведаў, колькі часу яны таміліся з таго моманту, як пакінулі замчышча. Дапякала не толькі стома, але і холад, які даставаў да касцей. Нешматлікія жанчыны, як і Дарута, час ад часу прытуляліся да мокрых сценаў, даючы адпачынак нагам...

…Маленькая дзяўчынка нічога не баялася на руках у барадатага, моцнага мужчыны, які вельмі спяшаўся ў суправаджэнні ейнай маці і староннiх, узброеных людзей. Пад нагамі ў іх гучна хлюпацела вада, якая ўспыхвала, адлюстроўваючы агні паходняў. Ад гэтага рабілася страшна і, каб не баяцца, дзяўчынка весела смяялася, накручваючы на пальчык пасмачку мяккіх чорных валасоў з казытлівай барады мужчыны. Калі іхні шлях заступіла чорная сцяна, мужчына з козытнай барадой аддаў маленькую дзяўчынку на рукі ейнай маці. Ён ваяваў з чорнай сцяной. Дзяўчынцы здавалася, што гэта рыцар матчыных казак змагаецца з чорным цмокам. Казачны рыцар заўсёды перамагаў, але дзяўчынка засынала толькі тады, калі была ў тым упэўненая. Дзяўчынка бачыла, як прыгожы барадаты рыцар напружыўся, націскаючы на левы бок бярвеністай сцяны, што ўвасабляла цмока, як ад гэтага намагання пасінелі і ўспухлі жылы на ягонай шыі і скронях. І тады цмок адступіў, сцяна павярнулася, упускаючы свежае паветра і лясныя гукі…

Калі б Раман не падхапіў Даруту, дзяўчына ў лепшым выпадку цалкам бы выкупалася ў сцюдзёнай вадзе.

– Адкуль вы тут? – здзівілася яна, расплюшчваючы вочы. – Вас не было сёння ў замку.

– Дарута! Хіба магу я пакінуць вас, калі вакол суцэльныя пагрозы! Проста я знайшоў падставу наведаць замак, каб паскорыць капітуляцыю. Белы сцяг не з'яўляўся над брамай. Гэта вельмі непакоіла мяне. Я прапанаваў яшчэ раз правесці перагаворы з князем, сцвярджаючы, што ён абяцаўся мне здаць крэпасць. Прабачце, але я не знайшоў другога спосабу. Глядзіце на гэтую маю ману, як на ваенную хітрасць. На самой справе маёй мэтай была вашая з князем бяспека. Начальнік варты замчышча загадаў мне чакаць, пакуль ён знойдзе гаспадара, але князь сам выйшаў на пляц. Ён сказаў, што хавае вас і сваіх людзей на выпадак падману. Я вельмі прасіў як мага хутчэй узняць белы сцяг, а пакуль што правесці мяне да вас, каб упэўніцца, што вы не маеце ніякай патрэбы. Князь не пагаджаўся ні на першае, ні на другое. Не разумеючы яго, я запатрабаваў хаця б пабачыць вас, Дарута! Я не мог суцішыць трывогу за вас! Нарэшце князь пагадзіўся правесці мяне да гэтага падземнага ходу і паказаў, як адсюль вярнуцца назад у крэпасць. І вось я тут! І нават паспеў падтрымаць вас, калі вы пачалі спаўзаць уздоўж сцяны. Вельмі прашу, вяртайцеся са мной! У нас зусім няма часу. Мы разам паспрабуем угаварыць князя! Я не разумею яго! Вы не перасседзіце аблогу ў гэтым слізкім тупіку!

– Чакайце, Раман! Мне толькі што сніўся прыгожы сон, – прашаптала Дарута, каб не пачуў ніхто староннi. Яна баялася, што раптам ейны сон стане няпраўдай, тады людзі могуць страціць надзею і цярпенне. – Каб выйсці адсюль, патрэбна моцна ўперціся ў левы бок тупіковай сцяны.

Яны асцярожна перабраліся ў галаву атрада. Раман адхіліў дзяўчыну,

калі яна падступілася першай да сцяны. Даруце зрабілася смешна, што можна так верыць у чужыя сны, яна адступілася, з хітрай усмешкай назіраючы за намаганнямі Рамана. Дарута бачыла, як упарта сыходзяцца над пераноссем ягоныя бровы, як брыняюць сінія жылы на шыі, скронях, ілбе, пачула, як скрыгатнулі ягоныя моцна сціснутыя зубы і... Сцяна зварухнулася! Хто стаяў бліжэй, імгненна далучыліся. Калі сцяна паехала ў правы бок, адкрываючы праход, ніхто не адважваўся ісці першым. У няпэўным святле аднекуль зверху лахманамі звісала карэнне. Некаторыя з каранёў прашывалі сабой далейшы шлях, урастаючы зноў у зямлю. Але прыток свежага паветра хутка ажывіў усіх і абнадзеіў. Болей не раздумваючы, людзі пачалі прадзірацца праз карэнне, пакуль не дабраліся да яміны, закіданай струхлелымі бярвёнамі і лясным ламаччам. Завал хутка разабралі і выбраліся па схілу ў засень змешанага лесу пад ціхім небам, якое віднелася скрозь голле дрэваў.

Раптоўны выбух быў настолькі магутным, што, здалося, скалануў неба.

– Што гэта?! – жахнуўся Раман. Ён ведаў, што замак павінны будуць узарваць, але ж не так адразу.

– Гэта азначае, што князь трымае сваё слова! – Дарута горда зірнула на Рамана і ўбачыла, як па ягоным твары распаўзаюцца белыя і барвовыя плямы.

– Што з вамі? – устрывожылася яна.

– Я не ведаў! Так нельга было рабіць! – цяпер ён зразумеў і намер, і адсутнасць князя, якія з клопатам аб Даруце выпусціў з-пад увагі.

– А што павінен рабіць гаспадар, калі ў ягоны дом урываецца вораг?

– Дарута, не ўсе ж там ворагі! Хіба я вораг вам?!

– Бог няхай зберажэ іх, калі яны такія добрыя! – Дарута адвярнулася і павяла Белазора ў лес, каб па прыкладзе астатніх пераапрануцца ў сухое.

Ужо вечарэла, калі да іх далучыліся князь, дзядзька Затко і Войцех са сваімі людзьмі. Князь адразу моцна прыхінуў да сябе Даруту.

– Дарута, дачка мая, не ведаю, як выправіць мне віну маю. Я думаў, што мы дагонім вас, але дзядзька Затко хітрыў. Ён хацеў застацца ў замку, каб быць пахаваным пад ягонымі сценамі. Давялося вярнуцца, шукаць яго. Нягожа старому вою ляжаць побач з ворагам. Калі ўспомніў, што адзіна я ведаю таямніцу выхаду, мне зрабілася страшна, як ніколі ў жыцці. Я маліўся, калі раптам загіну, каб вы знайшлі выйсце з падземнай пасткі. Але ў крэпасці з'явіўся Раман, які апантана патрабаваў бачыць вас, Дарута і я скарыстаўся тым, каб паказаць Раману, як выбрацца назад у замчышча. Яму я сказаў, што на ўсялякі выпадак будзем адседжвацца ў падзямеллі, пакуль здымуць аблогу.

– А чаму Раману не сказалі пра паварот сцяны, выйсце з падземнага ходу?

– Яму я не мог даверыць гэтага! Адзіна гэтага, Дарута! Зразумей, там ягоныя супляменнікі, паплечнікі, магчыма, сябры. Іх узгадавала адна зямля. Ён мог здагадацца пра мой намер і папярэдзіць сваіх. Або свядома застацца з намі і ўсё жыццё адчуваць сябе здраднікам. На ягоным месцы я не меў бы выбару.

– Вы назвалі яго сынам!

– Дарута, ён сам убачыў ва мне бацьку! Магчыма, у нязгодзе з тым, што рабілася на ягоных вачах, ён проста шкадаваў мяне, перабольшыў сваё стаўленне да мяне. У малыя гады Раман застаўся без бацькі і вымушаны быў заўсёды спадзявацца на самога сябе. Магчыма, я нечым нагадаў яму

ягонага бацьку. Магчыма, ён вымушаны быў заўсёды ўтойваць свае думкі, назіранні ад тых, хто мог зрабіць яму якую шкоду. Я, чалавек збоку, якому ён мог выказаць сябе, без страху. У кожнага з нас існуе патрэба падзяляць свае думкі, пачуцці, сваё жыццё з кім-небудзь. А ён цвёрдага сэрца і вострага розуму чалавек, у якім дзіўным чынам спалучыліся яшчэ непасрэднасць і шчырасць. Гэта ягонае выпрабаванне, Дарута. І яно патрэбнае не толькі яму, але і нам, калі мы хочам быць адзінай сям'ёй. Пакінем гэта! Мяне вельмі цікавіць, хто ж тут адгадаў таямніцу сцяны?

Дарута маўчала. Князь яшчэ мацней прытуліў яе да сябе і звярнуўся да людзей.

– Людзі добрыя! Сэрца маё перапаўняе радасць бачыць вас жывымі і здаровымі. Але каму я абавязаны за гэтую радасць? Хто вывеў вас з падзямелля? Хто разумнік той, які знайшоў спосаб павярнуць сцяну? Дайце мне абняць таго дарагога чалавека!

Людзі недаўменна пазіралі на князя. Усе былі ўпэўненыя, што ён першы павінен гэта ведаць.

– Што маўчыце? – здзівіўся князь.

– Вы ўжо абдымаеце гэтага чалавека, – падаў голас Раман.

Князь не мог паверыць.

– Вы, князёўна?!

– Так. Дзеці часта памятаюць болей, чым бацькі, – Даруце не хацелася быць героем у гэтай прыгодзе. Яна раптоўна адчула сябе вельмі самотнай, дарослай і адказнай за лёс гэтых двух мужчын, што стаялі побач з ёй і стараліся не глядзець адзін на аднога. – Што вы будзеце рабіць далей, Раман?

– Адкуль мне ведаць, што яшчэ надумаў наш князь!

– Раман, вы чалавек высакародны. Я вас ні ў чым не падмануў. Даруйце мне, што не знайшоў іншага выйсця, як утаіць ад вас мой план. Па-праўдзе, дык іншага выйсця і не было. Цяжка ўявіць, на што б вы рашыліся, ведаючы, што я маю намер падарваць замак і ягоныя вежы разам з нападаючымі. Раман, я стары бывалы ваяр і ведаю, што нельга давяраць нават самому сабе, – князь замоўк.

– Не буду спрачацца! Калі вы хацелі дасягнуць сваёй мэты, вы зрабілі разумна. Але калі б я ведаў, што за сардэчнай шчырасцю і мяккасцю лепшых людзей гэтай зямлі хаваецца жорсткі разлік і д'ябальская хітрасць, я... я... – Раман не знаходзіў слова, адпаведанага ягонай крыўдзе, роспачы, разгубленасці.

– Вы б, напэўна, аб нечым падумалі. Так, Раман? – падказаў князь і, не чакаючы адказу, працягнуў: – Што ж, дадумайце зараз. Але паверце мне, старому чалавеку і старому ваяру, што няма вашай віны ў тым, што адбылося. Дапусцім, што вы даведаліся пра мой намер і папярэдзілі сваіх. Нас бы проста выразалі. І добра, калі разам з Дарутай, без здзеку. Упэўнены, што вы на гэта не рашыліся б. Дапусцім, што я падзяліўся з вамі сваім намерам і вы дапамаглі мне здзейсніць яго. Упэўнены, што вы так не зрабілі б. Ведаючы мае планы, вы траплялі ў безвыходнае становішча. Таму я маўчаў і нават адсылаў вас перад атакай з замчышча. Вашае сэрца падказала вам далейшы шлях. Сэрца не разважае, таму не памыляецца. Бог стварыў адну зямлю на ўсіх. А людзі парэпалі яе на межы. Бог стварыў чалавека па вобразе сваім і падабенстве. А чалавек прыпадобніўся крыважэрнаму зверу. Я выгнаннік на сваёй зямлі, бо гэты звер расце, і мала яму свайго логава. Расце і колькасць шакалаў, якія кор-

мяцца каля яго. Я адступаю, Раман, каб набрацца сілы на барацьбу з ім. Пойдзеце вы ад мяне ці са мной, вы ўсё адно застанецеся маім улюбёным сынам. Я ні ў якім разе не пакрыўджуся на любое вашае рашэнне. Усе мы блудныя сыны аднаго Бацькі, які тым болей нас любіць, чым болей мы вытрымалі ягоных выпрабаванняў. Вы абралі шлях розуму, з якога проста збіліся, дзякуючы свайму сэрцу. Я ведаю, што вы зараз не зможаце ўзважана адказаць мне. Але покліч маёй любові будзе нязмоўкна гучаць для вас заўсёды. Ведайце пра гэта, – князь пакланіўся Раману і адышоў да людзей, якія даўно чакалі яго.

Ушчэнт стомленая Дарута шукала позіркам Войцеха, якога бачыла толькі здаля ў час ягонага палкага слова ў зале Роду. "Вядома, ён не адыходзіць ад Жданкі", – падумала Дарута, павяртаючы галаву да Рамана. Раман стаяў ужо побач з князем, а на яе ва ўпор глядзелі вясёлыя, да роднасці знаёмыя вочы.

– Войцех! – Дарута радасна кінулася на шыю сябру.

– Ты часам не забылася пра князёўну? – кпліва пацікавіўся Войцех, азіраючыся на князя з Раманам, якія пасля воклічу Даруты ўжо глядзелі ў іхні бок.

– А што табе з таго?

– Ды нічога! Бачу, што не страціў майго дарагога сябра!

– Мітку?

– Ну, так... – блазліва пацвердзіў Войцех, захінаючы яе сабой ад цікаўных вачэй і даючы нечакана пстрычку. – Каб не зазнавалася!

– Ну, Войцех! Тваё шчасце, што ледзьве не валюся ад стомы.

– Трывай, Дарута. Адпачнеш ужо ў лагеры. А пакуль што хадзем да Жданкі, залезеш да яе пад коўдру, абедзвюм цяплей будзе.

У лагер Воцеха вырашылі ісці ноччу. "Галоўнае – пазбегнуць праследу. Ворагі, мабыць, упэўненыя, што разам з нападаючымі падарваліся ці згарэлі ўсе, хто знаходзіўся ў крэпасці. Несумненна, яны будуць разбіраць руіны, шукаючы сваіх і некаторы час пільнаваць разбураную крэпасць на той выпадак, што мы схаваліся недзе, – разважаў Войцех. – Гэта дасць нам магчымасць адпачыць у лагеры, сабрацца з сілай і думкамі ў новы шлях".

Апоўначы дабраліся да прыхаванай пераправы, якой лясны атрад карыстаўся на свае патрэбы. Па дарозе, недзе ўжо на падыходзе да лагера, Раман знік. Дарута не жадала запытацца пра яго нават у князя. Князь таксама не згадваў пры ёй Рамана.

Прайшло амаль тры тыдні з таго дня, як яны прыйшлі ў лагер. За гэты час большасць з уцекачоў вырашылі застацца ў атрадзе Войцеха. Князь яшчэ па дарозе абвясціў Даруце, што павязе яе ў Варшаву, каб там пакінуць пры двары караля пад нагляд родзічаў княгіні, ейнай маці. Свае далейшыя планы князь не даводзіў. Гэта непакоіла Даруту. Ёй не хацелася расставацца з князем. Ды і тут расстанне з людзьмі, якія заставаліся ў лагеры, клалася цяжарам на сэрца. Яцка з Нябогам сышлі яшчэ да аблогі. Жданку ў Шэйпічах ужо даглядалі родзічы Войцеха. Яна пачала не толькі прачынацца, але і выразна прамаўляць асобныя словы. Пра Ходзьку так нічога і не было вядома. Войцех абяцаўся дазнацца і паведаміць ёй. І айца Стахора болей не бачылі ў лагеры. Нехта чуў, што святар жадае атрымаць пострыг у Лаўрышаўскім манастыры, каб сваё астатняе жыццё прысвяціць маленню за душы тых, каго загубіў споведдзю ў маскавітаў. Было зразумела, што наўрад ці ўсім ім давядзецца яшчэ сустрэцца на сваёй зямлі. Скончыцца вайна, будуць жывымі, кожны

пойдзе сваёй далейшай дарогай. І ўжо ніколі болей не сабрацца гэтым людзям ні за сценамі замка, ні пад ягоным дахам. Апошнімі днямі, пакідаючы вернага Белазора ў лагеры, Дарута пешшу абыходзіла мясціны, не ведаючы, на які час расстаецца з імі, магчыма, нават назаўсёды. Яна так і не адважылася наведаць Шэйпічы, дзе пражыла з Марухнай апошнія гады. Ды нічога там не заставалася такога, што магло паклікаць яе туды, дзе яна перажыла самы вялікі жах свайго жыцця. За дзень да прызначанага ад'езду дзяўчына вырашыла схадзіць на абрубель, каб развітацца з Марухнай.

На пакрытым дзірваном грудку, робячы яго амаль непрыкметным, рэдкімі сонечнымі плямкамі яшчэ ляжала апалая лістота. Парывісты вецер перабіраў апусцелае голле бяроз, якія злёгку патрэсвалі белымі плячыма, паказваючы свой нораў. Высока ў небе і ў распасцёртай удалеч Бярэзіне марудна плылі рэдкія аблокі. Даруце здалося, што паляна з бярозамі, ёю, магілкай Марухны ляціць у прасторы. Ляціць у новую невядомасць. Дарута апусцілася на калені перад грудком.

– Я шчаслівая, Марухна. Дзякую табе. Спі спакойна. Ты паспела сказаць самае галоўнае. Я ўсё знайшла. Але ты схлусіла перад смерцю, Марухна, калі сказала, што не маці мне. Ты стала мне сапраўднай маці, маёй дарагой, ласкавай, светлай, вернай, любай маці. Ты правяла мяне па жыцці, навучала, абараняла і лекавала. Я была шчаслівая з табой! Ты зберагла свабоднай маю душу, каб я магла знайсці і ўсвядоміць маё цяперашняе шчасце. Я сустрэлася з маім бацькам, і мы цяпер разам. Я ўспомніла тую, благаславёную, дзівосную, пяшчотную жанчыну, якая нарадзіла мяне і берагла. Я вельмі люблю яе! Скажы ёй пра гэта, маці мая Марухна... – Дарута адчула, што нехта стаіць за яе спіной. – Хто ты? – запыталася яна, не павяртаючы галаву. Але ніхто не адказаў. Дзяўчына азірнулася.

За ёй стаяў згорблены Ісай. З шырока расплюшчаных вачэй, якія, не зміргваючы, глядзелі на Даруту, губляючыся ў складках змошчанага твару, цяклі слёзы. Дарута адвярнулася да магілкі. Яна адарвала край дзёрну і выцягнула з-пад яго сякеру. Стоячы па-ранейшаму на каленях, дзяўчына абедзвюма рукамі працягнула яе Ісаю.

– Ісай, мне князь пераказаў тое, што паведаміў ты яму пра маю маці, пра тваю сястру Марухну, якая стала маёй другой маці. Яшчэ я ведаю, што ты вырашыў застацца ў атрадзе. На гэтай сякеры я паклялася, што за кроў, якая сцякала па ёй, будзе адплочана. Вазьмі сякеру, Ісай. Гэта была кроў тваёй сястры.

Ісай моўчкі ўзяў сякеру. Ягоныя рукі дрыжалі. Ён пацалаваў лязо, рудыя плямы на якім, магчыма, былі слядамі ад крыві Марухны.

– Чалавечая кроў ліпучая... – вейкі і рукі Ісая задрыжалі. Ісай наблізіў лязо да зморшчанага лоба, затым да вуха, як бы слухаючы метал, і зноў прыклаў да вуснаў. – Рэч, зробленая чалавекам, як і чалавек, мае свой лёс... – Ісай на хвілю задумаўся. – Часам ейны лёс здольны падпарадкаваць лёс чалавека, – дадаў ён, узіраючыся ў сякеру. – Пакуль што лепш ёй заставацца тут і берагчы спакой Марухны.

– Тады аддай мне сякеру, Ісай.

– Княжна, я атрымаў яе з вашых рук, узяў у сваё жыццё. Я зраблю ўсё, што належыць зрабіць.

– Што ж... няхай будзе так, – вырашыла Дарута. – Шчасліва заставацца, Ісай.

– Княжна, гэта залежыць ад вас!

– Што я магу зрабіць для цябе, Ісай? Ты сам ведаеш, што тваё жаданне для мяне тое ж самае, што жаданне Марухны.

– Князёўна! Тое, што я пачуў тут, змяніла маё рашэнне. Я бачыў вашую маці. Дзіўлюся, як не пазнаў адразу. Але ж хто б шукаў у сялянскім Мітку падабенства з княгіняй... Князёўна! Я замяню Марухну! Я адчуваю, што Марухна жадае гэтага.

– Радуюся табе, Ісай. Тады і кліч мяне, як клікала Марухна, Дарутай, – проста адказала Дарута. – Пойдзем у лагер.

– Мне патрэбна яшчэ пабыць тут, Дарута.

– Добра, Ісай, сустрэнемся ў лагеры, – дзяўчына дастала з грудка прыхаваную там берасцянку і ціха, каб не парушыць настрой Ісая, адышла ад магілы.

Дарута не спяшалася вяртацца ў лагер. Блукаючы па лесе, яна згадвала падзеі свайго тутэйшага жыцця, звязаныя з тымі, каго яна павінна была пакінуць, магчыма, назаўсёды... Марухна... Ходзька... Войцех... Жданка... Яна не губляла іх у сваім жыцці, як дрэва губляе апалае лісце, а, хутчэй, замацоўвала назаўсёды іхнія вобразы ў памяці сэрца.

На павароце да Каменкі Даруце раптоўна захацелася прымерыць хусту – накідку, пра якую Марухна аднойчы сказала, што гэта пасаг. Дзяўчына ўжо зняла накрыўку з берасцянкі, але быццам апяклася, хуценька вярнула накрыўку на месца. Калісьці, намерваючы святочны андарак Марухны, прымеркаваны маці да сустрэчы з князем, яна ўварвалася ў незнаёмае, прыгожае і страшнае жыццё. Адна... “Няхай гэта прымерыць на мне бацька”, – вырашыла Дарута, палахліва хаваючы берасцянку ў кішэньку спадніцы.

Ужо на спуску да Каменкі з-за вялізнага каменя, што некалі заваліў выхад з пячоры мядзведзю Нябогу, насустрач ёй выйшаў Раман.

– Дарута!

Дзяўчына баялася страціць прытомнасць. Пасля таго, як Раман неўспадзеў знік у лесе, яна не дазваляла сабе нават думаць пра сустрэчу з ім. Падман мог стацца самым жорсткім з усяго перажытага ёю.

– Вы не жадаеце мяне бачыць, Дарута?

Дзяўчына маўчала. Каб суцішыць хваляванне, яна моцна сціснула ў далонях тканіну спадніцы, якую прытрымлівала падчас хады. Дарута не ведала, з чым прыйшоў да яе Раман.

– Вы не жадаеце гаварыць са мной, Дарута?

– Чаму вы раптоўна зніклі пад час начнога пераходу?

– А што я мог сказаць? Я сам не ведаў тады, хто я такі!

– Вы проста маглі развітацца са мной ці князем.

– Я не хацеў развітвацца з вамі, Дарута! Я быў гатовы на ўсё дзеля таго, каб не пакідаць вас.

– Дык тады – чаму?

– Проста з цягам часу выявілася б, што я не загінуў пад заваламі крэпасці, і тады за мной замацавалася б слава здрадніка. Вы самі ведаеце, што гэта было б няпраўдай. Але хто б паверыў нашай праўдзе? Да мяне раптоўна прыляцела шалёная думка выпаўзці з-пад руінаў крэпасці і абвясціць пра сябе. Нельга было губляць ні хвіліны...

– Вы былі ў Свіслачах?

– Так, Дарута. Сумнае відовішча ўяўляе цяпер ваш замак. Мяне радуе адзінае, што вы ўведалі яго, паспелі ўвабраць ягоную сілу, пабачылі яго такім, якім бачылі вашыя продкі. Не думаю, што калі-небудзь ён зноў падымецца дражніць нябёсы. Шкада...

– Падымецца, калі падымемся мы, – перапыніла яго Дарута.

Раман прамаўчаў. Час расстання з Дарутай, патрачаны ім, каб дамагчыся якога даручэння ў Варшаву, даў яму падставы для сумнення. Даручэнне, з якім ён зараз павінен быў трымаць шлях, падказвала яму, што Аляксей Міхайлавіч калі не сам, дык царэвіча жадае зрабіць пераемнікам Яна Казімера. І яшчэ ён разумеў, што не можа сказаць пра тое Даруце, каб не страціць яе даверу.

– Дарута, вы мяне возьмеце ў праважатыя? – ціха запытаўся Раман.

– Не ведаю, – Дарута хутка адвярнулася.

Раману здалося, што ў вачах яе бліснула ўсмешка. “Хаця блішчаць умеюць і слёзы”, – падумалася яму.

– Я вельмі прашу, Дарута. У мяне на руках падарожная і ахоўная грамата. Нашыя дарогі зноў супалі. Дазвольце суправаджаць вас у Варшаву. Вы, князь і вашыя людзі будзеце пад маёй аховай. Але, калі вы з князем абярэце іншы шлях, я буду з вамі, пакуль не ўпэўнюся ў вашай бяспецы. Зразумела, столькі, колькі будзе пажадана вам. А для мяне служыць вам, самі ведаеце, заўсёды найвялікшае шчасце.

Дарута, баючыся выдаць сваё хваляванне, маўчала, пазіраючы некуды ўбок.

Раман не вытрымаў. Ён зрабіў усяго два крокі. Іх хапіла, каб атуліць далонямі дзявочы твар і павярнуць да сябе, кранаючы хуткімі дотыкамі вуснаў. “Гэта былі слёзы... – мільганула думка і знікла. Раман адчуваў сябе шчаслівым. Насамрэч ён упершыню для сябе неўспадзеў закахаўся. Гэта не ўваходзіла ў ягоныя планы, але надавала багатыя фарбы жыццю і зусім не замінала выразна ўсведамляць паспяховы пачатак патаемнай місіі, да якой яго рыхтавалі ва ўнутраных пакоях Крамля. – Варшава! Вялікіх ахвяраў каштаваў нам давер князя! Ну што ж... нішто не даецца дарма. Польская карона павінна быць аддадзеная Аляксею Міхайлавічу...”

“На крайні выпадак – хаця б адна Літва...” – прыгадаўся ціхі, ласкавы голас.

---

[1] Валечнасць – смеласць, доблесць, адвага.

[2] Валка – бой, бітва.

[3] Бачнасць – розум, мудрасць.

[4] Царская слабада – у дадзеным выпадку маецца на ўвазе ваколіца горада, дзе размясцілася царскае войска.

[5] Гнёўся – гнясціся, адчуваць цяжар, быць у цяжар.

[6] Клюка – падман, падступства, хітрасць.

[7] Вотай – таемна.

[8] Почаўнасць – пачуццёвасць.

[9] Аказаць – прадставіць, выявіць

Марыя Бадзей



...памяць – гэта месяц у вадзе,
адбітак святла адлюстраванага,
вочы таго, хто глядзіць...

# Дым і мёд

### *ЛЕТА 2020*

Такі працяг
Прадбачаны і чаканы.
Сцяг у вакне, маска, цішотка –
Подпіс пад уласнай бездапаможнасцю.
Не паставіш – прадасі душу,
Паставіш – пачнеш гандаль з удушшам.

Добра ведаць свой кут.
Ды не тут.

Першая стадыя – Адмаўленне.
Край, дзе замалёўваюць лічбы.
Хутка ва ўсіх газетах: дажынкі па жніўні.

Наступная станцыя – Вершнік на майцы.
Выхад на правы бок
Ніткамі без іголкі.

Матэматыка ёсць адлюстраванне мозга.
Вывернутая, і пакрэмзаная, і не працуе ў падліках.
Слова абаперлася на парэнчы, ды не ўтрымалася
Паводле афіцыйнай версіі.
Пераход да цягнікоў Маскоўскай лініі.

Наступная станцыя – Плошча Перамогі над *ratio*.
25, 26, 27 год. Нармальна.
Плошча куба ў коле –
Квадраты ачэплены.
Акадэмія нявывучаных навук
У краіне недавучаных урокаў.

Наступная стадыя – Гнеў.
Прыкідваеш, каму не падасі рукі,
Каму праставішся,
Каму перадасі сцяг.

Наступная станцыя не мігае,
Не бачыць святла, п’е кроў у ружах,
Не спіць у калектарнай труне.

З крана вада здзірае голас
Як скуру з рук.
Стаім, без галасоў і без скуры,
Аголеныя.

Каменнае “горка” засмягла на вуснах горада.

Асцярожна дзверы зачыняйце,
Хто застаецца апошні,
Хто засмяецца апошні –
Горыч гэтага смеху
Ратуй.

* * *

Позірк робіць прадметы існымі
І прыўлашчвае небыццё.
І таму, калі я гляджу на дрэвы,
У маім воку столькі бярвёнаў.

## *МАЛЫ ТРАСЦЯНЕЦ*

Моль, што віецца над вокам –
Ты думаеш, яно – кветка?
Ці кавалак тканіны?
Узор пераплеценых нітак райка?

Галіна б’ецца аб шкло –
Зацвярдзелы кавалак паветра?
Вада спыніла рух часціц?

Попелу было за межамі сальватацыі,
Што замест небыцця
Прастора зрабілася згусткам жаху? Крыку?
Трывогі?

Бязмоўе немагчымага.
Даруй,
Быццё свету.

** * **

Мы з сабакам глядзім у люстэрка –
Каго ён там бачыць?

## *AUGUSTUS*

Ад хмараў вінаграду цёмна ў хаце,
Словападзенне жніўня выспявае
Ў гарачым пыле. Па-над дахамі спявае
Залаты певень,
Коміны дзяўбе.

Месяц-манарх сплятае пасмы сонца
Ў косы цыбулі.
Бульба па барознах
Бярэ ў разлік раты і волкасць склепу.
Трывога траў
І дзіўны дрэў давер.

Нічога яўлена цяпер не будзе.
Усё названа. У ваду хлеб кідай.
У горле яблык болю пракаўтнецца.
Даўкім віном
Напоіць месяц-мніх.

* * *

З горада збеглі ваўкі, пакінуўшы назву,
Касмылі нетутэйшага джазу
На плошчы пустой
У зеніце лета,
І паветра густое як джэм гарачы.
І паветра дрыжыць ад джазу іначай.

Іх дарогі – зоры й крыжы,
Іх хвасты – ля чыгункі табака,
Іх масты – гаражы, дзе на дахах суніцы.

На падворках сабакі –
І на дрэвы душы ад брэху.

Больш за тысячу год кусаюцца за плячо і
П'юць поўню з воўчай крыніцы,
І калі нехта з'ехаў,
Усё адно застаецца
Водгукам,
Подыхам,
Рэхам.

* * *

Мёд фарбаў, задуха,
Далоні кветак і пах гэтых далоняў.

Языком па прожылках:
Новымі словамі
Смак старых лёсаў.

На плячах у кахання лілеі,
Пярсцёнак з каронай на пальцы,
У кішэні ў злодзея сонца
Са сплящення майго.

Медзь колераў, крышталь паветра,
Сухая кроў дрэў.
Кулакі пладоў

Вобзем,
Аб клетку грудную,
У сценку.
– Хто там?
– Гэта сэрца ў шыбу.
– Не адчыняй.

* * *

Залатая гадзіна, мушкі,
Святло між ценяў траў і лісця,
Нібы ўнутры зялёнай ягады агрэсту,
І кветка святаянніку ўгары.

Складаны рытм задумлівай прасторы і доўгіх ценяў,
І спакой сланечнікаў,
Што хіляць галаву і ноччу
Свідруюць позіркам зямлю,
Бо сонца
Па той бок.

У рэзгінах далягляду
Геніяльныя тэксты
Пахаў і шолахаў.

Разгінаючы спіну, аўтар
Засявае разоры ў снах ільнамі.
Зацвітуць, завабяць пчол
У духмянае неба.

Выспявае поўня
Празрыстай папяроўкай
Над палямі
І цёплым шыферам.

* * *

Першы дзень жніўня. Вада са студні
Колеру белага вінаграду.
Віно з агрэсту ад уласных шэптаў
Стае п’янлівым,
Ад гаворкі ў цемры сабе самому
Салодкае стаецца садкім.

Досыць трывог.

Увішны Бог
Вішнёвай косткай упалюе горыч —
Ар’ергард смаку,
І тады
Свет праглыне ўсю даўкасць арабін,
Глыбіню колеру і крык пладоў,

Якія ўжо з’явіліся з паветра.

## ПРАЯЎКА

Кілім маёй пакоры, кужаль маёй радасці, і сэрца б'ецца, як рыба на пяску. Я раскладаю імёны як пацеркі, блытаючыся ў прыстаўцы «пра-», і заблытваюся ў каранях – гострых і горкіх гісторыях цёплай іх памяці. Калі паўтараць з года ў год адны і тыя ж гісторыі, ува што яны ператвараюцца?

У малітвы?

У колы ў дрэвах?

У плады гэтых дрэў?

Што адчувае яблык за імгненне да падзення?

На месцы хаты, дзе схаваныя ў чэраве люстэрка ўсе мае дзённікі з першымі вершамі і падлеткавымі каханнямі – хто паставіць туды адзнакі? – раслі агуркі, якія любяць нізіны і вільгаць. Дзве ракі, і ў той, якой цяпер няма, галасіла рыба-сямідзірка: рыба-выкапень, рыба-выдумка з дзіркамі ў спіне, рыба-габой, рыба-флейта. Якая мелодыя будзе, калі падзьмуць у яе адкрыты рот, што прагна хапае паветра? (Аднойчы я засунула пальцы ў пашчу мёртвага шчупака, і з таго часу ведаю, што за цікаўнасць трэба плаціць). У рэках вада колеру цёплага льну, зялёная вада ў цвёрдых вокладках студняў, вада як выкшталцоны сказ, які нічога не тлумачыць і не падлягае вытлумачэнню. Зямля, неба, вочы – усё тут вычарпальна апісваецца вільготнымі колерамі, колерамі зелля і ззяння.

Агонь – крык мядзведзя! Атхарван! – тут не колер, а тое, што расстаўляе націскі ў тэксце прасторы. Кветка, каб лічыцца тут кветкай, мусіць мець у сабе жар і быць па-гамераўску віннавокай, як скура вала і мора. Халодныя языкі лістоў аеру, на якія клалі пячы хлеб, і гарачыя языкі полымя ў печы, жар кляновага лісця, агонь у вачах драпежных жывёлаў, атрутны агонь ягад ландышу, калючы агонь курынага вока. Гарыхвосткі-чарнушкі разносяць полымя на хвастах па гнёздах, па галінах, у неба: захады колеру цёплага мёду і захады колеру гарачай медзі, мядзянкі пад імі звіваюцца і ззяюць у жарстве. Вёска Рудня непадалёк, а за ёй дуб, а пад дубам у зямлі гарыць французскае золата. Зямля выплёўвае рэвальверы і кавалкі металу, недапераплаўленага ў гэтай цмокавай кузні: на іх арлы з пераменнай колькасцю галоў, ніколі не сытыя да канца.

Шугае рудбекія на міжваенным падмурку суседняй хаты, якая згарэла зімой (не падыходзьце! Балон!), яна гарэла, і чакалі выбуху, і быў снег – ці набіралі яго ў вёдры? Як хутка снег рабіўся вадой? Рудбекія – жоўты, чырвоны, чорны – не словы, але колеры растуць з зямлі, і сонца выцягвае з рота глебы памяць на паверхню. На месцы, дзе ляжалі параненыя палонныя, барвы буракоў і памідораў, на месцы, дзе палаў падбіты самалёт – яго пасля па кавалках расцягалі па хатах і выплаўлялі лыжкі – залатарнік і святаяннік. Памяць – гэта месяц у вадзе, адбітак святла адлюстраванага, вочы таго, хто глядзіць. Па-за імі яна іншае: здагадка, археалогія, небыццё.

Як дзеці, мы прыносім і паказваем адно аднаму прадметы. «Глядзі, гэта слоік з перцам». «Глядзі, гэта фотаапарат».

– Завостры, але я буду.

– Здымі тут усё.

Іна Снарская



...ці ж можна асуджаць нечае жыццё,
яго не пражыўшы?..

# Зачараваны скарб

***Аповесць з аповедаў***

*Заканчэнне.
Пачатак
у №4 (113).*

## Каса

Баба Матрона ў сваім дзяцінстве не была надта прыгожай, але ніводная з яе сяброваак не мела такой доўгай касы, ёю дзяўчынка ганарылася больш, чым іншыя ганарацца сваёй красой. Мура лічыла касу таемным скарбам, але пра гэта не гаварыла нікому, каб не сурочыць. На святы яна расчэсвала цёмныя, прахалодныя на дотык, нібы крынічныя струменьчыкі, валасы, уплятала ў косы чырвоныя і белыя атласныя стужачкі, апранала найлепшую сукню і ехала з бацькамі на кірмаш у горад. На хлопцаў Матрона ўжо пазірала, але здалёк, саромелася старэйшай сястры і матулі. Ну якая яна дзеўка ў свае дванаццаць год? Так, сцяблінка...

Матрона жыла з бацькамі, старэйшымі братамі і сястрой на хутары, які з усіх бакоў агартаў кашлаты яловы лес. Можа, цераз гэты лес у хаце хутка цямнела, асабліва восенню. Зазвычай усе родныя клаліся спаць рана, гадзін

у восем вечара, а Мура яшчэ доўга сядзела з кніжкай каля вакна, а потым запальвала свечку і пад гэтае няпэўнае міргатлівае святло ўяўляла сябе ў тых падзеях, нібы грала на сцэне. Пад гэтыя мроі Мура пачынала драмаць, каб потым прачнуцца з першымі праменьчыкамі сонца, недарма кажуць: хто рана ўстае – таму Бог дае. Каб не галадаць, купіць сабе нешта прыстойнае, зрабіць сякія-такія прыпасы на зіму, усім у сям'і даводзілася шмат працаваць. Раней Дударэнкі лічыліся спраўнымі гаспадарамі, а пасля рэвалюцыі іх пачалі называць кулакамі, пагражалі, што забяруць у калгас усю іхнюю худобу для агульнага карыстання. Бацька не хацеў запісвацца ў калгас, які, на яго думку, складаўся насамрэч з лайдакоў.

– А што такое кулак? – разважаў бацька Даніла, – гэта не калі ўсе роўныя, а калі ўсе родныя, як пальцы трымаюцца адзін аднаго. Той лапік зямлі, што мы маем, ён жа... як і хлеб, насычаны нашым потам, потам дзядоў. Таму і родны, і дарагі... А ў калгасе... што там роднае? Гэта як адзенне з чужога пляча...

У нядзелю, яшчэ да золку, Матроніны бацькі запрэглі каня ў калёсы і паехалі на базар у Полацак. З сабой узялі старэйшых дзяцей, а Матрону пакінулі дома за гаспадыню. Дзяўчынцы трэба было падаіць карову, накарміць свіней і курэй, згатаваць есці, вывесці Зорку пасвіцца, пакуль яшчэ траву не падмарозіла, дзякуй Богу, сёлетні кастрычнік худобу шкадуе. Усю сваю гаспадарку Матрона ведала на памяць, бо з шасці гадоў дапамагала бацькам: і ў хаце, і на гародзе, і ў полі. "Вось бы яшчэ паспець збегаць у лес па грыбы, падсмажыла б на вячэру, – думала Матрона, – бацькі б парадаваліся..."

Яна варыла картоплю свінням, калі ў двор, на падводзе запрэжанай параю коней, прыехалі незнаёмыя людзі – жанчына ў чырвонай касынцы і двое мужчынаў у скураных куртках. Ад аднаго пагляду на тых незнаёмцаў, Мура аж здрыганулася, веяла лютым холадам. Нават не прывітаўшыся, пачалі распытваць пра бацькоў – куды паехалі, навошта, калі вернуцца... Паводзілі сябе як гаспадары: заглядалі ў свіран, адрыну, заходзілі ў хату, лазілі на гарышча, нешта запісвалі...

– Што вам тут трэба? – спытала Матрона, і голас яе задрыжаў ад хвалявання.

– Будзем у вас дабро канфіскоўваць. Ленін сказаў дзяліцца, а вы тут жыруеце, – з уедлівай ухмылачкай вымавіла жанчына і, адштурхнуўшы Матрону, зайшла ў хлеў, адвязала карову, вывела на падвор'е. Зорка, павярнуўшы галаву ў бок Матроны, сумна замычэла, нібы адчула нядобрае, і ў яе вільготных вачах заблішчэла вялікая слязіна.

– Як вы можаце?! Гэта злачынства! Карова не ваша, а наша! Не аддам! – дзяўчынка рашуча ўхапілася за Зорчыны рогі...

– Таварышы, дзе вы там х... грушы акалачвеце? Адчапіце ад мяне шчанючку, замінае працаваць! Ё... – жанчына хрыпла вылаялася, сцёбнула Матрону па спіне вяроўкай, якой намагалася абматаць Зорчыны рогі, бо карова вырывалася. Да гэтага часу мужчыны палілі на ганку, нібы не збіраючыся прадпрымаць рашучых дзеянняў, але, пачуўшы загад камісаршы, мабыць, жанчына была сярод іх галоўнай, увобміг кінуліся да Матроны. Дзяўчынка вырывалася, крычала, кусала мужчынаў за рукі. Тады адзін, маладзейшы, схапіў яе за касу і пацягнуў да плота.

– Сапраўды шчанючка, ё... глядзі ты, Хведар, яшчэ й кусаецца. Такіх трэба садзіць на ланцуг... Зараз прывяжу малую сучку да плота, няхай сядзіць тут замест сабакі, свой гаўняны двор ахоўвае...

"А дзе ж гэта наш Шарык, чаму яго не чуваць?" – падумалася Матро-

не, і раптам лес абрынуўся на яе сваёй ратавальнай чарнатой, праглынуў усё, што дзяўчынка бачыла перад тым, а найперш люты, прыгожы твар з блакітна-вадзяністымі вачамі...

Ад жаху, болю, абразы Матрона страціла прытомнасць, а калі ачуняла, у двары ўжо нікога не было. Паўсюль валяліся нейкія анучкі, раструшчаная мэбля, шкло. Каля будкі ляжаў задушаны Шарык. Дзяўчынка паспрабавала падняцца з зямлі, але не змагла. Яе прыгожая доўгая каса была наматана на штакеціну драўлянага плота, для надзейнасці перавязана вяроўкай.

"Няўжо гэта людзі?.. Яны горшыя за звяроў... – Жах павярнуўся да Матроны, зазірнуў у твар ваўкалакам, прабег па хрыбетніку ледзяным ветрам. Толькі думка пра родных – дзе яны, што з імі – змусіла дзяўчыну не страціць прытомнасць зноў. – Што рабіць? Што рабіць? А раптам гэтыя пачвары зноў сюды вернуцца? Трэба ўцякаць у лес, неяк ратавацца... Як вырвацца адсюль, як адвязацца ад плота?.." Матрона пабачыла разбітую бутэльку, вось бы дацягнуцца. Нарэшце ўдалося падчапіць вялікі асколак... "Нарэшце... Вось... Гэта будзе мой ножык..." Матрона шкуматала, пілавала аскепкам шкла сваю касу і вяроўку, па далонях, аж да локця, цякла кроў, капала на траву, і ёй здавалася, што гэта яе дзявочая прыгажосць плача крывавымі слязамі. Падсвядома, голасам спрадвечнага звярынага інстынкту, яна зразумела тую ваўчыцу, што перагрызае ўласную лапу, каб вырвацца са сталёвых кіпцюроў пасткі...

...Два дні Матрона хавалася ў лесе. Дзяўчынка баялася вярнуцца дамоў і зноў пабачыць тых жахлівых незнаёмцаў, якія разбурылі яе звычны шчаслівы свет. А калі, здранцвелая ад холаду і голаду, усё ж вярнулася на хутар, сядзіба сустрэла яе хатай-пусткай, выбітымі вокнамі, паламаным плотам. Бацькоў, братоў і сястры нідзе не было. У двары яна не пабачыла аніводнай жывёліны, акрамя пеўня з перабітым крылом. Певень хадзіў па двары, як паранены камандзір знішчанага войска, і толькі круціў галавой: "Дзе я, дзе я, дзе я?" Матрона адчула, што ў гэты момант, на гэтым спаплюжаным лапіку роднай зямлі для яе не існуе істоты, даражэйшай за гэтага пеўня-інваліда... Прадонне зірнула Матроне ў вочы, і некалі дарагое, роднае, дзяцiннае раптам стала чужым і незнаёмым. Каля плота, скруціўшыся агідный вужакай, ляжала яе дзявочая каса.

## Вочы сэрца

Скончылася кіно. Ідзем з бабай Мурай з клуба, толькі снег пад валёнкамі парыпвае – з вечара добра падмарозіла. Наперадзе бягуць нашы цені – бабулін і мой, даўжэйшы і карацейшы. Цені такія хуткія, што мы за імі не паспяваем.

– Вось так і жыццё, – разважае бабуля. – Жывеш сабе, а яно бяжыць, як твой цень, заўсёды наперадзе. Толькі ўчора, здаецца, была маладухай, а ўжо і спіна крукам, і валасы пасівелі... Зазірну ў люстэрка, ці ж гэта я? Сама сябе не пазнаю... Вось табе і смешкі з бабінай плешкі... Не паспела нажыцца, а ўжо і паміраць трэба...

– Ды што ты, баба Мура? Ты яшчэ дваццаць пяць гадоў пражывеш! – упэўнена цакачу першае, што прыйшло ў галаву, бо ў параўнанні з маімі пяццю дваццаць пяць гадоў здаюцца вечнасцю. – Зараз, бабулечка, дагана твой цень, і пачнеш жыць спачатку!

Бягу з бабуліным ценем навыперадкі. Ад мяне, шэльма, не ўцячэш,

яшчэ трохі, і злаўлю цябе, зацугляю!.. Дабегшы да ліхтара, спыняюся, крута разварочваюся і, раскінуўшы рукі, лячу назад, да бабулі, лобам уразаюся ў яе выходную заінелую плюшаўку. Мая шэрая шапка ляціць у снег, але я гэтага не заўважаю, бо моцна прыціснулася да бабулі. Мне хоцца, каб яна жыла доўга і больш ніколі не думала пра тое жахлівае...

– Ластаўка ты мая дарагая... – Бабуля падымае шапку, абтрушвае снег, надзявае на маю спацелую галаву, завязвае шнурочкі пад горлам. Яе вочы становяцца вільготнымі. “Толькі не плач, баб Мура, толькі не плач”, – паўтараю ў думках. Бабуліны слёзы я не проста бачу – адчуваю, нават у цемнаце, нават калі свае вочы заплюшчваю. Мне здаецца, што недзе глыбока ў сэрцы ёсць іншыя вочы, якія бачаць лепш за звычайныя і значна далей...

– Баба Мура, а ці ёсць вочы ў сэрца? – пытаю і ўжо наперад ведаю адказ, бо зашчыпала так, нібы мыла ў вочы патрапіла. Такая пяшчота раптам агарнула, што нават снег пад нагамі пачаў раставаць, і птушкі заспявалі, і вясна прыйшла... Вось што зрабілі чароўныя вочы сэрца!

...Пасля той размовы мая бабуля пражыла амаль 25 год. Бываюць такія моманты: скажаш нешта – і як маланкаю спаліць, усё збудзецца... Апошні раз я пабачыла бабулю, калі прыехала да свайго дзядзькі Івана ў Зялёнку, ён даглядаў нямоглую маці. Настаў момант, калі бабулю зусім перастала цікавіць жыццё. Яна ляжала ў сваім невялічкім светлым пакойчыку, сухенькая, маленькая, як дзяўчынка, і проста глядзела ў столь. Што яна ўспамінала, пра што думала?.. Я праглынула здрадлівы салёны камяк у горле і загаварыла з ёй:

– Бабуля, гэта я, твая ўнучка Іна, да цябе ў госці прыехала... Баба Мура нічога не адказала, нават галаву ў мой бок не павярнула. Яна знаходзілася недзе далёка ад мяне – у сваім дзяцінстве, юнацтве, маладосці... Прычасала яе сівыя змарнелыя валасы рудым касцяным грэбнем, узяла руку ў сваю, як птушачку. Бабуліна далонька была такая лёгкая і празрыстая, нібы парцалянавая, і сонейка скрозь яе прасвечвала...

– Гэта ты, Аля? – нечакана спытала ў мяне бабуля. Мабыць у тым залюстраным свеце яна пабачыла сваю дачку, маю маму. Магчыма, яе рука ў гэты момант гайдала калыску... Усе часы для бабулі зліліся ў нешта адзінае, і якая розніца, дзе пачатак і дзе канец таго адвечнага вяртання-развітання... На стужцы жыцця дзяўчынка Матрона дагнала свой цень.

## Іванька малодзенькі

### 1

Лета. Лаўлю апошнія промні дня. Сонца павольна садзіцца за лесам. Яшчэ адзін дзень скончыцца, пяройдзе ва ўспамін, стане мінулым. Калі я думаю пра сённяшні дзень, найперш успамінаецца падарожжа ў лес. Можа, і занадта сказаць – падарожжа, проста гуляла пад вечар, як звычайна, а тут – падарункі, сардэчныя, мілыя... Падарожжа... Нешта дарагое ёсць у гэтым слове... Дарагая дарога. Няхай будзе падарожжа...

“Дубочак зялёненькі, Іванька малодзенькі...” Да кожнага дубочка ў сасновым лесе хочацца дакрануцца і заспяваць гэтую просценькую, вядомую з дзяцінства песеньку. Ёсць у ёй нешта шчымліва-роднае. Можа, яе спявалі мае бабуля з матуляй? Перагукваюся з імі...

**2**

У нашай сям'і было аж два Іваны – дзядуля і дзядзька, дзядзя Ваня, як я яго называла. Гэта ён – "Іванька малодзенькі", бо добра памятаю яго маладым... Дзядзя Ваня нечым нагадваў мядзведзіка – добры, нешматслоўны, як і дзядуля, трохі нязграбны. У дзядзькі былі пшанічнага колеру густыя валасы і вялікая галава, нават шапку патрэбнага памеру не проста было купіць. "Гэта таму, што дзядзя Ваня вельмі разумны, бо ведае не толькі нашу мову, а й звярыную. Ён працуе веты..., вета.., адным словам, доктарам Айбалітам, во!" Гэта я маленькая кажу, як бы за кадрам. У маёй ранішняй свядомасці казкі спляталіся з рэчаіснасцю, і я ўяўляла свайго дзядзьку то Іванам – каровіным сынам, то Іванам Царэвічам. Каб стаць Іванам Царэвічам, дзядзьку патрэбна было пралезці праз вуха нашай каровы Малышкі. Гэта, зразумела ж, адбывалася ноччу, калі ўсе спалі. Аднойчы я прачнулася сярод ночы і пабачыла, што ў хляве гарыць святло. Хацелася пайсці паглядзець, што там адбываецца на самой справе, можа б тады і пабачыла тое пераўтварэнне... Але ёсць рэчы, якія нельга пабачыць, падглядзець, бо зікнуць чары... А дзіва такі адбылося – у Малышкі нарадзілася цялё. Мой дзядзя Ваня палову ночы нашай кароўцы дапамагаў. Я не адыходзіла ад цяляткі некалькі дзён, карміла соскай з бутэлькі, як маленькае, бо ў Малышкі спачатку зусім не было малака. "Гэта ад стрэсу, – патлумачыў дзядзька Йван, – бо першыя роды". Я не ведала, што такое стрэс, але гладзіла цялё па вялікай цёплай галаве з белай зорачкай на лобе і думала: "Дык вось хто каровін сын на самой справе!" Казка перацякала ў жыццё, якое было не менш цікавым...

**3**

У бабулінай і дзядулевай хаце шмат карцін. Вядома, не арыгіналаў, а рэпрадукцый, ды яны мяне ўсё роўна зачароўвалі, нібы былі пераходам у свет фантазіі, вакном у казку. "Незнаёмка", "Дзеці, якія хаваюцца ад навальніцы", "Іван Царэвіч на шэрым ваўку". Стоп! Дык гэта ж мой дзядзька Йван! На гэтую карціну я магла глядзець, як заваражаная, колькі заўгодна часу, уяўляла сябе царэўнай на руках у Іванькі маладзенькага. А воўк на карціне хоць і вялікі, зубаты, ды зусім не страшны. Дзядзя Ваня ведае мову звяроў, яму лёгка з ваўком дамовіцца, яны нібы браты па крыві. І хоць лес навокал густы і страшны, мне весела: мы з Іванькам маладзенькім скачам у чароўнае трыдзявятае царства, дзе ніколі не будзе бяды і суму...

**4**

Дзядзька Іван скончыў ветэрынарны інстытут у Віцебску, гэта пасля арміі ўжо, дзе ён служыў танкістам. Ёсць нават фота – дзядзька ў шлеме на танку. Больш пра армію я нічога не ведаю. Таму і распавядаць не буду. Дык вось. Амаль адразу пасля інстытута дзядзя Ваня ажаніўся. Прывёз у Сястронікі чарнавокую красуню Марыю, Маню, так мы ўсе яе называлі. Маня прыехала ў Сястронкі са сваімі братамі. Гэта, мабыць, ужо было іхняе з дзядзькам Іванам вяселле, адзін з першых маіх успамінаў. Вось і фота такое ёсць – мы стаім каля веранды, побач шмат вясёлых родзічаў і моладзі, а я зусім малая, гады тры-чатыры ўсяго... Дзядзька Косця, Манін брат, быў чарнявы, каравокі і кучаравы, як і яна, і старшэнна мне

падабаўся. У цёцю Маню я таксама закахалася з першага погляду, яшчэ раней. Вядома ж, брат і сястра не звярталі на мяне ніякай увагі, таму я лазіла пад вясельным сталом, дзе маладыя і госці сядзелі радочкамі, як кветачкі на ручніку, і непрыкметна шчыпала ўсіх за ногі. Цёцю Марыю шчыпаць было весялей, яна смешна войкала, глядзела на дзядзю Ваню і рабіла выгляд, што не разумее, хто гэта зрабіў. Тады мама выцягвала мяне з-пад стола, трохі ўсчувала, але не моцна, бо потым ласкава пытала: “Што ты будзеш есці, Іначка?” Ну вось, нарэшце хоць нейкай увагі дачакалася...

Ноччу моладзь спала на падлозе покатам, бо ложкаў і канапаў на ўсіх не хапала. Дзяўчаты з хлопцамі шапталіся, валтузіліся, жартавалі, дзяўчаты пішчалі, і я не магла заснуць, прасілася на падлогу, але матуля мяне, вядома ж, не пускала, хоць і ўклаліся мы непадалёк, на бабуліным ложку за шафай. “Вось і стаў мой дзядзька Іванам Царэвічам... – думала я засынаючы. – Будуць цяпер з Маняй жыць у трыдзявятым царстве доўга і шчасліва...” Ці сталася так, як мне марылася, ці былі сужэнцы шчаслівымі? Няхай будуць, бо я так хачу!.. Потым у дзядзькі Івана і цёткі Марыі нарадзіліся дзяўчаты – спачатку Святлана, а потым Аксана, мае стрыечныя сёстры. Ды гэта ўжо іншыя ўспаміны, іншая гісторыя...

## Ахоўнік памяці

Дзядзька Іван – ахоўнік нашай сямейнай памяці. Ужо не памятаю, калі ў яго з’явіўся фотаапарат “Зеніт” у карычневым скураным футляры, магчыма, дзядуля падараваў, ці нехта з яго сяброў. Гэта не істотна, галоўнае, што, дзякуючы дзядзьку, у нас засталося шмат фотаздымкаў часу майго маленства... Вось ляжыць смешнае лупавокае немаўлятка ў сарочачцы навырост, кулачкі да грудзей прытуліла, нажаняткі крыж-накрыж. Няўжо гэта я? Няўжо гэта той пачатак, які мяжуе з небыццём, і дзяўчыначка на фота яшчэ чуе анёлаў, вунь як шчасліва ўсміхаецца, не ведае, што наперадзе столькі ўсяго featuring рознага, не заўсёды радаснага і шчаслівага. Анёлы ведаюць, але маўчаць...

Вось я трохі падрасла. Стаю з катом Васькам на руках каля гасцявога ложка з накрухмаленым падзорнікам. Ложак высокі, з пуховай пярынай, каб мне туды залезці, трэба ўслончык падстаўляць, і там, нагары, я буду ўяўляць, што сяджу на воблаку... А кот Васька такі вялікі, як палавіна мяне. Абхапіла яго пад пярэднія лапы, а заднія – амаль да падлогі дастаюць. Трымаю моцна, хоць і цяжка мне, а кот хоць бы што, ні мур-мур, значыць, не баіцца, давярае, бо я яму нібы матуля... Цераз некалькі дзён Ваську саб’е машына, я нават плакаць не змагу, толькі буду хапаць ротам паветра, як рыбіна выкінутая на бераг, так мне будзе балюча... Мы з татам пахаваем ката, і я буду ўспамінаць свайго сябра ці не штодзённа: “Вось жыве Васька недзе ў сваім кацім раі і ў вус не дзьме, не ведае, як я па ім сумую...” Ды слязамі рады не дасі. Каб неяк зменшыць той сум, тата падаруе мне Чарныша, кацяня выскачыць з татулевай кішэні, як чарцяня з табакеркі...

А вось мы з бабуляй сядзім на ганку каля нашай хаты. Плота яшчэ няма, яго пазней паставяць, і знікне тая прастора за нашымі спінамі, дзе праглядаецца куточак вёскі з хатай Алега і Вадзіма... Мы з бабуляй у вясёлых паркалёвых хустачках, нібы сястрычкі – старэнькая і маленькая. Я ў байкавай сукенцы з круглым каўнерыкам, цёмных нагавіцах да каленяў і тапках на босыя ногі. А на правым тапку – дзірка, з яе вялікі палец вызірае:

“Рох-рох, прывітаннейка!” Часам вясковыя хлопчыкі дражняць мяне Інкасвінка, я крыўдую і нават у бойку кідаюся, бо не ведаю, што хлопцы, якія дражняцца, хутка падрастуць і пачнуць у мяне закохвацца. Вось і фота таго часу – мой дзень народзінаў. Мы з Алегам абняліся, а Вадзім з Ігарам цераз стол на нас хітранька паглядаюць, можа, бачылі, як мы цалаваліся, калі гулялі ў хованкі. Тады Алег прызнаўся мне ў каханні, а Вадзім так і не наважыўся, бо дужа сціплы, да таго ж малы – на два гады малодшы за нас з Алегам. Калі мы вырасцем, жыццё раскідае нас па розных краінах, і я ўжо ніколі не пабачу хлопцаў, даведаюся толькі, што Алег стаў урачом-хірургам, а Вадзім – міліцыянерам. Што з Ігарам, які яго лёс? Не ведаю. Мабыць, і не здагадваецца, што ўспамінаю пра яго з цеплынёй...

А вось фотаздымак, можна сказаць, гістарычны. Ён зафіксаваў момант, калі дзядзька Міхась прыйшоў з войска ў адпачынак. Мы з мамай сядзім у фатэлі з круглай лакіраванай спінкай, а дзядзька стаіць за намі, паклаў рукі на матуліны плечы. Я ганаруся такім прыгожым дзядзькам, ён у вайсковай форме з іголачкі, на грудзях – знакі выдатніка службы, на поясе – рэмень з бліскучай бляхай. Толькі чаму я ў валёнках і цёплай кофце? Мабыць, у хаце халодна. Пра свята гавораць толькі прыгожыя банты ў маіх косках ды маміны нафарбаваныя вусны. Матуля карыстаецца памадай толькі “на выхад”, зразумела, што здымкі не абы-якая нагода навесці красу... Дзядзя Міша прыйшоў з арміі – у хаце свята! Бабуля напякла пірагоў, дзядуля дастаў з лёхаў віна-слівянку, дзядзька Іван падабраў ужо лепшыя пласцінкі на вечар. Вунь яны ляжаць акуратным стосікам каля радыёлы. Колькі ж тут дзядзьку Міхасю год? Мабыць, не больш за дваццаць. А мне – тры з паловай. За некалькі хвілінаў да здымку я прызналася дзядзьку, што ўжо ўмею лічыць да дзесяці.

З дзядзькам Іванам фотаздымкаў амаль няма. Ён, як і большасць фатографаў, не любіць здымацца. Шырокі ў плячах, высокі... ён дужа мне нагадвае Іллю Мурамца з вядомай карціны. А працуе Айбалітам: кароў лечыць і розных іншых жывёл. А фатаграфаванне – так сабе, хобі, як кажа матуля. Дзядзька Іван стварыў сабе фотакуточак у перадбанніку нашай лазні, і там варожыць над здымкамі. Часам і мяне з сабой бярэ, не дужа ахвотна, ды куды мяне падзець, калі ў вочы заглядаю ды на шыі вісну лісічкай-сястрычкай: “Дзядзечка родненькі, ну калі ласачка...” І там, у цішы перадбанніка, я назіраю сапраўднае дзіва: на вільготнай паперы ў ванначцы з ружовай вадой павольна з’яўляюцца людзі, фрагменты будынкаў, дрэвы, вёсачка Сястронкі... Усё, што засталося ў мінулым, пераходзіць у гэтае імгненне, а потым у будучае – родныя твары, вочы, усмешкі, паварот галавы, спадзяванні...

Перакладаю стосік фотаздымкаў, нібы гартаю старонкі кнігі жыцця, якую напісаў нехта вялікі там, на сёмым небе, куды не дабегчы і не даляцець... Вось чыёсьці вяселле. Дзяўчаты сядзяць на лаўцы. Красуні, аж свецяцца: шыньёны па модзе, кароткія крымпленавыя сукенкі, туфелькі на высокіх абцасах. Вясёлыя, смяюцца-заліваюцца... Хлопцы з чубамі з-пад фарсовых кепак набакір стаяць трохі наводдаль, робяць выгляд, што дзяўчат не заўважаюць, а самі чакаюць-не-дачакаюцца, калі ж дзед Васіль пачне іграць на сваім трафейным гармоніку. Заграе Васька-гарманіст, і хлопцы пачнуць запрашаць дзяўчат на танец... і закахаюцца... і згуляюць вяселле... і народзяцца ў іх дзеці... і будзе яшчэ шмат усяго рознага, чаго я нават уявіць сабе не магу... Ды найбольш хочацца, каб усе яны былі шчаслівымі і праз дзясяткі год. Такімі шчаслівымі, як на гэтым старэнькім фотаздымку, у чароўным імгненні, якое спыніў мой дзядзя Ваня.

## Дзед Васіль і яго гармонік

Сядзім з дзедам Васілём на лаўцы каля прыпынку, боўтаем нагамі. Дакладней, боўтаю нагамі я, бо ў дзеда Васіля – толькі адна нага. Ён прыйшоў з вайны інвалідам, як і мой дзядуля, але дзед Васіль не носіць пратэз, лічыць яго цяжкім і нязручным. Яму лягчэй хадзіць на мыліцах. Дзед Васіль вельмі падобны на жорава – худы і цыбаты, і калі ідзе па бальшаку, падскоквае на адной назе, нібы падранак, які ніяк не можа ўзляцець.

– Дзед Васіль, а якім аўтобусам твая Жанка прыедзе – ранішнім ці пасля абеду? – пытаю, каб неяк пачаць размову, невядома колькі нам яшчэ чакаць... Бачу, што стары хвалюецца: то на свае рукі, то на дарогу паглядае. Я таксама хвалююся, бо чакаю свайго тату, ён учора не прыехаў, можа, хоць сёння будзе... Мне да прыпынку блізенька – рукой падаць, яго нават з нашага вакна відно, а дзеду Васілю скакаць сюды на адной назе амаль з канца вёскі. І скача, бо любіць сваю Жанку. Жанка – фігурыстка, ну, не тая, што танцуе, а тая, што на каньках наперагонкі бегае – канькабежка. Яна ходзіць у спартыўную секцыю ў Новаполацку. Але для мяне яна ўсё роўна фігурыстка. Уяўляю Жанку фігурысткай, бо люблю глядзець фігурнае катанне па тэлевізары. Гляджу і думаю: а раптам там Жанку пабачу? Мы даўно з ёй сябруем, але рэдка бачымся. Да свайго дзядулі Васіля яна прыходзіць вельмі рэдка. Нават калі прыязджае, адразу бяжыць да сваёй бабы Дашы, якая жыве ў іншым канцы вёскі, далёка ад дзеда Васіля. Жанчыны дзед і баба разышліся вельмі даўно, яшчэ задоўга да таго, як Жанка нарадзілася. Пасля вайны дзед Васіль пайшоў жыць да жанчыны, якую кахаў яшчэ да вайны... Усё ў іх вельмі складана і заблытана... Можа, калі-небудзь раскажу, але не цяпер, бо мы з дзедам Васілём сядзім і на дарогу глядзім. Кожны з нас маўчыць пра сваё...

Мне першай абрыдла маўчаць. Не хачу пытаць дзеда Васіля пра Жанку або пра бабу Дашу, бо калі спытаю, яго сэрца забаліць, як тое месца, дзе раней была нага. Так бывае, мне дзядуля Іван расказваў: хоць нагі ўжо няма, баліць яна амаль кожны дзень... Спытаю ў дзеда Васіля лепш пра гармонік, каб у яго настрой падняўся.

– Дзед Васіль, а дзе ты свой гармонік узяў? – пытаю, хоць ужо некалькі разоў гэтую гісторыю чула. Стары вярнуўся з вайны з гармонікам, як мой дзядуля з мандалінай. Але ж у дзядулі – свая гісторыя, а ў Васіля – свая.

– Гітлера забіў і яго гармонік забраў, – гэта дзед Васіль жартуе. Ведаю, што гэта няпраўда, і дзед Васіль ведае, але ж ад гэтай хлусні нам весялей становіцца абаім...

Мой дзядуля расказваў, што Васіль дайшоў аж да самага Берліна. А параніла яго за некалькі дзён да перамогі. Гісторыю з гармонікам дзед Васіль кожны раз расказвае па-рознаму, брэша як лён чэша, не разбярэшся, дзе праўда, а дзе хлусня. Ды хлусня дзеда Васіля заўжды выглядае цікава, як бы там ні было на самой справе...

– Не верыш? Вось слухай, ага... раскажу табе чыстую праўду... Іду гэта я па Берліне і радуюся, што мы перамаглі фашыстаў. Раптам бачу – прыгожы такі будыначак, чыстае вакно, кветкі... і з гэтага вакна нейкі недабіты фрыц па мне з аўтамата цэліць. Я паспеў схавацца за дрэва і дастаць з кішэні гранату, якая ў мяне заўсёды ў правай кішэні ляжыць на ўсякі выпадак. Дык вось, ага... Кідаю ў вакно тую гранату: выбух, разбітае шкло пырскае ва ўсе бакі! Забег я ў той будынак, гляджу – а там

нібы Гітлер ляжыць, толькі маладзейшы, жыццё на нітку павесіў, стогне, жывы, значыць жа, гад. Гляджу, а каля яго ложка, на зэдліку, гармонік стаіць. Прыгожы такі гармонік, кнопачкі на сонцы пабліскваюць, і больш нікога ў хаце няма. Не стаў я таго фрыца дабіваць, забраў толькі з сабой яго гармонік, як прыз ці медаль за адвагу... Калі прыйшоў дадому, нічога не заставалася, як навучыцца на гэтым гармоніку граць. Чаму ж ён будзе проста так ляжаць, пылам прыпадаць, ага... гармонік, як медаль, на грудзі не прышчэпіш. Навучыўся на ім іграць, на слых...

– Дзед Васіль, ты забыўся, ці што? Цябе ж параніла яшчэ да перамогі... Як жа ты йшоў па Берліне, на мыліцах скакаў ці што?

Васіль аж крэкнуў ад незадавальнення, трохі прызадумаўся, але тут жа выдаў новы варыянт аповеду.

– Вось я і кажу... Ага... Кінуў я гранату... Выбух... На зямлю падаю, нага баліць страшэнна, бо асколкам зачапіла... Гарлаю несамавіта, так баліць, аж не магу, але ж паўзу, паўзу... Запаўзаю ў будынак – а там немец ляжыць, на Гітлера падобны... Ну, а далей усё было, як я табе і расказваў...

Дзед Васіль такі смешны, калі свае гісторыі расказвае – нос чырванее, вочы блішчаць. У пэўныя моманты ён пляскае ў далоні, прытупвае здаровай нагой... Думаю, з яго мог бы выйсці сапраўдны артыст, калі б не пачалася вайна. Кажуць, што ён і хацеў быць артыстам, ды жыццё зусім інакш павярнулася...

...Кожны дзень у той жа самы час дзед Васіль прыходзіць на аўтобусны прыпынак і чакае сваю ўнучку Жанку. Яго сын Мікола ўжо больш за 10 гадоў як з'ехаў за мяжу на заробкі. Другая жонка памёрла, а баба Даша не даравала яму здрады, пакрыўдзілася насмерць. Так і жывуць у розных канцах Сястронак двое нямоглых старых і, нават калі выпадкова бачацца, не здароўкаюцца, робяць выгляд, нібы не ведаюць адно аднаго. Дзед Васіль праводзіць бабу Дашу доўгім сумным поглядам, разумеючы, што гэта назаўсёды – вось так глядзець ёй услед і ніколі не паклікаць, не загаварыць... Так што акрамя Жанкі ў дзеда Васіля нікога няма. Але, так, я зусім забылася пра гармонік, на якім стары грае на вясковых вяселлях і гісторыю якога кожны раз расказвае па-новаму.

## Мішкава гара

Бягу з Мішкавай гары, расставіўшы рукі, і веру, што ўмею лётаць. Колькі разоў бачыла, як буслы адрываюцца ад зямлі. Вось так разганяюцца, бягуць, а потым лёгка адштоўхваюцца і... ляцяць. Нейкія імгненні яны яшчэ перабіраюць у паветры нагамі, як бы не заўважаюць, што ўжо не на зямлі, а ў небе. Птушыныя крылы такія вялікія і надзейныя, што ім і не страшна, я б лётала кожны дзень, калі б у мяне былі такія крылы...

Вось лячу я над нашай хатай...

– Прывітанне, бабуля, прывітанне дзядуля! Гэта я, ваша крылатая ўнучка...

Лячу і думаю: якая ўсё ж такі маленькая наша вёсачка, нібы намаляваная. Хатка на хатку глядзіць – вокнамі ўсміхаецца. У бабы Фрузы – дым з коміна абаранкамі, значыць, печ паліць і пышкі смажыць. Якія ж смачныя ў яе пышкі выходзяць, з такой сонечна-карычневай скарыначкай... Адкусіш кавалачак, сакавіты тлушч па барадзе цячэ...

– Баба Фруза, у цябе сёння пышкі з грыбамі ці з мясам? – крычу

суседцы з-за хмаркі. Яна галаву задзірае, нешта гаворыць, ды я не чую, няма часу прызямляцца. Лячу далей, няхай пышкі пачакаюць...

Лячу... а пад маімі крыламі – рэчка з дзіўнай назвай Вір. Нават трохі страшна вымаўляць гэтае слова. Рэчка неглыбокая, але цячэнне ў яе хуткае. Таму малым дзецям у Віры купацца нельга, бацькі не дазваляюць, ды мы ўсё роўна купаемся, хаця б паблізу берага, каб дно пад сабой адчуваць... Лячу над Вірам, а поглядам ужо далёка-далёка за нашым лесам... Сястронскі лес лепшы, чым Заенскі, бо весялейшы, не такі густы, і чарніцы ў нас смачнейшыя... Лячу так далёка, што, здаецца, нават вырай вось-вось пабачу, цёплы казачны край, дзе птушкі зімуюць. Але ж цяпер лета, таму птушкі з выраю да нас прыляцелі, гэта іхняя Радзіма таксама.

Бягу з Мішкавай гары, а сама сабе думаю: магчыма, людзі раней былі падобныя да вялікіх птушак, а потым забыліся, што ўмелі лётаць. Нешта ў іх там здарылася, раз забыліся... А, можа, вось што... Аднойчы пайшоў дождж, нават зліва. І ліў гэты дождж дзень за днём і ноч за ноччу. Людзі не маглі лётаць, таму што іхнія крылы сталі цяжкімі ад вады і слёз. Людзі-птушкі ратавалі адзін аднаго, сваіх дзяцей, унукаў. Смерць хадзіла так блізка, што некаторыя адчувалі яе ледзяны подых. У людзей-птушак тады было шмат клопату. Не да палётаў... А калі скончыліся дажджы і высахлі крылы, аказалася, што яны развучыліся лётаць. З таго часу памяць пра палёты жыве толькі ў нашых снах і мроях...

Што за дзіва, гэтая Мішкава гара! Тут вецер адпачывае. Я нават ведаю, дзе знаходзіцца яго хатка. Ну, не хатка, а палац, ну, не палац, а замак... Але ж ветру не патрэбна столькі месца, колькі чалавеку. Вецер можа проста зачапіцца за галінку дрэва і вісець уніз галавой. Яму галоўнае зазямліцца, бо калі не зазямліцца, то зноў у свае нябёсныя вандроўкі ірване. Толькі яго і бачылі! Калі я бягу з Мішкавай гары, то адчуваю вецер тварам. Гэта значыць, што ён пакуль тут, на сваёй радзіме. Толькі на роднай зямлі добра спіцца...

Калі па шчырасці, то Мішкава гара не такая ўжо і гара, а горачка, не надта вялікая. Зімой мы з сябрамі тут на санках катаемся. Невядома хто першы ў Сястронках назваў гэты пагорак гарой, і як яна стала Мішкавай, таксама не ведаю. Мне, канечне, такая назва падабаецца, бо адразу свайго дзядзьку Міхася ўспамінаю. А можа, гару назвалі Мішкавай, бо ён тут некага ўратаваў? Уратаваў і маўчыць. Вельмі сціплы герой мой дзядзька... Бягу з гары раскінуўшы рукі... А ластаўкі кружляюць над галавой, і буслы, і жаўранкі, і ўсе іншыя птушкі, якія памятаюць, кім мы былі раней і якое няшчасце з намі здарылася... Можа, яны ведаюць, чаму некаторыя людзі сталі злымі і жорсткімі, чаму зайздросцяць, крыўдзяць адзін аднаго?.. Добра, што ў нашых Сястронках такіх не шмат.

Бягу, бягу з Мішкавай гары... Яшчэ думаю, што на зямлі, а ўжо ў небе...

## А мне не балюча...

Калі ў Сястронках вяселле – дык гуляе ўся вёска. Галоўнае, каб лавак хапіла. Ставяць іх літарай "Т" цераз усю хату, і панеслася... На вяселле запрашаюць і дарослых, і дзяцей, і зусім старэнькіх. Свята – дык жа для ўсіх свята! Ужо не памятаю, хто жаніўся, а хто замуж выходзіў, але там я пабачыла... ЯГО. Насупраць нас з мамай сядзеў прыгожы вясёлы хлопец гадоў сямнаццаці з русявым кучаравым чубам, блакітнымі вачамі. Як на першы погляд – нічога асаблівага, але яго ўсмешка – сціплая, далікатная,

нібы ён усіх трохі саромеўся, мяне зачапіла. Нешта адбылося глыбока ўва мне, нібы стрэлкі гадзінніка пабеглі хутка-хутка: перадзімовая імгла, мяцеліца, першыя пралескі, ландышы, суніцы, яблыкі, жоўтае лісце, – і так па колу, па коле, ляцела мая душа ў тое невядомае, чаму і назвы тады яшчэ не ведала, але ж адчувала, адчувала... Калі Пятрусь глядзеў на мяне сваім сарамлівым паглядам і нашы вочы сустракаліся, я раставала, нібы масла на сонцы, і спаўзала пад стол. Матуля падхоплівала мяне недзе на паўдарозе да падлогі, вяртала на месца, але праз хвіліну я зноў спаўзала, і ўсё паўтаралася спачатку. Шчокі палымнелі, я прыкладала да іх пустую шклянку дном, каб неяк суцішыць хваляванне, ды гэта не дапамагала. Вясельны стол быў застаўлены рознай смакатой, адны галубцы чаго вартыя, ды ежы для мяне нібыта не існавала – я бачыла толькі блакітнавокага красунчыка насупраць. Сэрца выскоквала з грудзей, бухкала, як дзедаў молат па накавальні. Матуля ніяк не магала зразумець, што са мной адбываецца, кранался далонню лоба, а раптам тэмпература, нядаўна ж хварэла... Я таксама не разумела, што са мной, папрасілася на свежае паветра, больш не магла вытрымліваць такога напружання.

– Мамуся, я хуценька, толькі куранятак пакармлю, туды – і адразу сюды, ты нават засумаваць не паспееш...

Матуля дапамагла апрануцца, і я пабегла на двор... Але і там лягчэй не стала: рабіла выгляд, што гуляю, а сама праз вакно падглядвала за сваім каханым. У рэшце рэшт нехта з дарослых звярнуў увагу на мае незвычайныя паводзіны. Пачалі распытваць, што ды як, і я не вытрымала – падзялілася таямніцай...

І тады мяне вырашылі з Пятром сфатаграфаваць.

– Ідзі сюды, Іначка, не бойся, ты яму таксама падабаешся...

Для дарослых, напэўна, гэта было нечым дзіўным, незразумелым, вясёлым, а я тады ўпершыню адчула не толькі закаханасць, а і першае расчараванне ў людзях... "Як маглі дарослыя расказаць Пятру маю таямніцу? – у скрусе думала я. – Напэўна, і ён смяяўся з мяне, не верыў, што такое магчыма..." Першы сорам, першы страх быць асмяянай, разгубленасць, няўпэўненасць... Усё гэтыя пачуцці віравалі ўва мне і вырываліся з плачам на свабоду... Я пабегла па сястронскім бальшаку, звярнула да лесу, толькі б далей ад гэтага вяселля, няшчырых, злых людзей, глытала на хаду слёзы, як атруту, здавалася, памру тут і зараз. "Вось і ўсё. Вось і ўсё..." Канец лістапада быў халодным, нібы снежань, снегу яшчэ не было, ды зямлю ўжо сціснуў першы, на дзіва люты мароз. Хацелася ўмерзнуць у гэтую глебу, як крыга. Скінула сваё футрачка, каб хутчэй бегчы, каб ніхто не дагнаў, не знайшоў, не пасмяяўся... "Ніколі не вярнуся на тое дурное вяселле, няхай там нячысцікі скачуць, лепш замерзнуць у лесе, сустрэць ваўкоў, ператварыцца ў ваўкалака... Смейцеся! Смейцеся! – думала я, – толькі мне не балюча! Мне не балюча!"

Ужо каля самага лесу мяне дагналі, падхапілі на рукі, закуталі ў цёплую коўдру, ды ўсё ў ва мне здранцвела, анямела, нібы я – ужо не я. Раптам стала абыякава, што са мной будзе адбываецца далей. Абмякла, скарылася... "Няхай будзе што будзе..."

А потым мяне паставілі побач з Пятром і сфатаграфавалі. Так і засталося ў нашым сямейным альбоме смешнае фота: разгубленае куранятка ў футрачку і валёнках, а поруч, прысеўшы на кукішкі, сімпатычны вясёлы юнак. І надпіс прыгожым матуліным почыркам на зваротным баку: "Іна са сваім «жаніхом». Тры гады дзевяць месяцаў".

## Земляное сонца

Баба Франя была нават нейкай нашай раднёй, не крэўнай, а праз дзядулінага брата, Міколу, якога я зусім не памятаю. Трохі яны пажылі разам, сына Пецьку нарадзілі, але потым нешта ў іх пайшло не так: сварыліся – мірыліся, сварыліся – мірыліся, а потым узялі і разышліся. Франька знайшла сабе іншага мужыка – горкага п'яніцу Шурку. Невысокі той дзядок, падобны на злоснага гнома, на дзяцей зыркаў з-пад лоба, а бывала, што і мыліцай замахваўся, проста так, дзеля парадку, каб баяліся. Цераз дзень Шурка лупцаваў сваю жонку, і яна прыбягала да маёй бабулі жаліцца на жыццё, выцірала слёзы замусоленым выцвілым фартушком, бабуля ёй спачувала, як-ніяк, а нібыта радня.

– Ды кінь ты свайго Шурку, колькі ўжо можна мучыцца! Наш Колька табе быў не такі, хоць не піў і не біў, а гэты алкаголік што, падабаецца?

– Ой, Мурачка, лацвей табе жыць за Грыгаронкам... Чужую бяду – рукамі развяду, так? Як жа я Шурку пакіну, куды пайду? Выганю – дык здохне недзе пад плотам. Шкада... Жалею яго, дурня...

– Сама ты дурэпа, як рэпа! Цярпі тады... што слёзы праліваць?

У бабы Франі ад Шуркі было трое сыноў – Генька, Сашка і Колька, дарослыя ўжо дылды. Сядзелі ў маці на шыі і, як і бацька, у чарку заглядалі. Адным словам, жыццё ў Франькі было беспрасветным, і таму я яе шкадавала. Як пабачу на вуліцы – то пернік прынясу, то апельсінам падзялюся, мне дзядзька Міхась з Масквы прывозіў, ён там вучыўся ў нафтавым інстытуце. Баба Франя ніякіх прысмакаў не бачыла, усё ішло на гарэлку. Толькі прывязуць у магазін – ужо стаіць у чарзе сярод першых. Насіла мужыку і сынам, тыя саромеліся выходзіць на вуліцу п'янымі...

Неяк баба Франя паабяцала мне паказаць земляное сонца. "Што гэта такое за дзіва-дзіўнае?" – я ўвесь час пра гэта думала, і нават сон прысніла. Земляное сонца нібыта жыве ў гары, як каменная кветка з казкі Бажова, дзядуля мне такую чытаў... Вось расколваецца гэтая гара, прыгожая такая, як вясёлка, і адтуль выкочваецца сонца. "Яно ж залатое, – кажа баба Франя ў маім сне. Я бяру сонца ў рукі, а яно не пячэ, толькі цёплае трохі, і вясёлка па ім скача...

Баба Франя паабяцала паказаць мне земляное сонца назаўтра, калі прыгоніць карову з поля. О, якія жаданыя тыя хвіліны чакання! Невыпадкова кажуць, што чаканне шчасця нават большае за самое шчасце... За бабай я падглядвала праз агарод, таўклася каля іхняй лазні, амаль у сажалку не звалілася, але ў хату зайсці не наважвалася, баялася ўсіх тых п'яніц, якія сядзелі ў яе на шыі... І вось нарэшце мара, як хмара – блізка-блізенька! Франька ідзе па бальшаку, гоніць дадому сваю аднарогую карову Зорку. Бягу да яе, махаю рукамі, як крыламі...

– Баба Франя, дык жа ж калі ты мне ўжо пакажаш земляное сонца?! Маё шчасце ўжо зачакалася! А ты... А я... Фух! Стамілася бегаць каля тваёй хаты і земляное сонца чакаць!

– Калі-калі? Дык вось... хоць цяпер. – Не спяшаючыся, яна прывязала карову да плота, правяла поглядам іншых кароў, якія, калыхаючыся, нібы вазы з сенам, праплылі па бальшаку. – А зараз, Іначка, заплюшчы вочы і дай мне сваю руку. Толькі не падглядвай, інакш земляное сонца не адчуеш...

"Вось яно... нарэшце збудзецца..." – мара замуркатала голасам майго ката Ваські, калі гладжу яго па галаве... Я моцна-моцна заплюшчыла вочы і даверліва працягнула бабулі сваю далоньку.

– А цяпер прысядзь, дзетачка, вось так, малайчына... – Баба Франя асцярожна ўзяла маю руку і рэзка тыцнула яе ў вялізны цёплы каравяк.

Яшчэ знаходзячыся ў сваім чароўным казачным свеце, я нават не зразумела, што ж такое на самой справе адбылося...

– Вось табе і земляное сонца! – Баба Франя рагатала, як шалёная, аж плот, на які яна апіралася, дрыжаў, а я разглядала сваю брудную далоньку, нібы бачыла ўпершыню... Хацелася крыкнуць бабе Франі “замры!”, так мы з сябрамі крычым, калі гуляем у “Мора хвалюецца”, а пасля расплюшчыць вочы і пабачыць, што ўсё гэта толькі гульня або сон, жахлівы, непрыемны, але сон... Вось я прачнуся, і ўсё будзе па-ранейшаму. Сонейка скіне з неба сваю вясёлую вясёлку, і я пабягу па ёй далёка-далёка ад злоснай дурнаватай бабулі, ад свайго сораму, крыўды, спадзяванняў, якія не збыліся...

* * *

...Бабу Франю я сустрэла праз шмат гадоў пасля свайго дзяцінства. Ужо нікога са старэйшых сястронскіх родных не было, у нашай хаце жылі чужыя людзі, якія спілавалі нават стогадовую елку каля вакна. Ужо было цяжка пазнаць дарагія мясціны, якія зараслі, адзічэлі, нібы ператварыліся на нейкі залюстроўны свет, халодны, незнаёмы... А баба Франя яшчэ жыла. Мяне пабачыў цераз агарод яе ўнук, калі расказала, хто я і што тут раблю, запрасіў у хату...

Баба Франя была такая старая, што нават забылася, колькі ёй гадоў... можа сто, а можа й больш. Бясколерныя вочы слязіліся, ужо амаль не бачылі, яна гублялася ў мінулым, блыталася ў сучасным, але ўсё ж пазнала мяне. Сказала: “Каб ты ведала, Іначка, як я стамілася жыць... Шуркі, сыноў ужо даўно няма, а я ўсё жыву і жыву...” Праўнук і ўнук бабы Франі палуднавалі ў суседнім пакоі, я бачыла іх праз адчыненыя дзверы, яны спрачаліся пра нешта, мацюкаліся. На стале, неахайна засланым старымі газетамі, акрамя нейкай бульбы, сала і агуркоў стаяла недапітая пляшка гарэлкі і яшчэ адна поўная, але ўжо адкаркаваная. Зразумела, што і гэтыя нашчадкі бабы Франі закладаюць за каўнер. “Якое няшчасце... такое вялікае жыццё... Ці была ў ім хоць нейкая радасць і... сэнс?” – падумала і спужалася ўласных думак. Ці ж можна асуджаць нечае жыццё, яго не пражыўшы? Тут бы са сваім разабрацца... Мне было страшэнна шкада бабу Франю, ды я больш не магла знаходзіцца ў гэтай тлумнай няўтульнай хаце, выбегла на чыстае паветра... Жахліва было нават азірнуцца. Здавалася: калі азірнуся – ператваруся ў саляны слуп... “Ці развіталася я з бабай Франяй?” Успамінаю... успамінаю... і ніяк не магу ўспомніць.

## Лазня

Хадзіць у лазню без дарослых я баюся. А раптам Лазнік украдзе? У яго шурпатыя далоні з бародаўкамі на пальцах, сам увесь зарослы поўсцю, як мядзведзь, і валасы даўгія, да самай зямлі. Калі мы з матуляй мыемся ў лазні, я час ад часу пазіраю ў маленькае ваконца на вуліцу. Мне трохі вусцішна, а што, калі Лазніка пабачу? Пакуль мыемся, ён на прызбе сядзіць і на чарацянай жалейцы грае. Толькі мы не чуем, бо нашы вушы закладзены парай, як ватай.

– Ой, мама, зноў мне ў вочы мыла залезла, ой, пячэ! Пацалуй хутчэй!

– заву маму, каб не думаць пра Лазніка. Матуля цалуе мае вачаняты, і на душы становіцца весялей. Яна мые мае валасы сунічным мылам, такім пахучым, што адразу лета ўспамінаю, але пена ўжо напраўду патрапіла ў вочы, хоць я іх сумленна заплюшчвала.

– Ой, пячэ, ой, шчыпле!.. – крычу, і мама зноў цалуе мае вочы. Яна палівае мае валасы з вялікай конаўкі, і на драўляныя дошкі лазні ліецца пахучая вада. Мне ўяўляецца, што з гэтай вады на мокрай падлозе вырастаюць блакітныя кветкі – зязюльчыны слёзкі, менавіта такія, што растуць каля нашага плота па дарозе ў лес. І вось падлога лазні – ужо не падлога, а лугавіна, а драўляныя сцены – не сцены, а жывыя дрэвы. У дрэваў вырастаюць новыя галінкі, на галінках з'яўляюцца маладыя лісцікі, па іх поўзаюць божыя кароўкі...

– Інка, ты збіраешся сёння мыцца ці не? – строгі голас матулі выхоплівае мяне з зялёных прахалодных мрояў і вяртае ў гарачую лазню. Моцныя маміны рукі падхопліваюць мяне пад пахі і садзяць на цёплы, вільготны палок. Сяджу на палку, матляю лыткамі, пакуль матуля мыецца, а потым, нібы ўспомніўшы нешта важнае, ускокваю, станаўлюся на поўны рост.

– Глядзі, мама, на колькі я за мінулы тыдзень падрасла – ужо да столі рукой дакранаюся!

...У лазню мы ходзім кожную суботу, і гэта – маленькае свята для ўсёй нашай сям'і. Днём мужчыны носяць у лазню ваду, паляць печку-каменку. Вады трэба нагрэць шмат, каб на ўсіх хапіла – дзядулю, дзядзьку Міхася і дзядзьку Івана, бабулю, маму і мяне, русявую пурхаўку. Пурхаўкай мяне называе мама, бо я пурхаю, як пташка – вось я тут, а вось мяне ўжо няма, ніхто не пабачыць і не знойдзе... Мужчыны і жанчыны мыюцца асобна, па чарзе. Трэба ўсім паспець памыцца да заходу сонца, бо калі сонца зойдзе, у лазні чэрці мыюцца. Так гаворыць бабуля, але сама ніколі тых чарцей не бачыла. І яшчэ мне дзіўна, чаму неахайнага чалавека называюць брудным, як чорт, калі гэтыя рагацікі так любяць мыцца?..

Ляжу на цёплым палку на жываце, а матуля бярозавым венікам сцёбае мяне па спіне, нажанятах, па гладзенькай далікатнай дупцы – трохі мацней, каб добра адчула бярозавую пяшчоту. Мне не балюча, толькі трохі ласкотна, я смяюся, брыкаюся нагамі. Мама дадае пары, выплюхвае куфаль вады на гарачае каменне, яно сычыць, як вужака, і я проста захлынаюся ад гарачыні, глытаю пару і не магу праглынуць, моцна закашліваюся. Мама пужаецца, падхоплівае мяне на рукі і, загарнуўшы ў белую прасціну, выносіць у прылазнік. Ох, нарэшце жаданая прахалода... Дыхаецца лёгка, нібыта толькі што на свет нарадзілася. Я абдымаю маму за шыю і раптам пытаю:

– Мама, а калі я нарадзілася, ты моцна радавалася?

– Канечне, моцна. Я вельмі цябе чакала, – адказвае мама, і яе прыгожыя карыя вочы становяцца вільготнымі.

– Чаму ты плачаш, мама, чаму? – Вяду пальчыкамі па дужках яе прыгожых броваў, адкідваю прыліплыя да смуглявага твару цёмныя валасы...

– Я не плачу, дачушка, проста мыла ў вочы трапіла...

Цалую матуліны вочы, як яна цалавала раней мае, але мыльнай вады на вуснах не адчуваю. Вочы салёныя на смак, і я разумею, што гэта напраўду слёзы. Няўжо мама плача ад таго, што ёй балюча ўспамінаць маё нараджэнне?..

– Я плачу ад радасці, што ты, дачушка, вырасла такой вялікай, што, стоячы на палку, можаш дакрануцца да самай столі...

Праз некалькі гадоў, калі я падрасла і пайшла ў школу, мама расказала, што, аказваецца, я магла і не нарадзіцца, што дактары, праз нейкую сур'ёзную хваробу, забаранілі ёй мець дзяцей, што я нарадзілася хваравітай і ў два гады перанесла запаленне лёгкіх... Таму матуля заўсёды хвалявалася за маё здароўе і жыццё...

...Калі б я магла сёння хоць на імгненне перанесціся ў лазню свайго дзяцінства, якое б гэта было шчасце!... Выціраю далонькай маленькае запацелае ваконца і... раптам бачу зарослы кудлатай поўсцю твар Лазніка. "Не заплюшчвай вочы, Іначка, не пужайся, проста падміргні яму, нібы свайму добраму знаёмаму", – я нібы чую ўпэўнены і зацішны матулін голас... Смешны, зусім не страшны Лазнік усміхаецца мне ў адказ.

## Баба Даша і дзед Васіль

Баба Даша так моцна пакрыўдзілася на Жанку, што нават не хоча з ёй размаўляць. Сядзіць сабе моўчкі і гузікі на халаце прышывае. Вочы яе як гэтыя гузікі – круглыя і маленькія, і сама баба Даша такая маленькая і кругленькая, як здобная булачка. Яна добрая, але зараз злуецца, і не толькі на Жанку, але й на мяне, за кампанію. А Жанка што? А Жанка нічога – схадзіла да свайго дзеда Васіля ў госці, адведала проста. Калі б баба Даша магла, яна б пасадзіла Жанку ў торбу і насіла б з сабой – куды баба, туды і Жанка. Кроку маёй сяброўцы без бабінага дазволу нельга ступіць.

Вось сядзім мы з Жанкай за сталом і ў карты гуляем – у "мокрую курыцу". Гульня адпаведная настрою. На дварэ – дождж. Калі б не дождж, мы б з Жанкай гулялі на вуліцы, а так сядзім і на злосную бабу Дашу паглядаем. У паветры такая напруга – хоць ножыкам на кавалкі рэж. Толькі ці дапаможа? Эх, баба Даша, ну пры чым тут Жанка, калі вы з дзедам Васілём пасварыліся на ўсё жыццё? Няўжо і да смерці не даруеце адно аднаму? Дзед бы і рады памірыцца, ды баба, як няскораная партызанка, – маўчыць і нават у яго бок не глядзіць. А Жанка між імі як масла паміж лустамі хлеба – то дзед яе раўнуе да бабы, то баба да дзеда. Так і жывуць...

Гэтая гісторыя пачалася яшчэ да вайны, калі Жанкі і ў памоўцы не было, а яе маці, цётка Святлана, толькі нарадзілася. Тады дзед Васіль і загуляў... Не падабаецца мне слова "загуляў", лепш "закахаўся". Вось, напрыклад, мой сябар Алег у мяне закахаўся, і яму б не спадабалася, калі нехта сказаў бы "загуляў"... Але пра дзеда Васіля, тады яшчэ маладога мужчыну, усе казалі менавіта "загуляў". Адным словам, пакінуў ён бабу Дашу з маленькай Светкай і на год старэйшым Алікам і пайшоў жыць у прымакі да Райкі Сташкоўскай. Чым яна прывабіла Васіля, бабы й да сёння плёткі плятуць – кажуць, што Райка была гарачая, а Дашка – халодная. Што гэта азначае, ніяк не магу зразумець: гарачай або халоднай можа быць гарбата, каша, суп у рэшце рэшт... Пры чым тут сястронская цётка? Ды як бы там ні было, а перабраўся дзед Васіль у іншы канец вёскі, туды, дзе жыла Райка. Паплакала баба Даша, пагаравала, ды што рабіць – стала жыць без мужыка...

– Дзед Васіль усю кроў бабуліну выпіў, – гаворыць Жанка. – Не я гэта сказала, а мая мама. Яна з братам Алікам і вокны хадзілі біць да Райкі, і вароты дзёгцем мазалі – нічога не дапамагло. А калі ў дзеда Васіля ад другой жонкі хлопчык нарадзіўся, Колька, яны такое прыдумалі, што і вымавіць страшна... Вырашылі немаўля ўкрасці і прадаць цыганам! Мама казала, што перад вайной у вёсцы шмат было цыганоў. Табарам стаялі каля лесу.

– І што, укралі? Прадалі?! – я аж рот разявіла ад жаху.

– Ды не, не прадалі. Кольку пашэнціла – вайна пачалася. Калі б не вайна – точна ўкралі б. Ведаеш, якая мая мамка рашучая? Раз – і адрэзала, раз – і адрэзала!

– Што адрэзала? – па маёй спіне прабеглі мурашкі.

– Дзяроўня ты неасфальтованая! – смяецца з мяне Жанка, – гэта значыць, што мамка як скажа, так і зробіць. Рашучая, значыць. Як вайна пачалася, ёй усяго шэсць гадоў было, як нам з табой зараз, а дзядзьку Аліку – сем.

Дзед Васіль пайшоў на вайну. Адваяваў. Перад самай перамогай яго моцна параніла. Вярнуўся ў Сястронкі з гармонікам і без нагі. Доўга лячыўся перад гэтым у шпіталі. Дзед да хаты, а ў Райкі іншы мужык жыве – здаравенны такі, Вярнігара прозвішча. Ён і выглядаў, як асілак, прозвішча на дзіва адпавядала. Калі скончылася вайна, гэты Вярнігара прыехаў у Сястронкі даглядаць свайго хворага бацьку і на Райку вока паклаў. Прысуседзіўся. Кантужаны, але ўсё пры ім. Тры месяцы пасля перамогі Васіля не было, і Райка падумала, што яе мужык загінуў, прапаў без вестак. Не пісаў ёй Васіль са шпіталя ні слова, саромеўся, што без нагі. А калі вярнуўся, Райка ўжо з іншым жыла... Вось і паскакаў дзед Васіль да бабы Дашы мірыцца... Яна яго ў хату не пускае, а ён слязамі заліваецца, кажа, што ўсё жыццё сваё перакрэсліў, калі да Райкі пайшоў. Дзяцей сваіх абдымае, цалуе, таксама прабачэння просіць... Пашкадавала яго баба Даша. Даравала. Прыняла.

Некалькі гадоў жылі добра. Святланку ды Аліка гадавалі. У дзеда Васіля пенсія добрая. Ён не шкадаваў грошай на дзяцей і бабу Дашу.

– Ведаеш, Інка, якая ў маёй мамкі была найлепшая цацка ў дзяцінстве? Лялечны домік. Тут ні ў кога такога не было. Яго дзед Васіль з Нямеччыны прывёз. Мамка ўсё жыццё марыла пра такі сапраўдны дом, і каб татка з імі ў гэтым доме жыў...

Усё б яно і нічога, ды дзед Васіль засумаваў. Сядзе ўвечары на прызбе, возьме свой гармонік, і нешта такое тужлівае грае, быццам не жыццё ў яго з бабай Дашай, а пакута. Аказваецца, ён увесь гэты час Райку Сташкоўскую не мог забыць. А як Кольку, сына свайго ад Райкі, у вёсцы пабачыць, то лепш бы і не бачыў. Хлопчык ужо не памятаў свайго роднага бацьку, думаў, што ён сын Вярнігары, і ад гэтага сэрца дзеда Васіля балела яшчэ больш.

І раптам здарылася нечаканае. Пайшоў Вярнігара ў лазню мыцца, доўга парыўся там з мужыкамі, сваімі сябрамі, можа, і гарэлачка там была, а потым пачалі яны ў рэчку скакаць. Гэта быў канец сакавіка, толькі лёд сышоў. Скочыў Вярнігара ў ваду і... не вынырнуў. Сэрца спынілася. Ад кантрасту тэмператураў, дактары сказалі... І пачаў Васіль зноў у Райчын бок паглядаць...

– Ты чула, Матрона, Васька ж зноў хоча з Дашкай памірыцца. Старыя ўжо, хутка паміраць, кажа... Забыўся, як другі раз Дашку з дзецьмі пакінуў і сышоў да Райкі Сташкоўскай... – гэта баба Ульяна з маёй бабуляй вясковыя падзеі абмяркоўвае, і сённяшнія, і колішнія. – І Вярнігару тады Райцы дараваў, і крыўду сваю перажыў... Мёдам у яе паміж ног намазана ці што? Глядзі ж ты: добрыя бабы жывуць без мужыкоў, а да такіх, як Райка б..., у чарзе стаяць...

...І тады баба Даша свайго Васіля пракляла. Сказала ў нядобры час на голыя дрэвы нейкае такое страшнае слова, што ён моцна захварэў. Ваніта-

вала дзеда, жывот моцна балеў. Ледзь не памёр. Ніякія дактары, ніякія лекі не дапамагалі. А пасля таго, як дзед Васіль ачуняў, у яго знік інтарэс да жанчын. Хадзілі яны з Райкай нават да Іваніхі здымаць порчу. Дала знахарка нейкія зёлкі, ваду пашаптала, ды не дапамагло яму тое лячэнне...

З Райкай Сташкоўскай дзед Васіль пражыў да канца яе дзён. Мая бабуля кажа, што ўсё жыццё сваю другую жонку на руках насіў...

– У дупу цалаваў сваю Райку, а яна ім пагарджала. Не кахала Васіля Райка, проста выкарыстоўвала ягоныя магчымасці як інваліда вайны – і дровы ім прывозілі ў першую чаргу, і гной на агарод, і машыну-інвалідку першым далі... Але сын іхні, Колька, вырас непуцёвы, не стаў падтрымкай бацькам. Нават у турме, кажуць, сядзеў. А пасля за мяжу з'ехаў, нібы на заробкі, а сам – канцы ў ваду. Ні атвету, ні прывету. Пракляла Дашка Васіля, пракляла...

– А я свайго дзядулю ўсё роўна люблю, што б там пра яго ў вёсцы ні казалі, як бы бабуля на мяне з-пад лоба ні зыркала. Мой дзядуля – заўжды такі добры, вясёлы. А як на гармоніку грае, заслухацца можна... – Жанка накрыла калоду апошняй картай не ў масць, і яе стрыжаныя каштанавыя кудзеркі падскочылі ўгару. – Усё, скончылася гульня! Нічыя. І дождж скончыўся, бяжым на вуліцу!

Босыя, вясёлыя, мы з Жанкай беглі навыперадкі па цёплых лужынах сястронскага бальшака ад хаты бабы Дашы да хаты дзеда Васіля. Мы радаваліся сонцу, небу, зялёнай траве – жыццю, і шкадавалі дарослых, якія не заўжды ўмеюць гэтае жыццё шанаваць. Спыталі б у нас, дзяцей, мы б ім расказалі...

## Храпкі

Калі мне пераваліла за пяць гадоў, я ўпершыню папрасіла ў таты з мамай браціка ці сястрычку. Да гэтага мне і самой жылося нядрэнна, але прыклад вясковых сяброў змусіў задумацца: чаму я адна ў Сусвеце? У Алега быў Вадзім, у Вадзіма – Алег, у Ігара – Соня. Я ж па-ранейшаму была аднаадзінюткая. Над мудрагелістым пытаннем адкуль бяруцца дзеці, я доўга ламала галаву, нарэшце вырашыла спытаць у мамы. Яна ў гэты час крышыла капусту для баршчу, і калі пачула мае словы, застыла з ножыкам у руцэ.

– Адкуль бяруцца дзеці?.. М-м-м... А ты, Іначка, хіба не ведаеш?.. М-м-м... Дзяцей у капусце знаходзяць. Вось. Трымай храпку, пакаштуй, ведаеш, якая карысная! Вітаміны... Чым больш ты такіх з'ясі, тым хутчэй у цябе брацік нарадзіцца...

З наступнага дня я пачала зазіраць пад капуснае лісце і, нічога там не знайшоўшы, цягаць з градкі качаны. Клала іх на дзядулеву калоду для колкі дроў, дзядзь-Мішыным сцізорыкам акуратна выразала сарцавіну, а ўсё, што заставалася, перакідвала цераз плот у агарод бабы Нюры. Шмат качарыжак з'есці я не магла, таму працэс зацягнуўся. Капусная градка лысела паступова, таму бабуля не адразу заўважыла прапажу. Калі залысіны сталі ўжо відавочнымі, яна забіла трывогу.

– Знікае некуды наша капуста, Іван, ты заўважыў? Дзе ж яна?

– А халера яе ведае! – дзядулі было не да капусты, бо чытаў свежую газету.

Абмеркаванне прапажы з Франькай і Уллянай таксама не прынесла карысці. Сяброўкі выказалі версію, што качаны магла пабраць баба Нюра, бо яе ўласная капуста ў гэтым годзе не ўрадзіла.

– Матроначка, гэта точна яна! Памятаеш, як Нюра яшчэ да вайны на твайго Івана паглядала? – развярнула тэму ў неспадзяваным накірунку баба Франя.

– Во-во, я сама бачыла, як яна Івану пышкі насіла, калі ты ў горад ездзіла, – падхапіла баба Улляна і падміргнула бабе Франі. Абедзве сяброўкі зарагаталі, закашляліся, нібы слінай ядавітай падавіліся.

“Працягваць гэтую размову маёй бабулі непрыемна”, – адчула я нават цераз шчыліну ў дзвярах. Рэпутацыю бабы Нюры трэба тэрмінова ратаваць, яна ж качаны не крала. Тады я рашуча адчыніла дзверы на ўсю шырыню і закрычала:

– Баба Франя, у цябе вароны ў агародзе гарох дзяўбуць, а ў цябе, баба Уля, каровы буракі топчуць!

Не ведаю, паверылі мне бабулі ці не, ды падхапіліся, як квактухі, ірванулі дадому. Калі сяброўкі зніклі, я ва ўсім прызналася бабулі, бо есці храпкі ў мяне ўжо проста не было сілаў. Папрасіла, каб бабуля матулі нічога не казала пра гэтае здарэнне, бо было сорамна...

Брат нарадзіўся неўзабаве пасля таго – усяго нейкіх тры месяцы прайшло. Напэўна, чароўныя храпкі ўсё ж спрацавалі! Зімой брат жыў з бацькамі ў горадзе, а вясной, у канцы траўня, яго нарэшце прывезлі ў вёску. Я не магла налюбавацца сваім брацікам. Каравокі прыгажун-баравічок ужо самастойна поўзаў па разасланай на падлозе коўдры, смактаў свой палец і зусім не цікавіўся маімі цацкамі... Мне так хацелася хутчэй паказаць брацікa сябрам, што аж у носе казытала ад нецярпення. Уяўляю, як яны здзівяцца! “А вось мой Андрэйка”, – шчаслівa скажу я, і няхай яны тады лопнуць ад зайздасці...

– Інка, непрыгожа хваліцца! – стражыць мяне матуля, – не хапала, каб Андрэйка падхапіў нешта ад хлопцаў. Можа, яны кашляюць, хварэлі ж нядаўна... – Матуліны аргументы, як заўсёды, пераканаўчыя. Што паробіш, я ўздыхнула і села маляваць Івана Царэвіча. “Вочы яму намалюю такія ж, як у майго брацікa. Во!”

Брат быў ціхмяным немаўляткам, таму матуля часта пакідала вазок на ганку, няхай хлопчык падыхае свежым паветрам, а сама, пакуль той спіць, мыла падлогу ці рабіла нешта іншае па-гаспадарцы. Ну што б вы зрабілі на маім месцы? Во-во... Хапаю вазок і лячу са двара, каб ніхто не заўважыў. Толькі мяне і бачылі! Але ж я ненадоўга, якіх-небудзь пяць-дзесяць хвілінаў. Мама і апамятацца не паспее, як мы ўжо будзем на месцы. Толькі Андрэя сябрукам пакажу і хуценька назад. Скажу: “Вось, глядзі, мамачка, брацік на месцы, а я, як ні ў чым ні бывала, двор падмятаю. І ніхто мяне пра гэта не прасіў, проста я працавітая дзяўчынка!” З такімі думкамі я весела каціла вазок па асфальце, а брацік ціхенька спаў, нават не здагадваўся, што вязу яго на агледзіны.

Алега і Вадзіма не прыйшлося доўга шукаць, яны каталіся на роварах па бальшаку. Мне карцела пакатацца з імі, свайго веліка тады яшчэ не было, але стрымалася, не папрасіла. Што той велік, цяпер у мяне ёсць брат, ён ужо поўзае і сядзіць, яшчэ трохі – й пачне хадзіць. Во!

– А ў мяне ёсць брат! Вось, палюбуйцеся! Ненадоўга з хаты прыкаціла, каб вам паказаць! – я аж захлыналася ад шчасця.

– Ну і што, – сказаў Алег, – і ў мяне брат. Вадзім.

– Дык ты не разумееш, Алег! Вадзім – твой даўні брат, ён у цябе даўно, а мой брацік – новенькі. Паглядзі, якія ў яго аксамітныя ружовыя шчочкі, так і просяцца, каб іх пацалавалі! Пакуль ён маленькі, але калі

вырасце, будзе мяне абараняць. Няхай толькі нехта паспрабуе пакрыўдзіць – адразу ў лоб...

Я не паспела дагаварыць, бо Андрэй прачнуўся і закрактаў. Ён рэдка плакаў, з дзяцінства быў спакойны і ўраўнаважаны. “Напэўна, усцаўся”, – падумала я і паспрабавала нахіліць ввазок, каб сцягнуць з малога мокрыя паўзуны. Вазок нахіліўся і перакуліўся прама на мяне. На шчасце, Андрэй не забіўся, толькі спалохаўся. Усё адбылося вокамгненна, добра, што абапал бальшака расла высокая трава, пасадка атрымалася мяккай.

– О-о-о! – сказаў брацік. Напэўна, на яго мове гэта азначала “як цікава...” Андрэй ўпершыню пабачыў свет на ўзроўні травы. Мне ж не да прыгажосці, трэба вырашаць практычныя пытанні, напрыклад, дзе пасушыць паўзуны. Я пасадзіла Андрэя пад кустом бэзу на ручнік, паклала побач некалькі бразготак, а сама палезла на разлогую бярозу, каб павесіць паўзуны на прасушку. Недзе чула, што вецер на вышыні дзьме мацней, чым унізе... Тым часам Алег пасадзіў Вадзіма ў Андрэеў вазок і, як ні ў чым не бывала, пакаціў па асфальце.

– Алег! Вадзім! Стойце! Што вы робіце?! Вазок разломіце! – крычала я з бярозы, але браты рабілі выгляд, што не чуюць. Куляй зляцела з дрэва, ды калі апынулася на зямлі, браты былі ўжо далёка.

– Дурні няшчасныя, зараз жа аддайце вазок! Стойце, кажу вам!

Я бегла за братамі, і злыя слёзы халадзілі мае шчокі. Думкі, як пчолы, гулі ў галаве. “Даўно трэба было вярнуцца дадому... ж-ж-ж. Дурэпа... ж-ж-ж... Мама выявіць прапажу... ж-ж-ж... Брат адзін сядзіць пад кустом. Мама перастане мне давяраць і будзе прыязджаць у вёску яшчэ радзей, чым звычайна. Ж-ж-ж... Агледзіны праваліліся. Вядома ж, я няўдаха... ” Думка пра Андрэя, які застаўся без нагляду, сталася галоўнай і вызначальнай. “А раптам сабакі, а раптам цыганы, а раптам брацікa нехта пакрыўдзіць?!” Рашуча выцерла слёзы, махнула рукой на братоў, развярнулася і пабегла да Андрэя. Хутчэй, трэба брацікa ратаваць!

У той жа самы момант з хаты выбегла мокрая і чырвоная ад хвалявання матуля. Яна бегла па бальшаку мне насустрач і крычала:

– Дзе Андрэй?! Куды ты яго падзела, Інка?!

Я зрэзала вугал, каб падбегчы да Андрэя першай. Арыенцір – паўзуны, якія гайдаюцца на бярозе нібыта сцяг. Але тут... ё-маё! Андрэя на ручніку няма! Маё сэрца правалілася ў пяты: “Усё. Прапаў! Цыганы ўкралі!” Матуля нават не магла на мяне крычаць, яна сіпела, нібы захварэла ангінай... Мы разам пачалі шукаць Андрэя... А ён тым часам ляжаў сабе на жываце пасярод паляны з дзьмухаўцамі і ў вус не дзьмуў. Матуля падхапіла Андрэя на рукі, пачала цалаваць, гушкаць на руках. Цяпер мы раўлі ўсе разам, так было весялей. “Эх, і навошта я павезла Андрэя на тыя агледзіны?” – падумала я, а ўслых сказала:

– Мама, прабач мне, калі ласка, я болей не буду! Ніколі-нікалісенькі! Мне проста вельмі хацелася паказаць сябрам майго брата... Недарма ж я столькі храпак з’ела!

– Якія храпкі? – здзівілася мама. Ёй нават лупцаваць мяне расхацелася. Гэтыя храпкі былі такімі нечаканымі і недарэчнымі, што ўся яе злосць некуды знікла, як і не было. Мама, мама, ты так нічога і не зразумела. Прыдзецца табе расказаць, дзякуючы каму Андрэй нарадзіўся. Хаця хваліцца, вядома ж, непрыгожа!

Вячаслаў Лявіцкі



...Афрадыта выйшла не з чырванаватай пены –
яна выйшла з вагона метро
на «Плошчы Леніна»...

# Вершы ў бэзе й шэрані

## *...НІБЫ ЦЮЛЬПАНЫ-БЛАНДЫНКІ (ГРУШАЎКА)*

*З «Менскага цыклу»*

Хлопец перада мною
ідзе з букетам лімонных цюльпанаў.

Да юначай далоні
туляцца кветак таліі,
аж Роза Люксембург з зайздрасцю праразаецца
з шыльдаў на суседняй вуліцы свайго імя.

А ён спяшаецца,
толькі шлях падаецца нязмерным
нібы той лютаўскі вечар.

Светлафорны чырвоны ахоўнік
канвае ўважліва хлопца,
але  што зробіш?

Так яно, адзначаць Свята закаханых,
калі дзяўчына жыве на праспекце Дзяржынскага.

Можа, пачуцці не перашкодзяць моцныя, нібы кастэт.
Напэўна, сапраўды трывалейшыя за той кветкавы жмут
і імклівыя, нібы куля, здольная раструшчыць чэрап
(толькі суседняй вуліцы Шчорса
вядома пра гэта штосьці).

Розе Люксембург, напэўна, зусім нязносна
у мясцовым вулічным таварыстве:
Шчорс, і Дзяржынскі, і безыменныя землямеры,
хіба Лермантаў знекуль з’явіўся.

І, вядома, яшчэ дзяўчына, што чакае хлопца
у Свята закаханых.

Так і ідзем:
ён,
я,
некалькі мінакоў,
бездапаможных, нібы цюльпаны-бландынкі гэтай парой.

І ў хісткім цэлафане вечара
нашы постаці туга зацягнутыя
праспектам Дзяржынскага.

### *БЕЗ ШУМАВІННЯ*

*З «Менскага цыклу»*

*Сержу Мінскевічу і антычнай багіні,*
*выяву якой ён знайшоў у менскай падземцы*

Афрадыта выйшла не з чырванаватай пены –
яна выйшла з вагона метро
на «Плошчы Леніна».

Так бывае на станцыях,
падобных да гротаў марскіх,
асабліва ў гадзіны прыліву.

У тых паглыбленнях горада часам хочацца і самому
застацца малюнкам на мармуровых сценах,
доўгіх, нібы гісторыя чалавецтва,
і пампезных, нібы першасны акіян.

Галоўны клопат – не захраснуць на пераходзе

між галінак метро, як між галін эвалюцыі,
асабліва калі ты ўжо страчваеш рукі,
але гэта, магчыма, яшчэ і не канчаткова.

Цябе яшчэ можа сустрэць пасажыр,
які браўся за складанне твайго жыццяпісу,
бурлівага, але пазбаўленага шумавіння.

І тады ты скажаш Леніну:
«Вярні мне
рукі праспекта Незалежнасці!»

*З украінскай пераклала Вікторыя ТРЫФАНАВА*

## *БАЛАДА ПРА ВЕРТЭБРАЛОГІЮ*

Неяк яшчэ да вайны
я ехаў аўтобусам у Пецярбургу
ад зінгераўскага Дома кнігі
да Універсітэта.

Адпаведна, кандуктарка там
азывалася кніжна і досыць вучона.

«*Выправьте стан*», –
прынукала кандуктарка
й праціскалася між

чыноўнікаў, пухлых, быццам кодэксы,
і бібліятэчных хіпстараў,
скрукаваных, як параграфы,

выкладчыц, паўпразрыстых, нібы нататкі на палях,
і электрыкаў, такіх, якімі бываюць
электрыкі на вуліцах разбітых ліхтароў.

«*Выправьте стан*», – прынукала яна
ў аўтобусе, беспаветраным і працяглым, як Нява.

«Выправіце стан», –
азывалася раз-пораз кандуктарка,
заместа «Не горбіцеся!»,
ці «Ану далоў з праходу!»,
ці «Затрымай дыханне, пузане!»

Іменна так: «Выправіце стан».
Амаль як сціслая петыцыя
пра які-небудзь стан:

эканамічны і грамадскі,
адукацыйны, і трапяткой свабоды слова,
і хоць які там яшчэ.

Усе расступаліся: электрыкі, чытачы,
выкладчыцы, следам – розныя падтопленыя сенатары,

а школьнікі ля вакна
перашэптваліся пра анёла,
што знямеў над казематамі.

«Выправіце стан...
... Выправіце стан.
... Выправіце...»

Нават не сумняюся, што і цяпер
тая кандуктарка далей выходзіць у рэйсы,
і выпраўляе стан,
і сардэчна выструньвае,
і надалей зануraецца ў свой вучоны салон.

Праўда, стан горшы яшчэ,
стан – кволейшы, нікудышны ўшчэнт.

Заўжды так бывае
з хрыбтом, адчайна гарбатым,
якому стаў муляць
нарошчаны хвасцец чужога паўвострава.

*З украінскай пераклаў ЯЎГЕН КУНЦЭВІЧ*

## ВАКАЦЫІ НА МОРЫ[1]

### 1

Мы шыбавалі па набярэжнай,
а на ўзбочыне пасвіўся конь
у яблыках, вялізных, быццам Кіеўскае мора.

У вохрысты жакейскі гарнітур
убіраўся парк, які быў,
верагодна, англійскім,
хаця, можа, насамрэч французскім:
не зусім зразумелаю мовай валодаў.

[1] Цыкл прысвечаны экскурсіі па рэзідэнцыі «Межыгір'я» экс-прэзідэнта Украіны Віктара Януковіча. Цяпер фактычна стала «музеем карупцыі», які адлюстроўвае раскошу жыцця свайго былога ўладальніка. Нерухомасць складае каля 140 гектараў і размешчаная на беразе Дняпра (Кіеўскае вадасховішча, больш вядомае пад назвай Кіеўскае мора) (*тут і далей – заўвагі перакладчыка*).

У пятлічцы – позняя магнолія,
у картузе – страусінае пяро.
Красун, дый толькі.

А конь соладка пасвіўся,
і набярэжная рабілася чым далей, тым вузей.

Нават не ведаю, як вяртацца на карабель.

*2*

Усе згрудзіліся на ганку
і працягвалі ўслухоўвацца
у не надта зразумелую мову.

На яе перайшло Кіеўскае мора,
цалуючы руку тутэйшай залевы.

І ўсяго адзін хлопчык не ўцякаў
і пераймаўся мовай,
бо, хаваючы сшытак у кратачку,
рашаў задачу
з нейкага дапаможніка для пазакаласнай работы

Вось яна:
«Што сталася б з дажджом,
калі б парасон раскрыў цар Мідас,
папярэдне падставіўшы далонь пад кроплі?»

*3*

Калі вярталіся,
на верхняй палубе ўжо стаяў вечар
у кіцелі, пашытым з узвышэнняў
берага правага і холаду берага левага.

Усе тапілі жах і рыхтаваліся да шлюзаў,
фатаграфаваліся поруч з вечарам і
прымяралі яго кіцель,
жартавалі і развітваліся з летам.

А найболей смяяўся хлопчык,
можна сказаць, рагатаў няўпынна
і на зайздрасць усім.

Ён залівіста хіхікаў і гігітаў,
хіхатаў і гагатаў,
хехекаў і падхіхікваў.

Той хлопчык быў равеснікам хонкі[1],
адной добра вядомай хонкі,
хіхахонкі, дый толькі,
а смех яго бывае не сціхае яшчэ да сёння.

* * *

*З цыклу «Свята і загубленая гісторыя»*

Брацтва шпакоў
з келляў сваіх бузінавых
падаецца ў пераддажджавую прошчу.

Іх расы пралыгвае срэбны ўзор,
і штоміг павялічваюцца петлі ў вышыўцы.

Зацягваецца шывок –
і расчыняецца барочнае каджэнне суквеццяў.

Выбліск –
і па-над плошчай анёл
будзе згортваць у скрутак
шпаковую паломніцкую аповесць.

*З украінскай пераклаў Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ-ШЫЛОВІЧ*

## НА СПАЧЫН КАРАНТЫНУ

Цярпення моўчкі сядзець няма,
Штотыдзень я заледзьве трымаўся,
Мне прысвяціў бы стары Дзюма
Раман «Віконт у медычнай масцы».

Мяне запомніце, дрыжучы,
Такім – і хутка такім забудзьце.
Хай карантын бы знайшоў спачын,
Як скогат мой, у павязцы скуты.

Да асцярогі тут кожны звык,
Але ў нас двор ужо больш увішны:
Цюльпаны ў тон маіх рукавіц
Смела на сход нелегальны выйшлі.

Наш карантын – караван суздром
Ад элінгтонаўскага джаз-банду:
У бэзе й шэрані з дому ў дом
Паўзе ён горда, хаця й неладна.

[1] Маецца на ўвазе т. зв. клубны дом у Межыгір'і, па назве фінскай фірмы «Honka», які ў найвялікшай меры асацыюецца са сродкамі, здабытымі несумленным чынам.

А можа, хай яшчэ дзень жыве,
Аднак жа потым – сякера ката:
Я выгуляю па дарозе ў сквер
Яшчэ не мераны рэспіратар.

* * *

Нячулая штораз да чэрствасці пагроз,
Разважліва, і з тым – дзівосна жвава
Разведвае сініца ў балаклаве
Балкона белаконтурны блокпост.

Пад промнямі святла сядзіць напроці шкла,
Акрайкі рамаў правярае моўкна,
І выпіска з яе рэестру вокнаў
Употай вызірае з-пад крыла.

Далей ад капяжоў праз хвілю міражом
Журботна пырхне, рынучы няўлоўна
Ў рэдуты неба за галлістым ровам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я не азваўся на пароль? Няўжо?

* * *

*На хмурых сходах запаволь хаду...*

А. Вольжыч

Аж вылаяцца хочацца: «Шклатара!..
Спачыў архітэктурны сілуэт!..»
Ды з вуснаў ані яскаркі, ні пары,
калі ў фае адольвае імпэт

і ўвысь імкнеш, дзе крохкія паверхі,
дзе ты – падняўся ўжо, шчэ не дарос –
пагодзішся, што зблытаў на паверку
паветра ў лёгкіх і абшар нябёс;

дзе Кіеў між галінак прамяніцца –
ужо не даўні, ды стары яшчэ;
танклявая й бялявая званіца
надумлівым паглядам апячэ.

Па кроку адкаркоўваеш (мо хціва?)
будынак – нехлямяжа дзьмуты штоф.
Зацьменне? Проста залпам перспектыву
з вакна ты выпіў: за глытком глыток.

*З украінскай пераклаў Яўген КУНЦЭВІЧ*

проза

Вітаўт Чаропка



...цуд тады становіцца Божай праявай,
калі ў яго паверыць той,
хто не верыць у цуд...

# Цуд

***Апавяданне***

Калі стамляешся, збочваеш з дарогі і ў прахалодным цяньку дрэва, прытуліўшыся да камля, заплюшчваеш вочы і аддаешся сваім думкам, якія, нібы мядовы пах гэтай прыдарожнай дзічкі, квітнеючай бялюткім вэлюмам, уваходзяць у цябе... Колькі ўжо пройдзена дарог і не злічыць, колькі сустракалася на іх людзей! Яго слухалі і адыходзілі ад гэтага дзіўнага чалавека, што вяшчаў ім пра новае Божае пасланне, вучыў любові да блізкага свайго, нават да ворага, дабраслаўляць тых, хто ненавідзіць цябе, і маліцца за тых, хто крыўдзіць і гоніць цябе, каб быць сынамі Айца нябеснага. Яго не разумелі. Навошта ратаваць душу, калі багі возьмуць яе і яна паляціць да продкаў, дзе ёй будзе добра і радасна?

Колькі краінаў ён абышоў са сваім словам, нават не можа адразу і ўзгадаць іх назвы. Гнаны, ён пакідаў іх. І зноў дарога пад пякучым сонцам, знясільваючая стома ад дальніх пераходаў, сціплая ежа, начлегі дзе давядзец-

ца – такая вось яго доля, якую ён выбраў. Так ён нёс слова Хрыстова па свеце, нёс людзям ісціну і ратаванне, лячыў хворых, перамагаў дэманаў, разбураў капішчы і ўзносіў над імі крыж. У горадзе Сінопе раз'ятраныя паганцы схапілі яго і пацягнулі па вуліцах, білі кіямі і кідалі ў яго камянямі. Ён не адчуваў болю, бо балела душа ад горычы за людзей. Ледзь жывога яго выкінулі за гарадскую сцяну. Ачуняў ён ад лёгкага цяпла, што, як віно расцякалася па яго крыві, надаючы яму сілы, і тады ён выразна пачуў знаёмы голас, ціхі і патрабавальны ў сваёй праваце голас: "Устань, абраны, першазваны вучань мой. Смела ідзі да іх і не бойся жорсткасці іх. Я з табою". Прыліў сілаў падняў яго, і ён пайшоў у гэты злы горад. Калі жыхары ўбачылі яго здаровага і непабітага, дык, уражаныя такім дзівосным уваскрашэннем, сарамліва хавалі ад яго вочы. Іх дзікая злосць, невідушчая нянавісць і шалёная жорсткасць аказаліся бяссільнымі перад яго праўдай. Ён явіў гэтым збянтэжаным дзікунам Божы цуд! Цяпер словы яго трапілі ў іх азлобленыя сэрцы, размякчылі іх упартасць. Шмат хто, крануты яго словамі, прыняў Хрыстову веру. Ілжэмудрыя філосафы ў горадзе Самасаце прыступалі да яго са спрэчкамі, а ён разбіў іх довады.

– Самі паглядзіце – на няскладнасць і бязладнасць жыцця вашых ілжывых багоў, паглядзіце і прыгадайце, як яны сварацца і варагуюць адзін з адным, – казаў ён натхнёна, дзівячыся сам, адкуль у яго бяруцца правільныя словы і лагічныя думкі, нібыта яны ўваходзілі ў яго самі, пасланыя Усявышнім, а ён толькі перадаваў іх людзям. – Усялякая барацьба, усялякая звада ёсць пагібель, шкода, бяда. Бог жа па натуры сваёй мусіць быць Адзіны, як гэта і ёсць сапраўды. Бог добры. Ён – крыніца дабрыні, творца свету. Накіруйцеся на верны прамы шлях, на шлях, указаны ў богаадкрытым законе. Удумайцеся ў вучэнне пракокаў, якія абвяшчаюць ісціну і абяцаюць людзям спакойнае і вечнае жыццё. Спазнайце Хрыста Ісуса, абвешчанага задоўга да яго нараджэння на зямлі, прадказанага прарокамі, сапраўднага Бога, імем якога ўваскрасаюць нябожчыкі, выганяюцца нячысцікі, лечацца хваробы.

Ганарлівыя філосафы ўсміхаліся яму са знявагай у вачах. Яны, як і простыя людзі, хацелі пацвярджэння і доказаў, хацелі цуда – хай імем свайго Бога хоць хворага вылечыць. Людзі захапляюцца цудам, як дзеці мыльнымі пухірамі. Такія яны незвычайныя, так вабяць іх зіхаценнем яскравых зменлівых колераў. Людзі прагнулі цудаў. Без цуда не было веры яго словам. Як тут не ўсміхнуцца гэтай дзіцячай наіўнасці. На яго глядзелі, як на вандроўнага фокусніка ці чараўніка. А можа, ён уваскрэсіць нябожчыка? Уваскрашаў! Гэта было ў Фесалоніках, дзе вораг роду чалавечага падняўся супраць яго і абудзіў людскую зайдрасць і злосць супраць апостальскага казання. Праконсул Квірын паслаў вояў увязніць яго. Адзін з іх кінуўся з мячом на праконсула і выпусціў дух. Тады ён сам прыйшоў на двор Квірына. Раззлаваны праконсул пагражаў яму карамі: "Вось калі ты адчуеш перадсмяротную пакуту, паглядзім, ці ў сілах выратаваць цябе ўкрыжаванаму, аб якім ты прапаведуеш?" Гэтыя рымскія паслугачы – самыя ўпартыя ў сваёй цемры і баязлівыя за свой сан. Учапіліся за сваё хлебнае месца, як тапелец за саломінку. Праўда іх слепіць, навізна – палохае. Яны вераць не ў сваіх скульптурных ідалаў, а ў тое, што скажа іх любы цэзар. І цуд іх не пераканае. Але ўсё ж ён вырашыў пераканаць упартага праконсула, выратаваць яго.

– Праконсул Квірын! Мае малітвы нябеснаму Ойчу і маё сардэчнае

жаданне – каб і ты, як шмат хто з тваіх падданых, увераваў у адзінага сапраўднага Бога і ў таго, хто паслаў мяне сюды, – у Ісуса Хрыста. І скажу табе: магчымасць уверavаць асабліва блізкая табе цяпер, тут, паколькі перад тваімі вачыма ляжыць кодаб воіна, які загінуў за тое, што выконваў твой загад.

Скептычная ўсмешка на змяіных вуснах праконсула выдавала, што і ён, як той хітрун-філосаф, не надта верыць словам апостала. Тады апостал малітвай і дотыкам да рукі ўваскрасіў няшчаснага воіна, які заварушыўся і павольна падняўся на ногі. Няўцямна, як пасля доўгага сну, паглядаў ён на чалавека, які трымаў яго за руку, пераводзіў позірк на людзей, што запоўнілі двор і радасна крычалі ды размахвалі рукамі. Адзін толькі праконсул ад лютасці ажно пачырванеў да кончыка свайго доўгага слізкага носа і ледзь стрымліваўся. Ягоная вялікая ўлада сталася бяссільнай перад кволым чалавекам, які выдаваў сябе за боскага вестуна. Гэтага праконсул не мог сцярпець.

– Ты чараўнік і блюзнер! Я пакараю цябе! – захлынаўся ад жоўці праконсул.

Голас яго патануў у гучных воклічах людзей, якія патрабавалі напісаць цэзару, што яны прынялі казанне аб укрыжаваным і наследуюць слову Божаму, таму пакінулі служэнне ідалам і шануюць адзінага сапраўднага Бога. Праконсул яшчэ спрабаваў нешта мовіць, але ў адказ у яго паляцелі камяні. Пад зняважлівы свіст і рогат праконсул уцёк у свой палац.

Апостал не супраціўляўся, калі яго ўзялі пад варту, спыніў рукой тых гарачых, што кінуліся на вызваленне. Не трэба звадак і крыві. Яму шчасна, што зможа пайсці ўслед за сваім настаўнікам. І шчасна адчуваў сябе, калі балючыя бізуны ў жорсткіх руках турэмшчыкаў крэмзалі яго спіну, крывавячы яе наўсцяж. Ён пакутваў за свайго Бога, і пакута злучала яго з ім у адну духоўную сутнасць.

Наступным днём варта прывяла яго ў цырк. Квірын сядзеў у аздобленай карункамі ложы з жонкай і малалетнім сынам. Праконсул падрыхтаваўся святкаваць перамогу – няўхільную перамогу велічы сваёй улады над гэтым самазваным прарокам, які ўздумаў засумнявацца ў сіле рымскіх багоў. Наіўны, веліч не ва ўладзе і сіла не ў падмане фальшывых куміраў, а ў праўдзе! А праўда за ім, бо з ім сам Бог.

Апостал не спужаўся лютых звяроў, якіх напусціў на яго звар'яцелы ад помсты і крыўды праконсул. Ён стаяў пасярод круглай арэны, перакрыжаваны позіркамі людзей, і адчуваў іх затоеную трывогу за сябе, іх боязь горкага расчаравання. Вось яго разарвуць драпежныя іклы на крывавыя шматкі, і іх вера ў сілу новага Бога загіне. Ён бачыў, як бяжыць на яго вялікі вепр, выставіўшы наперад вострыя іглы. Нават не варухнуўся, вепр аббег яго і кінуўся наўцёкі. Тады на яго напусцілі раз'ятранага тура – гэткую магутную махіну з даўгімі рагамі, адным махам якіх можна было закінуць чалавека за трыбуны цырка. Даведзены да лютасці дроцікамі звер затаптаў некалькі рабоў і разарваў рагамі двух капейшчыкаў, якія наносілі яму балючыя раны, а пасля кінуўся на нерухомага чалавека. У нейкі момант сэрца яго абарвалася і ён адчуў, як па-здрадніцку задрыжэлі ногі. Гарачая хваля смуроднага паветра ўдарыла ў твар. Налітыя крывёю вочы звера з нянавісцю праціналі яго. Ён паспеў вымавіць ратавальнае слова “Божа”, і адразу ж разгарачаны звер з разгону ніцма бразнуўся перад ім. Пыл, пырскі пяску паляцелі ў яго твар, а каля самых ног у перадсмяротных

сутаргах сканаў звер, які нёс яму смерць. Над арэнай навісла цішыня і апостал пачуў тахканне свайго сэрца. А пасля радасныя, гучныя воклічы штармавой хваляй узняліся над трыбунамі цырка. Здавалася, гэтага было досыць, каб упарты праконсул зміраўся са сваім паражэннем, прызнаў ісціну. Толькі ганарлівасць штурхала яго на вар'яцтва. Ён выпусціў на арэну раз'ятранага леапарда. На вачах аслупянелага праконсула звер скочыў у ложу, выцягнуў адтуль яго сына і задушыў. З ганарлівага ўладара праконсул адначасна ператварыўся ў вартага жалю чалавека, якога прыгнула страшэннае гора. Гучны крык няшчаснай маці працяў цішыню над арэнай. Гэты голас адчайнага болю ўдарыў у сэрца апосталу, ажно апякло душу. Цяпер ужо сам ён прагнуў цуда і, схіліўшыся над акрываўленым тулавам хлопчыка, выпрастаў над ім налітыя агнём далоні. Здаецца, уся энергія і сіла сцякаліся да кончыкаў пальцаў, якімі ён праводзіў па тулаве хлопчыка, адчуваў, як яно наліваецца жывым токам. Ён уваскрасіў сына праконсула, каб той уверваў у адзінага сапраўднага Бога і ў таго, хто паслаў яго, апостала Хрыста Ісуса. Нават пасля гэтага чароўнага ўваскрашэння свайго сына праконсул з-за дурной упартасці і самалюбства не спазнаў ісціны. Хоць ужо не пераследаваў яго: "А, рабі што хочаш". Уваскрашэнні былі, але цуда не адбылося. Цуд тады становіцца Божай праявай, калі ў яго паверыць той, хто не верыць у цуд.

А сам ён верыць у цуд? Так ён і не навучыўся хадзіць па вадзе, дакладней, не верыў, што зможа, як Хрыстос, лёгка ісці па воднай гладзі і не праваліцца на дно. Ён не тое што не мог уявіць сябе бязважкім, адчуць паветраную лёгкасць, а як просты чалавек баяўся гэтай бяздоннай прорвы з якой сеткі выцягвалі не толькі рыбу, але і тапельцаў з пасінелымі распухлымі тварамі, аб'едзенымі марскімі жыхарамі вачыма. Баяўся, што не ўтрымаецца і праваліцца ўніз, баяўся гэтай чорнай прорвы, як страшэннага пакарання. Баяўся быць падобным да гэтых брыдкіх тапельцаў, калі і яго выцягнуць рыбакі ў сетцы.

Вось і сядзіць ён на беразе гэтай шырокай ракі, супрацьлеглы бераг якой губляецца на даляглядзе, і не ведае, як дабрацца да яго. Не адважваецца перайсці раку па вадзе, няма веры ў сябе. Гэтая рака, якую эліны называюць Барысфен, несла свае бурлівыя воды да Понта Эўксінскага, які ён пераплыў на купецкай галеры. Хвалі пераліваліся сонечным бляскам, нібыта хвалі Галілейскага возера, сагрэтыя залатым цяплом сонца. Яны з братам Сымонам закідваюць з хісткай лодачкі сетку ў таямнічыя нетры, куды часам боязна зірнуць. Закідвалі і выцягвалі напалову пустую сетку, у якой трапяталіся некалькі рыбінак. І цяпер, здаецца, не выветрыўся з яго душы пах рыбы, а начамі сніцца срэбна-залацістая луска, якая сляпіла яго, калі ён даставаў рыбу з сеткі. А цяпер ён лавец чалавечых душ!

Ні ён, ні яго брат Сымон, ні іх бацька Іона, ды ніхто з жыхароў рыбацкага гарадка Віфсанда не мог уявіць, што стане ён першазваным вучнем вялікага настаўніка. Нічым ён з братам незвычайным не вылучаўся, лавілі рыбу і з таго жылі. Здавалася, як іх бацька, да канца свайго веку будуць яны выходзіць у Галілейскае возера і ўпарта, да стомы ў руках, закідваць у яго сеці.

Які быў наіўны іх бацька. Ужо змучаны гадамі рыбак, сын і ўнук рыбака, з прапахлай рыбай душой. Наіўны, казаў, што настане час і на зямлю Абяцаную прыйдзе месія і прынясе людзям шчасце. Возера закішыць кішма рыбай, самай рознай рыбай. Лаві колькі можаш. Закінеш сеці і

не выцягнеш іх ад неймавернага ўлову. Вось тады і зажывуць шчасна людзі! І як яны з братам шчыра верылі ў гэтага чарадзейнага месію. А ўсё атрымалася іначай, не чароўную шчаснасць прынёс месія, а ісціну, якую трэба адпакутаваць целам і душой. Ісціна, якую ён успрыняў без цудаў і без доказаў, бо яе прыняла душа. А цуд вось – квятастыя нівы радуюць вочы сваёй красой, лёгкае паветра асвяжае твар, мядовы водар квітнеючай дзічкі кружыць галаву. Цуд адноўленай прыроды – вось цуд з цудаў! Калі гэта зразумеюць людзі, калі нарэшце ўцямяць простае, што ім дадзены вочы ўбачыць Боскую прыгажосць, дадзена мова, каб асэнсаваць значэнне сваіх слоў; каханне, што вызначае іх захапляльнае пачуццё, сяброўства – сваю далучанасць да іншага чалавека, міласэрнасць – спачуванне да ўбогага бедалагі, надзея – спадзяванне на лепшае, то стануць чалавечнымі. Светлыя пачуцці чалавека – гэта таксама цуд! І ён хоча абудзіць іх у людскіх душах. Так з рыбака зрабіўся ён лаўцом душ чалавечых! Ён нясе добрае слова, якое пачуў ад месіі, і зачараваны, як баранчык за пастухом, пайшоў за ім. І куды гэта ён завёў яго на гэты раз, у якую краіну? Лясы, дзе тужліва выюць ваўкі, паўнаводныя рэкі, па якіх баяцца плаваць людзі, доўгія бязлюдныя мясціны. Ужо некалькі дзён ён не бачыў ні чалавека, ні нават слядоў дзейнасці яго. Ці ўвогуле жывуць далей людзі? Эліны называюць гэты край Гіпербарэяй. Палову года зямля тут пакрытая снегам і рэкі скутыя ільдом. Навошта ён упарта паглыбляецца ў гэтую першародную глушэчу? Так хацеў сам Хрыстос, які з'явіўся да яго ў сне і мовіў: "З табою знаходжуся, куды б ты ні пайшоў, бо і Скіфія чакае цябе". Вось прайшоў ён Скіфію і ўступіў у гэты невядомы край. Значыць, сам Гасподзь павёў яго сюды на край свету.

Незвычайнасць і чароўнасць настаўніка ён убачыў пры сустрэчы на Іардане. Здавалася, ад яго сыходзіць сонечнае святло, так спакойна і шчасна пачувалася побач з ім. Адкрыты твар выказваў дабрыню і любоў, і ласкавым поглядам самотных вачэй глядзеў ён на людзей, якія затоена слухалі яго словы. Вось ён, Месія! Увасабленне зямнога і нябеснага, чалавечага і боскага. Усёй шчырасцю свайго сэрца пацягнуўся ён да гэтага чалавека, і той заклікаў ісці за ім. Ён стаў першым яго вучнем.

Памятаецца добра-сумны погляд чалавека, якому трэба ісці, пакідаць сваіх сяброў і блізкіх, але так неахвота сыходзіць, не хочацца, бо ведае, што больш не ўбачыць іх, ніколі не падтрымае іх сваёй дабрынёй, што без яго ім будзе цяжка. Ён мусіць быць з імі, але не можа. Чаму? Хіба нельга неяк інакш? Якім-небудзь іншым чынам, праз цуд, праз боскую сілу пазбегнуць гэтай расправы на крыжы? А настаўнік пайшоў на расправу. Ціха, але цвёрда прамовіў яму: "Так трэба! Тое, што павінна адбыцца, адбудзецца. У свой час ты гэта зразумееш і зробіш тое самае. Павер, Андрэй!"

І ён ужо не намагаўся зразумець, чаму. Ён ведаў, што так трэба, і калі надыдзе яго час, ён зробіць тое самае – дасць ускрыжаваць сябе, бо праз крыж яго настаўнік выратаваў яго. Цяпер ён Раб Крыжа Хрыстова і жадае крыжовай смерці!

Толькі ці заслужыў ён гэткую праведную смерць? Сорамна, але ён малаверны, як яго брат, названы настаўнікам Пятром, калі той памкнуўся пакінуць лодку і пайсці па моры насустрач настаўніку ды пачаў тануць і крычаць: "Госпадзі! Уратуй мяне!" Настаўнік выратаваў яго, працягнуўшы яму руку, і мовіў: "Малаверны! Навошта ты засумняваўся?" Вось і ён малаверны, сумняваецца, не верыць, што зможа, як настаўнік, стаць

бязважкім і пайсці па вадзе. Як вучыў яго настаўнік: “Адчуй лёгкасць, сваю бязважкасць, павер, ідзі і не бойся”. А ён баяўся, і, калі ступаў на ваду, ногі адразу шугалі ўніз на дно. Яму не ўдалося і кроку ступіць па вадзе, нават па дробным ручаі, а не тое што па моры. Няўжо ён страціў сувязь з Настаўнікам? Што ён не так робіць? Лавец душ! Ці варты ён быць паслядоўнікам Месіі, які паказаў сваю Боскую здольнасць тварыць цуды? Апосталу стала сорамна за такія думкі.

Калі глядзіш у вочы вечнасці і ведаеш хуткалётнасць зямнога існавання, такімі нікчэмнымі і ганебнымі ўяўляюцца твае чалавечыя слабасці і грахоўныя нягодніцтвы, што робіцца сорамна за сябе. Перад вечнасцю яго жыццё ўсяго імгненная ўспышка, дык варта ёю асвятліць цемру вакол сябе.

Які цудоўны водар напоўніў паветра, і пчолы, ужо ап’янелыя ад яго, кружляюць над бялюткімі кветкамі грушы! А якія лёгкія празрыстыя воблакі, што ветразі на лодцы! А вось мурашка паўзе па яго дарожным кійку. Для яе, малой, гэты кій цэлы свет, такім вялікім ён здаецца ёй. А гэты – кій верны спадарожнік у бясконцых дарогах. Апостал хацеў пакласці кій на траву і ўжо нахіліў яго, як на далонь сеў матылёк. “Божая краса ўпрыгожвае і гэтую зямлю”, – падумаў ён. Яго пужалі суворасцю гэтага невядомага краю, лютымі звярамі і злымі варварамі. Дурнота гэта ўсё. Бог удосталь адарыў кожную зямлю красой. Матылёк узляцеў з далоні і нырнуў у паветра. І гэта таксама цуд!

Падумаць толькі, ён мог па-ранейшаму лавіць сваю рыбу і радавацца кожнай рыбцы, як той ліхвяр грошу. А жыццё павяло яго па ўсім свеце, і вось прывяло да краю айкумены, ці гэта не цуд?

Так задумліва сядзеў апостал на беразе шырокай ракі. Ужо сонца на захадзе пачало павольна патанаць у аблоках, якія падзялілі яго на дзве часткі – вялікую верхнюю і ніжнюю маленькую, падобную на дугу. Але паступова дуга пашыралася і большала, налівалася чырвоным бляскам гарачага свінца і, нібыта аццяжарыўшы, пацягнула за сабой увесь сонечны дыск, і вось ужо ягоная вяршаліна праз якое імгненне схавалася ў аблоках. І зноў чырвоны дыск, нібыта адштурхнуўшыся ад воблака, пакаціўся на нябёсах. Так коціцца наш час, а з ім і нашае жыццё.

Трывожнае пачуццё раптам ахапіла Андрэя і прымусіла яго зірнуць на водную стужку ракі, і сэрца радасна забілася. Па рацэ плылі тры караблі. Вецер надзімаў іх чырвоныя ветразі, падымаліся і апускаліся доўгія вёслы. Вострыя насы, увенчаныя разнымі галовамі ці то цмокаў, ці то нейкіх міфічных звяроў, рассякалі ваду і падымалі хвалі. Само з’яўленне караблёў ужо радавала, бо гэты край аказаўся ўсё ж абжытым. Калі б гэта быў купецкі караван, дык ён мог працягваць далей шлях на караблях. Але чым бліжэй падплывалі караблі, тым больш трывожна рабілася ў яго на сэрцы. Чырвоныя шчыты – круглыя і трохкутныя, што абляпілі барты, востраканечныя шоламы воінаў відавочна ўказвалі, што караблі не купецкія, а ваенныя. А ваяры ў любым чужынцы бачаць ворага, і лепш з імі не сустракацца. Андрэй падняўся з прымятай травы і прытаіўся за ствалом дзічкі, зліваючыся сваім белым адзеннем з яе бялюткім строем. Ужо быў чуваць пляск хваляў ад удараў вёслаў, гучанне галасоў, адрывістыя воклічы весляроў, і тут ён пачуў выразны жаночы лямант, які перабіваў жаласлівы дзіцячы плач. Цяпер ён разгледзеў на карме першага карабля групу звязаных вяроўкамі жанчын, якія сядзелі на палубе. Гэта плылі не ваяры, гэта былі жорсткія і дзікія гандляры рабамі. Яны нападалі на

мірныя весі, палілі іх, забівалі мужчын і хапалі жанчын і дзяцей. У Херсанесе Андрэй бачыў гэтых няшчасных ахвяр на нявольнічым рынку, іх выбіралі сабе на пацеху багатыя эліны ці куплялі для гарэмаў персідскіх і арабскіх уладароў купцы-юдэі. Галашэнне жанчын, разлучаных са сваімі дзецьмі, горкія слёзы дзяўчат, такіх юных і мілых, асуджаных на распусту новых гаспадароў, прымушалі яго сэрца таксама плакаць з іх гора. І гэты нявольніцкі караван вёз на той ганебны рынак рабынь. Колькі людскіх лёсаў будзе скалечана жорсткай несправядлівасцю, колькі загіне светлых душ. Андрэй з горыччу адчуваў сваё бяссілле. Ён ніяк і нічым не мог дапамагчы няшчасным нявольніцам. Да болю ў пальцах сціскаў ён свой кій. Здаваўся сабе не боскім пасланнікам, а кволым баязлівым чалавечкам, словы якога ніколі не зменяць жорсткія законы гэтага свету, і ўся яго місія безвыніковая, а значыць, і бессэнсоўная. Вось хаваецца ён баязліва і не мае сілы вызваліць нявольніц – ні паслаць буру, ні ўсыпіць вояў, ні разбіць маланкай караблі. Застаецца толькі моўчкі з горыччу ўспрымаць несправядлівасць.

Караблі ўжо параўняліся з месцам, дзе расла дзічка, у засені якой затаіўся Андрэй, і яе квяцісты абрыс ажыў на пенных хвалях. Ён бачыў, як на карме каля нявольніц, пагрозліва размахваў пруткім бізуном наглядчык. Гарачая хваля болю прайшлася па Андрэі, ён нібыта ўвабраў у сябе ўвесь невыносны боль нявольніц, што ўздрыгвалі ад кожнага ўзмаху лютага бізуна, аж зашчаміла сэрца. Што там адбылося, Андрэй адразу не разгледзеў: ці наглядчык ударыў жанчыну і тая кінулася на яго, ці яшчэ што, але ўбачыў, як яна ўчапілася рукамі за ногі свайго мучыцеля, у руках якога білася, як сабачанё, маленькая бялюткая постаць дзіцяці. Лёгкі ўзмах дужых і жорсткіх рук, і жывы камячок з роспачным усхліпам паляцеў за борт у раку.

Пыркі, што ўзняліся з вады пасля падзення дзіцяці, здаецца, дасягнулі да Андрэя і абдалі яго колкім холадам і вывелі са здранцвення. Нейкая ўладарная сіла штурханула яго наперад і, падначаліўшыся ёй, ён пабег да ракі. Бег лёгка і спрытна, ледзь дакранаючыся зямлі, нібыта ляцеў па паветры. Гэтую лёгкасць Андрэй успрыняў за паскарэнне з крутога адхону пагорка. Ён баяўся не паспець. Дзяўчо вынырнула з вады і няўклюдна біла рукамі па ёй, намагаючыся ўтрымацца на вадзе. Яно адчайна змагалася за сваё жыццё і з хуткай плынню, і з крутымі хвалямі і, пэўна, жах перад іх смяротнай пагрозай надаваў сілы. Паспець, толькі адно жаданне падначальвала яго думкі, паспець. Нічога і нікога, апроч гэтай дзяўчынкі, ён не бачыў, нічога не чуў, апроч яе роспачнага плачу. Ён бег з усёй хуткасцю, на якую быў здатны, не як у адчаі перад смяротнай пагрозай, ратуючы сабе, а як у бяспамяцтве бягуць ратаваць самае дарагое – блізкага табе чалавека, дзіця ці каханую, ці маці, калі ахвяруюць дзеля гэтага сабой. Ён не заўважаў стрэл вакол сябе, якія неслі на жалезных вастрыях смерць. Стрэлы не паспявалі за ім і працінalі пустое паветра, дзе імгненне таму ён быў. Гэта не стралкі аслеплі, гэта так імкліва ён бег. Вось і край вады. Не задумваючыся і не спыняючыся ні на крок, ні на імгненне, ён працягваў бегчы, як па інерцыі, калі нельга спыніцца. Вада запырскала пад яго сандалямі, але ён не зважаў на гэта. Калі стане глыбока, ён паплыве, але выратуе дзяўчынку. Але падалося, ён трапіў на мелкаводдзе, бо вада не намачыла нават яго шчыкалаткі; ён бег па вадзе як па лёгкім тумане, што слаўся па зямлі. Дзяўчынка, змагаючыся з апошніх сілаў, ужо захлына-

лася. Вось яна схавалася ў набеглай на яе хвалі, і на момант яе галоўка паказалася на паверхні. Узляцела рука і бездапаможна ўпала ўніз.

Людзі на караблях прымоўклі. Ваяры і іх нявольнікі з цікавасцю назіралі за чалавекам, які бег па вадзе, бо ў сваім бялюткім хітоне, полы якога разляталіся, ён быў падобны на вешчуна, якому падуладна паветра і вада, ці на нябеснага паўбога. Весляры перасталі грэбсці і паднялі мокрыя вёслы. Мігам праплылі перад яго вачыма сілуэты караблёў, ён быў так блізка да пярэдняга з іх, што мог дакрануцца рукой да яго слізкага драўлянага борта. Але не да таго было. Нахіліўшыся над вадой, ён ухапіў працягнутую далоньку дзяўчынкі, падхапіў яе лёгкае цельца рукой і ўзняў над ракой. Ён нёс яе, як самае дарагое ў жыцці, прытуліўшы да грудзей, а яна, як бяздомны каток, цесна хінулася да яго і жаласліва ўсхліпвала. Бачыў яе дзіўныя сінія вочы, вільготныя ад слёз, адчуваў, як б’ецца яе маленькае сэрца. Ён ішоў па вадзе, як па сушы, пераступаў праз хвалі, як праз барозны па полі.

На караблях панавала маўклівае здзіўленне, ці, можа ён, апантаны і ўзрушаны, не чуў нічога, нібыта вакол настала першародная ціша. Ён ішоў да супрацьлеглага берага, які цяпер ўяўляўся жаданым і вабным, там пачынаўся новы, невядомы яму край. Ён ішоў па вадзе, і душа яго поўнілася такой празрыстай лёгкасцю, што ён адчуваў гэтую лёгкасць, і, здаецца, мог узляцець у паветра. Цуд здзейсніўся! Вялікі цуд – ён выратаваў чалавека!

*2016, 2021 г.*

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць
нашага даўняга сябра і аўтара
шаноўнага **Вітаўта ЧАРОПКУ** з шасцідзесяцігоддзем
і зычаць яму моцнага здароўя, душэўнае трываласці,
Божае ласкі і новых цудоўных твораў!

Павел Любецкі



...паэзія – гэта
ахвяра і подзвіг...

# Эклектыка і дыялектыка

## ПА СЛЯДОХ КАРАТКЕВІЧА

*варыяцыя на тэму верша «Калі паміраюць дрэвы»*

самураі сцвярджаюць, што смерць – адзіная рэчаіснасць, адзінае, што рэальна.
прыкрая, гідкая скажонасць Сусвету, зламанага болем.

боль накатвае хваля за хваляй, а скрозь рэчаіснасць цягнецца белая ніць Арыядны –
любоў ды сплеценыя разам нітачкі лёсаў, апантаных любоўю.

Ніцшэ пісаў, што Бог памёр праз спагаду сваю да людзей. што ж, я дзякую Богу і разумею Бога.
хоць даўно ўжо не веру ў яго і яшчэ больш не веру ў сябе, але бачу – штогод
у нашым смяротным макрасусвеце памірае столькі мікрасусветаў,
што я гатовы пайсці на шыбеніцу ці сам звярнуць сабе шыю,

але ўсё роўна выратаваць тыя, што калісьці ўдыхнулі жыццё
ў напаўгнілы труп маёй, як тады падавалася, адсутнай душы.

### КАЛЯДНЫ ВЕРШ

навіны пра тое, што нарадзіўся Выратавальнік, наўрад ці
дапамогуць забыцца,
што цяпер выратавальнікі займаюцца тым, што здымаюць
сцягі са шматпавярховікаў.

у краіне, дзе пратэст можа існаваць і без лідараў,
а салідарнасць можа стацца новай нормай,
трэба спадзявацца на тое, што кожны сам будзе
выратавальнікам сабе і бліжняму.

у краіне, дзе неабходная згуртаванасць людзей
розных культураў і поглядаў,
дзіўна адрозніваць людзей у залежнасці ад таго,
што за святы яны адзначаюць.

у час, калі спантаннасць ды непрадказальнасць робяцца нормай,
дзіўна лічыць, што так ужо шмат залежыць ад планаў,
раскладаў ды датаў у календары.

а ў моманты, калі ў кожнага з'яўляецца шанец зрабіцца зоркай
на небасхіле,
гэтыя зоркі і змогуць, нібы зорка Віфлеема,
стацца прадвеснікамі Нараджэння Нацыі.

### ЭКЛЕКТЫКА І ДЫЯЛЕКТЫКА

Платонавы целы ды мір ідэяў Платона.
*Reptilian Brain* і Звышчалавек.
Ніцшэ і Халакост.
нацызм і эманацыі.

крышталі, групы пераўтварэнняў.
кааны, тэарэма Гёдэля,
бясконцасць, сіметрыя,
дзэн ды прарэхі ў семантыцы.

назіральнік, які пачынае з чыстых адчуванняў,
каб перайсці ў свет канцэпцыяў і схемаў,
а потым зноў вярнуцца да чыстых адчуванняў
з новым бачаннем і новым досведам.

на нейкі час для яго ажываюць парадоксы,
каб той пабачыў іх у поўным аб'ёме,
а потым зноў робяцца схемамі й нататкамі
на плоскай паперы,

ды ценем на сцяне пячоры Платона
ад вечнага агню Заратустры.

## *ЁСІП БРОДСКІ. 1 СТУДЗЕНЯ 1965 ГОДА*

вяшчун забудзе адрас твой,
не будзе зор над галавой.
і толькі ветру сіплы вой
пачуеш, як ў мінулым.

ты скінеш цень. паслабіш плечы.
задзьмеш свячу, каб потым легчы.
паколькі болей дзён, чым свечак
ідзе на наш рахунак.

што гэта? сум? магчыма, сум.
напеў душы – касмічны шум.
сціхаюць пустаслоўе, тлум,
а ён усё гучыць.

хай грае і ў смяротны час,
удзячнасцю таму, што нас,
пакуль агонь жыцця не згас,
наперад ў бой імчыць.

і моўчкі гледзячы ў столь
(шкарпэткі ужо з'ела моль),
ты сцяміш: Збаўца – толькі роля,
ты сам сабе ратунак.

што позна верыць ў цуды лёсу.
адчуй, узняўшы да нябёсаў,
свой позірк: ты, бы збораў россып –
і скарб, і падарунак.

## *ШЭРЫ КАРДЫНАЛ*

шэры кардынал
заклінальнік шэрых будзень
шэры кардынал

які праводзіць час за кулісамі
шэры кардынал
які не грэбуе і месцам
у глядзельнай залі

шэры кардынал які назірае
як яго марыянеткі прагнуць славы
заключаюць пагадненні і абвяшчаюць войны
вераць што іх перамогі і праўда
і праўда іх перамогі і праўда
смуткуюць баяцца смерці ваююць
за як яны лічаць свае інтарэсы

не разумеючы што ёсць толькі
інтарэсы спектаклю
а людзі гэта ўсяго рэсурс
у руках драматурга
якому абрыдла выхваляцца ўладай
перад кожным стрэчным
і ён пакідае гэтую нікчэмную забаву
марыянеткам

яго ўлады так шмат
толькі пакуль ён застаецца ў ценю
а плата за яе складаецца ў разуменні
што ён і сам усяго толькі рэсурс
у руках гаспадара
які даўно ўжо навісае над ім
і рыхтуецца выставіць рахунак
за яго высахлую
пакрытую шнарамі і каростай
душонку

## ПАЦЫФІЗМ-ТАНКА

пацыфізм – гэта
танка ў якім
браня і гусеніцы
пераўтвараюцца
ў гальштукі-матылі

## ПАЭЗІЯ

паэзія – гэта ахвяра і подзвіг
дзякуй богу, тое, што я пішу – не паэзія,
а так, звычайны душэўны эксгібіцыянізм.

паэзія – гэта як лёгкі подых,
ці амерыканскія горкі, што хутка нясуць цябе ўніз.

паэзія – манашка голая з наколкай на спіне,
ці маўклівы інтэлігент, якога замучыў штодзённы быт.
удзень ён жыве ў рытме разам з усімі,
каб ноччу прачнуцца – у халодным поце – злавіўшы свой рытм.

паэзія ніколі не трывае халтуры
ці фальшу, стракатасці ў вонкавасці.
глыбіня для яе – другая натура,
і гэтых натураў – бясконцасць.

паэзія – гэта несупынныя гонкі,
у якіх ты ніколі не прыйдзеш да фінішу.
яна ўнутры, хоць ўвесь час лезе вонкі.

шэпт ветру,
пах яблыкаў,
плыні шум.

*раптам падхоплены плынню словаў*
*ты можаш выказаць невыказнае*
*па-за шаблонамі, па-за ўмовамі*
*заўсёды тут і заўсёды па-за.*

## АНТАЛАГІЧНА ХАЛОДНЫ ВЕРШ

*у пясочным гадзінніку сыплецца прах часу, што памірае*

квазары карлікі каметы
сегменты часу ды планеты
у пустых вачніцах вечнасці
бракуе чалавечнасці
пад радыяпульсараў хор
згараю быццам метэор
пагост мрой і ўтопій –
радыеактыўны попел

## ПАВУЦІНКА СЛОЎ

подых ветру, асфальт пад нагамі глядзі, як растае павуцінка
слоў і значэнняў!

Алена Вештарт



...ці шмат па-сапраўднаму патрэбных ведаў
было ўплішчана ў нашыя галовы
за тыя дзесяць гадоў?..

# Спатканне

***Апавяданні***

## Баку

*Магчыма, якая-небудзь наша мілая чытачка прыбірае асла ва ўсю пышнасць і бляск свайго ўяўлення, захапляючыся яго тупаватасцю, як мужнай прастатой, схіляючыся перад яго самалюбствам, як перад мужнай годнасцю, убачыўшы ў яго дурасці велічную паважнасць.*

**Ўільям Тэкерэй**

Мой літаратурны гуру патрабуе, каб я напісала, нарэшце, пра Баку. Рука цягнецца напісаць шмат банальнасцяў: горад сонца, горад вятроў ці горад кантрастаў. Апошняе гучыць па-савецку смяхотна і адначасова злавесна. Насамрэч, Баку гэта горад нафтавых качалак. Яны, як велізарныя маскіты, варушацца на даляглядзе. Яны, як той беларускі лес, стаяць паўсюль: абапал шашы, пасярод мора і нават на пляжы. Смокчуць з-пад зямлі «чорнае золата». Гэтае самае «золата» і дае гораду

той неабходны шык паўднёвага разняволення, калі па шырокіх дарогах паміж будынкаў кантынентальнай архітэктуры гойсаюць шыкоўныя аўто. Імклівыя японскія «лексусы» абганяюць BMW, а насустрач ляцяць не меней імклівыя «паршэ». Прыгажуні, падобныя да ружовых, жоўтых і блакітных бутонаў экзатычных кветак, паселі за кубкам гарбаты на тэрасе французскай кавярні. Гэтыя двайнікі Одры Хэпбёрн матляюць бездакорнымі ножкамі з туфлікамі на высокіх абцасах і бесклапотна цілікаюць, раз-пораз трасучы галовамі і гонячы хвалю па даўжэзных цёмных валасах. З аднаго боку кавярні месціцца буцік "Ціфані", з другога – дзіцячай "Дольчэ Габаны" (такога шыкоўнага магазіна няма нават у Маскве). Ранішняе, але ўжо пякучае сонца, шум вады ў фантане, чырвоная клетка без птушкі на галіне агромністага платана акунаюць у атмасферу бесклапотнасці і вечнага свята жыцця. Пасярод гэтай уяўнай раскошы міжволі пачынаеш адчуваць сваю прыналежнасць да касты шчасліўцаў.

Але нават калі ты спыняеш свайго прывіднага каня і выкульваешся з залачонага рыдвана мар на гарадскую ўскраіну, дзе рабочы люд жыве ў нядбайных шматпавярховіках з засмечанымі дварамі, і падымаешся па лесвіцы ля сцен з абдзёртай тынкоўкай, за пашкрабанымі дзвярыма цябе сустракаюць з радаснай і прыязнай усмешкай, і адчуванне прысутнасці на карнавале жыцця міжволі вяртаецца.

Пра азербайджанскую кухню і гасціннасць можна распавядаць гадзінамі. Гэта і смачная далма, загорнутая ў вінаграднае лісце спрытнымі пальцамі кухаркі ці кухара, якая проста растае ў роце. І знакаміты люля-кебаб з маладой бараніны, які наразаецца маланкавымі рухамі велізарнага цесака, і ад паху, які ідзе ад вогнішча, захлынаешся слінай. А гэтыя вар'яцкай прыгажосці супы піці і базбаш! Гарманічнай насычанасцю колеру і формы яны спакусілі б самога Гагена. А ёсць яшчэ булён хаш з ялавічыны (ногі і рубец). Яго спажываюць з самага ранку, паступова насычаючы празрыстую вадкасць храбусткім лавашам, запіваючы булён маленькімі глыткамі вінаграднай гарэлкі. Пасля таго на бакавую. І гэта разумна, бо як бы вам ні хацелася кудысьці пайсці, але, шчаслівa змораны, вы не здолееце зрабіць і пары крокаў ад ложка.

Божухна, забылася пра кутабы! Які жадаеце? З мясам? Зелянінай? Тварагом? Садавінай? А мо з сырам? Галава ідзе кругам ад неабходнасці на нечым спыніцца. Ну і, канечне, плоў, якога тут 200 гатункаў. Спынімся на шах-плове. Тут трэба клікаць мастака, які намалюе шафранавыя зярняткі рыса, памаранчавую курагу, распешчаныя тушэннем разынкі і каштаны ўперамешку з кавалачкамі бараніны. Гэты нацюрморт павінен быць аздоблены пласцінкамі казмаху.

А дзюшбара з маленечкімі пельменямі, якія лепяць не іначай як кухонныя гномы. Тут проста немагчыма спыніцца. Я – Гарганцюа ў спадніцы! Ну, а калі вы ўсё ж засталіся жывымі, то запрашаем на гарбату з пахлавой.

Увечары шматлікі натоўп на вуліцах горада-трохмільённіка не стамляецца. Усё перамешана: заможныя і простага выгляду людзі рушаць адной хваляй па зырка асветленых вулках Старога горада, лускаючы смажаныя каштаны ці наталяючыся марозівам; вядуць няспешныя размовы ў вулічных кавярнях, сёрбаючы гарбату с сочывам, якога тут прапануюць сама меней 13 гатункаў (я заўсёды абірала з фейхоа). Густа нафарбаваныя дзяўчаты ідуць у жудасна кароткіх спадніцах ці з аголенымі плячыма, падлеткі гойсаюць на скейтбордах, спрытна аб'язджаюць мінакоў. Тым часам старыя бакінцы расстаўляюць велізарныя шахматныя фігуры на пазначанай квадратамі

пляцоўцы. Вылучаюцца сярод натоўпу толькі арабы (іх тут не надта любяць) са сваімі жонкамі, захутанымі ў паранджу, з-пад якой выглядаюць толькі запыленыя красоўкі. Усе дыхаюць з асалодай. Спёка сышла разам с сонцам, а вечаровы брыз з Каспія не дае застойвацца паветру.

Адна я, гаротніца, сяджу пад гэтым паўднёвым небам паміж двума мужчынамі, адзін з якіх мой нарачоны, і думаю, што ў гэты міг крыштальны купал над нашай будучыняй даў расколіну, якая, мяркую, будзе пашырацца і ўрэшце сыпане раптоўна на нашыя галовы са звонам разбітага шкла. Мой абраннік аказаўся стоадсоткавым боўдзілам, і нішто, нават гарачыя абдымкі, ужо нічога не зменяць. Ды і ўвогуле, ён і раней быў не здольны на праявы кахання і жарсці. Полымя жадання нараджалася ў яго рэдка, і жаданне хутчэй тлела, чым палала.

Чаму думка пра ягоную сутнасць заспела мяне менавіта тут? Дапамагло бакінскае надвор'е, лагодны ветрык, што выдзьмуў тлум з галавы? А можа ясны розум ягонага візаві, які за 20 хвілінаў размовы паказаў, з якім дурнем звёў мяне лёс. А ўсяго толькі і было, што выпадковая сустрэча. Чалавек, які выгукнуў з натоўпу прывітальны вокліч, аказаўся былым аднакласнікам нарачонага. Калі селі разам за столік і замовілі гарбату, былы аднакласнік, паглядаючы з усмешкай на карцінныя жэсты майго каханка, прамовіў: «Пазнаю нашага красунчыка-нарцыса». І ўся астатняя размова толькі пацвердзіла гэтыя словы. Бой-фрэнд быў надзіва тупым. Сябар, як падалося, нават шкадаваў яго. А гэты боўдзіла нават і не разумеў таго, што адбывалася. Ці вырашыў не заўважаць. Прыпаліў цыгарэту, падсунуў да сябе попельніцу і, з асалодай зацягнуўшыся, прыняў сваю звычайную паставу мысляра. І сапраўды, не мужчына, а геданічны суб'ект, адмысловец у спажыванні ежы, напояў і смактанні цыгарэт. Абыякавы да навукі, палітыкі і паводзін у ложку. Дагэтуль ён заўсёды ўнікаў мужчынскіх кампаній і сур'ёзных размоў. Сумоўнічаў выключна з жанчынамі, якія былі зачараваныя яго манерамі і робленай ветлівасцю, голасам і спрытам. «Ён такі прыгожы, я цябе разумею», – здушана казала сяброўка, пабачыўшы нас дваіх. «Няўжо гэта вы самі згатавалі? Мужчына-кулінар. Як цікава!» – у захапленні казала другая. "Ваш муж цудоўна спявае", – заўважыла падчас караоке трэцяя. Я заплюшчвала вочы на сяброўак у фэйсбуку, якія не забывалі павіншаваць «найлепшага мужчыну ў свеце» са шматлікімі святамі. Адганяла думку, што гэты гарэза па жыцці не падтрымлівае зносін з былымі сужэнкамі. Сама аплачвала сумесныя рахункі, бо ў яго былі хранічныя фінансавыя праблемы, спачувала гэтаму аслюку, як гэта рабілі і робяць жанчыны ва ўсім свеце, несвядома граючы адведзеную лёсам ролю ў камедыі жыцця.

«Мы сыходзім. Ты не супраць? – звярнулася да бой-фрэнда, – твой сябар павінен паказаць мне знакамітую дзявочую вежу». Я падхапілася з крэсла, працягнула руку новаму знаёмцу і літаральна выцягнула яго з-за століка. Абмен позіркамі. Непаразуменне змянілася на зацікаўленасць, і вось ужо іскра ўзаемнай сімпатыі гатовая ўспыхнуць палкім жаданнем. Мужчына падпарадкаваўся, і мы сышлі, пакінуўшы закерханага ад праглынутага дыму былога аднакласніка і бой-фрэнда. Менавіта так і зрабіла б Бэкі Шарп з майго ўлюбёнага «Кірмашу пыхлівасці». Хаця не... яна, Бэкі, увогуле не трапіла б у такое становішча, бо гэтая паляўнічая за мужчынскімі скальпамі, як зараз бы сказалі, сканавала магчымага выбранніка з далейшым распазнаваннем.

Таму мне застаецца роля Эміліі Сэдлі: празмерна даверлівай спадарож-

ніцы і бляклай ахвяры дабрачыннасці. Мы паедзем з мілым у гатэль, не кажучы лішніх словаў і не задаючы адно аднаму ніякіх пытанняў. Усе ў жыцці будзе ісці як і раней. Пакуль... Пакуль мне не надакучыць гэтая роля. І я не пачну прымяраць нешта іншае. Скажам, новую сукенку, бо старая даўно абрыдла.

## Школа

– Блямц! – памадка з раскушанай шакаладнай цукеркі пераможна пляснулася на белы, першы раз надзеты фартушок. "Злая фея", якая спакусіла пачастункам, пачала выціраць брунатна-памаранчавую пляму, але рады не дала: след застаўся. Нічога не паробіш. Давялося падхапіць велізарны, амаль у мой рост, букет шпажнікаў і шыбаваць у школу поруч з найлепшай сяброўкай. У хату, дзе атрымаўся канфуз з цукеркай, я хутка перастану заходзіць. Лепшая сяброўка неўзабаве ператворыцца ў зласлівіцу; а чаму, я нават і не зразумела. Магчыма, з-за аднаго няўдалага жарту з майго боку, сэнс якога быў так надзейна схаваны сорамам у памяці, што пасля так і не адшукаўся. Здольнасць "шчасліва" забываць непрыемнасці, як згубленыя і не надта патрэбныя рэчы, на жаль, спрацоўвала не заўсёды.

Разглядаю адзіны здымак з той святочнай лінейкі: купку дзяцей, якія стаяць, стомленыя мітуснёй і баязлівым чаканнем той невядомасці, пра якую штучна-бадзёра, задужа ліслівымі галасамі пратрубілі вушы дома: «Ой, якой вялікай стала! Хутка ў школу!»

Азіраючыся назад, часам думаеш: ці шмат па-сапраўднаму патрэбных ведаў было ўплішчана ў нашыя галовы за тыя дзесяць гадоў? Ды яшчэ пад пільным наглядам савецкай педагогікі, гэтага магутнага і няўмольнага Урфіна Джуса.

Пад'ём а восьмай, электрычнае святло жорстка ўспорвае шэрую цемру восеньскай раніцы. Крыху калоціць ад холаду ў выстуджаным за ноч пакоі. Нацягнуўшы школьную форму і пляснуўшы на твар з рукамыйніка халодненькай вадзіцы, сядаеш за стол і глытаеш звыклы сняданак – адвараную бульбу. Потым наліваеш у кубак малака са слоіка. Цяпло ад грубкі і патрэскванне дроў вяртае да жыцця.

Калі даходзіш з цяжкім партфелем да былой плябаніі ксяндза, зрок міжволі прыцягваюць фарбы вялікіх клёнаў. Апалае лісце прыемна шамаціць пад нагамі. Ты ўдыхаеш вільготнае паветра і паглядаеш на неспакойнае неба са шматкамі рухавых хмарынак, адарваных вятрыскам ад вялізнай хмары, як тое лісце ад клёна, і цябе навылёт працінае прыемная туга ад гэтага гарманічнага ў сваёй зменлівасці хараства. Але гэта ўсё наперадзе, як і знаёмства з панылай першай настаўніцай, з якой было нецікава і сумна, і хутка радаснае ўзбуджэнне ад усёй той школьнай мітусні, паху новых падручнікаў і алейнай фарбы сышло да абыякавай паўсядзённасці. Галоўнае, не вытыркацца, не бегаць па мокрай падлозе, кагадзе памытай злоснымі прыбіральшчыцамі, і нікому не замінаць. Прыбіральшчыцы, цёткі са швабрамі, а таксама іншыя дарослыя, займаюцца сваімі важнымі справамі – распарадкам дня, дысцыплінай, праграмай навучання, патрыятычным выхаваннем, – і да тваёй асобы тут нікому няма справы.

У першым шэрагу я стаю ў цэнтры, крыху нахіліўшыся наперад і абаперішыся правай рукой, з якой спаўзло крылца фартушка – прыкмета будучага скаліёзу, – на сцягно. Нешта выглядаю. Мо сястрыцу, у якой гэта была апошняя лінейка і з якой так ніколі і не ўсталяваліся зносіны праз

яе жорсткую “нармальнасць” і маю вечную летуценнасць. Побач са мной стаіць пакуль яшчэ найлепшая сяброўка. Прыціскае далонямі фартушок да сукенкі праз вечнае жаданне прадэманстраваць сваю прыстойнасць. Шырокі твар з белай скурай; пільны позірк пукатых шэрых вачэй з-пад цяжкіх павекаў; ямачкі, як дзве коскі паабапал каромысла бледных вуснаў. Выдатніцы пачатковай школы не пашчасціла застацца ёю і надалей. Цікавасць да дарослага жыцця пераважыла цікавасць да ведаў. Се ля ві. У кожнага свае задачы ў гэтым жыцці, якія ён ставіць і вырашае, маючы на ўвазе досвед сям’і і продкаў. Маці яе, скараспелка, нарадзіла дзіцё ў дзеўках, але была з заможнай сям’і, таму знайшла сабе мужа. Дачка, падобна, пайшла ў бацьку сваёй ганарыстасцю. Пры знешняй абыякавасці да ўсяго мела выдатнае пачуццё выгоды і, як вынік, схільнасць да “патрэбнай” хлусні. Не сказаць, каб гэтая лінія паводзінаў прынесла ёй асабістае шчасце. Рана выскачыўшы замуж, нядоўга адчувала сябе пераможцай у любоўнай латарэі. Пасля і ў другім сужэнстве нешта не задалося. У выніку стала развядзёнкай з двума сынамі, праўда, не на руках, а на ровары – меншага вазіла спераду, на раме, другога за спінай. Хлопчыкі матлялі ножкамі, а маці фанабэрыста задзірала падбароддзе. Бацькавы ўкраінскія гены даводзілі, што такія паводзіны цалкам натуральныя, а матчыны габрэйскія гены дазволілі знайсці сябе ў гандлі – яна перапрадавала рэчы, якія цягала ў клунках з Украіны.

Далей, павярнуўшыся бокам, стаіць будучая сяброўка Маша. Змрочна разглядае дзетдомаўскіх дзяцей у другім шэрагу. У іх, вядома, няма ні карункавых каўнерыкаў, ні манжэтаў, ні белых гольфікаў на загарэлых ножках з пухлявымі каленямі. І гэты асуджальна-ацэньваючы позірк стане візітоўкай яе характару. У яе някепска склалася жыццё. Не паступіўшы ва ўніверсітэт, пайшла ў вучэльню і хутка знайшла сабе мужа. Нарадзіліся здаровыя і прыгожыя дзеткі. Будавалася хата. Прырода надзяліла Марыю зграбнай паставай і правільнымі рысамі маленькага, што тая смуглая аліва, тварыку. Прыродная спрытнасць і кемлівасць меліся ў дастатку. І ўсё ж, на яе думку, нявартым людзям даставалася зашмат шчадроццяў, і гэтая несправядлівасць рабіла спачатку ледзь бачную зморшчыну на яе пераноссі ўсё глыбей і глыбей, пакуль звычку быць усім незадаволенай паспяхова не пераняла яе старэйшая дачка. І, вядома, у дачкі таксама з’явілася на ілбе гэтая разорка пыхі і зайздрасці.

Далей сціскае чыюсьці шыю Алежка, будучы капальнік меднага дроту і выпадковы, амаль праз 40 гадоў, каханак. З кімсьці сашчапіўся. Здаецца, з братам вечна незадаволенай Машы. Той брат сваю пагарду да акаляючага свету трансфармаваў у злосныя кпіны і бойкі. Скончыў жыццё, атрымаўшы нажом у спіну. Алежка ж, нягледзячы на свой не надта шчаслівы лес, – вырас без бацькі, а маці мяняла мужоў як пальчаткі, – усё ж выглядаў на шчаслівага чалавека. Жыла ў ім і сялянская хітрасць, але жаданне шкадаваць усіх – ад злоснай жонкі да эгаістычнай маці, ад нязграбнай нявесткі да коткі з кацянятамі – рабіла яго жыццё вартасным, насычаным фарбамі. Было дзеля каго працаваць і поўніць быццё здаровым сэнсам: справіць жонцы новае паліто, падараваць завушніцы нявестцы, набыць машыну сыну і прынесці з рыбалкі акунькоў котцы.

Далей стаіць Наташка – сяброўка №3. Дабрадушная двоечніца і дачка мясцовага начальніка. Цяжка мне, выдатніцы і кніжнай маньячцы, знайсці роднасць душ з гэтай недалёкай дзяўчынкай. Але што рабіць? Настане час, калі ў былых сяброваk (спісваць хатнія заданні яны па-ранейшаму

будуць у мяне) з’явяцца іншыя інтарэсы, акрамя нуднай вучобы. Цікавасць да супрацьлеглага полу будзе ўзаемнай, бо ў дзяўчатак апроч прыемных акругласцяў праб’ецца нешта таямнічае ў голасе і так спакусліва будзе гучаць іх смех, што хлопцы, як заваражаныя, стануць сачыць за кожным іх рухам. Я апынулася за бортам гэтай сябрыны юных чараўніц. Выдатніца, настаўніцкая дачка і ўвогуле дзіцё, не здольнае падмаляваць вочы і какетліва пасміхнуцца. Побач з гэтымі «наліўнымі яблычкамі» я глядзелася кіслай і зялёнай недаспеліцай. У галаве той парой былі найперш кніжкі, якія няспынна цягала з абодвух бібліятэк у наш халодны і няўтульны дом, дзе бацькі ўвесь час сварыліся. А ў школе для падабенства зносін тая самая сяброўка-двоечніца, у якой аднойчы гамузам, у перапынку паміж зборам металалому, разглядалі порначасопіс (бацька сяброўкі прывёз з Польшчы разам з бляшанкай марынаваных чырвоных перцаў). Сяброўка спрытна цягала з бляшанкі экзатычную страву, пакуль юныя піянеркі разглядалі чэлесы. І гэты востры пах перцаў і іх бліскучая паверхня нагадвалі мне тыя мужчынскія доблесці. Немаведама для чаго прызначаныя, але брыдкага выгляду і паху.

На здымку адсутнічае сяброўка №4. Тады яна была на лінейцы ў пачатковай школе сваёй вёскі. Школьная красуня, са спакойным і годным позіркам пад прыгожымі бровамі, цёмнымі валасамі, шчыгульна зачасанымі на два бакі і прыхопленымі заколкамі. Доўгая чупрынка, якую раз-пораз паддзімала сваімі цвёрдай лепкі вуснамі. Шырокі скуласты твар з рабацінкамі на скуры з натуральнай чырванню, кірпатым носікам і круглым падбародкам. Уся яе пастава з развітымі грудзямі, тонкім станам, крутымі клубамі і мясістымі галёнкамі была прызначана да сялянскай працы і сямейных уцехаў. Але мела яна даволі светлую галаву, і веды, асабліва гуманітарныя, даваліся ёй лёгка. А яшчэ Ганна пранікнёна дэкламавала вершы, жэстыкулюючы далонямі. Думаю, з яе атрымалася б выдатная настаўніца, бо была спагадлівай і разважлівай. Але ўжо недзе з-за вугла пільнаваў яе будучы муж – раўнівы і рудавалосы Ромка, які служыў у арміі і закідваў шчымлівымі лістамі. А пасля «дэмбеля» не даў паступіць у інстытут: адразу пацягнуў пад вянец. Насамрэч то быў нават не вянец, а капялюш з загнутымі ўгору палямі і ўпрыгожаны вэлюмам, які не надта пасаваў вясельнаму строю. Нарадзіўшы двух хваравітых блізнятаў, Ганна пайшла ў працяглы “адпачынак” хатняй гаспадыні, завіхаючыся паміж маленькім пакоем і агульнай кухняй інтэрната, пакуль «галава» сямейства зарабляў грошы на кватэру ў абласным цэнтры. Неўзабаве прыспелі 90-я. На кватэру надзеі не было, і яны пераехалі ў другі інтэрнат. Ім далі два пакойчыкі з сумесным з суседзямі санвузлом. З гэтай маласямейкі Ганна і сышла да іншага мужчыны, які таксама быў захоплены яе прыгажосцю і лагодным характарам. Новы абраннік пасадзіў яе ў ганаровае крэсла жонкі бізнесмена нешырокай рукі. Чаму надаю шмат увагі менавіта ёй, Ганне? Магчыма, таму, каб паказаць, што можа вырасці з сялянскай дзяўчынкі з румянцам на ўсе шчокі, выхаванай пад барабанны бой піянерскай лінейкі і апякунствам з боку бацькоў, якія гнуць спіну ад ранку на калгасных палетках.

Няма на здымку і маёй школьнай сімпатыі Толіка. Прыгожы выдатнік і спартовец завалодаў маім сэрцам яшчэ ў першым класе. І пачаліся тэлефанаванні з хаты, дзе жыла сяброўка (у бацькоў тэлефона не было): «Толік, каго ты кахаеш?» Пасля гэтага брутальнага пытання слухаўка кідалася... Аднойчы ўсё ж паспела пачуць усцешлівы для сябе адказ і засталася з ім у сваіх мроях. Не было ні сустрэч, ні размоў. Так, абмен позіркамі: мы

вучыліся ў паралельных класах у розныя змены. У дзявятым класе Толік пачаў пагульваць з усімі даступнымі дзяўчынкамі-аднагодкамі. Памятаю, як непрыемна "шкрабанула" па сэрцы, калі падчас чарговага спартовага мерапрыемства ўбачыла, як ён разняволена ляжыць у куртатых белых шортах, шырока раскарачыўшы мускулістыя ногі з белымі валаскамі на чырвонай ад загару скуры. Талян з паблажлівай усмешкай распавядаў нешта дзяўчатам, што глядзелі на «караля школы» галоднымі вачыма. Праз гады, сустрэўшы яго, ужо слухача ваеннай вучэльні, на аўтобуснай станцыі ў нашым пасёлку, усё ж адчула хваляванне. Атрымалася вымучаная, праз адсутнасць агульных тэм, размова. Ці гэта не гаворыць аб тым, што жыццё, напоўненае мроямі і спадзяваннямі, больш вартаснае?

А пакуль мы стаім у некалькі шэрагаў на першай школьнай лінейцы. Урачыстыя прамовы праслуханыя, кветкі настаўніцы падораныя, вар'яцкі зык званка прагучаў, і мне хочацца дахаты. Зняць гэтую колкую сукенку і заплямлены фартух і пашукаць у кухонным шапіку што-небудзь салодкае. Ці проста адрэзаць скібку чорнага хлеба, пасыпаць цукрам і есці, запіваючы халодным малаком, пры гэтым гартаючы чарговую кніжку. Я вяртаюся да роднай хаты. Але вось неспадзеўка – веснічкі зачыненыя, а да зашчапкі мне не дацягнуцца. Так удала прайшла ўсю вуліцу, не сустрэўшы ні сабак, якіх баюся дагэтуль, ні мясцовага дурня Ваньку, які бегае тут і мармыча нешта сваё, і вось не магу патрапіць дахаты. Маці з'ехала ў райцэнтр на нейкую канферэнцыю, а бацька як класны кіраўнік яшчэ займаецца з вучнямі ў школе. Перакідваю заплечнік у двор і, прыхінуўшыся да штыкетніка, чакаю выратавальніцу – нашу суседку, самотная постаць якой варушыцца ў дальнім канцы вуліцы.

## Спатканне

*"Стюардесса по имени Жанна, обожаема ты и желанна..."*

Дзіўнае гэта было знаёмства. Бо пакуль не адбылася спрэчка, Ангеліна ўвогуле яго не прыкмячала. Маячыць недзе там на заднім плане каржакаваты, невысокага расточку фацэт, брунет з кудлатымі чорнымі бровамі, што, як шэрыя птушкі з даўгімі хвастамі, угняздзіліся над вачыма.

Прыехаўшы ў санаторый, Ангеліна падчас вячэры разгаварылася з суседкай па століку. Жанна – бухгалтарка, не сцюардэса, – глядзела на яе пільна і недаверліва. Нібыта падлічвала ў галаве супадзенне дэбіту з крэдытам. Як ні ўключала на поўную моц сваю харызму Ангеліна, напружанасць позірку суседкі не знікала. Жанчына і не надта бедавала з тае нагоды. "Усе людзі лазные", – як казала яе маленькая картавая пацыентка Алёнка. Ды і што казаць пра характары, калі нават зубы ва ўсіх розныя. Пад кожнага чалавека "падабраны" свой камплект. Існуе, канечне, правіла залатой прапорцыі, якой падпарадкоўваюцца памеры шырыні і даўжыні. Ёсць правіла вуглоў і іншыя падобныя навароты. Але кожны раз яна здзіўлялася непаўторнасці чалавека нават у такой драбязе, як форма зубоў, рэльеф іх паверхні, розны колер і адценні, празрыстасць эмалі, наяўнасць плямаў і шчылінаў. Вы ўжо зразумелі, што Ангеліна была зубным лекарам. А лекары сустракаюць за свае жыццё шмат дзівакоў. Таму яна не толькі не здзіўлялася асаблівасці паводзінаў іншых, але нават ставілася да гэтага з эмпатыяй.

Дык вось, пасля таго, як Жанна распавяла пра тутэйшыя санаторныя парадкі, і яны спусціліся ў бар, каб за кілішкам каньяку перайсці да сваіх жыццёвых гісторый, Жанна позіркам паказала на мужчыну за суседнім

столікам. «Гэта мой сусед па катэджы. Можа, яго да нас запрасіць?» Ангеліна, радасна ўзбуджаная прыездам і будучым адпачынкам, адмоўна пакруціла галавой: «Навошта? Нам і так добра». Было цікава назіраць, як уся Жанніна стрыманасць растварылася ў даволі якасным грузінскім брэндзі, і Ангеліне толькі заставалася ўстаўляць кароткія рэплікі, уздыхаць і з задуменным выглядам ківаць галавой. І гэта было зусім не акцёрскай гульнёй, а рабілася шчыра. Бо такая сутнасць жанчын – лёгка ўбівацца ў чужую скуру, нават асліную. Некаторыя так і ходзяць да канца дзён сваіх. Прыкладам, жанкі-авечкі ці разлучніцы-змяюкі. І ніхто... ніхто не ведае, якая крыштальнай чысціні душа хаваецца пад гэтай “нялюдскай” абалонкай. У адказ на шчырасці новай сяброўкі хацелася падзяліцца эпізодамі свайго жыцця, дзе яна была ахвярай, але не губляла гумару і заўсёды элегантна выходзіла з няёмкіх абставін. Так што нават Барбара Радзівіл аднойчы зайздросна выцягнула шыю са свайго партрэта ў Палацы Радзівілаў у Вільні, каб разгледзець спрытную наведніцу.

Калі пашыбавалі да выхаду, Жаннінага суседа ўжо не было. Ды Ангеліну ён і не надта цікавіў. Асабліва пасля таго, як Жанна распавяла пра гутарку з гэтым піцерцам. Апавядаючы пра апошнія падзеі ў свеце і ролю ў іх Расеі, ён безапеляцыйна заявіў: «Жывяце за наш кошт. Пра што тут размаўляць». Жанна, у якой адзіны сын адседзеў за ўдзел у мітынгах, адрэзала: «Не будзем пра гэта». А вось наконт іншага яна была не супраць, бо неўзабаве Алег (так звалі піцерца) распавядаў, што “сцюардэса” запрашала яго ў свой пакой, каб выпіць келіх шампанскага. Выпіць разам не атрымалася, але чаму – мужчына не ўдакладняў. Магчыма, Жанна не надта спадабалася, а, магчыма, напой мясцовага вырабу нагадваў сц...кі. Распавядаючы пра суседа, Жанна не стала ўводзіць новую сяброўку ва ўсе падрабязнасці і казаць пра тое, што ён паспяховы бізнесмен і, да таго ж, у разводзе. Грэблівае стаўленне госця да яе Радзімы абурыла нашу гераіню. Бо гэта былі словы несправядлівыя і абразлівыя.

Адпачынак ішоў сваім парадкам. Знайшоўся ровар, на якім шчаслівая Ангеліна гойсала вакол возера, і сэрца кожнага разу трымцела ад прыгажосці краявіду. Аблокі навыперадкі ляцелі за сонцам, успорвалі паверхню воднай роўнядзі, каб адтуль, з глыбіні, стварадць двайніка нябёсаў. Адвячоркам, калі прыціхлае возера засмоктвала сонца, на паверхні вады ўтвараліся вогненныя скокі святла. Гэта прыводзіла ва ўзрушаны стан як людзей, што стаялі на беразе, так і ўсё жывое. Як апантаныя гарлалі чайкі, кракалі качкі, пералятаючы з месца на месца, хтосьці шалохаўся ў прыбярэжным хмызняку.

Але ж людзі па сваёй прыродзе розныя. Таму знайшліся і такія, якім захацелася аздобіць возера, у якім, як у балеі, купалася барвовае сонца, музычным фонам. Забухалі-заскавыталі акустычныя калонкі – тыя самыя прылады, якія ствараюць свята на душы абываценя. Адзін мой знаёмы пісьменнік называе такіх абываценяў шашлычнікамі. Гэтым людзям усё роўна – што спажываць і якой якасці. Гаворка, зразумела, не толькі пра ежу, але і пра душэўную дэфармацыю, псеўдакультуру і засваенне новых, сумнеўнай якасці, норм быцця. Але прыпынім маралізатарства і прасочым за прыгодамі Ангеліны, якая, паддаўшыся на ўгаворы Жанны, трапіла на мясцовую дыскатэку. Там яна сустрэла ўсюдыісных дзядзькоў з жыватамі-бункерамі і ў расцягнутых сінтэтычных швэдрах. Дзядзькі энергічна размахвалі рукамі, сцятымі ў кулак – не інакш, згадваючы фіззарадку ў дзіцячым садку. І цётак ва ўсім чорным і блішчастым, якія вужакамі

звіваліся вакол таўстуноў. Дададзім сюды музычны фон надрыўнага расейскага шансону і прыдушанага бляяння рэпу. І сярод гэтага гармідару ўзнікла постаць Жаннінага суседа.

– Дазвольце запрасіць.

– Дазваляю.

– Сёлета тут няшмат людзей.

– А што вы хацелі... пандэмія.

– А я ўжо прышчапіўся.

– Асаблівасці сучаснага знаёмства. Прышчэпленыя ці не – вось у чым пытанне.

Разам усміхнуліся. Мужчына назваўся Алегам, і прыемны дотык да напятых цягліц улагодзіў Ангелінін негатыў. Але ненадоўга, бо размова з пандэміі перацякла да палітыкі і прагучала наступная фраза: “Вы, беларусы, жывяце за наш кошт”. Гэта, як потым высветлілася, было лейтматывам усіх яго размоў.

Ангеліна адчула, як цела пакрываецца поўсцю, пазногці выцягваюцца і набываюць вастрыню кіпцюроў, але замест таго, каб учапіцца партнёру па танцу ў глотку і вырваць кадык, яна выдыхнула:

– Па-першае, ні я, ні мая сям’я за ваш кошт не жывем. Я працую лекарам, бацькі мае былі настаўнікамі. Дзеці таксама не лайдакі. Па-другое, якім чынам вы можаце нас карміць, калі самі не здольны нават джынсы добрыя пашыць. Вось на вас якія джынсы?

– Армані.

– Армані? Выдатна! Напэўна, даляраў трыста каштуюць.

– Чатырыста. Але гэта для іміджу. Затое мы будуем самалёты.

– Якія падаюць. І ўвогуле, каб Расея не перакрывала нам кісларод...

– Дык вы бэ-чэ-бэ! – перабіў суразмоўнік.

– Не. Я патрыётка.

– Ха! Ну і каму вы такія самастойныя патрэбны?

– Слухайце сюды... Мы, беларусы, ніякія не паразіты. Мы ў разы разумнейшыя, больш адукаваныя і выхаваныя. Але вы не даяце нам дыхаць. Душыце ў сваіх братэрскіх абдымках.

Танец скончыўся, і ўзбуджаная і раззлаваная Ангеліна выйшла на ганак.

Сярпок месяца, распалавініўшы срэбнай стужкай цёмнае возера, падсвечваў кветачкі зорак. Аднекуль з’явіўся бадзяжны кацяра і пачаў енчыць з нахабнасцю жабрака. Прывалокся следам і няўдалы кавалер. За ім цялёпкаўся мужычок у блакітнай саколцы. Алег (вось зануда) паспрабаваў працягнуць размову, але злосць Ангелініна не сышла, і яна выдала наўпрост:

– Можаце казаць што заўгодна. Але ведайце – для маіх дзяцей і будучых унукаў вы будзеце захопнікамі, а не сябрамі, – сказаўшы так, прытушыла цыгарэту і пайшла прэч.

Наступнай раніцы першы сустрэты чалавек павітаўся па-беларуску. Алег. Усміхнулася, бо гэта было адзінае пачутае ў санаторыі беларускае слова. Потым сустракала яго на працягу дня то ў сталоўцы, то на канапе побач з нумарам. Зразумела, што “заліп” таварыш. Між тым галава нашай гераіні поўнілася думкамі пра тое, што нават прыгажосць прыроды не дала тутэйшым людзям пачуцця годнасці, і як выракліся яны мовы сваёй, так і абыякава глядзяць на магчымыя наступствы расейскага панавання. Як учарашні беларус у блакітнай саколцы, які пагаджаўся з расейцам, што мы людзі нікчэмныя і што без суседскай падтрымкі нам ніяк. Але былі і іншыя людзі. З вокладкі кніжкі, якую брала з сабой на прагулкі па хваёвым

лесе, падсвечаным заходзячым сонцам да ружовага стану, глядзеў гожы твар пісьменніка і патрыёта, які дбаў пра вольную Беларусь. І часам здавалася, што вось праз такіх людзей, у нечым ідэалістаў, Беларусь займее будучыню. А ўвечары знаёмец пераконваў яе ў адваротным, прыводзячы нейкія лічбы і сцвярджаючы, што Расея мае вялікі патэнцыял. Ангеліна збегла ад такіх размоваў у лес.

Упартасць Алега ў жаданні быць побач дала плён на шосты дзень. Ангеліна неўзабаве з'язджала, таму вырашыла ўсё ж распазнаць – што за чалавек гэты расеец. Пагатоў, Жанна кагадзе з'ехала, і акрамя кніжкі не было ніводнага суразмоўніка. Удзень, знайшоўшы яе на арэлях за чытвом, Алег пацікавіўся – хто аўтар.

– Наш патрыёт, палітычны вязень. Гісторык па адукацыі.

Аказалася, апроч імперскай пыхі, піцерскі госць меў сякія-такія веды ў гісторыі. Абмеркавалі ВКЛ, і сэрца Ангелініна палагаднела.

– Добра, сустрэнемся на дыскатэцы, – прамовіла яна.

На дыскатэку прыйшла, але прапанавала кавалеру збегчы ад скавытання Стаса Міхайлава. Выйшлі да Нарачы. Ласкава, як любаму дзіцяці, ускудлачваў валасы цёплы ветрык. Ціўканне птушак займела начную аранжыроўку. Цвёрдай рукой паміж аранжавым і шэра-блакітным была намалявана цёмна-барвовая лінія небасхілу. Замілаванне апанавала, здаецца, абоімі. Праз жаночую дапытлівасць Ангеліна адгадала знак задыяка суразмоўцы. Яе каментары, што таму спадарожнічалі, выклікалі спагадлівыя смяшкі. Здавалася, вось яно, імгненне, калі людзі адчуваюць сябе лёгка адно з адным. Алег запытаўся, якія мужчыны ёй падабаюцца, і яна са смехам, балансуючы на парапеце, адказала-адазвалася: «Ну, канечне, разумныя. Бо гэта сексуальна».

Пасля гэтага магчыма было дапусціць рамантычную дзею з абдымкамі і пацалункамі. І, здаецца, да гэтага ўсе ішло, бо парачка скіравала да катэджа Алега. Ангеліна рупілася быць стрыманай у эмоцыях. Асабліва калі ёй прадэманстравалі шырокі ложак. У гасцінным пакоі гаспадар сабраў столік пад гарбату. І зноўку пачаў свой маналог. Магчыма, гэта быў водгук на словы пра сексуальнасць мужчынскага розуму. Спынены нежаданнем Ангеліны слухаць байкі пра Расею – бо пасварымся! – Алег пачаў распавядаць пра музеі, якія наведваў падчас шматлікіх замежных паездак.

– Ведаеце, калі я разглядаў Мадыльяні – гэта той, што маляваў жанчын з доўгімі шыямі...

– Ды ведаю я Мадыльяні. Ён мне не падабаецца.

Але Алег як і не чуў яе рэплікі і пачаў распавядаць пра Шагала. Ангеліне заставалася толькі ківаць у адказ. Яго манатонная гаворка нагадвала безэмацыйны расповед экскурсавода. Ангеліна хутка зразумела, што яе думкі Алега мала цікавяць. Яна змерзла ў гэтым негасцінным пакоі, бо ні штучны камін, ні гаспадар пакоя не выпраменьвалі цяпла. Нарэшце Алег заўважыў яе нецярплівыя рухі і прапанаваў правесці да санаторыя. Па дарозе выказаў надзею, што санаторныя дзверы будуць зачынены і яму давядзецца даць чароўнай спадарожніцы начны прытулак. Ангеліна толькі пасміхалася ў адказ. Адчыніўшы дзверы санаторыя, кінула развітальны позірк.

– Шкада, што так атрымалася, – даляцела да вушэй.

Ангеліна зноўку ўсміхнулася, пацiснула плячыма і, развітаўшыся, пайшла. Нельга сказаць, што ёй зусім не хацелася апынуцца ў мужчынскіх абдымках. Адпачынак абвастрыў пачуцці, у тым ліку эратычныя. Але стрыманыя паводзіны піцерца, яго зацыкленасць на сабе выпетрылі

ўсе жаданні. І, да таго ж, ёй здавалася, што немагчыма здрадзіць цёмным вачам з кніжнай вокладкі.

Ранкам, пакінуўшы ў рэцэпцыі валізы, яна, у чаканні аўтобуса, гойдалася на арэлях. З'явіўся Алег. З посным тварам павітаўся, прысеў поруч, зірнуў праз цёмныя акуляры.

– А ўсё ж шкада, што дзверы санаторыя аказаліся адчыненыя.

Праз дзень, перабіраючы, як пацеркі ў руцэ, думкі, Ангеліна зразумела, што ўсё атрымалася б іначай, калі б мужчына быў больш настойлівым. Але што далей, думалася ёй? Распранацца перад гэтым эгаістам дзеля сумнеўнага задавальнення? Бо калі чалавек не заўважае, што апранутую жанчыну калоціць ад холаду, то ці здолее сагрэць яе аголеную?

## Знаёмства з Нараччу

*"Жыццё, ты — імгненне, ты – успышка".*

**Ванда Марцінш душ Рэйш**

Мы ехалі па даволі пакручастай дарозе са шматлікімі пагоркамі. Суразмоўнік распавядаў, як выдатна было б засадзіць усе вольныя плошчы зямлі паабапал дарогі буякамі, а я, згодна торгаючы галавой, спрабавала разгледзець краявіды, што плылі за вакном. Хацелася ўвабраць у сябе і захаваць у памяці заснежаныя палі, сялянскія дамкі з дымнымі комінамі, дрэвы, якія дачакаліся нарэшце зімовага ўбрання – увесь той класічны зімовы пейзаж, які ў залежнасці ад колеру неба і наяўнасці сонца ўводзіць цябе ў стан лёгкага смутку і замілавання ці яскравага імгнення абсалютнага шчасця.

Нечакана суразмоўца тыцнуў мне пад нос смартфон – каб я паглядзела відэа, дзе ўвішныя камбайны ў далёкай Канадзе збіраюць буякі. Разважаўшы – як было б выдатна для Беларусі заняцца вырошчваннем не толькі бульбы, але і балотных ягад, – мы пад'ехалі да Нарачы. На той момант ужо распагодзілася, і вочы міжволі заплюшчыліся ад гэтага агромністага, белага, велічнага, скутага лёдам, але па-ранейшаму магутнага возера. Яно вабіла, клікала, прыцягвала позірк, перахоплівала дыханне, зыркім бліскам сляпіла вочы, зачароўвала да лёгкага ступару. І сцвярджала: "Я вялікае стварэнне прыроды! Тысячагоддзі існую на гэтай зямлі, даю вам – мітуслівым, трывожным, няслаўным, зайздросным і сквапным – ваду, рыбу, пешчу сваім вільготным ветрам, люляю на хвалях, закалыхваю іх плёскатам, зачароўваю прыгажосцю і супакойваю праз веліч свайго быцця".

Трэба было спыніцца, выйсці з машыны, удыхнуць ядранага паветра, выйсці на бераг і замерці на месцы, выглядаючы супрацьлеглы бераг, наставіўшы пры гэтым далонь да броваў. Але з воклічам аднаго з пасажыраў: "Няма часу! Трэба паспець на рыбалку!" – паехалі далей.

Праз гадзіну-другую, прыхапіўшы лыжы, рушыла да возера, але сонца ўжо не было. Затое быў маляўнічы захад, які дэманстраваў на небасхіле ўсе свае фарбы, не шкадуючы іх для заснежанай Нарачы. Стаўшы на блакітны снег, які паступова ператвараўся ў цёмна-сіні, паехала спачатку ўздоўж берага, а пасля, наважыўшыся, удалячынь, да асмужанага далягляду. За спінай заходзіла сонца, утвараючы дзівосныя колеры, несупынна перафарбоўваючы неба, хмары, далёкія дрэвы і снег. А я на сваіх лыжах таксама несупынна бегла на ўсход. Каб пацешыцца, захапіцца і натхніцца беларускім морам і апошнімі промнямі зімовага дня.

Дзяніс Мацеша



...мы
будзем
жыць...

# Прымі маё цяпло

### *СНЕГ*

Белыя камякі
Сыплюцца з неба,
Нібы пацалункі,
Дакранаюцца,
Знікаюць,
Як тыя думкі,
Растаюць,
І, зноў і зноў,
У сэрцы ажываюць...

### *ЖЫЦЬ*

Я час хачу спыніць,
Пакуль усё ідзе наперад,
Хачу жыць,

Я хачу бачыць, як дождж
Па пялёстках кроплямі бяжыць,
Хачу адчуць усё,
Што незаўважаным ляжыць,
Цяпло і холад,
Як агонь гарыць,
Хачу бясконца гэты момант бачыць,
Жыць...

* * *

Я не стаміўся
Адчуваць. Каханне –
Дар, і ў той жа час –
Цяжар,
Калі не можаш кіраваць
Жаданнем
Цалкам лёс схапіць,
Трымаць,
І ведаць, што ўсё
Скончыцца расстаннем...

* * *

Дотыкамі дробнымі,
Як дожджык на світанні,
Крап, крап...
Позіркамі ўпотай
Кожнае спатканне,
Яе пах...
У кроку да прызнання,
Толькі ўсё адно
Жах...
Што, калі каханне
Толькі для цябе,
Так?

### ***ДЛЯ ВОЛЬГІ***

Прашу Цябе,
Ты толькі не сумуй,
Не адчувай віны,
І не пішы ў прысудзе,
Бо жыццё адно,
І правілы змяняй,

Як хочаш, хай святло чароўнае Тваё,
Адзінай зоркай сярод ночы будзе.

## ЛЯЦІМ

Ляцім,
Даў вецер крылы нам,
Ляцім
Да небасхілу, там,
Дзе ранак сустракае ноч,
Ляцім
Праз лес, пустэчы, льды,
Ляцім
Туды, дзе будзем разам,
Толькі там усе адказы,
Мы ляцім...

* * *

Мы на беразе ракі стаім,
Не жыццё
Тое, што ўспрымаем ім.
Твая рака шырокая і хуткая,
У ёй падзеі і стасункі,
Мая глыбокая
І нерухомая, бо
Цішыня і думкі,
А над намі святло,
Спыніся, заўваж
І прымі маё цяпло...

* * *

Мы як птушкі ў небе,
Разам,
Я і Ты...
Мы – блакітнае мора,
А ў ім кіты,
Я і Ты...
Мы – планеты й зоры,
Снегу камякі,
Я і Ты...
Мы і сёння, і заўтра разам,
Толькі, хто Я?
І хто Ты?

* * *

Дзе слова скажаш, я пачую тысячы
Адценняў голасу, дзе погляд свой пакінеш,
Там святло ўбачу, я ўбачу, чуеш?
Сто дарог прайду, дзе толькі быў твой след,
Я ўсё перавярну, пакуль не будзе блізкім
І празрыстым, як вада з крыніцы,
Высака ці нізка, вобраз твой,
Я намалюю кроплямі мільёнаў сноў...

* * *

Я ведаю дакладна, што Ты ёсць,
Хай не са мной, але ў гэтым свеце,
Сэрцам адчуваю: ёсць!
Сярод мільёнаў, дзесьці на планеце,
Ведаю, Ты ёсць! Тут,
Паміж зорак у сусвеце,
Я крычу: “Паверце!”,
Але чуе толькі вецер...

* * *

Што б ні здаралася,
Мы будзем жыць,
І хай будзе не ў модзе
Пачуццё кахання,
Будзем любіць
Марыць на світанні,
Ноччу варажыць,
Прасіць спаткання,
Ціхае прызнанне...
Мы будзем жыць...

## Станіслаў Лем



...калі з’явіцца хтосьці вялікі,
вы пазнаеце яго па голасе...

# У паэзіі няма межаў...

***Цытаты пра культуру, літаратуру і творчасць***

LEM 2021
100 ROCZNICA URODZIN

*Цытаты выбраў і пераклаў з польскай Віктар ЯЗНЕВІЧ.*

Выпадку – гэта значыць асабліваму размяшчэнню генаў – пажадалася надзяліць мяне здольнасцямі, якія ў XX стагоддзі адпавядалі пісьменніцкаму прызванню. І прызванне гэта было недзе на памежжы мастацтва і навукі.

Як пісьменнік я жадаю быць прарокам з’яў (нават і лжэпрарокам), а не іх спеваком і бардам.

Пры напісанні кнігі я ўпарадкоўваю свае веды найбольш гарманічна. Таму, хачу я гэтага ці не, мае кнігі аказваюцца разумнейшымі за мяне.

Я лічу сябе пісьменнікам-рэалістам, бо займаюся рэальнымі справамі. Мяне не цікавяць праблемы такіх уласцівасцяў свету, якіх у яго няма.

Паэзія адносіцца да двух светаў: бачнага і перажытага.

Паэт – гэта той, хто ўмее прыгожа быць няшчасным.

Навуковая фантастыка азначала для мяне навуковую строгасць і адначасова прывілей творчай свабоды, якую дае мастацтва. Такім чынам яна ўсё ж такі азначала філасофію, нават і ўтоеную ў літаратуры.

Любы літаратурны жанр добры, пры ўмове, што аўтар прытрымліваецца ўнутранай логікі твора: хто аднойчы правёў героя праз сцяну, той павінен рабіць гэта і далей.

Што такое літаратура? Для тых, хто чытае – гэта спроба забыцца. А для стваральніка – спроба выратавання.

Разумовая творчасць выцякае з цялеснай, з'яўляецца як бы вышэйшым, больш яркім яе адлюстраваннем, няспынным паўторам захаплення і трывогі, якія абуджае ў нас свет.

Добрыя кнігі заўсёды праўдзівыя, нават калі яны апавядаюць пра рэчы, якіх ніколі не было і не будзе. Яны праўдзівыя ў іншым сэнсе.

Літаратура павінна несці пазнавальны змест, у крайнім выпадку ў такім разуменні можа быць "нейтральнай", але ні ў якім разе не можа ўяўляць сабой дэзінфармацыю.

Няма нічога больш карыснага для практыкі і тэорыі літаратуры, чым ураганны агонь дыскусій.

Літаратура выконвае як мінімум тры функцыі – інфармацыйную як паведамляючую, дыдактычную як навучальную (пра абавязкі) і забаўляльную, або дастаўляючую ўцеху.

У той час як сёння звычайная літаратура спрабуе незвычайна апісваць абы-якія рэчы, навуковая фантастыка звычайна абы-як апісвае рэчы незвычайныя.

Культура – пераконванне чалавека ў тым, што ён павінен быць добрым. Толькі добрым. А куды засунуць ўсё астатняе?

Напісанне рамана – гэта форма страты творчай свабоды.

Пісьменнік губляе свабоду ў сваёй, крытык – у чужой кнізе.

Літаратура – гэта заўсёды паразітаванне на розуме чытача. Каханне, дрэва, парк, уздых, боль у вуху – чытач разумее, бо гэта перажыў.

Для літаратуры быць сумленнай, не хлусіць, – гэта тое ж самае, што не быць.

Калі пішацца пра ўсіх або да ўсіх адразу – пішацца ні пра каго, ні да каго.

Культура – гэта інструмент, незвычайны тым, што ён ўяўляе сабой адкрыццё, якое, каб дзейнічаць, павінна быць схавана ад сваіх стваральнікаў.

Культура – гэта вынаходніцтва, якое міжволі падрыхтавана і дзейнічае да таго часу, пакуль яно не будзе цалкам распазнана вынаходнікамі.

Культура – гэта прылада, якая працуе тым лепш, чым менш людзі разумеюць, што гэта іх твор.

Перавага літаратуры ў тым, што ў адрозненне ад навукі і філасофіі ў

белетрыстычнай паэтыцы можна супярэчыць самому сабе, можна самога сябе аспрэчваць, можна з гэтым сваім забаўляцца, як з усім светам.

Аднавіць літаратуру, дапамагчы літаратуры, прыстасаваць літаратуру да свету магчыма толькі звонку, разбурыўшы яе застылыя формы.

Ход гістарычнага часу дзейнічае на літаратуру, як вецер на агонь: маленькія агеньчыкі тушыць, а моцныя распальвае.

Крытык павінен быць не абвінаваўцам твора, а яго абаронцам, але такім, якому нельга хлусіць.

Нішто сёння так не ўзбуджае выдаўцоў і аўтараў, як кніга, якую ніхто не павінен чытаць, але кожны павінен мець.

Ідэя кнігі – гэта як ідэя закахацца, жаніцца, мілавацца, цалавацца.

Пісьменнік не той, хто носіць люстэрка па дарогах, каб людзі маглі ў ім адлюстроўвацца, а той, хто распавядае свайму грамадству і свайму часу рэчы, пра якія раней ніхто не думаў.

У паэзіі ёсць д’ябальская таямніца, якую пакуль што ніякімі аналітычнымі сродкамі немагчыма раскусіць.

Літаратура – гэта сувязное звяно духоўнага жыцця, гарант захавання этнічнай ідэнтычнасці і адмысловы інструмент пазнання.

Кніга не з’яўляецца ўкладаннем каштоўнасцяў, прызначаных для нашчадкаў. Ствараецца сучасна, каб служыць сучаснікам.

Мудрасць пісьменніка ў тым, каб не выходзіць за межы дадзеных яму магчымасцяў. Гора тым, хто выходзіць.

Адносіны з літаратурай адзначаюцца духоўнай блізкасцю, па сваім непаўторным складзе падобнай да эратычных адносін.

У самым пошуку, у самім пісанні, у самой працы ёсць яе ўзнагарода і плата, а не ў чымсьці іншым.

Без упартасці асла няма, не можа быць пісьменства.

У літаратуры не лічацца ўласныя выдаткі, важна тое, што ствараецца як тэкст.

З напісаным творам гэтак жа, як і з любоўю – пра яго не варта занадта шмат казаць; трэба кахаць, калі гаворка ідзе пра жанчыну, і трэба проста пісаць, калі гаворка ідзе пра кнігу.

Добры верш можна вельмі лёгка распазнаць: менавіта па тым, што ён не толькі ў словах.

У паэзіі няма мяжы, ёсць толькі мяжа таленту. Калі з’явіцца хтосьці вялікі, вы пазнаеце яго па голасе.

Нам трэба больш асцярожнасці і разважлівасці і менш фанатызму і лютасці ў пошуку новых шляхоў і новых узораў для літаратуры і мастацтва.

Літаратура займаецца чалавекам не шляхам выбару з незлічонага мноства прадметаў, а па неабходнасці, і гэта зусім не павінна быць падставай для гонару, таму што нічым іншым яна проста займацца не можа.

Крытыку ў прынцыпе нельга ставіць знак роўнасці паміж аўтарам і героем, нават калі тэкст змяшчае клятвы, што аўтар гэтага катэгарычна хоча.

З пісаннем усё роўна што з алкагалізмам: нават калі не хочаш вымушаны брысці далей.

Нічога не зробіш з тым, што кожны чытач засвойвае кнігу праз уласнае ўяўленне.

Вы пішаце, калі нешта маеце і можаце сказаць, і тады пішаце ноччу, раніцай, увечар, кожны трэці дзень, на брудных кавалачках паперы, зламаным алоўкам, і калі распачалі пісанне, вас не можа спыніць ні смерць блізкіх, ні асабістыя беды і няшчасці, нічога, акрамя можа апаплексіі і раптоўнай смерці. Усё астатняе, што пра гэта гавораць, – гэта задурэнне галавы.

## Антанас А. Ёнінас



Фота: Boooksfromlithuania.

...магу сябе суцешыць
што хвалямі ўскудлачаны
плыву да порту Вечнасць
я атам ледзьве бачны...

# Кропля ў рацэ Геракліта

***З кнігі "Новыя санеты"***

***ПЫЛЬНЫ ЗАПІС***

Усё змарнуе незваротна ён –
пачвары паўздымаюцца ўспамінаў
ўсплываючы з сыкучай цемры дзён
каб зрынуцца ў апошнія цішыні

абсурдны недарэчны свет. але
ці гэта недахоп? ці мо якраз патоля?
і ад таго што ўраз не зразумееў
мароз па скуры блаславення болем

бяскрыўдна пасміхаецца сусед
праз весніцы труну нясуць а ўслед
вянкі (лаўровыя) шамочуць пад нагамі

заходзіцца сабака ўсё сіплей.

*Пераклад з літоўскай Ванды МАРЦІНШ ДУШ РЭЙШ.*

і на успаміны значна больш надзей
чым на лухту што здумалі мы самі

### *ШЭРЫ САНЕТ*

Дождж нудна сыпле дробязь за вакном
па Чэрапаса* неба маляванцы
а з сінагогі слізкім хадніком
вяртаецца габрэй нібы па шклянцы

а я лічу ўсё шэрага адценні
такі мне выпаў колер адмысловы
і скачуць каўкі чорныя як цені
у парку й круцяць мудрыя галовы

у шэрагу яшчэ адзін нязначны дзень
і толькі снежня доўгага макрэнь
праз вокны пранікае

а што б яшчэ я мог табе сказаць?
праз дзень прывык я дзённікі чытаць
Балтушыс ценька выпрадае**

### *КЛІМТ****

Успаміны ўсяго толькі сны
можа злёгку ўколяць ці ўкусяць
міргаціць як ідзем мы праз вал насыпны
маладзік ледзьве бачнаю лусткай

бяжыць бясшумна плынь чорнай вады
шэрыя цякуць аблокі
смешна баяцца і прагнуць тады
таго што вымавіць мог бы

яна не пыхлівая Адэля вочы якой
глядзяць са сцяны ў цьмяны пакой
ўкруг залатое поле

і аблітая святлом месяца
не ведае што срэбрам свеціцца
мая патоля

---

*Генрых Чэрапас (н. 1952 г.) – літоўскі мастак неаэкспрэсіяналіст. Развівае манахромны жывапіс з прыглушанымі "зямнымі" фарбамі, выкарыстоўвае розныя матэрыялы.

**Ёзас Балтушыс (1909–1991) – вядомы літоўскі пісьменнік.

***Густаў Клімт (1862–1918) – аўстрыйскі мастак, адзін з найвядомейшых прадстаўнікоў венскага мадэрну.

### *САНЕТ ВАРОНІНЫМ ГОЛАСАМ У ЦЕМРЫ*

Час як возера млявасці поўнае
ці рака што імкне ўдаль бязважка
ці як гожае мора шыкоўнае
набрынялае хвалямі цяжкімі

час як рака дзе канчаюцца дзюны
парастак адсюль сабраўся ўпрочкі
час як старыя прагорклыя віны
узяць чарку хочаш узяць чарку хочаш

варона ад стрэхаў стаміўшы пагляд
слова не скажа не каркне нават
трэба зазнаць што ўсе ходзім пад Часам

дзіця на ладан руку прыложыць
варона ў вокны казеліць вочы
Не спыню гэтым разам

### *АВАРЫЯ*

На вуліцу ступіўшы не паспеў я
адчуць як збіты з ног я быў. А кнігі
ляжалі на асфальце. Мокры вецер
нервова шкуматаў старонкі. Знік ён

той вобраз мімалётнае жуды.
ды мне таго – да макаўкі і вышай.
прапала дзесьці злосць, стачыліся куты.
і толькі кроў з асфальту поўня ліжа.

І разумееш што захрас па вось.
а дождж пад ліхтаром сячэ наўскось
і цьмяна лямпай лужына падсветлена.

Здаецца досвет той зусім нячынны.
мне даспадобы вершы і жанчыны
з сакрэтамі. І ў шафе са шкілетамі.

### *ВЯСНОВЫ САНЕТ*

Калі вясна спяшае з гарачынню
чытаю я паэзію няспынна
і слодычу яе аж зводзіць рот

дзяўчаткам сукні ветры развяваюць

а уваччу мне літары мільгаюць
і быццам танчаць стаўшы ў карагод

прыгажосць паэтычных сугуччаў
ды вяночак з метафараў дзіўных
і лятуць глянцаватыя ружы
над пяшчотна каханай радзімай

каламутным малюе адценнем
адмысловы паток графаманны
і ляціць над ландшафтам радзімы
дах мой знесены і зламаны

### *ВЯСНОВЫ ПАГОРАК*

Абадраны пагорак вясновы
металёвая ў рэчцы вада
конік ровара буры не новы
як кірпаты націск над А

што расце што цячэ і галёкае
і што коціцца кумільгам ўніз
сінявокая ты сінявокая
не нагадвай нічога хоць ты ж

так напалена цяжка ў пакоі
у старога дыханне цяжкое
ачуняе да вечара ён

нешта дзеўчына там вышывае
ровар чвалам з пагорка злятае
скача вершніку наўздагон

### *БАЛАДА ПРА ЧЭКІСТА*

Вось там ля возера навюткія дамы.
Да іх сцяжынка ўецца камяніста.
Сустрэў чэкіста там. Аб ім
Нічога не скажу: адно – чэкіст ён.

А кажуць, што падобны ён да звера.
Ўглядаюся – дык падабенства ж нуль.
Бясхібны твар – абраз дабра і веры,
А зробіш што не так – не пашкадуе куль.

Тырчыць у лбе і ярка палымнее
Пагрозай зорка. Чырванню гарыць.

Я перадумаў. Павярнуў да лесу. Неяк
Да возера ўжо болей не карціць.

Вуду чэкіст у возеры замочвае.
Ды адзінотаю сваёй ён не азмрочаны.

## САНЕТ ПРА ЗАБЫЦЦЁ

З часоў тых толькі забыццё
струменем ценькім прыбяжыць
і будзе пеннае шмаццё
ў абдымках бездані кружыць

хлісне бізун пражэктараў святла
са змроку крэпасці магільнага
на цвінтары Бог моліцца між тла
раструшчаны сваёй бяссільнасцю

не вернецца вандроўнік зблудзіць
і звон пампрэ ў дзвярных ключах
на рэчах – тут вось на вачах –
драбнюткі пыл свіціцца будзе

начэй ні знаку – па начах
тады яшчэ ўсе спалі людзі

## СТАРЫЯ МОГІЛКІ

Нячышчаных сцяжынак сходкі
пагоркі пыльныя аточаць
травы зжаўцелыя бразготкі
пад шорсткім ясенем шапочуць

паміж лісцём святло ліецца
узлезшы схілам дзе круцей
відок чароўны адхінецца
і перавёў бы дух, ды дзе...

На надмагіллі – іх тут шмат –
чытайма надпіс пілігрыме
“Ад свету я прачнуцца рад...
і ў чорным чоўне дамавіны

плыву ў цямрэчы – Стыкс ці Лета? –
каб нешта вартаснае зведаць”

## *САНЕТ ГІНТАРАСУ ГРАЯЎСКАСУ**

Другая ўночы – сведкам стаў
як перарэзалі праводку
а месяц ззяць не перастаў
і цемра бегла ў падваротню

пасля дажджу блішчаць там чысцінёй
водазаборных кратаў спіцы
жанчынаў стомленых кіслей кісліцы
сурвэтак суцяшае неспакой

не суцяшаю й не пужаю тут я
калі чакалі слоў яшчэ не чутых
дык едзьце да маголаў ці куды

а тут Літва і дождж ліе тут *ponai***
і рэжуць на пяці акардэонах
у G-dur тут Баха несканчоныя лады

## *НАДВЯЧОРКАВЫ САНЕТ*

Усеўся мінак на лаўку
правіць стаптаныя боты
вецер у твар яму даўкі
кідае вечара водар

б’е з-пад запраўкі ваконцаў
гумы смурод і масла
там дзе тугою бясконцай
гоніць праходных няўчасных

божа як доўга як доўга
свецяцца дулі і гонта
на схіле ў прадмесці бялёсым

праз камень прадзерлася рэчка
– тут наша зямелька бясспрэчна –
прыдурак штосілы галосіць

## *ВОСЕНЬ*

Там восеньскіх нябёс
наскрозь у дзюрах дах

---

*Гінтарас Граяўскас – літоўскі паэт, драматург, эсэіст, аўтар і выканаўца шматлікіх песняў.

**ponai (*літ.*) – спадары.

і доўгі цень кагось
цямнеецца ў дзвярах

там цемры прасціна
заляжа ў тупіку
загаўкае шчаня
велічынёй з блыху

і невядома хто
нібы з машыны Бог
узнікне нечакана

рукой махне здаля
прыкінецца пасля
як быццам не пазнаў ён

### *САД*

Свіціцца дзень нібы крышталь магічны
мігцяцца згадкі каляровым кантам
абрусам белым стол засланы кліча
мяне у засцень маладога саду

у прывідным святле нібы галубка
ляжыць ў шэзлонгу боская Астарта*
быццам няма пагрозы спіцца, з гартам
пацягвае віно з пялёсткаў-кубкаў

здаецца каб яшчэ наліў ёй хоча
за кожным позіркам цікаўным сочыць
фліртуючы хавае дэкальтэ. Над

горадам хмурыны пагражаюць
і усміхнуўшыся прэч адступаюць
як тыя служкі праз зялёны сад

### *КРОПЛЯ Ў РАЦЭ ГЕРАКЛІТА*

У рэчцы Геракліта
я кропелька малая
што ў бухце пакруціўшы
нясе рачулка тая

магу сябе суцешыць
што хвалямі ўскудлачаны

*Астарта – багіня кахання, урадлівасці, улады ў шумера-фінікійска-ізраільскім пантэоне.

плыву да порту Вечнасць
я атам ледзьве бачны

надзеі той хапае
і я жыву не дбаю
быццам гадзін ліхва

усіх нас смерць чакае
уцяміць галава
як двойчы два

### *ЧАМУ*

Нашто пішу я небыліцы?
так ёсць: плыве міражны флот
пад ветразем прарокі ніцма
мальбоняць пусткі пасярод

і куды ж з гораду можам уцячы мы
святло між галля ледзь прабіваецца ў прагал
і падступныя гномы з вялізнымі вачыма
спяваюць у расколінах стромкіх скал

А ці праўда сустрэча чакаецца?
пад тым камянём гадзюка хаваецца
і дзяўчына сядзіць галяком

дык ідзем адпачыць! – ноч пачнецца
свет на месцы яшчэ застанецца
бо паэзія ёсць. ці яе недахоп

## Васіль Быкаў



...пісаць так, як гэта робяць іншыя, –
не ўмею і не хачу...

# «Мне вельмі шкада твайго трапяткога сэрца...»

***Выбраныя старонкі з лістоў Васіля Быкава да Генадзя Бураўкіна***

*Падрыхтоўка, каментары і публікацыя Сяргея ШАПРАНА.*

***1.***

Гена, дарагі дружа!

Дзякуй табе самае шчырае за тваю памяць і асалоду, якую мне далі твае радкі. З вялікім задавальненнем праглынуў за адзін раз усю кніжку і адразу ж пішу пад самым непасрэдным уражаннем[1].

Што ж, можна цябе павіншаваць з новай ступеняй у паэзіі, новы крок – багацейшы твой паэтычны голас, глыбейшыя думкі, таней пачуцці[2]. Я затрудняюся сказаць, які з раздзелаў лепшы – вельмі грамадзянскі на высокім напружанні першы, але затое і ў трэцім шэраг выдатных паэтычных мініятур[3]. Можа, нават трэці больш цэльны, раўнейшы за першы, лірыка яго – высокай кваліфікацыі, і я, прызнацца, з некаторай нават нечаканасцю адкрыў праз яго ў табе аўтара тонкага паэтычнага вобраза і філіграннай дэталі. Іменна ў гэтым, мне думаецца,

твая сіла – слова і дэталь, у той час як у Толі В.[4] – задушэўнасць чалавечага пачуцця. Гэта вельмі важна – вызначыць кірунак, характар сваіх здольнасцей, аб тым я ведаю па сабе і хачу, каб і ты гэта адчуў. Гэта таксама важна, як і ведаць свае хібы, але на хібы заўсёды пакажуць-ткнуць пальцам крытыкі, а на здольнасці павінны паказаць сябры. Што датычыць паэмы[5], дык яна, мабыць, самы значны і самы ўдалы твор у кніжцы. Паэма – тваё дужа грамадзянскае слова, вельмі арганічны для твайго таленту адпор людзям пэўных жыццёвых прынцыпаў. Гэта цудоўна! Адно толькі хацелася б – болей, даўжэй, ну але я памятаю нашу аб тым размову... Мне думаецца, што такімі рэчамі, як гэта паэмка, а таксама «Пра сціпласць»[6], «Цікавыя стварэнні людзі» (дарэчы, загаловак ягоны болей гадзіцца як вызначэнне жанра), «Асвейская балада», «Зусім “бязгрэшым”», «Скрыпка», «Рэкі Беларусі», «Мы дома песень менш знаходзім» ды і другія[7] можа ганарыцца кожны харошы паэт.

Дай табе бог і далей так жа хораша і чэсна!

А я вось вычапаўся з хваробы, пакуль усё добра, чакаю дазволу на Балгарыю, але яго ўсё няма. Відаць, прыспее да белых мух. Ну але што ж, на іншае не трэба было і разлічваць... Такая завядзёнка – пакуль пройдзе ўсе інстанцыі, гэта ж дзяржаўнае важнасці справа!

На тым яшчэ раз – дзякуй.

Абдымаю цябе са шчырасцю,

твой *Васіль.*

Нізкі паклон тваім Юлі і Алёшу.

Хай растуць і маладзеюць[8].

*В.*

*21 кастрычніка 66 г.*

***2.***

*<Без даты>*[9]

Дарагія Генадзь і Юля,

віншую вас з новым і лепшым! Хай ён будзе такі ясны, як гэтае сонейка. Хай зыйдуць хмары, што яго засцяць[10].

*В. Быкаў*

***3.***

*<Не пазней за май 1970 г.>*

Дарагія Бураўкіны, вялікія і маленькі!

Нашыя Вам віншаванні з радасным днём Перамогі!

Спадзяемся, Вы слаўна жывяце, натхнёна працуеце, можацеся са здароўем. Ну і добра. Дай бог многа сонца ў Ваша акенца.

Са шчырасцю *Быкавы.*

***4.***

*<Снежань 1970 г.>*

Дарагія Геня, Юля, Алёшка і . . . . . . . . . ![11]

Віншуем, вітаем, жадаем вялікага шчасця, безліч радасцей і здзяйснення ўсялякіх надзей у Новым, 1971 годзе.

А яшчэ – з самай галоўнаю Вашаю радасцю ў тым-гэтым годзе!

Вашы гродзенскія *Быкавы.*

**5.**

Дарагія Юля і Генадзь,

спадзяюся, што вы добра даехалі і не намёрзліся так, каб захварэць. Хіба што – начхаць. Я таксама.

Шлю часопісы. Прачытаўшы, можаце іх пакінуць. Мне вяртаць не трэба.

Ну і будзьце здаровы.

Да новай (болей цёплай) сустрэчы.

*Васіль.*

*3.XII.73 г.*

**6.**

*<Снежань 1973 г.>*

Дарагія Бураўкіны – мужчыны і жанчыны, дарослыя і маленькія, будзьце здаровыя і шчаслівыя ў Новым, 1974 годзе. Мы пастараемся таксама.

І памятайце: Нёман раскрываецца толькі ў трэці раз. А «Лопіс» – не ў першы[12].

Вашы *Быкавы-гродзенскія.*

**7.**

*27.X.75*

Юля і Геня,

вітаю вас вось з-за гэтых паўднёвых скал, куды мяне загналі дурасць і няўдачлівы курортны лёс[13]. Холадна і дождж. Адзін паратунак – чціва, кіно ды чарачка. Але, мусіць, да свята прыдзецца тут дабыць, тым больш што ёсць работа.

Пасылаю вам гэтую кніжачку, мабыць, яна будзе вам абодвум цікава. У перадапошні раздзел аповесці мне давядзецца ўставіць паўстаронкі тэксту, які б рэабілітаваў (трохі) генерала і пакараў (зняў) Чунько[14]. Гэта – адпаведна з «Наш<его> современ<ника>».

На тым – жму вашыя рукі.

Прывітанне Міколе і Нілу[15].

**8.**

*3 лістапада 75*

Дарагі Генадзь!

Сёння атрымаў тваё пісьмо – дзякуй табе за яго і за твае клопаты наконт аповесці. Тут мяне добра прышчаміла сцюжа[16], да таго ж я прастудзіўся і калі ехаў сюды з малой астмай, дык прыеду з вялікай. Вельмі шкадую, што паехаў, але ж надвор'е такая рэч – можа, адзіная рэч у прыродзе, якая не залежыць пакуль што ад яго начальнікаў – метэаролагаў. Адсюль на святы я паеду ў Маскву, там яшчэ клопаты пра аповесць наперадзе[17].

У мяне тут сабралася трохі паправак, але калі ідзе (у цябе) без іх, то хай ідзе[18]. Адзіная мая просьба, калі гэта магчыма, замяніць тэкст пісьма да Валошына, тэкст другога зместу, але такі ж па памеру. Так будзе ў рускім выданні, няблага, каб беларускае яму адпавядала. Гэта 1 старонка.

Шкада мне Міколу і яго клопаты[19], але мне здаецца, што яму б трэба капітуліраваць зараз. Усё роўна гэта прыдзецца зрабіць, дык лепш раней, чым позна.

Віншую цябе са святам. Паклон Юлі.

Будзь! Твой *Васіль.*

**9.**

*<Снежань 1975 г.>*

Дарагія Бураўкіны

будзьце здаровыя, багатыя і шчаслівыя ў Новым 1976 годзе.

І – каб радавалі дзеці;
і – каб квітнеў часопіс;
і – пілося і елася<;>
і – яшчэ хацелася.
Вашы
*Быкавы*
з Гародні.

Кветачка для Юлі[20].
У дзень яе 18-годдзя.

**10.**

*<Снежань 1976 г.>*

Дарагія Бураўкіны,

старыя, маладыя і маленькія!

Шчыра жадаю вам быць здаровымі, шчаслівымі і закаханымі ў Новым, 1977 годзе. Хай свеціць вам ясна вясновае сонейка ад студзеня да снежня, растуць дзеткі, добра пішуцца вершы.

Будзьце!
Ваш *Васіль,*
з Гродні каторы.

**11.**

*<1970-я гг. (?)>*

Дарагія Бураўкіны,

шлю вам свае самыя сардэчныя Навагоднія віншаванні.
Будзьце здаровыя.
І хай будуць здаровыя Вашы дзеткі.
І хай не выводзіцца ціхая спагада ў вашай хатцы.

Ваш *Васіль.*

**12.**

*<Снежань 1980 г.>*

Дарагія Бураўкіны –
Генадзь, Юля, Алёша і Света,

будзьце здаровыя і шчаслівыя ў Новым 1981 годзе, які, дзякаваць богу, абяцае не быць вісакосным і, можа, будзе багацейшым на радасці.

Са шчырым вітаннем,
*В.* і *І. Быкавы*[21].

**13.**

*<Снежань 1982 г.>*

Дарагія Бураўкіны,

нашыя вам віншаванні з:

– Новым, шчаслівым, 1983!

– Наваселлем па вул. Захарава!

– Выдатнымі вершамі (гл. «Полымя» № 12).

– Вернымі старымі сябрамі.

Мілую Юлю (апроч таго)

сардэчна віншуем з яе светлым дзянёчкам!

Хай ёй шчасціцца!

*Васіль* і *Ірына*



*1973 г. Андрэй МАКАЁНАК, Васіль БЫКАЎ і Генадзь БУРАЎКІН. Фота Уладзіміра КРУКА.*

### 14.

Дарагі Генадзь!

Карыстаючыся выпадкам і добрай паслугай, спадзяюся, што гэта нарэшце да цябе дойдзе. Хачу табе сказаць: радуйся, што ты там[22], а не тут, не бачыш усяго таго, што бачым мы і ад чаго на душы, як у балоце. І справа, канешне, не ў чэргах і талонах, не ў той галечы, якая на нас насоўваецца (ці нам да таго прывыкаць!). Справа ў людзях. У нашых сябрах. У І Н Т Э Л І Г Е Н Т А Х, тым больш нацыянальных, апроч якіх у нас, па сутнасці, нічога няма. Няма хлеба, няма культуры, няма мовы і ўжо няма... народа. Інтэлігнецыя (беларуская) раздзялілася на два лагеры: адна, большая, гэта індыферэнтныя абывацелі, другая, меншая, набегла дагаджаць Сакалову, Малафееву[23] і г. д. І, што самае прыкрае, сярод іх – нашы сябры. Найлепшыя сябры прытым. Гледзячы на іхняе лізаблюдства, не перастаеш здзіўляцца: што робіцца з людзьмі! Ці, можа, тое рабілася і раней, ды мы былі сляпыя, не бачылі. Ці не хацелі бачыць... Вы там з Юляй далёка ад усяго таго, і дай вам Бог як надалей не бачыць, не чуць таго.

Са шчырасцю і надзеяй *Васіль.*

*19 сак<авіка> 91 г.*

### 15.

Мілыя і дарагія нашы Генадзь і Юля!

Ну вось зноў, здаецца, пара вітаць з Новым годам, а Юлю з яе народзінамі. Здароўя і шчасця вам у такой далечы. Далёкай далечы. Некалі гэткай парой я быў у Нью-Йорку, пад час Крыстасу, калі горад – у срэбным убраньні-зьзяньні, цуд, канешне. У нас таксама трохі выпала сняжку, прысыпала нашы худародныя палеткі, пыл і сьмецьце на вуліцах. Жах тым часам набліжаецца. Ужо ў Маскве і СПБ няма чаго есьці, СПБ па бартэру будзе карміць Фінляндыя, а Масква ўсёй сваёй інтэлектуальнай магутнасьцю накінулася на сепаратыстаў – ад Закаўказьзя да Прыбалтыкі, якія не вязуць ёй прадукты. Асабліва дастаецца Украіне, якая ўсё разбурыла. Загнала апошні кол на магіле бальшавіцкай імперыі. Малайцы ўкраінцы! Калі б толькі не іх сумніцельны прэзідэнт... Але, можа, і нічога.

Ну а што ў нас?

У нас усё тое ж. Самая вялізная праблема-клопат грамадскасьці – прымусіць сабрацца ВС, каб хоць што-небудзь вырашыць. Не хочуць збірацца. А калі і збяруцца, дык паразбягаюцца – няма кворуму. Сваю справу пэўныя сілы, аднак, робяць: легалізавалі ЛКСМБ, цяпер збіраюць зьезд КПБ. Відаць, праз тыдзень



*Генадзь БУРАЎКІН і Васіль БЫКАЎ.*
*Фота Уладзіміра КРУКА.*

будзе. Камуністы надта стараюцца, а беспартыйныя ўспамінаюць дні, калі тыя гаспадарылі і была каўбаса. Цяпер кажуць: і камунізм, і каўбаса – на адну літару. Новы год нам прынясе такое, што страшна і падумаць: і ў эканоміцы, і ў культуры... Адзіны паратунак – поўная самастойнасьць, як Украіна. Але ж мы – не Украіна. Дый нават Краўчука ў нас няма. З кім мы пойдзем у той акіян самастойнасьці?.. Таварны рынак ужо сканаў, а неўзабаве будзе капут фінансавы. Як толькі Расея адпусціць цэны, дык праз дні 2–3. Пра гэта ўсе гавораць, толькі ніхто не можа нічога зрабіць. Ды ўжо і позна што-небудзь рабіць. Хіба што новы путч, на гэты раз удалы і пасьпяховы. Армія, КГБ, МУС даўно гатовы і чакаюць, ужо не таячыся. Адкрыта абмяркоўваючы ўсе яго асьпекты. Дый прэзідэнт пра тое гаворыць (гл. «ЛГ» за пачатак сьнежня). Толькі ён, як заўжды, не туды арыентаваны, думае, што путчысты прыедуць з Каўказа ці з Украіны пад сепаратысцкімі сьцягамі. Наіўнасьці гэтага Чалавека ўжо няма сілы здзіўляцца.

Вось так мы і жывем. Кола сяброў, вузкае для мяне заўжды, і яшчэ болей вузее. У Саюз <пісьменнікаў> не хаджу, ад палітыкі стараюся адляпіцца, хаця не атрымліваецца. Цягнуць-ірвуць з розных бакоў. Часам пазвоніць Мікола. Часам Алесь з Масквы[24]. Часам пазваню Грышку[25]. Цяпер Ніл хоча стаць аўтарам Гімна Беларусі, для чаго аб'явіў конкурс і стаў старшынёй журы. Але мы лічым, што Гімн ёсьць – на словы М. Краўцова, выдатная мелодыя. А галоўнае – асвянцоны Гісторыяй. Ну але ж, хіба яго прымуць!

Ну дык з Новым годам вас, дарагія Сябры, а Юлічку яшчэ і днём нараджэньня.

І во гэтую кветачку вам. Журботную і самотную, але з Радзімы васілька[26].

Абдымаю ўсіх Бураўкіных.

*Васіль*

Ірына аберуч далучаецца.

*6 сьнежня 91 г.*

### *16.*

Дарагія нашы Генадзь і Юля!

У нас сёньня хмарны, слотны дзень, сыпле восеньскі дождж. Але на сэрцы некаторых нашых сяброў буяе вясна: урэшце парламент РБ прыдушыў рэферэндум, здань якога страшыдлам вісела аж цэлы год. Рэферэндума не будзе, значыцца, сытнае жыцьцё з пэўнымі магчымасцямі забяспечана яшчэ аж на 3 гады. За той час народу абяцана «паскорыць, павялічыць, забяспечыць...» Як і раней, як і 70 год назад...

Гэтыя два дні, што былі адведзены ў ВС пад рэферэндум, выглядалі як незвычайны спектакль, грэцкая трагедыя – такая палымянасьць прамоў, такое адзінадушша, такі розум! Рацьць камуністаў расла, а рады апазіцыі ўвачавідкі таялі. Пабеглі туды і некаторыя нашы сябры і знаёмыя. Зрэшты, было ад чаго ўцякаць, было як ратавацца. Прывід нацыянальнага фашызму робіцца ўсё выразнейшы,

перад ім былы камунізм ужо пачынае выглядаць як сьветлае мінулае. Варта было паслухаць Булахава[27]! Куды да яго ўсе тыя Пячэннікавы, Паўлавы і нават Чыкін разам узятыя[28]. І, здаецца, неўзабаве ён узлезе на самы верх. У гэтым сэнсе шкада робіцца нашага спікера з яго памяркоўным прагматызмам...

У грамадскім жыцьці РБ новая палітычная кампанія, якую вы, мабыць, заўважылі: арганізаваны і раз'юшаны наступ на мову. Усе расейцы, як па камандзе, узяліся абараняць «пагарджаную мову вялікага расейскага народа», неўзабаве трэба чакаць дэмаршу Масквы з поваду «абароны правоў чалавека» рускамоўнага насельніцтва Беларусі. Знаёмая да банальнасці схема. А тым часам 100 млрд руб расейскага доўгу Беларусі ляснула за «дазвол прапускаць нафту на тэрыторыі Беларусі».

Во гэта эканоміка! Во гэта палітыка!

Нядаўна быў сход у СП. Выступалі – горача і бязглузда. Прасіць, слаць тэлеграмы, доўга і прыдзірліва рэдагаваць рэзалюцыі – больш нашыя пісьменьнікі ні на што не здольны. Апатыя і маразм. Зрэшты, тое ж самае і ў Маскве, і ў Кіеве, і ў Вільнюсе. У нас хоць яшчэ пакуль што не страляюць адзін у аднаго. Але, здаецца, неўзабаве будуць. Да таго ідзе. Толькі ў нас пачнецца са спазьненьнем. Як у іншых месцах скончыцца. Мы ж – тугадумы.

Дарагі Генадзь, мабыць, ты ведаеш там такога Міколу Прускага[29]. Ён прыслаў мне кніжку і вельмі харошыя лекі. Падзякуй яму пры выпадку, бо я не ведаю ягонага адраса.

А наогул жывем!

Да чаго дажывем толькі (бач, нават і напрыканцы не ўдаецца ўзьбіцца на аптымізм).

Са шчырасьцю абдымаю вас!

Ірына далучаецца.

Ваш *Васіль Б.*

*P.S.* Во эканоміка! Дырэктар нацыян<альнага> банка Багданкевіч парадваў дэпутатаў: Расея нам вінавата 100 мільярдаў, якія ніколі не выплаціць. Ён сказаў літаральна наступнае: «Лепш бы тое мяса бясплатна раздалі насельніцтву, а трактары – арандатарам, сялянам, чым было іх пастаўляць Расеі<»>.

Пахавалі Міхася Ткачова[30]. Ныркі. Шкада бязьмерна! І за якія грахі такія пакараньні Беларусі? Як толькі добры чалавек, дык – у магілу...

*В.*

*3 лістапада 92*

***17.***

*22 сакавіка 93 г.*

Мілыя нашы Юлічка і Генадзь!

Як вы там жывяцё, у каменных джунглях, сярод міязмаў капіталізму? Як трываеце ўсё, што выпадае трываць? Мы дык тут ужо загартаваліся і нічым не здзіўляемся, бо ўсё ў нас ідзе, як і ішло – дзесяць, дваццаць і пяцьдзесят год таму. Нічога не мяняецца. А калі што і мяняецца, дык толькі ў горшы бок. Таму мы баімся навін – што ні навіна, то ўдар пад дых. Учора, аднак, выдалася немалая радасць – шэсце і мітынг з нагоды 75 год БНР. Грандыёзная справа, нічога не скажаш. Я нават не думаў, што пасля ўсяго столькі збярэцца – ад плошчы Незалежнасці да цырка – на ўвесь праспект. І мора сцягоў, штандараў... Мастакі папрацавалі. А з пісьменнікаў толькі я ды Грышка. Пасля падышоў Ніл, пастаяў на трыбуне. І то дзякуй. Астатнія... Пазіралі з тратуараў. І то некаторыя. Во выхаваліся! Толькі б дапяцца да карыта, як тая сотня, што наіўна паспадзяваліся на бондараўскае

карыта. Але для бондараўцаў для саміх не хапае, ідзе такая калатнеча ў Маскве... Ну вось. А тэлебачанне наша паказала толькі некалькі буйных планаў, каб не ўбачылі людзі гэтага людскага мора з сотнямі бел-чырвона-белых сцягоў. Дзякуй масквічам-астанкінцам, яны ўвечары паказалі праспект, дзе з канца ў канец, як воку кінуць, калоны. 25<-га сакавіка> урачыстасць увечары. Павінна быць у Оперным, але Оперны напярэдадні падпалілі (сцэну), каб сарваць тое, цяпер невядома дзе будзе сабрацца.

Вось такія нашыя справы.

Мы тут усё гаворым з Мікалаем пра вас, так хочацца бачыць-мець вас бліжэй, але... Дужа пагана ў нас ва ўсіх сэнсах, камуністы пасля рэанімацыі КПБ-ПКБ шалеюць, ужо адкрыта дзеляць уладу, пасады. Шушкевіча і нават Кебіча ўжо не прызнаюць, ладзяць сваіх правадыроў. Цяпер у іх найпершы клопат – рэабілітацыя КГБ. Для гэтай мэты паднялі з архіваў справу аб Курапатах і нам<еснік> генеральнага пракурора Кандрацьеў узбудзіў крымінальную справу. Тужацца давесці, што Курапаты – справа бел<арускіх> нацыяналістаў, якія ўлетку 1941 г. (пасля акупацыі Менска) расстралялі там нямецкіх яўрэяў. А НКВД, трыццатыя гады тут, аказваецца, ні пры чым. Чыкінцы ў сваю чаргу даказваюць, што Хатынь была разгромлена беларускімі паліцаямі пад бел-чырвона-белым сцягам. З гэтай мэтай дамагаюцца адмены пастановы ВС аб дзяржаўным гербе і сцягу. І іх падтрымліваюць. У ВС ужо некаторыя дэпутаты памянялі значкі на ранейшыя.

З'езд беларусаў замежжа вісіць у паветры, там ідзе барацьба за лідарства, хочуць скінуць Лецку[31], які незразумела хто і чый. Я плюнуў на ўсё і пайшоў у адстаўку. Хай робяць, што хочуць.

Настрой адпаведна паганы, працаваць не хочацца. Надвор'е таксама сёлета не самае радаснае. Зіма была мяккая, але вясна мокрая і сцюдзёная. Хутчэй бы зазелянела траўка... Толькі зноў праблема – білет на аўтобус да Ждановіч (на дачу) 35 руб. Бензіну ж на сваю машыну няма. Запраўіцца немагчыма. Хаця 1 л ужо 120 руб. І таго няма. А Шушкевіч усё не перастае вяшчаць, як выгодна мець добрыя адносіны з Масквой.

Пасылаю вам старонку з «Мы и время». Для таго, каб мелі ўяўленне пра друк Советской Белоруссии. Такіх старонак у нас безліч. Кожны тыдзень выдаюць. І не толькі чыкінцы. І на цябе, Генадзь (Мікола абяцаў дасласць), і на мяне. І нават на Ніла – нядаўна надрукавалі яго сталінскія вершы. Каб запэцкаць. А Грышка нядаўна выдаў на «Свабодзе» выдатнае інтэрв'ю. Выдаў усім! Малайчына.

Ну дык – як-небудзь. Трывайце і глядзіце. Усё ж, насуперак усяму, мы чакаем. Можа, яшчэ і пабачымся, мілыя нашы...

Я і Ірына абдымаем вас! Пажамы вам Бог!

### *18.*

*11 ліпеня 93 г.*

Дарагі Генадзь, мілая Юля,

учора скончыўся зьезд, праз тыдзень Янка З.[32] адлятае ў Штаты, а сёньня я пішу вам гэты ліст. Краўчанка[33] сказаў, што ты, Генадзь, падаў заяву, і ён цябе трымаць не стане, на пачатку восені вы вернецеся на радзіму. Увогуле гэта добра, але... Мы тут з Грышкам меркавалі: лепш бы вам пакуль што не вяртацца. І не толькі таму, што жыццё ў нас свалачное, але і па іншых прычынах. Найперш, вас тут напаткае вялізнае расчараванне ў сябрах, якія мяняюцца не ў лепшы бок, і працэс гэты мае характар абвальны. Я ўжо не кажу пра нашага галоўнага сябра... Але і шмат якія іншыя. Горш за ўсё, што Генадзь змушаны будзе стаць на пэўны бок, зрабіць выбар. Але, каб займець кавалак хлеба, выбар той далёка не заўжды будзе справядлівы. Трэба будзе перасягнуць цераз сябе, цераз сяброў.

Інакш... Сам ведаеш – нямала паслужыў на сваім вяку. Тэлебачаньне яны табе не дадуць, там у іх ідэальныя служкі, а што іншае... Наўрад ці яны цябе прымуць у зграю Кебіча, а да Шушкевіча няма чаго і імкнуцца. Той дбае толькі пра сваю галаву і не мае ніякай пэўнасьці. Можна сказаць, што ягоны лёс у руках ягоных ворагаў, і пратрымацца ён можа толькі цаной здрады. Або – калі мякчэй – здачы пазіцый. Што ён і робіць. Хоць ён добры чалавек, разумны і сумленны. Але надта беларус. У тым яго хіба.

Зьезд прайшоў увогуле ціха і сумна. Было некалькі разумных выступленьняў, але большасьць – гэта прынясеньне падзякі за дабрыню ўрада, які даў магчымасьць прыехаць на родныя абсягі. Што ж, можна зразумець гэтых абкатаных жыцьцём пенсіянераў, уражаных апроч таго здзяйсьненьнем даўняе мары: суверэннасьцю Беларусі, бел-чырвона-белым сьцягам, <«>Пагоняй<»>. Іншага яны не ведалі і, мабыць, не ўведалі. Прымалі іх добра, кармілі, вазілі на аўтобусах, засядалі яны ў Оперным. Словам, адносна неблагі тур у суверэнную рэспубліку Беларусь. Ну, а што датычыць урада, дык ён свайго дасяг: паставіў эміграцыю калі не на службу сабе, дык па-за шэрагі ворагаў. Словам – прыручыў. Твой міністр задаволены. Зрэшты, яно можа, і добра. Як сказаў з трыбуны Ніл: мінуў час раскідваць камяні, прыйшоў час іх зьбіраць, будаваць сваю дзяржаву, ладкаваць нацыянальную згоду. Сам ён ужо пагадзіўся з усімі. Апроч, вядома, БНФ. А Мікола, бедны, пакутуе: ныркі. І «хуткая» не можа памагчы – няма чым. Во дажыліся...

Ну, дык – удачы вам і добрага здароўя. Здаецца, Алёша вам ужо даслаў сваё пасланьне. Маё спазьняецца...

Сардэчна абдымаю – *Васіль.*

Ірына кланяецца.

Дарагі Генадзь,

тваю тэлеграму ў падтрымку Шушкевіча Вярцінскі абнародаваў на прэс-канферэнцыі. Цяпер увесь Менск будзе ведаць, да якога лагера з двух ты належыш. Во як!

*В.*

***19.***

*7 сьнежня 93 г.*

Генадзь, дарагі дружа!

Дзякуй табе за клопат і ўвагу – лекі Алёша[34] перадаў, усе вельмі добрыя, якраз тое, што трэба. Хаця ўжо, відаць, хутка нічога не будзе трэба... Жыцьцё нашае горшае з кожным тыднем – ва ўсіх адносінах, здаецца, неўзабаве мы перастанем цікавіцца палітыкай – адвучаць. Жабраку не да палітыкі, яму абы здабыць кавалак хлеба. Палітыкай тады непадзельна будуць займацца ўлады, бесперашкодна рабіць, што захочуць. Аддаваць Маскоўскім торбахватам не толькі нафтаперапрацоўчыя заводы, але і ўсе астатнія. Бо, апроч пагашанага імі доўгу за нафту, застаўся 150 млрд. доўг за газ, на аплату якога чакаюць свае чаргі Белаз і Трактарны. Так што, можаш сабе ўявіць, што чакае Беларусь – нават і пасьля выбараў, калі, можа, прыйдуць да ўлады нацыяналісты, якімі «высакародныя» інтэрнацыяналісты так пасьпяхова запалохалі беларусаў. І не толькі іх. А і ўвесь сьвет. У гэтым сэнсе вы шчасьлівыя там ужо хоць бы таму, што не бачыце паводзін некаторых нашых сяброў-патрыётаў, якія яны робяцца прадбачлівыя і разумныя. Тым болей, што (магчыма!) ідуць апошнія месяцы іх уладараньня, а ў той, новай уладзе ім месца не знойдзецца. Ужо цяпер яны варушацца, назапашваюць капітал – і літаральны, і фігуральны. Натуральна, што ў такой сітуацыі ім не да лёсу далёкага сябра. Асабліва, калі яго на дыстанцыі

распінаюць у Вярхоўным Савеце – няважна, за што – ленінізм ці нацыяналізм. Адно суцяшэньне табе, што не адзін, у кампаніі з Быкавым, Барадуліным, Адамовічам і Блакітам (так!). І нейкім чынам у якасьці антытэзы з Гілевічам, які «праўдалюб ад Бога». («Мы и время», паэма А. Бажко).

Ну але што – С. Алексіевіч горш, якая кожны тыдзень ходзіць на суд, куды кожны раз прывозяць на аўтобусах па дзясяткі 2–3 маці забітых «афганцаў»[35]. Ужо там яны даюць ёй! Пасля іхняй праборкі ёй любы прысуд здасца малінай. Будзе ведаць, як абражаць гонар воінаў-«інэрнацыяналістаў»...

Пра Саюз пісьменьнікаў лепш табе не напамінаць. Тон (палітычны) у ім задаюць «марыністы-баталісты», а на зьмену пастарэламу, хоць і па-ранейшаму актыўнаму, Івану Пятровічу ўпарта ідзе Іван Гаўрылавіч[36]. На днях Саўмін прадставіў яго да народнага; трэба думаць, прэзідыум ВС не затрымае (як гэта было з Грышкам). А Ніл, улічваючы перспектыву, не запярэчыць. У лепшым выпадку выйдзе ў туалет у час галасаваньня. Як ён гэта заўсёды там робіць...

Вось так мы жывем!

Вельмі хочацца, аднак, каб ты быў тут. Каб хоць пагаварыць. Бо без цябе зусім разбрылося-рассыпалася наша брацтва. Хаця наўрад ці яго цяпер можна ўжо склеіць... Вядома, важнай палітычнай пасады яны табе не дадуць, хіба – кіраваць самадзейнасьцю... Але ўсё ж.

Абдымаю – *Васіль.*

Паклон Юлі. Ірына таксама кланяецца.

### 20.

*<Не раней за 1996 г.>*

Вясёлых Каляд і шчасьлівага Новага года жадаем вам, мілыя нашы Бураўкіны.

Юлію Якаўлеўну, апроч таго, віншуем з яе мілым Днём шчасьлівых Народзін.

Будзьце здаровыя і шчасьлівыя.

Вашыя *Васіль* і *Ірына*

### 21.

*<Снежань 1997 г.>*

Дарагія Генадзь і Юля,

з Новым годам вас, м<ожа> б<ыць>, лепшым 1998! Хай ён выдасца міласцівым да нас, а м<ожа> б<ыць>, і паверне ход гісторыі ў спрыяльны бок. Але хоць бы не ў горшы. А калі не нам, дык хоць пасспрыяе нашым дзеткам-унукам, якім, можа, <наканавана> дачакацца таго, чаго не дачакацца нам.

Шчасьлівенька вам
вашыя – *Быкавы* – *В.* і *І.*

### 22.

Добры дзень, дарагія нашыя
Генадзь і Юлічка!

Во мы ўжо тыдзень як дыхаем суровым і халаднаватым (нават у чэрвені) скандынаўскім паветрам, ямо іхні (гатункаў 12) хлеб, з якіх ніводзін не нагадвае «Нарачанскі», што прычыняе (мне прынамсі) першае горкае расчараванне[37]. І яшчэ прычыняе нямалы клопат нашая непісьменнасьць. У магазінах, на вуліцах поўна розных надпісаў, і ні адзін не зразумець. Мова сапраўды дужа арыгінальная, ні на якую іншую не падобная. Мне здаецца, вывучыць яе немагчыма. Зрэшты, пра тое гавораць і самі фіны.

А ўвогуле сустрэлі нас тут няблага, далі кватэру на краі горада, у дачным раёне. Кватэра маленькая, але ў ёй усё ёсьць: і кухня, і спальня, і санвузел, і нават саўна. Вось толькі сауна для мяне – поўная непатрэбшчына. Грошай на харчаваньне, здаецца, хопіць (цьфу, цьфу), а на іншае тут і не трэба. Праўда, тэлефанаваць дужа дорага, тэлевізара пакуль што няма, затое хапае радыё. Менск гучыць лепш, чым на Беларусі, – зычны зрабілі голас менскага радыё. Шкада, мусіць, што тут ягоны слухач – адзін я. Але ўвечары чутна таксама і беларуская «Свабода». Аднойчы чуў ВВС, якраз напаў на перадачу, у якой Ст. Куняеў[38] паласкаў аўтара гэтых радкоў, у прыватнасьці. Затое абараняў Правадыра ўсіх славянаў. Во якія ў нас сябры – там, на Усходзе.

Чуў таксама, як ТБМ высялялі з ягонага офіса. Ірына сказала пры тым: бедны Бураўкін[39]. А я падумаў – бедная, няшчасная Беларусь. Цяжка ўсё тое выносіць у яе межах, не лягчэй і за межамі. Але што зробіш...

Усё часьцей пачынаю ўспамінаць цябе, Генадзь, і твае лісты з Нью-Ёрку. Здаецца, тое самае чакае неўзабаве і мяне. Адзіны паратунак ад таго – праца. Спрабую ёю і заняцца.

Ну, а як вы там?

Страшнавата, праўда, пытацца пра тое, бо ў добрым адказе вялікае сумненьне, а кепскае... Ад кепскага адно – сэрца баліць хоць на радзіме, хоць на чужыне.

І яшчэ – баюся напісаць Нілу. Хоць і дужа хацеў бы з ім пагутарыць. Шкада, не давялося перад ад'ездам. Як ён там? Ці лепшае хоць?

На тым наша шанаваньне, дарагія сябры. Калі, можа, трохі напішаце. Хоць зрэдчасу.

І вялікае прывітаньне суседу знізу.

І Валянціну <Болтачу> – таксама.

Абдымаем вас абодвух

мы абодва – *Васіль і Ірына.*

*17 чэрв<еня> 98 г.*

***23.***

Генадзь, дарагі мой дружа,

перш за ўсё віншую цябе з Днём Тваіх Народзін, вельмі жадаю табе здароўя і шчасьця. Да маіх пажаданак далучаецца таксама і Ірына. Спадзяемся (дужа), што ўсё ліхое неяк адліпне ад нас і прыліпне... Якое? Во ў чым справа. Бо пакуль што прыліпае адна брыдота – я тут сачу за тым, што адбываецца на радзіме, і тое мала надае аптымізму. А што яшчэ будзе?.. Такога, як цяпер, здаецца, не было ніколі, і мне нават сорамна цяпер, што я ў гады перабудовы каркаў на камуністаў, – у параўнаньні з цяперашнім тады была дэмакратыя. Па крайняй меры, хоць у культуры, у л<ітарату>ры... Але я ўжо староньні назіральнік, а як табе там – бачыць пагібель і мовы, і л<ітарату>ры, і культуры. Ды з тваёй жарсьцю, тваёй няўрымсьлівасьцю...

Цяпер пра сябе тут. Канешне, жыць тут лепей, харчоў хапае (чыстых, не забруджаных Чарнобылем), ціх<а>, спакойна. Прыехаўшы, я кінуўся ў працу, напісаў невялікую аповесьць і яшчэ што-ніштo. Але што далей? Дзе друкаваць? З кожным днём усё мацнее адчуваньне непатрэбнасьці, непрыкаянасьці... Мабыць, табе ўсё тое вядома. Тутэйшыя знаёмыя майстры пяра ўжо неяк надта індэферэнтныя – найперш да Беларусі, а пасьля і да яе экзыльнага чалавека. Яно і зразумела, ад іх я нічога не хачу, але ж... Вельмі хораша было б запіць, ды не той узрост, не тое здароўе. Во яшчэ ісьціна, здабытая з вопыту, – калі можаш выпіць, дык яшчэ не ўсё страчана. Нават калі і страчана радзіма...

Даражэнькі дружа!

У твой дзень я тут усё ж вазьму глыток – не ведаю чаго, выбар тут аграмадны. Але ўжо напэўна такога, каб і табе спадабаўся. Ну а табе жадаю – як заўсёды 28 жніўня.

На тым абдымаю – пішы.

Твой *Васіль*.

Гэта для Юлі <u>*17.8.98*</u>

ў дзень народзін Генадзя. *Helsinki*

***24.***

*<Жнівень 1998 г.>*

Дарагі Генадзь!

У дзень 28 жніўня шлю табе маё вітаньне во з гэтага далёкага паўночнага града, дзе помню, шаную, люблю цябе, мілы мой дружа.

Твой *Васіль*.

Пішы, дружа, заўжды – радасьць тваё пісьмо. Нават сумнае.

*10 ліст<апада> 98 г.*

***25.***

*<Снежань 1998 г.>*

Дарагія Юля і Генадзь –

з двайным сьвятам вас абодвух, жадаючы добрага здароўя і вялікага шасьця ў новым, 1999 годзе. Будзем спадзявацца, што ў ім нешта зьменіцца ў лепшы бок – падрастуць унукі, паразумнее начальства і не пастарэем мы. І ТБМ справіць вялікія ўлазіны – у краіну Беларусь.

Вашыя *Быкавы В.* і *І.*

***26.***

*13 сак<авіка> 999 г.*

Генадзь, дарагі дружа,

сёньня прысьніўся сон, дзе я бачыў цябе і падумаў, ці не здарылася што з табой? Такое жыцьцё на радзіме, што чакаць можна ўсяго, але больш – самага кепскага. Спадзяюся, аднак, што сон-зман, а ў цябе больш-менш – о’кей. У мяне таксама. Хаця зіма гэтая – самая доўгая і, канешне, самая сьнежная. Дужа хочацца вясны і – трошачкі Беларусі. Хоць нашае траўкі зялёнай, бяз якой жыцьцё ня ў смак. Ну ды ты гэта ведаеш...

А так больш нічога, усе праблемы засталіся там, на поўдні адсюль. Хаця далёка, але іх так шмат, што аж балюча тут. Фіны – з тых нешматлікіх, якія разумеюць па-расейску, нічога не разумеюць з Беларусі. Толькі робяць шырокія вочы. Зрэшты, у самога вочы робяцца такія ж – ад неразуменьня. Поўны сюр...

Трохі пішу. Толькі ўсё болей запаноўвае ў душы думка – навошта? Па-другое, пісаць так, як гэта робяць іншыя, – не ўмею і не хачу. Тады прыходзіць кепская зусім думка – махнуць на ўсё... Але тады што? Каб быў маладзейшы, дык бы напіўся. А цяпер не нап’ешся, не тое. Не ў смак. Тады што ж у смак? Ды і ці трэба той смак?

Затое тут шмат расейскай перыёдыкі, і чытаю. Але лепш бы не чытаў... Апошняе такое расчараваньне – А. Салжаніцын, «Россия в обвале». Ну-й-ну! Думаю часам: пашэнціла Сашу А<дамовічу>, які не дажыў да тае ганьбы, што робіцца цяпер зь ягонымі (і нашымі) сябрамі. Магутная Вандэя перамагае...

Гена, спадзяюся яшчэ, што ты здаровы.

Прывітаньне мілай Юлечцы і тваім рабяткам. Ірына шле свае таксама.

Абдымаю – *Васіль.*

*P.S.* Шчырае вітаньне Валянціну Б<лакіту>.

***27.***

Дарагі Генадзь!

Даўнавата ўжо атрымаў твой ліст, а пасьля прачытаў вершы – у газеце і ў «Полымі». Добрыя вершы, я парадаваўся, што ў такі кляты час твой талент (паэтычны) не змарнеў нікольki. Можа, яшчэ і палепшаў. Сапраўды, ёсьць рацыя ў даўнім парадоксе: чым горш грамадскае жыццё, тым лепш для жыцьця духоўнага, у т<ым> л<іку> і для мастацтва. Думаецца, аднак, пры ўсім тым – хай лепш спрыяе для грамадскага жыцьця. А ўжо мастацтва як-небудзь. Як на Захадзе, дзе мастакі ня дужа плачуць па сваім змарнелым мастацтве – здавальняюцца росквітам грамадства. Хаця, як я тут паглядзеў, мастакам і ў квітнеючым грамадстве – ня мёд. Можа, лепш, чым у нас, але куды горш (бядней), чым для астатніх саслоўяў. Нават і для рабочых.

А я тут праседзеў зіму, што-нішто напісаў. Але так, дробязі. Для буйнога няма ўжо духу. У пачатку травеня зьездзіў у Берлін, пабачыўся з землякамі. Але менавіта пабачыўся, пагаварыць не дужа спрыяла мітусьня. Ды й хлопцам хацелася пасноўдаць, паглядзець цяперашняе «логава фашызму». А тое, што я сьцяміў з кароткіх гутарак, не надало аптымізму... Як у сэнсе літ<арату>ры, так і ў сэнсе асоб літаратараў.

Магчыма, я тут трохі яшчэ затрымаюся (можа, на лета), але тое няпэўна, бо апроч намераў патрабуе бюракратычных санкцыяў. А бюракратыя тут, як і ўсюды, шчыруе што трэба. Магутная сіла! Але хачу прыехаць (можа, у чэрвені), бо ёсьць справы – асабістага і гаспадарчага кшталту. Зноў жа – патрабуе душа. Палітыка не вабіць, хутчэй наадварот, а во старыя дарожкі – так! Зноў жа ўнукі. Я ведаю, як ты ставішся да ўнукаў, і разумею цябе. Але тое – не заслуга, тое – геннае, значыць, Боскае.

Мікола <Матукоўскі>, які раней пісаў дужа часта, цяпер змоўк, можа, зьнямог, а можа, пакрыўдзіўся за тое, што ён мяне (і нас) спрабаваў абараніць у «Рэспубліцы», а я яго – не. Але я думаю, што зрабіў правільна, бо ў той бойцы, у якую ён улез, перамогі на нашым баку ня будзе[40]. Перамога вядома чыя. Была, ёсьць і будзе. Так што найлепш нам ціха маўчаць. Раней дык можна было хоць паскардзіцца ў Маскву. (Гэтак мы з Алесем паскардзіліся, і што атрымалася? Сталі стукачамі – з падачы ўсё таго ж Сеўрука[41].) А цяпер і Масква адпала. Застаецца хіба ААН. Але ААН з Мілошэвічам[42] ня можа зладзіць, дзе ўжо ёй (і НАТА) цягацца з непераможным Сеўрукам.

Ну дык як-небудзь...

Перадавай прывітаньне Валянціну.

Ну і тваім усім маё шанаваньне, да якога далучаецца Ірына.

Абдымаю, дружа Генадзь!

Будзь здаровы!

*Васіль Б.*

*23 мая 1999 г.*

Гэта Ірына шле свой адмысловы прывет з гэтай экзотай[43]. *Ір.*

***28.***

Дарагі дружа Генадзь!

Ня ведаю, калі ты атрымаеш гэты ліст, таму, можа, зарана, але ад ўсяго сэрца віншую цябе з тваім мінулым днём 28 жніўня. Будзь здаровы і будзь шчасьлівы,

дружа, любі жыцьцё і літаратуру, пішы твае выдатныя вершы, як гэты ўмееш толькі ты і ніхто болей. У тым сэнсе, што тваё ніхто не зробіць лепш за цябе. І не губляй надзею! Нават калі тая надзея і страчвае ўсе падставы. Бо без надзеі ніяк. Нават калі яна – цынічны самападман.

Ну а я вось тут дажываю лета, якое разьбіў паездкай на радзіму і тым парушыў маю неяк складзеную-зьлепленую цэласнасьць, калі трохі пісалася, спадзявалася ў атмасферы гасьцяваньня і навізны. Беларуская ж рэальнасьць аказалася нечакана атрутнай, і замест чаканага натхненьня, прадухі, вярнуўшыся, атрымаў неспатольны галаўны боль. Як у Рыгора. Галаўны боль – ад болю душы. Тут ужо марна шукаць лекі, трэба падводзіць рахункі. Можа, гэта тое таксама, што банальна завецца творчым крызісам? А можа – маральным? Ці палітычным? Ці ўсімі адразу, што, магчыма, самае правільнае.

Ну але як-небудзь, бывае горш. І было горш. Чаго лепшага чакаць напрыканцы жыцьця, напрыканцы стагодзьдзя? Ды яшчэ ў канцы гісторыі, калі верыць Ф. Фукуяму. (Хаця Фукуяма ўжо дэзавуіраваў свой прагноз. Гісторыя будзе працягвацца – прынамсі самая агідная яе палавіна. Скончыцца толькі лепшая. Такая ягоная папраўка. Але ці лягчэй ад яе?..)

Наконт З., здаецца, праўда твая...

Дык яшчэ – з віншаваньнем цябе, да якога далучаецца Ірына. І мы абодва віншуем мілую Юлію з тваім Днём. Шлём прывітаньне тваім маладым Бураўкіным – дзецям, унукам. Хай усім ім шчасьціць у сумесным жыцьці.

Абдымаю, дружа!

Твой *Васіль.*

*12 жніўня 999 г.*

*P.S.* Валянціну – самае шчырае вітаньне.

*В.*

### *29.*

*<Снежань 1999 г. >*

Дарагія Бураўкіны –

дзяды, бабы, дзеці, унукі і ўнучкі – з Новым годам вас аж 2.000! Хай ён спрыяе вам ва ўсіх вашых справах, дае здароўе, хлеб і шчасьце!

Абдымаем ўсіх – вашыя *Васіль* і *Ірына.*

### *30.*

*15 лютага 2000*

Дарагі Генадзь!

Ужо з тыдзень, як я ў Нямеччыне, жыву ў вёсцы, каля вялікага лесу. Праўда, жытло тое – замак князёў Арнімаў, дзе цяпер з гэдээраўскіх часоў Дом творчасьці. Сабралася тут чалавек 25 розных літаратурна-музыкальна-мастакоўскіх бедалаг, што атрымалі стыпендыі ад розных дабрачынных нямецкіх фондаў і жывуць-твораць. Тут, канешне, бальшыня немцаў, але ёсць і сербы, італьянцы, і нават з ЗША колькі чалавек. Усе мы на сытых нямецкіх харчах. Ну а пачуваньне, канешне, у кожнага сваё...

Увогуле Беларусь вядомая тут не болей за Усходні Цімор[44], нашыя праблемы мала каго турбуюць, а калі пра іх пачнеш распавядаць, людзі не разумеюць, чаму так? Чаму беларусы настолькі здурнелі, што ня хочуць жыць, як усе людзі, а чапляюцца за нейкі камунізм, які ўжо апрыкрыў усяму сьвету. Пра нашу гісторыю ніхто нічога ня чуў, у еўрапейскіх універсітэтах яе не вывучалі. Немцы (маладзейшыя) чулі толькі, што пад час Другой сусьветнай вайны

беларускія бандыты забівалі нямецкіх салдатаў. Нават параненых. Што ўвогуле сьведчыць пра іхняе дзікунства. Мабыць, яны дзікунамі засталіся і дагэтуль. Што тут скажаш?

Працаваць яшчэ не пачынаў – ня той настрой. Ды й разбэсьціў сябе ў Хельсінках кампутарам, а тут ні машынкі, ні кампутара. А вадзіць пяром па паперы ўжо быццам і ня хочацца. Хочацца адразу бачыць плён – друкаваны радок. Во да чаго прыводзіць буржуазны лад пісьменьніцкага жыцьця. Добра, што наш любы рэжым ад таго засьцерагае і трымае нашага брата ў чорным целе. Каб жыцьцё мёдам не здавалася.

А як твае, Генадзь, справы? Як «Вожык»? Як Валянцін? Сардэчнае вітаньне яму і тваёй Юлі.

Абдымаю – *Васіль Б.*

*P.S.* Як успрыняты «Сказ пра лігу...» Перадай, калі ласка, віншаваньне аўтару. Брава!

*В.*

Мой тэл.: 8-0049-33-746-699-26.

Адрас на канверце.

***31.***

Дарагі Генадзь!

Атрымаў твой ліст – як заўжды, праз два тыдні пасьля яго адсылкі. Гэты дарожны тэрмін, як я разумею, не проста так, не з прычыны даўгой адлегласьці. Ну але што зробіш! Адно толькі забівае, калі падумаеш, што ў наш час, каб задаць пытаньне і атрымаць на яго адказ, патрэбна якраз месяц часу. Канешне, ёсьць электронныя сродкі, якімі цывілізаваныя людзі і карыстаюцца. Але ж хіба мы – цывілізаваныя? Вось маю кампутар, які выкарыстоўваю замест друкарскай машынкі, і то добра. Яшчэ нядаўна праблемай была і друкарская машынка, якую можна было дастаць хіба па блату.

Ну а цяпер пра жыцьцё.

Якое жыцьцё ў вас, збольшага ведаю, ды і ты пісаў, дзякуй табе. Вядома ж, твае лісты – самыя разумныя і шчырыя з усіх, якія я тут атрымліваю. Іншыя ці то баяцца, ці то хітруюць, але пішуць ня тое і ня так. Ды Бог ім судзьдзя, сам, мабыць, такі. Як падумаеш, што твае радкі лягуць найперш на казённы стол, дзе з іх зьнімуць копію, а пасьля, можа, яшчэ і яшчэ, дык ня хочацца і пэцкаць паперу. Але і па тэлефоне ня лепш, ды яшчэ і даражэй. Тэлефонныя выдаткі тут – самыя вялікія. І ўсё ж...

Ехаў сюды з намерам адасобіцца, зашыцца ў адзіноту і папрацаваць. Ды дзе там! У Фінляндыі было куды лепш, хаця абсалютнай адзіноты не было і там. Затое тут... І журналісты, нямецкія і расейскія, і землякі, і «сябры», якія ставяцца дужа цёпла і дужа мяне любяць і якім усё нешта трэба... Найбольш – вядома, пагутарыць па-сяброўску... Ужо, здаецца, зашыўся ў глыбінку – у вёску, 20 кіламетраў да бліжэйшага гарадка, да якога ніякага транспарту. А ўсё роўна знаходзяць дарогу. Я ўжо не кажу пра патрыётаў суседняй дзяржавы, якіх усюды напіхана, бы тараканаў за каптуром. Раней хоць «грамадзяне яўрэйскай нацыянальнасьці» трымалі нейкі нейтралітэт, можна было пагутарыць пра сеё-тое, а цяпер і гэтых паяднала пагроза ісламскага тэрарызму, праз які і яны сталі ворагамі нацыяналізму, вядома, апроч расейскага. Адзіны гэты дазваляецца, а іншыя – страшная рэч!

Ну а ў астатнім быццам і нічога. Вясна, цёпла. Дубы і каштаны ў старым графскім парку буяюць, ніколі ў нас не бачыў такіх магутных дрэваў, як тут. Наш пакой на паддашы, якраз пад тымі каштанамі, вышынёй з дзесяціпавярховы

дом. Стол, папера, кампутар – пішы, пісьменьнік, твары! Ды нешта ня творыцца. Настрой ня той. І думкі паганыя...

Скажу па-шчырасьці – хочацца дамоў.

Мабыць, хутка і прыеду.

Таму болей сюды не пішы, дружа, ужо калі дасьць Бог, пабачымся на радзіме.

Шчырае наша вітаньне тваім, Юлічцы і рабятам. Дай ім Бог шчасьця і ўдачы. Табе таксама.

Абдымаю, твой *Васіль.*

*2 чэрвеня 2000*

***32.***

Дарагі Генадзь!

Здаецца, даўно ўжо не пісаў табе, ня чуў твайго голасу ў тэл<ефоннай> трубцы, хаця здаралася чуць па радыё. Але той – радыйны – голас ня здаўся мне цалкам тваім, спакойным і сардэчным, а наадварот – напружаным, нервовым. Хаця, канешне, я разумеў, чаму так. Былі прычыны для трывог, хваляваньняў. Тым больш з тваёй няўрымсьлівасцю. Спадзяюся, аднак, той час мінуў. А які настаў?

Добрых часін для нас не настае – во ў чым прычына. Адны благія. І іх дужа шмат. Але што рабіць? Я во тут ня шмат што раблю, ды дужа шмат думаю – аж занадта, здаецца. Геаграфія, адлегласьць, на жаль, не ратуюць ад тых жа клопатаў, зь якімі, відаць, наканавана і скончыць усё. У гэтым сэнсе дужа паказальныя 2 тамы беларускіх архіваў, якія выдаў С. Шупа ў Вільні. Тое ж самае перажываюць наступныя пакаленьні <...>.

Я цяпер у Берліне, на яго ўсходняй ускраіне. Месца зусім буржуазнае – ціхая, зялёная вуліца, на якой, праўда, час ад часу грукаціць трамвай. Жыву (як і належыць усім экзыльнікам) у паддашы – увогуле спакойна, прасторна, за вокнамі скрозь зелень. Праўда, статус тут наш цлакам не ўладкаваны, шмат няпэўнасьці, у тым ліку і фінансавай. Што ж датычыць культурнага асяродку, дык яго няма ніякога: ні беларускага, ні расейскага, ні нямецкага. Усё, што ёсьць у гэтых адносінах, – у сабе, галаве і сэрцы. З аднаго боку тое дык добра, але і надакучае, калі зашмат. Ну і, вядома, чаканьне лістоў з радзімы, ад добрых і мілых людзей, якія, на жаль, далёка... І якіх замала.

Ну а цяпер хачу павіншаваць цябе з тваім Днём 28 жніўня, у які маю надзею выпіць чарчыну з І<рынай> М<іхайлаўнай> за тваё здароўе. Мару пра тое ўжо сёньня, 14 жніўня, бо гэты ліст будзе ісьці доўга, доўга... Такая, відаць, устаноўлена норма – 2 тыдні з Берліна ў Менск. Столькі ж, здаецца, і ў Маскву. Што значыць інтэграцыя! Ці недастатковасьць фінансаваньня, службовых чытачоў чужых лістоў.

Шчырыя і сардэчныя прывітаньні і віншаваньні табе і Юлі, ад І. М. – таксама.

Хай вам будзе добра!

Абдымаю цябе, мой дружа!

Будзь шчасьлівы.

Твой *Васіль.*

Шчырае вітаньне Валянціну, а пры нагодзе і ўсім, хто 28<-га> завітае пад твой дах.

*В.*

*14 жніўня 2000*

Мой адрас:
V. Bykau
Wendenschlos str. 403
12557 Berlin-Kцpenick
тэл. 49.30.654.954.21

***33.***

Дарагі Генадзь!

Сёньня прачытаў тваю кніжку «Паміж зоркай і свечкай» і сьпяшаюся сказаць табе мае словы падзякі і – захапленьня. Выдатныя вершы – па форме і па зьмесце! Здаецца, тое было відаць у тваіх часопісных публікацыях, але тут, сабраныя разам, яны робяць яркае ўражаньне. Мабыць, усе як на падбор. А назва для кнігі дужа просіцца ад аднаго з разьдзелаў – «Душа баліць», бо менавіта яна і вызначае ўвесь пафас тваёй тутэйшай паэзіі. І гэта – выдатна, бо гэта – праўда. У паэта цяпер не павінна быць здаровай, жарабячай душы – душа павінна балець. То – норма.

І, здаецца, яна будзе балець доўга, ці не да скону, бо на папраўку надзея малая. Няма ў нас надзеі на аптымізм, вытруцілі яе, тую надзею. Так што трэба нацыі набірацца сілы – доўга жыць з болем. Трываць боль. Тут суцяшае хіба медыцынская ўстаноўка на боль, як на засьцярогу для ўсяго арганізму. Боль – сігнал-перасьцярога, інакш жывое не адчула б сябе жывым. Баліць, значыць, жывем! Тым і ратуемся.

Тут да мяне дайшлі нейкія чуткі (пра мяне) з нагоды прэзідэнцкіх выбараў, але хачу, каб ты ведаў і, м<ожа> б<ыць>, сказаў іншым, што я ў гэтыя гулі ўжо не гуляю, скончыў канчаткова. Ні ў якім выглядзе. Здаецца, ты таксама прыняў гэткае рашэньне, якое я ўхваляю. Але наконт СП – падумай. Было б дужа добра, калі б ты нарэшце ўзначаліў гэтую суполку, якая, канешне, бывае розная (у тым ліку і агідная), але іншай – на шчасьце ці на бяду – у Беларусі няма. І, м<ожа> б<ыць>, гэта добра. Калі б да яе яшчэ належнае кіраўніцтва, якога ў яе, дарэчы, не было ніколі. Падумай, дарагі дружа...

На тым абдымаю цябе, бывай здаровы і па магчымасьці шчасьлівы. І пішы вершы.

Твой *Васіль*.

Ірына кланяецца – табе, Юлі і ўсім тваім – малым і вялікім.

*15 сьнежня 2000*

***34.***

*<Снежань 2000 г.>*

Дарагі мой дружа, Генадзь,

са шчырасьцю віншую цябе з Новым годам, новым стагодзьдзем і новым тысячагодзьдзем! Усё сышлося ў адзін вузёл, як сходзіцца бяда, але рэдка сходзіцца шчасьце. Будзем, аднак, спадзявацца на нейкую паваротку ў тым накірунку – для Беларусі ды і нас таксама.

Вялікае вітаньне Юлі, тваім дзецям і ўнукам.

Са шчырасьцю абдымаю – *Васіль Б.*

***35.***

*<Снежань 2000 г.>*

Мілая Юля,

з Днём народзін віншуюць Быкавы з Нямеччыны, дужа жадаючы шчасьця, маладосьці і захапленьня – найперш дзецьмі, унукамі і, вядома ж, ва ўсіх сэнсах таленавітым Генадзем.

*Васіль* і *Ірына*.

***36***.

*<Жнівень 2001 г. (?)>*

Дарагі дружа Генадзь!

З гэтай Вісбаджанскай кірхі, дзе калісь маліліся ці не ўсе расейскія класікі,

хачу павіншаваць цябе з тваімі ўгодкамі. І жадаю табе з тае нагоды выпіць – хаця і ня так, як колісь, але як будзе моц.

А я тут 28-га на самоце вып'ю за цябе сіроцкую чарачку.

Шчасьця і здароўя табе.

Твой *Васіль.*

***37.***

*<24 кастрычніка 2001 г.>*

Менск, Дом літаратара, творчы вечар Генадзя Б у р а ў к і н а

Дарагі Генадзь, твой беларускі голас чутны сёньня на старажытных берагох Рэйна, дзе табе апладзіруе вялікі Генрых і зь ім усе нямецкія паэтычныя рамантыкі. Удачы табе і посьпеху сярод беларускіх ніваў і дрымучых паганскіх лясоў.

Абдымаю, твой
*Васіль Быкаў*

***38.***

_____*2002*______
будзем лічыць –
добрая сіметрыя

Дарагія Бураўкіны, вялікія і меншыя,

з Новагодзьдзем вас і лепшым жыцьцём на новым мейсцы. Дай Бог Вам добрага здароўя і ўсялякіх поспехаў. І каб нашыя-вашыя ворагі ўрэшце заткнуліся. Бо – колькі ж можна?!

Дужа спадзяемся на спатканьне, якога так не хапае тут, у нашае ўтульнай ссылцы, дзе тая ўтульнасць пачынае люта гнясьці. Ды вы тое самі ведаеце...

Дык з надзеяй на лепшае –

*Быкавы – Васіль* і *Ірына.*

***39.***

*<Снежань 2001 г.>*

Мілая Юлічка,

цябе асобна – з тваім прыватным і радасным днём!

Абдымаем –
*Быкавы.*

***40.***

Дарагі Генадзь!

Некалькі разоў спрабаваў дазваніцца да цябе, але ж ты, відаць, на дачы. Увогуле правільна робіш – прырода, яна хоць і не задавальняе, але і не ашуквае. Ня тое што людзі. Вось сачу я за прафсаюзнай драмай і думаю пра цябе. Падобна, што злы лёс прасьледуе цябе – сьпярша ў культуры, пасьля ў «Вожыку», цяпер у газеце. Старыкевіч уходзіць, і ты, мабыць, не застанешся[45]. Не пакінуць.

Але куды тады пойдзеш? І куды цяпер можна пайсьці наогул?

Во як усё ў нас абыходзіцца і зь якой сатанінскай незваротнасьцю – і крыўдаваць няма на каго, як няма каму скардзіцца. Я во гляджу на перапетыі ПЭНа і нічога не магу зразумець. У сэнсе – хто? Хто – куды? Такое ўражаньне, што ўсе звар'яцелі.

Я тут патроху вар'яцею таксама. Ад адзіноты і няпэўнасьці. Няпэўнасьці тут,

там і ва ўсім сьвеце. Што-нішто пішу, але ўжо і пісаць абрыдзела. Бо – каму тое трэба? Самому сабе – тым болей. Вельмі не хапае Міколы <Матукоўскага>, які часам прысылаў нейкую рысачку дабрыні і спагады[46]. Хоць сам у тым меў патрэбу, можа, болей за ўсіх. Застаецца жыць мінулым, успамінамі, але гэта ўжо поўны тупік, фінал. Як для індывідуума, так і для нацыі. Шкада, нашыя адраджэнцы не зразумелі таго. Але што, калі б і зразумелі? Што яны маглі?

Генадзь, пішы вершы. Хаця гэта таксама марны занятак у наш час, але ўсё нейкае адхланьне. Грышка <Барадулін> кажа, што калі ён піша, дык не баліць галава. А як кідае пісаць – пачынае балець. Калі б ты піў, дык яшчэ быў бы нейкі спадзеў. А так – што рабіць без працы і без гарэлкі? Поўны цэйтнот.

Мяркуючы па друку, Ніл <Гілевіч> гэткіх клопатаў ня знае. Зайздросная доля!

Спадзяюся, аднак, дома ў цябе ўсё добра. Дай Божа! І дай Божа здароўя ўсім тваім начале з Юляй.

Можа, як-небудзь яшчэ пабачымся.

А покуль што – абдымаю.

І р ы н а – таксама.

Твой *Васіль.*

*14 жніўня 2002*

***41.***

*<Снежань 2002 г. >*

Дарагі Генадзь!

З Новым годам – цябе і тваю сямейку, з пажаданьнем здароўя і шчасьця – наколькі ўсё тое магчыма ў нашым узросьце і ў нашай краіне.

Як ты, мабыць, чуў, мы перабраліся ў Чэхію, хаця невядома, колькі тут затрымаемся. Усё дужа няпроста на Божым сьвеце, якім збольшага кіруе д’ябал. Ну але пабачым. Вельмі трэба прыехаць у Менск, ды я баюся сьцюжы – стаў дужа далікатны да яе. Тут ня надта ўтульна, але ў кватэры хоць цёпла, чаго няма там, на Танкавай[47].

Абдымаем цябе з Юляй!

*Васіль* і *Ірына.*

***42.***

*<Снежань 2002 г.>*

Мілая Юлечка,

дужа шчыра і горача віншуем цябе з тваім сьветлым і шчаслівым Днём! Дай Бог табе -годзьдзя лепшага за ўсе ранейшыя – дзеткам і ўнукам таксама!

*Васіль* і *Ірына.*

***43.***

ГАРАСКОП

Генадзя Бураўкіна

→ Пачатак вялікага шляху

V

| | |
|---|---|
| 1) Малады, але славуты, | 40 Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола, |
| шчаслівы, але багаты | лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, |
| бацька двух дзетак, | кавалер ордэна....?....... |
| муж чароўнае жонкі | шэф «Маладосці» |

| | |
|---|---|
| 2) Менш малады, але болей багаты і яшчэ болей шчаслівы. Апроч таго, што бацька, ужо трохі і дзед. Муж надта чароўнае жонкі. | 50 Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР кавалер ордэна Кастрычніцкай рэвалюцыі<br>Шэф «Полымя» |
| 3) Амаль малады; сімпатычны мужчына, які можа кульнуць чарку і ўшчыпнуць маладзіцу. | 60 Аўтар паўсотні кніжак вершаў і прозы, амаль лаўрэат Л<енінскай> (не далі: ворагі напаскудзілі), затое аўтар сцэнарыя шматсерыйнага (36 серый) тэлефільма (разам з І. Чыгрынавым). |
| 4) Даволі малады, багаты-багаты, шчаслівы, тройчы бацька, шэсць разоў дзед, але і муж яшчэ болей чароўнай жонкі. | 70 Лаўрэат Ленінскай прэміі (усё ж такі), кавалер ордэна Леніна, акадэмік Акадэміі навук, кіраўнік (галоўны) СП БССР |
| 5) Не в'юнаша, канечне, не спартсмен, дык заядлы балельшчык, зразумела, багаты і, мабыць, шчаслівы, бо бацька і дзед (і муж усё той жа самай чароўнай жонкі). | 80 Нобелеўскі лаўрэат, кавалер усіх ордэнаў, ганаровы акадэмік многіх акадэмій, герой Сацыялістычнай Працы<br><br>90 |
| 6) . . . . . . . . . . . | 100 . . . . . . . . . . . . . . . |

(Не хапіла «Чорнай магіі» – такое вялікае жыццё.)

траекторыя ягонага жыцця
канца няма

Хай збудзецца!

Астролаг *В. Быкаў*

[1] Гаворка ідзе пра кнігу Г. Бураўкіна «Дыханне» (1966).
[2] Так у лісце. Маецца на ўвазе – танчэйшыя.
[3] Так у лісце.
[4] Анатоль Вярцінскі (нар. у 1931) – беларускі паэт, драматург, крытык, перакладчык.
[5] Паэма «Чужая споведзь».
[6] Дакладней – «Пра "сціпласць"».
[7] Так у лісце.
[8] Жонка Г. Бураўкіна Юлія Якаўлеўна і сын Аляксей. Ад слоў «растуць» і «маладзеюць» праведзены стрэлкі адпаведна да імёнаў «Алёшу» і «Юлі».
[9] Рукапісная паштоўка без даты. Імаверна, не раней за снежань 1966 г. – год выдання паштоўкі.
[10] Паштоўка з выявай трох гілёў на фоне сонца, што ўзыходзіць. Гілі сядзяць у лесе на снезе на галінках дрэў; да снега В. Быкавым праведзена стрэлка, каб, відаць, разумець пад снегам хмары, што засцяць сонца. Ніжэй надпіс тыпаграфскім чынам «З Новым годам!».
[11] 14 студзеня 1971 г. у сям'і Бураўкіных нарадзілася дачка Святлана.

[12] Невядома, пра што менавіта ідзе размова.

[13] Паштоўка з выявай скалы Дзіва, што ў раёне г. Сімеіз (Крым).

[14] Размова пра аповесць «Яго батальён», якая была надрукаваная ў гэтым жа годзе ў часопісе «Маладосць» (№№11, 12). У канчатковай рэдакцыіі – Гунько.

[15] Мікалаю Матукоўскаму (1929–2001), беларускаму публіцысту, драматургу, і Нілу Гілевічу (1931–2016), беларускаму паэту, перакладчыку, фальклярысту, грамадскаму дзеячу, народнаму паэту Беларусі (1991).

[16] Ліст захаваўся без канверта, але, мусіць, як і папярэдняя паштоўка, быў адпраўлены з Крыма.

[17] Размова ідзе пра публікацыю аповесці «Его батальон» у часопісе «Наш современник» (1976, №1; пер. аўтара).

[18] Размова пра аповесць «Яго батальён», якая была надрукавана ў часопісе «Маладосць» (1975, № 11, 12).

[19] М. Матукоўскага. Невядома, пра што ідзе размова.

[20] Уверсе над подпісам В. Быкавым намаляваная каляровая кветачка.

[21] Ірына Міхайлаўна Быкава (нар. у 1927), другая жонка В. Быкава.

[22] У Нью-Йорку, дзе Г. Бураўкін жыў у 1990–1994 гг., як Пастаянны прадстаўнік Беларусі ў ААН.

[23] Сакалоў Яфрэм (нар. у 1926) – у 1987–1990 – першы сакратар ЦК КПБ; член ЦК КПСС (1986–1991). Малафееў Анатоль (нар. у 1933) – у 1990–1991 – першы сакратар ЦК КПБ; у 1996–2000 – старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

[24] Алесь Адамовіч (Аляксандр Міхайлавіч; 1927–1994) – беларускі пісьменнік, літаратуразнавец; доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт АН БССР.

[25] Рыгору Барадуліну (1935–2014), беларускаму паэту, перакладчыку, народнаму паэту Беларусі.

[26] Ніжэй В. Быкавым намаляваныя каляровыя валошкі.

[27] Булахаў Дзмітрый (1959–2006) – беларускі дзяржаўны дзеяч; дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі; першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта – выканаўчы сакратар СНД; памочнік прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта ў Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь (2006).

[28] Пячэннікаў Валерый (1941–2015) – у 1986–1991 – сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі. Паўлаў Савелій (1934–2017) – у 1971–1989 – загадчык аддзела агітацыі і прапаганды ЦК КПБ. У 1990 г. рашэннем X з'езда Саюза пісьменнікаў БССР быў выключаны з СП за тое, што, «карыстаючыся сваім службовым становішчам, на працягу многіх гадоў свядома і мэтанакіравана перашкаджаў справе развіцця беларускай літаратуры і культуры ў цэлым». Чыкін Віктар (1949–2012) – першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, якая была створана пасля прыпынення ў выніку жнівеньскага путчу 1991 г. дзейнасці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі. Быў інструктарам, затым другім сакратаром Мінскага гаркама КПБ, галоўным рэдактарам газеты «Мы и время», намеснікам старшыні Мінгарвыканкама, старшынёй Беларускай нацыянальнай тэлерадыёкампаніі.

[29] Прускі Мікола (1929–2014) – журналіст, рэдактар, выдавец, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША.

[30] Ткачоў Міхась (1942–1992) – беларускі археолаг, гісторык, грамадскі дзеяч.

[31] Лецка Яўген (нар. у 1944) – беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец. Старшыня Аргкамітэта (1989–1990) і Рады (1990–1993) Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

[32] Запруднік Янка (нар. у 1926) – беларускі гісторык, паэт, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША.

[33] Краўчанка Пётр (нар. у 1950) – міністр замежных спраў Беларусі (1990–1994).

[34] Відаць, сын Г. Бураўкіна Аляксей.

[35] У 1993 г. ішлі судовыя працэсы над Святланай Алексіевіч і яе кнігай «Цынкавыя хлопчыкі», фрагменты з якой былі апублікаваны ў газеце «Комсомольская правда». Пэўныя аповеды ў кнізе былі прызнаныя несапраўднымі. У выніку суд абавязаў пісьменніцу выбачыцца перад адным з герояў кнігі. Позва яшчэ адной гераіні была судом адхіленая.

[36] Відаць, Іван Пятровіч Шамякін (1921–2004), Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў (1934–1996).

[37] У чэрвені 1998 г. па запрашэнні Фінскага ПЭН-цэнтра Васіль і Ірына Быкавы з'ехалі на паўтара года ў Фінляндыю.

[38] Куняеў Станіслаў (нар. у 1932) – расійскі паэт, крытык, публіцыст патрыятычнага кірунку. Галоўны рэдактар часопіса «Наш современник» (з 1989). У жніўні 1991 г. падтрымаў ГК ЧП.

[39] У 1997–1999 гг. Г. Бураўкін узначальваў ТБМ імя Францішка Скарыны.

[40] У жніўні 1998 г. у газеце «Народная воля» з'явілася публікацыя «Злое вогнішча: да гісторыі выдання аповесці Васіля Быкава “Мёртвым не баліць”», у якой згадваўся сумнавядомы У. Сеўрук, які больш чым праз паўгода адказаў на гэты артыкул – падчас гутаркі з Я. Росцікавым на старонках газеты «Рэспубліка», разважаючы пра аповесць «Мёртвым не баліць» і свой артыкул пра яе ў «Правде» ў 1966 г., а таксама пра ліст супраць А. Сахарава і А. Салжаніцына, пад якім значылася ў тым ліку прозвішча В. Быкава (1973), былы цэковец усё так жа па-шулерску тасаваў старую калоду: «...действительно было принято несколько постановлений ЦК КПСС относительно Быкова. Первое – по решению секретариата ЦК КПСС он был награжден орденом Трудового Красного Знамени. Затем по решениям Политбюро – Золотой Звездой Героя Социалистического труда и орденом Ленина. Наконец, удостоен звания лауреата Ленинский премии. Это в благодарность за то, что он осудил двоих лауреатов Нобелевской премии» (Ростиков Е. «“Элита” и власть, или Еще раз об их взаимоотношениях / інт. з У. Сеўрукам // Рэспубліка, 1999, 24 лют.). Адразу пасля сеўрукаўска-росцікаўскага «выкрыцця» з артыкулам «Почему у нас таланты превращают в мишени?» (Рэспубліка, 1999, 24 сак.) за Быкава ўступіўся М. Матукоўскі, які тут жа патрапіў пад удар – Сеўрук адказаў яму вялікім артыкулам пад гучнай назвай «Доносы не горят!» (Рэспубліка, 1999, 7 крас.). Сеўрук Уладзімір (1932–2005) – адказны супрацоўнік ЦК КПСС (намеснік загадчыка, затым загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПСС); у далейшым – намеснік галоўнага рэдактара газеты «Известия»; галоўны рэдактар газеты «Неделя»; супрацоўнік апарата Савета міністраў Рэспублікі Беларусь (1998–2003).

[41] У 1986 г. А. Адамовіч і В. Быкаў напісалі скаргу Генеральнаму сакратару ЦК КПСС М. Гарбачову на У. Сеўрука, які, працуючы ў апараце ЦК і курыруючы літаратуру і цэнзуру, шмат гадоў перасьледаваў Быкава – пачынаючы з шальмавання ў 1966 г. аповесці «Мёртвым не баліць». Аднак ліст атрымаў не Гарбачоў, а Сеўрук, у выніку абодва пісьменнікі былі выкліканы ў беларускі ЦК да сакратара па ідэалогіі на прафілактычную гутарку. Апісваючы пазней гэтую гісторыю на старонках «Литературной газеты», Сеўрук назваў свой артыкул «Как они на нас доносили».

[42] Мілошэвіч Слабадан (1941–2006) – югаслаўскі і сербскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1989–1997 – прэзідэнт Сербіі, у 1997–2000 – прэзідэнт Саюзнай Рэспублікі Югаславія. Быў адной з цэнтральных фігур у падзеях распаду Югаславіі і ўзброеных канфліктаў. Быў абвінавачаны Міжнародным трыбуналам. Памёр у турэмнай камеры ў Гаазе (Нідэрланды).

[43] Справа побач наклеена выява папугая.

[44] Усходні Цімор – дзяржава ў Паўднёва-Усходняй Азіі, слабаразвітая аграрная краіна.

[45] Старыкевіч Аляксандр (нар. у 1972) – беларускі журналіст, публіцыст, рэдактар. Галоўны рэдактар газеты «Беларускі час» (2000–2003), заснавальнікам якой з'яўлялася Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі і дзе пэўны час аглядальнікам працаваў Г. Бураўкін. Пасле змены кіраўніка федэрацыі А. Старыкевіч пакінуў «Беларускі час» і ўзначаліў газету «Салідарнасць», друкаваны орган Беларускага незалежнага прафсаюза. Разам са А. Старыкевічам у «Салідарнасць» перайшоў і Г. Бураўкін.

[46] М. Матукоўскі памёр 28 верасня 2001 г.

[47] Быкавы жылі ў Мінску на вул. Танкавай (цяпер вул. Максіма Танка).

запісы

Уладзімір Ліпскі



...шукаем меру дазволенага, як выйсці на лязо
і захаваць пры гэтым меры паратунку...

# Пасля лазні...

***Гамана пісьменнікаў***

*Заканчэнне.*

*Пачатак у №4 (113).*

## Сустрэча чацвёртая

*Ці можна жыць без сексу?*

Адцвіло лета. Мала бачылі сонца. Не нагрэліся. Дождж – на вуліцы. Маркота – у настроі.

Віктар Карамазаў правёў лета ў маці, у Крычаве:

– Двое дзвярэй філёнчатых зрабіў. Веранду прасторную, панімаеш, адчыбучыў, дыхаў кліматам малога гарадка... Нейкім больш нудным стаў за гэты час... Цяжкавата на душы, душэўны гнёт ёсць. І не знаходжу яму тлумачэння...

Анатоль Кудравец перажыў залеву:

– Толькі знялі дах з дачы, каб перакрыць, а тут, о Божа, з неба як пачало ліць. Усю ноч ратаваў хату плёнкамі. А майстры мае выбралі сушэйшае месца і моцна спалі...

А я хлопцам падпісаў сваю новую кнігу "Адпяванне жывых". Экспромтам нарадзіліся такія радкі:

Адпяваю жывых:
што раблю?
Бо жыццё люблю!
Аб адным малю,
Аднаго жадаю,
Каб душа і сэрца –
Не дайшлі да адчаю!

Так пачалася наша новая сустрэча. Выспавядаліся адзін перад адным.

– Губляецца вера ў палітыкаў, ідэолагаў. Яны страцілі свой аўтарытэт, і ўсё такое...

– Я, Валодзя, калі раней бачыў, як плача дзіця, так не перажываў, як цяпер. Калі бачыў старога, забітага горам, – так не перажываў. Гэтым летам, панімаеш, неяк балюча стаў перажываць за людзей. І чаму? З-за таго, што ўсе такія адурачаныя. І за што так усіх адурачылі, як бы мы не людзі, а каменне па зямлі рассыпанае. Усе як бы апляваныя, абылганыя. За ўсіх стала вельмі балюча. І зненавідзеў палітыкаў...

– Самае страшнае, – уздыхае Анатоль, – разуменне таго, што цябе адурачылі, як бы ты без права думкі... Ідзе нахабны націск дзікай сілы, якая была і ёсць, вось што...

– Сапраўды, павісла над намі хмара, як і ў прыродзе. Усё лета ідзе дождж...

– Дэмакратыя, панімаеш, патрэбна. Але яе няма ў нас. Яе абылгалі, аплявалі. І гэтыя гады для дэмакратыі зрабілі горш.

– Усе мы безабаронныя, і ўсё такое, Божа мой...

– Я от, панімаеш, напісаў чарговы дзённік для “Нёмана” і даў назву “Паеду жыць у правінцыю”. Там таксама пачварнае жыццё, як і ў сталіцы. Але Крычаў у тысячу разоў лепшы за Мінск, там у тысячу разоў г...а меней. О, панімаеш! Жыццё там п’янае, ілжывае, гадкае. Але ўсё яно адкрыта, таму там лягчэй жыць. Панімаеш?

– Трэба ратавацца, хлопцы. Хопіць слухаць, развесіўшы вушы, што нехта ўзяў на сябе вялікі цяжар ратавання нацыі. Гэта – чарговая хлусня. Гробяць жыццё новага пакалення...

– Я, хлопцы, быў нядаўна ў Люцінцы, дзе Дунін-Марцынкевіч напісаў “Пінскую шляхту” і багата чаго. Ён як у Мінску служыў, нічога не напісаў. Падтрымліваю Віктара. Трэба ехаць жыць у правінцыю!..

– Трэба ўмела рабіць сваю справу, панімаеш, а не займацца палітыканствам.

– Рабіць тое, што ты можаш, а гэта азначае – рабіць тое, што ты павінен рабіць, і ўсё такое...

За гэта і паднялі тост!

І вырашылі не гаварыць больш пра палітыку, а абмеркаваць праблемы сексу.

– Не ўдасца, панімаеш!..

– Чаму?

– Ты адчуў, якімі мы палітыкамі сталі за лета?.. Хаця, улічы, газет не чытаў, радыё не слухаў і тэлевізар не глядзеў...

– А я гляджу крыху, ну, па-іншаму на гэту праблему. Гаворка не атрымаецца без баб, і ўсё такое...

– Не, ну бываюць завочныя курсы. Калі з жанчынамі – гэта ўжо практыка. А мы давайце правядзём урок тэорыі: што такое секс?

– Гэта, панімаеш, толькі Анатоль Паўлавіч можа. Бачыш, як ён задумаўся... Зараз ён пачне гаварыць, а мы паслухаем... Пісьменніцкі падыход да гэтай тэмы... Слухаем расповед рэальнага жыцця...

– Ці гатовы ты, Анатоль?

– Не, я думаю, што гэты паварот да Кудраўца не зусім апраўданы, бо Карамазаў даўно гэту тэму асвоіў, і ўсё такое...

– Не выкручвайся, Толя. Ты маўчаў, маўчаў, ды зараз пачнецца прыгожая струя...

– Струя ёсць у бабра, і ўсё такое... Канечне, Масарэнка мог бы шмат чаго аргументавана сказаць пра гэту незвычайную бабрыную з'яву... Але, як кажуць, і мы ад секса нікуды не ўцячэм. Мы ўвесь час ад яго ўцякалі, а ён нас даганяў. І калі сур'ёзна, то ўсе мы хварэем гэтым сексам. Спім з ім, бачым ува сне царэўну. Прачынаемся – застаецца адзін секс, і ўсё такое...

– І той не стаіць, панімаеш, а ляжыць, – Карамазаў уключае свой волатаўскі смех, дрыжаць сцены.

Хочацца павярнуць хлопцаў на сур'ёзную гаворку, а ім смешна. І мне смешна, бо ніколі мы без галоўліта не абмяркоўвалі гэту тэму. Дзяржаўнага кантролю няма, але асеў у кожным з нас свой строгі кантралёр.

– Валодзя, у нас нахабны прарыў к гэтай тэме, бо ёсць поўная несвабода ўнутраная, панімаеш... Мы ўсе ў нейкай ячэйцы, карыце жыццёвым, з якога не можам вылезці. Мы – несвабодныя людзі!.. І атрымліваецца, панімаеш, што сур'ёзны чалавек не можа пра гэта гаварыць, а малады дурань, панімаеш, усё ведае, хоча хваліцца тайнамі пасцельнымі, анамаліямі жыццёвымі...

– Але ж, Віктар, секс у той ці іншай ступені кранае любога чалавека. Без яго нельга...

– Валодзя, мы багата чаго заваявалі – пра Магнітку ўжо не гаворым... Але адзін аднаму ў цемені можам нешта іншае расказваць, цё-ёмнай ноччу, калі баба побач, нешта можам. Раней такія смельчакі былі рэдкія. Былі такія, носяць, носяць у штанах, панімаеш, а няма смеласці. Мы трошкі прарвалі гэту несвабоду. Пра гэта можна цэлы том напісаць – "Прарыў савецкага чалавека да сексу"... Мы позенія... А моладзь сённяшняя, панімаеш, усё ведае ў шаснаццаць гадоў...

– Хачу і я сказаць, што, ну, канечне, позенія, і ўсё такое. Пасля пяцідзесяці вывучаць секс – позна... Можна паспавядацца і паспачуваць самому сабе, і ўсё такое... У нас не было сексуальнай граматы, не было і магчымасці...

– І ахвота была падаўленая, панімаеш.

– Яе, Віктар, мы падаўлялі самі. Ну, выхаванне адпаведнае... Дык яшчэ невядома, што лепш: сексуальная разбэшчанасць ці выхаванне сямейнае, якое мы прайшлі... Вёска выхоўвала, усё натуральна... А можа, на свабодзе сексуальнай трымаўся ўклад нашага жыцця, нашых сем'яў?..

– Было менш сексу – больш дзяцей!

– А што такое секс?.. Ёсць сексаман, і ўсё такое, які прыгадвае пра тое, чаго не мог зрабіць. А ёсць шчырыя працаўнікі сексу...

– Гэта, панімаеш, натуральна: хто ўмее паразважаць на якую тэму, той слабы практык. Такія людзі менш займаюцца балталогіяй...

– Я хачу расказаць адну бытавую гісторыю, яна далёкая ад сексу, і ўсё такое... Адзін чалавек рабіў і рабіў дзяўчынак. Яны былі вельмі падобныя адна на адну. Агульная іх прыкмета – васільковыя вочы, і ўсё такое. Першая дачка... Другая дачка... Трэцяя дачка... Чацвёртая дачка... О Божа мой!.. У яго пытаюць: "Рыгорка, а дзе хлопцы?" І ён шукаў сына... І пятая, і шостая – усё дочкі... Ён супакоіўся, спыніў пошукі. І ўсё было б добра, але пачалася вайна... І пасля вайны ў тым жа сяле адна жанчына, муж яе загінуў у канцлагеры, нарадзіла дзіця – і ўсё з тымі васільковымі вачыма. Ну, адрасата не шукалі. І ён не таіўся... Гэта і ёсць вясковы секс... Ён мае тую ж самую ахвоту, як і ў горадзе. І ў кожнага секса свае вочы...

– Да сексу, хлопцы, можна прымяніць жарт пра мат і дыямат. Мат усе ведаюць, але робяць выгляд, што не ведаюць. А дыямат ніхто не ведае, а робяць выгляд, што ведаюць...

– Сапраўды, Валодзя, секс можа быць радасцю і трагедыяй. Яго не абмінуць

ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Паколькі гэтай тэмай не заняліся сур'ёзныя людзі, то яе асвойваюць і на ёй узбагачаюцца, узвышаюць сваё імя самыя розныя прахіндзеі... Зноў праблема!

– Я проста думаю, што справа не абмяжоўваецца хлебам і палітыкай – гэта свая стыхія. Але ўсе вялікія ветразі звязаныя з канкрэтным чалавекам і яго фізічным станам, магчымасцямі маральнымі, інтэлектуальнымі, палавымі, і ўсё такое. Гэта мы не ўлічваем. А дарэмна...

– Няма, панімаеш, сур'ёзнай літаратуры на гэтую тэму... Не з сапсаваным падыходам. Ёсць несупадзенні, драмы, пакуты – дзе гэта ўсё? Панімаеш, у кожнай сустрэчы жанчыны і мужчыны – адзіны варыянт, паўтораў няма. Калі б гэта глыбока, псіхалагічна вывучыць – вось кніга!.. Хто даследаваў: што адбываецца з ёй, што адбываецца з ім, калі яны не ў душэўным кантакце? Панімаеш?..

– А вось тэма: жанчына шукае свайго абранніка. Не знайшла да трыццаці гадоў. Фізічны ўзрост заканчваецца. Яна аддаецца першаму трапіўшаму ёй мужчыну. Нараджае дзіцё. Жыве адна і шчаслівая! А секс яе нерэалізаваны...

– Як мы вырашалі драмы жыццёвыя? Праз райкамы, парткамы, разводы, панімаеш, а за ўсім гэтым такія пласты, перад якімі трэба на каленях стаяць. Людзі высакародна паступаюць, а іх парывы падаюцца як драмы, якія адмятаюцца грамадствам, панімаеш...

– Я згодзен з гэтым, і ўсё такое, але я хачу зазначыць, што з кожнай сям'і за адзін дзень можна зрабіць драму. За адзін дзень! Ён вярнуўся з працы. Яна вярнулася з працы. Ён вярнуўся іншым, яна – не такой. Вось табе і – драма, раман, і ўсё такое...

– Можна падыход зрабіць такі, панімаеш, – узорная сям'я: муж, жонка, дзеткі. Але за гэтым уяўным спакоем – магутныя драмы і несупадзенні, панімаеш. Хто гэта вывучыў? Хто раскрыў лічынку "благополучия" ў сям'і? І наадварот, у так званай "неблагополучной" сям'і колькі прыхавана прыгажосці і гармоніі! Надарваліся, а не змаглі вырашыць праблему сям'і...

– Я хачу сказаць проста... За мяжой даюць чалавеку праявіць сябе ва ўсім. І ў сексе. Да жаніцьбы перагараюць страсці, але пасля гэтага сям'я ў іх моцная, і ўсё такое... У нас жа ўбачыць голую бабу – грэх. А пераспаць – выкладай партбілет...

– Усе праблемы жыццёвыя маюць адну крынічку – секс!

– Валодзя, калі ты цікавішся гэтым, то скажу: больш проста і мудра гэтыя пытанні разумее жанчына, а не мужчына. А гэту тэму распрацоўваюць, абмяркоўваюць яе, панімаеш, адны мужчыны. Як мы во цяпер за пляшкай гарэлкі. А трэба яе абмяркоўваць разам з жанчынамі, панімаеш!.. Яны больш адкрыта і глыбей усё разумеюць...

– Пустыя вы філосафы, і ўсё такое... Мы, як тэўтоны, у жалезных кальчугах. Нас трэба для пачатку раскаваць з "жалеззя", і ўсё такое...

– А жанчына, панімаеш, шах – і адкрытая, як сам космас. От у чым справа... З боку жанчын заўсёды мы сустракаем большую пяшчоту, глыбейшае разуменне...

– І ўсё такое...

– А мне, Віктар, думаецца, дзяўчаты да нейкай пары таксама носяць кальчугі.

– Мужчыны, панімаеш, Валодзя, больш валодаюць воляю. І ён першыя крокі да жанчыны робіць сілаю, напорам. А ў жанчын такой волі мала. Яна яе хавае, утойвае. Пачаткі розныя. Гэта, панімаеш, трэба ўлічваць...

– Хлопцы, секс – гэта сур'ёзная тэма, і ўсё такое...

– У мяне ў Лімені быў сябра ляснічы, панімаеш, дак ён пускаў бутэльку па кругу. Кожны сабе налівае, культурна, панімаеш, колькі душа прымае. Гэтак і ў сексе трэба – у кожнага свае здольнасці, панімаеш...

– Валодзя, добрую ты тэму заначыў, але Віктар праў, нельга гэту тэму выра-

шаць аднабакова, і ўсё такое... Усе мы былі напачатку сляпымі кацяняткамі. Тыцкаліся, шукалі, а цыцка аказалася – побач...

– Толя, я от цяпер сляпы, мала бачу, але панімаеш, інтуіцыя працуе. Так і ў сексе. Тут, панімаеш, не абавязкова мець акуляры...

– Калі ў цябе крылы вырастаюць, вось гэта і ёсць секс, і ўсё такое...

– А ці можна паказаць у сексуальным часопісе, як вырастаюць крылы?

– Сёння я ехаў у "Нёман" у трамваі. Побач сядзелі хлопчык і дзяўчынка, мо школьнікі. Хоць сляпы, а бачыў, ім было прыемна. Яны святкавалі нейкую перамогу. Яна, далікатненькая, свяцілася ўся. На прыпынку ўскочылі дзве яе сяброўкі, кінуліся да яе: "Ох, Наташка..." Дзікія яшчэ. Убачылі сяброўку з хлопцам, вуглавата зайздросцяць. А Наташа зірнула на іх, нічога не сказала, павярнулася да хлопца, яшчэ мацней прыціснулася, паклала галоўку яму на плячо... Дзікія дзяўчынкі пахіхікалі і селі, пазіраючы на закаханых. Я, панімаеш, за такую адкрытасць у пачуццях. Глядзіце! Хіхікайце! А яна не саромеецца, а ганарыцца сваім пачуццём... Мы ж хавалі сваю адкрытасць у нашым юнацтве...

– Дарагія мае, я лічу, што ўся сексуальнасць, і ўсё такое, звязана з сямейным укладам. Добра, калі кругом добра.

– А гэта якасць яшчэ і ад прыроды, панімаеш...

– Так, але ёсць сямейныя законы, і ёсць правы чалавека жыць у іх. Ну, і ўсё такое...

– Хлопцы, давайце прыгадаем нашых вясковых баб. Багата з іх – удовы. Былі замужам – год, два, тры. Яны даўно забыліся, што ў іх між ног ёсць секс. Як яны пазіраюць на цяперашнюю адкрытасць?..

– Гэта вялікае няшчасце, панімаеш.

– Драма, трагедыя, і ўсё такое, нашых беларускіх жанчын. Ці маглі б такое вытрымаць мужчыны? Але я думаю вось пра што: ці не адгукнецца гэта ў прыродзе? Гэта ж ненатуральна, што жанчыны не рэалізаваліся, як прыродныя асобы...

– Усё закладзена ў чалавеку, панімаеш. Ён можа мабілізаваць сваю стрыманасць і сваю разбэшчанасць. Усялякім чалавек можа быць!

– Гэтыя дзівакі-людзі з'яўляюцца ў прыродзе, каб праявіць сябе, і ўсё такое. Калі ты з'явіўся, то павінен рэалізаваць сябе. Хто на што здольны. І секс – гэта таксама пэўная здольнасць жывой істоты. Вось яблычнае семечка. У ім ужо закладзена ўсё, каб вырасла яблыня з пэўнай якасцю пладамі, і ўсё такое... Як кажуць, сіе ад нас не залежыць, дарагія мае, вот...

– Так то так, Анатоль Паўлавіч, прырода можа закласці нешта ў чалавека. А калі ён не здолее сабраць сваю энергію, каб рэалізаваць сябе?..

– Чалавеку, панімаеш, трэба стварыць умовы і магчымасці, каб ён мог паводзіць сябе свабодна і натуральна. Ёсць у нас дзве крайнасці: адны скаваныя, не даюць свайму ўнутранаму свету, сваёй унутранай сіле развіцца; а другія – страшна разбэшчаныя, у іх няма ўнутранай сілы, таленту, панімаеш, простага жадання. А ён лічыць, што ён геній, мабілізуе сябе на разбэшчанасць. Два гэтыя полюсы, дзве крайнасці ў пэўнай ступені – хвароба. А ёсць людзі, якія шчасліва спалучаюць у сваёй асобе ўнутраныя патэнцыі і паводзіны. Яны, панімаеш, раскаваныя, смелыя. Могуць сябе праявіць. Але правільна, абставіны павінны дапамагаць чалавеку, стымуляваць яго, панімаеш. Чалавек павінен свабодна расці, развівацца ў адпаведнасці са сваімі ўнутранымі магчымасцямі. Тут, панімаеш, – разумная сярэдзіна!..

– Можа, будзем прыводзіць прыклады якія-небудзь, а не толькі даваць тэорыю.

– Чаму, Валодзя, прыкладаў у нас мала? Калі тэорыя ўдалая, то ты гаворыш як бы са сваіх прыкладаў жыцця, сваіх унутраных старонак жыцця, якія тоіш у сабе і не расказваеш. Гэта тая ж самая наша несвабода, панімаш... Такія мы. Нам трэба нейкія стымулятары для адкрытасці. А іх няма.

– Мы – такія. І ўсё такое...

– Ёсць, Валодзя, такія старонкі жыцця, каб на тваю магнітную ленту запісаць, то твая магнітка лопнула б, панімаеш. Ёсць такое ў кожнага з нас...

– Дык гэта трэба рэалізаваць у сваіх раманах.

– Робім! Але кожны з нас, панімаеш, азіраецца, каб пасля гэтага не выбухнула нейкая вайна, шукаем меру дазволенага, як выйсці на лязо і захаваць пры гэтым меры паратунку...

– Застацца жывому, і ўсё такое...

– Я б не хацеў на вулкане быць! Панімаеш?

– Адзін вучоны прызнаўся: вядзе дзённік, у яго ўжо апісана трыста пяцьдзясят сем таемных сустрэч з жанчынамі, дзяўчатамі...

– І што, усіх помніць?

– Помніць, натхняецца, і ўсё такое...

– О дзе падручнік жыцця! Як разумець яго?

– Ці ёсць маральныя нормы ў гэтым падручніку?

– Мы павінны ўсё рабіць, панімаеш, каб прадоўжыць свой род!

– І жыццё, і ўсё такое!

– Асабліва гэта важна для нашай гарэтнай Беларусі, дзе памірае болей, чым нараджаецца. Хлопцы, старайцеся! Старайцеся! Старайцеся, панімаеш, пакуль яшчэ не дзяды вялікія...

– А мо б нам стварыць таварыства тых, хто не псуе баразну... Толю, па-мойму, спадабалася гэта ідэя?..

– Усё правільна, і ўсё такое... Адно хвалюе: хто будзе прэзідэнтам? Віктар, вазьміся! А мы станем – Членамі. І ўсё такое...

– Ага, мне даручаецца агульнае кіраўніцтва, а працаваць будуць Члены. Не, панімаеш, лепш быць радавым, чым прэзідэнтам. Я згодзен нават падмяняць нейкага Члена...

– У прэзідэнта лёгкая справа: азадачваць Членаў, і ўсё такое...

– Чаму толькі азадачваць? Калі схібуе, панімаеш, які Член, паправіць яго работу. Бярыся, Толя, ты за прэзідэнства!

– Гэта перспектыўна: стварыць партыю Членаў.

– Толькі не палітычную партыю, і ўсё такое. Бо там пачнуцца членскія ўзносы. А мы ж хочам уславіць прыродную сілу і энергію. Не трэба іх абмяжоўваць узносам.

– Трэба не членскія ўзносы, а членская работа...

– О, дагаварыліся!..

– Як хораша, хлопцы, сустрэцца, пагагатаць. Сёння – свята!..

– А я, сябры мае, кладуся на аперацыю. Будуць, панімаеш, даставаць мае вочы, мяняць хрусталікі. Еду ў Крычаў, каб дабудаваць веранду, да зімы падняць падлогу, плінтусы падбіць. Маці ж там зімаваць будзе. І тады паеду да Фёдарава, у Маскву... Я ж нічога не бачу. Чытаць не магу. Пісаць не магу. Людзей не пазнаю... Як жыць?

– Сабяры нас, Віктар, перад паездкай. Пасядзім, пагаворым, і ўсё такое...

## Сустрэча пятая

*Пра што думаецца ў шэсцьдзесят?*

Людзі ў пэўнай ступені – дзівакі. Жывуць надзеяй, спадзяваннямі. Маўляў, сёння абы-як, заўтра – так-сяк, а вось паслязаўтра ўзыдзе сонейка, нахлыне рай, пасыплецца з неба манка...

Так і ў адносінах адзін з другім. Сустрэліся, парадаваліся, думаюць – заўтра зноў убачымся. А тое "заўтра", бывае, расцягваецца на тыдні, месяцы, гады.

На апошняй сустрэчы мы дамовіліся наладзіць чарговую лазню праз сем дзён. Праляцела – сем месяцаў. Кожнага запаланілі свае клопаты.

Але хвала Богу, што ён зноў сабраў нас разам. Адбылася шчырая сустрэча сяброў. Дэмакратычна выбралі тэму размовы.

– Віктар, хутка твой юбілей, і ўсё такое... – зазначыў напачатку Анатоль Кудравец. – Жанчын тут няма, дык вось і паспавядайся, як адчувае сябе мужчына ў шэсцьдзесят гадоў.

– Апошнім часам, хлопцы, жыву неяк во так: хочацца цішыні, сяджу во так во, маўчу, панімаеш. Адпала ахвота...

– Даруй, Віктар, не зусім зразумелы твой настрой. Апошнім часам ты даеш такую вострую публіцыстыку ў “Нёмане”. Гэтага нельга рабіць раўнадушна... Слухай, Анатоль, гэта ж цікава, сядзіць чалавек перад юбілеем і маўчыць. Пра што ён думае?..

– Галава пухне, пухне і адчуваю – ціск падымаецца...

– Мо што іншае, а не ціск?

– Не, Толя, ціск... А пра юбілей не хачу нават і думаць... Нейкі такі стан душы нахлынуў, што неахвота ні з кім сустракацца, ні з кім гаварыць... Ахвота, як таму ваўкалаку, забрысці некуды ў густы лес, панімаеш, дый завыць тамака. Нічога не люба...

– Чаму?!

– Хто яго ведае... Чамусьці ўсё часцей прыгадваецца, помніш, Толя, мой пяцідзесяцігадовы юбілей. От гулялі!.. Але ўзяў тады дый ляпнуў, я заўсёды скажу, што на душы: “Рады вельмі, што прыйшлі, але магло б вас быць меней...” Усе замоўклі, панімаеш...

Віктар Карамазаў упершыню за гэты вечар апетытна смяецца, а Кудравец, скупа ўсміхаецца ў свае вусы, каментуе:

– Думаю, Віктар, ніхто тваю заяву не прыняў усур’ёз...

– Э-э, прынялі!.. Брыль мне сказаў пазней: “А ведаеш, Віця, я мог бы падняцца і пайсці. А ты пра мяне так падумаў...” Во, як было...

– А чаму ў цябе такое вырвалася?

– Панімаеш, Валодзя, усярэдзіне чалавек багата чаго носіць. Не заўсёды тое, што носіш, становіцца шчырасцю з іншымі... Носіш, носіш дый стомішся... А тут яшчэ які характар... Брыдка носіць: ш-ах – і выдасі. На!.. Як на апошнім пісьменніцкім з’ездзе. Выйшаў за трыбуну, кажу: “Во, глядзіце, наша лобі ў прэзідыуме, яно ўсё прыйшло адтуль, з ЦК...” Я – сляпы, усіх не разгледзеў, а там добрыя хлопцы сядзелі, панімаеш... Мо хто і закрыўдаваў, але во так – ш-ах! – і секанула...

– Справа такая, што трэба разрадка...

– Добра, Толя, але ета разрадка каштуе дорага... От неўзабаве пасля таго з’езду іду ў Саюз пісьменнікаў. Падымаюся павольна па лесвіцы на другі паверх. Ужо бачу пляцоўку, і раптам нехта – шах – і прабег міма ў бок Зуёнкавага кабінета. Не бачу хто, але па паходцы здагадаўся... Здагадаўся, што той, хто прашмыгнуў перада мной, палічыў мяне сляпым... А раней былі між намі самыя лепшыя адносіны. Як убачыць: “Вой, Віктар Філімонавіч!..” Абдымачкі, і ўсё такое... Землякі... Я люблю яго: малады, з адкрытым характарам, вершы добра піша... Але ж перамяніўся пасля з’езда... Во як, панімаеш, зрэагаваў наш кіраўнічок. Я б так не рэагаваў... Мо я неданосак ва ўсіх гэтых адносінах, хто яго ведае...

– Я скажу не пра Пісьмянкова, – смяецца здагадлівы Анатоль Кудравец, – але гэта рэакцыя заканамерная. Кожны чалавек мае права на сваю сутнасць... І ўсё такое...

– Абсалютна!

– Мне, калі шчыра, таксама не вельмі спадабалася тваё выказванне пра лобі.

Сапраўды, у прэзідыуме сядзелі “лобі” – Кудравец, Законнікаў, Бутэвіч, былы парторг Адамчык...

– Выдатна, Толя, так і павінна быць, каб сам лабіст гаварыў пра лобі!.. Давай па каліву за гэта!..

Пакуль закусваем, Віктар распытвае, дзе, як і ў каго можна праверыць на радыяцыю яго зямлячку з дзяўчынкай. Няўрымслівы Віктар! Відаць, няпраўда, што ён хоча адзіноты і цішыні, што яму хочацца толькі сядзець і маўчаць.

Мы вяртаем яго да ўзнятай тэмы.

– Слухай, Віктар, а ты на свае шэсцьдзесят запросіш тых жа, што і на пяцьдзясят?

– Гэта цікава, панімаеш!.. Хто застаўся ў мяне ў той камандзе?..

– У цябе такі смелы ўзрост, што можаш у вочы сказаць: цябе не запрашу!.. Па якому крытэрыю будзеш падбіраць гасцей на юбілей?

– Крытэрый адзін – душэўны!.. Хачу, каб было ў той дзень во так душэўна і цёпла, як сёння з вамі...

– Каго ўсё-ткі запросіш?..

– Хлопцы, ну глядзіце, тады ў мяне быў Ніл. Дык ён жа цяпер не пойдзе. Ён – народны, член прэзідыума Вярхоўнага Савета. А я хто яму?.. Грыша Барадулін на мяне страшэнна пакрыўджаны за апавяданне, панімаеш...

– Якое апавяданне?

– Прысвечанае Мішу Стральцову... Я ж адчуваю... А самыя блізкія мне людзі былі і застаюцца. З імі хачу сустракаць юбілей!.. Яны для мяне, як кажуць, вечныя!..

– Віктар, за дзесяць гадоў кола сяброў пашырылася ці звузілася?

– Звужаецца, – сказаў Карамазаў, задумаўся. – А ўсё таму, што звузілася маё поле. Я тады ўсё ж працаваў у Саюзе пісьменнікаў. Цяпер я трошкі замкнуўся. І замкнуўся з-за вачэй. Не хочацца выходзіць, сустракацца... Не пазнаеш – гэта страшна прыгнятае, панімаеш... Тады ў Чэрыкаў ездзілі. Як хораша і весела было! Багата хто памёр ужо. А моладзь цяпер кніжкамі не цікавіцца. Усё больш “бабкамі”, не бабамі, дзяўчатамі. Гэта – страшна!..

– Я пачынаю разумець Віктара, – азваўся Кудравец. – З гадамі чалавек хоча забівацца ў нейкую глушэчу. Шукае інтымныя кантакты са светам. Хоча заняцца самім сабой. Я не надоўга адстаю ад цябе, дружа, дык маю права сказаць: наступае час, калі хочацца падсумаваць, ацаніць пражытае. Гэта не зададзенасць разумовая, маўляў, трэба падбіць бабкі, і ўсё такое. Не, але само сабой прыходзіш да гэтага...

– А мо, хлопцы, нейкі грамадскі ўціск не дазваляе выйсці на адкрытасць?

– Што ты думаеш, і гэты фактар уздзейнічае на арганізм, псіхіку, мозг, і ўсё такое... Усё забівае чалавека, а хацелася ўзвышэння, святла, радасці...

– Чым больш чалавек старэе, то фокус яго жыцця звужаецца, панімаеш, набліжаецца да цябе і, урэшце, замыкаецца ў самім чалавеку. Пачынаеш больш думаць пра сябе і... смерць.

– Што ты?

– Так, гэта праўда. Пра гэта я пішу зараз у сваім дзённіку. А падштурхнуў Дранько сваім “Акропалем”... Прыгадваю і я свой Парыж. Зайшоў у музей сучаснага мастацтва. Стаяць тры велізарныя карціны, ад падлогі да столі. На трох карцінах – Ён і Яна. Голыя. Што з сябе скінулі, пад нагамі ляжыць. І поўная страсць, шчырая, аголеная, прыродная. Зайшоў, а нікога не было. Стаю, захапіўся, азіраюся, стаяць дзве дамачкі, француаанкі, у капялюшыках, прыгожанькія. Міла разглядваюць карціны і сваім французскім пранонсам нешта ціха абмяркоўваюць. Я ўжо за імі назіраю і дзіўлюся, як яны разглядваюць мастацкія карціны. Яны спакойна, злёгку ўсміхаюцца, не азіраюцца з перапуду,

як я, панімаеш... Свабодныя, незалежныя яны. І калі гэта адчуў, стала брыдка за самога сябе. Мы не вольныя людзі. Наш фокус раскіданы. Мы азіраемся... К старасці, калі гэта пачынаеш усведамляць, больш даверу толькі самому сабе. От і хочацца цішыні, адзіноты... (*Смяецца*). Цяпер разумееце, Толя і Валодзя, чаму пад шэсцьдзесят хочацца быць самім сабою?..

– Падтрымліваю, дружа, расфакусіроўка ідзе з самага маленства. Тое нельга, тое нельга, тут не так ступіў, і так – усюды. Забароны. Абмежаванні. І ўсё такое... Чалавек жыве з адчуваннем вечнай непаўнацэннасці. Малы – ён яшчэ не чалавек. Школу заканчвае – ён яшчэ не чалавек. Жэніцца – ні кала, ні двара...

– Пераб'ю цябе, Анатоль, а ці ведаеце вы, як Андрэй Макаёнак перакладаў гэту прымаўку "ні кала, ні двара"? Вельмі мудра і дасціпна: і хата згарэла, і х... не стаіць...

– Ага, выдатна!.. Панімаеш, Валодзя. Чалавек не можа вечна адчуваць сябе абкрадзеным, неданоскам нейкім. Ён павінен сабрацца, асэнсаваць сябе раней, чым адправіцца ў падарожжа далей, у іншы вечны свет. Абавязкова!.. І тут чалавек адчувае: свабоды, якой не было, пра якую марыў, за якой ганяўся – яна да яго прыходзіць. От і атрымліваецца: старому чалавеку напляваць на тое, што пра яго падумаюць, і ўсё такое... Важна, што ён пра сябе думае. Важна, што ён вырашыў зрабіць... Я ведаю такое: жыў, жыў чалавек, сябраваў, а запавет напісаў не родным, не сябрам, не суседзям, а зусім чужому. Мо той чалавек быў ахоўнікам яго свабоды? У той час, як іншыя разбуралі яго...

– Ты, Толя, як заўсёды, – мудрэц!.. Правільна, з узростам чалавек усё гэта пачынае ўсведамляць. Шкада, што позна прыходзіць...

– Віктар, ты глядзеў сексуальныя карціны ў Парыжы гадоў дзесяць назад. А от каб цяпер давялося мілавацца імі, зноў бы азіраўся ці не?

– Ну, з вышыні ўзросту чаго ж палохацца, – смяецца Віктар Карамазаў. – Але тут іншае. Я хоць азіраўся, але ж глядзеў, мне гэта было цікава. Я – пісьменнік, трохі жыццё пакачала. А тыя звычайныя і простыя жанчынкі, ім зайздрошчу, і тады, і цяпер – жывуць без комплексаў. А вазьмі нашых кабет. Што ў іх змянілася?

– Віктар, ты лепш прызнайся: ці ў цябе праз дзесяць гадоў змяніліся адносіны да секса, жанчын, і ўсё такое?..

– Спакойней, хлопцы, стаў да ўсяго. І да етага таксама, панімаеш... А ўвогуле на гэту тэму асабліва не выказваюся. Хай будзе тайнай юбіляра... Адно скажу: больш стала ацэньваю сапраўднае ў чалавеку, панімаеш... Прыходзіць часам у душу сум, што сапраўднага так мала, так рэдка сустракаецца. Здаецца, цяпер больш бы цаніў тое, што меў...

– Як бы там ні было, хлопцы, нарадзіўся новы тост: за жанчыну! Туга па ёй – на ўсё жыццё! Гэта яўная прыкмета здароўя пры любым узросце. І ўсё такое...

– Толя казаў тут пра тугу. Скажу шчыра, у мяне апошнім часам яна вельмі абвостраная, панімаеш... А я вам нечакана скажу, чаму. Сусед жыве нада мною, ну, Божа мой, я сляпы, дык не хачу з ім сустракацца... А калі зраблю аперацыю і ўваскрэснуць мае вочы, я захачу ўбачыць таго чалавека. Божа мой! Саджуся за стол, пачынаю кляпаць на машынцы, а над галавой пачынае рыпець ложак. Рыпіць і рыпіць. Ну, Божа мой, колькі можна?.. Раніцай рыпіць, удзень рыпіць, вечарам – само сабой... Не пішацца, думаю, што там за баба? Што за нягоднік?.. Хацеў раз, панімаеш, ліст яму напісаць, каб ён памяняў пакой свой... А потым пачаў цярпець... А яшчэ потым пачаў быць трошкі яму ўдзячны. Ён падтрымлівае ўва мне інстынкт. Асабліва пасля ўсяго перажытага: і слепату, і пажар мамінай хаты, і скісласць... Пад яго ўплывам, панімаеш, пачаў адчуваць сябе мужчынам. Божа мой!..

– Віктар, можа здарыцца зусім іншае. Канец гэтага апавядання можа быць

гумарыстычным. Пойдзеш паглядзець, а там мо жыве чалавек, які робіць пратэзы, а мо гушкае дзіця.

– Не, хлопцы, мяне на мякіне не правядзеш. Я гэту музыку добра ведаю, панімаеш...

– За гэту музыку і выпіць не грэх!.. Без яе нам не пражыць. І ўсё такое...

– Адно скажу, сябры, у шэсцьдзесят чалавек ужо не той, што ў пяцьдзясят. Безумоўна, у кожнага сваё. Але я ў пяцьдзясят быў яшчэ дужа малады. Быў маладзейшы, як павінен быць у пяцьдзясят. Цяпер – я старэйшы, як павінен быць у шэсцьдзесят, панімаеш...

– Пražыў багата за гэты час.

– Так, Валодзя (уздыхае)... От я вам скажу, вочы – тонкая штука. Слепну, не бачу, а адбіваецца на ўсім арганізме. Бачу прадмет у некалькіх контурах, ён змяшчаецца ва ўсе бакі, панімаеш... Апошнім часам заўважыў, што і слых мой мадэліруе во гэтыя перамяшчэнні ўбачанага... Думаў, слых трачу, а ён у мяне як бы вібрыруе. Во што... Дый сам працэс мыслення ўжо не той. Панімаеш? Цяжка збіраць думку ў фокус. Дробіцца... Баюся, хлопцы, яшчэ аднаго. От, еду на аперацыю ў Маскву. Лепшае, калі вернуць зрок. Але яшчэ невядома, як ён будзе вяртацца да нармальнай мадэлі. Зрокава прадмет можа сумясціцца ў фокус. А як слыхавы апарат на гэта адрэагуе? Як, панімаеш, адрэагуе на гэта мая мазгаўня?.. Ці не адбудзецца паміж імі бойка, панімаеш... Сталінград можа быць!

– Ну, усё можа быць: і Сталінград, і Ленінград, і ўсё такое, але трэба чакаць лепшага. От мая дачка хадзіла на спецыялізаваныя курсы кітайскіх медыкаў... Яны даказваюць, што на падэшве, на пальцах, на вушной ракавіне ёсць усе кропкі для пеленгацыі жыцця. Няма адной рукі – другая бярэ на сябе тыя ж функцыі. Гэтак з нагамі, вушамі, вачамі, і ўсё такое... Як кажуць, арганізм наш мае касмічную перастрахоўку. І яна не дае чалавеку памерці нават у крайняй сітуацыі. Дык во што хачу сказаць, рана мы здаемся. Мы проста не ведаем запасаў нашага арганізму...

– Ты, Толя, праў. Арганізм сам шукае спосабаў выратавання. Дапаможам яму!..

– Галоўнае – застацца самім сабою ў любой жыццёвай сітуацыі!..

– Наступае самаацэнка?

– Так!

– Дык гэта што, вышыня чалавечай спеласці?

– Хто вызначыць?

– Сумленне! І ўсё такое!..

– А мо – жаданне? Жаданне жыць, тварыць, дзейнічаць!.. Мне, хлопцы, нядаўна расказалі такую быль. Ляжыць дзед на печы і крэкча. Нявестка: "От, надакучыў, хутчэй бы ты знік..." Ён адказвае: "Знікну, памру, нявестачка, як з табой пабуду..." Яна: "Злазь, стары, бяры што хочаш, абы толькі перастаў назаўжды крактаць!.." Злазіць дзед з печы, прыстроіўся да нявесткі, а тады й кажа: "О-о, цяпер паміраць неахвота!.."

– Я да гэтага жарту дадам чыста салдацкі. Старшына выстраіў хлопцаў. Яны павінны былі будаваць нейкую капліцу для начальства, і ўсё такое... Пытаецца ў аднаго: "Пра што думаеш, салдат?" – "Пра бабс, таварыш старшына". Начальнік разгубіўся: "А пра што яшчэ думаеш?" – "Я заўсёды думаю пра бабс, таварыш старшына!.."

– Віктар, давай цяпер ужо па-чэснаму: пра што ты думаеш перад сваім юбілеем?

Смяецца Карамазаў, шчыра адказвае:

– Сапраўды, хлопцы, бабы – наша мерачка: і настрою, і здароўя, і весялосці, панімаеш... Калі не будзе гэтай мерачкі, то станем мы бязмерныя, бязменныя...

– Такая мудрасць прыходзіць з гадамі.

– Мо не мудрасць, а смеласць? Чалавек здымае з сябе стрэс, уціск быцця, становіцца вольным, панімаеш... Чалавек пачынае злавацца на сябе: быў вечным парабкам. Чалавеку хочацца заявіць пра сябе. З гадамі гэта прыходзіць, і з ім трэба лічыцца...

– Лепей, відаць, калі такая смеласць прыходзіць раней?

– Гэта шчаслівыя людзі!.. Асобы!..

– Правільна, а чым нас напіхалі. Усё жыццё – лухтой, маной, кумірамі, дутымі лозунгамі, панімаеш...

– Не маўчаць пра гэта: нас рыхтавалі паслухмянымі рабамі, вечна вінаватымі, і ўсё такое...

– Прыгадваю часта свайго бацьку. Імперыялістычную прайшоў. Уцёк з палону. У партыю ўступаў, а тады білет закапаў, панімаеш... Пяцьдзясят чатыры гады настаўнічаў. Штаноў не было, а грамату ведаў. Сумленнейшы чалавек. З-за свайго сумлення вышэй настаўніка не падняўся. Ніколі не ставілі на пасады. Цяжкі лёс, пакрыўджаны. А ён перад смерцю чытаў “Кароткі курс ВКПБ”. Скрэслена і сінім, і чырвоным, і чорным алоўкамі. Гэта ж так вывучаў той “курс”, які жорстка абышоўся з ім. Ён нават прозвішча сваё Кармыз памяняў на Карамазава, пад героя Дастаеўскага. Сваякоў яго пазабіралі, выслалі...

– Пісаў пра бацьку?

– Так, урывачкамі, панімаеш... Мы ж пражылі жыццё, што бацькоў баяліся распытваць, а яны самі мала чаго расказвалі, маўчалі. Панімаеш?..

– Дык бачыш, Віктар, якая споведзь перад юбілеем!..

– Давай, Валодзя, пажадаем нашаму сябру, каб у Маскве паспяхова прайшла аперацыя, каб здаравейшым вярнуўся, і ўсё такое...

– А я во што скажу, хлопцы, за апошнія гады нашы сустрэчы для мяне – самыя памятныя. Дзякуй вам!

*1994 год. Мінск.*

*P.S.* Выцягнуў са свайго архіва, як залатую рыбку, пажоўклыя старонкі, наклепаныя на машынцы, знятыя з плёнкі дыктафона. Божа, як шчыра, разняволена гучыць сяброўская гамана пісьменнікаў. Анатоля Кудраўца ўжо даўнавата няма з намі. І мы з Віктарам Філімонавічам вырашылі абнародаваць нашы душэўныя, адкрытыя сходкі. У памяць Анатоля Кудраўца. У вянок нашага пісьменніцкага сяброўства. У напамін маладзейшым, як трэба бачыць і цаніць зямны рай. А галоўнае, разумець: хто ты, які ты ў асяродку чалавечай явы.

*2021 год. Мінск.*

ЭСЭ

Вольга Бабкова



...бываюць рэдкія імгненні супадзенняў, калі слабому чалавеку даецца дзівосная падказка пра таямніцу...

# Белы крыж на чорным кенатафе,

## *альбо З Міцкевічам у Канстанцінопалі*

*...Калі нада мною стане смерць,*
*то маюць дочкі і ўнукі мае*
*душою маею пячалаваці...*

**З тастамента татарскага князя Троцкага павета**
**Асмана Абрагімавіча. 1566 г.**

Ва ўтульным мінскім скверы, дзе ўражваюць шаты каштанаў і ўсё лета цвіце шыпшына, прысеў прыгожы чалавек – Міцкевіч. Калісьці тут быў насыпаны земляны вал, які адрэзаў Старое места ад палёў, лясоў ды пагоркаў, а цяпер – цэнтр горада паміж Нямігай і Праспектам. Задуменная пастава паэта павернутая ў бок даўніх кварталаў і вузкіх вулак. Дык ці бываў Адам Міцкевіч у Менску? Не. Не бываў. А вось цяпер ёсць.

Але мне хочацца перакінуць уяўны паветраны масток ад Менска да Стамбула, дзе давялося пражыць шэсць дзён і назаўсёды пасяліць горад-магут у душы, недзе нападалёк ад горада-магніта Вільні. І адно, і другое места паводле легенды з'явіліся на зямлі пасля прарочых сноў сваіх заснавальнікаў.

У Канстанцінопалі/Стамбуле Міцкевіч прабыў 66 дзён (ад 22 верасня да 26 лістапада 1855 года), але ж – сваіх апошніх.

* * *

Квіткі на пералёт чакалі мяне з дачкой Багданай ад Калядаў да пачатку красавіка, улюбёнага месяца ў годзе, калі зносіць голаў ад неабдымнасці абшару над голымі дрэвамі.

Нішто не замінае небу ў красавіку. Беларусь, ад зямлі якой мы адарваліся ў бязмежны блакіт, нагадвала ў гэты ранні вясновы час лясны дрымотнік, ці сон-траву, а горад на беразе Басфора, – бадай, пярэсты аксамітнік.

Дзве часткі свету – Еўропа і Азія – шчодра змяшаліся перад вачыма пад купалам агромністага шклянога гмаху старога аэрапорта па нашым прызямленні. Стракаты натоўп быў падобны на гіганцкую масоўку пры здымках кіно. Захутаная ў фіялет афрыканка з зыркай жоўтай чалмой на галаве і абсалютна роўнай спінай. Стары індус ў белых апранахах і сланцах на смуглявых нагах з ахайнымі доўгімі пальцамі. Яркія і галасістыя сціжмы дзяцей. Шмат вазкоў з дагледжанымі старымі падарожнікамі і іх памагатымі. Вольныя ў рухах еўрапейцы са скуранымі сакваяжмі. Кітайцы, кітайцы, кітайцы. Роўны гуд, няспешны рух вялікай колькасці мэтаскіраваных людзей. Суцэльны Вавілон. А можа быць, я проста рэдка перасягаю кантыненты?

На новыя мясціны заўсёды глядзіш быццам праз добра працертыя шкельцы. Кожная драбяза кідаецца ў вочы, кожны новы пах прымушае спыніцца і азірнуцца. Урэшце, водар у кожнага горада свой. А тут яшчэ столькі легендарнай вады сілкуе паветра.

Раніцай нас пабудзіў не спеў пеўня. Ясная рэч – крык муэдзіна. Было вельмі рана, хаця за фіранкай ужо светла-марэлева, і ягоны азан разносіўся пасярод абсалютнай маўкліні соннага кварталу. Мячэт знаходзіўся недзе непадалёк, і заклік да малітвы быў нібы адрасаваны кожнаму персанальна. Дзіўная рэч, экзотыка гучнага ранішняга спеву ў світанкавым паветры не сталася траўмай для майго беларускага вуха. “Мула”, “молла” – згадваліся словы кірылічнага хуткапісу на пажаўцелай паперы канца XVI стагоддзя, якую так часта сустракаю ў гістарычным архіве. А таксама імёны жыхароў Вялікага Княства Літоўскага – *Мухарэм, Алей, Сулейман, Нурум, Айна, Керэм, Фатма, Ясуф, Хадзя, дэрвіш Чэлябір Хадчый Мурзіч*.... І зноў – у салодкі сон на пульхнай белай падушцы новага мейсца.

Вось мы і прачнуліся ўпершыню ў абдымках “сяміпагоркавага спадара” – горада на берагах двух мораў і праліва Басфор. Горада, у якога было столькі найменняў і місій, праз які прайшлі сотні народаў. Горада, які так і не страсянуў з сябе плыўкі морак пад назвай “хюзюн”.

Стамбул уражвае. Мы жылі ў невялічкім гатэлі на паўночным беразе затокі Залаты Рог непадалёк ад плошчы Таксім і адной з галоўных вуліц вялікага горада – Ісцікляль (Гран-рю-дэ-Пэра). З крутога пагорка квартала была бачная Галацкая вежа, а значыць, мы не маглі не чуць дыханне Басфора. Цікава, але ў гэтым мегаполісе карцела знаходзіць і прыкмячаць паралелі з Менскам (хацелася напісаць “Мінскам”, але на стамбульскім фоне не атрымалася). Напрыклад, Менск таксама стаіць/стаяў на сямі пагорках, таксама мае дзве трывалыя назвы, як і Стамбул-Канстанцінопаль. А выява галоўнай менскай Захар’еўскай вуліцы канца XIX стагоддзя з трамвайнымі рэйкамі пасярод і ў атачэнні камяніц – адно ў адно падобная на фрагмент вуліцы Ісцікляль... А яшчэ гаршчкі з цыкламенамі/пеларгоніямі ў вокнах... Бадай, і ўсё. Каты? Нашым вулічным бадзяжкам такое не снілася. Апроч лагоднага клімату, столькі лагоды і ўвагі ад гараджанаў! Тут культ дваровых катоў, яны паўсюль – на цёплых скураных сядзеннях матацыклаў і скутараў, на нізкіх дахах і прызбах пад вітрыннымі вокнамі, нават ў скрынцы

з таннай біжутэрыяй каля касы ў вялікім магазіне. Спіць сабе такі руды таўстун і ў вусы не дзьме, паглядаючы адным лянівым смарагдавым вокам на чаргу пакупнікоў, а крамнікі не праганяюць. Каціную кунегу на векі вечныя забяспечыў стамбульскім жывёлінкам невядомы кот, які нібыта ўратаваў аднаго са шматлікіх султанаў ад укусу атрутнай гадзюкі. Уражвала тамтэйшая коткавая няспешнасць і лянота, а таксама шматлікія сподачкі з чыстай пітной вадой для вуркотаў амаль каля кожных вулічных дзвярэй.

Звычайна мы ішлі снедаць у раён Джыхінгір, павольна набліжаючыся да адной з мэтаў паездкі – Музея нявіннасці, прыдуманага і створанага пісьменнікам Арханам Памукам з нагоды свайго аднайменнага рамана. У Менску гэта набліжэнне падавалася нерэальным, але вось мы ўжо сядзім за столікам вулічнай кавярні праз квартал ад музея і бачым, як з дома насупраць старая жылістая турчанка ў стракатай ядвабнай хустцы, чымсьці падобная да народнай артысткі Беларусі Зінаіды Зубковай, спускае па вяроўцы з гаўбца трэцяга паверха саламяны кош, у які чалавек знізу кладзе свежы хлеб. Нібы адгортваецца старонка рамана, дзе падобная дзея была апісаная мімаходзь.

Да музея мы спускаліся па крутой вузкай вуліцы, а знізу, відавочна кіруючыся туды ж, ішоў чалавек з кнігай у руцэ. Адно што раман Памука ў яго быў па-французску. Мне асабліва хацелася адшукаць сярод экспанатаў музея айвовую тарку галоўнай гераіні рамана. Не верылася, што знайду такую драбязу. Але ёй была адведзена нават асобная падсвечаная палічка. Музей цноты ва ўсёй сваёй красе!

Вярталіся ў гатэль пад вечар, увесь час саскокваючы на вузкі ходнік з крутой нешырокай дарогі, бо па ёй на жахлівай хуткасці несліся матацыклы, машыны з прычэпамі, пакрыквалі вазніцы з цюкамі. А ходнікі былі так загрувашчаныя трантамі каля шматлікіх кавярняў ды крамак і купамі рагатага хмызняку для распалу, што ісці выпадала адно па праезнай частцы.

І вось тут, на шырокім гатэльным ложку, выцягнуўшы таптушкі ўзору 2018 года, адбылося надзвычай важнае. Багдана, якая выдатна чытала ўсе мапы свету, раптам здзіўлена войкнула, водзячы пальцам па схеме Стамбула: “Ого! За чатырыста метраў ад нашага гатэля – дом, дзе памёр Адам Міцкевіч!” Мы ўскочылі адначасова і адразу рушылі ў супрацьлеглы ад цэнтра бок, па крутой дарожцы ўніз, абыходзячы пустыя скрыні, бутлі, мяхі са смеццем, якіх чым далей, тым рабілася больш.

Раён, дзе месціўся наш гатэль, называўся Беёглу, а мікрараён – Бюль-Бюль. Скарачаючы шлях, мы спускаліся ўсё ніжэй праз бруднаватыя двары, густа занавешаныя на працягнутых ад дома да дома вяроўках з вымытай бялізнай. З вокнаў выглядалі жанчыны, дзеці гулялі проста на дарозе, вецер ганяў абрыўкі абвестак, абгортак, газет... Шчыльныя адзін да аднаго дамы рабіліся ўсё больш убогімі, кавярні і кебабні выглядалі проста як летнія “пералётныя” павільёны.

На рагу вуліцы Татлы-Бадэм, што ішла ўгару, стаяла замкнутая камяніца з шыльдай. Камяніца выглядала тут чужаватай. Была нетутэйшага фасону, адрознага ад наваколля. А непадалёк ад мураванага дома рос паважнага веку платан. Як бялёсы магутны пітон, ён нахіліўся ад старасці амаль усутыч да зямлі, са старасвецкай ветлівасцю дазваляючы абклейваць сваё гладкае тулава дзясяткамі рознакаляровых абвестак. Вясёлкавы добры платан. Думаю, ён мог быць і сведкам нашай цікавасці, і памятаць Міцкевіча з ягонымі спадарожнікамі той даўняй выправы – Генрыхам Служальскім, Арманам Леві, ксяндзом Ялавіцкім, князем Уладзіславам Чартарыйскім...

Музей працаваў да 19.00. Было значна пазней, хаця і светла. Мы хіба што не абмацвалі драўляныя дзверы і тынкоўку, вывучалі шыльду, калі дзверы прыадчыніліся і вартаўнік у мундзіры паабяцаў “Прыходзьце заўтра, я вам усё адчыню і пакажу”. Чамусьці калацілася сэрца. Штосьці не надта вытлумачальнае даўно

лучыла мяне з Міцкевічам. Цеплыня тэракотавых вокладак кніг з яго ліставаннямі на колішняй хатняй паліцы? Гісторыя маіх бацькоў пра нечаканы падарунак двухтомніка Міцкевіча на мінскім праспекце ад былога аднакурсніка маці, закаханага ў яе, які пры сустрэчы, даведаўшыся пра шлюб, падараваў дзве кнігі, што нёс пад пахай? Ці купалаўскі спектакль "Пан Тадэвуш", які павезлі ў Парыж, і па вяртанні Мікалай Пінігін пазваніў і так радасна і натхнённа распавядаў пра паездку і колішні поспех?.. А побач плакала мая дачка, і я не магла напоўніцу падзяліць гэтую радасць... Пакуль рыхтаваўся той спектакль, даведалася шмат пра парыжскі перыяд паэта і яго атачэнне, а тут яшчэ выдатная п'еса Марыюша Івашкявічуса "Містар" у перакладзе Сяргея Шупы, якую ўпершыню прачытала, прыйшоўшы ў тэатр на працу. А яшчэ "Дзяды" "Тэатра Ч" з такім запамінальным Густавам-Конрадам:

Цёмна, людзі,
глуха, людзі...
Штосьці будзе,
штосьці будзе...

Калі ляцелі ў Стамбул, я зусім забылася пра тое, што гэты горад-магут прытуліў на імгненне нашага паэта, ды не захаваў яму жыццё. Ягоныя вочы закрыліся ў той лістапад тут назаўсёды.

На наступны дзень, калі мы стаялі ў пустым чорным цокальным памяшканні перад мармуровым чорным кенатафам з белым крыжам, ахоўнік распавёў, што перад апошнім падарожжам у Парыж, цела пілігрыма ляжала тут колькі дзён, чакаючы карабля. Цішыня і цемра ў каморы была глухой, амаль касмічнай. Белы крыж сляпіў вочы, а пасля доўга жыў на сятчатцы вока. Горад за сценамі камяніцы і так падаваўся нерэальным праз сваю пярэстасць, шматслойнасць і шматгалоссе, а гэтае ціхае журботнае месца, дзе калісьці ў пакутах сканаў паэт з тваёй зямлі, проста агаломшыла. Не ведаю, якім назваць словам тое пачуцце. Але яно было жывым і трывожыла.

На выхадзе нас ізноў сустрэў сівы платан, абклееены стракатымі абвесткамі. Згадала, што і Міцкевіч прыехаў у Стамбул зусім сівым. Урэшце такім ён быў ужо ў апошнія гады выкладання ў Калеж дэ Франс.

Пасля нечаканай "сустрэчы" з Міцкевічам Стамбул павольна, але няўхільна пачаў ператварацца ў нашых вачах у Канстанцінапаль сярэдзіны XIX стагоддзя. Атрымаўшы, стоячы над белым крыжам на кенатафе, невымоўны пасыл, рэшта падарожжа набыла яшчэ больш цікавы і творчы расклад.

"Ёсць гарады, прыдуманыя Богам, ёсць гарады, прыдуманыя д'яблам..." (Уладзімір Арлоў). Гэты горад прыдумалі людзі і стварылі яго такім магутным і трывалым, што стагоддзямі іх нашчадкі працягваюць крочыць па тых самых каменных плітах вуліц, бачыць тыя самыя будынкі, углядацца і вышукваць метафізіку ў водах Басфора. Значыць, і Міцкевіч мог хадзіць па гэтых старых завулках, бясконца падымацца ўгару па крутых вуліцах, а пасля спускацца, як гэта рабілі і мы. Нашыя валізы на колках пераганялі нас пры спуску да невялікага гатэля, а хто нёс саквояжы Адаму? Конныя даламушы, якія былі створаныя паводле вобраза французскіх амнібусаў, з'явіліся толькі напрыканцы стагоддзя, і то – паводле ўспамінаў тагачасных падарожнікаў – "скакалі, нібы курапаткі з каменя на камень" па кепскіх дарогах. Верагодна, быў наняты вазніца, адзін з тых, якія звыкла нагрувашчвалі на свайго каня шмат паклажы і часам бязлітасна білі коней проста пасярод горада. На конях перавозілі свой тавар і гандляры хлебам. Цокат капытоў па каменных дарогах быў звыклым, але ў часы, калі горад наведаў Міцкевіч, не ўсе вуліцы былі прыдатнымі для праезду, асабліва позняй восенню, якая выпала тут Міцкевічу. Жыхары горада прадчувалі набліжэнне восеньскай

слоты праз асаблівы пах мора і водарасцей. У верасні пачыналіся буры, а разам з імі магутныя залевы. Пасля іх ўсе гарадскія плошчы і вуліцы стаялі па калена ў вадзе. Калі пазней у якім-колечы раёне горада калі-некалі зараджалася пошасць і пачынаўся паморак, адмысловыя службы пасыпалі вуліцы вапнай, але ж горы бруду ў цесных кварталах ад гэтага нікуды не знікалі. Усё гэта мог заўважаць Адам.

Мы з дачкой не раз перасягалі плошчу Таксім, вяртаючыся ў гатэль. Таксім – трывожнае сэрца Стамбула. За шэсць дзён яна сталася пазнавальнай да дэталяў – вось уваход у метро, тут можна выпіць гарбаты, а тут выйсці на Ісціклялы, а тут, на рагу, у прыцемках, спінай да Таксіма падпіраюць сцены густа нафарбаваныя дзевы ў пярэстых шчыльных ласінах... А тады, у часы Міцкевіча, гэтая мясціна была голаю пусткай, роўняддзю, дзе месціліся старыя могілкі ў кіпарысах, якія ён не мог абмінуць у сваіх вандроўках па горадзе. “Мяне пераконвалі, што ў Смірне павінен быць грот Гамера, але там мяне гэта не зацікавіла. Я прыглядаўся да іншага. Былі там навокал груды гною і смецця, усё разам: памыі, косткі, бітыя жбаны, кавалак падэшвы ад старой пантофлі, крыху пёраў – вось што запала мне ў душу! Я доўга стаяў там, бо ўсё было дакладна такім самым, як перад карчмой у Польшчы...” – прачытала ў кнізе аўтара біяграфіі паэта Мечыслава Яструна.

Другі паэт, сын хірурга напалеонаўскай арміі Жэрар дэ Нерваль, што наведаў Канстанцінопаль на некалькі гадоў раней за Міцкевіча, пакінуў свае ўспаміны ў кнізе “Падарожжа на Усход”. Раён Беёглу паводле яго – “Велізарныя, бясконцыя лугі, парослыя дзе-нідзе цяністымі хвоямі і грэцкім арэхам”. Ён жа параўнаў гэты горад з тэатрам. “На спектакль лепш глядзець з глядацкай залы, не імкнучыся зазірнуць за кулісы, дзе вас могуць чакаць бруд і ўбогасць...”

Калі б у Канстанцінопалі былі снежныя зімы са слізкімі ходнікамі (а снег тут рэдкая з’ява), то не выключаю, што дарогі маглі б густа пасыпаць кававай гушчай і жмыхам ад гарбаты, якія піліся тут заўсёды ў вялізнай колькасці, праўда, зусім маленькімі порцыямі.

Яшчэ адзін сучаснік Адама Міцкевіча, французскі пісьменнік-вандроўнік Тэафіл Гацье. таксама апынуўся ў Канстанцінопалі пасля адзінаццаці дзён марскога падарожжа з Парыжа, за тры гады да з’яўлення тут Міцкевіча. Ён пражыў у горадзе два месяцы і таксама пакінуў свае ўражанні. Гацье якраз цікавілі “кулісы” Канстанцінопаля – руіны, ускраіны, закуткі ды заканурkі старажытнага места. Яны вабілі вандроўніка больш, чым славутыя турыстычныя цікавосткі. Абодва французскія літаратары былі агаломшаныя фарбамі горада, тэмпам яго жыцця, бляскам пабачаных цырымоній. Так, гэта быў перыяд, калі разбурэнні і страты яшчэ не наклалі свайго трагічнага адбітку, бо Асманская імперыя пакуль трывала стаяла на нагах. Верагодна, што Нерваль і Гацье, якія даследавалі горад узору 50-х гадоў XIX стагоддзя, жылі ў тагачасным еўрапеізаваным Беёглу, у якім воляю лёсу ў XXI стагоддзі апынуліся і мы з Багданай, а ў 1855-м – Адам Міцкевіч. Менавіта тут знаходзіўся ў тыя часы гатэль “Імперыял”, які абжылі і палюбілі замежныя турысты. Тут, у Беёглу, было безліч галантарэйных, абутковых і кандытарскіх крамак. Іх трымалі грэкі-фанарыёты, жыхары квартала Фанар, далёкія нашчадкі візантыйцаў. Бадай, гэта быў найбліжэйшы “гандлёвы цэнтр” ад апошняга прытулішча Міцкевіча. Як не ўявіць, што і яму даводзілася набываць тут самыя неабходныя рэчы для свайго сціплага аскетычнага побыту. Вулачкі паміж Таксімам і Тэпебашы, старыя кварталы Перы, пабудаваныя яшчэ ў XVIII стагоддзі армянскімі майстрамі, верагодна, дзівілі сваёй пярэстасцю нават яго, спрактыкаванага вандроўніка па Крыме, Расіі, Еўропе. Дзівілі і прыцягвалі ўвагу, і, магчыма, міжволі параўноўваліся з краявідамі сваёй дарагой Літвы. Агаломшвала падарожнікаў і шматмоўе канстанцінопальскага жыцця. Тут прамаўлялі прадстаўнікі грэчаскай, габрэйскай, армянскай дыяспар. На вуліцах гучала турэцкая, грэчаская, армянская, італьянская, французская, англійская, польская мовы.

Напачатку XIX стагоддзя толькі палова вялікага горада вызнавала іслам, рэшта была нашчадкамі візантыйцаў, таму ў часы тагачаснай спелай Асманскай імперыі нават туркі без ваганняў называлі сваё места Канстанцінопалем. Гэта ўжо праз сто гадоў пасля смерці Міцкевіча, у 1955-м, у Стамбуле адбудзецца жахлівы грэчаскі пагром, калі ад гвалту пацерпяць дзве візантыйскія цэрквы Марыі Мангольскай і святой Ірыны, якія ніколі за сваю гісторыю не былі мячэтамі. Міцкевіч апынуўся тут ў часы, калі Асманская імперыя моцна трымала свае пазіцыі, а 31-ы султан імперыі Абдул Меджыд быў захоплены еўрапейскай культурай, што амаль ва ўсе часы было характэрным і лёсавызначальным для гэтага горада. Пры ім было прынятае заканадаўства паводле ўзору кодэкса Напалеона, з'явіліся чыгунка і тэлеграф (як не згадаць тут менскага рэфарматара Караля Чапскага), а немусульманам дазвалялася служыць у войску. У модзе была французская мова і французскія ўборы.

Галоўная вуліца раёна Беёглу – Гран-рю-дэ-Пэра (Ісцікляль) – у 1843-м выглядала прыкладна так, як і цяпер. А значыць, так, як у 1855 годзе. Калі мне яна месцамі сапраўды нагадвала менскую Захар'еўскую, то большасці пешаходнікаў і, верагодна, Міцкевічу – Парыж. Бляск вітрын магазінаў, моднікі на ходніках, ювеліркі, крамкі з духмянасцямі, кандытэрыі, англійскія і французскія гатэлі, (там непадалёк, дарэчы, і цяпер будынак Французскага культурнага цэнтра), кавярні, амбасады..., а побач – прыстанкі дэрвішаў абіцелі. Трамвай па гэтай вуліцы пачне хадзіць толькі пасля 1871 года, улагодзіўшы агромністасць горада сваёй прысутнасцю. І, канешне, тут, на цэнтральнай вуліцы, як і па ўсім астатнім горадзе – сціжмы вандроўных гандляроў абаранкамі-сімітамі, рыбай, прысмакамі, зграі бадзячых сабак і рэзкія крыкі басфорскіх кірляў над безліччу галоваў.

З'яўленне літвінскага паэта ў вялікім горадзе Асманскай імперыі было не выпадковым. Яго прывяла сюды не цікаўнасць еўрапейскага падарожніка, а безумоўная місія, якую ён сам усклаў на сябе. У 1853 годзе Турцыя ў альянсе з Англіяй і Францыяй абвясціла Расіі вайну, што атрымала пазней назву "Крымскай". Менавіта ў Турцыі пачаў фармавацца польскі легіён і адначасова па раптоўнай задуме Міцкевіча – габрэйскі – супраць прыгнёту Расейскай імперыі і за аднаўленне Рэчы Паспалітай. Гэта былі пераважна ваеннапалонныя габрэі з Літвы і Польшчы з імёнамі Мошак Цыбуля, Аарон Розенберг, Давід Цялёнчык, Шлёма Агарынскі, Самуэль Вінагура, Абрам Пайтач ды іншыя. Галоўнай постаццю ў стварэнні габрэйскага легіёна і быў паэт.

Гэтая падзея мела перадгісторыю. У 1850-м Асманская імперыя адмовілася выдаць Расіі і Аўстрыі польскіх удзельнікаў рэвалюцыі 1848 года, да якой спрычыніўся Міцкевіч. У Італіі яму ўжо атрымалася стварыць польскі легіён. Новым і, на жаль, апошнім крокам ва ўтаймаванні свайго грамадзянскага неспакою сталася стварэнне ў Канстанцінопалі антырасейскіх атрадаў дзеля змагання з царызмам. На фоне еўрапейскага ландшафту Асманская імперыя на той час выклікала ў паэта большы давер. Апроч усяго, паводле ўспамінаў самога Міцкевіча, гэтыя ўсходнія краі былі яму блізкімі, бо характарам і звычаямі значна больш нагадвалі радзімную Літву, чым Францыя часоў Другой Імперыі. Захаваліся звесткі, што Міцкевіч у Канстанцінопалі пачаў пісаць драму ў прозе.

Вестка пра прыбыццё Міцкевіча вельмі хутка абляцела Канстанцінопаль. Ужо на наступны дзень да яго прыйшлі казацкія старшыны і па славянскім звычаі паднеслі хлеб з соллю. Мечыслаў Яструн перадае словы паэта падчас той урачыстай сустрэчы: "Зірніце, – гэта нашы данскія, запарожскія, украінскія браты. Гэтыя кунтушы, паясы, гэтыя барановыя шапкі, гэтыя жоўтыя і чырвоныя боты – згадваеце? – гонар нашых продкаў, а цяпер наш смутак!"

Калі я намагаюся ўявіць тагачасны побыт Міцкевіча, то абапіраюся на ўспаміны сучаснікаў і тых, хто быў поруч з паэтам да ягонай апошняй хвіліны. Хто

суправаджаў яго ў лагер пад Бургасам, дзе на пастоі былі два “польскія” палкі, што складаліся пераважна з казакаў. Хто хадзіў з ім па горадзе, заходзіў па шматлікіх справах у розныя дамы, у вялікі драўляны дом Садыка-пашы і ягонай жонкі практычнай Людвікі Снядэцкай, колішняй віленскай знаёміцы Адама па ўніверсітэце, дачкі прафесара Віленскага ўніверсітэта, удзельніка таварыства шубраўцаў Анджэя Снядэцкага. Мужам Людвікі быў Садык-паша, колішні польскі шляхціч Міхал Чайкоўскі, сын жытомірскага падкаморага і гараднічага Кіеўскага ваяводства Станіслава Чайкоўскага і Петранэлы Глембоцкай, былы паўстанец 1830 года, афіцэр, пісьменнік, які за чатыры гады да прыезду Міцкевіча прыняў іслам і быў прызначаны начальнікам усяго казацкага насельніцтва Порты. Місія Міцкевіча была шчыльна звязаная з гэтым чалавекам, у пэўным сэнсе залежала ад яго. Аднак трывала аселы і ўладкаваны ў канстанцінопальскім побыце Садык-паша са здзіўленнем і непаразуменнем прымаў гарачнасць Міцкевіча, і асабліва – ідэю стварэння габрэйскага легіёна. Пазней, у мемуарах, скардзіўся, што, кіруючыся гэтай “камбінацыяй”, Міцкевіч зрабіў яму вымову за тое, што ў лісце да сваёй жонкі Садык-паша назваў нечуваным жахам бачыць узброеных габрэяў поруч з казакамі пад кіраўніцтвам польскага шляхціча.

Ва ўяўленнях пра апошнюю восень Міцкевіча ў Канстанцінопалі, абапіраюся таксама і на ўспаміны пра сам Горад, які, падобна ўсім гарадам свету, разгортваўся перад намі старонкамі найцікавейшай кнігі. У 1802 годзе рускі падарожнік Аляксандр Краснакуцкі пакінуў для маладых людзей, якіх занясе ветрам на турэцкі бераг, перасцярогу: “Канстанцінопаль – гэта вучэльня асцярожнасці”. Міцкевіч, калі патрапіў у бязладную на першы погляд прастору са слядамі розных эпох, быў даволі сталага веку, але меў выразна акрэсленую мэту. Гэтая мэта захапляла і вяла яго праз усе нязручнасці побыту. Двухтыднёвыя стасункі з афіцэрамі, жаўнерамі і казацкімі атрадамі ў балгарскім Бургасе цешылі і давалі спадзеў. Вайсковыя агляды, перамовы, паляванні, палявыя намёты, цёплая бурка на плячах, буланы конь па мянушцы “Кракадзіл” – усё гэта было паэту па душы. Адно, што вымушала пільнавацца, – зносіны з супляменнікамі ды іх хітрамудрымі інтрыгамі, ніты якіх цягнуліся да Парыжа і Масквы. Непаразуменне і пагроза хаваліся не сярод вайсковых намётаў, не ў лабірынтах брудных завулкаў і стракатых базараў, а ў ахайна згорнутых лістах на аркушах духмянай паперы, на якіх бісерным ці размашыстым почыркам ішлі паведамленні ў сталіцы пра кожны крок апатанага сваёй ідэяй Міцкевіча. Калі б не раптоўная немач, Міцкевіч з гатовасцю прабыў бы ў Бургасе даўжэйшы час. У лісце да Зафеі Шыманоўскай ён пісаў у тыя дні: “У мяне была звычайная лагерная хвароба, усе на яе там адпакутвалі. Нягледзячы на тое, што прыхварэў там, я сумую па лагеры”.

Горад маўкліва прыняў паэта ў свае пярэстыя абдоймы ды раскрыў перад ягонымі вачыма ўсю пекнату, убогасць і свае штодзённыя рытуалы.

Што паспела прыкмеціць вока паэта, апроч інакшасці гарадскога ландшафту ў гэтую восень у Канстанцінопалі? Магутны часаны камень Феадосіевых муроў, што атачалі цэнтр горада, фрагменты старых акведукаў, сляды іпадрома на плошчы Султанахмет, разбураныя дэрвішаўскія прытулкі, гарадскія лазні, нядаўна пабудаваны Абдул-Меджыдам карункавы палац Долмабахчэ, царкву святога Георгія з двухгаловым арлом на фасадзе і мошчамі айцоў царквы, дзе здаўна служыў усяленскі патрыярх, сляды велічэзных падземных цыстэрнаў візантыйскай эпохі, у якіх, паводле запісаў сярэднявечных падарожнікаў, маглі плаваць дзесяць караблёў... Ці давялося Міцкевічу адчыняць магутныя дзверы Святой Сафіі, якія за некалькі гадоў да яго прыезду замянілі, але змайстравалі такімі ж агромністымі, як і ранейшыя, адно што тыя былі зробленыя з дрэва Ноевага каўчэга і лічыліся цудадзейнымі. Ці паспеў Міцкевіч пабачыць танцы дэрвішаў ордэна Руфаі і пятнічны намаз султана Абдул-Меджыда? У той момант

увесь вялікі цэнтр горада станавіўся на свае дыванкі і заміраў на каленях, тулавам павернуты ў бок голаса з мінарэта. Гэтак і мы з дачкой апынуліся перад самым намазам заточанымі ў невялічкай кавярні, бо стамбульцы ў малітоўнай нірване запаланілі вузкую вулачку перад выхадам з яе. Гаспадар-грузін параіў перачакаць і не прабірацца паміж нахіленымі мужчынскімі постацямі. І сам стомлена прысеў каля стойкі, склаўшы рукі на фартуху, бо надарылася звыклая паўза ў працы. У той дзень было вельмі горача. Мы проста зайшлі папіць вады.

Цяперашні Стамбул падаўся нам, падарожніцам з Беларусі, на першы погляд надзвычай мужчынскім горадам з асаблівай мужчынскай асманскай культурай, бо на вуліцах, здавалася, амаль не было жанчын. Аднак праз некалькі дзён гендарныя шалі хіснуліся. Жанчыны былі паўсюль, і былі абсалютна розныя. Праява магутнага жаночага свету ахінула нас у велізарным квартале Гранд-базара. Ягоны памер не паддаецца апісанню. Рынкавы квартал быў цалкам запоўнены крамкамі і крамамі з белашвейнымі таварамі. Скруткі тасьмы, карункаў, нітаў усіх мажлівых колераў, ваўняныя і баваўняныя клубкі, найпяшчотнейшая і шчыльная тканіна самых разнастайных гатункаў. Як не згадаць тут экзатычныя назвы тканін часоў Вялікага Княства Літоўскага са старых дакументаў – адамашак, алтамбас (патурэцку “алтын” – золата, і “бас” – тканіна), бая, герліца, мухаяр, герля, фарботы, багазея, блават, бархан, бель, брукатэла, златаглаў, кір, парп’ян, цындардот, чамлет, шарлат, штамед... Здаецца, менавіта тут яны ўсе і знаходзіліся. Каляровыя сувоі тканінаў перавальваліся праз прылаўкі, вецер надзьмуваў ветразі высока развешаных палотнаў. Горы пульхных ядвабных падушак, гафтаваных абрусаў, сурвэтак ды насовачак, мільёны гузікаў і гаплікаў, карункавая выкшталцоная бялізна, панчохі з павуты... Здалося, што ўсе стамбульскія жанчыны ў гэты момант сядзяць у сваіх пакоях і шыюць, плятуць, вышываюць, перашываюць, займаюцца ткацтвам. Бачылі мы і стамбульскіх мастачак. Яны прадавалі свае мініяцюры на дрэве, і з-пад чорных апранах былі бачныя толькі іх вочы. Але якія! Я думаю, Міцкевіч заўважаў на канстаніцнопальскіх вуліцах захутаныя ў чаршаф ад галавы да кончыкаў пальцаў на нагах жаночыя постаці, магчыма, бачыў, калі па дарозе везлі султанскі гарэм, і шмат размаўляў з эмансіпаванай зямлячкай Людвікай ў доме яе мужа Садыка-пашы ў раёне Бешыкташ над самым Басфорам.

Міцкевіч не мог не назіраць лёгкую смугу над Басфорам у ясныя дні, не мог не пераходзіць ці пераязджаць Залаты Рог па Галацкім мосце ў бок Гранд-базара, не мог не бачыць Святой Сафіі і выцінанак контураў галоўных мячэтаў, шматлікіх рыбароў на мосце, не мог не чуць водару смажанай свежазлоўленай скумбрыі і, магчыма, каштаваў балык экмек, якім і цяпер можна пачаставацца непадалёк ад маста. Я згадваю яго смак, і тое, як мы елі булку з адмыслова запечанай у прыправах рыбінай ў цемры на вуліцы, і на яе крыху крапаў дождж, і было весела і смачна. Тады, калі мост пераходзіў ці пераязджаў Міцкевіч, ён быў драўляным і ўжо дзесяць гадоў як пабудаваным, але яшчэ не называўся Галацкім. Яго некалькі разоў перабудоўвалі, і, здаецца, згодна з запісамі Тэафіла Гацье, мост быў зроблены з лодак ці баржаў і злёгку пагойдваўся.

Паводле нашага сучасніка, турэцкага пісьменніка Архана Памука, бачыць Басфор нават здаля мае для жыхара горада духоўную каштоўнасць, існуе, так бы мовіць, асаблівая “жарсць да сузірання Басфора”. Мы і самі напоўніцу адчулі гэтае пачуццё. Чатыры разы нам давялося пераплываць затоку на азіяцкі бок горада ў Кадыкёй на пароме гарадскіх ліній – раніцай, удзень і ўвечары. У адзін з такіх момантаў перажылі тое, што можна было б назваць эпіфаніяй – адкрыццём невымоўнай у сваёй прыгажосці праявы. Вада Басфора ў тыя хвіліны была не проста вадой, а далягляд – не проста палоскай зямлі. Бываюць рэдкія імгненні супадзенняў, калі слабому чалавеку даецца дзівосная падказка пра таямніцу. Вада Басфора не толькі зіхацела на сонцы, яна лунала над самой сабой і ззяла ў па-

ветры. Апроч гуку суднавага матора і рэзкіх крыкаў кірляў, у адкрытым паветры чуліся тонкія пералівы небывалай музыкі.

Параходы паплылі па Басфоры ў 1850 годзе. Карабель “Табар”, на якім Міцкевіч са спадарожнікамі прыплыў у Канстанцінопаль, праціскаўся па нешырокай затоцы сярод суднаў, ледзь не кранаючы параходныя трубы. У гавані тады стаялі шматлікія гандлёвыя, транспартныя і ваенныя караблі. Тэафіл Гацье пісаў, што амаль у кожнай канстанцінопальскай цырульні ў тыя гады на сцяне вісела карціна з выявай карабля. “Чорныя слупы параходнага дыму мелі розныя абрысы, якія залежалі ад месцазнаходжання парахода, яго мадэлі, басфорскіх плыняў і, вядома, ад ветру”. Ці заходзіў Міцкевіч у цырульню? Урэшце, за пяць гадоў караблі заваявалі прастору Басфора і сталіся звыклай для горада з’явай.

Адной з тыповых “забаў” жыхароў Канстанцінопаля ва ўсе часы было назіранне за пажарамі. Пажары сталіся амаль штодзённай, хаця і трагічнай старонкай жыцця горада. Галацкая вежа, якая за ўвесь час існавання пабывала маяком, абсерваторыяй, аглядальнай пляцоўкай, служыла адначасова і месцам назірання за тым, як шугае полымя пажараў у горадзе і часам на вадзе, калі гарэлі гандлёвыя судны. Тэафіл Гацье за два месяцы жыцця тут ў 1852 годзе пабачыў пяць пажараў. Колькі такіх здарэнняў адбылося падчас побыту ў горадзе Міцкевіча? Дом, дзе знайшоў апошні прыстанак паэт, пасля ягонай смерці таксама не пазбег агню. Жыхары шчыльнай драўлянай забудовы ведалі, што такое няшчасце можа напаткаць іх у любы момант, і прымалі бяду як наканаванне. У канстанцінопальцаў захавалася памяць пра тое, як адзін з кварталаў горада падчас нападу крыжакоў гарэў восем дзён.

А мне згадваецца пажар ў зусім іншым невялікім гарадку падчас вайны. Яго назіралі мае ваўкавыскія дзед Павал і бабуля Клава. Перад тым, як пакінуць горад, які ўжо пачалі бамбіць, Павал паклікаў сям’ю на пагорак за ўласным домам і кіўнуў у бок цэнтра горада. Там палаў агнём двухпавярховы будынак гімназіі, дзе вучыліся да вайны іхнія дзеці. Полымя вырывалася з кожнага са шматлікіх вокнаў. Відзежа тая для маці – вусцішная і незабыўная дасюль.

Сябар Бадлера Тэафіл Гацье, бадай, адным з першых запрыкмеціў, адчуў і даў азначэнне паноўнаму настрою Канстанцінопаля, назваўшы яго меланхалічным. Тутэйшы стамбульскі пісьменнік Архан Памук назваў свой улюбёны горад – “Горад хюзюн”. “Хюзюн” – не пакутлівая хвароба аднаго чалавека, а культура смутку, атмасфера журбы, у якой жывуць мільёны. Такому стану душы адпавядае старабеларускае слова “пячалавацца”, якое можна сустрэць на старонках актаў апошняй волі чалавека эпохі Барока, у шляхецкіх тастаментах. Але ж і меланхолія была вядомая з даўніх часоў на нашых землях. Магчыма, адным з першых, хто прыгадаў яе ў сваіх мемуарах, быў шляхціч Навагрудскага ваяводства Фёдар Еўлашоўскі. Апісваючы *чалавека мудрага і вялікага захавання* ўрадніка Васілея Рагачоўскага, што невядома з якой прычыны *ўпаў у меланхолію,* і ў выніку засіліўся на ручніку, замкнуўшыся ў пакоі, у *святочны панядзелак* у Ляхавічах, Еўлашоўскі занатоўвае словы віленскага кашталяна Гераніма Хадкевіча, ўзрушанага смерцю свайго слугі: *Не ведаю што ёсць чалавек, не ведаю, што ёсць шатан.* Словы старабеларускай мовы, якія калісьці прамаўляліся на нашай зямлі, апісваючы навакольны свет, таксама гучалі трагічна і смутна: свет быў *адменны, аблудны, нярозны, зменлівы, недаўгавечны, непадзельны, мізэрны, надзны, небяспечны,* але ж менавіта падобнае ўспрыняццё гэтага свету і нараджала ў выніку сапраўдную літаратуру.

За шэсць дзён у вялікім горадзе мы абышлі безліч мясцін, але пасля белага крыжа на кенатафе нашым трэцім нябачным спадарожнікам заўсёды быў Міцкевіч. Мы разам пілі бузу ў старой краме з драўлянымі прылаўкамі і сталамі, з даўняй мазаікай на падлозе і з непамытай шклянкай ад бузы, з якой калісьці піў Атацюрк. Стаіць сабе такая ў зашклёнай шафачцы, падобнай да аптэчнай. Крама гэтая была адкрытая праз адзінаццаць гадоў пасля смерці Міцкевіча албанцам

Хаджы Садык Беем і да сённяшняга дня захоўвае тую канстанцінопальскую атмасферу, бо цяперашнія ўладальнікі яе – чацвёртае пакаленне таго самага Хаджы Садыка. Вельмі насычаны, з невялічкай доляй алкаголю напой, які трэба есці лыжкай. Старыя стамбульцы ў цёмных гарнітурах, пераважна мужчыны, сядзелі за невялікімі столікамі і старанна аблізвалі лыжкі з густым напоем. Няма сумніву, што Міцкевіч частаваўся бузой, таксама як і гарачым малочным салепам, які халоднай восенню саграваe душу і цела. Напой гатуецца з парашку каранёў архідэі і лічыцца найлепшым сродкам ад прастуды. Мажліва, гэтыя напоі піў той восенню ў лагерных намётах пад Бургасам. Мы ж смакавалі турэцкія цікавосткі, седзячы ў кавярнях, гледзячы здаля ці то на бурлівыя плошчы, ці то на пустэльныя завулкі. Каймак, каштанавае сочыва, суп з сачавіцы “чорба”... смакавыя знаёмствы – адна з яркіх граняў знаёмства з велічным горадам.

Гэтаму складана даць веры, але канстанцінопальскія сляды Міцкевіча яшчэ можна адшукаць у шматлікіх антыкварных стамбульскіх лаўках. Іх – безліч. Іхнія гаспадары з выгляду – сапраўдныя Гасаны Абдурахманы ібн Хатабы, а насамрэч старыя інтэлігентныя стамбульцы з пенснэ на носе ці ў акулярах з масіўнымі рогавымі аправамі. Яны вартуюць памяць пра горад. Кожная такая лаўка насамрэч – куфар старажытнасцяў, у якім трэба корпацца і выцягваць на свет дзівосныя артэфакты, дэталі колішняга горада за самыя розныя часы яго існавання. Там можна знайсці дзвярныя замкі і звязкі сотняў ключоў ад дамоў, якіх ужо няма на мапе горада. А якія ў іх формы! Тут цэлы кош са старымі шыльдамі і металёвымі таблічкамі з назвамі вуліц і імёнамі гаспадароў, якія ўжо даўно адышлі ў нябыт. А таксама плеценыя кашы, з якіх тырчаць сотні дарожных кіёў, што выстуквалі калісьці па каменным бруку горада рытмы сваіх гаспадароў. Якія цікавыя булдавешкі ў кожнага кія! Ніводнага аднолькавага і паламанага. Усе цэлыя, хіба што сцёртыя часам. Захавалася нават зялёнае самацветнае вочка змяінай галоўкі, згладжанай дотыкамі рукі... *“Рэчы – апошняе цела людзей, якое жыве найдаўжэй”* (Алесь Разанаў). Тут было шмат старых нататнікаў, набораў чорна-белых паштовак, старых кляйстэраў, мапаў, паркалёвых выцвілых ад сонца парасонаў, шмат каляровага шклянога посуду і размаляваных вазонаў, шэрагі пазалачоных абкладаў шматлікіх кніг. Тут – каралеўства шэптаў і ўсхліпаў. Тут – *“забыццё і пыл, і дыханне тлену / дзе на старых старонках нябожчыкі-вершы, куды паціху ўваходзіць уладны спакой...”* (Тацяна Сапач). Адсюль складана вырвацца. Цябе нібы трымаюць за вопратку нябачнымі пальцамі. Табе хочуць нешта недаказанае распавесці. Мова? Гэта не мае значэння...

На выхадзе з нізкіх дзвярэй на залітую сонцам вуліцу проста на асфальце пад шэрай сцяной гмаху граюць музыкі. Хтосьці са слухачоў прыносіць ім каву з кавярні насупраць. Міцкевіч таксама піў каву з каньяком, густымі вяршкамі і без цукру. Прынамсі, так апісвалі побыт паэта ягоныя спадарожнікі. Шмат курыў. У дзень, калі яму зрабілася блага, ён таксама піў каву, паліў, але стан пагаршаўся, хаця Міцкевіч не хацеў прымаць сваю раптоўную знямогу за хворасць. Але ж немач прыціскала ўсё мацней. Гэта непакоіла суразмоўцаў, пераважна вайскоўцаў, якія звыкла штодня абмяркоўвалі з ім апошнія навіны. Міцкевіч спрабаваў жартаваць, але сілы пакідалі імкліва. Лекар даваў мікстуру, расціраў, абкладаў цела гарчычнікамі, ногі сагравалі бутэлькамі з гарачай вадой. Паводле ўспамінаў, паэт казаў пра моцны ўнутраны жар, ад якога ён увесь гарыць, аднак быў ледзяным...

У тую раніцу, калі мы моўчкі стаялі разам з вартаўніком над чорным мармуровым кенатафам з белым крыжам, я пачувалася не вельмі добра. Моцная ранішняя кава не дапамагла, а, хутчэй, пагоршыла стан. Было млосна, ціснула знутры. Гэты нечаканы збой раўнавагі наблізіў да Міцкевіча, абрынуў у глыбіні эмпатыі і спачування да ягонай адзінокасці. Мы былі так далёка ад радзімы. Нездароўе павялічвае адлегласці на кіламетры тугі. А як жа далёка ад яе берагоў

быў Міцкевіч! Ці было яму куды азірнуцца? Чамусьці згадаўся ягоны выкладчык лаціны Готфрыд Гродэк, які вучыў мове філарэтаў і філаматаў і не залічыў магістарскую працу студэнта Адама Міцкевіча. Ягоны апошні прыстанак – у Кіяўцы, што на Валожыншчыне. У Беларусі. Дзе будзе твой прыстанак, блуканец, бесхацінец, чужаніца?

30 снежня труну з целам Адама Міцкевіча, што стаяла на ўзвышэнні на створках уваходных дзвярэй, перанеслі на калёсы, запрэжаныяваламі. Павозка была абцягнутая чорным сукном. У шчыльным атачэнні праважатых яна рушыла з гары Пера. Аркестр граў журботны марш. Грамада людзей павялічвалася і не разыходзілася, чакаючы каля касцёла на вуліцы Пера, дзе чынілася развітальная служба. На двары панавала маўчанне. Жалобны паязд дасягнуў Топханэ, дзе цела на лодцы перавезлі на паштова-пасажырскае судна “Еўфрат”. Наперадзе быў доўгі марскі шлях да Марсэля. Шлях з навекі заплюшчанымі вачыма.

А тады, у верасні 1855 года, дарога па моры да Канстанцінопаля даравала столькі адкрыццяў і назіранняў! Яна была сонечнай і ўнутрана святочнай. Дух гэтага вольнага вандроўнага настрою так моцна адчуваецца ў лісце Міцкевіча да дачкі Марыі:

*“...Пасля ад’езду з Мальты мы кіруемся ў бок берагоў Лаконіі, маючы на прыкмеце далёкі Крыт з яго гарой Іда; абмінулі мыс Матапан. Пакінуўшы ўбаку востраў Кіферу, мы паплылі ўздоўж Кікладскіх астравоў да Паросу і Сіро. Далей, паміж Хіросам і зямлёй, мы звярнулі да Смірны, а, вяртаючыся адтуль і набліжаючыся да берагоў паміж Лесбасам і старажытным Пергамам, пабачылі траянскую Іду, дзе грэцкія багі шматкроць сыходзіліся на свае соймы. Каля ўзножжа гары Іды – траянская роўнядзь. Мы былі занадта далёка ад вусця Ксанта і Сімаента, каб пабачыць іх, але месца магілы Ахілеса было выбрана настолькі ўдала, што яна была бачная доўга і з розных кропак. Яна панавала над усім узбярэжжам. Мясціны, па якім мы вандруем, таксама поўняцца ўспамінамі. Побач знаходзіцца Язонія, славутая тым, што тут спыняўся адпачыць Язон з арганаўтамі; а з іншага боку – мясціны, дзе некалі штогод ладзіліся гульні ў гонар Аякса, сына Тэламона... Увесь час з дня ад’езду нам спадарожнчала выдатнае, гарачае надвор’е. Сёння – дождж упершыню...”*

Паводле ўспамінаў тых, хто праводзіў тым снежаньскім днём паэта ў апошні шлях, дождж, пад якім цягнулася доўгая працэсія па горадзе, сцішыўся, і ноч на моры была ўжо ясная і ціхая.

Жалоба па Адаму Міцкевічу ў дывізіі султанскіх казакоў цягнулася тры месяцы.

Застаўся занатаваным апошні дыялог паэта на гэтай зямлі. На пытанне, што б ён хацеў перадаць сваім дзецям, Міцкевіч ледзь чутна прамовіў: “Няхай любяць адно аднаго. Заўсёды”.

* * *

Яшчэ да паездкі ў вясновы Стамбул, які пакрысе вяртаў нам канстанцінопальскія абрысы, я перадусім вылучала мінскі помнік Адаму Міцкевічу на Гарадскім Вале за яго ўдалую кампазіцыю ды адбітак смутку на твары бронзавага паэта з заплюшчанымі вачыма. Цяпер падыходжу да яго, як да знаёмца, маўклівага знаўцы агульнай таямніцы. За спінай паэта ў скверы стаіць стары мінскі турэмны замак, дзе пасля паўстання 1830 года вязнямі былі ягоныя знаёмцы і дзе сёння зняволеныя мае сябры. Дзіўная логіка гістарычных скрыжаванняў. Невымоўныя шляхі свету твайго, Госпадзе!

гісторыя

Ірына Багдановіч



...актуальнай задачай Расійскай імперыі было абгрунтаваць і замацаваць у гістарычнай Літве (Беларусі) правы на так званыя “исконно руские земли”...

# «Дело о стихахъ…»

## *Верш Яна Казіміра Пашкевіча “Польска квитнетъ Лациною” як літаратурная містыфікацыя*

*Артыкул упершыню быў апублікаваны на ангельскай мове ў польскім навуковым друку: Bahdanovich Iryna. Wiersz Jana Kazimierza Paszkiewicza “Polska kwitnie łaciną...” jako mistyfikacja literacka // Studia Białorutenistyczne (Lublin, UMCS). Vol 14. – 2020. – S. 171 – 201.*

### Загадкавы шэдэўр: гісторыя першых публікацый

Кананічны корпус старажытных беларускіх вершаваных твораў, здавалася б, ужо даўно выяўлены і надзейна замацаваны ў гісторыі айчыннай літаратуры. Зразумела, што амаль кожны твор з той эпохі ўспрымаецца як шэдэўр. Ну, вядома ж, даўнія тэксты на вагу золата, да таго ж на старабеларускай мове! Не на польскай, не на латыні, якія найчасцей ужываліся ў прыгожым пісьменстве ў тыя далёкія стагоддзі, пачынаючы ад XVI-га, а менавіта на старабеларускай! І пакуль там яшчэ народзіцца Сімяон Полацкі ды пачне складаць свае знакамітыя “метры”, “рифмы” ды “стихи краесогласные”, акурат за восем гадоў да яго нараджэння, у 1621 годзе, заззяе на беларускім паэтычным небасхіле ўнікальны вершаваны твор *“Польска квитнет лациною”*, пра які доўгі час – больш, чым два стагоддзі – ніхто не будзе ведаць. Твор не пакідае абыякавымі пакаленне за пакаленнем

беларускіх даследчыкаў ад часу яго цудоўнай “знаходкі” і першай публікацыі ў 1842 годзе да сённяшніх дзён. Тэкст гэтага верша даўно кананізаваўся і стаў хрэстаматыйным; усім абазнаным у беларускім прыгожым пісьменстве ён добра вядомы як адзіны з дайшоўшых да нас вершаў Яна Казіміра Пашкевіча. Аднак, адразу заўважым, што тэкст першай публікацыі твора не супадае з пазнейшымі (чаму так, будзем разважаць крыху пазней).

А зараз прывядзем тэкст верша паводле самай першай крыніцы яго апублікавання ў віленскім “Гаспадарскім Календары на 1842 год” у артыкуле “Пра ўсеагульнае ўжыванне рускай мовы да XVIII стагоддзя ў Віленскай і іншых Заходніх губернiях”:

Польска квитнетъ Лациною,
Литва квитнетъ Русчизною;
Той латына языкъ даетъ,
Та безъ Руси не вытрваетъ,
Ведзьже южъ Русь, ижъ тва хвала,
По всемъ свете южъ дойзрела
Веселижъсе ты Русине,
Тва слава никгды незкгине.
*(Месяцословъ, 1842, с. 29)*

Публікацыю тэкста суправаджаў наступны каментар[1]: “Ныне въ 1841 году найдены въ древней тоже рукописи на русскомъ языке Литовскаго Статута, хранящейся въ Библіотеке Виленской Римско-Католической Духовной Академіи, стихи на русскомъ языке, писанные въ первой половине XVII века, подтверждающіе сей историческій фактъ[2]. Вотъ точное ихъ изложеніе: Янъ Казимиръ Пашкевичъ рукою власною писалъ. Року тысеча шестьсотъ дватцать перваго, месяца Августа дватцать втораго дня” (Месяцословъ, 1842, с. 29). Далей ішоў уласна сам тэкст верша, прыведзены вышэй, а пасля яго дадаваліся яшчэ сціслыя палеаграфічныя тлумачэнні і рабіўся падкрэслена ідэалагічны акцэнт на ўжыванні рускай мовы як кніжнай і гутарковай у Вялікім Княстве Літоўскім: “Буквы и почеркъ письма означенныхъ стиховъ совершенно сходны съ теми, которые употреблялись въ XVII веке и въ восточной части Россіи; но въ языке заметны некоторые слова, заимствованныя изъ польскаго, какъ то: рокъ (годъ) квитнетъ (процветаетъ) невытрваетъ (не выдержитъ, не можетъ обойтись). Изъ стиховъ сихъ видно, что языкъ русскій въ XVII веке нетолько былъ употребляемъ въ судопроизводстве и въ изданіи законовъ Литовскаго Княжества, но что онъ былъ въ Литве языкъ книжный и разговорный, что Казимиръ Пашкевичъ, который написалъ означенные стихи, бывъ уроженецъ Литовскаго края, гордился возникающей славою руси и признавалъ тогда[,] въ XVII веке, языкъ русскій необходимостью для литвы; следовательно въ XVII веке, языкъ русскій въ литве былъ общій и господствующій для всехъ обывателей (Месяцословъ, 1842, с. 29-30).

Адразу за першай публікацыяй таксама ў Вільні ў наступным 1843 годзе адбылася і другая – ў артыкуле “Замечанія касательно исторіи Литвы”, змешчаным у прадмове да “Собранія древнихъ грамотъ и актовъ городовъ Вильны, Ковна, Трокъ... (Собраніе, 1843, с. XXII). У тэкст верша былі ўнесены некаторыя папраўкі ў напісанні слоў: у першым радку слова *Лациною*, а ў чацвёртым радку слова *Руси* пісаліся з маленькай літары – *лациною; руси*. А таксама быў крыху скарочаны тлумачальна-каментатарскі тэкст да гэтага верша.

[1] Тут і далей у перадачы цытат графічна літару “яць” перадаем літарай “е”; у астатнім асаблівасці тагачаснай графікі і правапісу захаваныя. – *І.Б.*

[2] Той факт, што “русскій языкъ... былъ общій и господствующій между помещиками Литовскаго Княжества” (Месяцословъ, 1842, с. 29). – *І.Б.*

Такім чынам, у першых віленскіх публікацыях 1842 г. і 1843 г. верш *“Польска квитнет лациною”* меў восем радкоў. У ім адсутнічалі радкі:

Без той в Полсце не пребудешь,
Без сей в Літве блазном будешь.

Ва ўсіх жа сучасных публікацыях, пачынаючы ад “Гісторыі беларускае літаратуры” Максіма Гарэцкага, якая ў 1920-я гг. вытрымала чатыры выданні, верш мае дзесяць радкоў, і менавіта ў такой колькасці радкоў ён кананізаваўся як хрэстаматыйны. Пра крыніцу паходжання тэкста М.Гарэцкі досыць няпэўна пісаў наступнае: “У адным старым рукапісным Літоўскім Статуце быў змешчан гэтакі верш: “Ян Казімір Пашкевіч рукою властною пісал. Року тысяча шэсцьсот двадцаць перваго, августа двадцаць второго дня” (Гарэцкі, 1992, с. 145). Далей падаваўся тэкст, у якім, як ужо згадвалася было 10, а не 8 радкоў, былі і малазначныя адрозненні ў правапісе. Малаверагодна лічыць, што М.Гарэцкі быў знаёмы з публікацыямі ў “Месяцослове” 1842 г. і “Собраніи...” 1843 г. або карыстаўся імі, бо ў першых віленскіх публікацыях, як мы ўжо звярнулі ўвагу, адсутнічалі 3 і 4 радкі, якія потым з’явіліся ў пазнейшых публікацыях.

Паўстае заканамернае і загадкавае пытанне: чаму ў дзвюх першых публікацыях верша Яна Казіміра Пашкевіча аказаліся прапушчанымі згаданыя трэці і чацвёрты радкі, а ва ўсіх наступных яны прысутнічаюць, калі з усёй відавочнасцю верш меў адну і тую самую першапачатковую *рукапісную* крыніцу паходжання – “Стары Літоўскі Статут”, і верш у ім складаецца, паводле фотакопій, з дзесяці радкоў? У далейшых разважаннях паспрабуем адшукаць адказ на гэтае пытанне.

Але напачатку звернемся да тэксталогіі іншых пазнейшых, “поўных”, публікацый твора.

## Кананізацыя верша Яна Казіміра Пашкевіча: тэксталагічны агляд

Верш Яна Казіміра Пашкевіча, як вядома, кананізаваўся і стаў хрэстаматыйным у пазнейшай, поўнай, тэкставай рэдакцыі, якая налічвае дзесяць вершаваных радкоў, злучаных смежнай рыфмоўкай.

Больш дакладную, чым М.Гарэцкі, крыніцу публікацыі верша падаваў у “Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры” (1959) яе складальнік А.Ф.Коршунаў. Тэкст самога верша, змешчаны тут, выглядаў наступным чынам:

* * *

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною;
Без той в Полсце не пребудешь,
Без сей в Литв[е][3] блазнем будешь.
Той лацина езык дает,
Та без Руси не вытрвает,
Ведзь же юж Русь, иж тва хвала
По всем свете юж дойзрала;
Весели ж се ты, Русине,
Тва слава никгды не згине!

*(Хрэстаматыя, 1959, с. 335)*

У падрадковай спасылцы да верша на той самай старонцы ўказвалася, што твор друкуецца “паводле рукапіснага экземпляра Літоўскага Статута першай

[3] У публікацыі А.Коршунава на канцы гэтага слова “яць”, а не “е” – *І.Б.*

рэдакцыі, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Ленінградскай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына". Такім чынам, дакладна пазначалася месца захавання рукапісу, а сам верш трывала замацоўваўся ў адносна невялікім кананічным корпусе старабеларускіх твораў.

У далейшым тэкст верша з невялікімі розначытаннямі ў правапісе паасобных слоў (напрыклад, з выкарыстаннем "і" і "и", або наяўнасці і адсутнасці "ъ" ды інш.) друкуецца ва ўсіх хрэстаматыях і анталогіях па старажытнай беларускай літаратуры. Прывядзем ніжэй чатыры тэксталагічныя ўзоры гэтага верша, змешчаныя ў храналагічным парадку ў найважнейшых у навуковым плане сучасных выданнях, асаблівым чынам звяртаючы ўвагу на пазначэнне крыніцы публікацыі і меркаванні даследчыкаў пра сам твор і яго аўтара.

1) Грунтоўным акадэмічным выданнем пачатку XXI ст. стала *"Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI – XVIII стагоддзя"* (2003). Верш Яна Казіміра Пашкевіча тут блізкі да тэксталагічнай версіі ў "Хрэстаматыі..." А.Ф.Коршунава, хоць і мае некаторыя адрозненні ў рэдактуры паасобных слоў *(Полска, Полсце і Польска, Польще; блазнем і блазном; Русіне і русіне)*:

Пол(ь)ска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною;
Без той в Пол(ь)ще не пребудзеш,
Без сей в Литве блазном будзеш.
Той лацина езык дает,
Та без руси не вытрвает,
Ведзь же юж русь, иж тва хвала,
По всем свете юж дойзрала
Весели ж се ты, русине,
Тва слава никгды не згине!
*(Анталогія, 2003, с. 691)*

Рэдпадрыхтоўка тэкста для гэтага выдання зроблена С.Л. Гараніным, які ўказвае, што тэкст "публікуецца паводле фотакопіі аўтографа". У публікацыі расстаўлены націскі-акцэнты. Даследчык падае наступныя звесткі пра аўтара і коратка характарызуе спецыфіку самога верша: "Біяграфічных звестак пра гэтага паэта амаль не захавалася; магчыма, ён паходзіў з ашмянскай шляхты. Верш Яна Казіміра Пашкевіча па сваім змесце належыць да грамадзянска-патрыятычнай лірыкі. Твор напісаны правільным чатырохстопавым харэем, што паказвае: ужо вельмі рана паэзія пачынала адыходзіць ад неарганічнай для беларускай мовы сілабікі, замяняючы яе сілаба-танічнай сістэмай вершаскладання. Верш захаваўся ў Слуцкім спісе Статута ВКЛ 1529 г. і датаваны 1621 г. Там жа змешчаны яшчэ 5 аўтографаў Яна Казіміра Пашкевіча і запісы іншых асоб, паводле чаго даследчыкі мяркуюць, што твор быў складзены ў Вільні" (Анталогія, 2003, с. 690 – 691).

2) Неўзабаве была выдадзена акадэмічная *"Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў. У 2-х тамах. Т.1.* (2006), дзе ў грунтоўным артыкуле "Паэзія" І.В.Саверчанкі прыводзіўся поўны тэкст верша Яна Казіміра Пашкевіча:

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною.
Без той в Полще не пребудзеш,
Без сей в Литве блазнем будзеш.
Той лацина езык дает,
Та без руси не вытрвает,
Ведзь же юж русь, иж тва хвала,
По всем свете юж дойзрала
Весели ж се ты, русине,
Тва слава никгды не згине.
*(Гісторыя, 2006, с. 619)*

Як можна заўважыць, гэтая публікацыя фактычна спалучае ў сабе тэксталагічныя версіі А.Ф.Коршунава і С.Л.Гараніна, што гаворыць пра тое, што даследчык імкнуўся да стварэння больш дасканалай акадэмічнай версіі тэкста верша Пашкевіча. У сваім артыкуле І.В.Саверчанка даваў даволі разгорнутую акадэмічную інтэрпрэтацыю твора, падкрэсліў прыналежнасць яго да “патрыятычнай плыні”: “У беларускай паэзіі XVII ст. паўстала патрыятычная плынь, найбольш яркай праявай якой з’яўляецца вершаваны твор Яна Казіміра Пашкевіча пад назвай “Полска квитнет лациною...”, датаваны 1621 г. Паэт стварыў сапраўдны гімн роднай мове. Адстойваючы права беларускай мовы на існаванне і падкрэсліваючы яе непераходзячае значэнне ў жыцці ўсяго Вялікага княства Літоўскага, Я.К.Пашкевіч з аптымізмам глядзеў на будучыню беларускага народа, што пацвярджаюць некалькі радкоў ягонага верша <...>”. – Далей цалкам цытаваўся прыведзены вышэй тэкст верша і яшчэ раз рабіўся акцэнт на яго патрыятычным гучанні: “У гэтым адзіна вядомым творы Я.К.Пашкевіча, напісаным у панегірычным стылі, упершыню прагучала актуальная і сёння думка аб тым, што народ жыве да таго часу, пакуль жыве яго мова” (Гісторыя, 2006, с. 618 – 619).

На нашу думку, такая інтэрпрэтацыя, хоць вельмі прывабная, з’яўляецца ўсё ж вялікай нацяжкай і не стасуецца з духам часу, якім датуецца напісанне твора. У пачатку XVII ст. падобныя моўныя праблемы зусім не былі актуальныя на тэрыторыі нашага краю, народ і мова былі ў арганічным адзінстве, мова выконвала сваю натуральную камунікатыўную функцыю, а слава русінаў-ліцвінаў здабывалася пераважна на ратным полі. Заключная ж выснова паважанага даследчыка, відавочна, больш звязана з сітуацыяй, характэрнай для XIX і XX стст., калі беларуская мова рэальна апынулася пад пагрозай знішчэння, а народ – пад пагрозай страты самаідэнтыфікацыі.

3) Праз год І.В.Саверчанка стаў укладальнікам тома “Старажытная беларуская літаратура (XII – XVII стст.), выдадзенага ў серыі “Беларускі кнігазбор” у 2007 г. У гэтым выданні верш Я.К.Пашкевіча надрукаваны ў адпаведнасці з сучаснай беларускай кірылічнай графікай і з некаторымі іншымі асаблівасцямі правапісу (напрыклад, у слове весяліся ўжо ўлічана фанетычная з’ява акання/якання).

Полска квітнет лаціною,
Літва квітнет русчізною.
Без той в Польсце не пребудзеш,
Без сей ў Літве блазнем будзеш.
Той лаціна язык дает,
Та без русі не вытрвает.
Ведзь жэ юж, русь, іж тва хвала,
Па ўсім свеце юж дойзрала.
Весяліся ж ты, русіне,
Тва слава нігды не згіне!
*(Старажытная, 2007, с. 391)*

Крыніца паходжання верша падавалася ўкладальнікам дакладна: “Верш друкуецца паводле рукапіснага арыгінала – Слуцкага спіса Статута 1529 г., які захоўваецца ў Санкт-Пецярбургскай Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы, аддзел рукапісаў, фонд ОЛДП. №368. Арк. 13” (Старажытная, 2007, с. 598).

Звяртаем увагу, што практычна ўпершыню ў гэтым выданні звесткі пра крыніцу паходжання тэксту адсылалі непасрэдна да “рукапіснага арыгінала” Слуцкага спісу першай рэдакцыі Статута ВКЛ 1529 г. і менавіта да аркуша 13, на якім верш быў змешчаны.

Таксама да публікацыі верша ў гэтым выданні даследчык дадаваў свае разважанні, блізкія да тых, што былі ім папярэдне зроблены ў “Гісторыі...”: “Асноўны матыў верша – ухваленне роднай мовы, падкрэсліванне яе выбітнага месца ў жыцці

грамадства і кожнага чалавека. Паводле канцэпцыі аўтара, менавіта мова – зарука вечнай славы, падмурак сацыяльнага і нацыянальнага аптымізму беларусаў-літвінаў" (Старажытная, 2007, с. 391). Такая, у патрыятычным духу, інтэрпрэтацыя "асноўнага матыву верша", безумоўна, мае права на існаванне, аднак яна, як мы ўжо адзначалі, не з'яўляецца арганічнай для ідэйна-светапогляднай прасторы XVII ст., і пафас яе больш адпавядае ўяўленням і жаданням беларусаў канца XIX – XX стст.

4) Варта звярнуць увагу на яшчэ адну публікацыю верша Яна Казіміра Пашкевіча ў аўтарытэтнай анталогіі, складзенай А.У.Бразгуновым, "Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI – XVIII стст." (2011). Тэксталагічна яна спалучае ў сабе правапісныя элементы ўсіх папярэдніх рэдакцый, у якіх адбывалася сучасная навуковая кананізацыя тэксту, і нязначна адрозніваецца ад кожнай з іх (ужываннем "и" замест "і"; *блазном* замест *блазнем*; *Русине* замест *русине*):

Полска квитнет лациною,
Литва квитнет русчизною:
Без той в Полсце не пребудешь,
Без сей в Литве блазном будешь.
Той лацина езык дает,
Та без Руси не вытрвает,
Ведзь же юж, Русь, иж тва хвала
По всем свете юж дойзрала;
Весели ж се ты, Русине,
Тва слава никгды не згине!
*(Славянамоўная, 2011, с. 74).*

У каментары да выдання ўкладальнік таксама пазначыў дакладную крыніцу, паводле якой надрукаваны тэкст гэтага верша: "Собрание древних грамот и актов городов Вильны, Ковна, Трок, православных монастырей, церквей и по разным предметам... Вильно, 1843. Ч. 1. С. XXII – XXIII. Прим. 31" (Славянамоўная, 2011, с. 843). Парадокс, аднак, у тым, што, як мы ўжо звярталі ўвагу, у названым выданні 1843 г. у вершы адсутнічаюць радкі: "Без той в Полсце не пребудешь, // Без сей в Литве блазном будешь". У анталогіі ж верш прыводзіцца ў поўнай рэдакцыі, з уключэннем гэтых радкоў.

Звернем яшчэ раз увагу на дзіўнасць і загадкавасць гэтага верша, якая перадусім бачыцца ў тым, што выкладзеныя ў ім ідэі, па-сутнасці, не адпавядаюць эпосе, у якую ён быў створаны. Паводле верша вынікае, што паўсюдная слава "русіна" звязана менавіта з тым, што "русчізна" (мова) пануе ў Літве, якая метанімічна суадносіцца з "усім светам"; менавіта з гэтай прычыны належыць "весяліцца русіну", што фактычна з'яўляецца ідэалагічнай праявай "панрусізму", характэрнага для значна больш позняга часу. Аднак такой тэндэнцыі не было ў часы Яна Казіміра Пашкевіча, і яе немагчыма звязаць таксама з беларускай патрыятычнай матывацыяй захавання роднай мовы, паколькі ў ідэалогію "панрусізму" яна ніяк не ўпісваецца.

Пэўную нестасоўнасць верша са стылем і духам XVII ст. адзначалі ў наш час таксама і іншыя даследчыкі, падкрэсліваючы ўнікальнасць твора і звяртаючы ўвагу на некаторыя важныя нюансы ў яго разуменні. Звернемся да іх думкі.

## Пра ўнікальнасць верша, або – што з ім "не так": меркаванні даследчыкаў

У тым, што верш "Польска квитнет лациною..." загадкавы, мы ўжо пераканаліся. Чаму ж ён яшчэ і ўнікальны? Таму што ён адзіны, ні з чым не параўнаны і пакрыты, як мы ўжо давялі, мроівам таямнічасці і незвычайнасці. Што мы ведаем пра яго аўтара? Толькі тое, што гэта нехта Ян Казімір Пашкевіч, пра лёс якога нічога невядома. За выключэннем, бадай, аднаго неаспрэчнага факта, што

ён валодаў у свой час Слуцкім спісам Першага Літоўскага Статута 1529 года і зрабіў у тым славутым манускрыпце некалькі ўласнаручных запісаў. Такім чынам, ёсць імя, апавітае легендай, ёсць твор, які захапляе даследчыкаў патрыятычным гучаннем, бо навідавоку тое, як красамоўна і высока аўтар яшчэ ў пачатку XVII ст. узняў прэстыж "русчызны" ў Літве (у тагачасным разуменні – старабеларускай мовы), апаэтызаваў яе, звязаў з ёю славу "русіна", якая "ніколі не згіне". Таму як агульнапрынятая ў літаратуразнаўстве замацавалася думка, што ў вершы "паэт стварыў сапраўдны гімн роднай мове", яе несмяротнасці і славе. Пры гэтым адназначна разумелася, што гаворка ў вершы ідзе пра беларускую мову ў яе тагачасным, старабеларускім, варыянце. Верш, як мы ўжо пісалі вышэй, заняў ганаровую пазіцыю ў невялікім па ліку корпусе тагачасных старабеларускіх твораў як узор грамадзянска-патрыятычнай лірыкі.

Тым не менш рэцэпцыя твора не была адназначнай. Прынамсі ў нашым успрыняцці верш выклікаў не толькі захапленне, але ўсё больш пэўнае адчуванне, што нешта з гэтым шэдэўрам не так, умацоўвалася думка, што гэты верш нейкі дзіўны: вельмі "правільны" сваім патрыятызмам, асабліва з сучаснага гледзішча, і вельмі "няправільны" ў кантэксце свайго часу, неарганічны яму. Некаторае сугучча гэтыя сумненні атрымалі і з думкамі іншых даследчыкаў.

Так, яшчэ ў 1970-я гг. даследчык беларускага вершаскладання М.М.Грынчык выказаў свой погляд на рытміка-інтанацыйныя асаблівасці гэтага верша, зрабіўшы некаторыя вельмі важныя назіранні: "Можна сказаць, што адзіным дайшоўшым да нас узорам васьміскладовіка ў беларускай паэзіі пачатку XVII ст. з'яўляецца верш Яна Казіміра Пашкевіча, напісаны ў час, калі пануючае месца як у польскай, так і ў беларускай версіфікацыі займаў 13-складовік і яго розныя сумежныя ці блізкія формы" (Грынчык, 1973, с. 48). Далей даследчык цытуе верш са спасылкай на "Хрэстаматыю..." А.Ф.Коршунава, аднак у правапісе можна заўважыць адрозненне (у першым радку слова *'лациною'* заменена на *'лацизною'*, відавочна, для больш поўнай сугучнасці рыфмы з *'русчизною'* ў наступным радку).

Далей М.М.Грынчык крытыкуе верш як "узор настолькі запознены, наколькі і недасканалы ў параўнанні з лепшымі дасягненнямі таго часу. Возьмем, напрыклад, "Свентаянскую песню..." Яна Кахаcоўскага", – піша ён і прыводзіць цытату на польскай мове васьміскладовага верша Яна Кахаcоўскага, акцэнтуючы ўвагу на розным узроўні версіфікацыйнай культуры абодвух аўтараў і разважаючы пра тое, чаму верш Кахаcоўскага дасканалы, а Пашкевіча недасканалы. Падсумоўваючы разважанні, даследчык абачліва сцвярджае, што на аснове аднаго верша цяжка рабіць высновы, "аднак можна з упэўненасцю сказаць, што ў пачатку XVII ст. верш гэты *(гаворка пра верш Яна Казіміра Пашкевіча – І.Б.)* па сваёй форме (як і па зместу) з'яўляўся ў значнай ступені **анахранізмам** *(вылучана намі – І.Б.)*, водгукам больш ранняга этапа беларускай версіфікацыі. І яго адзіная перавага перад тагачаснымі беларускімі вершамі, бадай, у адным – у імкненні да рытмізацыі паэтычнага радка, пісанага так званай "кароткай фразай". Сапраўды, няцяжка тут устанавіць блізкую да харэічнай схему. Праўда, у некаторых, асабліва апошніх радках, гэтая схема парушаецца, выяўляючы тэндэнцыю да амфібрахічнай рытмікі" (Грынчык, 1973, с. 49-50).

Па-свойму цікавая таксама думка Ж.В.Некрашэвіч-Кароткай, якая піша пра "вучнёўства", "шкалярства" як ураджанне ад верша Я.К.Пашкевіча. Спачатку даследчыца прыводзіць думку М.І.Прашковіча аб тым, што верш з'яўляецца "сапраўднай хвалой роднай мове і роднай культуры" (Гісторыя, 1968, с. 36). Відавочна, інтэрпрэтацыя М.І.Прашковіча была найбольш ранняй па часе і ўлічвалася пазней іншымі даследчыкамі. Далей у сваім дапаможніку Ж.В.Некрашэвіч-Кароткая прыводзіць вядомыя звесткі пра тое, што "адзіны спіс гэтага верша захаваўся ў першай рукапіснай рэдакцыі Статута ВКЛ 1588 г.[4] Працей кажучы, хтосьці, каго

[4] У кнізе, відаць, дапушчана друкарская памылка: не 1588, а 1529 г. – *І.Б.*

звалі Ян Казімір Пашкевіч (ніякай канкрэтнай інфармацыі пра гэту асобу няма), акуратна запісаў на 13-м аркушы рукапіснай кнігі верш уласнага сачынення. Пры гэтым папярэдзіў тэкст самога верша такімі словамі: “Ян Казимер Пашъкевич рукою властною писал року тисеча шестс[о]т двадцат первого м[е]с[я]ца августа двадцат второг[о] дня”. Ці не нагадвае гэта надзвычай дысцыплінаваная форма запісу выкананне хатняга задання школяром?” – ставіць рытарычнае пытанне даследчыца (Некрашэвіч-Кароткая, 2015, с. 86).

Два вышэй прыведзеныя назіранні аўтарытэтных даследчыкаў пра “анахранізм” і “шкалярства” схіляюць нас да той адзінай высновы, што мастацкія версіфікацыйныя якасці верша Яна Казіміра Пашкевіча не асабліва высокія, і, каб напісаць такі верш, адмысловых паэтычных здольнасцей не патрабавалася. Звернем таксама ўвагу на тое, што Ж.В.Некрашэвіч-Кароткая, як і І.В.Саверчанка, дакладна ўказвае нумар аркуша, а менавіта нумар 13 у архіўным дакуменце, паводле якога друкуецца твор як змешчаны на гэтым аркушы. Гэта важна, таму што, як не супадае колькасць радкоў у вершы, так не супадае, як выявіцца, і нумар аркуша, на якім верш запісаны. Ніжэй разгледзім гэтую з’яву, а зараз проста ўлічым названае несупадзенне, якое дадаткова паглыбляе адчуванне, што з вершам штосьці “не так”.

## Верш як “ідэалагічны праект” Расійскай імперыі

Загадкавы і таямнічы верш Яна Казіміра Пашкевіча на пэўным этапе прымусіў нас засумнявацца ў яго аўтэнтычнасці.

**Першае**, што выклікала сумненне, – гэта відавочная **тэндэнцыйнасць яго ідэі**, якая не стасавалася з атмасферай таго часу ў Вялікім Княстве Літоўскім і з існаваннем “русчізны” на тэрыторыі гістарычнай Літвы (Беларусі). Рэальна ніякага “панрусізму” не было ў тагачаснага русіна-беларуса, а была свая годная гісторыя са сваімі праблемамі грамадска-палітычнага, культурнага і іншага характару. На той час было б пераборам сцвярджаць, што слава Русі (Беларусі) грыміць “па ўсім свеце” з той прычыны, што “русчізна” пануе ў Літве. Тое, што “русчізна” пануе ў Літве, успрымалася як належнае, а не як нешта экстраардынарнае, бо на “русчізне” тут, а не “па ўсім свеце”, мелі Біблію і Звод законаў. Не выпадае ўспрымаць верш і як пэўнае “прароцтва” пра будучую несмяротную славу “русіна” (беларуса), бо калі мы задумаемся над гістарычнымі перыпетыямі, звязанымі з гісторыяй беларускай дзяржаўнасці і статусам беларускай мовы, то сітуацыя тут выглядае хутчэй пакутнай і цяжкай, перарывістай і ахвярнай, чым слаўнай і парадная.

З другога боку, калі мы перанясем ідэйны змест гэтага верша на расійскую гісторыю і мову тагачаснай Расійскай імперыі, якая з канца XVIII ст. запанавала на тэрыторыі Літвы-Беларусі, то пабачым, што ідэйны “панрусізм” твора добра стасуецца з ідэалагічнай атмасферай 1840-х гг., калі з’явіліся першыя публікацыі верша ў віленскіх выданнях. На гэты час менавіта слава расійскай дзяржавы збройна распаўзалася “па ўсім свеце” з-за захопу велізарных тэрыторый, у тым ліку былой Рэчы Паспалітай. Актуальнай задачай Расійскай імперыі было абгрунтаваць і замацаваць у гістарычнай Літве (Беларусі) правы на так званыя “исконно руские земли”, а мова старажытных помнікаў у нашым краі – мова “руская”, або старабеларуская, давала для гэтага грунт. Не ішлося тут аб правах і статусе беларускай мовы, але менавіта “рускай” – у значэнні афіцыйнай мовы Расейскай імперыі, якой трэба было апраўдаць тут сваё панаванне.

**Другая** прычына сумненняў – разыходжанні ў колькасным складзе радкоў верша (восем у першых дзвюх публікацыях і дзесяць ва ўсіх наступных, якія адсылаюць да рукапіснай копіі першай рэдакцыі Статута ВКЛ 1529 г., што захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Санкт-Пецярбургскай Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі, з прывядзеннем адпаведнай старонкі ў якасці ілюстрацыі, паводле

якой можна пераканацца, што верш складаецца менавіта з дзесяці радкоў). Чаму ж тады два радкі аказаліся прапушчанымі ў віленскіх выданнях 1842 і 1843 гг.?

Спрыяла паглыбленню сумнення і разыходжанне ў нумарацыі старонкі манускрыпта, на якой верш быў запісаны: калі гэта адзін і той самы рукапіс, то старонка, відавочна, павінна супадаць. Аднак адны крыніцы называюць 13-ю старонку рукапісу, на якой змешчаны верш, іншыя – 25/27, што выразна бачна і на ілюстрацыйнай фотакопіі ў аўтарытэтным навуковым выданні (Pirmasis, 1983, с. 85).

**Трэцяя** прычына сумненняў палягае ў самой **загадкавай гісторыі** "знаходкі" твора, гісторыі яго далейшых публікацый і пакручастым лёсе аўтэнтычнай рукапіснай крыніцы – Слуцкага спісу Першага Літоўскага Статута 1529 г., аб чым будзе распавядацца далей.

Цяпер жа, на аснове выказаных сумненняў, сфармулюем нашу **навуковую гіпотэзу:** існуе пэўная загадка верша Яна Казіміра Пашкевіча, а разгадка яе ў тым, што гэты твор – не аўтэнтычны верш пачатку XVII ст., што "моўны" патрыятызм яго не звязаны з беларускай мовай, а хутчэй мае дачыненне да свядомай апалагетыкі "рускага свету"; што "руская мова" ("русчізна") Літвы, якую славіць аўтар верша, гэта не мова Скарыны (не старабеларуская кніжная мова), а мова Расійскай імперыі, якая шукала спосабаў апраўдання свайго панавання на далучаных землях, абгрунтавання іх заваёвы і доказнасці аддзялення Літвы-Русі ад польскага моўнага дыскурсу. З гэтага гледзішча верш быў напісаны зусім не ў 1621 годзе і не Янам Казімірам Пашкевічам, а быў прыпісаны яму значна пазней з вельмі празрыстай і практычнай ідэалагічнай мэтай: давесці, што на землях Літвы (Беларусі) спрадвеку пануе ў якасці кніжнай і гутарковай "руская" мова, якая атаясамлівалася з тагачаснай расійскай, а, значыць, панаванне там Расійскай імперыі цалкам апраўданае і мэтазгоднае. Такім чынам, справа тычыцца досыць удалай містыфікацыі, настолькі ўдалай, што верш быў залічаны ў прарочыя шэдэўры нацыянальнага прыгожага пісьменства і трывала замацаваўся ў падручніках і хрэстаматыях. Гэты містыфікацыйны "ідэалагічны праект" Расійскай імперыі паспяхова выканаў расійскі чыноўнік Аляксей Васільевіч Сямёнаў, прысланы ў 1840 годзе ў Вільню ў якасці цывільнага генерал-губернатара, які атрымаў потым за сваю службу належныя ўзнагароды: "монаршее благоволеніе", ордэн, вучонае званне.

Як такое магло здарыцца? Адказ на гэтае пытанне можна знайсці, аналізуючы матэрыялы, звязаныя са знаходкай і першымі публікацыямі верша. Таму звернемся да адпаведных крыніц і паспрабуем зрабіць герменеўтычную рэканструкцыю гісторыі яго ўзнікнення.

## «Дело о стихахъ…», або Гісторыя адмысловай містыфікацыі

Некалькі крыніц дапамогуць нам у справе разгадкі таямніцы гэтага верша. Першая крыніца, гэта артыкул паважанага Г.Кісялёва "Як знайшлі верш" у яго кнізе "Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы" (1982).

У гэтым артыкуле, як заўсёды ў працах Г.Кісялёва, многа важнай канкрэтнай інфармацыі, заснаванай на архіўных матэрыялах, якая выклікае на роздум. Пачынаўся артыкул са справы канцылярыі віленскага цывільнага губернатара за 1841 – 1842 гады, якая называецца "Пра вершы, знойдзеныя ў старажытных рукапісах Літоўскага статута", спасылка даследчыка ўказвала, што справа захоўваецца ў "ЦДГА Літ. ССР, ф. 380, воп. 80, спр. 260" (Кісялёў, 1982, с. 23). Некалькі гадоў назад, ідучы слядамі Г.Кісялёва, мы таксама пазнаёміліся ў Вільні з гэтай архіўнай справай, якая ў арыгінале мае загаловак: "Дело. О стихахъ найденныхъ въ древнихъ рукописяхъ Литовскаго Статута". Менавіта пра верш Яна Казіміра Пашкевіча гавораць дакументы гэтай архіўнай справы, на якую абапіраецца Г.Кісялёў. Перакажам некаторыя ключавыя моманты яго артыкула.

Найперш Г.Кісялёў слушна звяртае ўвагу на тое, што пасля разгрому паўстання

1830-1831 гг. і пасля выкрыцця змовы Сымона Канарскага ў 1839 г. царскія ўлады прыступілі да больш пільнага і ўзмоцненага кантролю над літвінска-беларускім краем, вырашыўшы звярнуцца ў гэтых мэтах да гісторыі. У той час "цывільным губернатарам у Вільні быў з кастрычніка 1840 года былы дзекабрыст, член Саюза Працвітання Аляксей Васільевіч Сямёнаў" (Кісялёў, 1982, с. 23). Далей даследчык апісвае гістарычныя і бібліяфільскія зацікаўленні Сямёнава, тое, што ён працаваў у архівах і бібліятэках Вільні, "з цікавасцю знаёміўся з гісторыяй краю" (Кісялёў, 1982, с. 24). Цікавасць Сямёнава да гісторыі літвінска-беларускага краю, дзе ён аказаўся "цывільным губернатарам", на нашу думку, усё ж была выклікана не столькі жаданнем пашырыць свой культурны дыяпазон, колькі імкненнем апраўдаць сваё знаходжанне на адказнай дзяржаўнай пасадзе.

Сродкам падпарадкавання далучаных да Расійскай імперыі земляў станавілася на гэтым этапе не зброя, а культура. Сямёнаў даволі паспяхова выканаў задачу апраўдаць з культурна-гістарычнага боку інкарпарацыю былога Вялікага Княства Літоўскага Расійскай імперыяй, для гэтага ён знаёміўся з мясцовымі пісьмовымі помнікамі, напісанымі на старабеларускай мове. Пры гэтым тагачасная "русчізна" (старабеларуская мова), якая сапраўды была і гутарковай, і кніжнай у Літве-Беларусі, тэндэнцыйна атаясамлівалася Сямёнавым з афіцыйнай мовай Расійскай імперыі, чым і абгрунтоўваліся "правы" апошняй на гэтыя землі. Менавіта аб такім ідэалагічным імперскім падыходзе і сведчыць "Дело о стихахъ...". Сямёнаў ахвоча і з імпэтам прыняўся за справу, якая да таго ж давала выдатную магчымасць выслужыцца перад імператарам.

"Па ініцыятыве і, здаецца, нават на сродкі Сямёнава быў падрыхтаваны і выпушчаны двухтомны "Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Вільні, Коўна, Трок" (складальнікі А.Марціноўскі і В.Нарбут)", – піша Г.Кісялёў і цытуе далей у сваім перакладзе данясенне Сямёнава міністру ўнутраных спраў ад 8 красавіка 1841 года: "У старажытным рукапісе Літоўскага статута, які зберагаецца ў бібліятэцы Віленскай каталіцкай духоўнай акадэміі, знойдзены мною верш на рускай мове, пісаны ў першай палове XVII стагоддзя, вельмі выдатны ў гістарычных адносінах. Адлітаграфаваўшы некалькі здымкаў з яго, абавязкам палічыў прадставіць пры гэтым тры экземпляры на меркаванне вашага сіяцельства. Верш гэты, як маеце ласку бачыць, пацвярджае гістарычны факт, што мова руская ў XVII стагоддзі не толькі ўжывалася ў судаводстве і ў выданні законаў Літоўскага княства, але што яна была ў Літве мовай кніжнай і гутарковай, што Казімір Пашкевіч, які напісаў згаданы верш, будучы ўраджэнцам Літоўскага краю і каталікам (як сведчыць яго імя), ганарыўся ўзнікаючай славай Русі і прызнаваў тады, у XVII стагоддзі, мову рускую неабходнасцю для Літвы; значыць, у XVII стагоддзі мова руская была агульнай і пануючай у Літве для ўсіх абывацеляў, нягледзячы на розніцу веравызнанняў <...> Ці не пажадана будзе вашаму сіяцельству дазволіць згаданы рукапіс Літоўскага статута як старажытны і выдатны ў гістарычных адносінах даставіць у імператарскую Санкт-Пецярбургскую публічную бібліятэку?" (Кісялёў, 1982, с. 24-25).

Далейшыя перыпетыі, у пераказе Г.Кісялёва, выглядаюць наступным чынам: "У пісьме ад 24 красавіка 1841 года ўпраўляючы міністэрствам граф Строганаў «пажадаў», каб рукапіс даслалі яму. Сямёнаў забраў каштоўны манускрыпт у біскупа Клангевіча, але чамусьці перасылка рукапісу ў Пецярбург затрымалася ажно да сакавіка 1842 года, нягледзячы на шматлікія напамінкі канцылярыі міністэрства ўнутраных спраў і віленскага біскупа" (Кісялёў, 1982, с. 25). Такім чынам, вакол "каштоўнага манускрыпта" разгортваецца сапраўдная інтрыга, якая дае падставу для роздуму і супастаўленняў. Пра што яна, на нашу думку, сведчыць?

Як вядома, біскуп Клангевіч памёр у 1841 г., не дачакаўшыся звароту рукапісу. Біскуп Цывіньскі, яго пераемнік, напісаў Сямёнаву некалькі лістоў з просьбай

вярнуць рукапіс, аднак безвынікова! У трэцім сваім лісце біскуп ужо прасіў прыслаць рукапіс прама ў міністэрства, што, відавочна, адпавядала інтарэсам Сямёнава, бо давала магчымасць схаваць падробку: ніхто з тых, хто бачыў да Сямёнава рукапіс і ведаў яго сапраўдны стан, больш ніколі не змог гэты рукапіс пабачыць! Не здзіўляе і затрымка з далейшай адпраўкай рукапісу ў міністэрства, аб чым таксама ёсць некалькі згадак у "Деле о стихахъ...", бо для прыгатавання літаграфічных адбіткаў верша-падробкі патрабаваўся пэўны час і тэхналагічныя навыкі. Тэхналогія літаграфіі была на той час ужо добра распрацаваная і даступная для выканання. Пры дапамозе яе было магчымым зрабіць адпаведныя копіі-адбіткі, кожны з якіх лічыўся б арыгіналам.

Г.Кісялёў у сваім артыкуле даў іншае тлумачэнне, чаму адбывалася затрымка: "Хутчэй за ўсё так сталася таму, што Сямёнаў хацеў спачатку надрукаваць верш Пашкевіча ў Вільні, а таксама зняць дакладную копію з усяго рукапісу. Верш з'явіўся ўпершыню ў віленскім календары "Месяцослов хозяйственный на 1842 год", у тэксце артыкула "Пра ўсеагульнае ўжыванне рускай мовы да XVIII стагоддзя ў Віленскай і іншых заходніх губернiях". У артыкуле, які з'яўляецца як бы каментарыям да верша, прыводзіліся цытаты з Літоўскага Статута пра "рускую" мову – дзяржаўную ў межах Вялікага Княства Літоўскага – і адзначалася: "Архіў былога Літоўскага трыбунала (які быў галоўным судом) і архівы іншых судоў гэтых губерняў гэта самае пацвярджаюць, бо ўсе справы ў іх да 1697 года, гэта значыць, да пачатку XVIII стагоддзя, пісаны на адной рускай мове" (Кісялёў, 1982, с. 25). Далей Г.Кісялёў згадваў, што верш двойчы быў апублікаваны ў Вільні – другі раз у 1843 г. у прадмове да "Збору старажытных грамат...", якая мела назву "Замечания касательно истории Литвы".

Высновa Кісялёва з прааналізаванага архіўнага матэрыялу была вельмі трапная: "Як мы бачылі, царскія ўлады (і губернатар Сямёнаў не быў у гэтых адносінах выключэннем) зацікавіліся вершам Пашкевіча перш за ўсё як дадатковым гістарычным доказам правоў Расіі (чытай: царскага ўрада) на Літоўска-Беларусі край. "Руская мова" Літоўскага статута, "русчизна" верша Пашкевіча атаясамліваліся з рускай мовай у цяперашнім разуменні. Гэтаму спрыяў слабы ўзровень тагачаснай навукі. Спроба палеаграфічна-лінгвістычнага аналізу верша Пашкевіча, дадзеная ў згаданым артыкуле з "Месяцослова" і паўтораная потым у прадмове да "Збору старажытных грамат", – даволі бездапаможная: "Літары і почырк пісьма згаданага верша зусім падобныя на тыя, якія ўжываліся ў XVII стагоддзі і ва ўсходняй частцы Расіі, але ў мове прыкметны некаторыя словы, узятыя з польскай, напрыклад: рок (год), квитнет (процветает), не вытрвает (не выдержит, не может обойтись)" (Кісялёў, 1982, с. 25-26). Далей у сваім артыкуле Г.Кісялёў тлумачыў, што верш Пашкевіча напісаны на старабеларускай мове, не тоеснай рускай мове ў сучасным разуменні; падкрэсліваў, што гэта "выдатны ўзор старажытнай беларускай літаратуры"; згадваў пра заслугі і далейшы лёс Сямёнава, які быў урэшце ў 1853 г. абраны правадзейным членам Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім універсітэце.

Паўстае заканамернае пытанне: а ці быў "хлопчык"? То бок, ці быў насамрэч верш Пашкевіча ў Слуцкім спісе Літоўскага статута 1529 года? Мы ўжо выказвалі вышэй свае сумненні, а цяпер дадаткова пераканаліся, што напісаць падобны верш (даволі прымітыўны ў мастацкіх адносінах, сапраўды "шкалярскі") мог той жа Сямёнаў, для якога гэта не было дужа складанай задачай як з мастацкага боку, так і з тэхнічнага: Сямёнаў быў адукаваным гуманітарыем, і на той час ужо была вынайдзеная тэхналогія літаграфавання, якая, хоць патрабавала адмысловых прыладаў, аднак была даступная і танная для выканання.

Не будзем сцвярджаць, што цывільны генерал-губернатар адразу паставіў сабе за мэту напісаць верш-падробку ў духу ідэалогіі "панрусізму". Але падобная думка

магла натуральным чынам у яго ўзнікнуць пры вывучэнні гістарычных дакументаў заваяванага краю, асабліва калі ён пазнаёміўся са Слуцкім спісам Літоўскага Статута 1529 года, узятым у біскупа Клангевіча, і пабачыў там даволі шмат пустых аркушаў, не запоўненых асноўным юрыдычным тэкстам, але запоўненых часам не датычнымі да гэтага тэксту запісамі, зробленымі рознымі аўтарамі ў розныя часы. Калі верыць таму, што верш Яна Казіміра Пашкевіча ўжо сапраўды быў запісаны ў 1621 г. на старонках манускрыпта, а Сямёнаў толькі яго "знайшоў" і апублікаваў, тады актуальным робіцца ўвесь той комплекс сумненняў, пра які мы напісалі вышэй. Калі ж дапусціць, што такога верша першапачаткова ў манускрыпце не было, а ідэя яго "стварэння" была ўвасоблена менавіта Сямёнавым, то ўсе сумненні адпадаюць, а нестасоўнасці робяцца зразумелымі і набываюць лагічнае вытлумачэнне.

Такім чынам, Сямёнаву магло паказацца недастатковым толькі таго сведчання, што мясцовыя помнікі справаводства былі напісаны кніжным "рускім пісьмом", яму неабходна было таксама давесці, што "русчізною", якую ён атаясамліваў з тагачаснай расійскай мовай, паслугоўвалася і ў сваім штодзённым побыце ўсё насельніцтва даўняй Літвы (Беларусі). Ён паспяхова выканаў пастаўленую ідэалагічную задачу, не толькі "знайшоўшы" верш адпаведнай моўнай тэматыкі ў Слуцкім спісе Першага Літоўскага Статута, але, галоўнае, пампезна прапіярыўшы яго ў двух выданнях – "Гаспадарскім Календары" ("Месяцослове") на 1842 год і "Зборы старажытных грамат..." 1843 года. За падрыхтоўку і выданне "Збора...", што асабліва ставілася ў заслугу Сямёнаву, бо сведчыла пра паспяховае выкананне русіфікатарскай місіі, ён атрымаў афіцыйна аб'яўленае яму 19 мая 1843 г. "Монаршее благоволеніе"[5], а 27 мая 1843 г. пісьмом ад Міністэрства ўнутраных спраў яму было паведамлена, што "Государь Императоръ Всемилостивейше соизволилъ пожаловать его Кавалером ордена Св. Анны 1-й степени"[6].

Што датычыць апублікаванага ў выданнях 1842 г. і 1843 г. верша Яна Казіміра Пашкевіча, то першапачатковы варыянт яго, як было засведчана ў гэтых публікацыях, складаўся з васьмі радкоў. Чаму ж іх у пазнейшых публікацыях аказалася дзесяць? Магчыма, Сямёнаў у працэсе тэхнічнай падрыхтоўкі літаграфічных адбіткаў так прасякнуўся натхненнем, што дапоўніў твор яшчэ двума радкамі, каб яшчэ больш удасканаліць і ўзмацніць яго ідэю. Менавіта гэтая, дапоўненая, версія трапіла ў сам рукапіс. Падрабіць почырк было не дужа складана, бо шматлікія надпісы і ўстаўкі ў рукапісным тэксце помніка, наяўнасць пустых старонак у ім стваралі для гэтага ўмовы, давалі належную прастору для натхнення.

Заслугоўвае асаблівай увагі і дата напісання верша. Вернемся ў гэтай сувязі да цытаванага намі вышэй па кнізе Г.Кісялёва ліста-данясення Сямёнава ад 8 красавіка 1841 г. пра цудоўную знаходку верша як сведчанне паўсюднага ўжывання "рускай" мовы ў Літве. У арыгінале гэтага ліста (чыставік з праўкамі), які захоўваецца ў "Деле о стихахъ...", ёсць апушчаны Г.Кісялёвым, аднак вельмі красамоўны фрагмент, які сведчыць пра асаблівыя старанні Сямёнава выслужыцца перад імператарам. Працытуем фрагмент у арыгінале: "Замечательно также, что стихи сіи, въ коихъ изложено какъ бы предсказаніе о будущей славе России, писаны въ 1622 году 22 Августа, то есть слишкомъ за 200 летъ въ то число, въ которое ныне Россія празднуетъ [залогъ своей славы и благоденствія] день коронованія ныне благополучно Царствующаго Государя Императора" (Дело, арк. 3). Імператар Мікалай I быў каранаваны 22 жніўня 1826 г. Такім чынам, як вынікае з дакумента, дата напісання верша – дзень і месяц – былі не выпадковыя, а сімвалічныя: верш нібы спецыяльна быў прымеркаваны да гэтага дня імператарскай і імперскай славы Расіі, на што Сямёнаў у лісце звяртае асаблівую і падкрэсленую ўвагу адрасата.

---

[5] Гістарычны архіў Літвы. Ф. 378, воп. 48, спр. 1477, арк. 47.
[6] Гістарычны архіў Літвы. Ф. 378, воп. 48, спр. 1477, арк. 48.

Дзівіць толькі, чаму ў лісце ён недакладна, у выніку апіскі або няўважлівасці, указвае год напісання верша (1622 замест 1621, адпаведна аўтографу).

Сама ж ідэя містыфікацыі была простая да геніяльнасці, а яе рэалізацыя была толькі справай часу і "тэхнікі", якімі і тлумачыцца затрымка з "вяртаннем" рукапісу, а пазней з яго дастаўкай у міністэрства. Не выключана, што біскуп Клангевіч адправіўся на той свет раней часу ў тым ліку з прычыны перажыванняў наконт бясцэннага рукапісу, які беззваротна трапіў у рукі ўплывовага імперскага чыноўніка – прадстаўніка тагачасных "уладароў жыцця".

Менавіта так можа выглядаць, паводле нашай герменеўтычнай рэканструкцыі, гісторыя стварэння верша Яна Казіміра Пашкевіча – як легендарная "падробка" XIX стагоддзя, адмыслова выкананая ў ідэалагічных мэтах расійскім чыноўнікам А.В.Сямёнавым. Гэтая выснова пацвярджаецца і некаторымі дадатковымі аргументамі, якія можам знайсці ў іншых друкаваных крыніцах. Звернемся да гэтых крыніц.

## Слуцкі спіс Першага Літоўскага Статута 1529 г. вачамі Ігната Даніловіча і сучасных гісторыкаў

Ігнат Даніловіч, вядомы прафесар Віленскага ўніверсітэта, адным з першых займаўся гістарыяграфічным вывучэннем розных спісаў Першага Літоўскага Статута 1529 г., у тым ліку Слуцкім спісам. Ён рыхтаваў да друку зводную рэдакцыю помніка кірыліцай, аднак не атрымаў дазволу царскіх уладаў на яе апублікаванне ў Расійскай імперыі і апублікаваў у Познані ў 1841 г. "польскім алфавітам", пры дапамозе і рэдактарскай працы Іахіма Лялевеля, паклаўшы ў аснову Дзялыньскі спісак як адзін з найбольш, на яго думку, аўтэнтычных і прыдатных. Пазнаньская публікацыя, зусім верагодна, магла быць дадатковым стымулам для прыспешвання "асветніцкай" дзейнасці Сямёнава, які неўзабаве ў 1842 г. і 1843 г. зробіць свае публікацыі ў Вільні з сенсацыйным адкрыццём верша Яна Казіміра Пашкевіча.

І.Даніловіч яшчэ ў 1823 г. у віленскім перыядычным выданні "Dziennik Wileński" зрабіў падрабязнае бібліяграфічнае апісанне Слуцкага спісу Першага Літоўскага Статута, а таксама дадатковых надпісаў у ім у артыкуле на польскай мове пад назвай "Opisanie bibliograficzne dotąd znanych exemplarzy Statutu Litewskiego, rękopiśmiennych i edycyy drukowanych, tak w ruskim oryginalnym, jako też polskim i łacińskim języku" ("Бібліяграфічнае апісанне вядомых на гэты час рукапісных і друкаваных экземпляраў Статута Літоўскага, як у рускім арыгінале, так таксама на польскай і лацінскай мовах").

У прыватнасці, вось што ён пісаў пра аўтографы Пашкевіча, якія бачыў на ўласныя вочы, калі рукапіс яшчэ не трапіў да Сямёнава: "У Бібліятэцы Віленскага ўніверсітэту <...> рукапіс Статуту першага Літоўскага, <...> пісаны ест на паперы простай, характарам прапарцыянальным, кшталтным і чытэльным, па-руску, чорным атрамантам, без ніякіх аздоб, верагодна, адразу пасля року 1564, са з'яўленнем другой рэдакцыі, скапіраваны: бо на тытуле ўжо старым называецца; належаў да нейкага Яна Казімежа Пашкевіча, які пустыя старонкі пасля кожнага раздзелу, каля року 1654, *канцэптамі забазграл (вылучана намі – І.Б.)*. Пазней перайшоў да бібліятэкі Казімежа Клакоцкага..." (Daniłowicz, 1823, s. 388). Як бачым, пра верш Пашкевіча "Польска квитнет лациною", як і пра дату 22 жніўня 1621 года, калі ён быў напісаны, Даніловіч зусім нічога не згадвае, пазначыўшы ўсе запісы Пашкевіча як "канцэпты", да таго ж ужыўшы стылістычна даволі грэблівы выраз *zabazgrał*[7], што літаральна азначае *накрэмзаў каракулямі*, і зрабіў гэта "каля року 1654". Бо 1654 годам пазначаны ўжо запісы наступнага ўладальніка Людвіка Дамарадскага. Неверагодна дапусціць думку, што Даніловіч не звярнуў бы ўвагі на верш, не адзначыў бы яго асобна, калі б верш насамрэч там быў, а тым больш не згадаў бы дату 1621 год, пераскочыўшы адразу на 1654 год. Тлумачэнне тут адно: калі І.Даніловіч у 1823 годзе рабіў апісанне Слуцкага спісу Першага Літоўскага Статута, даты 22.VIII.1621 і верша "Польска квітнет лаціною" як аўтографаў Яна Казіміра Пашкевіча там не было!

У 1983 г. у Вільнюсе пабачыла свет грунтоўнае акадэмічнае выданне на літоўскай і рускай мовах “Pirmasis Lietuvos Statutas...=Первый Литовский Статут: Палеографический и текстологический анализ списков”, аўтары С.Лазутка і Э.Гудавічюс. У выданні характарызуюцца ўсе вядомыя спісы Першага Літоўскага Статута, у тым ліку даецца падрабязнае апісанне Слуцкага спісу. Як вынікае з прадмовы, назвы спісам даваў той самы І.Даніловіч, узяўшы за аснову ідэнтыфікацыі месца іх паходжання альбо прозвішча ўладальніка: напрыклад, Слуцкі спіс атрымаў назву паводле першапачатковага знаходжання ў бібліятэцы езуіцкай калегіі г. Слуцка, дзе рукапіс захоўваўся з канца XVII ст. да 1816 г., пасля чаго трапіў у Вільню (Pirmasis, 1983, с. 14).

У спецыяльным артыкуле, прысвечаным Слуцкаму спісу, асвятляецца гісторыя яго ўзнікнення і захавання, палеаграфічныя і тэксталагічныя асаблівасці; прыводзяцца звесткі пра верш Пашкевіча, які апісваецца як змешчаны на 25/27 старонцы рукапісу (а не на 13-й старонцы, як пазначаецца ў сучасных беларускіх каментарах да верша); даецца фотакопія адпаведнага аркуша з вершам, на якой выразна бачны нумар аркуша – 25/27.

Ёсць у артыкуле і цікавыя згадкі пра асаблівасці нумарацыі старонак: не пранумараваны два апошнія чыстыя аркушы з больш познімі (1622 г.)[8] запісамі пра прыватныя справы розных асобаў, а таксама два чыстыя аркушы ўнутры кнігі, адзін з іх вырваны, адзін пранумараваны пазней іншымі чарніламі (па парадку старонак пад нумарам 25-26, па прычыне чаго нумары гэтых старонак паўтораны двойчы). Нумарацыя, на думку аўтараў артыкула, па ўсёй верагоднасці, рабілася яшчэ ў Слуцкай езуіцкай калегіі перад перапляценнем (Pirmasis, 1983, с. 77-78).

У Пецярбург рукапіс трапіў, на думку аўтараў артыкула, пасля пераводу туды ў 1844 г. Рымска-каталіцкай акадэміі з Вільні, а ўпершыню ён згадваецца ў ліку рукапісаў “Імператарскай бібліятэкі” ў справаздачы за 1857 год. На нашу думку, рукапіс Слуцкага спісу Першага Літоўскага Статута не мог трапіць туды з пераводам Віленскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, паколькі на той момант ён там не знаходзіўся. Ён трапіў у пецярбургскую бібліятэку або пасля сакавіка 1842 г., паколькі ў данясенні Сямёнава Міністру ўнутраных спраў ад 31 сакавіка 1842 г. паведамлялася, што ён ужо пасылае рукапіс (Дело, арк. 12). Найбольш верагодна, аднак, што рукапіс трапіў у паўночную сталіцу імперыі іншым шляхам і значна пазней, ужо прайшоўшы праз рукі А.В.Сямёнава, магчыма, пасля 1854 г., калі Сямёнаў зрабіў яшчэ адну, гэтым разам у Маскве, публікацыю “Старога Літоўскага Статута 1529 года” – у 18 томе “Временника Императорскаго Московскаго общества истории и древностей россійскихъ”, але аб гэтым крышку пазней.

Цяпер жа звернем асаблівую ўвагу яшчэ на тое, як у дадзеным артыкуле апісваюцца аўтографы Яна Казіміра Пашкевіча: “На бывшей чистой странице 24 – шесть надписей-автографов Яна-Казимира Пашкевича, видимо, тогдашнего владельца рукописи; первые четыре автографа написаны кириллицей, а последние два – по-польски. После первых полных двух собственноручных подписей: «Ян[ъ] Казимер[ъ] Пашкевич[ъ]» следует надпись: «рукою своею пописал[ъ]». Почерк четырёх последних автографов несколько отличается от первых двух, а также от автографов, даты (22.VIII.1621) и стихотворения на следующей 25-й странице бывшего чистого листа (оборотная 26-я страница которого так и осталась чистой), сделанных рукою Я.-К. Пашкевича. Стихотворение широко известно в литературе, неоднократно печаталось его факсимиле. Автографы сделаны в стилизованной размашистой манере. Что автор был весьма образованным для своего времени человеком и хорошо владел искусством письма, показывают особенно витиеватые инициалы автографов на странице 24. <...>

---

[7] Zabazgrał – скрэмзаў каракулямі (*пол.*).

[8] Магчыма, менавіта гэта дата стала прычынай “апіскі” ў вышэй цытаваным лісце Сямёнава, бо ён першапачаткова мог пабачыць яе ў рукапісе.

Рукописью Пашкевич пользовался долго, возможно, около 30 лет. Об этом могут свидетельствовать автографы и надписи Людвика Домарадзкого. <...> На странице 25 рядом с автографами и стихотворением Я.-К. Пашкевича 30.I.1654 г. оставил свой автограф Людвик Домарадзкий" (Pirmasis, 1983, сс. 84-86, 88).

Пра што сведчаць гэтыя звесткі? Пра тое, што шэсць аўтографаў Яна Казіміра Пашкевіча, у аўтэнтычнасці якіх не даводзіцца сумнявацца, былі размешчаны на старонцы 24 рукапісу. На старонцы 25 былі *паўтораныя* тыя ж два аўтографы («Ян[ъ] Казимер[ъ] Пашкевич[ъ]» і «рукою своею пописал[ъ]»), а да іх дадаваліся дзень, месяц і год – 22.VIII.1621, якімі датуецца напісанне верша, і сам тэкст верша. Збоку справа на гэтай жа старонцы былі ўжо аўтографы Дамарадскага, пазначаныя 1654 годам.

Акрэсленая вышэй сітуацыя выглядае фантасмагарычна, паколькі ў ёй няма лагічнага адказу на два пытанні. Першае: навошта Пашкевічу было паўтараць свае імя і прозвішча, а таксама сведчанне ўласнаручнасці запісу на наступнай старонцы, калі яны ўжо былі запісаны на папярэдняй? Другое: навошта Дамарадскаму было шчаміцца больш чым праз трыццаць гадоў на амаль запоўненую старонку, калі ў рукапісе былі пустыя? Зазначым, што гэтыя пытанні маюць лагічнае вытлумачэнне толькі тады, калі прыняць пад увагу магчымасць падробкі.

Дапаўняе фантасмагорыю яшчэ адна заўвага ў гэтым артыкуле, важная ў святле нашых разважанняў: "<...> надо учитывать обыкновение тогдашних писарей менять манеру письма, наглядное тому подтверждение – надписи Я.-К. Пашкевича. (Pirmasis, 1983, с. 88). Такім чынам, "манера пісьма" Пашкевіча ахарактарызавана сучаснымі даследчыкамі як "пераменчывая". Што гэта значыць? Тое, што на 24-й старонцы была адна "манера пісьма", а на 25-й ужо іншая! Не пабаімся сцвердзіць, што ў дадзеным выпадку згадка пра "пераменчывасць" пісьма можа сведчыць не толькі пра рэальную магчымасць падробкі, але нават пра сам факт яе здзяйснення.

У канцы артыкула ёсць таксама апісанне копіі Слуцкага спісу, што захоўваецца ў "Ленінградскай бібліятэцы АН СССР, якая была зроблена бібліятэкарамі Пецярбургскай бібліятэкі неўзабаве пасля таго, як ён туды трапіў. Копія зроблена не механічна, тэкст спісу транскрыбіраваны рускім пісьмом сярэдзіны XIX ст.", у блізкім да арыгіналу фармаце, на паперы вытворчасці 1837 г., аб чым сведчаць адпаведныя філіграні. Копія зроблена не пазней канца 40-х – пачатку 50-х гг. XIX ст., але не раней за 1844 г. – год пераводу Віленскай духоўнай акадэміі ў Пецярбург. "У тым, што згаданы рукапіс з'яўляецца копіяй Слуцкага спісу, не можа быць ніякага сумнення. У гэтым пераконвае абсалютнае супадзенне тэкстаў" ((Pirmasis, 1983, с. 93-94).

Згадаем, што ў свой час менавіта А.В.Сямёнаў меўся зняць дакладную копію з рукапісу Слуцкага спісу Першага Літоўскага Статута, доўга затрымліваючы яго ў сябе. Таму сумнеўна, што копія, пра якую ідзе гаворка, была выканана "бібліятэкарамі Пецярбургскай бібліятэкі", а не Сямёнаў спрычыніўся да яе стварэння. Наяўнасць апісанай вышэй копіі пацвярджае факт, што А.В.Сямёнаў ажыццявіў свой намер, гэта давала яму мажлівасць яшчэ больш заблытаць справу з арыгінальным рукапісам Слуцкага спісу і аўтэнтычнасцю верша Яна Казіміра Пашкевіча.

І тут узнікае яшчэ адна цьмяная акалічнасць, якая павялічвае блытаніну вакол старажытнага манускрыпта: выплывае на свет нейкі новы, так званы "Віленскі" спіс, які нібыта і ёсць "той самы" Слуцкі, толькі перароблены. Так, у прадмове да акадэмічнага выдання "Pirmasis Lietuvos Statutas...", якое мы разглядаем, у грунтоўным гістарыяграфічным аглядзе згадваецца даследаванне польскага вучонага М.Бернштэйна, які ўпершыню ў 1915 г. "зрабіў спробу прааналізаваць розначытанні і вызначыць аўтэнтычнасць розных спіскаў 1-га Статута", ён звярнуў увагу на тое, што Слуцкі спіс зазнаў "значную перапрацоўку і дапаўненні перапісчыкаў". Навуковая інтуіцыя падказала вучонаму думку, што Слуцкі і "Віленскі" спіскі "павінны прадстаўляць адзін і той самы рукапіс", аднак М.Бернштэйн, як пішацца ў прадмове, "не ўдакладніў, што ніякага "Віленскага" спіска наогул не існуе" (Pirmasis, 1983, с. 17).

Паўстае чарговае пытанне: калі “Віленскага” спісу не існуе, як сцвярджаюць сучасныя даследчыкі, адкуль жа ўзялася згадка пра яго ў аўтарытэтнага польскага даследчыка М.Бернштэйна ў 1915 годзе? Паспрабуем патлумачыць гэта. У 1854 г. у Маскве выходзіць чарговы 18 том “Временника императорскаго Московскаго общества истории и древностей россійскихъ”, у якім з падачы Сямёнава і з яго прадмовай быў надрукаваны “Старый Литовскій Статутъ 1529 года” як сведчанне панавання “рускай” мовы ў Літве. Менавіта ў прадмове Сямёнава і нараджаецца паняцце “Віленскага рукапісу Старога Літоўскага Статута”, які “быў прыняты за арыгінал у гэтым выданні” і які “адной рэдакцыі са Слуцкім рукапісам”. Прадмова проста ўражвае тым размахам вольнага “творчага” абыходжання з гістарычным матэрыялам, якое дазволіў сабе Сямёнаў, і якое падводзіла вынік яго плённай “навуковай” дзейнасці ў Вільні, за што ён у 1853 г. быў уганараваны прыняццем у сапраўдныя члены імператарскага Маскоўскага таварыства гісторыі і старажытнасцяў расійскіх.

Пачынаецца прадмова са сведчання[9]: “При настоящемъ изданіи Стараго Литовскаго Статута, 1529 года, Редакція Временника имела оригиналомъ спискомъ сего статута отчетливо и верно снятый съ рукописи XVII столетія, хранящейся въ бывшей Виленской Академіи. Спискомъ сей доставленъ въ Моск.[овское] Общество Исторіи и Древностей Россійскихъ Действительнымъ Членомъ Общества Алексеемъ Васильевичемъ Семеновымъ. Варіантами при изданіи употреблены списки Дзялынскаго, Фирлея и Слуцкой, напечатанные Польскими или Латинскими буквами въ Познани въ 1841 году <...>”. (Временникъ, 1954, с. I). А вось што пішацца далей пра сам Віленскі рукапіс: “Виленская рукопись Стараго Литовскаго Статута, принятая за оригинал при настоящемъ изданіи, одной редакціи съ Слуцкою рукописью, которою пользовался для варіантовъ Гр. Дзялынскій при своем изданіи, вероятно обе рукописи сіи были списаны съ одной древнейшей рукописи и представляютъ очень не много варіантовъ другъ другу. Въ нихъ древній Русскій языкъ Статута менее подвергся вліянію Польской речи, нежели въ рукописяхъ Дзялынскаго и Фирлея очевидно писанныхъ въ техъ областяхъ Литвы, въ которыхъ сильно преобладала Польская речь” (Временникъ, 1854, с. I). Далей у прадмове падкрэслівалася, што рэдакцыя, прыняўшы за арыгінал “список съ Виленской рукописи”, увесь тэкст друкавала паводле гэтага спісу, без дадаткаў паводле іншых рукапісаў, за выняткам тых выпадкаў, калі ў Віленскім рукапісе не хапала цэлых артыкулаў. Тады дадаткі ўносіліся тым самым шрыфтам, але з пазнакамі Дз. (Дзялыньскага), Фір. (Фірлея), Слуц. (Слуцкая) для адпаведных фрагментаў.

Такім чынам, з прыведзеных звестак пра “Віленскі рукапіс” можна зрабіць толькі адну выснову: Сямёнаў свядома і мэтанакіравана заблытваў справу з ідэнтыфікацыяй даўняга Слуцкага спісу, які пераўтвараўся пры такой падачы ў нейкі безыменны старажытны рукапіс XVII ст., з якога нібыта быў зняты “Віленскі”, якім валодаў Сямёнаў. Сцверджанне, што Віленскі рукапіс “адной рэдакцыі” са Слуцкім рукапісам, якім карыстаўся Дзялыньскі пры падрыхтоўцы познаньскага выдання, і што абодва яны “списаны съ одной древнейшей рукописи”, яшчэ больш заблытвала справу. Для чаго патрэбна была ўся гэтая псеўданавуковая гульня вакол арыгінальнага Слуцкага спісу? Адказ напрошваецца адзін, і ён відавочны: для таго, каб схаваць сляды перараробкі. Заблытанасць справы з копіямі Слуцкага спісу пацвярджаецца і апісаннем яго сучаснымі даследчыкамі, якія пішуць, спасылаючыся на М.Бернштэйна, што найбольш блізкімі да арыгіналу спіскамі Першага Статута з’яўляюцца Дзялыньскі, Фірлейскі і Пулаўскі, а Слуцкі і Вострабрамскі “подверглись значительной переработке и дополнениям переписчиков” (Pirmasis, 1983, с. 17).

Такім чынам, у святле сказанага вышэй, паўстае пытанне: ці той спіс, які захоўваецца зараз у Санкт-Пецярбургу, ёсць “Віленскім” (Слуцкім) спісам, ці аўтэнтычным Слуцкім спісам, які Сямёнаў меўся паслаць у 1842 г. у Міністэрства?

[9] Тэкст падаем у арыгінале, за выключэннем літары “яць”.



МѢСЯЦОСЛОВЪ
Хозяйственный
НА ЛѢТО ХРИСТОВО
1842
КОТОРОЕ ЕСТЬ ПРОСТОЕ, СОДЕРЖАЩЕЕ ВЪ СЕБѢ 365 ДНЕЙ.
Съ означеніемъ въономъ Праздниковъ Православныхъ и Римско-Католическихъ, по старому и новому стилю, Табельныхъ дней, примѣчательнѣйшихъ Эпохъ, указателя восхожденія и захожденія Солнца, перемѣнъ Мѣсяца, разныхъ астрономическихъ наблюденій, хозяйственныхъ земледѣльческихъ и историческихъ свѣдѣній, хода Почты въ Вильнѣ, знатнѣйшихъ Ярмарковъ, праздниковъ и постовъ Еврейскихъ.

KALENDARZ
Gospodarski
NA ROK PANSKI
1842
KTORY JEST ROKIEM PROSTYM, ZAWIERAJĄCYM W SOBIE DNI 365.
Z oznaczeniem w onym Swiąt Prawosławnych i Rzymsko-Katolickich według starego i nowego stylu, dni galowych, Epoch znakomitszych, Tabelli wschodu i zachodu Słońca, odmian xiężyca, rożnych obserwacyi astronomicznych, doświadczeń gospodarskich i agronomicznych, wiadomości historycznych, chodu Poczt w Wilnie, znaczniejszych Jarmarków, świąt i postów Starozakonnych.

ВИЛЬНО.
Въ Типографіи Зимеля Типографа и Манеса Ромма.

36583



„ны и рускую грамоту, изъ дворянъ осѣдлыхъ „въ томъ же повѣтѣ и уроженцевъ Великаго „Княжества Литовскаго.“ Но очевидно не былобы постановлено въ обязанность употреблять въ судопроизводствѣ исключительно языкъ русскій и избирать въ Судьи, неиначе, какъ помѣщиковъ того края знающихъ писать по русски, еслибъ русскій языкъ не былъ общій и господствующій между помѣщиками Литовскаго Княжества. — Архивъ бывшаго Литовскаго Трибунала (который былъ Главнымъ Судомъ), и Архивы прочихъ Судовъ сихъ губерній, это самое подтверждаютъ, ибо всѣ дѣла въ оныхъ по 1697 годъ, то есть до начала XVIII. столѣтія, писаны на одиомъ русскомъ языкѣ. *).

Нынѣ въ 1841 году найдены въ древней тоже рукописи на русскомъ языкѣ Литовскаго Статута, хранящейся въ Библіотекѣ Виленской Римско-Католической Духовной Академіи, стихи на русскомъ языкѣ, писанные въ первой половинѣ XVII. вѣка, подтверждающіе сей историческій фактъ. Вотъ точное ихъ изложеніе:

Янъ Казимиръ Пашкевичъ рукою власною писалъ.

Року тысеча шестьсотъ дватцать перваго, мѣсяца Августа дватцать втораго дня.

Польска квитнетъ Лациною,
Литва квитнетъ Русчизною;
Той латына языкъ даетъ,
Та безъ Руси не вытрваетъ,
Ведзьже южъ Русь, нижъ тва хвала,
По всемъ свете южъ дойзрела
Веселижъсе ты Русине,
Тва слава никгды незкгине.

Буквы и почеркъ письма означенныхъ стиховъ совершенно сходны съ тѣми, которые употреблялись въ XVII. вѣкѣ и въ восточной части Россіи; но въ языкѣ замѣтны нѣкоторыя слова, заимствованныя изъ польскаго, какъ то: рокъ (годъ) квитнетъ (процвѣтаетъ) невытрваетъ (не выдержитъ, не можетъ обойтись).

Изъ стиховъ сихъ видно, что языкъ русскій въ XVII. вѣкѣ нетолько былъ употре

*) Въ Вильнѣ легко каждый можетъ повѣрить сіе въ Трибунальномъ Архивѣ, гдѣ дѣла эти, хранятся по годамъ переплетенныя.

„kiego Xstwa Lite skiego.“— Dotykalnie zatém okazuje się, że nie byłoby ustanowiono obowiązkiem, używać w sądownictwie, wyłącznie języka ruskiego, wybierać na sędziów, nieinaczej, jak obywateli tego kraju, umiejących pisać po rusku, jeżeliby język Ruski nie był powszechnym i panującym po między szlachty osiadłej, władającej majątkami w Xięstwie Litewskiém.— Archiwum byłego Trybunału Litewskiego, (który był Sądem Głównym), i archiwa innych sądów tych Gubernij to utwierdzają, gdyż wszystkie w nich sprawy czyli akta do roku 1697, to jest do początku wieku XVIII. pisane są w samym języku ruskim. *)

Teraz w roku 1841 znalezione w starym także rękopiśmie w języku ruskim, Statutu Litewskiego, zachowanym w bibliotece wileńskiej Rzymsko-Katolickiej Akademii Duchownej, wiersze w języku ruskim pisane w piérwszéj połowie XVII. wieku, które fakt ten historyczny stwierdzają, a których brzmienie następujące.

Jan Kazimierz Paszkiewicz ręką własną pisał.

Roku Tysiąc sześć set dwadziestego piérwszego miesiąca augusta dwadziestego wtórego d.

Polska kwitnie Łaciną,
Litwa kwitnie Ruszczyzną;
Tamtej łacina język daje,
Ta bez Rusi nie-wytrwa.
Wiedźże Rusi, iż twa chwała
Po wszem świecie już dojrzała,
Weseł się ty Rusinie,
Twa sława nigdy nie zginie.

Litery i rys charakteru tych wierszy zupełnie są podobne do używanych w XVII. wieku, w krajach wschodnich Rossyi,— ale w języku dają się dostrzegać niektóre wyrazy, wzięte z polskiego, jakoto: rok (hod) kwitniet, procwietajet), (nie wytrwajet), nie wydzierżyt, nie możet obojtiś.

Z wierszy tych postrzegać się daje, że język ruski w wieku XVII. nietylko w sądo-

*) W Wilnie każdy z łatwością może to sprawdzić w Archiwum Trybunalskim, gdzie akta zachowują się oprawione w księgi podług la.

E 29

*Першая публікацыя верша «Польска квитнет лациною» ў «Гаспадарскім Календары на 1842 год». Захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх (Вільня).*

Бо калі прызнаць сапраўды неіснуючым Віленскі спіс, то вынікае, што ў Маскве Сямёнаў працягваў карыстацца атрыманым арыгіналам, які трапіць у бібліятэку пазней, пасля выхаду 18 тома “Временніка” ў 1854 г., але да 1857 г., калі ён ужо будзе зафіксаваны ў бібліятэчным каталогу рукапісаў. Калі ж усё-ткі арыгінал трапіў у бібліятэку ў 1842 годзе, то копіяй, якую нібыта зрабілі бібліятэкары, можа быць якраз тая, якую Сямёнаў назваў “Віленскім” рукапісам.

## Высновы

Малаверагодна лічыць верш Яна Казіміра Пашкевіча “Полска квитнет лациною”, змешчаны ў Слуцкім спісе Першага Літоўскага Статута 1529 г., аўтэнтычным творам першай паловы XVII ст. Найбольш верагодна, што верш з’явіўся ў выніку падробкі-містыфікацыі, выкананай віленскім генерал-губернатарам А.В.Сямёнавым у 1841 г. у мэтах абгрунтавання панавання Расійскай імперыі на тэрыторыі Літвы-Беларусі як на “истинно-русских землях”. Нагодай для такога абгрунтавання паслужыла знаёмства з помнікамі старажытнага беларускага пісьменства, а менавіта з Літоўскім статутам 1529 г. (яго Слуцкім спісам), іншымі помнікамі канцылярскага справаводства і юрыспрудэнцыі былога Вялікага Княства Літоўскага. Паколькі афіцыйнай кніжнай мовай гэтых помнікаў была, як вядома, старабеларуская мова (тады яе называлі “рускай”), а не польская альбо латынь, Сямёнаў скарыстаўся гэтым і ідэнтыфікаваў яе як падобную да рускай мовы, што была дзяржаўнай мовай тагачаснай Расійскай імперыі. Пра гэта згадаў у сваім артыкуле Г.В.Кісялёў, звязаўшы такі падыход з недальнабачнасцю Сямёнава, які не здолеў або не захацеў унікнуць у адрознасць моваў. На нашу ж думку, Сямёнаў зрабіў гэта свядома: выконваючы пэўны ідэалагічны заказ, ён сачыніў вершык, дастаткова слабы ў мастацкіх і версіфікацыйных адносінах, але з выразнай ідэяй “панрусізму”, каб давесці, што “руская мова” была не толькі кніжнай (штучнай), але і гутарковай (натуральнай) мовай, на якой вершы “крэмзаліся” спантанна, нават на старажытных рукапісах.

Падставы сумнявацца ў аўтэнтычнасці верша былі наступныя: адсутнасць двух радкоў у ранніх рэдакцыях і іх наяўнасць у наступных; доўгая затрымка рукапісу Слуцкага спісу Сямёнавым; адсутнасць згадкі пра верш і дату яго напісання ў апісанні Слуцкага спісу І.Даніловічам; згадка сучасных даследчыкаў пра “пераменчывасць” почырку аўтографаў Яна Казіміра Пашкевіча ў рукапісе і пра іх паўтор; блытаніна з

нумарацыяй старонак і копіямі спіскаў ды іншае. Праведзены ў нашым артыкуле аналіз першых публікацый верша, тэксталагічны агляд акадэмічных публікацый, паводле якіх верш быў кананізаваны ў гісторыі беларускай літаратуры, вывучэнне гісторыі знаходкі гэтага верша і гістарыяграфіі Слуцкага спісу першай рэдакцыі Літоўскага статута 1529 г. пацвердзілі слушнасць сумненняў і далі магчымасць абгрунтаваць пры дапамозе герменеўтычнай рэканструкцыі альтэрнатыўную агульнапрынятай версію ўзнікнення верша і, адпаведна, надаць новыя акцэнты яго інтэрпрэтацыі.

Найперш, наша герменеўтычная рэканструкцыя дае лагічны адказ на пытанне, чаму верш выглядае анахранічным у кантэксце свайго часу? – Менавіта таму, што верш не быў у ім створаны, што ён напісаны значна пазней: не ў XVII ст. а ў XIX ст.! Тое, што верш з'яўляецца, найверагодней, падробкай XIX стагоддзя, і ствараўся з ідэалагічнымі мэтамі, пацвярджаецца многімі фактамі: рознасцю почыркаў, "анахранізмам" і "шкалярствам", доўгім трыманнем рукапісу Сямёнавым, пакуль не надышла нагода даслаць яго прама ў міністэрства, не даючы магчымасць рукапісу трапіць у той асяродак, дзе змест яго быў добра вядомы ўладальнікам (на той час ужо не было ў жывых біскупа Клангевіча). Паводле мастацкіх якасцяў верш выглядае даволі прымітыўным і апалагетычным. Гэта час Барока, а верш не можа ўразіць ні адмысловай барокавай метафорыкай, ні сімвалічнай зашыфраванасцю пісьма. Такім чынам, можна канстатаваць, што Слуцкі спіс Першага Літоўскага Статута стаў інтэлектуальнай прыладай для апраўдання русіфікатарскай палітыкі царызму на беларуска-літоўскіх землях у сярэдзіне XIX ст., што было актуальнай задачай пасля падаўлення паўстання 1830-1831 гг. і выкрыцця змовы С.Канарскага. Гэта быў ва ўсіх адносінах удалы ідэалагічны праект, выкананы цывільным губернатарам Аляксеем Васільевічам Сямёнавым, за што ён атрымаў ад царскага ўраду "всемилостивейшее благоволение" і іншыя адпаведныя ўзнагароды.

У беларускай літаратуры верш кананізаваўся і інтэрпрэтуецца як узор грамадзянска-патрыятычнай лірыкі, а яго патрыятычны пафас трактуецца ў падтрымку беларускай мовы і яе ўслаўлення. Так бывае ў гісторыі, што прыгожыя міфы часам не супадаюць з праўдзівай рэчаіснасцю.

Крыніцы

Анталогіі даўняй беларускай літаратуры: XI – XVIII стагоддзя. – Мн.: Беларуская навука, 2003.
Временникъ императорскаго Московскаго общества истории и древностей россійскихъ. Книга 18. – Москва, 1854.
Гарэцкі, М. Гісторыя беларускае літаратуры. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1992.
Гісторыі беларускай літаратуры XI – XIX стагоддзяў. У 2-х тамах. Т.1. – Мінск: Беларуская навука, 2006.
Дело: О стихахъ найденныхъ въ древнихъ рукописяхъ Литовскаго Статута // Гістарычны архіў Літвы, Вільнюс. Ф. 380, воп. 80, спр. 260.
Месяцословъ хозяйственный на лето Христово 1842. = Kalendarz Gospodarski na rok Panski 1842. – Вильно.
Славянамоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага XVI–XVIII стст. – Мн.: Бел. навука, 2011.
Собраніе древнихъ грамотъ и актовъ городовъ Вильны, Ковна, Трокъ, православныхъ монастырей, церквей, и по разнымъ предметамъ. Ч. 1. – Вильно, 1843.
Старажытная беларуская літаратура (XII – XVII стст.) – Мінск: Кнігазбор, 2007.

Літаратура

Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры. У 2-х тамах. Т.1. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968.
Грынчык, М. Шляхі беларускага вершаскладання. – Мінск: Выдавецтва БДУ, 1973.
Кісялёў, Г.В. Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы. – Мн.: Мастацкая літаратура, 1982.
Некрашэвіч-Кароткая, Ж.В. Шматмоўная літаратура Беларусі ў кантэксце актуальных літаратуразнаўчых канцэпцый: дапаможнік. – Мінск: БДУ, 2015.
[Daniłowicz, I.] Opisanie bibliograficzne dotąd znanych exemplarzy Statutu Litewskiego, rękopiśmiennych i edycyy drukowanych, tak w ruskim oryginalnym, jako też polskim i łacińskim języku // Dzieńnik Wileński. – Wilno, 1823, t. I (Styczeń, Luty, Marzec, Kwiecień). – S. 377-398.
Pirmasis Lietuvos Statutas... = Первый Литовский Статут: Палеографический и текстологический анализ списков. Ч. 1. / С.Лазутка і Э.Гудавічюс. – Вильнюс: Минтис, 1983.

Анатоль Трафімчык



... у «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года» Тадэвуш Касцюшка ўспрымаецца сваім, без намёку на адчужанасць ад беларускага этнасу...

# Беларушчына і Тадэвуш Касцюшка ў гістарычным кантэксце

*Публікацыя ажыццёўлена ў рамках праекта БРФФД №Г20-082 «Эвалюцыя мастацкага вобраза Бацькаўшчыны ў шматмоўнай літаратуры Беларусі XIX ст.».*

Пытанне пра этнічна-палітычную карэляцыю Тадэвуша Касцюшкі з роднай краінай дасюль не вырашана. Хоць мінае два вякі па смерці "героя двух кантынентаў".

Дакладней, некаторыя бакі лічаць, што і пытання няма. Пераважае гледзішча, што ўраджэнец зямлі будучай Беларусі атаясамліваў сябе з польскай нацыяй і культурай. Мінімальнейшая прыналежнасць да беларушчыны катэгарычна адпрэчваецца. Адэптамі такога меркавання, натуральна, з'яўляюцца палякі. Але і многія іншыя транслююць аналагічныя думкі. Нават у Беларусі. Звычайна гэта прыхільнікі заходнерускай ідэі. Часам да іх далучаюцца і шчырыя прыхільнікі беларушчыны. Трэба прызнаць, што глеба для такой пазіцыі даволі трывалая.

Існуе і супрацьлеглы пункт погляду, паводле якога, спрошчана кажучы, Т. Касцюшка прызнаецца беларусам. Аднак, па шчырасці, здавальняючых аргументаў у дадзеным выпадку сустракалася вобмаль. У большасці публікацый галоўным чынам назіраецца строгае атаясамленне Літвы і Беларусі, з якога

і выводзіцца (у пэўнай меры сафістычна) беларуская ідэнтыфікацыя чалавека, які не раз публічна называў сябе ліцвінам, а сваю радзіму Літвою, пры гэтым арганічна сумяшчаючы азначаныя паняцці з польскасцю і Польшчай.

Прыемна выдзяляецца на такім фоне артыкул Анатоля Тараса "Ці быў Касцюшка беларусам". У ім аўтар зыходзіць з трох прынятых падыходаў вызначэння нацыянальнасці чалавека – "закона глебы", "закона крыві", "закона мовы". Доказваецца па ўсіх параметрах беларускасць Т. Касцюшкі [17]. Аднак тут не ўлічваецца яшчэ шэраг акалічнасцяў, якія значна падмацавалі б крыху па-публіцыстычнаму спрошчаныя і месцамі павярхоўныя меркаванні А. Тараса і прывялі б – але з іншага доказнага боку – да тоеснай высновы.

Канечне, падчас жыцця Т. Касцюшкі не было нацый у сучасным разуменні. Канечне, палітычна ён сябе адносіў да Польшчы. Канечне, этнічна лічыўся ліцвінам. Канечне, непасрэднай і відавочнай сувязі ўраджэнца Літвы, грамадзяніна Рэчы Паспалітай з беларушчынай у сучасным разуменні, не было і не магло быць.

Што тады было? У чым заключаецца тая тонкая нітачка, не раўнуючы Арыядны, якою ўсё ж звязваецца раннемадэрная постаць нашага земляка з познемадэрным нацыянальным увасабленнем сваёй радзімы?

Сам Т. Касцюшка, паводле меркавання расійскага даследчыка гісторыі Беларусі Міколы Нікалаева, «лічыў патрэбнымі і неадкладнымі прымусовыя меры па паланізацыі беларускага сялянства» [11, с. 232]. Гэта мае абгрунтаванне ў выглядзе слоў самога славутага ліцвіна, які ў цытаваным выпадку казаў пра русінаў (май 1789 г.): «Трэба іх прывучыць да польскай мовы... З часам у іх увойдзе польскі дух» [паводле: 13, с. 72][1]. Таму наўрад ці Тадэвуш Касцюшка пагадзіўся б з Францішкам Багушэвічам, які ў сваім вершы «Да 100-годдзя <Касцюшкі>» змадэляваў мастацкі вобраз згодна з неабходнай кан'юнктурай, выкарыстаўшы выбітны «брэнд» у мэтах нацыянальнай ідэі.

Аднак таксама заўважана, што ліцвінскі патрыятызм не супярэчыў патрыятызму Рэчы Паспалітай і ў інтэнцыях Т. Касцюшкі стаяў паперадзе інтарэсаў супольнай "дзяржавы двух народаў". Больш за тое, паводле Алега Латышонка, «у асобе Касьцюшкі мы назіраем столькі праяваў беларускасьці, колькі іх магло быць у дадзеных гістарычных абставінах» [5, с. 393]. Атаясамленне ліцвінскасці і беларускасці знаходзіцца і ў работах сучаснага беларускага даследчыка Касцюшкавай дзейнасці Леаніда Несцерчука, які ў такім святле інтэрпрэтуе ўспаміны паплечніка па паўстанні Міхала Клеафаса Агінскага [10, с. 138]. Тым не менш гэта яшчэ можна лічыць нацяжкай.

Як ні парадаксальна, але меркаванні М. Нікалаева ды Ігара Марзалюка, падмацаваныя такімі важкімі аргументамі, як словы самога Т. Касцюшкі, зусім не супярэчаць пазіцыям ні Ф. Багушэвіча, ні А. Латышонка. Неабходна ўлічваць час, кантэкстам якога былі абумоўлены тыя словы героя.

Паводле прынятай перыядызацыі, эпоха Новага часу падзяляецца на два прынцыпова адрозныя для нацыястанаўлення адрэзкі: раннемадэрны і мадэрны. Іх падзяляе часавая мяжа канца XVIII ст., якая, аднак, зачалася ў Францыі, прыходзячы да іншых народаў (палітычных, а не этнічных) пазней. Адным з важных паказчыкаў, індыкатараў для вызначэння той мяжы выступае мова. Менавіта пашырэнне сферы яе ўжывання азначала станаўленне на нацыянальнае крыло таго ці іншага этнасу. Як піша Арсень Ліс, "праз цікавасць да такой важнай духоўнай субстанцыі, як творчасць народа, яго мова, у першай палове XIX стагоддзя ідзе адкрыццё цэлых народаў, перадусім славянскіх, з іх аўтэнтычнымі культурамі ў кожнай паасобку пры пэўных супольных рысах у іхнай этнічнай прыродзе" [6, с. 242].

[1] Гэтыя словы любяць прыводзіць у якасці аргумента неазаходнерусісты: [8]. Гл. падрабязней пра нацыянальную ідэалогію Тадэвуша Касцюшкі: [1, с. 160-198].

Але нават на мадэрным адрэзку, калі пачыналі выкрышталізоўвацца нацыі, мова, як даводзіць Тыматы Снайдэр на прыкладзе паўстання 1863 г. і ўдзелу ў ім узначаленых палякамі валынскіх паўстанцаў, яшчэ не служыла лініяй падзелу паміж нацыямі, паўстанні насілі характар хутчэй палітычны, чым этнічны [15, с. 164]. Тым не менш, на наш погляд, з кожным праяўленнем пэўнай мовы, якая да мадэрнага дыскурсу Новага часу не мела палітычнай рэпрэзентацыі (у нашым выпадку маецца на ўвазе літоўская, украінская і, безумоўна, беларуская мовы падчас існавання Рэчы Паспалітай і пасля яе падзелаў), можна казаць пра нацыятворчасць пэўнага этнасу, якому, аднак, магло быць яшчэ далёка не толькі да лагічнага выніку развіцця ў выглядзе нацыі, але і да ўсведамлення яго прадстаўнікамі сябе агульнай народнасцю як пераходнага этапу ад фармату палітычнага раннемадэрнага народа да нацыі ў сучасным разуменні, бо родная мова тут становіцца «душою народа» (Ф. Багушэвіч), а яе ўжыванне – сведчаннем той душы («мова народа ёсць яго дух, а дух народа ёсць яго мова, і цяжка ўявіць сабе што-небудзь больш тоеснае», Вільгельм фон Гумбальт, 1767–1835).

З гэтай нагоды дазволім сабе шырокае цытаванне выбітнай украінскай даследчыцы Наталлі Якавенка: «Лише така держава, згідно з поглядами діячів Просвітництва, матиме гарантовану безпеку, торуватиме шлях поступові освіти, правопорядку, усуватиме архаїчні пережитки тощо. Варто нагадати, що власне в останній третині XVIII ст. німецька мова була оголошена обов'язковою в поліетнічній Австрії, а у Франції, охопленій полум'ям революції, збереження регіональних мовних відмінностей трактувалося як ознака контрреволюції, бо, як говорив у 1794 р. депутат Конвенту Бертран Барер де Вйозак [Barére de Vieuzac], мова вільного народу мусить бути одна й та сама для всіх. На схожі ідеї натрапляємо і в політичній думці Речі Посполитої. Наприклад, майбутній вождь повстанців Тадеуш Костюшко у 1789 р. писав, що розв'язання української проблеми неможливе без призвичаєння до польської мови, у тому числі – навіть завдяки впровадженню її у церковний обряд, бо тільки так з часом у них увійде польський дух. Мовна асиміляція українського простолюду сприймалася і як запорука його лояльності, оскільки, як підкреслював один з найвидатніших діячів доби реформ Гуго Коллонтай, бунти спалахували завжди тільки там, де низи не вміли говорити по-польському» [19, с. 466-467].

Таму пры ўсім сваім ліцвінскім патрыятызме Т. Касцюшка не мог выступаць за роўнасць роднай мовы з польскай, якая да таго часу выйшла далёка за межы Польшчы, запаланіўшы і на Беларусі фактычна ўсе сацыяльныя нішы, акрамя размоўнай і фальклорнай (гэта даказваецца і на прыкладзе мастацкіх твораў канца XVIII – пачатку XIX стст.). Т. Касцюшка імкнуўся за прагрэсам, а заступніцтва рэгіянальнай мовы, да ўзроўню якой «лакалізавалі» ліцвінскія правячыя колы мову продкаў, рабіла б Т. Касцюшку рэакцыянерам (з тагачаснага гледзішча) або чалавекам, які значна апераджаў свой час (калі глядзець з далечы XX і XXI стст.): фактычна толькі ў XX ст. стала канчаткова ясна, што «"новыя нацыі" Цэнтральнай і Усходняй Еўропы фармуюцца на этнічна-моўна-культурных падставах, а не на гістарычна-палітычных» [1, с. 193]. Гэта ўвяло ў аблуду нават Фрыдрыха Энгельса (1820–1895), які такія этнасы адносіў да разраду «негістарычных». А ён жа жыў значна пазней за Т. Касцюшку! У розных светапоглядных эпохах. Таму нараджэнне мастацкіх твораў пра Касцюшкаўскае паўстанне на беларускай мове азначае першыя сігналы ўзыходжання і мадэрнай беларускай нацыі, нягледзячы на ўсе існыя песімістычныя прагнозы (у тым ліку цытаванага Анджэя Валіцкага) і дэструктыўныя акалічнасці. Дый Т. Касцюшка пры ўсім пры тым, што «выказваўся ў падтрымку добраахвотнай паланізацыі», паводле рэзюмавання А. Валіцкага, «не прымаў нікчэмнага "нацыянальнага эгаізму", верыў у міжнароднае братэрства народаў» [1, с. 198]. Пасля вывучэння праблемы доктар гістарычных

навук Алесь Смалянчук прыходзіць да высновы, “што за “польскасцю” наогул і, у прыватнасці, за “польскасцю” паўстанцаў Т. Касцюшкі звычайна хаваўся не ўласна польскі, а рэчпаспалітаўскі патрыятызм”. Тым не менш, як дадаецца далей, “што датычыцца палітычных намаганняў ліцвінаў, то перабольшваць іх самастойнасць не трэба” [14, с. 49].

Згаданы верш Ф. Багушэвіча стаў апошнім у XIX ст. зваротам да нацыянальна-вызваленчых матываў з выкарыстаннем вобраза Т. Касцюшкі як літаратурна-мастацкага канцэпту і кангеніяльнага сімвала. Падобных твораў, да таго ж на беларускай мове, гісторыя пакінула няшмат [гл. падрабязней: 18, с. 11-59]. Найбольш значныя – гэта фальклорны ліра-эпічны сказ, умоўна названы даследчыкамі «Беларускай песняй пра Касцюшку», і верш невядомага аўтара «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года».

Аднак іх дастаткова, каб гаварыць, па-першае, пра зараджэнне (ці, больш карэктна, прысутнасць) элементаў беларушчыны ў сувязі з паўстаннем, па-другое, успрыманне ў далейшым беларускай культурай, у тым ліку народнай, падзей збройнага чыну 1794 г. і самога яго лідара ў якасці феномена іманентнага. Рэшткі «касцюшкаўскага» дыскурсу, з аднаго боку, сведчаць пра яго існаванне, а з іншага – дазваляюць дапусціць, што нават беларуска-літаратурная містыфікацыя ў азначаным тэматычна-ідэйным рэчышчы (пачынаючы з «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года») арганічна ўпісвалася б у тагачасны культурны кантэкст.

У той жа час ані кроплі беларушчыны не назіралася ў дзеях расійскай экспансіі канца XVIII ст. Імя Аляксандра Суворава таксама не стала аб’ектам народных сімпатый на абсягах ВКЛ.

Аўтар «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года», скіраванай супраць знешняга агрэсара, выбарам беларускай мовы твора, з аднаго боку, імкнецца данесці ідэі нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Робіць гэта на зразумелай большасці мове! Як даводзіць вядомы польскі даследчык нацыятворчых працэсаў ва Усходняй Еўропе Рышард Радзік, на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай (чытай – Беларусі) «моўнай паланізацыі не саступіла частка сярэдняй, а асабліва дробнай шляхты»; прычым, як можна зразумець, страта моўнай этнатоеснасці назіралася яшчэ большай у анямечаных тады Славеніі, Чэхіі, Маравіі [13, с. 67], а гэтыя рэгіёны рэанімавалі сваю нацыянальную самабытнасць ва ўмовах «вясны народаў» (сярэдзіна XIX ст.). З іншага боку, аўтар такой песні бачыць (магчыма, толькі паўсвядома прадугадвае) далейшае развіццё этнічных працэсаў у гэтым рэгіёне, якія вялі да ўсведамлення сваёй беларускасці, дыферэнцаванай ад асветніцкай пальшчызны, якая тым часам увачавідкі архаізавалася.

«Нацыя, на думку ідэолагаў эпохі Асветніцтва, павінна быць зуніфікавана згодна з нормай, прынятай ва ўсёй дзяржаве, пры поўнай інтэграцыі з ёю лакальных супольнасцяў, рэлігійных і моўных меншасцяў, груп, якія адрозніваюцца звычаямі – аднак не з пункту гледжання на нібыта вышэйшасць этнічна-культурнай сферы, якая яе ўтварае, а перадусім прымаючы пад увагу лепшае кіраванне такім грамадствам, большую магчымасць канцэнтравання на ажыццяўленні асветніцкіх лозунгаў», – цытуем далей Р. Радзіка [13, с. 68-69]. Але ці ж не было на землях будучай Беларусі Асветніцтва? Было. Што ж тады магло азначаць стварэнне аўтарскай (нароўні з народнымі) песні на беларускай мове? Такі мастацкі твор ішоў жа ў разрэз «канцэнтраванню на ажыццяўленні асветніцкіх лозунгаў»! Паводле нашага меркавання, гэта азначала найперш тое, што эпоха Асветніцтва завяршала сваё існаванне, саступаючы месцы новай – з лозунгамі «свабоды, роўнасці, братэрства» (у дадзеным кантэксце ў сувязі з падкрэсленымі словамі з цытаты польскага калегі акцэнтаваць увагу хацелася б менавіта на слове «роўнасць»).

Аляксей Пяткевіч бачыць у «Песні...» пэўны момант знакавасці і паказальнасці для станаўлення нацыянальнай ідэі беларусаў у агульным кантэксце паўстання

1794 г., галоўнай мэтай якога, як даволі зладжана (на погляд названага даследчыка) сцвярджаюць гісторыкі, з'яўлялася адраджэнне Рэчы Паспалітай нібыта без якіх-кольвек сепаратысцкіх імкненняў. Сапраўды, выключэннямі глядзіцца пазіцыя, якую займае, да прыкладу, Анатоль Грыцкевіч. Ён лічыць, што «ідэя незалежнасці Беларусі была галоўнай падчас паўстання 1794 г.» [2, с. 22]. «...Беларуская мова паўстанцкіх песень – вельмі важны паказчык таго, што нараджалася ў гэтым асяродку (шляхецкай інтэлегенцыі. – *А.Т.*) менавіта беларуская свядомасць. <...> [У "Песні..."] адлюстраваны, такім чынам, не дробныя, побытавага ўзроўню клопаты, а кардынальныя пытанні быцця беларускага народу. Ці ж не дзейнічае тут беларуская звышзадача аўтара? Пэўна, што так» [12, с. 133-134].

Такім чынам, феномен «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года» дае магчымасць зрабіць пэўныя высновы і выказаць некаторыя меркаванні. Нягледзячы на тое, што паўстанне 1794 г. было агульным на тэрыторыі Польшчы і ВКЛ, інсургенты выразна бачылі сваю этнічную аўтэнтычнасць і праяўлялі нацыянальную самаідэнтыфікацыю. Важна, што выдзялялася беларуская пасіянарная плынь, у якой бачыцца запачаткаванне сучаснага беларускага народа. Узровень той самаідэнтыфікацыі напэўна не быў высокім, аднак дастатковым, каб не ігнараваць яе высокапісьменнаму аўтару «Песні...»: яна не з'яўлялася літаратурна-музычным творам з разраду «die Kunst für die Kunst», а мела практычны характар, а значыць, была разлічана на зусім пэўную аўдыторыю. Паводле гэтага твора, мэты паўстання патрыятычныя: інсургенты выступаюць супраць захопнікаў іх радзімы, разам з тым пры агульнасці падзей на польскіх і беларускіх землях няма падладжвання пад агульны патрыятызм у святле польскай нацыянальнай ідэі таго часу. Кіраўнік паўстання ў «Песні беларускіх жаўнераў 1794 года» – Тадэвуш Касцюшка – успрымаецца сваім, без намёку на адчужанасць ад беларускага этнасу.

У многім такія матывы закладаліся дзякуючы аўтару твора, ліцвінскае паходжанне якога несумненна (Адам Мальдзіс мяркуе пра яго сувязь са Слонімшчынай [7, с. 38]). Разам з тым у яго свядомасці нараджалася этнічнае атаясамленне згодна з надыходзячай мадэрнай эпохай.

Таму вельмі падманлівай логікай з'яўляюцца меркаванні, тоесныя выказаным Уладзімірам Казберуком, што «перамога паўстання Касцюшкі раз і назаўсёды пахавала б беларушчыну як такую, паставіла б крыж на ідэі нашага нацыянальнага адраджэння. Інакш кажучы, тыя пакуты народа – гэта была цана, якую заплаціла Беларусь за ўмовы для такога адраджэння, што аказалася нечаканым і непрадбачаным вынікам падзей канца XVIII ст.» [4, с. 180]. Мала таго, што аўтар цытаты, выдатны навуковец, выкарыстоўвае ў якасці доказу ўмоўны лад, дык яшчэ і акцэптуе варункі царскай палітыкі, у якіх эвалюцыянавала беларуская нацыянальная ідэя, імпліцытна параўноўваючы іх, як можна зразумець, не на карысць эвентуальнай сітуацыі пры захаванні Рэчы Паспалітай.

«Умоўналадным» мадэляваннем верыфікаваць або абвергнуць ні пазіцыі У. Казберука, ні адваротных поглядаў немагчыма (затое выяўляецца просталінейнасць мыслення прыхільнікаў такой пазіцыі, без уліку прынцыпу гістарызму). Але наяўнасць разгледжаных мастацкіх твораў па-беларуску, з беларускім зместам ці ідэйнымі канатацыямі працуе ў адваротны бок скептыцызму фармулёвак ва ўмоўным ладзе і бачання пераважна канструктыўнасці ў каланізацыйных працэсах на Беларусі ў XIX ст. Гэта па-першае. Па-другое, як вышэй гаварылася, змена эпох вяла да «дыверсіфікацыі» этнічных працэсаў у Еўропе, прычым у Расійскай Імперыі «малыя» народы былі пастаўлены ў найгоршыя ўмовы і развіваліся як нацыя больш марудна. Варта засяродзіць увагу, што той жа «вясны народаў» у Расіі – «турме народаў» (дарэчы ўспомніць Уладзіміра Леніна) – не было. Тыповым прыкладам тут сталі менавіта палякі: частка іх – пад германскім панаваннем – перажыла яскравы нацыянальны ўздым напрыканцы 1840-х гг. з

канструктыўнымі вынікамі і наступствамі для нацыянальнага развіцця, частка – пад расійскай уладай – не, хоць такімі спробамі былі два паўстанні (1830–31 і 1863–64 гг.), якія не прынеслі карысці і змяніліся перыядам рэакцыі. Па вялікім рахунку, дасягненні ў сэнсе нацыянальнага развіцця многіх еўрапейскіх народаў сярэдзіны XIX ст. у Расіі (чытай: для беларусаў) сталі магчымыя толькі пасля рэвалюцыі 1905 г. Беручы пад увагу сказанае, вылучаць «умоўналаднае» мадэляванне – гэта значыць прызнаваць, што на працягу XIX ст. у нацыятворчым развіцці еўрапейскіх народаў назіраецца хутчэй статыка, чым нейкія зрухі, эвалюцыя, што не адпавядае рэчаіснасці.

Разам з тым назіралася прынцыповая трансфармацыя стаўлення і польскай палітычнай думкі да маладзейшых і меншых нацый, што праз паўвека пасля ліквідацыі Рэчы Паспалітай выкрышталізавался ў пазіцыю, ахарактарызаваную вядомым польскім дзеячам Баляславам Ліманоўскім: «Мы жадалі аднаўлення Рэчы Паспалітай у яе даўніх межах, але таксама забяспечыць правы ўсіх нацыянальнасцей, што ўваходзілі ў яе склад, і падтрымаць абуджанае пачуццё самабытнасці сярод літоўска-рускага народа» [паводле: 3, с. 85-86]. Ці могуць пахваліцца аналагічнымі выказваннямі (хаця б выказваннямі!) тагачасныя расійскія палітыкі? Ініцыятыва так званага нацыянальнага адраджэння запачаткавалася, ажыццяўлялася і прыходзіла на славянскія землі з заходняга боку, і першыя публікацыі даследаванняў народнай культуры, што ў выніку прывяло да вызначэння беларускага народа як нацыі і ўсведамлення ім сваёй этнатоеснасці, былі прадпрыняты ўсё ж (пра) польскімі грамадзянамі Расійскай імперыі [гл., напрыклад: 9, с. 10-44] (прычым з мэтай вызначэння нацыянальнай аўтэнтычнасці насельніцтва былога ВКЛ/будучай Беларусі). І гэта спачатку польскамоўныя літаратары (спярша з ухілам у ліцвінскі патрыятызм) сталі асвойваць беларускамоўную народную стыхію, якая неўзабаве выкрышталізавалася ў літаратурную мову. Даследчыкі, якія вывучалі культуру народа, што называлі часцей на раннемадэрны капыл ліцвінскім, канцэнтраваліся ў Віленскім універсітэце. Дзякуючы ім і пачало адбывацца так званае беларускае культурнае накапленне (тэрмін А. Смаленчука) [14, с. 51-52]. Такім чынам, даследуючы ліцвінскую архаіку, яны працавалі на беларускую будучыню (яшчэ не бачачы яе, але ўсведамляючы аўтэнтычнасць і гістарычную суб'ектнасць народа).

Названая навучальная ўстанова, дарэчы, была закрыта расійскай уладай у 1832 г. Гэта, безумоўна, перарвала тэндэнцыю азначанага вывучэння. Яна была адноўлена неўзабаве – у сярэдзіне XIX ст. – ужо расійскімі даследчыкамі, але – з мэтай даказаць адзінародства трох усходнеславянскіх народаў (пар. з вышэйазначаным ідэйным арыенцірам польскамоўных "ліцвіністаў").

Перарванасць далася ў знакі, і нацыянальнае развіццё беларускага народа, які не меў тым часам «П'емонта» (у адрозненне ад украінскай Галіцыі), было прытармажана. Гэтым вытлумачваецца меншая колькасць і ніжэйшая якасць дасягненняў беларусаў як народа (перадусім літаратурных) на працягу XIX ст. і адставанне іх па самасвядомасці ў XX ст. Аднак нават у рэчышчы канцэпцыі трыадзінства расійскага народа этнаграфічныя даследаванні Беларусі *volens nolens* працягнулі працэс беларускага культурнага накаплення і не змаглі перавесці рэйкі выспявання беларусаў на патрэбны імперыі шлях.

Тым не менш ажыццяўленне палітыкі заходнерусізму, паралельны працяг паланізацыі адлучылі яшчэ ў зародку мадэрную беларускую нацыю і культуру ад ліцвінскай глебы і канчаткова нівелявалі ўспрыманне Рэчы Паспалітай як поліэтнічнай дзяржавы ў тым ліку будучага беларускага народа. Гэта стала адным з чыннікаў маргіналізацыі вобраза Тадэвуша Касцюшкі ў кантэксце беларускай культуры, які напачатку быў у ёй даволі рэпрэзентатыўны.

Другім фактарам адстаранення пакуль яшчэ "тутэйшых" ад гістарычнай

постаці славутага земляка стаў прыход у гісторыю народа новых герояў, якія выклікалі міфалагізацыю сваёй асобы, – перадусім Кастуся Каліноўскага, які да таго ж знаходзіўся ў адным хранатопе з генезісам беларусаў як нацыянальнай супольнасці. У сувязі з гэтым А. Латышонак падкрэслівае сапраўдную народнасць славы Тадэвуша Касцюшкі, што «не мае нічога супольнага са штучным культам асобы Каліноўскага, створаным беларускімі бальшавікамі ў 20-я гг.» [5, с. 394]. Менавіта з таго часу ў беларускім дыскурсе адбываецца інтэнсіўнае мастацкае асэнсаванне фігуры апошняга. Не выключана, што легендарызацыя вобраза Кастуся Каліноўскага[1] ў многім ускаласілася на пасіянарнай глебе, падрыхтаванай папярэднімі хваляваннямі на зямлі нядаўняга ВКЛ, у тым ліку і перадусім – інсурэкцыі на чале з Тадэвушам Касцюшкам.

Такім чынам, жыццё Т. Касцюшкі прыйшлося на пачатак трансфармацыі цывілізацыйных парадыгмаў. Сам ён ментальна заставаўся збольшага ў папярэдняй эпосе, але дзейсна стаяў пад лозунгамі наступнай. Гэта ўскладніла ўстанаўленне этнічнай ідэнтыфікацыі героя. Разам з тым і дала зусім не ілюзорны шанец беларусам, з якіх выйшаў такі славуты чалавек, атаясаміць яго з народам, што пачынаў шлях да мадэрных нацый, як аказалася – даволі цярністы (найперш у параўнанні з суседнімі). Гэта па-першае. Да другога залічым прысутнасць у беларускім фальклорным і літаратурным дыскурсе фігуры Касцюшкі, прычым – як свайго героя, г. зн. ён спачатку прымаўся беларусамі. Але адбылося ўскладненне ўмоў іх нацыянальнага станаўлення пры рэжыме царскай Расіі. Аўтэнтычнасці народаў паўночна-ўсходніх і маларасійскіх губерняў не хацеў прызнаваць “старэйшы брат”. Аднак яе сталі выяўляць паборнікі Рэчы Паспалітай, заклаўшы адпаведны трэнд, якому ў далейшым не далі рады заходнерусісты. Натуральна, антаганісты Расійскай імперыі, якім з’яўляўся і Т. Касцюшка, у рамках вялікадзяржаўнай рэгламентацыі не маглі быць дапушчаны да залічэння ў пантэон хоць і адгалінавання, але ж нібыта адзінага рускага народа. Час паказаў, што і гэта задача не была выканана.

Л і т а р а т у р а:

1. Валіцкі, А. Нацыя, нацыяналізм, патрыятызм / уступ Анджэй Мэнцвэль; пер. з польск. мовы А. Ластоўскага; навук. рэд. Г. Сагановіч / А. Валіцкі. – Мінск : Медысонт, 2012. – 528 с.

2. Грыцкевіч, А. Ідэя незалежнасці Беларусі ў гістарычным аспекце / А. Грыцкевіч // Спадчына. – 1996. – № 5. – С. 16-30.

3. Запрудскі, І.М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя / І.М. Запрудскі. – Мінск, 2003. – 138 с.

4. Казбярук, У.М. Нашы вытокі : пошукі гісторыка-літаратурнай праўды: эсэ, разважанні, палем. арт. / У.М. Казбярук. – Мінск : Маст. літ., 2007. – 197 с.

5. Латышонак, А. Нацыянальнасьць – Беларус / А. Латышонак. – Беласток, 2009. – 558 с.

6. Ліс, А. Традыцыйная народная культура беларусаў і станаўленне нацыянальнай ідэі / А. Ліс // Дзеяслоў. – 2015. – № 5. – С. 240-264.

7. Мальдзіс, А. З літаратуразнаўчых вандраванняў: нарысы, эсэ, дзённікі / А. Мальдзіс. – Мінск : Маст. літ., 1987. – 215 с.

8. Марзалюк, І. Фальшывая гісторыя – маці фальшывай палітыкі / І. Марзалюк ; гутар. Віктар Корбут // Беларуская думка. – 2010. – № 7. – С. 72-79.

9. Мархель, У.І. Прадвесце : беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX ст. – Мінск : Навука і тэхніка, 1991. – 112 с.

10. Несцярчук, Л. Развагі Міхала Клеафаса пра ліцвінаў і палякаў / Л. Несцярчук // Маладосць. – 2015. – №1. – С. 138-142.

---

[1] Пэўны, хоць і няпоўны, агляд паэтычных твораў беларускіх аўтараў са стварэннем вобраза К. Каліноўскага зроблены даследчыцай В. Суднік [16]. Гэтага артыкула ўжо дастаткова для таго, каб убачыць, што параўнанне па колькасці твораў пра паўстанцкіх лідараў Т. Касцюшкі і К. Каліноўскага будзе на карысць апошняга.

11. Нікалаеў, М. Папялушкава выдавецтва «Беларусь». Яшчэ адзін крок да стварэння нацыянальнага пантэону / М. Нікалаеў // ARCHE-Пачатак. – 2006. – № 5. – С. 230-234.

12. Пяткевіч, А. Станаўленне беларускай нацыянальнай ідэі ў кантэксце культурнага руху XIX ст. / А. Пяткевіч // Białoruskie Zeszyty Historyczne. – 2005. – Z. 23. – S. 132-136.

13. Радзік, Р. Вытокі сучаснай беларускасці; беларусы на фоне нацыятворчых працэсаў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе XIX ст. / Р. Радзік / пер. з пол. мовы Н. Дзенісюк; навук. рэд. С. Рудовіч; С. Токць. – Мінск : Медысонт. – 376 с.

14. Смалянчук, А.Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г. / А.Ф. Смалянчук. – Спб. : Неўскі прасцяг, 2004. – 406 с.

15. Снайдэр, Т. Рэканструкцыя нацый : Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1959–1999 гг. / Т. Снайдэр / пер. з англ. мовы М. Раманоўскага і В. Калацкай; навук. рэд. Г. Сагановіч. – Мінск : Медысонт, 2010. – 421 с.

16. Суднік, В.М. «Прадзецца нітачка твая...» (вобраз Кастуся Каліноўскага ў беларускай паэзіі) / В.М. Суднік // Беларусь на скрыжаванні стагоддзяў : ад класікі да сучаснасці: матэрыялы Міжнар. навук. канф., г. Мінск, 1-2 лістап. 2012 г. / Бел. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка; рэдкал. В.Д. Старычонак, Т.У. Балуш, І.М. Гоўзіч і інш.; адк. рэд. В.Д. Старычонак. – Мінск : БДПУ. – С. 210-214.

17. Тарас, А. Был ли Костюшко белорусом / А. Тарас // Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 7 / Укладальнік і рэдактар А.Я. Тарас. – Рыга : выданне ІБГіК, 2017. – С. 85-89.

18. Трафімчык, А.В. «Наш Касцюшка слаўны!» : гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры / А.В. Трафімчык. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 192 с.

19. Яковенко, Н. Нарис історії Укрaпни. З найдавніших часів до кінця XVIII ст. / Н. Яковенко. – Киів : Критика, 2006. – 584 с.

Павел Булаты



…пра герояў пісаць лёгка,
пісаць пра ліхадзеяў –
тытанічная праца…

# Філамацкія штудыі Аляксандра Фядуты

## *Рэцэнзія на кнігі “Следы на снегу”, “Филомат в империи”, “Успаміны пра мінулае”*

Пра тэму філаматаў нельга сказаць, што яна дасканала і вычарпальна даследавана. Галоўныя факты, ацэнкі, абставіны і акалічнасці “гучнага судовага працэсу” ў гістарыяграфіі добра вядомыя. Але ўсё ж агульны стан вывучанасці філамацкай справы дарэчы будзе ахарактарызаваць загалоўкам “Паданне пра філаматаў”, які трапна сфармуляваў К. Цвірка ва ўступным артыкуле да збору твораў “Філаматы і філарэты” (“Беларускі кнігазбор”, 1998).

Мы цудоўна ведаем пра ўзнёслыя памкненні, натхнёныя думкі, адданасць, ахвярнасць і пакутніцтва студэнтаў Віленскага ўніверсітэта... Да стварэння легенды і вялікай міфалагізацыі прычыніўся Адам Міцкевіч, які ў III частцы “Дзядоў” стварыў свайго роду канон філамацкіх вобразаў. А што па факце? Калі разбірацца, то і філаматы не такія ўжо ідэальныя і самаахвярныя героі, сенатар Навасільцаў не такі ўжо і крывасмок, Ян Янкоўскі не такі ўжо і падступны здраднік... За міфам, прычым

міфам патрэбным, згубіліся сапраўдныя асобы, іх лёс. Гістарычныя факты жыцця затуманіліся створаным ідэальным вобразам, а некаторыя і зусім забыліся ў калектыўнай памяці. Якраз да аб'ектыўнай ацэнкі і навуковага апісання дэталяў філамацкага жыцця і лёсу герояў спрычыняецца ў сваіх даследаваннях літаратуразнавец, доктар філалогіі Аляксандр Фядута.

Сярод шматлікіх літаратуразнаўчых працаў у даследчым багажы А. Фядуты ёсць і філамацкія даследаванні. Так, яшчэ ў 2008 годзе пабачыла свет падрыхтаваная ім кніга "Вильна 1823–1824: Перекрестки памяти". Гэта зборнік, прысвечаны самай "гучнай палітычнай справе" пачатку XIX стагоддзя – "справе філаматаў". У зборнік увайшлі нарысы вядомага гісторыка І. Лялевеля і ўспаміны прафесара Віленскага ўніверсітэта І. Лабойкі. Абодва яны былі сведкамі працэсу. Да лёсу філаматаў даследчык сур'ёзна вярнуўся ў 2018 годзе, калі ў выдавецтве "Лімарыус" пабачыла свет першая кніга перспектыўнай серыі "Наша XIX стагоддзе". За апошнія тры гады ў ёй выйшлі тры кнігі, да якіх непасрэдна датычны А. Фядута: два ўласныя даследаванні ("Следы на снегу", 2018 і "Филомат в Империи", 2019) і падрыхтаваныя да друку мемуары Антонія Эдварда Адынца ("Успаміны пра мінулае", 2020).

## "Следы на снегу", якія не знікнуць

Першая кніга серыі – "Следы на снегу". Яна, як адзначаецца ў анатацыі, прысвечана атачэнню Адама Міцкевіча. Сам жа аўтар у прадмове пра кнігу, характарызуючы яе, піша, што гэта спроба аднавіць кантэкст тэкстаў і лёсаў людзей, якія жылі ў памежную эпоху (эпоха падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння зямель да Расійскай імперыі), адчувалі гэтую памежнасць і намагаліся яе змяніць.

Каб рэалізаваць гэта, даследчык прымяніў удалую канцэпцыю кнігі. Тут няма агульнага навуковага сюжэту альбо паслядоўнага раскрыцця аўтарскіх гіпотэзаў. "Следы на снегу" – гэта зборнік самастойных мікрасюжэтаў, невялікіх навуковых апавяданняў, якія аб'ядноўвае пад адной вокладкай эпоха, ідэя, дух. У даследчай працы так бывае, што ёсць пэўны набор гістарычных крыніцаў з цікавым і новым матэрыялам, але ён досыць сціплы: факталогіі не хапае на самастойнае даследаванне, у вялікай працы падобны матэрыял хутчэй другасны, дапаможны. Але знойдзенымі звесткамі так хочацца падзяліцца і шкада іх губляць! Тут прыходзіць на дапамогу абраны А. Фядутам фармат кнігі – калі такіх дробных сюжэтаў збіраецца шмат, то іх трэба аб'яднаць пад адной вокладкай.

Кніга складаецца з 24 самастойных раздзелаў, аб'яднаных у 4 часткі. Як адзначаецца ў бібліяграфічнай даведцы да кнігі, шэраг раздзелаў публікуецца тут упершыню, некаторыя істотна дапрацаваны на падставе выяўленых архіўных дакументаў, частка ўжо друкавалася ў навуковых зборніках, альманахах як самастойныя навуковыя артыкулы.

"Люди и тексты". Тут аб'яднаны сюжэты, прысвечаныя напісаным тэкстам: лістам, публіцыстычным матэрыялам, мемуарам. А таксама таму, як праз тэксты адлюстроўваецца асоба, яе светапогляд у складаную эпоху. Галоўны герой тут усё ж тэкст, а людзі нібыта ў яго палоне. Праз тэкст можна пазнаёміцца з эпізодамі, звязанымі з Казімірам Кантрымам (куратар бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта), Марыяй Шыманоўскай (знакамітая піяністка), Эвай Феліньскай (пісьменніца і мемуарыстка)... Асобы ў эпосе значныя, але як адзначае сам аўтар, яны "культурныя дзеячы так званага «трэцяга шэрагу»". Тым не менш гэтая частка вартая ўвагі: тут сустракаецца сам Адам Міцкевіч. Здавалася, што новага можна знайсці пра жыццё зорнага паэта? Аказваецца, можна, у прыватнасці, пра яго паэтычныя імправізацыі на вечарынах у Пецярбургу, якія заўразіў Восіп Пржэцлаўскі і дадаў навуковых літаратуразнаўчых фарбаў А. Фядута.

“«Лишние» люди. Филоматы в ссылке и после неё”. Адразу хочацца адзначыць, што аўтарам вельмі ўдала сфармуляваны загаловак, у якім ёміста адлюстроўваецца сэнс жыцця філаматаў пасля судовага працэсу – “лішнія людзі”. Справядліва будзе сказаць, што гэтая частка кнігі самая захапляльная і змястоўная. Калі зноў вяртацца да “філамацкай легенды”, то ў ёй яскрава апісанае жыццё да і падчас следчага працэсу. А што было пасля? Легенда сціпла і з пафасам кажа: выгнанне з краю. Далей лёсы большасці філаматаў сыходзяць з гістарычнай авансцэны. А. Фядута з навуковай дакладнасцю пралівае святло на жыццё некаторых з іх. Тут мы даведаемся пра цвярскія пакуты В. Будрэвіча, чыноўніцкія перыпетыі Ф. Малеўскага, зухаватыя справы Ю. Яжоўскага, які абвёў вакол пальца бюракратычную машыну імперыі... Самая дэтэктыўная гісторыя гэтай часткі – гісторыя аб тым, як Тамаш Зан ледзь не стаў выведнікам, а самая вартая ўвагі – гісторыя пра Яна Янкоўскага, таго самага здрадніка (дарэчы, ярлык гэты сягае ў тую ж “легенду”). Сам аўтар адзначае, што не імкнецца да “пасмяротнай рэабілітацыі”, але, вымушаны расчараваць, якраз-такі ў пэўным сэнсе рэабілітацыя і атрымліваецца. Не, нам не прадстаўляюцца невядомыя дакументы, якія зняпраўджваюць вядомыя факты, намі паказваецца, як шмат значаць абставіны і што на месцы “здрадніка” мог быць любы філамат, у тым ліку і сам Міцкевіч. Таксама варты ўвагі лёс Янкоўскага пасля судовага працэсу, з якога мы бачым, як імперыя можа “аддзячыць” тым, хто з ёй ідзе на супрацоўніцтва.

“Мои любимые «жабы»”. “Жабамі” А. Фядута называе адмоўных персанажаў гісторыі. Пра герояў пісаць лёгка, пісаць пра ліхадзеяў – тытанічная праца. Павінен жа хтосьці пісаць і пра нягоднікаў! У гэтай справе важна не скаціцца да шальмавання, але ж трэба і ўбачыць тую мяжу, пасля якой адмоўны персанаж намаганнямі даследчыка можа стаць героем. У частцы галоўным чынам гаворка ідзе пра Ю. Пшэцлаўскага і Г. Ржавускага. А што ў раздзелах кажа пра іх А. Фядута – лепш каб сказаў сам аўтар: “абодва яны былі людзьмі звышталенавітымі і вельмі непрыязнымі”, але “нават самыя буйныя «жабы» бываюць часам па-свойму прывабнымі і цікавымі”. Падаецца, аўтар добра адчуў мяжу паміж злым і добрым у адмоўных вобразах.

“После филоматов”. Героі гэтай часткі – людзі з пакалення, якое прыйшло на змену пакаленню свавольных выхаванцаў Віленскага ўніверсітэта. Цікавая тут выбарка персанажаў – студэнт з Пецярбургу (С. Галембіеўскі), паўстанец 1830-га (А. Рыпінскі), сын чыноўніка-філамата (С. Малеўскі). Філаматы ў свой час кінулі зерне, ці ўзышло яно? Паказаў час. Таксама адказаць на гэтае пытанне дапамогуць сюжэты і лёсы, апісаныя ў раздзеле.

Калі падводзіць рысу, то “Следы на снегу” – гэта кніга, якую варта прачытаць. Можна не ўсю, а той сюжэт, які спадабаўся. Яе можна чытаць з любога месца. Тыя таямніцы, якія раскрывае ў ёй аўтар, абыякавым не пакінуць і дадуць вялікае інтэлектуальнае задавальненне.

## “Филомат в Империи”: біяграфія імперскага чыноўніка

Францішку Малеўскаму пашчасціла. Калі не пры жыцці, то пасля смерці дакладна. Яго жыццё не знікла пад цяжарам вялікіх архіўных папак з асабістымі дакументамі, ён атрымаў у пасмяротны падарунак грунтоўную навуковую біяграфію. Што мы ведалі пра Малеўскага да таго, як за яго жыццё “узяўся” А. Фядута? Сын рэктара, навучэнец Віленскага ўніверсітэта, таленавіты правазнаўца, сябра таемных таварыстваў... Быў асуджаны на выгнанне. А пасля выгнання фігуруе выключна ў кампаніі Адама Міцкевіча і, дзякуючы яго зорнай асобе, трымаецца ў гістарычнай памяці.

Але Малеўскі не дадатак да Міцкевіча, ён самастойная асоба з цікавым лёсам.

Калі скончыўся працэс над філаматамі, яму было 24, а пражыў ён 70. Яшчэ 46 год, якія нам, па-сутнасці, былі невядомыя. Жыццё Малеўскага – гэта, так бы мовіць, "трэці шлях" філамата. Ён не стаў зняволеным пакутнікам, як Зан і Чачот, не эміграваў, як Міцкевіч. Малеўскі праявіў лаяльнасць (але ўсё роўна ўвесь час быў пад падазрэннем!) імперыі і стаў службоўцам. Але за гэтым хаваецца больш, ён заняўся справай, да якой пакліканы і меў талент: юрыспрудэнцыя. Гэтым ён прынёс больш карысці чалавецтву. І падобным шляхам пайшлі многія былыя філаматы, што, канечне, не ўпісваецца ў парадыгму філамацкай "легенды" пра самаахвярных змагароў з імперыяй.

Напісаная А. Фядутам біяграфія Малеўскага – некалькі дзясяткаў храналагічных раздзельчыкаў-пазлаў, якія паслядоўна складаюцца ў жыццё чалавека. У кнізе няма домыслаў альбо аўтарскіх фантазій – усё пацвярджаецца дакументальнымі звесткамі, якія аўтар клапатліва збіраў па розных сховішчах даўніны. Першасная тэма кнігі – маральны выбар чалавека паміж любімай справай і ілюзіяй барацьбы. Спадарожнічаюць галоўнай тэме іншыя – лёс чыноўніка, яго кар'ера ў імперыі, стасункі з сям'ёй і сябрамі. Дэталі побыту насычаюць і ажыўляюць кнігу, галоўны герой не падаецца "пыльным" персанажам з архіўнай справы: ён любіць музыку, клапоціцца пра дзяцей, ён пражывае сапраўднае жыццё.

Побач з галоўным героям ідзе і чарада другасных тэм: жыццё і побыт старэйшага пакалення Малеўскіх (сям'і рэктара), служба і службоўцы ў арміі чыноўнікаў эпохі самадзяржаўя, а таксама жыццё цэлага пакалення людзей. Жыццё Малеўскага перакрыжоўваецца з сотняй іншых грамадзянаў імперыі, якія таксама згадваюцца ў кнізе. Але знаёмячыся з імі, у чытача не будзе дыскамфорту ці замяшальніцтва ад згадкі невядомых асобаў. У канцы кнігі А. Фядута падрыхтаваў грунтоўны іменны паказальнік з кароткай даведкай пра ўсіх герояў кнігі.

"Филомат в Империи" – кніга ўсё ж навуковая. У ёй аўтар прыводзіць вялікія цытаты дакументаў наўпрост у тэксце. Для нязвыклага да навуковых выданняў чытача гэта можа падацца сумным і нецікавым, а ў выпадках з дакументамі на канцылярскай мове часоў Расійскай імперыі яшчэ і складаным. Але дакументы прыводзяцца аўтарам з тлумачэннямі і інтэрпрэтацыямі, што дапамагае ў знаёмстве з творам. Біяграфія грунтоўная, але застаюцца і некаторыя пытанні: як успрыняў Малеўскі Крымскую вайну і смерць сябра Адама Міцкевіча? Што рабіў падчас паўстання 1863 года? Сам аўтар піша, што прадстаўленая біяграфія не можа лічыцца поўнай, яна – першая і неабходная. А магчыма, акрэсленыя пытанні яшчэ выльюцца ў цікавыя сюжэты ў іншых, яшчэ не напісаных даследчыкам кнігах.

Пасля знаёмства з кнігай "Филомат в Империи" апаноўвае летуценнае жаданне: вось бы ў кожнага гістарычнага персанажа была б напісаная такая ж біяграфія, як у Францішка Малеўскага!

## "Успаміны аб мінулым" чалавека, які ўсіх перажыў

"Успаміны пра мінулае" – гэта падрыхтаваныя да друку мемуары Антонія Эдварда Адынца, напісаныя ім ужо напрыканцы жыцця. Яго ўспаміны – гэта яскравыя вобразы з жыцця шляхты пачатку XIX стагоддзя, дробязі і падрабязнасці студэнцкіх таемных таварыстваў Вільні, узнёслае жыццё літаратараў.

Шмат пра асобу і самі ўспаміны Адынца казаць не хочацца: усё ж не ён галоўны герой публікацыі. Адынец – паэт-рамантык "другога шэрагу", якія, як правіла, пры пераліку творцаў эпохі хаваюцца пад шматзначным "і іншыя". Але яму пашчасціла ў дзвюх рэчах: з сябрамі і даўгалеццем. Адынец быў у блізкіх адносінах з Янам Чачотам, уваходзіў у гасціннае кола сям'і Путкамераў, сябраваў і вандраваў з Адамам Міцкевічам. Пасля смерці апошняга, калі вакол паэта сфармавалася воблака міфаў і своеасаблівы культ, Адынец узышоў на Алімп

славы. Ён бачыў жывога Міцкевіча: гэтым ён стаў цікавы для публікі, яго запрашалі ў салоны і на імпрэзы ў элітарных колах, ім захапляліся. З гадамі гэта слава толькі множылася, бо тых, хто стасаваўся з Міцкевічам станавілася менш. Адынец паспяхова дажыў да 1885 года, а мемуары пабачылі свет у 1884 годзе. З таго часу іх не перавыдавалі, а значыць – і не каментавалі.

Сітуацыя змянілася ў 2020 годзе, успаміны Адынца зноў пабачылі свет, акрамя таго – у перакладзе на беларускую мову. Якасны пераклад празаічнай часткі выкананы Янінай Кісялёвай, пераклад вершаў Адынца і вершаваных цытат іншых паэтаў – Марыяй Мартысевіч. Навуковая частка зроблена А. Фядутам.

Пачынаецца выданне з уступнага артыкула А. Фядуты. У ім аўтар прывозіць біяграфічныя звесткі Адынца, дае адказ на пытанне: як ён стаў знакамітым. Не застаецца без увагі яго творчая спадчына, выдадзеныя вершаваныя і празаічныя творы. Звяртаецца ўвага і на кантэкст эпохі. Таксама даследчыкам падрыхтавана амаль тры сотні каментароў. Праца ўражвае! Без суправаджальнага тэксту мемуары Адынца былі б загадкай, але А. Фядута дае дасціпныя тлумачэнні да слоў мемуарыста.

Адметнасць мемуараў – сотні згаданых Адынцом імёнаў. І гэта натуральна: за восем дзясяткаў пражытых гадоў яго жыццё перасякалася з безліччу людзей. Гэта навучэнцы і выкладчыкі Віленскага ўніверсітэта, паўстанцы і эмігранты 1830-х, палітычныя дзеячы, павятовыя шляхцічы, кавалеры і дамы літаратурных салонаў... Хто ёсць кім – лёгка даведацца з грунтоўнага іменнага паказальніка, складзенага А. Фядутам. Атрымалася свайго роду энцыклапедыя персанажаў таго часу.

Асаблівай увагі заслугоўваюць дадаткі. У выданні змешчаны персанальныя архіўныя дакументы, якія датычыцца Адынца, а таксама два лісты да яго ад Адама Міцкевіча. Яны не толькі дадаюць карціну мемуараў, але і адкрываюць дробныя факты з жыцця самога Міцкевіча (і зноў парадокс: Адынец цікавы ў звязцы з Міцкевічам). Напрыклад, такі эпізод. У 1826 годзе Адам Міцкевіч, мусіў пакінуць Адэсу і перабрацца ў Маскву, з жалем пісаў Адынцу: “[Жыву ў Маскве] як апошні янычар. Не маю асобнай кватэры, стол вельмі кепскі, віна і не чуваць...” А што найбольш абурыла Адама, дык тое, што тут “нават добрай кавы няма”. Менавіта з такіх дробязяў і складаецца карціна жыцця вялікіх, дзякуючы якім яны страсаюць “бронзу” культу і сыходзяць з пастаментаў.

“Успаміны аб мінулым” – якаснае літаратурнае выданне, якое не толькі ўводзіць у навуковы зварот новыя матэрыялы, але і з’яўляецца цудоўным тэкстам для прыемнага, а галоўнае пазнавальнага чытання.

* * *

Хочацца без сумневу канстатаваць: філамацкія штудыі Аляксандра Фядуты варты ўнёсак у фармаванне аб’ектыўнай карціны свету нашага XIX стагоддзя – стагоддзя складанага і супярэчлівага. У чым галоўная вартасць даследаванняў, то гэта вяртанне асобы з нябыту. Менавіта асобы з яе светапоглядам і ўнутраным светам. Хочацца верыць, што з-пад даследчага пяра А. Фядуты яшчэ выйдуць грунтоўныя працы і пра герояў – Тамаша Зана і Адама Міцкевіча – і пра “жаб” нашай гісторыі.

# Нашыя аўтары

**Багдановіч Ірына** — паэтка, крытык, літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Чаравікі маленства», «Фрэскі», «Сармацкі альбом», «Прыватныя рымляне», манаграфій «Янка Купала і рамантызм», «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» і інш. Нарадзілася ў 1956 годзе ў Лідзе. Жыве ў Мінску.

**Бадзей Марыя** – паэтка, перакладчыца. Выпускніца Беларускага калегіюма (аддзяленне «Філасофія і літаратура»), Школы маладога пісьменніка. Перакладае з польскай і французскай. Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзілася ў 1997 годзе ў Ваўкавыску. Жыве ў Мінску.

**Булаты Павел** – гісторык. Кандыдат гістарычных навук. Вывучае гісторыю арыстакратычнага саслоўя і магнацкіх уладанняў часоў Вялікага Княства Літоўскага. Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Ляхавічах на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Быкаў Васіль** — народны пісьменнік Беларусі. Празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада», «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды», «Кар'ер», «Сьцяна», «Пахаджане», «Доўгая дарога дадому» і інш. Лаўрэат шматлікіх дзяржаўных і міжнародных літаратурных прэміяў. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Бычкі на Ушаччыне. Памёр у 2003 годзе.

**Вештарт Алена** – празаік, літаратурны крытык. Скончыла Мінскі медычны інстытут. Працуе лекарам. Творы друкаваліся ў газеце «Літаратурная Беларусь». Нарадзілася ў г.п. Шарашова на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Емяльянаў-Шыловіч Алесь** – паэт, перакладчык. Аўтар зборніка вершаў «Парасонечнасць». Фіналіст конкурсаў беларускага ПЭН-цэнтра, пераможца конкурсаў «Экслібрыс» імя Ф. Скарыны (2017), імя Р. Барадуліна (2015). Пераможца міжнароднага конкурсу на найлепшы пераклад паэзіі В. Шымборскай на беларускую мову (2015). Нарадзіўся ў1987 годзе ў Крычаве на Магілёўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Ёнінас А. Антанас** – літоўскі паэт, перакладчык. Перакладае паэзію і прозу з нямецкай, латышскай, рускай, украінскай, беларускай, польскай і інш. моваў. Аўтар кніг «Гады як дрозд», «Карабель памяці», «Парабала», «Мост і іншыя вершы», «Начны цягнік», «Такі свет: вершы Паўночным Афінам і Сусвету», «Вадаспад пад лёдам», «Звярыная малеча», «Захраслае ў часе», «Апошнія дні ў Ітацы», «Паэтычны пакой» і інш. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Літвы за пераклад «Фаўста» Гётэ (2003). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Вільні, дзе і жыве.

**Корань Вадзім** – паэт, філолаг. Скончыў факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка, аспірантуру пры Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Асноўная сфера інтарэсаў – літаратура Беларусі XVII – XVIII стст. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кунцэвіч Яўген** – паэт, перакладчык. Студэнт філасофскага факультэта БДУ. Наведвае Школу маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Перакладае паэзію з украінскай, рускай, іспанскай і ангельскай моў. Нарадзіўся ў 2000 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лем Станіслаў** – польскі пісьменнік, філосаф, футуролаг, сатырык, крытык. У ягонай творчасці – літаратурнай і філасофскай – тры асноўныя тэмы, распрацаваныя на працягу ўсяго жыцця: Космас, Жыццё і Розум, іх узнікненне і эвалюцыя, пры гэтым мастацкая літаратура часта была ілюстрацыяй тэарэтычных разважанняў. Яго самыя вядомыя творы – раманы «Салярыс» і «Непераможны», зборнікі апавяданняў «Зорныя дзённікі» і «Кіберыяда», філасофска-футуралагічныя манаграфіі «Сума тэхналогіі» і «Фантастыка і футуралогія». С. Лем – найбольш перакладаны польскі пісьменнік. Нарадзіўся ў 1921 годзе ў Львове. Памёр у 2006 годзе ў Кракаве.

**Ліпскі Уладзімір** – празаік, публіцыст. Аўтар шматлікіх кніг для дзяцей, сярод якіх «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка», «Клякса-Вакса і Янка з Дзіўнагорска», «Антонік-понік», «Я тут жыву: дзецям пра Беларусь» і інш., зборнікаў прозы «Раны», «Дзень нараджэння» і інш. Лаўрэат літаратурных

прэмій імя Я. Маўра (1993), імя В. Віткі (1997), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (2001) і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Шоўкавічы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Любецкі Павел** – паэт, матэматык-праграміст. Аўтар кнігі «В основном без рифмы». Фіналіст конкурсу сучаснай паэзіі фонду Роберта Боша (2017). Лаўрэат конкурсу «Неба з сабою» (трэцяе месца, 2020). Нарадзіўся ў 1993 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лявіцкі Вячаслаў** – украінскі паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар двух зборнікаў паэзіі і некалькіх манаграфій. Актыўны папулярызатар беларускай літаратуры. Укладальнік, суперакладчык і аўтар пасляслоўя да анталогіі-білінгвы «Бум-Бам-Літ». Пераможца шэрагу ўкраінскіх і замежных конкурсаў, у тым ліку «Экслібрыс» імя У. Караткевіча (2020). Прызёр Фэсту аднаго верша (Мінск, 2021). Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Кіеве, дзе і жыве.

**Мацеша Дзяніс** – паэт. Скончыў Мінскую суздораўскую ваенную вучэльню. Пісаў аўтарскія матэрыялы для розных сайтаў, займаўся іх прасоўваннем у сеціве, капірайтынгам. Піша п'есы. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Паставах на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Душ Рэйш Ванда Марцінш** – паэтка, перакладчыца. Скончыла Віцебскі педагагічны інстытут. Вяла дзіцячы гурток англійскай мовы (на базе беларускай) пры беларускім клубе «Сябрына» ў Вільні. З 1998 года дзяліла свой час паміж Эдынбургам (Шатландыя) і Мадэйрай (Партугалія). Аўтарка кніг «Плод авакада» і «Мора мары». Нарадзілася ў 1959 годзе ў вёсцы Муляры на Пастаўшчыне. Жыве ў Летуве, каля Трокаў.

**Снарская Іна** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Вогнепаклонніца» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Сцяпан Уладзімір (Сцепаненка Уладзімір)** — празаік, паэт, мастак. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка», «Хвалі» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове», «1939 год і Беларусь» і інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Берасцейшчыне. Жыве ў Мінску.

**Трыфанава Вікторыя** – паэтка, перакладчыца. Студэнтка факультэта журналістыкі БДУ. Наведвае Школу маладога пісьменніка пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Фіналістка Фэсту аднаго верша (2021). Нарадзілася ў 2001 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Хейдарава Людміла** – паэтка, перакладчыца. Аўтарка кніг вершаў «Адведзіны рамонкавай паляны», «Тваё святло», «Купанне ў росах», «Плач па Анёлу», драматычнай паэмы «Можна і Нельга», зборніка прозы «Дарт». Лаўрэатка літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (1996). Нарадзілася ў пасёлку Ялізава. Жыве ў Мінску.

**Чаропка Вітаўт** – празаік. Аўтар гістарычнага рамана «Храм без бога», кніг «Імя ў летапісе», «Уладары Вялікага княства», «Гісторыя нашага імя», «Перамога ценю» і інш., артыкулаў па гісторыі Беларусі. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Самнасам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Язневіч Віктар** – перакладчык Станіслава Лема, кандыдат тэхнічных навук. Аўтар кнігі «Станислав Лем», за якую атрымаў Бяляеўскую прэмію (Расія, 2015), і шматлікіх артыкулаў пра творчасць і філасофскую спадчыну польскага пісьменніка, апублікаваных у васьмі краінах. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Гародні. Жыве ў Мінску

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Стаса Смірнова, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.